Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Генадзя Мацура:
на 1-й стар.: «Ars gratia artis», 2012 г.
і 4-й стар.: «Пагоня», 2011 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 24.04.2019 г. Падпісана да друку 27.05.2019 г.
Фармат 70х108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№3 (100)
/травень-чэрвень/ 2019

Дзе
дзеяслоў

ЗМЕСТ

# Слова ад “Дзеяслова”

Шаноўныя чытачы!

У беларускай гісторыі не так і шмат літаратурных выданняў, якія датрывалі да свайго 100-га нумара. Час, у які выпала прыходзіць да чытача “Дзеяслову”, таксама быў не самым спрыяльным. Але нягледзячы ні на што, стабільна, раз на два месяцы часопіс прыходзіў да вас, радуючы не толькі навінкамі незалежнай беларускай літаратуры, але і тым, што яна – існуе! Існуе без падтрымкі дзяржавы, існуе ў варунках звужэння прасторы беларускай мовы, існуе, не зважаючы на забароны і перашкоды, з якімі пастаянна сутыкаюцца літаратары.

Нам, дзеясловуцам, хацелася зрабіць адметным і асаблівым свой 100-ты нумар. Было некалькі ідэяў, як ажыццявіць гэта. Спачатку мы думалі проста перавыдаць першы нумар часопіса. Каб паказаць, што ідзе час, але – *сапраўдная літаратура* не старэе, не губляе сваёй актуальнасці і значнасці, не слугуе ўладам і застаецца па-за палітыкай.

Мы перагледзелі першы нумар часопіса і яшчэ раз пераканаліся ў гэтым праз гады. Новаму пакаленню беларусаў былі б цікавыя ўсе тэксты таго “Дзеяслова”. Нават прадмова засталася надзённай. На жаль... Вось што пісалася тады: *“Дзеяслоў” лічыць, што захаваньне і разьвіцьцё роднай мовы і культуры найважнейшая задача цяперашніх пакаленьняў беларусаў...* І далей: *Холдынг пад назовам “саюзная дзяржава” – рэальная персьпектыва... Няўжо ж беларусы настолькі бездапаможныя гаспадары, што гатовыя перасяліцца з уласнага дому ў інтэрнат для “брацкіх” народаў, аддаць уласную сядзібу ў новы “калгас”, страціць дзяржаўнасьць дзеля ўяўна абяцаных танных “энерганосьбітаў”...* З таго часу прайшло амаль сямнаццаць гадоў, але і мова нашая, і незалежнасць застаюцца пад не меншай пагрозаю... знікнення. І задачы, якія стаяць перад пісьменнікамі і ўсімі патрыётамі Беларусі, засталіся нязменнымі. І сапраўды – час у нашай краіне нібыта спыніўся...

Аднак урэшце мы вырашылі ўзяць за аснову іншую ідэю – у 100-м нумары даць слова тым, хто быў у першым, толькі з новымі тэкстамі.

На вялікі жаль, цалкам рэалізаваць яе не ўдалося. Бо час усё ж няўмольны: побач з намі ўжо няма Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Алеся Пісьмянкова, Алеся Асташонка... Мы дзякуем усім, хто адгукнуўся на нашую прапанову і перадаў свае тэксты. Такім чынам, 100-ты нумар у вашых руках.

Варта адзначыць яшчэ адно: 100-ты нумар часопіса для нас гэта таксама сімвалічны момант дзеля таго, каб спыніцца, каб прыгожа завяршыць сваю гісторыю. Прызнаемся, такая спакуса была... Але ўсё

ж мы застаемся з вамі, шаноўныя чытачы. Пакуль. З нязменнай верай, з абсалютнай упэўненасцю, што *гэты час і гэты лад не назаўсёды*, што тыя, хто быў разам з намі ўсе гэтыя 100 нумароў, выстаяць і надалей застануцца вернымі роднай зямлі, роднай мове і дэвізу, агучанаму ў 1-м нумары: жыццё кароткае – Радзіма вечная!

Дык што ж такое 100 нумароў "Дзеяслова"?
– гэта адметная анталогія сучаснай беларускай літаратуры;
– гэта люстэрка найноўшай гісторыі беларускай літаратуры;
– гэта падарунак нашчадкам ад нас сённяшніх;
– гэта...

Алесь Разанаў



...прачытаныя, словы вяртаюцца,
каб нанава вымаўляцца і выяўляцца...

# Нехта яшчэ мае прыйсці?!.

*

Чалавек упісаны ў чалавецтва: яно ў ім набывае аблічча і голас, у ім ён месца і жыццяпіс.

Ці ў грамадзе, ці сам, чалавек – людзі.

*

Няўзнак стукнуў сякерай па камені, і з яго, шэрага, непрыкметнага, замкнёнага ў сабе, выбліснула іскрына.

Гэтак і ў людзях, знадворку звычайных і непрыкметных, захоўваюцца боскія іскрыны, і калі аб'яўляюцца, то як бы насуперак ім самім, н я ў з н а к.

І пакуль іскрына блішчыць, чалавек разумее, хто ён на самой справе, а калі згасае, згасае і разуменне ці, больш дакладна, хаваецца ўглыб, пакідаючы ў памяці з н а к пра тое, якім сабою самім ён можа быць.

*

Творачыся, твор – ці гэта верш, ці карціна, ці музычны эцюд – асягае пачатак, у якім усё ўпершыню і ў якім ён сам робіцца першатворам.

Ён змястоўны не тым зместам, што выяўляе, а тым, што выяўляецца сам і захоўваецца ў пачатку, і, адно асягаючы пачатак, слова знаходзіць сябе – аднаходзіцца.

*

У папярэднікаў свой асаблівы статус. І да якога б веку ні дажывалі наступнікі, да якой бы велічыні яны ні дарасталі, папярэднікі заўсёды застаюцца неперав'зыдзенымі.

А сам сабе кожны і папярэднік, і наступнік.

*

На тым месцы, дзе бярэзіна займела якуюсьці драпіну ці рану, вырастае чага – грыб, што мае гаючыя ўласцівасці.

Прымаю паразу, калі несвядома, а калі і свядома, з яе мае выснавацца ўласцівасць, якою дагэтуль не валодаў, – ч а г а.

*

Вынік пасылае знакі дарозе і справе, але сам не можа ўвайсці ні ў дарогу, ні ў справу.

І таму дарога доўжыцца,
справа дзейсніцца,
а чалавек ёсць.

*

*Suum cuique* – кожнаму сваё... Што праміне каза, выявіць сабака, што праміне сабака, знойдзе певень, што праміне певень, заўважыць чалавек: усякая істота выявіць, заўважыць і знойдзе тое, што адпавядае ёй і чаму адпавядае яна сама, і ўсё роўна нешта – ці не самае істотнае – заўсёды застаецца не выяўленым, не знойдзеным, не заўважаным.

Нехта яшчэ мае прыйсці?!.

*

Якімі яны ні былі б – ці гэта тэрыторыя, ці радовішча, ці маёмасць, – людзі ваююць між сабою за частковасці – і самі ўвасабляюцца ў частковасці: чым большая частковасць, тым большая асабовасць, і наўзаем:

чым большая асабовасць, тым большая частковасць..

А кожнаму прысвячаецца ўвесь свет,
а кожнаму свеціць усё сонца.

*

Падарыў чалавеку, з думкай якога лічыўся, новую кнігу, а падарыўшы, узяўся яе перачытваць, суадносячы яе з тым, каму падарыў.

І ў засвоеных на памяць зместах пачалі выяўляцца новыя нюансы і гучаць новыя інтанацыі.

*

Камень, які Сізіф ускочвае на гару, – гэта ён сам, адасоблены ад сябе самога.

Справа не ў камені, які спадае з гары, а ў заклёне багоў – у той

неад'емнасці, якой лучыцца Сізіф з каменем. Некалі, калі Сізіф укладзецца ў яго дарэшты, камень сам станецца гарою, а Сізіф вольным і ад яго, і ад сябе.

*

Пайду знаёмай дарогай – пабуду з зямлёю і з небам і з нечым яшчэ, што памятае дарога.

І яшчэ з тым і тым некім, кім некалі быў сам і хто застаўся ў дарозе.

*

Алфавіт, ці, інакш, абэцэда – дом, з якім людзі звыкаюцца і ў які ўпісваюцца сваёю істотай, і тое, з чым яны звыкаюцца і ўва што ўпісваюцца, становіцца для іх на ўсё жыццё алфавітам.

Знаёмая перакладчыца з Нямеччыны, што выдатна валодае рускай мовай, кажа, што найбольш не засвоеным у рускай мове для яе ўсё яшчэ застаецца кірылічны алфавіт.

*

Ці то ў мастацтве, ці то ў палітыцы, ці то ў надзённым жыцці ролю, якой бы выключнай яна ні была, гуляць не так ужо і складана, і гэта таму, што г у л я ц ь.

Складана б ы ц ь.

Гуляць – супадаць з уявай, быць – супадаць з явай.

*

Праўда – правільная веда, і правільная яна таму, што праведа, і хто яе вызнае, той праведнік.

*Нравственность* – праўдлівасць.

*Нравственный* – праўдлівы.

*

Гук адчувае, слова ведае: яно асягае мэту і надае гукам, якія яго наймяноўваюць, мэтазгоднасць.

*

Ведаю, што я недасканалы, і, ведаючы гэта, радуюся, што не вечны.

Недасканалы не вечны – не вечна недасканалы.

*

Ён ведае сабе кошт, – кажуць пра аднаго ўсюдыздатнага чалавека.

Цікава – які? Заўсёды тойсамы ці ўсякі раз новы? Кошт выяўляецца, калі нешта купляецца і прадаецца, і той, хто ведае сабе кошт, таксама ўваходзіць у гэтую суадносіну.

Той, хто не купляецца і не прадаецца, кошту сабе не ведае, а мо і не мае.

*

Ці спёка, ці дождж, ці завея, ці маразы, ці адліга, надвор'е палітыка прыроды і, у адрозненне ад усіх іншых палітык, самая адрасная – усе жывыя істоты з ёй у заўсёдным дыялогу.

*

З кожнай наступнай прыступкай папярэдняя пакідаецца, калі не пакідаецца – наступная не асягаецца.

Набытак тады набытак, калі ён адпускаецца і адпускае, набытак, што не адпускаецца, – пастка.

*

“Дарагія людзі!...” – кажу на сустрэчы з радакамі – сялецкімі людзьмі.

Яны згаджаюцца, але па-свойму: “Ну, так, ну, пэўна... І таму ва ўсе часы нас усё займалі ды заваёўвалі – бо дарагія”.

*

Горы вучаць рабіць свой крок сувымерным і абапірацца на трывалае.

Раблю гэта, а калі не раблю, ва ўсім, што слізкае, хісткае, знарокавае ды парахнявае, выяўляецца здрада.

Здрада – рада, якая паказвае, як не трэба было паводзіцца, што не трэба было рабіць, аднак рада – постскрыптум.

*

Чытаю “Рыгведу”. Перакладчыкі пазначаюць, якім памерам напісана тая ці гэтая мантра: гаятры, ануштубх, трыштубх, вірадж...

Гэта ў дачыненні да старажытнаіндыйскага эпасу. Аднак і ў айчыннай літаратуры ёсць палеткі, што чакаюць сваіх каморнікаў, якія падыдуць да іх не са стандартнай харэічна-ямбічнай меркаю, а з такою, што ўлічыць і вылічыць іхнія, яшчэ не азначаныя, адмысловасці.

*

Самай істотнай асаблівасцю ўсякага краявіду з’яўляецца далечыня, яна сама ягоная ўласцівасць.

Адымі яе – дрэвы не будуць ведаць, дзе яны ёсць, рэкі – куды цякуць, а курганы – што хаваюць.

Усё адыходзіць у далечыню і з далечыні прыходзіць, і ва ўсякім ландшафце далечыня самая блізкая і самая знаёмая з’ява.

Калі думка думаецца, у прысутным адкрываецца сутнае, а ў блізкім – далечыня.

*

Адною сцяжынай ішлося з дому, а назад... – адкуль іх столькі ўзялося?!.

Іду, збочваю, вяртаюся да развілак, распазнаюся – пакуль не схавалася сонца, усё-такі спадзяюся выйсці туды, дзе ўсё станецца знаёмым і пазнавальным.

Як бы ні блыталіся самі і ні ўблытвалі ў блуканне, усё-такі ў любым апынанні асноўнае, што ёсць яны, сцежкі, і што ёсць яно, сонца.

*

“І гэта міне...”

Тое, што мінае, мінае так, што пэўным чынам застаецца.

Жыццё – здзяйсненне, і ў ім да самай завяршальнай дзеі прысутнічае

ўсё, што адбывалася раней, і тое, што адбывалася раней, збіраецца ў завяршальнай дзеі, каб сапраўды мінуць і сапраўды развязацца.

*

Перагортваю чарнавікі – іх адначасова і зашмат, і замала. Зашмат – бо расчытваць іх няпросты клопат, замала – бо ў іх, каб яны змаглі стацца творам, заўсёды нечага не хапае.

Яны як кірмаш (ці, калі на сербалужыцкай мове, – вікі), і пры тым чорныя вікі, дзе самае непрыдатнае (найменш здзейсненае) будзе каштаваць найбольш, а самае здзейсненае – найменш.

Лічуся з платай: што набываю, а што пакідаю нечапаным, каб калі-небудзь зноў да яго вярнуцца. Або не вярнуцца.

*

Твор:
хвіліны вымаўляюць;
гадзіны слухаюць;
дні выяўляюць;
месяцы чытаюць;
гады распазнаюць;
дзесяцігоддзі тлумачаць;
стагоддзі маўчаць і маюць.

*

Народная прымха: калі чорны кот перабег дарогу – чакай няўдачы.

Усякая дарога – пераадоленне абмежаванасці, і ў кожнага яна свая, і свой чорны кот, які спадцішка выпільноўвае дарогу, каб раптам аб’явіцца ў самы вырашальны момант, – ён з’яднаны і злучаны з чалавечай самасцю.

І адно самасцю высноўваюцца і самасці адрасуюцца прымхі.

*

Рытм – тое, што фармуе паставу верша;
інтанацыя – тое, што вызначае яго аблічча.

*

Калі быў у войску, час-почас звяртаўся да сваіх пабрацімаў-саслужыўцаў па дывізіёне са словам “хлопча”.

Праз нейкі час гэты зваротак вярнуўся да мяне і стаўся маім знакам, мянушкай: хлопча казаў, хлопча дзяжурыць, спытайся ў хлопча, хай хлопча зробіць...

Што вымаўляем – маем.

*

На памылках спыняюцца, аб памылкі спатыкаюцца, у памылкі ўдумваюцца і ўглядаюцца: роўнае мінаецца без увагі, а памылкі запамінаюцца – і памылкі здабыткі, калі яны намацваюць і знаходзяць утоены ў словах і ў рэчаіснасці змест.

Нехта і не хацеў бы – а піша з памылкамі, нехта свядома, уводзячы

ў мову асаблівасці сваёй гаворкі, дапускае ў пісьме памылкі, а нехта іх вынаходзіць і аб'яўляецца з імі як з творамі, што прыналежаць адно яму.

*

Колькасць пераходзіць у якасць – закон, упісаны ў падручнікі дыялектычнага матэрыялізму.

Але як пераходзіць – сама? Самохаць? Механічна і аўтаматычна? Не, не аўтаматычна і не механічна, не самохаць і не сама, а тады, калі дзейсніцца з'ява пераходу і калі ёсць той, хто ў ёй удзельнічае.

І тады адна зрэнка відушчасці істотнейшая за ўсю масу поцемкаў, і тады адна гранула разумення змястоўнейшая за цэнтнеры цемрашальства.

Творчасць – у пераходзе.

*

У Рабкоры, што ў Акцябрскім раёне, калі выходзіў з тамтэйшай крамы, супаткаўся з бабуляй-няўклюдай: абапіраючыся на дзве кульбы і трымаючы торбу, яна ўскарасквалася на ганак.

Як мог дапамог ёй, і ўжо ў самой краме, нібы ўзважваючы ў галаве нейкі кошт, яна запыталася ў прысутных – усе яны ёй, было відаць, былі знаёмыя ці мо нават блізкія: "Адкуль гэты чалавек?"

Прысутныя няўцямна маўчалі.

Нічога больш не прамовіла і яна і, ніяк мне не падзякаваўшы, пасунулася да прылаўка.

Пэўна, каб дзякаваць, трэба найперш ведаць, каму дзякуеш.

Я другі раз выйшаў з крамы.

*

Сярод малых і вялікіх, простых і ганаровых помнікаў, калі абыходзіў сялецкія могліцы (могілкі), найбольшую ўвагу прыцягнула і кранула нейчая магіла з невядома якіх часоў: на ёй не было ні крыжа, ні хоць якога знаку, і яна амаль уцягнулася ў зямлю.

У ёй выяўлялася нешта, што было сутнасцю саміх могліцаў: не ўзвышацца над зямлёй, а супадаць з зямлёй, не заставацца, а знікаць.

*

"І сонца некалі пагасне..."

Як для каго і як якое сонца: чалавек не толькі тая самая постаць, што аб'явілася і распазнаецца, але і не тая самая, і, жывучы, не толькі памірае, але і нараджаецца – з новым сонцам і для новага сонца.

*

Калі ў далёкай далечыні рэйкі пачынаюць супадаць – так і павінна быць. Але калі яны пачынаюць супадаць у блізкай блізіні – гэта ўжо катастрофа.

З *там* і *тады* катастрофа настойліва ссоўваецца ў *тут* і *цяпер*, даказваючы і паказваючы, што няма нічога, што магло б з ёю зраўняцца, адужаць яе, пераўзысці.

І бесперапынна, сцвярджаючы нейкае правіла ці паўтараючы мантру, соўгаюцца па рэйках цягнікі, не дазваляючы ім ні канчаткова супасці, ні раз'яднацца.

*

Адкладаю меч – ён нецярплівы, і з ім я небяспечны найперш самому сабе, бо дарэшты не ведаю, хто мне ёсць хто (хто сябра, хто вораг, хто здрайца, а хто проста староннi) і хто самому сабе я сам;

абапіраюся на шчыт – ён умее чакаць.

*

Адсамнік – *инок.*

Адсамны – *иноческий.*

Адсамніцтва – *иночество.*

Адсамнае жыццё; адсамнік адракаецца ад вабаў гэтага свету; адсамнік бярэ на сябе добраахвотную пакуту; адсамніцтва – прысвячэнне ў боскі чын.

“Аднак збожны адсамнік, які нячцівіцца светам” (Кірыла Тураўскі).

“Іаан... – што быў усе свае дні муж адсамны і адмаёмны” (Грыгоры Цамблак).

*

У адной казцы апавядаецца пра чалавека, які, выходзячы з хаты, здымаў дзверы і насіў іх з сабою. Такім чынам ён яе “замыкаў” – нельга ўвайсці ў хату, у якой няма дзвярэй.

Зрэшты, мы ўсе нейкім чынам апынаемся ў ролі тых, хто носіць дзверы, усе так ці гэтак думаем, што мы гаспадары становішча, і ў той жа час нашы хаты стаяць расхрыстаныя, і нажыты скарб пастунова разбіраюць бадзяжныя духі – тыя, што не маюць ні хаты, ні дзвярэй.

*

Усё, чаму надаецца ўвага, значнее:

калі дзірцы – становіцца ямай,

калі кветцы – ёй асвячаецца ява,

калі дню – займае абсягі,

калі цемры – не адпускае,

калі буры – ломяцца дрэвы,

і “неда” сцягвае на сябе ўсемагчымую ўвагу, каб стацца ў сваіх і ў нейчых вачах фігурай і велічынёй.

*

“Прыгожыя твары”, – вярнуўшыся з горада, дзялюся з Ганнай Іванаўнай, гаспадыняй, у доме якой, не займеўшы месца ў тбіліскай гасцініцы, спыніўся, тутэйшымі ўражаннямі.

(Яна, родам з Тамбоўшчыны, з сям’і святара, даўно тут жыве, мела мужам тутэйшага, які загінуў у нейкім здарэнні, і мае ўжо дарослага сына, які цяпер ціхмяна слухае нас, з тутэйшым людам так і не атаясамілася, хутчэй наадварот – супрацьпаставілася...)

А яна смяецца і ўсплёсквае ў далоні: “Як жа Вы адмыслова сказалі: пригожие твари!..” – і паўтарае на свой лад мае словы, што я вымавіў па-беларуску.

Сяджу язык праглынуўшы.

*

Чалавек ёсць, але нейкай недастатковай ёсцінай, і таму, што недастатковай, шукае сябе.

Шукаць – выходзіць з прысутнасці ў сутнасць, і пакуль асабовасць застаецца прысутнай, пошукі доўжацца.

Паміж тым, *кім* ён ёсць, і тым, *хто* ён ёсць, адлегласць, і чалавек на шляхах.

*

Ва ўсякай мове свая суадносіна паміж згукам і знакам: у беларускай мове свая, у нямецкай свая, у літоўскай свая, і з гэтай суадносіны высноўваюцца вершы.

Найбольш цесна са з'явай суадносіны сярод тых твораў, з якімі маю справу, звязаны пункціры. Так, узнікшы на беларускім полі, яны захацелі знайсці сябе і на нямецкім полі, і на літоўскім – і захацелі менавіта таму, што былі знітаваны і звязаны з ёю. Я ім у гэтым спрыяў і, асвойваючы мовы, усякі раз услухоўваўся ў змест суадносіны: што асягаў, натаваў.

*

Ці выйграў ты, ці прайграў, асноўнае ў тым, *як* выйграў і *як* прайграў.

У ім, у гэтым не прыкметным для староннягa вока *як*, зерне наступнасці. А мо і вечнасці.

*

Чалавек пазначаны боскай пячаткай – і таму дарэшты не вядомы ні сабе, ні людзям.

Ён усякі раз тое, што ёсць, і заўсёды яшчэ нешта.

*

"Палескія калядкі", "Галасы вякоў", "Памяць стагоддзяў", "Крывыя вечары", "Рух зямлі" – паглядзеў што нанова, што ўпершыню этнаграфічныя фільмы Зінаіды Мажэйка.

Яна звяртаецца да таго, што знікае, – да тутэйшага, да аўтэнтычнага фальклору: у ім з-пад масак, аблiччаў, гульні, блазнавання праступае старажытная веда, з'яднаная з зямлёй, агнём, вадой, голасам, з-пад лубка – містэрыя.

Купалле і Каляды, ды Юр'я, ды Дзяды нашы страчаныя – і ўсё ж такі нейкім чынам захаваныя – містэрыі. І пакуль чалавек усё яшчэ застаецца тутэйшым, яны здольныя самааднаходзіцца і самаадраджацца.

*

Праз пласт асфальту прабіваецца парастак і ўяўляе сабою формулу, якая кажа, што тая асаблівая сіла, дзякуючы якой гэта адбываецца, – імкненне, укладзенае ў пастаянства.

Што да людзей, дык яны адначасова і глеба, і парастак, і пласты асфальту, праз які парастак мае прабівацца.

Праб'ецца?!.

*

Вораг, што аднойчы выявіў велікадушша (пашкадаваў ці дапамог), бярэцца ва ўзор і часам становіцца сябрам, нават першым; сябра, што аднойчы ашукаў (выявіў двурушша), таксама бярэцца ва ўзор і становіцца ворагам, часам таксама першым: узоры жыццёвай дыялектыкі, што так ці гэтак маюць да ўсіх сваё дачыненне.

*

Куфаль наліты півам даверху, але я з дарогі, з затрымкі, са сквару, і мяне мучыць смага. І я міжволі лію і лію праз верх – з уцехі, што маю што піць, што маю чым наталіцца.

Мае новыя знаёмцы моўчкі глядзяць на тое, што я раблю, не ведаючы, як ацаніць ім паводзіны гэтага новыша, гэты, для іх неспадзеўны, што творыцца ў іх на вачах, перфоманс.

*

Даваў найменні карцінам знаёмых мастакоў. Так, замест наймення “Дзяўчына на лодцы” з’явілася найменне “Князёўна”, замест “Кампазіцыя-1” і “Кампазіцыя-2” – “Прароцтва белай змяі” і “Смерць кардынала”. І з гэтымі найменнямі карціны ажывалі, набывалі вагу і значэнне.

Рэчаіснасць таксама ў карцінах, і што мы ўвесь час робім, дык гэта даём ім найменні.

*

Асаблівасць паэзіі, і яе адрозненне ад публіцыстыкі, белетрыстыкі ды ўсемагчымых рытарычных фігур, што яна мае справу з невядомай рэчаіснасцю.

Верш – вынік гэтага ўзаемадзеяння. У яго дзве іпастасі: відочна-вядомая і невідочна-невядомая. Першая чытаецца, чуецца, бачыцца, другая – ё с ц ь.

Аўтар, каб спраўджвацца, шукае сабе вядомасці, паэт, каб быць, – сябе ў невядомасці.

А верш займае абедзве.

*

Нехта выходзіць з двара. Пытаецца: “Ці пазнаеш?” Углядаюся – не. Ён кажа: “Мы з табой вучыліся ў адным класе”, – і называе імя і прозвішча. “Ну ты й змяніўся!..” – кажу яму, а ён мне ў адказ не выстаўляе гэткае ж прызнанне, а ўсміхаецца. Ён гэтаму як бы не верыць і гэтага як бы не ведае. Ён увесь час заставаўся з сабой і сабою – і адлегласць у часе яго не ад’ядноўвала ад сябе.

Вядзём адно з адным і самі з сабою гаворку – сціраем адлегласці.

*

Звум – *паняцце.*

Не маю звуму; са звумам рабіць; у дзяцей свае звумы; звум – думка, якая парадкуе рэчаіснасць; да звуму дайсці.

Звумны – *паняційны.*

*

Перачытваю сваё і кажу: я гэтак цяпер не напісаў бы...

У пісьме яўна-няяўна ўдзельнічае сама рэчаіснасць, сам час, а яны ўжо не тыя самыя і паўтарацца не хочуць і не могуць. І, можа, не ў апошнюю чаргу таму, што некалі ўжо гэта вымавілася і напісалася.

*

Той, хто шукае, ужо загадзя знойдзены тым, што ён шукае: недзе далёка ці блізка (ці не блізка і не далёка) свеціцца нейкая кропка і не дае вандроўніку згубіцца ў прасторы і ў часе.

Што яму застаецца, дык гэта дайсці да сябе – дадому.

*

З усіх літаратурных тропаў найноўшай гісторыяй найбольш запатрабаваны аксюмаран.

“Праўдзівы хлус”, “шчыры махляр”, “цнатлівы распуснік”, “шчодры скнара”, “сумленны ашуканец”, “адважны баязлівец” – ён ёю выяўляецца і распазнаецца. І вынаходзіцца. Так, слоўны гібрыд “паэт-палітык” таксама аксюмаран, што мае сваё аблічча.

*

“А там відаць будзе!..” – чалавек махае рукой перад невядомым заўтра і падаецца ў яму вядомае месца – пагуляць, аб’явіцца, павесяліцца.

А яно (невядомае заўтра) ужо тут і глядзіць на яго невідушчымі вачамі.

*

Уява пераходзіць у яву, а следам ідуць сябры і знаёмцы, і падбіраюць тое, што я пакідаю, – сабе ў знаходку, сабе ў набытак...

“О, будзе ён з часам шкадаваць усё тое, што пакідае, і тое, што пакідае, прасіцьме як міласціну некалі ў нас”, – чую, яны разважаюць уголас, але застацца, дзе быў, не магу.

*

“Што ёсць чалавек, што Ты памятаеш яго?..” – словы з псалма.

Словы пытаюцца, і сам чалавек пытанне, што безупынна доўжыцца, і пакуль яно доўжыцца, адказ марудзіць, каб вымавіцца, бо вымавіцца ён можа адно ім жа самім, чалавекам, і адно тады, калі ён вернецца да той сваёй існасці, што яго памятае.

*

Думка адсланяе сутнае і засланяе сутнае, занятак набліжае да існага і аддаляе ад існага – у залежнасці ад таго, якая гэта думка і які гэта занятак.

І, можа, самая высокая думка асягаецца якраз у стане бяздум’я, і, можа, самая глыбокая работа дзейсніцца якраз у часіну сну ці манаскага дбання.

“Адпачываеш?!” – пытаецца пры сустрэчы адзін знаёмца ў другога, калі той, седзячы на ганку, нешта сабе думае.

“Не, працую”, – адказвае той.

“Працуеш?!” – другім разам пытаецца той жа знаёмца ў таго ж знаёмцы, калі той з рыдлёўкай рупіцца на агародзе.

“Не, адпачываю”, – зноў-такі ўдакладняе той.

Вось, згадалася прыпавесць, якую апавядаў майму бацьку яшчэ не манах Алег Бембель (Зніч), калі некалі наведаўся з ім у Сялец.

*

Усякая мясціна мае сваё жыццёвае, ці энергетычнае, поле, і наколькі людзі суадпавядаюць яму, настолькі яны дома.

Нехта сваёй асабовасцю імкнецца на Далёкі Усход, нехта на блізкі Захад, нехта знаходзіць сабе прытулак на Поўдні, а некага кліча Поўнач.

Аднак, хто б дзе ні апынаўся, найсуадпаведнейшы дом той, што застаецца за межамі дня і ночы, у тым “залатым веку”, да якога чалавек датыкаецца адно дзіцячаю згадкай: ён заўжды самы свой.

*

Калі мастакі падаюцца ў палітыку, яны пачынаюць маляваць анекдоты – карыкатуры.

Так, гэта карыкатуры на нешта, што пазнаецца, і разам з тым на тое, што пазнавацца не хоча, – на самое мастацтва.

*

Таму, хто ідзе ўскрай абрыву, і асабліва калі адначасова ідзе дождж, не выпадае думаць пра тое, што было ўчора і пазаўчора, і дбаць пра тое, што будзе заўтра і паслязаўтра, ён заняты тым, што ёсць цяпер, і адказны за кожны свой крок.

Мы занадта ўсюды, і, намі адпушчаныя, думкі губляюць нас, і калі губляюць, то перахопліваюць выпадкі і здарэнні і з-пад акалічнасцяў зеўрыць згуба.

Спыняюся, пытаюся, удакладняюся, дзе я ёсць. Дождж суцяшае: тамсама.

*

Найбольш кранаюць (трывожаць) нямыя званкі – нехта паслухаў, што адгукаюся, і кладзе слухаўку.

І столькі ўсяго змяшчаецца ў гэтай немаце – сама невыказнасць, і столькі ўсяго ў табе абуджаецца – і ты сам робішся змястоўным гэтай абуджанай невыказнасцю.

*

Заўсёды, калі выбіраюць паміж дзвюма магчымасцямі, па-за імі ці па-над імі апынаецца трэцяя.

Хто б кім ні быў, ён не толькі правы і левы, такі і гэтакі, але і яшчэ нехта, хто не схопліваецца ніякімі выбарамі і атэстацыямі, а застаецца *па-за* і *па-над*.

*

Дзве блізкія мовы: адна з іх ашчаджаецца, каб не ўжыць якое слова з той мовы, другая бярэ ўсё, што бярэцца з другой мовы, гатова ўвабраць ледзь не яе самую.

І адно там, дзе выказваецца і ўваходзіць у мову сваім зместам невымоўнае, яны роўнаістотныя, аднолькавапраўныя і незалежныя адна ад адной: у паэзіі выяўляецца і распазнае свой змест невымоўнае.

*

“Такога ў нашай культурніцкай прасторы яшчэ не было”, – кажуць знаўцы пра тую ці гэтую з’яву.

Няхай так, няхай такога, але нешта большае і значнейшае было заўсёды.

*

Чалавек не абсалют, але стадыя абсалюту, і таму, што стадыя, – абмежаваны, і таму, што абсалюту, – змястоўны бязмежжам.

*

“У чалавеку ўсё павінна быць прыгожым...”

Перш чым упрыгожваць чалавека, варта вызначыцца з ім самім – хто ён і што ён. А ён у заўсёднай дарозе, у самапераадоленні, нават у вызваленні ад самога сябе, і хай сірэны не зваблiваюць яго сваімі галасамі, а райскія сады сваімі ўявамі.

Прыгожае – яно заўсёдны ўзор, з якім чалавек узгадняецца самою сваёю сутнасцю, але ўсякае “павінна быць”, аднекуль уведзенае ў імператыў, кліча, калі не злачын, то імітацыю і паказ.

“Маскоўская папера сцерпіць”, – казаў сялецкі старшыня калгаса, упісваючы ў справаздачы лічбы, якія не адпавядалі рэчаіснасці, але адпавядалі нечаму таму, што павінна было быць.

*

Тая самая сцежка: штодзённай хадзе – яна ў клопат і ў абавязак,
ціхамірнай – у роздум,
памкнёнай – у апірышча,
паспешлівай – у спатыкненне,
сцярожкай – у адкрыццё.
Прыходжу – праходжу, а сцежка распазнае і мне вытлумачвае мяне.

*

Пабыў на адной музычна-паэтычнай вечарыне.

Гучаць дэцыбэлы, што ўздзейнічаюць на барабанныя перапонкі, але не даходзяць ні да розуму, ні да душы: не могуць дайсці – яны ад іх бароняцца, яны ад іх адсланяюцца.

Нібы апынуўся ў краме, дзе сілком упіхваюць тое, што сваёй воляю браць не хочаш.

Творы, якім няма чаго казаць, маюць патрэбу ў павялічанай гучнасці.

*

Новая мясціна – новыя людзі.

Мошны месцяцца каля чыгункі, па якой тройчы на суткі туды-сюды курсуе дызель і так ці гэтак скранае і вёску, і людзей.

Пытаюся ў спадара, што самапершы сустрэўся, ці ёсць тут якая хата, дзе можна было б пасяліцца на лета.

Ён разважае – не ведае.

Вулачкаю здалёк сунецца нейкая постаць.

Кажу: “Можа, гэты чалавек нешта скажа?”

Мой суразмоўца, нібы адганяе муху, махае рукою: “Які чалавек!.. Гэта паўчалавека”.

Вось і маю новае азначэнне для самай асноўнай постаці, да якой сыходзяцца ўсе дарогі, на якой спатыкаюцца ўсе развагі. А некалі ў адным версэце, высноўваючы, я пісаў: “Чалавек – гэта два чалавекі...”

*

Промні адпасылаюцца ад свяціла і вяртаюцца да свяціла з тым, што расце, зелянее, цвіце, а зрокі да таго, хто глядзіць, з тым, што прысутнічае і асягаецца.

Набыткі – яны спалучаны са зваротнай дарогай, і сам чалавек апынаецца самому сабе ў набытак адно ў сваім заўсёдным вяртанні да самога сябе.

*

Прапусціў некалькі ўрокаў, а разам з імі і тое, што на ўроках засвойвалася і абгаворвалася. Калі прыйшоў, на класнай гадзіне наша класная, настаўніца рускай мовы і літаратуры Варвара Лаўрэнцьеўна, выпрабоўваючы вучняў на пройдзенае і засвоенае, мне задала пытанне-загадку: “Што прыналежыць мне, а ім карыстаюцца другія?”

Пакуль я кеміў-разважаў, аднакласнікі то тут, то там выгуквалі: “Саша”, а я ніяк не мог даўмецца, чаму яны выгукваюць маё імя, адно адчуваў у гэтых утоеных выгуках нейкую ці то забаўку, ці то змову...

Час ад часу, застаючыся сам-насам з сабой і светам, здавалася, зноў чую галасы, якія гукаюць мяне па імені, а я ніяк не магу разгадаць, што ўрэшце я маю сказаць, як адазвацца.

*

Што чалавек усё жыццё робіць і робіць паспяхова – дык гэта ўхіляецца ад самога сябе.

Так шмат жаданняў, так шмат заняткаў, так шмат сустрэчаў, што адзінае асноўнае адкладаецца на потым: яно ж нікуды не падзенецца, яно ж сваё!..

І сам дзяецца то ў некуды, то ў нікуды.

*

Перагортваў спісы, у якія ўнесены сотні і сотні аўтараў: кожны асаблівы і непаўторны – і вось у спісах.

Хай віртуальныя, але спісы, якімі б яны ні былі, – транскрыпцыі могліцаў.

*

Ёсць найменне і змест наймення, ёсць слова і змест слова: яно можа напаўняцца зместам, які дагэтуль не мела, і са зместу, што мела, выхіляцца.

Можна гаварыць на розных мовах, а знаходзіць паразуменне, можна гаварыць на тойсамай мове і быць адно аднаму ў пярэчанне, і тады нядаўнія хаўруснікі кажуць адно аднаму: “Мы гаворым на розных мовах” або нічога не кажуць.

Змест мовы не ў самой мове, а ў тых, хто на ёй гаворыць і думае. Забіраецца змест – нямее мова, удыхаецца змест – нават нямое набывае мову.

*

Дакранацца да гразі – ёй у гонар: гэтак яна ўваходзіць і ўводзіцца ў людзі. І нават у менавітыя.

*

Самае няўдзячнае – па-свойму самае плённае: яно вызваляе ад самасці і карыслівасці.

*

Злюд – *грамадскасць, мир.*

Злюдны – *мирской.*

Злюдны сход; злюдная слава; адгарадзіцца ад злюдных радасцяў; злюдныя забаўкі.

Дагэтуль быў ён як мы, адсамнік, а з жонкай пабраўшыся, стаўся злюдны (Кірыла Тураўскі).

*

Спраўджаны – твор мае чырвоную нітку: яна тчэцца з субстанцыі бязмежжа.

*

Грэх – душэўная памылка.

Аднак усякая памылка таксама грэх – на сваім узроўні, на сваім полі, у сваёй прасторы.

Аб чым шкадую, дык аб памылках, якіх нельга выправіць.

Каб іх выправіць, трэба выправіцца на той свет і адтуль вярнуцца. Яўна-няяўна гэта заўсёды адбываецца, і той, хто вяртаецца з таго свету, вяртаецца іншым, але сабою, сабой, але іншым, каб, як пакінуты на другі год у тым самым класе вучань, нанова праходзіць тое, што некалі не засвоілася альбо засвоілася не так.

*

“Дзевятнасце сотняў,/ Як Езус радзіўся,/ А за гэту пору/ Мужык не змяніўся”, – напісала Цётка (Алаіза Пашкевіч) у пачатку мінулага стагоддзя.

Не змяніўся ў чым? У свядомасці. Прывязаны да тых самых звычаяў, да тых самых заняткаў, да таго самага кругабегу ён быццам спіць і, сплючы, захоўвае сябе такім самым, што і “дзевятнасце сотняў” таму.

І калі разумнейшыя, спрытнейшыя і адукаванейшыя людзі за гэты час “папсавалі свае душы, сэрцы”, то ў мужыку яны зберагліся – і (дзівосным чынам, нібы насуперак самому мужыку!) збярогся Езус.

Некалі (калі?) ён мае абудзіцца.

Шукаю мужыка.

*

Ростань займае прастору – і тое, што ёсць, аказваецца дзіўным.

А некалі, калі прастору асвойвала спатканне, дзіўнае апыналася тым, што ёсць.

*

“Звініць званок – а яшчэ не вывучыў урока”, – радкі з верша Навума Гальпяровіча: ён іх дастаў знутры самога сябе, і яны суадгукаюцца з усімі ўзростамі.

Жыццё – школа, і вучні, што здабываюць у рэчаіснасці кожны свой досвед, няхай у думках, няхай у паасобных сустрэчах, збіраюцца зноўку ў сваім, пакінутым некалі, класе і апавядаюць адно аднаму аб сваіх набытках, аб тым, што вывучылася і засвоілася.

*

Кажуць: хочаш убачыць свайго ворага – падыдзі да люстэрка і паглядзі ў яго.

Падыходжу – гляджу.

А некалі недзе абыходзіўся без люстэрак і бачыў сябе ў другіх: колькі людзей, гэтулькі люстэрак.

*

Сутнае захоўваецца ў звычайным.

Яно ўтоена ад відавочнасці, але з яго вынікаюць усе дарогі і ўсё далягляды схіляюцца да яго. І ўсімі сваімі здольнасцямі ўсё жыццё людзі ў яго прысвячаюцца, нават калі самі і не ведаюць пра тое, і ўсё адно жыцця не хапае, каб прысвяціцца.

*

Усякая дзея прадбачыць працяг – калі не на кіламетры, то хоць на крок, і нават суіцыд мае нейкую сваю эстэтыку, нейкую сваю аксіялогію.

І таму ў развагах, ці сам Янка Купала загубіў жыццё, кінуўшыся ў звілісты цёмны няўцямны лесвічны прахон, ці хто паспрыяў яму ў гэтым, эстэтычны чынннік настойліва сведчыць пра не першае.

А чыннік аксіялагічны пытаецца: на якую шалю вагаў у свеце, ахопленым вайною, калі б гэта рабіў ён сам і свядома, ён ускладаў свой учынак? І адказвае: няма такіх шаляў.

*

У калгасе, у абсяг якога ўваходзіў Сялец, было восем брыгад. Дзявятай брыгадай называлі могліцы.

З цягам часу суадносіны пачалі мяняцца: калгас усё больш станавіўся брыгадай, могліцы – калгасам.

Сустракаюся з блізкімі і знаёмымі – пераходжу з брыгады ў калгас, з калгаса ў брыгаду.

*

Час рухаецца ад прычыны да выніку, і тое, што адбылося – адбылося і перайначвацца не жадае.

І ўсё-такі перайначваецца – нібыта з гэтым, прычынна-выніковым,

вымярэннем узаемадзейнічае іншае, у якім прычына і вынік не разасоблены між сабой і могуць узаемаўдакладняцца.

Чалавечая сутнасць урастае ў гэтае вымярэнне, яна сарцавіна, вакол якой час апісвае свае прычынна-выніковыя кругі.

*

Гаспадыня з Канатопа, што пад Нароўляй, дзе быў пасяліўся ў час аднаго этнаграфічнага падарожжа, расказвае, як яна выйшла замуж.

“Быў у мяне хлопец, і ён мне падабаўся, і я яму. Дамовіліся, што ён у нядзелю прыйдзе да нас, каб прасіць у бацькоў маю руку. І быў другі, што заляцаўся да мяне, але я яго не хацела. І трэба ж, прыйшлі разам. Бацька мой тады кажа: “Ну, што тут рабіць? Вось вам кій, мерцеся: чый будзе верх, таго і нявеста”. Пачалі яны мерацца: хоп-хоп, і рука таго другога ўхапіла верх”.

Гэты другі, ейны муж, Васіль Стораж, пасміхаецца, гладзіць сваю шыкоўную бараду, глядзіць на ікону, што вісіць у куце і на якую штодня моліцца, ды кажа: “Я і тады маліўся – і, вось, маю вынік. Хіба ён быў не варты маёй малітвы?!.”

*

Людзі, знаёмыя яны між сабой ці незнаёмыя, звязаны нейкім, не вядомым ім, чынам.

У ім, у гэтым чыне, тоіцца наступнасць, і ад таго, які ты, залежыць, якім станецца гэты звяз, і ад таго, які гэта звяз, залежыць, якім апынаешся ты сам і людзі, з якімі, калі нават не сустракаўся, усё адно нейкім чынам знаёмы.

*

Верш – формула, у якой існае і асабовае супадаюць настолькі, што яе здольны вынайсці адно адзін чалавек, і то аднойчы.

*

Адзін больш за дзесяць і адзінаццаць, два больш за дванаццаць і дваццаць два, тры больш за трынаццаць і трыццаць тры... – у параметры чалавечага жыцця ўведзены адэкваты адваротнай прапорцыі, і кожная наступная велічыня дапасоўваецца да папярэдніх і збліжаецца з папярэднімі.

Дапасоўваецца і збліжаецца настолькі, наколькі яны самі блізкія чалавеку.

*

Якой бы багатаю ні была рэчаіснасць, у ёй заўсёды нечага не хапае і, хутчэй за ўсё, самага істотнага.

Літаратура ўзнікае не з паўнаты таго, што ёсць, а – з недахопу.

Што такое хлеб, ведаюць усе, што такое смак хлеба – найлепш ведае голад.

*

Калі твор здзяйсняецца, ён суадгукаецца з рэчаіснасцю, і наколькі суадгукаецца, настолькі праўдзівы.

Праўдзівасць – галоўная асаблівасць твора. Усё астатняе – рытм, рыфмы, алітэрацыі, сюжэт, кампазіцыя – маюць вартасць у залежнасці ад таго, як яны дапасоўваюцца да гэтай дамінанты (спрыяюць альбо шкодзяць).

І сама рэчаіснасць, хто яна й што, распазнаецца ў гэтым суадгуканні.

*

Дзіўна не тое, што чалавек ёсць, а тое, што ён здзіўляецца таму, што ён ёсць.

Ва ўсякай з'яве прысутнічае самаатэстацыя, і здзіўленне ўзнікае тады, калі тое, што ёсць, апынаецца неадпаведным таму, што мае быць.

Яно пазірае праз зломы, абрывы, выпадкі, здарэнні і нагадвае чалавеку пра нешта, што ён забыў, на што спазніўся, чаго не здзейсніў.

Здзіўленне – сітуацыя, калі ў звычайным выяўляюцца абрысы адкрыцця.

Наяве чалавек ухіляецца ад здзіўлення, а ўпотай кліча.

*

Што найбліжэй, тое і найвышэй, і сасна, якую мераю позіркам, засланяючы іх, вышэйшая за аддаленую кірху і за далёкую гару.

*

Знадворнае пастаянна пераходзіць ва ўнутранае, тое, што ёсць, у тое, чаго няма, і самае адсутнае становіцца самым сутным, а яно выпадае з-пад атэстацыі.

З самім чалавекам.

*

“Валодаю мовай... ведаю мову...” – ва ўсякім веданні мовы і валоданні мовай свой алгарытм.

Верш вынікае не з мовы – яна для ўсіх ”валадароў” свая, а з алгарытму мовы, і ў кожнага творцы ён свой.

*

Яго не відаць, але перад усякім пачаткам нешта было, што яму папярэднічала, і пасля ўсякага завяршэння нешта ёсць, што яму наступнічае.

Яно пакідае сляды і не пакідае слядоў, яно хаваецца і яно адкрываецца. Што?..

“Шрыфтам Брайля на калядным снезе / птушкі вершы пішуць”, – скажа Анатоль Сыс у адным са сваіх апошніх вершаў, чытаючы пісьмо, пазначанае гэтым ш т о і адрасаванае менавіта яму.

*

Тутэйшае – гняздо, яно самае тутэйшае, самае сваё, яно самае ўстойлівы арыенцір ва ўсіх вандроўках, і як бы высока ні ўзляталі і далёка ні адляталі птушкі, яны застаюцца з ім, яно з імі.

Калі птушка далятае да небакраю, небакрай апынаецца там, дзе застаецца яе гняздо.

Ляці, птушка!..

*

Час – рака, гісторыя – сеткі, закінутыя ў раку, і ў кожнай сетцы свой гаспадар.

*

Самае супрацьпастаўленае – яно зваротным чынам і найбліжэйшае. Так, ніз – перакулены верх, і той, хто ўздымаецца ўгару, цягне з сабой і самім сабой гэты ніз, пакуль ён не пераадолеецца, пакуль не сумесціцца з верхам.

Калі сумесціцца, спраўдзіцца вынік, а з ім той, хто здолеў узняцца на гару, – н е х т а.

*

Якой бы ні была глеба – урадлівая ці не дужа, зерне кладзецца ў яе не для таго, каб у ёй заставацца, а каб з яе прарастаць.

У сваю наступнасць.

*

Той, каго пераследуюць, рад-няволя, робіцца правадыром,

той, хто пераследуе, нярад-воля робіцца паслядоўнікам.

Наступнасць уступае ў надзённасць – і грэшнікі цягнуцца да Хрыста, надзённасць адступаецца ад наступнасці – і Хрыстос апынаецца сярод злачынцаў.

*

Містэрыя – прысвячэнне ў смерць і ва ўваскрашэнне, творчасць – прысвячэнне ў саму містэрыю.

Якім бы надзённым і гучным твор ні быў, без удзелу гэтага прысвячэння ён заўсёды недаздзейснены.

*

Ва ўсякай з’явы ёсць свая відушчасць, уласцівая адно самой гэтай з’яве, і выводзіць яе на святло, як соваў ці кажаноў з цямноцця, – зняпраўджваць і асляпляць.

*

Адна з асноўных асаблівасцяў Айчыны тое, што ў ёй не махлююць і не хлусяць.

Хто хлусіць ды махлюе, той ужо не з Айчынай, а яна не з ім.

*

Наколькі чалавек ёсць, ён ёсціна, і наколькі ёсць адно тым, кім выяўляецца ў сваёй асабовасці, – хіба: хіба, якая сціраецца, ёсціна, якая распазнаецца.

*

Пойдзеш направа, пойдзеш налева, пойдзеш проста... – гэта адно здаецца, што наступныя дарогі ўжо чакаюць цябе, усякі раз іх належыць здабываць і высноўваць з саміх сябе.

А пакуль што раздарожжа ніякая зямля, і невядомая наступнасць чакае, якую дарогу абярэш, якою пойдзеш.

*

Рай вынікае з суадпаведнасці таго, хто ёсць, з тым, чым ён ёсць, пекла – з несуадпаведнасці.

*

Людзі, яны адметныя ці тыясамыя?
Адметныя, – кажа жыццё.
Тыясамыя, – кажа смерць.
А людзі ўмяшчаюць у сабе і тое, і гэтае і нешта яшчэ, што не ўмяшчаецца ў атэстацыі.

*

Самы змястоўны твор – слова.
Прачытаныя, творы пакідаюцца; прачытаныя, словы вяртаюцца, каб нанава вымаўляцца і выяўляцца.

*

Калі парушаецца правіла, дык яно парушаецца так, што само правіла застаецца чыстым і некранутым, а парушэнні збіраюцца ў вынік, адхілены ад яго і адхінуты ім.

*

“Ніхто адтуль не вярнуўся”, – кажуць людзі пра той свет.
Аднак тым не менш вяртаюцца ўсе і штодня – калі засынаюць і прачынаюцца, ды яшчэ прыносяць адтуль свае сведчанні – сны.

*

Двойчы, а то і тройчы на дзень жыхар Ратміравічаў спадар Аляксандр Саковіч, што трохі яшчэ недабраў да ста гадоў, робіць па вуліцы вёскі, упісанай у авал, праходку – і ўсякі раз лічыць, колькі каларадскіх жукоў напаткаў і растаптаў. Бывае – нейкі тузін, а здараецца – больш за сто.
Кажу: “Вы варты за гэта медаля Ратміравічаў”.
Ён: “А я зычу табе сто год жыцця”.
Пытаюся: “А трохі больш – сто сем гадоў можаце ўзычыць?”
Кажа: “Пакуль што не. А вось калі сам стану стагоднім, тады, можа, і ўзычу”.

*

Фізіёлагі ды антраполагі, разглядаючы эвалюцыю чалавека, знаходзяць у ім органы, якія з цягам часу становяцца ў ім рудыментамі – непатрэбнымі.
Але і сам чалавек у сваёй асабовасці становіцца сам сабе і свайму Сэнсу ўсё больш непатрэбным, і ўсякі раз смерць сведчыць аб гэтым.

*

Чалавек – фотаздымак, што безупынна праяўляецца, і тое, што праяўляецца ў ім, становіцца ім.

Хто б ён ні быў і які б ён ні быў, чалавек заўсёды недапраяўлены.

*

Што ведама некаму аднаму, ведама некаму яшчэ, хоць пра гэта ён сам можа і не здагадвацца.

*

Творчасць – уваход у святыню. Калі не ў святыню – тады недаход, тады нядоступ ці водступ.

Мастацтва, што хоча паказаць сябе, селіцца на дзялянках водступу, мастацтва, што асягае сутнае, – знаходзіць сябе ў святыні.

*

*Невежда* – зняведнік, знеўда, знеўдар.

Бо ўпартасць зняведнікаў знішчыць іх (Пр., 1:32).

...людзі распусныя розумам, знеўдары ў веры (2 Цім., 3:8).

(Ён) дасведчаны, адно прыкідваецца, што знеўда.

*Невежество* – зняведанне, зняведлівасць, знеўдань.

“Дакуль, зняведнікі, будзеце любіць зняведлівасць?..” (Пр., 1:22).

Зняведанне – маці ўсіх злачынстваў.

У ведзе людзі знаходзяць сябе, у знеўдані трацяць.

*Невежественный* – зняведлівы, зняважданы.

Каб мог спагадаць зняважданым і заблуканым (Габр., 5:2).

Зняведлівыя людзі ўяўляюць зазвычай, што яны знаўцы.

*

*Цемрынёю, бездарожжам*
*Аднаго пайду шукаць:*
*Што ніколі мець не можна,*
*Што ніхто не можа даць. –*

Гэта апошняя страфа з верша Наталлі Арсенневай “Хаценні”, сам верш складаецца з трох строфаў і насычаны зместам, які ўкладаецца ў словы і пераўзыходзіць словы – уводзіць у той кантэкст, дзе яны перастаюць вымаўляцца.

Цемрынёю – бо ў ёй абуджаецца відушчае; калі згасае дзённы зрок, калі бачанне перастае бачыць, адкрываецца ўнутраны зрок і аднаходзіцца тое, што дагэтуль спала, – прадбачанне.

Прадбачанне – відушчае бачанне.

Бездарожжам – бо ўсе дарогі, якімі хадзілася дагэтуль, вядуць у паўторы: з вясны ў восень, з зімы ў лета, і ўсё, што на іх набываецца, адымаецца. Каб аднайсціся, беларуская доля (і ідэя) шукае бездарожжа. “Пайду ў свет, у бездарожжа”, – некалі, як у страчаную айчыну, “хацелася” пайсці ў яго Паўлюку Багрыму.

Чалавек заўсёды больш, чым ёсць тут і цяпер, ён выйсце з сябе, а яно асягаецца там, куды не даходзяць дарогі.

Там, у бездарожжы і ў выйсці з сябе, асягаецца тое, “што ніколі мець не можна, што ніхто не можа даць”. І таму, што яго не можна мець і яго ніхто не можа даць, яно не можа мець і наймення.

*

Усе дзейсняць адну і тую самую дзею – жывуць: галоўная, яна распадабняецца на мноства дадатковых, што дапасоўваюцца адна да адной і адна адной пярэчаць.

Усё жыццё чалавек імі заняты і ўсё жыццё вызваляецца ад іх.

*

Творы, што пішуцца ці складаюцца, – павадыры: яны прыводзяць творцу да той канчатковасці, да той адкрытасці, да той быццёвасці, дзе ён апынаецца перад сваім самым галоўным творам, што не пішацца і не складаецца, а ё с ц ь.

*

Паэт не званне, а прызванне: ён мае быць пры *зове*, яго чуць і аб'яўляць, і з гэтым аб'яўляцца самому.

*

Не блізка і не далёка.

З усімі і з усім мае ўсталёўвацца свая адлегласць. Ёсць адлегласць – ёсць той, хто адносіцца, і тое, што суадносіцца.

Трымаць адлегласць – знаходзіць паразуменне: з сонцам, з людзьмі і з самім сабой.

*

Мэта паэтычнай творчасці – вершы, а метамэта – у выйсці... У выйсці з абмежаванасцяў, з якімі зрошчана і зроднена асабовасць, у боскія абсягі.

Вершы – сляды ў паднябессі ці, калі ўдакладняцца, сляды з паднябесся.

*

Чалавек – гэта яшчэ не ўсё.

Гэта тое не ўсё, што мае стацца У с і м.

*

Кнігі пішуцца і чытаюцца, аднак самая галоўная кніга, "вечная кніга", у самім чалавеку, і ён яе вечны чытач.

І творца.



Барыс Пятровіч



...самы страшны страх –
той, што мы прыдумалі...

# Засада, або Лавіся, рыбка, вялікая

***Аповесць***

*Усе апісаныя падзеі – выдумка галоўнага героя...*

Кожны раз Андрэй разумеў, што гэта быў сон, толькі калі прачынаўся. Сон гэты не даваў яму спакою ўжо некалькі месяцаў. Ён думаў, што ёсць у ім нешта сімвалічнае, калі ён паўтараецца, але дагэтуль не разгадаў – што? Ад пачатку ў сне ўсё было надта рэалістычным ды праўдзівым. Як у жыцці.

Звычайная ранняя зімовая ноч – усе фарбы на месцы. Бэзавае неба без зорак. Гарадская плошча са знаёмымі чорнымі будынкамі вакол. Прастакутнікі жоўтых вокан. Стаптаны, але белы, снег пад нагамі. Маўклівы шэры збой некалькіх тысячаў людзей, якія стаяць цесна, амаль без

рухаў. Нібыта чагосьці чакаюць. Цішыня праразаецца гудкамі машынаў, што праязджаюць міма і вітаюць людзей на плошчы. І тады сёй-той паварочвае галаву ў бок гуку і паказвае Андрэю свой чырвоны ад марозу твар. І ён бачыць трывогу ў ім.

Недзе далёка, злева ад плошчы, пачынае пашырацца і нарастаць гул. Нібыта незадаволена грукоча працяглы летні гром, які паступова рухаецца сюды. Гром зімою – не можа такога быць... Але грукат набліжаецца і паглынае сабою ўсе астатнія гарадскія шумы. Андрэю і ў сне не верыцца, што гэта магчыма. Ён шчыкае сябе, як раяць рабіць, каб праверыць, ці не сон гэта. І кожны раз адчувае боль – сапраўдны боль. Пацірае ўшчыкнутае месца і тады канчаткова ўпэўніваецца, што гэта не сон.

Гул звычайны, машынны, спрабуе супакоіць ён сябе. Пэўна, так думаюць і іншыя. Таму не адразу становіцца зразумелым, што гул гэты страшны, што ён абяцае бяду. Быццам з нейкае гары коціцца да плошчы цяжкі вялізны шар і грукоча на выбоінах, ці хваля цунамі ідзе, змінаючы на сваім шляху дамы. Людзі міжволі прыслухоўваюцца да гулу. Аднак стаяць, не разыходзяцца. Усе чагосьці чакаюць, паглядваючы наперад, дзе віднеецца помнік з трыбунаю. Хоць ведаюць – мажлівых выступоўцаў даўно арыштавалі. А новых сярод іх не знаходзіцца.

Гул магутнее, навісае над плошчай, забірае ў сябе ўсе іншыя гукі і робіцца жахлівым. Маторы равуць недзе далёка так рашуча і злосна, што пачынае здавацца, быццам яны зусім блізка. Людзі азіраюцца, варочаюць галовамі, шукаюць нейкага паразумення ў тварах тых, што побач. Вочы іхнія між тым робяцца ўсё большымі, і галовы ніжэй ды ніжэй уціскаюцца ў плечы. Нібыта над імі стаіць нехта замахнуўшыся, і вось-вось пасыплюцца, упадуць на іхнія спіны ўдары...

Але ніхто не разыходзіцца.

Чаму яны выйшлі ў гэты позні вечар на плошчу? Чаго хочуць тым дамагчыся? Што паказаць? Навошта ўвогуле сабраліся?..

Тое было невытлумачальным, але тлумачэння не патрабавала. Іх у чарговы раз падманулі. Колькі гэта будзе працягвацца? Досыць... Так думаў кожны, хто прыйшоў сюды. Незалежна ад узросту. Ніхто не верыў, што сваёй прысутнасцю тут можа нешта змяніць. Але кожны спадзяваўся, што ён у гэты вечар, на гэтай плошчы не будзе лішнім, бо не адзіным.

І вось гул вырваўся з-за дамоў і выляцеў на плошчу.

“Танкі!” – закрычалі разам тысячы галасоў і на момант, на імгненне, перакрылі сабой лязгат гусеніцаў. А танкі, выбягаючы на плошчу, уключылі фары і раз’ехаліся. Утварылі роўную натоўпу шарэнгу і адразу, не спыняючы ходу, магутным прасам, сталёвым лязом, мякка ўвайшлі ў людзей, увайшлі так лёгка і проста, быццам нікога перад імі не было...

Крык зліўся з гулам... Дзе быў у гэты момант Андрэй – ён не ведаў. Але недзе збоку, бо назіраў за тым, як танкі прасавалі плошчу, распырскваючы кроў і снег, які на вачах рабіўся чырвоным марозівам. Неймаверны грукат, мітуслівыя слупы жоўта-белага балючага святла, роспачныя крыкі ды стогны людзей... Канец свету!.. І тут адзін танк знайшоў Андрэя – коціць, грукоча, і яму ўжо няма куды падзецца. Чорная крывавая гусеніца навісае над ім... А-а-а-а! – крычыць Андрэй і ў гэтае імгненне прачынаецца...

## Раніца

Усё, што можна было прамовіць, – прамоўленае, і рука паціснула руку, і вочы бліснулі застылай слязою...

На парозе Кастусь азірнуўся і ўгледзеўся ў Андрэя так, быццам развітваўся назаўсёды. Такое ўсясветнае самоты Андрэй яшчэ не бачыў. Ніколі. Глыбокай, нібыта тысячы кіламетраў ужо раздзялялі іх, хоць Кастусь стаяў побач.

Так, яны і сапраўды развітваліся без надзеі ўбачыцца зноў. Кастусь зараз сядзе ў прамерзлы першы ранішні аўтобус, выйдзе ля вакзала, ускочыць у цягнік, які ўжо яго чакае, і з'едзе адсюль далёка і... надоўга, да лепшых часоў. Так зрабілі ўжо многія да яго. І нічога дзіўнага тут няма. Ну не прыстасаваная і не прызначаная гэтая краіна для людзей неабыякавых, для людзей, што, як і тутэйшыя птушкі, не могуць жыць у няволі.

"А раптам ён не здолее сёння з'ехаць, спозніцца, застанецца?" – падумаў Андрэй.

– Можа, і не варта табе спяшацца... – Андрэй пакідаў сабе надзею, – можа, яшчэ ўсё абыдзецца... Можа, перачакаеш у мяне? Не першы ж раз... – сказаў і патануў у Кастусёвых вачах, яшчэ глыбейшых, чым смутак расстання.

– Жартуеш... Ты ж ведаеш... Мяне шукаюць цяпер па ўсім горадзе. І да цябе першага прыйдуць...

– А раптам – не...

– У любым выпадку рызыкаваць не варта. Дзякуй і за гэтую ноч!

Кастусь казаў, і бачна было, што і яму не вельмі хочацца цяпер ісці ў шэрую невядомасць, ён з радасцю застаўся б тут, але... Ён ужо сабе не належыць – паляванне пачалося...

– Ты мне не тэлефануй. Тэлефоны праслухоўваюцца, выклікі фіксуюцца... Зрэшты, я гэтага кішэннага шпіёна, – Кастусь паглядзеў на свой старэнькі сотавік, – выкіну ў першую ж сметніцу, бо па ім маё перасоўванне лёгка адсачыць. Нават па адключаным.

– І ўсё ж... А раптам... Раптам табе давядзецца вярнуцца. Увечары...

– Не... Толькі не да цябе. Дзіўна, што іх дагэтуль няма...

– Патэлефануй хоць з аўтамата, – Андрэй разумеў, што хапаецца за саломіну, і тым не менш працягнуў, – пачакай... Значыць, трэба вяртацца да старых метадаў перасцярогі. Правераных часам. Вазон на вакне... Адкінутая штора... Давай дамовімся пра нейкі знак... Што можна спакойна зайсці да мяне і займець надзейны схоў, – ён казаў і сам не верыў гэтаму. Але яму трэба была хвілінная затрымка, каб вынырнуць на паверхню, каб хапануць паветра, каб хоць на імгненне пазбыцца адчування непазбежнасці і незваротнасці таго, што адбываецца. Яны з Кастусём не раз размаўлялі пра магчымы ад'езд адсюль. І заўсёды сыходзіліся на думцы, што гэта будзе самы крайні выпадак, што без пагрозы жыццю ніхто ніколі не адважыцца на гэта.

Цяпер, падобна, быў такі выпадак. Для Кастуся. Ён слухаў, не сыходзіў, не прасіў супыніцца. Відаць, і яго нешта трымала – нешта тое, што ўсведамляецца толькі потым, але ажывае ў кожнага пры развітанні.

Па вачах Кастуся Андрэй убачыў, што шляху назад ужо і сапраўды няма. Ловы пачаліся, а таму апошняя кволая нітачка надзеі абрывалася... І тады ён дадаў:

– Паглядзі наколькі штора на вакне адсунутая: напалову. Мы самі наўмысна чапаць яе не будзем. І вазон стаіць якраз пасярод падваконня.

З таго боку вуліцы гэта добра відаць. Калі нешта будзе зрушана, значыць, заходзіць нельга.

– Дзякуй... – Кастусь горка пасміхнуўся. – Але думаю, нам не спатрэбіцца гэтая гульня ў шпіёнаў. У Штырліца... Не той час. Ну, бывай...

Дзверы коратка рыпнулі – Кастусь пайшоў. Андрэй прашаптаў услед: “Бывай...”

Каля прыадчыненых дзвярэй, з якіх па нагах цягнула холадам, ён прастаяў яшчэ з хвіліну, бо не мог скрануцца з месца.

*

На працу Андрэю да адзінаццатай. Такі склаўся распарадак. Ён зірнуў на гадзіннік – на ім было шэсць раніцы – і вырашыў крыху падрамаць. Ноч была бяссоннай.

Але заснуць не змог. Расстанне стаяла ў ягоных вачах. І ён ляжаў гледзячы ў цёмную столь.

Яму падалося, прайшло хвілінаў дзесяць, не больш, як загрымеў на ўсю пустэчу вітальні званок. “Вырашыў вярнуцца?.. Ну і добра”, – супакоена падумаў ён, падняўся і механічна, не зазіраючы ў “вочка”, адчыніў дзверы.

– Рукі за галаву, тварам да сцяны! – прагрымеў грозны рык, Андрэй не паспеў нічога зразумець, як нехта ў чорным балюча крутануў ягоную руку за спіну і ткнуў носам у шпалеры. Па тупаце ног Андрэй зразумеў, што гэты нехта быў не адзін.

– Хто яшчэ ёсць у кватэры? – спытаў той жа голас.

– Я не разумею, што адбы... – пачаў казаць Андрэй, паварочваючыся на голас.

– Не абарочвацца, нах...! Стаяць смірна, нах...! – абарваў яго той жа начальніцкі крык. – Адказваць: ты дома адзін, нах...?

– Не. У спальні жонка, у дзіцячым пакоі дачка.

– І ўсё?

– Усё.

– Яшчэ раз пытаю – больш нікога няма, нах...?

– Нікога.

– У нас ёсць звесткі, што тут начуе Кастусь К.

– З чаго вы ўзялі? Нікога больш няма...

– Дазваляю павярнуцца.

Андрэй павярнуўся да тых, што ўварваліся ў кватэру. Вітальня падалася яму чужой. Нават пах гэтыя людзі ўнеслі з сабой незнаёмы, нейкі... салдацкі, казарменны, хоць усе былі апранутыя ў цывільнае.

Іх было трое. Усяго трое, а Андрэю падалося, што ўварваўся цэлы ўзвод. Начнік у вітальні ён паспеў уключыць, таму ў блізкай паўцемры, што стаілася ў глыбіні пакоя, змог агледзець іх. Казаў і камандаваў самы старэйшы па ўзросце і, пэўна ж, па званні, невысокі, мажнаваты, з заўважным нат з-пад зашпіленага паліто пузікам круглатвары мужчына, на пераноссі якога цямнелі плямкі ад нядаўна знятых акуляраў. Двое другіх былі значна маладзейшыя і па-спартыўнаму падцягнутыя, шыракаватыя ў плячах. Відавочна, спортзала для іх не была мачыхай. Яны стаялі, расставіўшы ногі, і адзін трымаў рукі за спінай, а другі нейк няспешна, плаўна, кулаком правай рукі біў у далонь левай. Усе былі нечым моцна ўзрушаныя, узбуджаныя, і нецярпенне адчувалася нават у гэтых, здавалася б, запаволеных рухах.

Дзверы ў кватэру яшчэ былі адчыненыя, і адтуль цягнула холадам лесвічнай пляцоўкі. Усё ж на вуліцы зіма. Казалі ноччу было за мінус дзесяць. Андрэй згадаў пра Кастуся, які пайшоў у той жа лёгкай куртачцы, у якой і завітаў да яго недзе апоўначы.

– Дык, кажаш, нікога больш няма? Вось зараз мы і праверым.

Пузель (Андрэй для сябе празваў самага крыклівага так) хітнуў галавой управа-ўлева, і двое маладзейшых адразу зразумелі, пайшлі глядзець пакоі, а сам ён зрабіў крок да ўваходных дзвярэй і зачыніў іх.

– Можаш сесці, – паказаў Андрэю на фатэль.

Тым часам двое абышлі пакоі і вярнуліся.

– Падобна, і сапраўды больш нікога няма, – няўпэўнена прамовіў адзін з іх, той, што быў вышэй ростам і ў шапцы-вязанцы.

– Дакладна, нах... Ці падобна?

– Так, дакладна, — адказаў другі, на галаве якога была скураная кепка з апушчанымі на вушы краямі, і пры гэтым сцепануў плячыма.

Твары маладзейшых былі ў нечым падобныя – выгалена-вышкаленыя, аднолькава стомленыя – і Андрэй пакуль мог адрозніваць іх хіба па вопратцы. Дакладней, па шапках.

– А чаму гэтак няўпэўнена дакладаеце, нах...?

– Мы ж пад ложкі не зазіралі...

– А чаму не зазірнулі?

– Дык...

– Ніякіх дык... Зазірайце. І ў шафы. Адшукайце яго, нах....

Андрэй ужо ачомаўся і асмялеў. Тым больш, ён то ведаў, што Кастуся тут няма – спазніліся.

– Цяжка знайсці чорную котку ў цёмным пакоі, асабліва, калі яе там няма, – ціха прамовіў ён нібыта сам сабе, але каб чулі ўсе.

– Ты мне яшчэ жартаваць будзеш, нах...? Калі ён тут – гэта былі твае апошнія словы, хвілосаф.

Андрэй толькі пасміхнуўся: шукайце.

– У нас дакладная інфармацыя: ён сёння начуе менавіта ў гэтай кватэры. Я казаў, адразу трэба ехаць сюды і браць. Дык не – прымусілі ганяцца па вуліцах, збіраць пешаходаў. Нахапалі тысячу, а толку... – Пузель падняў вочы на сваіх памагатых, якія вярнуліся ні з чым. – Ну што? Няма... Упусцілі, нах...

Абое моўчкі прыгнулі галовы.

– А быў жа, быў жа тут... – Пузель нервова захадзіў па вітальні. – Ну, што будзем рабіць, нах...? Якія прапановы, нах...?

Ён размаўляў са сваімі так, быццам Андрэя побач няма. І Андрэй вырашыў умяшацца:

– А з чаго вы ўзялі, што...

– Маўчаць! Нах... – абарваў яго ўладны голас. – Без саплівых абыдземся.

Ну гэта ўжо Андрэй сцярпець не мог: уварваліся ў кватэру ды яшчэ абражаюць. Ён падхапіўся з фатэля і... адразу ж апынуўся на падлозе: Пузель імгненна зрэагаваў на ягоны рух і сядзеў на ім, заломваючы руку. Андрэй адчуў, як з разбітага аб падлогу носа цячэ цёплая кроў і хлюпае, не дае дыхаць. У спіне нешта хрупнула. “Але ж і цяжкі, кабан”, – міжволі падумаў ён.

– Ну ўсё, хлопцы, ціха, ціха, супакоіліся... – з ценю выйшаў адзін з маладзейшых, той, што ў шапцы-вязанцы. Галава ў Андрэя пайшла кругам – відаць, ён памыліўся: галоўным тут быў гэты. “Дзіўная метамарфоза, – падумаў

Андрэй, хліпаючы носам і гледзячы знізу высока ўверх, – ці яны тут усе начальнікі па чарзе...”

– Адпусці яго, – хутчэй не скамандаваў, а папрасіў Пузеля, які ўсё яшчэ важка сядзеў на Андрэі, той з маладзейшых, якога Андрэй для сябе назваў па шапцы – Вязанка.

“А што было б, калі б Кастусь не паспеў сысці...” – падумаў Андрэй і ўсміхнуўся.

– Што лыбішся, – пырснуў слінай Пузель, – радуешся, што сябар збег?

“Ён што: думкі чытае гэты... гэты нязваны “госць” з пэўных органаў? – падумаў Андрэй. І сапраўды: хто ж яшчэ мог шукаць Кастуся, як не людзі з “канторы”, з КДБ. Ён зноў усміхнуўся сам сабе і сказаў:

– Не, мне проста дужа прыемна вас бачыць.

– Ну, жартаўнік, мы з табой яшчэ паразмаўляем, не да смеху будзе, – Пузель падняўся, шваркнуў рукамі па штанах, абцёр нябачны пыл. І пачаў казаць высокім камандным голасам да сваіх. Значыць, усё ж Андрэй памыліўся: галоўным тут быў ён: – Пакуль вось што: ён тут быў – мы гэта дакладна ведаем, і, можа, яшчэ вярнецца сюды нанач. Вы, Пятроў і Сідараў... – “Госці” (Андрэй вырашыў зваць іх так) недаўменна пераглянуліся, пэўна, не ведалі, хто з іх Пятроў, а хто Сідараў, бо, відаць, загадзя не дамовіліся. – Вы, – кіўнуў Пузель Вязанку і другому (каб адрозніваць, Андрэй назваў яго Кепка), застаецеся тут да вечара. Усіх, хто будзе прыходзіць – затрымліваць і не выпускаць з кватэры. А восьмай вам будзе змена, – памаўчаў. – Ну і няхай, пачакаем. Пагуляем у хованкі... Прыйдзе, куды ён дзенецца гэтым холадам. Не сюды, дык... на іншую яўку, дзе мы яго таксама сустрэнем. Прыйдзе – зіма прыгоніць, – кіўнуў абодвум: – за старэйшага ты, Пятроў. (Вязанка, адзначыў Андрэй сабе). Паўтараю: у кватэру ўсіх пускаць, але нікога не выпускаць, каб не маглі паведаміць пра засаду. З кожным, хто сюды прыйдзе, потым будзем разбірацца паасобку.

Чамусьці (пэўна, па звычцы?) казырнуў і выйшаў.

Тут толькі Андрэй заўважыў, што ля дзвярэй спальні стаіць ягоная жонка і плача. Ён кіўнуў ёй і пайшоў у лазенку, каб змыць кроў з твару, і ніхто за ім услед не кінуўся.

## Дзень

Такім чынам, у Андрэя намячаўся нечаканы выходны. Калі ўсіх пускаць і нікога не выпускаць, дык, значыць, на працу ён сёння не хадзец... Двое “гасцей” спачатку пасядзелі трохі ў вітальні, а потым занялі больш зручную пазіцыю на варыўні. Тут варта сказаць, што ўлетку Андрэй з жонкай зрабілі рамонт у кватэры і крыху перапланавалі яе. У іх была звычайная хрушчоўка, ці хрушчоба, як кажуць па ўсім былым эсэсэсэры: з малой варывенькай і яшчэ меншай вітальняй. Нядоўга думаючы, яны знялі – папросту разбурылі – сценкі і злучылі іх з большым з пакояў, які быў у іх гасцёўняй. Атрымалася такая асучасненая гасцёўня-вітальня-варыўня разам, а за кошт гэтага ўдалося яшчэ і раздзяліць ванны пакой і прыбіральню, зрабіць іх асобнымі. Такім чынам сваю трохпакаёвую кватэру яны ператварылі ў двухпакаёўку, пакінуўшы сабе з жонкай спальню, а дачцэ асобны дзіцячы пакой. Гасцёўня, аб’яднаная з варыўняй і вітальняй, атрымалася не малой – амаль трыццаць метраў, квадратных, вядома. Яны не адважыліся падзяліць яе на два

пакоі, хоць жонка і хацела. У гасцёўні стаяла вуглавая канапа, шафа, пара фатэляў, абедзенны стол, крэслы, на сцяне вісеў вялікі тэлевізар. Словам, было адносна ўтульна, пакуль не ўваліліся са сваёй мітуснёй і чужымі пахамі гэтыя... "госці".

– На тэлефонныя званкі не адказваць, – папярэдзіў Андрэя і ягоную жонку Вязанка, які цяпер ужо стаў галоўным, – адключыць мелодыі ў мабільніках і здаць іх нам. У кватэру пускаць усіх, хто прыйдзе. Зразумелі?

Вядома, зразумелі, даўно зразумелі, што ж тут незразумелага.

– Можна кавы? – папрасіў Кепка, які пакуль нічым не вызначыўся: не дапытваў Андрэя і не кідаў на падлогу. З ягонае нечаканае просьбы Андрэй зразумеў, што ноч у іх і сапраўды была вясёлая.

Канфліктаваць з імі, спрачацца і не падпарадкоўвацца Андрэй палічыў непатрэбным. Тым болей – спрабаваць ісці на нейкі кантакт. Яны людзі часовыя і падначаленыя. Як прыйшлі, так і пойдуць. Моўчкі, і як мог спакойна, ён запаліў газ, паставіў ваду.

Тым часам на вуліцы пачало віднець. Ліхтары ўжо былі выключаныя. І Андрэй памкнуўся да вакна, каб рассунуць шторы і даць у пакой болей святла.

– Э-э-э, та... таварыш, стоп-стоп-стоп! – зразумеўшы ягоны намер, кінуўся наперарэз Вязанка, – нічога без нашага дазволу не кранаць, не зрушваць, ля вакна не стаяць і ў вакно не выглядваць.

"Ну во, – падумаў Андрэй, – падаў знак сябру... Навошта было казаць, што без небяспекі штору і вазон адсоўваць не буду".

*

Першы званок у дзверы пачуўся прыблізна праз гадзіну. "Госці" падскочылі і скіраваліся да дзвярэй разам з Андрэем. Сталі так, каб іх не было відаць, і вачыма паказалі: адчыняй.

На парозе стаяў Андрэеў сусед з верхняга паверху.

– Што гэта вы на тэлефонныя званкі не адказваеце? Званю-званю – цішыня. Я ўжо і хвалявацца пачаў. Мы ж дамаўляліся...

Шчыра прызнацца, у гэтым тлуме званкоў ягоных Андрэй не пачуў. Вязанка паказаў яму паваротам вачэй: запрашай.

– Заходзь.

Сусед увайшоў, і Вязанка адразу ж за ім рэзка, нагой, зачыніў дзверы. Сусед спалохаўся ад нечаканкі, прысеў пад грукат дзвярэй, а потым рвануў назад і толькі лбом стукнуўся ў вушак.

– Стаяць! – гаркнуў Кепка пранізлівым і адначасна грубым голасам – адкуль толькі ўзяўся ў яго такі – і Андрэй заўважыў, што ў суседа імкліва макрэюць спераду спартыўныя штаны, у якіх ён прыйшоў, а потым на падлозе вакол пантофляў пачала збірацца лужынка.

– Што... што? Што тут такое? – закруціўся сусед, пазіраючы то на Андрэя, то на "гасцей", не ў моцы спыніць вадкасць, якая ўсё цурчэла і расцякалася.

– Засада тут, Міша, супакойся, – сказаў Андрэй і патлумачыў "гасцям": – гэта сусед зверху, – а потым паклікаў жонку: – Прынясі Мішу што з майго пераапрануцца, не сядзець жа яму тут з намі ў мокрым.

Жонка зірнула на Вязанку, той пагардлівым кіўком дазволіў. Яны з Кепкам адышліся з незадаволеным шэптам:

– Ну во – пачалося, нах...

Дарэчы, варта сказаць, што гэтае выслоўе-паразіт "нах..." у іх ды іхняга

начальніка тут не пераказваецца цалкам і ўвесь час, бо гэта немажліва: гучала яно ледзь не за кожным словам – падобна, што яны нават не заўважалі таго. І больш яно не будзе згадвацца, проста шаноўны чытач хай ведае, што яно ёсць, прысутнічае ўвесь час і расквечвае кожную гаворку, кожны раз гучыць раптоўна і рэзка, як маланкі-бліскавічкі, бо прывыкнуць да гэтага нязвыкламу (свежаму) вуху немагчыма.

Сусед пайшоў у лазенку пераапрануцца, жонка Андрэя прынесла анучу, каб выцерці лужынку, а "госці" пайшлі на варыўню піць каву.

– Я ж толькі спытаць хацеў, – пачаў тлумачыць Андрэю сусед вярнуўшыся, – ваш тэлефон, як бы, не адказвае... Я ж на хвілінку... Мне, як бы, дадому трэба... Што жонка падумае? – голас ягоны дрыжэў – яму, відавочна, было сорамна і няёмка, але ён яшчэ канчаткова не зразумеў, што здарылася тут да яго.

– Паслухай, таварыш, – вырашыў патлумачыць Мішу сітуацыю Вязанка, – праходзіць аператыўнае мерапрыемства, і табе давядзецца затрымацца ў гэтай кватэры, пакуль мы не палічым неабходным выпусціць. Паняў?

"Паняў", – кіўнуў Міша. І тут жа сказаў:

– А што жонка падумае? Я ж на хвілінку, як бы. Яна там яечню смажыць...

Вязанка нічога яму не адказаў. А жонка Мішы доўга не думала. Хвілінаў праз пяць на лесвічнай пляцоўцы пачуўся яе гучны голас:

– Што ён там робіць, блін? Сняданак стыне. А яны... Зрання піць селі, блін! Я разганю вашую шайку-лейку.

У дзверы яна не пазваніла, а загрукала кулаком.

Андрэй зірнуў на Вязанку: што рабіць? "Пускаць", – кіўнуў той.

Маша не ўвайшла, а ўляцела ў вітальню. І адразу ж спынілася, убачыўшы, што апроч Андрэя сустракаюць яе яшчэ двое незнаёмцаў. "Авой!.." – прапела яна, відаць падумаўшы, што кватэру захапілі калі не тэрарысты, дык злодзеі, і прыкрыла твар рукамі.

– Супакойцеся, мамаша, – лагодна прамовіў Вязанка, – супакойцеся... усё нармальна.

Маша-мамаша агледзелася і ўбачыла пераапранутага мужа, які сцішана сядзеў у фатэлі ў глыбіні пакоя. "Авой!" – зноў сказала яна і схапілася правай рукой за вусны.

– Праходзьце да мужа і... будзьце, як дома, – пажартаваў Вязанка. – Мы вас затрымліваем на няпэўны час.

– Як гэта затрымліваем? За што? Не маеце права! У мяне чайнік на пліце, як бы, закіпае. Пажар будзе. Узрыў, як бы. То ж газ... Дзеці яшчэ спяць.

"Госці" напружыліся, замяліся. Але Вязанка хутка знайшоў, што сказаць:

– Дзеці малыя?

– Ды не – старшакласнікі. Як бы...

– Можаце ім пазваніць, каб чайнік з пліты знялі.

– Магу.

– Званіце, – падаў тэлефонную трубку.

Маша патыкала пальцамі на кнопкі і спынілася.

– Авой!

– Што такое?

– Я свой нумар хатні забылася. Як бы, не памятаю...

– А хто памятае? – зірнуў на мужа. Той сцяўся ў фатэлі, а потым захітаў галавой: не, не памятаю...

– Звычайная справа, – сказаў Вязанка, – цяпер усё ў тэлефонную памяць запісваюць і мала хто свае нумары запамінае. – Зірнуў на Андрэя: – У вас іхні нумар ёсць?

– У мабільніку хіба... Мы ж суседзі...

– Глядзіце.

Нумар знайшоўся. І Маша прытуліла слухаўку да вуха. Ніхто не адгукаўся. Дзеці, відаць, і сапраўды спалі. Дазваніцца ўдалося хіба з пятага ці шостага разу. У напружанай цішыні ўсе пачулі прыглушаны заспаны і незадаволены голас старэйшага сына Машы і Мішы:

– Ну хто там, блін, тарабаніць?

– Яначка, – залепятала Маша, – сыночак, адключы на кухні, як бы, газ, а то я забыла. Мы з таткам, як бы, ужо на працы, – агледзела ўсіх, маўляў, правільна я кажу – Вязанка хітнуў галавой: правільна, – і яна працягвала: – не чакайце нас... Дык адключы, добра.

– Добра...

– І паешце там...

– Добра-добра... – буркліва, бы скрозь сон.

– Фу-у... Гара з плеч... – уздыхнула Маша і зірнула на Вязанку: што далей?

– Сядайце побач з мужам, – сказаў той. – Спадзяюся, мы вас надоўга не затрымаем.

Народ тут паслухмяны, рахманы. Яму доўга тлумачыць не варта. Прывык скарацца загадам: трэба, значыць, трэба... Не ўвесь, праўда, такі, на жаль. Ёсць адмарозкі, якія ўчора на плошчу выйшлі – пераварот задумалі ўчыніць. Вынікі выбараў, бач, ім не падабаюцца. Але колькі іх, дурняў... Пара тысячаў... А большасць – памяркоўныя, такія, як Маша ды Міша. Сказалі ціха сядзець і не высоўвацца з дзярма – будуць сядзець. Колькі трэба – столькі і будуць.

Маша і Міша – Андрэевы суседзі і, можна сказаць, сябры. Такое сяброўства звычайная рэч у горадзе сярод тых, у каго родныя далёка. Усё ж такі калектывам пражыць лягчэй, чым па адным. Гэтаму ўсіх навучыла жыццё. Яшчэ савецкае, якое плаўна перайшло ў незалежнае – без асаблівых зменаў не толькі ў асабістых зносінах, але і наогул. Андрэй пакідае ключы ад кватэры Машы ды Мішу, калі ад'язджае куды, а яны яму. Каб вазоны палілі, рыбак у акварыуме пакармілі (гэта ў Андрэя рыбак, а ў Машы і Мішы – папугая) ды і проста пaглядзелі. І на ўсялякі выпадак: колькі разоў ключы ў кватэры забываліся, і калі б не ляжалі ў суседзяў запасныя, дзверы выбіваць давялося б... Разам сустракаюць яны розныя святы. Часам выязджаюць за горад "на шашлыкі". Маша гандлюе на рынку, Міша працуе ў адным з часопісаў і называе сябе паэтам. Выдаў дзве кнігі вершаў, але ў саюз пісьменнікаў яго не прынялі. Абазвалі графаманам і прагаласавалі супраць. Яднае Машу ды Мішу прага да грошай, якіх у іх заўсёды няма і заўсёды мала. Размаўляць яны могуць толькі пра "бабкі" ды "шмоткі", што Андрэй з жонкай не любяць, але церпяць. А таму кантакты ў іх усё ж абмежаваныя. Можна сказаць, вымушаныя – якраз з-за таго, што трэба з некім з суседзяў сябраваць.

Пару дзён таму Андрэй з Мішам дамовіліся, што сёння з раніцы разам пад'едуць на рынак да знаёмых Машы, каб набыць падарунак да дня нараджэння Андрэевай дачкі. Вось Міша і тэлефанаваў, а потым прыйшоў... А Маша абсалютна дарэмна крычала на ўвесь пад'езд, што яны тут п'юць. Бо яна цудоўна ведае: Андрэй не п'е ўвогуле з-за хворага страўніка, а Міша з-за даўно пасаджаных пячонкі ды сэрца. Але крычыць гэта яна кожны раз, калі

спускаецца да кватэры Андрэя. Яна лічыць, што такім чынам набівае сабе і Андрэю з Мішам цану – аўтарытэт у суседзяў. Бо вырасла ў вёсцы. Бацька піў беспрабудна. І калі прыходзіў дамоў, маці вось гэтак жа крычала на ўсю вуліцу, маўляў, бачыце, якая я няшчасная, з якім апойкам жыву.

Андрэй ужо колькі разоў прасіў Машу, каб не рабіла так, але яна ўсё роўна называла іх з Мішам п’яніцамі і шайкай-лейкай. І была страшна задаволенай пры гэтым.

Маша ды Міша былі ў нечым падобныя знешне. Абое невысокія, хударлявыя, хоць Маша і фігурыстая, а ў ляшках – крутая. Міша ж худзенькі, як хлопчык, і ў свае за сорак. Ён кажа пра сябе: “малы сабачка да старасці шчанюк” і рагоча. А Маша тады аж заходзіцца ад злосці: дужа ёй чамусьці не падабаецца гэтае параўнанне. І яшчэ аднолькава яны любяць спяваць вечарамі. Прычым часам так гучна, што суседзі не вытрымліваюць і грукаюць па ацяпляльных батарэях. Маша і Міша шануюць усё беларускае, дзяцей сваіх назвалі старымі беларускімі імёнамі і адкрыта ненавідзяць галоўнага русіфікатара. Яны так прыцерліся адно да аднога, што і гавораць нават з падобнымі інтанацыямі. Улюбёнае выслоўе “як бы” яны ўжываюць дзе трэба і не трэба. Яно рэжа Андрэю слых, аднак ён выгляд не падае.

Міша ды Маша селі ў пакоі побач, як брат і сястра, як двайняты. Маша, відавочна, яшчэ не да канца ўцяміўшы, што тут адбываецца, але зразумеўшы, што лепш пакуль адмаўчацца, апусціла вочы і быццам пра нешта задумалася, а Міша адкінуў галаву да спінкі фатэля і прымружыўся, нібыта задрамаў.

*

У напружанай цішыні новы званок прагучаў рэзка, як крык. Андрэй страсянуўся, ажно ледзь не падскочыў. Ды і “госці”, што моўчкі сядзелі, таксама ўздрыгнулі, паднялі галовы. Першым апамятаўся Вязанка. Загадаў Андрэю:

– Адчыняй...

На парозе стаяў чалавек у адзенні мясцовага ЖЭСа. “Мабыць, нехта ад іхніх, ад “гасцей”, закамуфляваны... – падумаў Андрэй. – Ага, не, – згадаў ён, – не: сапраўды сантэхнік...” Ён і забыў, зусім забыўся, што жонка выклікала сантэхніка на сёння. Кран у ванным пакоі працякае. Крапае надакучліва, раздражняльна, і ноччу так гучна, гулка, што спаць не дае: бух, бух, бух, як у барабан. Ляжыш, слухаеш і чакаеш кожную новую кроплю. А там, у ЖЭСе, аказваецца, цяпер чарга і на візіт сантэхніка трэба запісвацца загадзя, як да ўрача. Ці то непрэстыжнай стала такая праца, ці то эканомяць на заробках ды скарацілі лішнія раты.

Запрашаць сантэхніка не давялося. Ён сам хуткай хадою, быццам і не спыняўся перад дзвярыма, адразу ж зайшоў у кватэру, нават не вітаючыся, паказваючы тым, што дужа заняты і часу на нейкія размовы не мае.

– Ну што тут у вас? – дзелавіта спытаў з уваходу, як стаматолаг. І замёр, убачыўшы, колькі людзей апроч гаспадара яго сустракае. Крутнуўся да выхаду, але было позна: Вязанка паспеў піхнуць плячом дзверы, і яны, гучна бразнуўшы, зачыніліся.

– Стаяць! – сантэхнік аж прысеў ад вокрыку і грукату дзвярэй, што ляснулі за спінай, бы стрэл. Яшчэ б не разгубіцца, не спалохацца... У ягонай галаве, пэўна, пранеслася ўсё жыццё ад нараджэння да сённяшняга дня. Ён, відаць, адразу зразумеў, што патрапіў на разборкі крымінальнай мафіі і жывым яму, як лішняму сведку, адсюль не выйсці.

– Адпусціце мяне, – пачаў сантэхнік прасіцца, яшчэ не агоўтаўшыся, не сцяміўшы, што тут адбываецца. – Я нікому нічога не скажу, я ні-чо-га не ба-чыў... А ў мяне яшчэ пяць заказаў да абеду і двое малых дзяцей дома. Хлопчык і дзяўчынка... – ён паказаў рукою двойчы трохі вышэй за калена рост-узрост дзяцей, – адпусціце, а... – агледзеў усіх і звярнуўся да Вязанкі: – У кватэры ў трэцім пад'ездзе кран сарвала – суседзяў залівае. Мне туды трэба... Я ж на працы.

– Усе мы на працы, – супакоіў яго Вязанка. – Нічога, іншага аварыйшчыка выклічуць. А ты – ідзі рамантуй, што трэба, калі прыйшоў. Ідзі і рамантуй.

Сантэхнік яшчэ раз, больш уважліва, агледзеў прысутных. Было бачна, што першачарговая разгубленасць прайшла і ён пачаў нешта кеміць. Відавочна, тут не крымінальныя разборкі. Тут рэчы пасур'ёзней... Палітыка сама меней. Але гэта не так страшна, як магло падацца адразу: забіваць выпадковага сведку – не будуць. І ён паслухмяна пайшоў у лазенку.

*

Час ішоў ужо да абеду, і пачаў адчувацца голад, які патроху перамагаў першасны страх ды здранцвенне. І не толькі ў Андрэя ды сям'і, але і ў суседзяў, і ў сантэхніка, які даўно адрамантаваў кран і сядзеў у адным пакоі з усімі.

Недзе там, на варыўні, пэўна, разрываліся ад напругі іхнія, адабраныя ва ўсіх і абезгалошаныя, тэлефоны. Бо кожнаму з іх трэба ж было быць на працы, у кожнага былі нейкія абавязкі, запланаваныя сустрэчы. Панядзелак як-ніяк. І, пэўна ж, калегі іхнія ці проста знаёмыя хваляваліся. Але пакуль ніхто больш не прыходзіў. А Кастусь, відаць, быў ужо далёка: за гэтыя пяцьшэсць гадзінаў, што прайшлі ад ягонага сыходу, ён мог нават мяжу пераехаць і быць у Польшчы, Украіне ці Расіі. А тым больш – у самай блізкай Летуве.

З-за ранішніх мітрэнгаў Андрэй зусім забыўся паснедаць, і цяпер пад лыжачкай зашчымела-засмактала – голад не мае панятку пра ветлівасць, прыходзіць не спытаўшыся... Як кадэбэ...

Галоднымі былі ўсе, уключаючы сантэхніка, у якога была “ссабойка”. Ён першы і не вытрываў. І аказаўся надзіва культурным.

– Прашу прабачэння, – сказаў, звярнуўшыся да ўсіх, – я ўсё ж цяпер на працы, і ў мяне якраз абедзенны перапынак пачынаецца. А я прывык жыць так: вайна вайной, а абед па раскладзе, – і дастаў свой бутэрброд.

Па пакоі расцёкся пах вэнджанай каўбаскі, які ў іншым выпадку ніхто, магчыма, і не пачуў бы. А тут – сліна пацякла ручайком, не прайшло і пары хвілінаў, як усе стаміліся яе глытаць...

– Ну, вы памыляецеся: не адзін вы цяпер на працы – яшчэ вунь тыя... – Міша, які ўжо акрыяў крыху і ўспомніў, што ён сёння нават і не паснедаў той жончынай яечняй, не вытрываў і загаварыў першы, – ды і мы, мабыць, выконваем нейкую ролю кшталту панятых, а таму таксама, як бы, на працы... Спадзяюся, нам і адпаведныя паперкі выпішуць, каб патлумачыць потым начальству, дзе мы сёння былі. Чаму прагулялі... – зыркнуў на “гасцей”, але яны ніяк не зрэагавалі на ягоны позірк. – Ну, аднак... Паесці і сапраўды не пашкодзіла б... – працягнуў ён і так выразна зірнуў на Андрэя, што той адразу рушыў на варыўню да лядоўні. Там былі нейкія запасы: каўбаса, малако, сыр. Знайшоўся і хлеб.

Гатаваць нешта, вядома, не выпадала. Трэба было, як і сантэхніку, пера-

кусваць бутэрбродамі. Аднак, калі Андрэй пацягнуўся да нажа, каб парэзаць каўбасу, Кепка падскочыў і перахапіў ягоную руку.

– Я нарэзаць... – сказаў Андрэй.

– Бачу. Я сам...

Ну, сам дык сам: рэж.

Кепка адкроіў скрыдлік найперш свайму напарніку, потым сабе – агаладалі таксама – а затым, смачна адкусіўшы, падаў нож Андрэю: цяпер ты, маўляў, можаш кроіць сваім. І навошта было выскокваць ды палохаць? Нож выхопліваць... Андрэй з дакорам паглядзеў на "гасцей", але яны стаялі, павярнуўшыся спінамі да яго, тварам да вакна, і засяроджана жавалі.

Падышла Андрэева жонка. Усё ж гэта была яе тэрыторыя, і гаспадыняю тут была яна. Разам яны нарабілі бутэрбродаў, запарылі гарбату. Раз-пораз жонка недаўменна паглядвала на Андрэя, нібыта пыталася: што будзем рабіць? За ўсю раніцу яны і перамовіцца не паспелі. Ноччу яна пасядзела трохі з Кастусём і Андрэем ля кампутара і пайшла спаць: ранкам жа на працу... Вядома, што тут адбываецца, яна разумела: адразу зразумела, калі ўварваліся "госці". Але – як быць далей? У адказ на яе запытальны позірк Андрэй паціснуў плячыма, маўляў, не ведаю. Проста пачакаем, што будзе, тое будзе... І яны панеслі бутэрброды ў пакой.

Перакусілі моўчкі. Аднак адразу стала відаць, што ўсе неспадзяваныя госці Андрэя, а гэта суседзі, сантэхнік, а таксама і тыя, што на варыўні, заўважна павесялелі.

– Ну што нам так сядзець, – ажывіўся водаправодчык, – мо ў даміно згуляем... Што? Няма... Тады ў карты. Ёсць у вас? Добра. Дык мо "тысячу" па-хуткаму распішам, а? – і дадаў: – Ці хоць у "дурня" перакінемся? Мы па абедзе з хлопцамі заўсёды так робім. Прывычка, знаеце...

Карты дык карты. А што так сядзець? Андрэй пераглянуўся з "гасцямі": можна? "Можна", – кіўнулі яны.

Жанчыны гуляць адмовіліся. Але "тысячу" можна распісаць і на трох. Сантэхнік адабраў з калоды шасцёркі, сямёркі ды васьмёркі, даў Мішу сцягнуць і раскінуў карты.

І тут узніклы спакой ды зладжанасць, цішыню і раўнавагу зноў парушыў званок. Настойлівы, нецярплівы. Андрэю давялося адкласці гульню ды ісці да дзвярэй, а астатнія толькі павярнулі галовы ў зацікаўленні: хто там яшчэ захацеў увязнення разам з намі? "Госці" падышлі да дзвярэй і стаіліся ў куце.

Прыйшлі дзве сяброўкі – аднакурсніцы Андрэевай дачкі. Вяртаючыся з заняткаў, вырашылі пацікавіцца, чаму Алесі не было "ў школе", як яны называлі свой універсітэт.

– Алеся дома? – адразу, не вітаючыся, занепакоена спыталі.

Андрэй кіўнуў.

– Фу, ну дзякуй Богу, а то мы падумалі, што і яе ўчора загрэблі... Там такое рабілася, такое... Можна нам пабачыцца?

Андрэй зноў хітнуў галавой, робячы ім пры гэтым нейкія знакі тварам...

Не зважаючы на ягоныя спробы падаць намёк: сыходзьце, пакуль не позна, дзяўчаты, узрадаваныя і вясёлыя, імкліва ўляцелі ў вітальню.

– А мы сперажываліся ўжо. З нашай групы дакладна чатырох узялі. Ноччу. На плошчы. Мы думалі, Алеся пятая, – казалі яны, перабіваючы адна адну. – Амапаўцы разагналі мітынг, а потым па ўсім горадзе хапалі ды збівалі лю... Ой, а што...

– Праходзьце, праходзьце, “героі”... – Кепка “зычліва” сустрэў новых прышлых, і яны, павярнуўшы галовы ў ягоны бок і не гледзячы куды ідуць, прайшлі ў пакой Андрэевай дачкі. Кепка скіраваў за імі і праз хвілю выйшаў адтуль з блазнаватавай усмешкай на вуснах і двума мабільнікамі ў руках. А з пакоя яшчэ колькі хвілінаў чуўся ўзбуджаны шэпт і ўздыхі.

– Ну дык што? Гуляем? – сантэхніку не цярпелася, нібыта ў яго неўзабаве абедзенны перапынак скончыцца, а не цэлая вечнасць наперадзе, – карты даўно астылі. Пераздаваць трэба.

Сапраўды, гульня зачахла не пачаўшыся. І гуляць нікому, апроч яго, не хацелася. Думкі ва ўсіх былі далёка адсюль.

Сантэхнік зразумеў, адклаў карты, але ўзбуджанасць і жаданне нешта рабіць, а не сядзець склаўшы рукі, яго не пакідалі, ён прайшоўся па пакоі і прапанаваў:

– А ці не паглядзець нам тэлевізар? Кінцо якое ці навіны? Там ужо, напэўна, і канчатковыя вынікі аб’явілі.

– Забаронена, – сказаў Андрэй, кіўнуў у бок варыўні. – Нельга... Канспірацыя... – і дадаў: – А то нібыта нехта не ведаў тыя вынікі яшчэ да пачатку. Месяц таму аб’явілі, што будзе восемдзясят адсоткаў. І як у ваду глядзелі...

– Хто б сумняваўся, – сантэхнік з відочным сумам паківаў галавой і прысеў на край канапы.

– А ты на што спадзяваўся? – раптам падхапіўся Міша. – Чаго хацеў? Можа, як тыя, што ўчора на плошчу выйшлі, перавароту, рэвалюцыі?

Сантэхнік здзіўлена зірнуў на Мішу, але не прамаўчаў, сказаў спакойна:

– Я таксама ўчора быў на плошчы – не ўтойваю таго. І ведаю, што з дзевяці кандыдатаў сямёх арыштавалі. А аднаго збілі да паўсмерці і невядома ці жывы ён, – сантэхнік з выклікам паглядзеў у бок “гасцей”, якія з заўважнай цікавасцю сачылі за гутаркай, – і пра тое, што ўсю ноч людзей хапалі, ведаю...

– Арыштавалі правакатараў – і правільна зрабілі. Нефіг рэвалюцыі ўстройваць. Плошчы ім захацелася... Стабільнасць нашую дэстабілізаваць?

Андрэй слухаў і вушам сваім не верыў: навошта гэта кажа Міша? Сантэхніка з сябе вывесці хоча ці з “гасцей” паздзекавацца?

– Якія там рэвалюцыі, якія плошчы... Ніхто ні пра што такое не думаў. А вось пераменаў чакалі. Хацелі. Таму і выйшлі. Бо дастала ўжо...

– А што табе не падабаецца? Што дастала?

– Ды шмат што.

– А канкрэтна?

– Доўгая размова... – Сантэхнік зноў зірнуў у бок “гасцей” і адвярнуўся ад Мішы.

“Госці”, якія стаялі ў праходзе і ўважліва слухалі, вярнуліся на варыўню. Андрэю падалося нават, што яны былі расчараваныя, што размова так хутка скончылася. І яшчэ ён заўважыў, што сімпатыі іхнія былі на баку сантэхніка. “Але Міша... – падумаў Андрэй, – навошта яму гульня гэтая? Я ж ведаю ягоныя думкі, і яны зусім не адрозніваюцца ад маіх і сантэхнікавых. Не, ну зразумела, ён проста пакеплівае, сум разганяе... А сантэхнік? Няўжо ён настолькі смелы, альбо адкрыты і шчыры? І нікольки не зважае на “гасцей”, гаворыць, што хоча. Зрэшты, што яму губляць... апроч сваіх ключоў ды гаек. Рабочы клас...”

Наконт Мішы Андрэй не сумняваўся, бо даўно ведаў яго. І ўчора на плошчы яны разам былі. Ніхто яго з суседам не прымушаў ісці туды. Са-

браліся, не дамаўляючыся, і пайшлі. Не сказаць, каб дзеля пратэсту ці дзеля нейкае цікавасці, а так... Можа, як большасць у той вечар. Хоць не: пратэст быў. Быў. Бо сапраўды абрыдла, што ўсіх трымаюць за ідыётаў, робяць, што хочуць, выбары ў чарговы раз ператварылі ў фарс... Колькі можна!

Яны прыйшлі на плошчу і парадаваліся, што так шмат народу сабралася, нягледзячы на пагрозы і запалохванні. А потым, калі людзей акружылі амапаўцы і вайскоўцы, ледзь вырваліся з таго кола – у апошні, можна сказаць, момант выйшлі, акурат перад тым, як пачалі біць і хапаць мітынгоўцаў. Міша яшчэ нагой зачапіўся за аднаго са спецназаўцаў, якія пачалі сціскаць свае шэрагі, і, Андрэю падалося, доўга-доўга, нервова, як з плота, выцягваў сваю заціснутую нагу.

Амапаўцы ўжо не зважалі на Андрэя з Мішам, іх погляды былі скіраваныя наперад, і дубінкі ўзнятыя да тых, хто заставаўся ў коле. І раптам яны пачалі біць дубінкамі па шчытах: бах, бах, бах!.. Стала жудасна. Недзе ля Дома ўраду прарэзліва закрычала жанчына: “Забіваюць!..”, ад Чырвонага касцёла пачуўся звон... А Андрэй з Мішам, угнуўшы галовы, ірванулі ўздоўж амапаўскага шэрагу да паштамта.

Дамоў вярталіся пешкам па паралельнай праспекту вуліцы, пакуль не перахапілі таксоўку. Кіроўца адразу зразумеў, адкуль яны.

– Што там? Зноў б’юць? – спытаў ён.

– Зачыстка...

– Калі гэта, блін, скончыцца... Дастаў за пятнаццаць гадоў. ШОС...

Слоўца гэтае, а дакладней абрэвіятура, стала перад чарговымі выбарамі асабліва папулярным. З лёгкай рукі аднаго блогера загуляла яно спачатку па інтэрнэце, а потым і ў размовах. Што гэта азначала, было зразумела без тлумачэнняў. І казаць яго маглі толькі “свае” і ў гутарцы са “сваімі”.

“Пароль” прагучаў. Кіроўца замоўк. Маўчалі і Андрэй з Мішам. Што тут было казаць. І без таго ўсё зразумела.

Да дома даехалі, не прамовіўшы больш ні слова.

Кастусь прыйшоў да Андрэя недзе праз гадзіну па ягоным вяртанні, і яны амаль да раніцы блукалі разам па інтэрнэце, вылоўліваючы з розных сайтаў ды “жывых часопісаў” інфармацыю наконт таго, што адбывалася на вуліцах горада. А рабілася тое, што і чакалася: улады ў чарговы раз скарысталі момант, каб яшчэ больш запалохаць і без таго напужаных людзей. Мала таго, што спецназаўцы, амапаўцы, міліцыянты збілі ды паарыштоўвалі мітынгоўцаў на плошчы, дык потым яшчэ наладзілі паляванне на тых, хто вяртаўся дамоў. Вылоўлівалі на прыпынках, у транспарце, проста на вуліцах на іхні погляд падазроных асобаў і кідалі ў аўтазакі. Прычым многіх жорстка збівалі, адной дзяўчыне зламалі нагу... Арыштавана больш за тысячу чалавек, у тым ліку і ўсе супернікі “ўноў-усенародна-абранага”. Абранага без абрання, абранага да абрання, бо пра ягоную перамогу паведамілі літаральна адразу пасля закрыцця выбарчых участкаў, маўляў, што тут гуляць у гульні, і так усё ясна... Прычым лавілі аж да раніцы ўсіх, хто быў у горадзе паблізу плошчы, нават выпадковых начных мінакоў. У інтэрнэце хадзіла старая показка: “Адбываецца мітынг. Стаіць міліцэйская машына. Бяруць усіх, хто праходзіць побач. Пытаюць: ты адкуль? – З мітынгу. – У машыну... А ты адкуль? – З мітынгу. – У машыну... А ты адкуль? – З дому вось толькі выйшаў. – Хуценька на мітынг і ў машыну...” З’явіліся першыя фотажабы пра “паляванне” на мітынгоўцаў. Кастуся ўсё гэта дужа раздражняла. Асабліва перажываў ён з-за таго, што так бяздарна і хутка скончыўся пратэст: нават горш чым пяць гадоў таму, калі

дзякуючы намётаваму мястэчку, удалося пратрымацца некалькі дзён. Улады падрыхтаваліся і прыдушылі магчымы мітынг на самым пачатку, не даўшы вогнішчу разгарэцца. Пэўна, навучаныя мінулым досведам, адсочвалі кожны крок, кожны рух яшчэ задоўга да пачатку выбараў.

– Вось і ўсё, – з горыччу ў голасе прамовіў Кастусь, – як там у песеньцы: Саня застанецца з намі. Яшчэ на пяць гадоў. Як мінімум...

Дадому Кастусю ісці нельга было. Гэта зразумела. Раз пачаліся зачысткі, дык яго, аднаго з лідэраў апазіцыі і арганізатара "плошчаў" – былой і гэтай – возьмуць першым. Таму ён і прыйшоў да Андрэя, як да даўняга сябра і асабліва не засвечанага ў палітычных гульнях.

*

Міша не супакоіўся і зноў пачаў дапытвацца ў сантэхніка:

– Ну дык што, што табе не падабаецца?

– Усё.

– Усё? Дык чаго ты сам сядзіш у гэтай краіне? Збірай манаткі і – чамадан, вакзал, Еўропа... Там такіх, як ты, лепей кормяць.

Гэта ўжо было занадта. Андрэй сцепануўся, каб асадзіць суседа, але пачуў дружны смех зварыўні: апошнія словы – перароблены лозунг апазіцыі, ім асабліва спадабаліся. А Міша тым часам сеў на каня, задаволены сабой і рэакцыяй варыўні.

– Гэта нам, інтэлігенцыі, няма там чаго лавіць. А сантэхнікі ўсюды трэба. Тут правы качаеш, а там дзярмо ў буржуяў будзеш качаць...

– Ах ты інтэлігент – га...но нацыі!.. Ты яшчэ выступаеш?! – сантэхнік падхапіўся і гатовы быў кінуцца да Мішы. – Ды якраз з-за такіх, як ты, мы і сядзім па вушы ў дзярме! І качаць нам яго не перакачаць...

Ад далейшае сваркі, магчыма з мардабоем, ўратаваў іх новы званок у дзверы. Мішу пашанцавала, бо калі сантэхнік падхапіўся, Андрэй толькі тады ў параўнанні з сябрам заўважыў і ацаніў, які гэта аграмадны мужчына: высокі, плячысты, з кулакамі па добрым куфлі...

Прыйшоў Андрэеў намеснік з працы. Там падумалі, што ён захварэў, а трэба было тэрмінова падпісаць важны дакумент – гэта Андрэй даведаўся пасля. Бо "госці" і з намеснікам не цырымоніліся. Відаць, убачылі ў "вочка", што перад дзвярыма стаіць і азіраецца нерашуча-апасліва адзінокі мужчына. Падумалі: вось яно – прыйшоў. Намеснік, які адвярнуўся на грукат уваходных дзвярэй, не паспеў апамятацца, як бязвольнаю лялькаю быў уцягнуты ў пакой, стаяў рукі па швах і лыпаў вачыма. Андрэй не пазнаваў яго. Звычайна энергічны, жвавы, гэтакі жыўчык, часам аж занадта, тут стаяў, бы паралізаваны. Варушыліся толькі яго рукі, якія мялі знятую шапку. Партфель ціхмяна ляжаў пад нагамі, бы спалоханы кот. Намесніку не было і трыццаці, але толькі цяпер Андрэй заўважыў, што ён практычна лысы: лямпачка, якая вісела над ім, адбівалася між рэдкіх валасоў, нібы ў люстэрку, і адно хіба – не скіроўвала на столь "зайчыкаў".

– Гэта да мяне, – кінуўся Андрэй да намесніка.

– Стаяць, бля! Самі бачым. Праходзьце, грамадзянін.

О, як пабагацела адразу лексіка "гасцей" пры з'яўленні ў кватэры чалавека пры гальштуку: замест "нах..." прагучала "бля..."

Вязанка шваркнуў рукамі ўздоўж тулава намесніка, дастаў з кішэні паліто мабільнік і паказаў вачыма пагардліва – праходзь.

Намеснік не супраціўляўся і нічога не перапытваў. Як заведзены, дакладней, як робат, пракрочыў у глыбіню пакоя і сеў на канапу. Толькі хвілінаў праз дзесяць ён агоўтаўся ад шоку і дрыжачым голасам распавёў Андрэю, чаму прыйшоў і што ў іхняй лабараторыі чакаюць яго вяртання з подпісам на важным дакуменце не пазней, чым праз гадзіну.

– Паслухайце, – звярнуўся Андрэй да “гасцей”. – Калі так пойдзе далей, дык да вечара кватэра будзе набітая людзьмі, як бочка селядцамі. Зараз прыйдуць шукаць яго, яго, яго, яе... – паказаў на намесніка, сантэхніка, Мішу, Машу. – А потым тых, хто прыйдзе іх шукаць... Дайце хоць пазваніць, каб родныя ды калегі не хваляваліся. Майго намесніка чакаюць на працы з подпісам. Калі ён не вернецца і не дазвоняцца да яго – прыбяжыць сюды сакратарка. А за ёй яшчэ нехта...

“Госці” пераззірнуліся. І сапраўды, тую магчымую плынь людзей варта было б прыпыніць.

– На, звані. Скажы, што ўсё добра, але на працу ты сёння не вернешся.

Намеснік набраў нумар, аднак як толькі ён сказаў гэта, са слухаўкі данёсся такі хай ды гвалт, што ён паморшчыўся і аднёс яе ад вуха, каб і іншыя пачулі той вэрхал. Вязанка перахапіў у яго тэлефон і адключыў.

– Абыдуцца без тлумачэнняў... Прынамсі, цяпер шукаць не пойдуць.

– Ага, падумаюць мы напіліся тут і чхалі на ўсё... Дайце хоць слова с...

– ...Я сказаў – абыдуцца. – Вязанка быў непахісным, бы замкавая вежа. Стаяў і глядзеў паўзверх усіх нязрушны, каменны, бяздушны, безэмацыйны – як помнік. Потым прамовіў: – Распраніся, паліто здымі, спяшацца цяпер няма куды. Ніхто цябе шукаць не будзе.

Сапраўды, Андрэевы падначаленыя супакоіліся і нікога ўслед за намеснікам не паслалі. Але праз хвілінаў дзесяць прыйшоў яшчэ адзін сантэхнік, напарнік першага, значна старэйшы за яго. Андрэй даведаўся потым, што яму пад семдзясят, хоць выглядаў ён маладзей – больш за шэсцьдзясят яму ніхто не даў бы. Можа, таму, што захаваў ён добрую, густую чупрыну на галаве, як у маладога, што было дзіўнавата для ягонага ўзросту. Старылі сантэхніка хіба тры глыбокія паралельныя маршчыны на лбе – бы роўна разлінееены школьны сшытак, хоць ты пішы на ім. Ён сеў побач з напарнікам, стомлена выцягнуўшы ногі ў не скінутых кірзавых ботах далёка наперад. Гэта быў сапраўдны сантэхнік, у адрозненне ад маладзейшага, бо ўнёс з сабой у кватэру новыя пахі, утварыўшы на метр вакол сябе стабільны “водар” перагару, і Андрэй міжволі згадаў савецкую показку – пытанне-адказ: як перабіць перагар сантэхніка? Папрасіце яго зняць боты... Сантэхнік гэты, зрэшты, як і першы, дзякуй Богу, боты не зняў: яны заўсёды пачуваюць сябе гаспадарамі і не цырымоняцца ў кватэрах, не разуваюцца. Ды і як тут разуешся, калі працуеш з вадой, лужыны якой збіраюцца на падлозе – чаму і выклікаюць.

## Вечар

Надыходзіла першая з самых доўгіх зімовых перадкалядных начэй. Цямнець на вуліцы пачало рана. Запаліліся цьмяна і шэра ліхтары, вакол якіх, бы жамяра ўлетку, закружыліся нябачныя раней дробненькія сняжынкі. Відаць, на ноч, як звычайна, зноў браўся марозчык. Нейкіх вестак з горада – што там адбываецца цяпер – не было. Заставалася ўсё ж надзея, што і

гэтым вечарам людзі, нягледзячы на запалохванні ды арышты, выйдуць на плошчу з пратэстам, як бывала ў ранейшыя гады.

Пад канец рабочага дня ў кватэру Андрэя завітала яшчэ некалькі чалавек. Самымі дзіўнымі і нечаканымі прышлымі сталі двое распаўсюднікаў Бібліі – даволі сталыя мужчына і жанчына, пэўна, з нейкае секты, яны па адным не ходзяць, цыганка і двое маладзёнаў – прадаўцоў посуду.

"Госці" строга выконвалі загад – усіх пускалі і ўсаджвалі ў пакоі. Хоць адразу было зразумела, што гэта выпадковыя людзі, ніякога Кастуся яны не ведаюць і нікому пра засаду не скажуць, бо і не здагадаюцца пры дзвярах, што яна тут ёсць. Цыганка, адкінуўшы доўгую квяцістую спадніцу, ні ў кога нічога не пытаючы села на канапу, пасунуўшы Машу. Хлопцы прадаўцы сціпла селі на падлогу. А распаўсюднікі Бібліі няўцямна, падслепавата-прымружана пазіраючы, сталі ля шафы пры сцяне і як зліліся з ёю – зрабіліся непрыкметнымі.

Андрэй і не заўважаў раней, колькі людзей за дзень можа пазваніць у дзверы іхняй кватэры ці прыйсці па нейкай патрэбнай ім справе. Пэўна таму, што ў гэты час іх саміх не было дома: яны з жонкай на працы, дачка ў "школе", а людзі прыходзілі, званілі, стаялі ля маўклівых дзвярэй і сыходзілі незаўважаныя нікім, быццам і не было іх зусім.

Уражанымі і не гатовымі да такога наплыву прышлых былі і "госці". Андрэй нават бачыў у іхніх вачах нейкую разгубленасць, калі з дзвярэй чуўся чарговы званок. Першых наведнікаў яны сустракалі з відочным энтузіязмам, натхненнем нават, кідаліся на іх, як крумкачы на здабычу. А потым аціхлі і толькі кіўком галавы паказвалі Андрэю: адчыняй, а навічкам – праходзьце.

Апошняй, зусім пад вечар, прыйшла бабулька-бамжыха, якую Андрэй жартам называў сяброўкай жонкі. Яна не бамжыха насамрэч, бо жыве на два паверхі вышэй і часта, ледзь не штодня, прыходзіць то пазычыць колькі рублёў, то аддаць. Але лад жыцця ў яе якраз як у бамжыхі. Яна цэлымі днямі, і зімой, і летам, сядзіць не дома, а каля недалёкай крамы.

Сын яе, таксама пенсіянер – з былых вайскоўцаў ці міліцыянтаў, яшчэ здаровы лоб гадоў пяцідзесяці – п'е ды здзекуецца з маці, таму яна дома не хоча быць. Ля крамы да яе ўсе прывыклі і нават міліцыянты ўжо не праганяюць, як іншых жабракоў. Так, жабракоў, бо наведнікі крамы за такую яе прымаюць і часам кідаюць трохі рублёў ля ног. Сама яна ніколі нічога не просіць, але ад грошай не адмаўляецца. Хоць нават поглядам не дзякуе тым, хто кладзе ёй рублі. Сядзіць увесь час моўчкі, уся ў сабе, адсутная тут, толькі вочы расплюшчаныя, але не міргаюць, быццам яна спіць так – з расплюшчанымі вачыма, ці сляпая. Выгляд у яе сапраўды бамжыхі, і пах адпаведны ды яшчэ старэчы. Ісці пасля яе ў пад'ездзе брыдка, бо смурод той стаіць, не разыходзіцца, ледзь не гадзіну.

Звычайна яна ў кватэру не заходзіць, топчацца на парозе. А тут падбег Кепка і загадаў ёй увайсці. Бабулька, нібы самнамбула, заплыла ў вітальню, а потым зарыентавалася і пайшла на варыўню, села на зэдлік, на якім перад тым сядзеў Кепка, і склала рукі перад сабой.

Менавіта так сядзіць яна штодзень на прыступках перад крамай. І можа прасядзець гэтак, не варухнуўшыся, некалькі гадзінаў. Але тут не ўдалося. "Госці" ўнюхалі пах поту ды іншай падпрэлай старэчай вадкасці і папрасілі яе перайсці ў пакой.

У гасцёўні і без таго было ўжо мласнавата, а новыя пахі зрабілі паветра

невыносным. Таму хвіліны праз тры маладзейшы сантэхнік рашуча падышоў да вакна, рассунуў шторы і адчыніў фортку. “Госці” гэтым разам не пярэчылі, а Андрэй міжволі задаволена ўсміхнуўся і перастаў турбавацца за Кастуся, калі ён раптам не з’ехаў. Добра ўсё ж, што ён паспеў сказаць яму пра знак. Цяпер, як асцярожны чалавек, Кастусь безумоўна заўважыць рассунутыя шторы, адчыненую фортку і сюды не пойдзе.

Словам, пад вечар кватэра нагадвала вулей. Сабралася ў ёй... раз, два, тры... ого! – больш за пятнаццаць чалавек разам з “гасцямі”. Старэйшыя сядзелі ў гасцёўні, малодшыя ў пакоі Андрэевай дачкі, а “госці” – на варыўні. Гэта быў найзручнейшы назіральны пункт. Увесь пакой і ўсе людзі перад імі былі як на далоні. Ну, апроч дзяўчат у іхнім пакоі. У спальні пакуль дазволілі знаходзіцца толькі адной Андрэевай жонцы. А ўсім астатнім і яму загадалі сядзець у гасцёўні, каб быць на вачах. Тут, у гасцёўні, стала, можна сказаць, яблыку недзе ўпасці ад людзей, якія сядзелі на канапе, на ўсіх крэслах ды фатэлях, што меліся ў кватэры, і на падлозе на знятай і падасланай сваёй вопратцы. Нягледзячы на расчыненую фортку, з часам у пакоі стала душнавата – надыхалі... Ва ўсіх прысутных на твары было напісана: навошта нас тут трымаюць і колькі гэта будзе працягвацца? Некаторыя пацiху перагаворваліся. Сантэхнік больш не прапаноўваў згуляць у карты, хоць кампанія падабралася б яму адпаведная. Тэлевізар уключаць “госці” катэгарычна забаранілі: “Тут вам не кавярня і не кіназала...”, хоць настойлівыя памкненні ды просьбы зрабіць гэта паўтараліся ад кожнага з новапрыбылых, бо ўсё ж тэлевізар вісеў перад вачыма. Таму пакой стаў падобны на позневечаровую залу-пачакальню на вакзале. З той розніцай, што невядома, калі прыйдзе патрэбны цягнік.

“Гасцям” было найпрасцей, бо іхняя змена заявілася роўна ў восем вечара – хвіліна ў хвіліну. Прывёў яе той самы ранішні начальнік, якога Андрэй назваў Пузялём. Відаць, менавіта ён і кіраваў аперацыяй па “паімцы асабліва небяспечнага дзяржаўнага злачынцы”. Пузель прывітаўся з Андрэем кіўком галавы, як са старым знаёмым, і са здзіўленнем агледзеў пакой з нязванымі гасцямі, а цяпер “часова затрыманымі”. Пэўна, не чакаў, што столькі народу збярэцца. Прысвіснуў:

– Ого, блін, нах...! – і больш нічога не сказаў.

Зменныя, ніяк не названыя, нават Пятровым і Сідаравым, былі, зразумела, у цывільным і, калі распрануліся, амаль нічым не адрозніваліся ад большасці з тых, хто быў у кватэры. Ні ўзростам, ні вопраткай, ні нават постацямі: гэтыя, па ўсім, спортзалу не наведвалі, альбо былі навічкамі і яшчэ не паспелі накачацца ды ад’есціся. Зрэшты, амаль нічым не адрозніваліся... Бо была відаць у іхніх рухах, у постацях, у тварах – ва ўсім – нейкая засяроджанасць і строгасць, нейкая скаванасць і насцярожанасць. Быццам яны ўвесь час чакалі ад прысутных нейкае падставы, падвоху і ўнутрана былі гатовыя да гэтага. Усё ж былі яны наглядчыкамі над іншымі і ролю сваю разумелі. Аднаго Андрэй назваў для сябе Стрыжаным – валасы ў яго былі зусім кароткімі – пару міліметраў, але галава не выгаленая да люстэркавай роўнядзі, як модна цяпер, а другога – Худым. Проста каб не блытаць. Яны адразу занялі свой пост на варыўні. З іхняй лёгкай перамоўкі Андрэй улавіў, што Кастуся яшчэ не арыштавалі і ніхто не ведае, дзе ён можа быць. Але гэта і без таго было зразумела, бо інакш засаду з кватэры яны знялі б.

Зноў усталявалася цішыня, якая бывае сярод выпадкова сабраных чужых

людзей, пакуль між іх не знойдзецца нейкі нефармальны лідэр і не стане ініцыятарам размоваў. Лідэра не знаходзілася. Не хацелася ім быць і Андрэю, няхай і як гаспадару. Не ў ягоным характары гэта, ды і не наймаўся ён быць “масавіком-зацейнікам”, каб весяліць няпрошаных гасцей.

Словам, усе пакуль толькі пераглядваліся ды вывучалі адно аднаго, час ад часу зыркаючы ў бок варывенькі, дзе гэтаксама ціхмяна сядзелі “госці”. Стрыжаны паклаў рукі на стол і пальцамі бязгучна перабіраў імі, бы іграў на піяніна. Худы пазіраў у вакно на суседні дом, дзе гарэла ўсяго некалькі вокнаў ды рэклама на крамах і кавярнях.

Раптам са спальні выйшаў яшчэ адзін насельнік кватэры – кот Базыль. Дагэтуль яго не было відаць і чуваць. А тут стаў у дзвярах, агледзеў пакой, поўны незнаёмых людзей, пачуў чужыя пахі, падняў хвост і пачаў гучна мяўкаць. Што ён тым хацеў паказаць, невядома. Ну, мусіць, гэтак выказваў сваю незадаволенасць, некамфортнасць ад таго, што сабралася столькі людзей і загарадзіла яму праход да варыўні, дзе пад сталом звычайна ў гэты час чакала яго місачка з ежай... Усе адразу звярнулі на Базыля ўвагу, але толькі павярнулі вочы і сядзелі моўчкі. Першым не вытрымаў Худы. Нервова матлянуў галавой і махнуў рукой:

– Ды супакойце яго, нах...! Забярыце, схавайце куды... Хай не каўкае тут, нах...

– Можна, я занясу ў пакой да дачкі? І дзецям весялей будзе, – сказаў Андрэй.

“Давай”, – кіўнуў галавой Худы і нецярпліва замахаў рукамі: “Нясі-нясі адсюль!” Пэўна, і яго нервавала, выводзіла з сябе гэтае незразумелае сядзенне ў чужой кватэры, замест таго, каб быць цяпер дома.

Дачка Андрэя і яе сяброўкі “сядзелі ў інтэрнэце”. Во навіна дык навіна! Чаму “госці”, адабраўшы ва ўсіх мабільнікі, не забралі ў Алесі ноўтбук – не зразумела. Мо таму, што не стаяў ён на стале, а ляжаў на момант уварвання “гасцей” у заплечніку, з якім яна ходзіць на заняткі. А кампутар – гэта не толькі самая свежая інфармацыя, але яшчэ і электронная пошта ды скайп. Карацей, усе аднакурснікі Андрэевай дачкі і сяброваk, што да яе прыйшлі, ужо ведалі, што яны знаходзяцца пад “хатнім” арыштам і што ў кватэры Алесі ў засадзе сядзяць “госці”.

– Вы хоць бацькам сваім паведамілі, дзе самі цяпер? Яны ж з глуздоў з’едуць шукаючы вас па бальніцах ды спецразмеркавальніках...

– Паведамілі, паведамілі. Адразу ж. Сказалі, пераначуем сёння ў сяброўкі.

– Не сказалі чаму?

– Не. Падумалі, не варта іх лішне хваляваць.

– Ну, можа, і праўда: хваляваць не трэба... Але малайцы, здагадаліся паведаміць. Ну а што там новага ў свеце?

Андрэй спытаў, а сам адышоў да дзвярэй, каб, калі што, перахапіць “гасцей”, як тыя, зачакаўшыся, прыйдуць шукаць яго. Важна “не спаліць” кампутар.

Дзяўчаты паведамілі апошнія навіны: затрымана больш за тысячу чалавек, сярод якіх ёсць і моцна пакалечаныя – зламаныя рукі, ногі, страсенне мозгу... Арышты працягваюцца яшчэ і цяпер: вылічваюць па нумарах мабільнікаў тых, хто быў на плошчы ўвечары, прыязджаюць дамоў і забіраюць. Мабільныя аператары здалі ўсю інфармацыю пра званкі кліентаў з плошчы падчас мітынгу. Па тэлевізары паказваюць няшчасных “параненых” адма-

розкамі-мітынгоўцамі спецназаўцаў, якія ляжаць у шпіталях. Найбольшая і найчастая "траўма" ў іх – ха-ха! – выбітыя пальцы рук. Здорава папрацавалі хлопцы. Адвялі душу... Былых кандыдатаў у прэзідэнты абвінавачваюць у спробе захапіць будынак ураду і ў арганізацыі дзяржаўнага перавароту. За гэта чакае іх, пішуць, расстрэл ці пажыццёвае зняволенне. Што са збітым яшчэ да плошчы адным з кандыдатаў у прэзідэнты, выбітным паэтам – невядома. Ходзяць чуткі, што ён памёр і цела яго трымаюць у турме-амерыканцы ў цэнтры Менска...

– Што вы кажаце! Не можа таго быць.

Дзяўчаты самі спалохаліся сказанага, нібыта раптам усвядоміўшы, што гэта азначае.

– Так пішуць... – толькі і прамовілі.

Агаломшаны, Андрэй стаяў у дзвярах і не мог скрануцца з месца. Калі гэта праўда, што адзін з кандыдатаў забіты амапаўцамі... Што не проста пралілася кроў – то не дзіва, кроў пралівалася не раз і дагэтуль, – але тут жа... смерць... Ды яшчэ смерць аднаго з лідэраў, аднаго з кандыдатаў... Гэта перабор. Улады тым самым перайшлі Рубікон... Доўга захоўваць таямніцу яны не здолеюць. А пахаванне можа ператварыцца ў сапраўдную рэвалюцыю... Сотні тысячаў выйдуць на развітанне.

І, забыўшыся пра перасцярогу, Андрэй кінуўся да кампутара.

Чуткі былі пакуль толькі чуткамі. Дакладна было вядома, што кандыдата моцна збілі пры арышце. Здымкі яго, беспрытомнага, з акрываўленай галавой, жахлівай гематомай пад вокам, журналісты паспелі выставіць. Кандыдата даставілі ў бальніцу, каб аказаць першую дапамогу, але адтуль яго забралі спецназаўцы – загарнулі голага ў коўдру і адвезлі ў турму.

Гэта Андрэй ведаў яшчэ з начнога сядзення з Кастусём. Але што і як з ім далей, ці жывы – ніякіх звестак за ўвесь дзень. Толькі здагадкі. Аж да самай страшнай.

І ўсё ж грэх было Андрэю не скарыстаць шанец і не паспрабаваць паведаміць агульным з Кастусём знаёмым пра тое, што яго тут чакаюць... Аднак ва ўсіх скайп быў адключаны. Пэўна, і там ёсць засады, падумаў Андрэй, але на тых кватэрах, відаць, "госці" да кампутараў нікога не падпускаюць. А значыць, яны адключаныя і электронная пошта таксама не дапаможа. Можна толькі лішне засвяціцца. Крыху расчараваны гэтым, Андрэй вярнуўся ў гасцёўню.

*

Больш ніхто ў гэты дзень, а дакладней ужо вечар, не прыйшоў.

Чалавек прывыкае да ўсяго, супакоіліся неяк і сабраныя "гасцямі" ў кватэры людзі. Павячэралі гарбатай ды кавай, сырам ды каўбасой. Новыя "госці" ў размовы не ўмешваліся і харчавацца не перашкаджалі. Андрэй адразу заўважыў, што яны самі прыйшлі нечым узбуджаныя і заклапочаныя. А потым, калі мыў посуд, міжволі пачуў іхнюю ціхую гутарку на павышаным шэпце. Цурчэла вада, і ім падалося, пэўна, што Андрэю нічога не чуваць. Ды і гарэла ім, відаць, карцела пагаварыць. Злавалі яны на сваё начальства, якое няправільна падзяліла прэміі. За ўдзел у разгоне нейкага мітынгу, як Андрэй зразумеў, не ўчарашняга, а ранейшага, перад выбарамі. Асабліва абураўся Худы, што далі, як ён казаў, "поощрение" нейкаму Салавейчыку, які "ні разу дубінкай не ўзмахнуў", а наадварот, "дапамагаў дзяўчатам уцякаць, а адну дык увогуле пад руку вывеў з аўтобуса", куды яе закінуў Худы. "Я

гэта цярпець не буду, – шыпеў ён, – заўтра ж напішу рапарт...” Стрыжаны спрабаваў яго супакоіць: “Не спяшайся, самі разбяруцца”. “Ага, разбяруцца. Хіба першы раз такое... Напішу. Гэта ж не-спра-вяд-лі-ва! Мы аддуваемся, працуем, а ён у міласэрнасць гуляе. Добранькі, блін...”

“Во які змагар за справядлівасць, – міжволі падумалася Андрэю. – І не задумваецца нават, у чым тую несправядлівасць бачыць! Працуе ён. Не дай Бог такой працы ні сабе, ні каму з родных... І адкуль яны бяруцца, такія служакі? Здаецца, звычайныя хлопцы. Але ж... Не менш дзіўна і іншае: знаходзяцца яшчэ сярод гэткіх “служакаў” такія, як той Салавейчык. Што яны там робяць? Да таго ж і прэміі атрымліваюць “незаслужаныя”... Няўжо не разумеюць, што яны нічым не лепшыя, хоць і спрабуюць камусьці дапамагчы? Зрэшты, можа й добра, што ёсць і такія, хоць нейкая карысць ад іх: дзяўчыну вось адпусціў”.

Пасля вячэры Андрэй заўважыў, што лядоўня амаль пустая: пракарміць больш за пятнаццаць чалавек – справа няпростая. Не разлічвалі яны з жонкай сёння на стольккіх нязваных гасцей. Ежы, апроч некалькіх яек ды хвосціка каўбасы, на раніцу не засталося. А хлеб скончыўся ўвесь яшчэ падчас вячэры – нат усім не хапіла. І як гаспадар Андрэй мусіў перапыніць невясёлую размову “гасцей”:

– Прабачце... Што там кажа вашае начальства: ці доўга мы яшчэ будзем сядзець пад арыштам?

– Колькі трэба, столькі і будзеце. Гэта не вашага розуму справа...

“Якія яны аднолькавыя ў сваёй грубасці і непавазе, – міжволі падумалася Андрэю. – Начальнікі, блін. Як усё ж псуе чалавека любая ўлада над іншымі: дай свінні рогі...” Але сказаў як мага спакайней:

– Ды мы, бачыце, людзі смірныя: пасядзім колькі трэба будзе. Толькі ж – нам тут таксама нешта есці трэба... Ды і вам. А прадукты заканчваюцца. Лядоўня, паглядзіце, пустая. Дык ці будуць нас карміць чым? І калі?

“Госці” перазірнуліся. Відаць, і для іх гэта было неспадзяванкаю. Ніхто загадзя пра тое не падумаў. Але сапраўды – жыць то неяк трэба. А значыць, і харчавацца.

– А можа, вы мяне ў краму пусціце? Закупіцца... Яшчэ ж не позна. “Суседзі” ў нас да адзінаццаці працуюць. Тут блізка – амаль насупраць.

“Госці” зноў перазірнуліся, аднак выгляду, што разгубіліся, не падалі:

– Прадукты будуць. Вашая справа сядзець і не пікаць, – сказаў Худы, а сам узяўся за тэлефон.

І зноў Андрэю падумалася: “Ну і лексіка ў іх... Як хутка такія вось халуі парабіліся начальнікамі. Хто ты такі, недавумак, у параўнанні са мной, з іншымі тут? Але, бач, надзелены ўладай і ўжо голас павышае: “сядзець і не пікаць”, кажа. Хоць бы крышку павагі да старэйшага, незнаёмага табе чалавека, які ні перад табой, ні перад тваім кіраўніцтвам ні ў чым не вінаваты. Такі ж грамадзянін, як усе, як ты сам... Нам жа і далей жыць у адной краіне. Свет цесны. Заўтра ты ці твая жонка да мяне ці да такога, як я, пойдзеце ў паліклініку зуб лячыць, у краму хлеб набыць ці ў садок дзіцё сваё прывядзеце... Як ты людзям у вочы глядзець будзеш?”

Але прамаўчаў: што тут казаць – мёртвыя душы сораму не маюць... А найчасцей яшчэ і ганарацца, гэтак “высока” ў іхнім вымярэнні ўзляцеўшы. Праца ў іх, бачыш, такая...

*

І сапраўды, усе сядзелі па сваіх кутах і “не пікалі”. Панавала ўсеагульная панурасць і стома. Толькі зрэдку ўзнікалі кароткія размоўкі-перамоўкі. Ды час ад часу гучаў роспачны шэпт-хваляванне Машы да Мішы: “Як там нашыя дзеці адны? Што пра нас думаюць? Дзе мы прапалі? Ноч жа на дварэ... Ноч!..”

Цішыня. Толькі рэдкае парыпванне крэслаў ды падлогі, нясмелае пакашліванне ды пашморгванне носам. Зрэшты, а пра што маглі размаўляць абсалютна незнаёмыя людзі, якія ўпершыню сабраліся разам, ды яшчэ пад такім суворым наглядам? А тое актуальнае, што іх збліжала, пра што ім, можа, і карцела пагутарыць, пра што, мажліва, гаварылі б яны цяпер дома на кухнях, было тут якраз небяспечным... А таму часовыя, але няпэўнатэрміновыя “вязні” Андрэевай кватэры адно – час ад часу зыркалі ў бок “гасцей” ды цяжка ўздыхалі.

Андрэй таксама сядзеў моўчкі, хоць яму і хацелася расказаць пра апошнія навіны, пачутыя ад дзяўчатак. Але як тут скажаш на вачах і пры вушах “гасцей”? Пачуюць і адразу здагадаюцца, дзе ён здабыў інфармацыю.

Маўчалі на варыўні і “госці”. Усім, пэўна ж, і ім таксама, быў зразумелы абсурд гэтай сітуацыі. Жывем жа не ў дзясятым стагоддзі і нават не ў дваццатым...

Так, усе заткнуліся, схаваліся ў сябе, у свае дробныя клопаты і думкі. Дзяржава зрабіла з іх маўчуноў. Абы ціха і нікога не чапалі... Было ўжо такое пры Сталіне. Не адсядзеліся, не адмаўчаліся. Літаральна кожную сям’ю зачапіла гулагаўскай кухвайкай. Калі не родных і блізкіх, дык суседзяў, аднавяскоўцаў, калегаў, сяброў, проста добрых знаёмых вырвалі з жыцця, каб праз дваццаць, трыццаць гадоў даслаць паперку пра невінаватасць і рэабілітацыю “ворага народа”. І ніхто не ведае нават, дзе магілкі іхнія, у якіх такіх Курапатах пад Менскам, Гомелем, Котласам, Магаданам яны пахаваныя... Але гісторыя ніколі нічому не вучыла. Ды і як яна магла навучыць, калі і яе замоўчвалі. Камуністы дагэтуль не пакаяліся за злачынствы супраць свайго ж народу. Ні ў кога прабачэння не папрасілі за памылку, за беспадстаўны арышт і смерць. А іх вучні-паслядоўнікі працягваюць карыстацца тым жа запалохваннем. Самае лёгкае вылучыць лідэраў, Кастусёў такіх вось самых актыўных, арыштаваць іх і паказальна пакараць, збіць, аштрафаваць, пратрымаць у турме, урэшце, проста звольніць з працы і не прымаць нікуды, нават у дворнікі. Каб іншыя, ведаючы гэта, сядзелі ціха і носа не высоўвалі са сваіх дамовак-норак.

Так было і цяпер, тут, у Андрэевай кватэры. Іх пазбавілі волі на няпэўны час, і ніхто, ніхто! – не паспрабаваў супрацівіцца гэтаму. Усе прынялі арышт як належнае. Тупа сядзелі і чакалі, пакуль нехта зверху не дасць каманду закончыць “аперацыю”, зняць засаду на гіперважнага “дзяржаўнага злачынцу”. “Ну няхай, я дома, – думаў Андрэй. – Мне няма чаго таргавацца. А ў іх жа ва ўсіх сем’і, жонкі, дзеці, бацькі. Праблемы нейкія, справы, абавязкі. Планы, урэшце... І чакаюць іх, шукаюць, пэўна, па знаёмых, а то і па бальніцах. Вочы праплакалі. Тэлефоны абарвалі. А яны сядзяць пакорліва, нават не абураюцца. Церпяць... Талерантныя беларусы, блін. Што тут яшчэ сказаць...”

## Ноч

Час хоць і цягнуўся ў маўчанні, але наперад рухаўся. Набліжалася поўнач. І трэба было класціся спаць. А як і дзе? Андрэева кватэра была не толькі

па ежы зусім не разлічаная і не прыстасаваная на тое, каб прыняць адразу больш за пятнаццаць чалавек. Зразумела, ложкаў ды канапаў не хопіць на ўсіх. Няма столькі “койка-месцаў”. Не інтэрнат жа, і не гатэль. Сантэхнікі, распаўсюднікі Біблії ды бабулька як людзі простыя і звыклыя сказалі: нам нічога не сцяліце, мы і на падлозе пераначуем, руку пад галаву падклаўшы. Іншым жа, відаць, давядзецца спаць па чарзе.

Як гаспадарам і найбольш стомленым Андрэю з жонкай дазволілі легчы ў спальні, але пры адчыненых дзвярах. Дзяўчатам – у сваім пакоі. Астатнія размясціліся на канапе, крэслах і на падлозе ў гасцёўні. “Госці” сядзелі на зэдліках уварыўні пры ўключаным толькі там святле.

Андрэй паглядзеў на жонку побач: яна ляжала з расплюшчанымі вачыма. Заўважыла ягоны позірк:

– Як там Алеся? – ціхенькім шэптам спытала пра дачку.

– Не хвалюйся. Усё добра. Яна ж не адна.

– А дзяўчаты як?

– Не перажывай за іх. Ім не сумна там. Размаўляюць. Урокі вучаць.

– Ну а мы? Што рабіць будзем?

– А што тут зробіш... Чакаць.

– І доўга?

– Хто яго ведае. Ад нас нічога не залежыць.

– Перад людзьмі няёмка – нібыта мы ў гэтым вінаватыя... Навошта ты іх пусціў?

– Каго?

– Ды... чужых гэтых.

– А што, што я мог зрабіць? Яны ўварваліся ў кватэру – я і апамятацца не паспеў...

Жонка маўчала.

Маўчаў і Андрэй. У яго самога было такое ж пачуццё віны – перад суседзямі, намеснікам, сантэхнікамі і ўсімі іншымі раней незнаёмымі яму людзьмі, трыманымі ў кватэры. Але ён не даваў яму разгарнуцца, прымушаў сябе думаць, што, прынамсі, большасць сабраных тут разумеюць недарэчнасць і абсурднасць сітуацыі.

– Нічога, – супакаяльна сказаў ён, – людзі ж не дурныя. Бачаць, што адбываецца... Пастарайся заснуць. Дзень у нас сёння быў занадта доўгі.

Жонка паклала галаву Андрэю на плячо і, падобна, задрамала. І яму можна было падрамаць крыху.

Ды хіба ж заснеш пасля такога нервовага дня і ў бачнай прысутнасці столькіх людзей, якія то ўздыхаюць, то пакашліваюць ціхенька, то проста варочаюцца і рыпяць хто крэслам, хто палавіцамі, і таксама не спяць. Адвярнуўшыся ад плямы святла ў дзвярах, Андрэй паглядаў у цёмнае вакно, за якім, ведаў, павінна быць голле высокай яліны, але яе не было відаць. Была толькі цемра. Беспрасветнасць. Ноч забрала ўсе колеры, пакінуўшы адзін. Свой, чорны. І трэба было сябе прымушаць, каб уявіць, што ўсё ж недзе там, за вакном, нешта ёсць, што жыццё працягваецца. А не спынілася, як тут, у ягонай кватэры.

Зрэшты, у Андрэя з’явіўся час, каб спакойна абдумаць, што ж здарылася сёння...

А сапраўды: што ўласна адбылося? У ягоную кватэру ўварваліся нейкія людзі ў цывільным, якія, дарэчы, дагэтуль не паказалі ніякіх дакументаў.

І мала таго, што арыштавалі яго, сям'ю, дык яшчэ і напускалі поўную хату нейкіх невядомых, незнаёмых між сабой, чужых людзей, і трымаюць тут... І ўсе, не толькі ён, падпарадкаваліся ім. Сядзяць цяпер вось паслухмяна, ціхмяна, пакорліва – рахмана, моўчкі, як рыбкі ў слоіку. Няўжо ні ў кога не варухнулася нават думка: чаму мы тут сядзім? Хто яны такія, гэтыя ў цывільным? Адкуль у іх улада над намі? Хто ім даў яе? Які такі Бог, цар альбо герой? Чаму б не ўстаць і не выйсці з кватэры? Што будзе? Гэтыя ў цывільным кінуцца і не дазволяць? А калі пайсці не па адным, а ўсім? Разам. Аднаго перахопяць, двух, але астатнія выйдуць... Не будуць жа яны кідаць на падлогу і збіваць нявінных людзей. Тым больш страляць... Дык чаму ўсе ім падпарадкоўваюцца? Што такое жыве ў народзе? Адкуль гэткая пакора? Колькі разоў Андрэй бачыў кадры, як падчас апошняй вайны дзесяць узброеных вінтоўкамі людзей вядуць сотню, а то і тысячу на расстрэл. Да загадзя выкапанай ямы, за якой кулямёты. Пры тым няважна, хто ў калоне – рускія, беларусы, немцы, яўрэі, палякі... Як няважна і хто іх ахоўвае... Ну кіньцеся, разбяжыцеся. Хай пры гэтым заб'юць дзесяць з вас, хай пяцьдзясят – астатнія ж уратуюцца. Ну няхай нават уратуецца дзесяць з тысячы ці толькі адзін... Калі нават усяго адзін – то і дзеля гэтага варта паспрабаваць уцячы, разбегчыся. Дык не – усе ідуць на расстрэл, на забой. Маўкліва. Паслухмяна. Чаму? Што ёсць такое ў прыродзе чалавека, зноў жа, няважна, незалежна якой нацыянальнасці, якой расы ён? Хто гэта заклаў у ім? Бог? Ці ўладары, якім забіць чалавека, што аловак ці запалку зламаць? Ці папярэднія гады жыцця ў жаху, страху, паняволенні, а калі мякчэй – дык проста ў дысцыпліне? Як пазбавіцца гэтага жаху, што пасяліўся і жыве ўжо не ў адным пакаленні? Як зажыць вольна і шчасліва без страху, што паралізуе ўсе іншыя пачуцці? Ці магчыма ўвогуле гэта? Як стаць вольным ад забабонаў і навязаных спалохаў? Ці ёсць ад гэтага адзін, агульны рэцэпт?..

Ну вось возьмем нашую кватэру. Што ўсіх трымае ў ёй? І што было б усім і кожнаму паасобку, калі б яны сёння не скарыліся гэтым "гасцям"? Калі б зараз сабраліся і пайшлі да выхаду... Што б яны рабілі? Сапраўды: кінуліся б наперарэз, бы ваўкі, і не падпускалі да дзвярэй? Так, пэўна, кінуліся б. І што – толькі гэта трымае ўсіх, ці нешта яшчэ? Што яшчэ? Страх? Так, страх... Толькі страх. Страх за свой кволенькі спакой. Страх, які пранізаў усё грамадства. За гэтыя пятнаццаць гадоў створаная такая сістэма, што кожнаму, нават бамжам, ёсць што губляць. Каму працу, каму волю. Бо дзяржава жорстка распраўляецца з любым іншадумствам, з любым супрацівам. Паказальна жорстка. А таму кожны чапляецца за сваё дробненькае "шчасце", баючыся страціць яго. Вось да чаго яны дажыліся ў цэнтры Еўропы... Яны? Толькі яны? Ці цяпер усе такія і ў заможнай Еўропе?..

Каму цікава назіраць, як людзі ператвараюцца ў быдла? Хіба толькі таму, хто гэта робіць. Няважна дзе: на Кубе, у Бірме, Кампучыі, Паўночнай Карэі ці тут. Але чаму ён не думае пра будучыню? Не сваю, а свайго народа? Ды таму не думае, што ў яго па-за ім самім будучыні няма... Увесь гэты свет ёсць, пакуль ёсць ён сам. І ягоная задача ўтрымацца пры ўладзе максімальна – пажадана да смерці. Каб памерці ад старасці. А не ад кулі ці атруты. І ўсё робіцца дзеля гэтага. Знішчаюцца ворагі і сябры, прыніжаецца, ператвараецца ў статак народ. Паступова такі ўладар абрастае "паплечнікамі", якія жывуць пры ім, маюць ад гэтага выгоды і робяць усё, каб захаваць ягоную, а значыць і сваю ўладу. У валтузні між сабой дзеля таго, каб заняць мейсца бліжэй да трону,

яны знішчаюць адзін аднаго, а ён назірае за гэтым і падтрымлівае мацнейшых: самых-самых адданых. Лаяльных, блін... Тых, што гатовыя маці родную, жонку, дзяцей адправіць у турму, знішчыць, каб самому застацца наверсе. Стварыць такую сістэму, калі ты адзін кіруеш усім і ўсімі, няцяжка. І ўтрымаць таксама. Дзеля гэтага трэба мець толькі жаданне. І не мець усяго таго, што робіць чалавека чалавекам, а не жывёлай. Сумленне найперш... Зноў і зноў – сумленне. Так было тут пры Сталіне. І з таго часу нічога новага не прыдумана.

З іншага боку – з такімі паслухмянымі, талерантнымі людзьмі, як тут – горы можна звярнуць. Мець гэтакі народ – шчасце для любога кіраўніка. Вось бы толькі скіраваць гэтую дысцыплінавасць, падпарадкаванасць і боязь начальства ў правільнае рэчышча... Не на мэту захавання сваёй улады шляхам яшчэ большага запалохвання, а на супольную працу. Як зрабілі гэта ў некаторых, цяпер самых перадавых, усходнеазіяцкіх дзяржавах Карэі, Японіі. Ды і ў Кітаі...

Думкі праносіліся ў галаве Андрэя, і ён не ведаў, гэта была ява ці сон. Гэта быў нейкі прамежкавы стан між спакоем і ўзбуджэннем. Калі нібыта спіш, але чуеш, што адбываецца вакол. Ці думаеш, што спіш... Ці думаеш, што чуеш... Ці думаеш, што думаеш...

...Страх... Адкуль і як ён пасяліўся ў нашых сэрцах, у нашых галовах, у нашых душах? І навошта? Бо менавіта ён, страх, не дае нам мажлівасці падняць галаву, уздыхнуць вольна. Зразумела, пасеяны ён у нашай краіне яшчэ ў сталінскія, савецкія часы. Кароткая, лёгкая гарбачоўская вольніца скончылася практычна ледзь пачаўшыся, як і хрушчоўская адліга некалі. І ўжо больш за пятнаццаць гадоў мы зноў жывем у тым самым страху. Няхай і не за жыццё ўвогуле, бо нішто нам не пагражае смерцю, як было ў часы сталінізму, але за жыццё ў прынцыпе. За магчымасць мець працу, хлеб на стале і не быць ізгоем у грамадстве...

...Страх... Няма ў свеце больш ганебнага пачуцця. І ні адно пачуццё не нанесла чалавецтву столькі шкоды, колькі гэтае. "Бойцеся абыякавых", – сказаў некалі адзін пісьменнік. А страх якраз і вядзе нібыта да абыякавасці, да імкнення схавацца ў самім сабе, у сваёй шкарлупцы: толькі мяне не чапайце. Мая хата з краю... Хоць на самой справе гэта не абыякавасць, а боязь за сябе любімага, за сваіх блізкіх, нармальнае жаданне жыць ціха і спакойна... Нармальнае жаданне? Нармальнае пачуццё? Так, нармальнае, але не ў нашых умовах. Бо тут гэта ёсць салодзенькі самападман, з якога і вынікае абыякавасць. Зрэшты, мажліва, гэта ніякая не абыякавасць, а проста імкненне выжыць, інстынкт самазахавання выпрацаваны дзесяцігоддзямі, сотнямі гадоў жыцця ў экстрыме, у войнах, паўстаннях, рэвалюцыях пакаленнямі папярэднікаў і перададзены нашчадкам. І яны нічога не могуць зрабіць з сабою, не могуць скінуць вось так адразу тыя дзесяцігоддзі прыгнёту і ўціску, расправіць плечы і выйсці... Выціснуць раба з сябе, забіць дракона ў сабе і выйсці няхай не пад кулі і нават не пад міліцэйскія дручкі, а пад простую пагрозу арышту, штрафу, страты працы, месца вучобы, каб заявіць, што і мы маем годнасць і не хочам больш жыць у... страху. Так, у страху... Замкнутае кола, каб разамкнуць якое, трэба няшмат. Толькі воля. Але воля не аднаго, а ўсіх. Толькі ўсіх разам. Выключна. Усіх... А вось гэтага якраз ніколі не будзе. І разумее гэта кожны паасобку, і разумее гэта ўлада, якая імкнецца дзяліць цэлае на адзінкі. На чым і трымаецца. Менавіта на тым, што ёсць разам узятае: і страх, і абыякавасць, і недавер да бліжняга. А

ў выніку – няўменне аб’яднацца супраць сілы, якая і не сіла, а толькі пазнака яе, бо сіла гэта яны – кожны паасобку і ўсе разам. Няўменне вылучыць лідэра і стаць сцяной за яго. Няўменне раба жыць вольна...

...Страх... Пакуль на мітынгах не збівалі, не саджалі масава за ўдзел у іх людзей, на мітынгі пратэсту выходзілі дзясяткі тысячаў, а то і больш за сто тысячаў. Гэта нямала для краіны ў дзесяць мільёнаў. А потым... Не адразу, а паступова пачала працаваць “вертыкаль улады”. І застрашылі людзей. Баяцца ўжо не тое што ў турму трапіць, проста працу страціць баяцца...

...Страх гэты пасяліўся і жыве ўжо не ў галаве, не ў сэрцы, не ў душы, а ў жываце, у страўніку...

...Страх – гэта не веды, а здагадкі. Страх – гэта невядомасць за паваротам: дарогі, жыцця... Страх – гэта спроба прадбачыць небяспеку, зло. Але страх – гэта заўсёды перабольшванне той самай небяспекі... А таму страх – возера, якое не пераплыць, бо насамрэч яго няма... Але нам не дадзена таго зразумець, бо мы аслепленыя страхам, які малюе тое возера, якога няма... І мы робімся рабамі свайго намаляванага страху. Што можа быць жахлівей?.. Бо палохае не страх, а невядомасць недзе там наперадзе... А будучыня – гэта заўсёды невядомасць. І той страх, які нам уяўляецца, яшчэ страшней за рэальны... Страшны не страх сам па сабе, а тое нагрувашчванне страху, якое мы робім, дадумваючы мажлівае.

...Ёсць адзін вялікі страх – страх памерці. Ён заўсёды быў асноўным. А цяпер з’явіліся дзясяткі дробненькіх страхаў: страціць працу, напрыклад. Альбо боязь за родных: мая смеласць, рашучасць, прынцыповасць нанясе ім шкоду... Але што гэта такое ў параўнанні з жыццём, якое праходзіць, губляецца ў такіх вось маленькіх страхах. Людзі хаваюцца ў страх. Прыдумваюць сабе страхі, каб нічога не рабіць. Страх як апраўданне бяздзейнасці... А баяцца можна ўсяго, нават таго, чаго баяцца ніяк нельга... Бо самы страшны страх – той, што мы прыдумалі. Той, якога няма. І чым даўжэй, чым мацней яго няма, тым страшнейшым ён нам здаецца... Колькі ў свеце прыдуманых страхаў? Усе... Усе прыдуманыя. Адны прыдумваем мы самі, іншыя прыдумваюць для нас тыя, хто хоць трошкі ўзвышаецца над намі, каб кіраваць намі...

...Страх і нянавісць ходзяць побач. Але ўладары кажуць: няхай яны нас ненавідзяць, але баяцца. Бо няма ў дыктатараў больш магутнае зброі, чым страх. “Дайце мне магчымасць запалохаць людзей, і я буду вяроўкі з іх віць”, – кажа дыктатар. І палохае. Часцей нават не стратай жыцця, а пазбаўленнем простых чалавечых патрэбаў: ежы, працы, кар’еры, свабоды ўрэшце...

...Страшна ісці паўз могілкі. Не праз, а паўз... У любы час. Няважна, гэта дзень ці вечар. А тым болей ноч. Няважна, могілкі ў чыстым полі, густым лесе ці пасярод вялікага горада. Дзіўна, але, заўважылі многія, з гадамі гэты страх праходзіць. Наймацнейшы ён у дзяцінстве. А ў старасці многіх нават цягне на могілкі – проста пахадзіць сярод магілаў... Не сваіх родных, а чужых, абсалютна чужых людзей. Які ў каго помнік паглядзець. Пачытаць надпісы. Бачыў, як загараюцца ў радасці вочы ў некаторых, калі заўважаюць яны, што пахаваны чалавек памёр зусім маладым...

...Страх – гэта калі прафесар, вядомы і паважаны чалавек, выпісвае апазіцыйную газету не на сябе, а на суседа і кожны раз падкараўульвае паштальёна, калі ён прыносіць газету, і выкрадае яе са скрынкі суседа. Прычым сусед і не падазрае, што з’яўляецца падпісчыкам той газеты. Але прафесар ведае: калі будуць браць усіх апазіцыянераў – возьмуць суседа, а не яго...

...Страх заразны сярод людзей, як любая эпідэмічная хвароба. Страх паралізуе розум і волю, разумныя – тупеюць, моцныя робяцца слабымі: бяры і адных, і другіх голымі рукамі... Але яшчэ горш – перастрахоўка. Менавіта яна загубіла не адну светлую душу, зрабіла нягоднікам і баязліўцам не аднаго раней сумленнага чалавека...

...Страх спараджае пакору. Пакора – абыякавасць. Абыякавасць – бяздзеянне. Бяздзеянне – рабства. Рабства – трымаецца на страху, які спараджае пакору... Як выбрацца з гэтага зачараванага кола? Як разамкнуць, разарваць яго? Чалавецтва так і не выпрацавала адзінага для ўсіх шляху. У кожнага чалавека (народа) ён свой. Адзіны і просты: разарваць гэты ланцуг у любым месцы і любы момант – патрэбна толькі пазбыцца аднаго са звёнаў гэтага ланцуга ў самім сабе...

...Страх нараджаецца разам з намі і памірае разам з намі. Дакладней, ён ёсць да нас, чакае нас пры нараджэнні і праводзіць у апошні шлях. А сам застаецца тут, на зямлі, у чаканні нованароджанага. Ён нікуды не знікае і не знікне нават тады, калі на планеце не застанецца ніводнага чалавека.

...Але – менавіта страх зберог не адно жыццё. Страх робіць нас асцярожнымі і абачлівымі ў моманты небяспекі. А таму страх не заўсёды зло. Без пачуцця страху чалавек не стаў бы чалавекам...

...Страх – не прачытаная кніга, на кожнай старонцы якой цябе чакаюць нечаканасці. Чаканыя нечаканасці – вось што такое страх...

...Няма ніжэйшага чалавечага пачуцця, чым страх, і вышэйшага, чым свабода...

...Мацней за страх часам бывае толькі сорам. Сорам ад разумення, што потым давядзецца жыць між людзей, якія будуць ведаць, што ты паддаўся страху і здрадзіў сабе ды ім...

...Адзінае, чаго трэба баяцца чалавеку ў жыцці, – свайго страху...

Думаючы так, праганяючы, прагортваючы ў сабе гэтыя думкі, Андрэй устаў, зазірнуў у пакой і ўбачыў, што ўсе ўжо спяць. Нават наглядчыкі іхнія пасопваюць на варыўні, паклаўшы галовы на стол. І тады ён вырашыў цішком выйсці на вуліцу, прагуляцца па горадзе, паглядзець, што там робіцца. Апрануўся, дзверы не грукнулі, а толькі кароценька, па-змоўніцку, рыпнулі. У пад'ездзе было жоўта і чыста. У тамбурыку на першым паверсе каля самых дзвярэй стаялі дзве бутэлькі з-пад піва. Дарагога, імпартнага. Відавочна, пілі яго не бамжы. Тыя за гэткія грошы купілі б пару, а то і тры бутэлькі танненькага пладова-ягаднага "чарніла" ці "бырла", як цяпер кажуць, беларускай вытворчасці. У двары даволі светла ад снегу, зусім не холадна і не страшна. Андрэй вырашыў схадзіць да праспекту: усё ж жыццё нават і ў такі позні час гуртуецца там. Хвіліна, і ён выходзіць на яго. Шчодра асветлены, праспект у гэты начны час не пусты, як можна было б падумаць. Андрэй бачыць, што ўздоўж яго, на ўсім працягу, крыху прыхоўваючыся ў ценях дамоў, стаяць амапаўцы ў форме. Пацепваюць плячыма, пастукваюць чаравікамі-берцамі. Застаяліся. Холадна. Змерзлі. Чагосьці чакаюць... І ён тут таксама не адзін. Там-сям стаяць людзі ў цывільным і выцягваюць шыі, паглядаюць у бок павароту з вуліцы на праспект. "Што тут адбываецца?" – спытаў Андрэй у мужчыны, які туліўся побач. "Казалі, што будуць гнаць арыштаваных на плошчы". І тут з-за рога дома пачала выпаўзаць густая, шэрая плынь людзей. Абарваных, збітых, знясіленых – глядзець страшна. Спераду, па баках і ззаду роўнымі шэрагамі акаляюць натоўп міліцыянты.

“Куды іх вядуць?” – спытаў Андрэй. “На стадыён “Дынама”, – адказаў яму нехта. – Там зрабілі часовы канцлагер. А потым, кажуць, адвязуць у Курапаты ці ў Трасцянец... А можа, і там, на стадыёне, адразу расстрэльваць пачнуць”. Андрэя скалануў жах. Няўжо і сапраўды адважацца на такое? А натоўп тым часам набліжаецца. Андрэй разглядвае зблізку, зусім зблізку, вочы ў вочы, спакутаваныя, счарнелыя ад голаду, холаду, пабояў і здзекаў твары... “Сынок...” – шэпча жанчына побач і падае, губляе прытомнасць. Андрэй кідаецца да яе, падхоплівае, краем вока заўважае сярод арыштаваных ссінелы твар Кастуся і... прачынаецца...

У пакоі не ціха. Ідзе размова, пачатак якой ён не чуў...

– ...Ніякая ўлада не вартая нават слязінкі дзіцяці, не тое што крывінкі... – Андрэй пазнаў голас маладзейшага сантэхніка. А падтрымліваў размову ягоны намеснік:

– Ай, як здорава і дакладна ты перарабіў словы Дастаеўскага. Брава! Вельмі дакладна... Як кладзецца гэта на нашую сітуацыю...

– Ды што на нашую... Гэта сусветная ісціна. Але і сапраўды, у нас яна разумеецца па-асабліваму. Я вось не магу даравать слёзы свайго сына, які прыйшоў са школы з сінякамі: аднакласнікі збілі яго за... мову. Кажуць: калгаснік, едзь у сваю вёску. А ўсё таму, што ў школе даўно няма роднай мовы, вынішчана пад корань, а ён на ёй прынцыпова размаўляе, бо і ў сям'і нашай так...

– Дзецям няпроста цяпер, нам усім няпроста. Так, гэта ёсць... Факт. І не толькі з прычыны зняважанай мовы. Мільён несправядлівасцей можна назваць. Хапае іх у нас цяпер. Тыя ж выбары, якіх няма... Але я хачу сказаць пра іншае: дзякуй Богу, сёння не трыццатыя гады мінулага стагоддзя. Тады людзі толькі вынырнулі з Першай сусветнай вайны, з грамадзянскай... Боль, несправядлівасць і дробны кошт жыцця былі ім знаёмыя... І жорсткасць успрымалі яны зусім па-іншаму. Не скажу, што ім было лягчэй. Але прывычней, мусіць, думаю я... Усё. Нават рэпрэсіі... А мы пражылі ўжо амаль семдзясят гадоў без вайны, і нам дарагое нашае маленькае шчасце. Мы баімся страціць яго. Тым болей, што ніколі мы так добра не жылі, як цяпер. Гэта вам скажуць не толькі пенсіянеры. Дык дзеля чаго рызыкаваць гэтым сваім адносным дабрабытцікам, спакоем, нарэшце? Хоць бы і за мову... А тое, што любое выказванне незадавальнення пагражае непрыемнасцямі, ведае цяпер кожны. І любая твая непадобнасць да іншых – моўная ў тым ліку – таксама. Дык навошта вытыркацца? Каб страціць працу, трапіць у пастарунак, атрымаць дручком па рэбрах... Ці вось так – быць збітым аднакласнікамі, бо не такі, як яны.

– Я сказаў пра слязінку дзіцяці... А сам думаю цяпер: перамогі не тое, што без слёз, без той жа крыві не бывае. Уся гісторыя пра тое сведчыць. І найчасцей праліваецца кроў нявінных... Гэта факт. Як і тое, што робяць рэвалюцыі шчырыя і апантаныя, а карыстаюцца іх вынікамі падонкі... Ці не такі і наш прыклад, калі згадаць перабудову?

Але выснову ягоную ніхто не падхапіў, бо да размовы падключыўся старэйшы сантэхнік:

– Вось нарэшце хоць нехта чэсна сказаў: мы ніколі не жылі так добра, як цяпер. Паглядзіце, крамы поўныя. Купляй – не хачу. Не тое, што пры вашай перабудове... Ні талонаў табе сёння, ні чэргаў кіламетровых. Ёсць усё: ад

заморскай садавіны да любой тэхнікі. Без чаргі. Абы грошы. Успомніце, як стаялі гадзінамі, калі "дэфіцыт" выкідвалі. Як вараную каўбасу хапалі адзін перад адным, а якога ананаса ці банана зусім не бачылі – толькі ў Маскве і купіць можна было...

– Каб жа якасць жыцця вымяралася толькі тым, што ў крамах ёсць усё...

– Ну хай сабе крамы поўныя прадуктаў... Але трымае людзей у хатах не гэта, а страх, звычайны страх, які пануе над усім, які пераўтварыўся ў монстра, што трымае ў сваіх жахлівых абдымках усё і ўсіх... Запаланіў галовы і розумы, раз'ядае душу... Страх... Страх... Страх...

"Страх... страх... страх..." – адгукнулася болем у Андрэевай галаве, нібы нехта малатком біў па ёй... – Ага, – здагадаўся ён, – дык вось адкуль тыя думкі пра страх, яны зусім не мае... То былі пачутыя скрозь дрымоту, скрозь сон размовы прысутных пра страх... Таму яны і былі такімі няпэўнымі, няпоўнымі, урыўкамі...

Спрэчка заціхла, але спаць, пэўна, нікому не хацелася. Камусьці, як Андрэю, перадрамалася ўжо. А камусьці, можа, і хацелася, але як тут заснеш: на падлозе ці ў крэсле, у чужой кватэры, сярод незнаёмых людзей... І нехта загаварыў зноў:

– Цяпер ноч. Усё роўна не спім. Давайце, я раскажу вам нешта сваё? Асабістае. Можа, хто задрэмле пад мой расказ, як пад казку. А кагосьці ён прымусіць і пра сябе пазней расказаць... Раз мы тут загаварылі пра страх, дык і мая гісторыя будзе пра страх, перажыты ў дзяцінстве. Які не адпускае мяне праз усё жыццё. Чаму я хачу расказаць вам той выпадак? Не ведаю. Магчыма, вось раскажу тут і вызвалюся ад яго... Думаю, у кожнага было штосьці падобнае, у кожнага ёсць сваё веданне страху і сваё меркаванне: што ён лічыць страхам, а што не... Калі яшчэ нехта раскажа нешта сваё – буду рады.

"Вось жа, як дзеці, – падумаў Андрэй, – ноч, цёмна, дык давайце раскажу перажыты страх. А потым вы раскажаце сваю страшылку: "...Чорная-чорная рука..." І гэтак далей. Але, з іншага боку, чым жа яшчэ можна заняцца, калі не спіцца. І пра што расказваць, калі вакол абсалютна незнаёмыя людзі, сабраныя разам не па сваёй волі. Гэта нават не купэ вагона і тым болей не гатэль, дзе хоць нешта яднае людзей і дзе ведаюць, што ранкам разыдуцца і больш ніколі не ўбачацца..."

– Дык расказваць?

– Траві... Усё адно няма чаго рабіць. А тут, – пазяхнуў, – глядзіш, і засну пад тваю байку.

Цёмна, не бачна, хто гаворыць. Андрэю здавалася, што ён усіх мог пазнаць па голасе. Прынамсі, сваіх даўніх знаёмых і суседзяў. Ды і галасы тых, хто ўпершыню завітаў, таксама паспеў запомніць. Ажно не. Цемра забірала не толькі твары, але і галасы рабіла падобнымі. Найперш па інтанацыях, нотках і нават тэмбры. Раўняла ўсіх і ва ўзросце. Даўно ён заўважыў, што з гадамі голас у людзей амаль не змяняецца. Асабліва, калі размаўляеш па тэлефоне і не бачыш твар. Нібыта і не прайшло са знаёмства дваццаць ці трыццаць гадоў... Так было і ў цемры. Тым цікавей слухаць распаведы, якія сталі нічыімі і разам усіхнімі. Андрэй мог разабраць хіба толькі хто гаворыць: мужчына ці жанчына. І тое не заўсёды, бо хвілінамі правальваўся ў свае думкі ці ў хваравітую дрымоту, паўсон, і тады выпадалі цэлыя кавалкі расповядаў.

Да таго ж цемра раўняла ўсіх і рабіла больш шчырымі і смелымі. Калі не бачыш таго, каму расказваеш, дык нібыта і не расказваеш нікому. А проста думаеш сам сабе...

– Ну дык слухайце... Пра гэта не любяць згадваць, але адразу пасля вайны, у 1947 годзе, на нашым Усходнім Палессі быў страшны неўраджай. Град у чэрвені пабіў усё, змяшаў з зямлёй – і жыта, і бульбу. Калгаснае і людское. У палях, на гародах суцэльнае месіва: ні травінкі жывой... Не дзіва, што пачаўся страшэнны голад. Бо вяскоўцы жылі тады не з заробкаў у калгасе, якія, дарэчы, выплочваліся за працадні раз на год і натурай: зернем, бульбай, і мала ў якіх гаспадарках давалі яшчэ і нейкія капейкі грашыма. Таму не з заробкаў жылі, а з уласных сотак. Спадзяваліся толькі на іх ды на кароўку, у каго была. А тут – град... Голад, можа, быў і не такі, як некалі на Украіне ў 32-33 гадах, але адчувальны. Бацькі тады ратаваліся самі і сваіх дзетак ратавалі, як маглі. Я быў зусім хлапчуком. Дайце прыкіну... Ага, гадоў сем мне было, не болей... Але тады дзеці дарослелі, не, дакладней, самастойнелі значна раней, чым цяпер. Маё дзяцінства ўвогуле прыпала на вайну, дык пасля вызвалення, а нас вызвалілі позняй восенню сорак трэцяга году, лічы, з трох-чатырох гадоў я, як у нас казалі, серадольшы ў сям'і, бо перада мной было двое братоў, а за мной дзве сястры, дапамагаў бацькам чым мог. Але што я мог дапамагчы ў сітуацыі, калі і дарослыя апускалі рукі? Аказваецца, мог. Бацька дамовіўся з адным хутаранінам з Заходняй Беларусі – ажно пад Давыд-Гарадком, які голад амаль не зачапіў, каб той узяў мяне ў пастушкі да позняй восені. Выпраўляючы мяне на чужыну, усе плакалі. І я таксама. Але цяпер я разумею, чаму бацька так зрабіў: на заробкі мае ніхто не спадзяваўся, але была надзея, што хоць я там выжыву, ды і дома на адзін рот будзе меней. Хутаранін аказаўся сквапным, як і ўсе заходнікі. Карміў увечары, а на дзень даваў мне пляшку малака і скарынку хлеба. Праўда, дома я і такога не бачыў бы. Але чаму я гэта расказваю? Нейкім днём пасвіў я кароў у лесе за колькі кіламетраў ад хутара. І так заелі мяне вошы, што я зняў кашулю, расклаў на пні і стаў іх біць палкаю. Буйныя, напітыя – во хто не галадаў... Каровы адышліся, толькі чуваць было, як патрэскваюць яны паблізу галлём, чапляючы яго бакамі, рагамі. Заняты сваёй справай, я і не заўважыў, як з-за дрэваў выйшлі да мяне трое мужчынаў. Не ведаю, колькі яны моўчкі стаялі каля мяне і назіралі за маёю "працаю", пакуль я не адчуў, што нехта побач ёсць. Мо хвіліну стаялі, а мо й болей... Азірнуўся, убачыў іх і скалануўся ў жаху. Вось кажуць: валасы дыбам сталі. Не паверыце, але я адчуў, як падымаюцца мае валасы на галаве ад страху. Мужчыны былі ўзброеныя, ва ўсіх трох на грудзях віселі аўтаматы. Нямецкія, пазнаў я, бо бачыў іх не раз за вайну. Рукі кожнага ляжалі паўзверх аўтаматаў, і ў постацях мужчынаў адчувалася нейкая звышупэўненасць і разам – спакой. Але страх мой не праходзіў. Чужынцы... А хто ж яшчэ будзе хадзіць па лесе са зброяй, як не чужыя? Я чуў неяк размову гаспадароў, што ў лясах хаваюцца нейкія бульбашы, і не толькі хаваюцца, але і нападаюць на чырвоных, забіваюць іх. Ага, заб'юць і мяне, каб нікому не сказаў, што бачыў іх, падумалася... Ад страху я сцяўся ўвесь, сабраўся ў камяк, меншы за той пень з кашуляй. "Хлопчык, у цябе ёсць што паесці?" – спытаў той, які стаяў бліжэй да мяне. Ага, быў яшчэ ранак, і я не паспеў з'есці свой "абед". Я паказаў вачыма на торбачку ля пня. Той падняў яе, выхапіў пляшку з малаком, зубамі выцягнуў драўляны корак, матлянуўшы галавой, адкінуў яго – я вось цяпер расказваю гэта і нібыта зноў перажываю, бо бачу ў цемры, як на яве – дык вось: адкінуў

корак і пачаў прагна піць, задраўшы галаву, толькі кадык ходзіць туды-сюды: коўць, коўць... Потым спыніўся. Зірнуў на мяне, відаць, зразумеў, што ў мяне больш нічога няма. Ага, спыніўся і вінавата паставіў недапітую пляшку на пень. Я, хоць і малы, але гэтую вінаватасць заўважыў. І мне стала смялей.

– Адкуль ты, хлопчык? – спытаў другі: не той, што піў.

Я задумаўся. Першаю мне згадалася мая далёкая радзіма. Але ці ведаюць яны яе. Відаць, не варта пра гэта казаць. Але адкуль я?

– Што маўчыш?

– Я з хутара. Недалёка тут. У гаспадара кароў пасу.

– А вёска ад вас далёка?

– Кіламетры два...

– Рускія салдаты ў вёсцы ёсць?

– Не бачыў... Я толькі тут, у лесе, і бываю. З раніцы да вечара. А ноччу яны баяцца да нас ехаць.

– Значыць, усё ж ёсць.

– Недзе ёсць, бо бываюць у нас удзень, гаспадар казаў... Але я не бачыў, бо цэлымі днямі тут, пры каровах.

– Ды што ты з ім гаворыш? – гэта трэці, старэйшы на выгляд, які стаяў далей і не падыходзіў. – Не скажа ён нічога. Давай, хутчэй разбірайся... Ды пойдзем.

Перажыўшы вайну ў нашай спаленай вёсцы, я адразу зразумеў, што ён мае на ўвазе за гэтым “хутчэй разбірайся”... І мне дужа захацелася жыць... Я заплакаў. Міжволі. Проста слёзы самі пацяклі з вачэй.

Двое адышліся, а трэці – той, што піў малако – застаўся каля мяне.

– Дзядзечка, я нікому не скажу, што вас бачыў, – пачаў я прасіцца, а сам вачэй не зводзіў з ягонага аўтамата: усё чакаў, зараз паверне рулю...

– Ну, ты хутка там?

– Зараз... – адгукнуўся сваім. А мне: – Бяжы, – шапнуў. Зусім малады яшчэ хлопец.

І я пабег. Ён стрэліў мне ўслед. Куля недзе побач прашапацела па лістоце. А я бег і бег, пакуль не ўляцеў на хутар. Было недалёка – кіламетры два.

Гаспадар стрэл чуў і адразу здагадаўся па мне, задыханым, што здарылася. Ведаў, хто па лясах ходзіць. Але яго больш турбавала, што з каровамі? Ці не забралі іх? Ці не пристрэлілі якую і дзеляць цяпер на мяса... І злаваў на мяне, што пакінуў кароў. Я ж сядзеў і дрыжэў...

Калі ў познюю восень вярнуўся нарэшце дахаты, маці, згледзеўшы мяне, заплакала і доўга не магла супыніцца. “Што ж ты там такое перажыў, сынок?” – пытала яна, а я не разумеў, адкуль яна даведалася і чаму не радуецца мне, а плача? І толькі потым даведаўся, калі ў люстэрка зірнуў: убачыла яна, што ў мяне, маленькага, сталі сівымі скроні. У школе потым далі мне мянушку “Сівы”, і яна са мной па сёння, хоць больш я не пасівеў, і ў свае немалыя гады зусім не сівы. Апроч скроняў...

І тут Андрэй адключыўся. Заснуў? Не, хутчэй праваліўся ў сон ці ў стому, як у яміну. Зрэшты, адгэтуль так і прайшла ягоная ноч, між снамі і явай, якія перапляліся і зліліся ў адно. Сны праходзілі скрозь размовы і размовы ішлі скрозь сны... Правалы ў сон змянялі думкі, часам проста трызненне, а часам цалкам лагічныя... Калі Андрэй у чарговы раз прачнуўся – пачуў, што нехта іншы расказвае сваю гісторыю:

– ...і вось выгрузілі іх з цягніка і павялі... Дакладней, пагналі, як жывёлу. А холад, снег вышэй калена ў дарослых, не кажучы ўжо пра дзяцей. Не вельмі каб і разгонішся. Ногі першых грузнуць у снезе, як у балоце... А ўсе згаладалыя, знясіленыя за доўгую дарогу. Тры тыдні ў цягніку, у таварняку, як-ніяк. Амаль стоймя – па чарзе спалі. Пад вечар загналі ў нейкі лес, у тайгу, на паляну ў суцэльным ельніку – густым, дзікім, і сказалі: тут будзеце жыць і працаваць. Дзе? Сярод лесу? Як? Будуйце сабе баракі, адказалі. І сталі яны будаваць. Мужчыны. А жанчыны пачалі капаць нейкія ямы ў мёрзлай зямлі, каб хоць ад ветру сівернага схавацца. А есці ж няма чаго. Не даюць нават пайку якую, як у лагеры. Большасць сваё яшчэ ў вагонах усё паелі. І сталі прападаць малыя дзеці. Мне дзед расказваў, што яго схавала маці ў нейкай бакавой нары ў яміне. Яму было пяць гадоў. І ён усё разумеў. Сядзеў у той нары і дрыжэў. Не ад голаду і холаду нават. А проста баяўся, каб яго не знайшлі і не з'елі... Ён адзін і выжыў з усіх дзяцей, якіх прывезлі з Беларусі. Адзін!.. Выжыў, але як? – пытаўся ў самога сябе дзед. І не ведаў адказу... Што ён еў, хаваючыся ў той нары? Чым яго карміла маці і што ела сама? Ні травінкі ж вакол... Кара ды шышкі толькі. Як падумаю, казаў ён, страшна робіцца... І, дарэчы, да сваіх апошніх дзён ён не мог есці мяса. Нават кураціну, калі хворы быў і баба варыла яму. Я бачыў, як ванітавала яго, калі баба згатавала яму супчык, адвар з пеўня, і ён, не ведаючы, што там варылася мяса, сербануў лыжку...

– Што вы ўсё ці пра старое, а цяпер яшчэ і не пра сваё... – з нейкай гідлівасцю і злом перабіў таго, хто гаварыў, нехта з мужчынаў. – Нібыта сёння ні з кім нічога жахлівага не здараецца.

– Што праўда – страхаў хапае і цяпер. Але падобнага, дзякуй Богу, няма. Толькі не пагаджуся, што гэта тое, што забыць варта, як страшны сон. Гэта трэба ведаць, бо ў ім карані нашага страху... Я думаю, што ў любой іншай дзяржаве – не былой савецкай, вядома, – людзям дыхаецца вальней, бо там не было стагоддзяў запалохвання і жыцця ў страху. Не было раскулачвання, не было Курапатаў...

– Прычым тут гэта? Зноў пра Курапаты. Колькі можна... Заўсёды ад людзей патрабаваліся толькі пакора ды прыстасаванства. Прычым тут стагоддзі страху? Будзь лаяльным, не лезь у палітыку і жыві спакойна. Ніхто цябе не зачэпіць.

– Ніхто не зачэпіць... Таму так і жывем, што нікуды не лезем, усяго баімся. І дзяцей пужаючы вучым: будзь асцярожным, не кажы лішняга, маўчанне золата...

– А калі і ў які час было іначай? І дзе? А тут... тут заўсёды было так.

– Я вось не разумею, чым вам нашая дзяржава не дагадзіла. Захад хваліце. А вы ведаеце, што наручнікі Савецкаму Саюзу, у ГУЛаг, пастаўляліся з Захаду. Змагары за дэмакратыю ўмацоўвалі таталітарызм, бо тут не маглі выплавіць добры метал... Грошы, як кажуць, не пахнуць. Не ведаю, адкуль сёння дасылаюць у Беларусь наручнікі, але тое, што іх робяць не ў нас, дакладна...

– Ды не ў наручніках справа. Што ты размову пераводзіш на іншае. Якая розніца, дзе яны купляліся і купляюцца. Важна як і супраць каго выкарыстоўваюцца. Вось мне што бабуля расказвала...

І хоць размова пайшла не на начных спакойных, а на павышаных галасах,

Андрэй зноў праваліўся ў сон, так і не паслухаўшы, што там бабуля казала. Здавалася, на імгненне. А калі вынырнуў з дрымоты, пачуў:

– ...служыў у арміі. Зрэшты, хто не служыў – усе служылі. І ўсе памятаюць тыя першыя дні, калі старaслужачыя “знаёмяцца” з “маладымі”. І ўсе памятаюць, як, з якім жахам, чакалі гэтага моманту, начутыя з расповядаў ранейшых. Усе памятаюць той наструнены страх, які трэба было перажыць, каб нібыта стаць сваім сярод чужых... Але я не пра тое хацеў расказаць. Проста ўсплыло неяк, калі ўжо пра страх... Бо страх, ён розны бывае. Бывае сапраўдны, бывае прыдуманы. І які страшней – невядома... Расказаць я хачу пра аднаго хлопца, майго суседа па ложках, якому ліст з дому прыйшоў. Ён быў жанаты і атрымаў ліст ад жонкі. Просты ліст пра яе жыццё без яго. А прайшло ўсяго з паўгода, як мы ў войску. Нічога яна асаблівага там не напісала, адно толькі згадала, што была на дні нараджэння ў сяброўкі, іх агульнай знаёмай. І абмовілася, што танцавала там... Я ўбачыў змены ў ім, калі ён чытаў гэты ліст. Што за думкі пасяліліся ў яго галаве, ведаць тады я не мог, а вось тое, што змяніўся ён раптам у твары – заўважыў адразу. Неяк спахмурнеў, быццам хмара на яго апусцілася. Шэрым зрабіўся, пастарэў нібы. Я не стаў у яго нічога распытваць, а ён не ў першы дзень, а назаўтра, вырашыў сам выгаварыцца. “Пакуль я тут, – сказаў ён, – яна там...” – і замоўк. Што “яна там”, трэба было, ды і можна было здагадацца па ягоным голасе і твары... Але ён прадоўжыў дадумваць мне, што яна там робіць без яго, і з кім, і як “танцуе”... І за тыдзень счарнеў увесь ад думак. Карацей, давёў ён сябе гэтымі падазрэннямі і выдумкамі пра жонку да стану, што не мог ні есці, ні піць. Сумняваюся я, што там нешта было ў ягонае жонкі на тым дні нараджэнні. Ну танцавала з кім, ну і што... Ды не, я ўпэўнены, што нічога не было, а калі і было, ну дык і што... Усім хопіць. Вернешся і не заўважыш нічога. Але ён так узяў гэта сабе ў галаву, што чахнуў на вачах. “Пакуль я тут, – шаптаў ён ціха – я чуў, – яна там...” Самае дзіўнае, што ніхто з яго не паджартоўваў, хоць, ведаеце самі, у любым калектыве, тым больш армейскім, заўсёды знойдуцца тыя, хто гатовы паздзекавацца з бліжняга. І вось аднойчы ранкам, ускочыўшы па камандзе “пад’ём”, я ўбачыў, што яго на ложку побач няма. Звычайна бакавым зрокам усё заўважаеш – а тут чагосьці не хапае: пустата... Знайшлі яго ў прыбіральні: павесіўся ноччу. Не вытрымаў надуманых падазрэнняў жонкі ў здрадзе... Надуманных, напрыдумваных... А вы кажаце, страх. Можна і без прычыны такога страху ў сабе нагнаць, што ў пятлю нізавошта завядзе...

Зноў Андрэй адключыўся і далейшы расповяд не пачуў. А калі прахапіўся, размова была пра іншае.

– ...у сямідзясятыя гады. Я школьнік. Піянер. Гучыць горда. Наш атрад мае імя Паўліка Марозава. Пра тое, што вёска ягоная сібірская была населеная выхадцамі з Беларусі, тады не расказвалі, ды і няважна гэта было. Мне таксама хацелася подзвігаў. І вось падвярнуўся такі момант. Бацька мой быў камуністам, чым вельмі ганарыўся. Займаў ён невялікія пасады ў калгасе: то брыгадзір, то загадчык фермы, але быў паважаным у вёсцы чалавекам. І хоць ужо прайшло пяцьдзясят гадоў савецкае ўлады, і, здавалася б, з вераю ў Бога камуністы пакончылі, у нашай вёсцы ўсё ж

трымаліся даўніх традыцый: малых дзяцей хрысцілі ў царкве і дзеля гэтага бралі хросных бацьку і маці – звычайна з сяброў, суседзяў ці проста паважаных людзей. Бацьку майго часта запрашалі быць хросным, і ён, хоць і дужа ганарыўся тым, што камуніст, не адмаўляў нікому. Чамусьці не лічыў гэта нейкай здрадай ідэалам. Якраз такі выпадак і здарыўся ў той час: пахрысціў ён дачку нашага суседа. Дамоў прыйшоў п'яны, і нешта счапіліся яны з мамай, і пабіў ён яе моцна. Дасталося і мне, калі кінуўся бараніць. Што мне цюкнула ў галаву, пэўна, подзвіг Паўліка Марозава натхніў, але вырашыў я яму адпомсціць. Напісаў ліст у раённую газету пра тое, што ў нашай вёсцы прытрымліваюцца рэлігійных забабонаў і нават камуністы бяруць удзел у даўно аджылых абрадах: дзяцей хрысцяць. І назваў свайго бацьку. Праз пару тыдняў у раёнцы была надрукаваная маленькая нататка – радкоў трыццаць, пад назвай "Член партыі хрысціць дзяцей". Не скажу, што я быў упэўнены, што надрукуюць, але газету чакаў, і ўбачыў яе першым. Пачатковая радасць – журналіст, блін! – адразу ж перайшла ў жах: што цяпер будзе, калі ўбачыць газету бацька. Нататка была падпісана "наш селькор", а не маім імем, але, як кажуць, на злодзеі і шапка гарыць: мне здавалася, што ўсе ведаюць, што гэта я напісаў. Газету я схаваў, каб бацька не бачыў, але справа ўжо была зробленая. Не з нашай газеты, нехта іншы сваю падсунуў, але бацька даведаўся пра тую нататку. Ды і як не даведацца, калі назаўтра яго выклікалі ў парткам. А праз тыдзень наладзілі партыйны сход, асуджэнне. Прыязджаў на яго бацюшка – поп з суседняй вёскі з нейкай вялізнай кнігай, дзе ўсе запісы робяцца, і пацвердзіў, што менавіта мой бацька хрысціў. Ды тут і даказваць нічога не трэба было. Усе ў вёсцы і без таго ведалі гэта. Думаю, і сакратар парткама таксама ведаў. Аднак калі пайшоў розгалас, трэба было прымаць меры. І з партыі бацьку выключылі. Перажываў ён страшна. І не раз я чуў, як казаў ён то маці, то самому сабе: "Якая ж поскудзь у газету напісала?" Я маўчаў... Не ведаю, якім чынам, праз якіх знаёмых, але бацька неяк патрапіў у рэдакцыю раёнкі ды пабачыў той ліст. І... пазнаў мой почырк. Спачатку не даў веры – дзіця нейкае напісала... Ці мала почыркаў падобных. А потым зразумеў, што зрабіў гэта я. Па ягоным вяртанні я трымаўся, як падпольшчык на допыце, і так і не прызнаўся, што маіх рук справа. Але бацька мне не паверыў – я гэта бачыў. Біць мяне не стаў, але... Я ж ведаў, што сталася з Паўлікам Марозавым за тое, што ён бацьку выдаў. І пачаліся ў мяне бяссонныя ночы. У страха вочы вялікія, кажуць. А мне так жыць хацелася... Ляжаў я, не спаў, прыслухоўваўся да таго, як у суседнім пакоі храпе бацька. І мне ўсё здавалася, што ён прыкідваецца і як толькі я засну, прыйдзе да мяне і задушыць падушкаю, нібыта я сам у сне захлынуўся... Толькі пад раніцу, калі пачынала ўжо віднець, і ўставала маці порацца па гаспадарцы, засынаў я ненадоўга. І давёў сябе за нейкі тыдзень да таго, што на ўроках спаў з расплюшчанымі вачыма. Стаў кепска вучыцца, з мяне пачалі здзекавацца і смяяцца аднакласнікі, заўважаючы моманты, калі я адключаўся. І я ўразумеў, што страх мой за жыццё да дабра не давядзе. Чым так жыць, дык лепш памерці. І ў наступную ноч я лёг і адразу заснуў, маўляў, хай будзе, што будзе, хай душыць... Але ранкам прачнуўся як ні ў чым ні бывала. Жыву вось і па сённяшні. Жыве і мой бацька. Цяпер ужо як герой, пацярпелы ад камуністаў, бо за веру ў Бога быў з партыі выключаны...

Вочы самі заплюшчваюцца... Яшчэ адзін правал Андрэя ў сон і вяртанне ў цемру пакоя. Ціхі голас. Жаночы.

– ...а цёмна – вока выкалі... Іду, дрыжу. Навошта сюдой пайшла? Трэ было тудой, вакол... Вот кажуць, што ў чалавека ёсць прадчуванне, што бяда здарыцца. Так і ў мяне. Іду, дрыжу, бачу – наперадзе ліхтар. Цьмянаваты такі, але ўсё ж святло. Дай, думаю, дабягу да яго, перадыхну. Там ніхто чапаць не будзе на светлым. Дабегла – сэрца з грудзей вырываецца. І думка зноў адна і тая ж: навошта я сюдой пайшла? Больш ніколі і нізашто паркам дадому не пайду позна. Лепей абыду вакол горадам. Ага, дабегла да ліхтара, і тут з цемры да мяне выходзяць двое. Маладыя. Як па мне, дык амаль хлапчукі. Ну, па шаснаццаць ім. Мо па васямнаццаць. Самы ўзрост... І без слоў пад рукі мяне і ад ліхтара ў цень. Як п'яную. Божачкі! Я да таго разгубілася, страху на сябе ўжо да таго нагнала, што і не супраціўляюся. Толькі б не забілі, думаю. Хай цягнуць... А яны раптам... Адзін з іх раптам кажа: "Бачым, цётка, вам кепска. Дзе вы жывяце? Мы вас дадому завядзем..." І завялі. Вывелі з парку. І да пад'езду. А я ад страху і дзякуй ім сказаць не магу. Страху такога, як быў пад тым выратавальным, думалася, ліхтаром у парку, я ніколі не перажывала. Такая мая гісторыя, як успамін.

– А вось у нас было... Жанчына ішла праз парк. Надвячоркам. Да яе кінуліся трое. Схапілі за рукі і ногі ды панеслі ў кусты. Ведама дзеля чаго. Дык яна з пярэпалаху замест таго, каб галасіць "Ратуйце!", як закрычыць "Ура-а-а!" Тыя трое кінулі яе ды ўцякаць... Спалохаліся, што на вар'ятку нарваліся...

Апошнія словы патанулі ў агульным смеху. А жанчына: "Вам абы жартачкі, а мне не да смеху тады..." Чутно было, што смяюцца і "госці".

Зноў цемра сну і вяртанне...

– ...ёсць яшчэ вось такі страх. Не ведаю, праўда, ці прызнаеце вы яго за страх. Але раз пайшла такая размова, дык раскажу. Пасля школы я не змог адразу паступіць у інстытут – не здаў апошні экзамен, нямецкую мову. Дагэтуль не ведаю, ці то я сапраўды кепска адказваў, ці то мяне проста зарэзалі, каб даць магчымасць улезці камусьці іншаму. Хутчэй другое, але няважна цяпер. Дык вось, каб не пралайдакаваць год і зарабіць "стаж", з якім лягчэй паступаць, я пайшоў працаваць на будоўлю. Рознарабочым ці падсобным, бо прафесіі, зразумела ж, не меў. Было нас у брыгадзе тынкоўшчыкаў чалавек восем. Апроч мяне, усе жанчыны. Рознага ўзросту, але сярод іх вылучалася адна, як па мне тады, дык жанчына – гадоў дваццаці трох. Надзя, звалі яе. Пры-го-жа-я... Не апісаць. Ну, прыгожая, і ўсё... Закахаўся я ў яе адразу. Ноччу прыснілася нават. Але была яна ўжо замужам і мела двух дзяцей. Красунь, ведаеце, у нас у мястэчках падбіраюць замуж адразу, часам, яшчэ са школы. Ды я не пра тое. Праз месяц маёй працы прыйшоў да нас майстар закрываць нарады. І кажа: калі ўгаворыце Надзю – так звалі тую жанчыну – каб мне дала, дык закрыю нарады па самаму вялікаму тарыфу... І што вы думаеце: старэйшыя з брыгады, жанчыны, адразу ж пачалі тую Надзю ўгаворваць: ды дай ты яму, што з цябе – убудзе... Я, зразумела, маўчаў. Што я мог казаць. Хіба прасіць яе, каб не паддавалася... Але хто я такі... Што кіравала тымі, хто ўгаворваў? Вы скажаце – жаданне атрымаць больш грошай? Так, але не толькі. Жаданне дагадзіць начальству хоць такім чынам? Ужо бліжэй. Але не толькі. Я пачаў са страху, і вы падумаеце – страх перад начальствам? Так, страх. Але не нейкі канкрэтны – я так зразумеў потым...

І што вы думаеце? Угаварылі. Дала. Зачыніліся яны ў падсобцы, а мы ўсе сядзелі на дошках каля яе, і кожны нешта думаў, прыслухоўваючыся да таго, што робіцца там... Самае галоўнае, што калі потым выйшаў задаволены майстар і нібыта вінаватая, напачатку хаваючы вочы, Надзя, ніхто ні яе, ні яго не асуджаў. Ні тады, ні потым... Я менш чым праз месяц звольніўся, знайшоў іншую працу, і не ведаю, кожны месяц закрываліся нарады такім чынам ці толькі той раз. Хоць, зыходзячы са свайго цяперашняга вопыту, думаю, што адным разам не абышлося: апетыт прыходзіць падчас яды... Але як зразумець тую брыгаду, што ўгаворвала прыгожую жанчыну аддацца не дужа маладому і, скажу цяпер, знешне гідкаму і брыдкаму мужыку, што меў над імі нейкую ўладу, не ведаю... Тут, мусіць галоўнае якраз гэта: меў уладу. А ў нас прывыклі перасмыкацца перад тымі, хто мае ўладу, баючыся, што яны ўжывуць яе. Перасмыкацца і такім чынам “паважаць” іх. Адсюль і страх... Страх, які перарастае часам у павагу, а то і любоў... Страх перад маючымі ўладу, нават самую малую, мізэрную, ці не самы распаўсюджаны ў нас. Адзін каня не дасць соткі ўзараць, другі нарад не закрые, трэці... трэці дзяржавай кіруе... Не ведаю, навошта я расказаў вам гэта, але той выпадак чамусьці часта ўспамінаецца, не забываецца і не дае спакою мне...

– Тут не трэба быць псіхолагам... Гэта таму, што ты хацеў апынуцца на месцы таго мужыка... Гы-гы-гы...

Чарговы правал у сон ці трызненне...

– ...Бачу, ніхто з вас не сядзеў не толькі ў цяперашняй турме, але і ў турме наогул. Таму і расказваеце пра нейкія смешныя “страхі”.

– Чаму смешныя?.. А ты што – сядзеў? Дык раскажы.

– І раскажу.

– Раскажы-раскажы.

– І раскажу... Блін, дасталі. Калі хто з вас быў калі-небудзь арыштаваны, то ведае, што ад першай хвіліны затрымання – няважна за што, нават калі невінаваты зусім – ты сабе не належыш. Кожны, самы дробны міліцыянцік над табою камандзір. Здзекі і прыніжэнне пачынаюцца з самага першага моманту. Мне, бо ведаў, што нявінны, было асабліва балюча гэта.

– А за што цябе пасадзілі... прабач, узялі.

– Не перабівай, раскажу. Дык вось – ад першай хвіліны там ты вінаваты. Вінаваты ўжо тым, што ты ёсць, што нарадзіўся некалі і дажыў да гэтага дня. Што трапіў туды. І з табой адпаведна сябе паводзяць. Не ўяўляю, і не магу ўявіць, як гэта адбывалася ў сталінскую пару, мусіць, яшчэ жахлівей. Бо тады дарогі назад ні ў кога не было. Альбо расстрэл, альбо лагер. Патрапіў, дык злачынца. Быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца. Таму, людзі, можа і скараліся лёсу. У наш час шанец даказаць сваю невітаватасць, здавалася б, заўсёды ёсць. Так, прынамсі, здаецца. Таму некаторыя, у тым ліку і я, напачатку, усведамляючы сваю нявіннасць, і “выпендрываюцца”, даруйце за гэтае слова. Але іх хутка абломваюць. Метадаў мільён. І самы просты – запалохаць. Нашаму чалавеку, начутаму пра ГУЛаг ды зэкаў, начытанаму пра тое за часамі перабудовы, дастаткова сказаць: “Будзеш упірацца і гнаць няпраўду (а гэта азначае казаць не тое, што трэба “следчаму”), дык мігам адправім у камеру да гомікаў, там цябе хутка перавыхаваюць”. І ўсё з матам. Ды яшчэ якім! Я нідзе столькі матаў не чуў, як там ад міліцыянтаў з немалымі званнямі. Адборных, калі так можна сказаць – вытанчаных. Майстры...

Пачуе гэта інтэлігенцік, і – паплыў. Бяры яго голымі рукамі, і ў тую камеру, якія, дарэчы, і праўда ёсць, тут следчы не хлусіць, садзіць не трэба.

– І што, усе прызнаюцца ў тым, чаго не рабілі?

– У тым і справа, што не ўсе адразу. Ёсць такія, што трываюць да апошняга.

– І што з імі?

– А з імі па поўнай... Асабліва, калі адчуваюць, што за чалавекам ніхто не стаіць, яму няма каму паскардзіцца і ніхто яго не абароніць. І тады застаецца адно: прызнацца ў тым, чаго не рабіў...

– Ну ты загнуў! Як гэта? Не можа такога быць.

– Можа, хлопцы, можа, я адзін такі выпадак ведаю. Вось у нас, у вёсцы, было. У краме ўкралі грошы. Сярод белага дня. Прадаўшчыца падрыхтавала выручку за тыдзень, пакінула ў каробцы на прылаўку – павінны былі прыехаць інкасатары, – а сама некуды адышла на хвілінку. Вярнулася – грошай няма: укралі ў адзін мірг... Выклікалі міліцыянтаў. Яны распыталі, хто быў у краме. І западозрылі нейкіх выпадковых пакупнікоў – гараджанаў. Што праездам былі. Заехалі па дарозе дамоў у краме вады купіць. Здагналі іх у горадзе за сотню кіламетраў ад нас, амаль пад Мінскам, ціськанулі добра, і яны прызналіся, што ўкралі. Сталі выклікаць сведак, каб апазналі іх. Па павестцы вызвалі і аднаго нашага хлопца, які ў той час таксама ў краме быў. А ён перапалохаўся, што выклікаюць, прыйшоў у міліцыю і адразу следчаму прызнаўся, што гэта ён украў. Прывёў дамоў і паказаў, дзе грошы ўкрадзеныя ляжаць. Нават ужо і сваіх трохі рублёў да іх далажыў... На машыну, кажа, збіраў...

– А што з тымі гараджанамі было, якія ўжо прызналіся?

– Адпусцілі. І прабачэння не папрасілі.

– Ну, не дзіва, я не такога наслухаўся. Там, як вы ведаеце, калі пагаварыць, сядзяць толькі адны ні ў чым невінаватыя.

– А ты, прабач, па крымінальным артыкуле быў, ці за тое, што лаяўся матам, арыштавалі?

– Да крымінальнага, дзякуй Богу, не дайшло... А то не сядзеў бы тут з вамі.

– Дык а што за страх? Цябе што... табе што... табе таксама пагражалі, што... апусцяць...

– Ды перастань... Дзякуй Богу, мінула мяне гэта. Але і таго, што набачыўся – хапіла. Я казаў пра псіхалагічны страх, пра ўціск. Але гэта на пачатку. Тых тваіх гараджанаў, відаць, псіхалагічна і зламалі.

– Ды не, казалі, білі іх доўга, пакуль прызналіся. Супрацьгаз надзявалі. Душылі. Хто ж так проста прызнаецца ў тым, чаго не рабіў.

– Тым больш... Калі білі. Гэта ў кіно толькі гестапаўцы б'юць, а ў жыцці...

– Білі?

– Шчэ як... Казалі, уся падлога ў крыві...

І тут пачуўся голас зварыўні:

– "Казалі"... Хто гэта вам казаў? Ну-ну, хопіць на ўладныя структуры паклёпнічаць. Разгаварыліся, блін.

Расказчык змоўк. За што сядзеў ён і ў чым быў ягоны страх, усе так і не даведаліся.

Бо тут з варыўні выйшаў адзін з "гасцей". Выйшаў не каб прыпыніць размовы, а распавесці нешта сваё. Андрэй не пазнаў хто, аднак падумаў, што быў то Стрыжаны. Усе "госці" былі аднолькавымі знешне, як запалкі ў карабку, не дзіўна, што падобнымі былі і іхнія галасы.

– Мне сябар расказаў такі выпадак. Ён працаваў у адной фірме. Ахоўнікам. Кіраўнік у іх не быў гаспадаром, а выбіраўся з усіх – дэмакратычна. Гаспадар быў нібыта збоку, жыў недзе на Кіпры, і не ўмешваўся як быццам. Надыходзіў час перавыбараў... Але каму хочацца пакідаць пасаду, калі на ёй так добра. Задумаў кіраўнік змяніць статут фірмы. Сказана – зроблена. Змяніў пад сябе, каб можна было бясконца заставацца на чале. Некаторым гэта не спадабалася. З'явілася, так сказаць, апазіцыя. Унутры. З прыбліжаных. Знешняя, з незадаволеных простых супрацоўнікаў, была і раней. Але то – шаўкі, хай гаўкаюць, а ўнутраная, з кіраўніцтва, якому таксама пакіраваць хочацца, то страшней. Гэта яна звычайна робіць перавароты ды рэвалюцыі, а не вуліца. Разумеў тое і начальнік. Як не разумець – столькі прыкладаў у сусветнай гісторыі. А па адукацыі ён якраз гісторык. І пачаліся ў нас дзіўныя знікненні. Першым прапаў кіраўнік аховы. Ён і быў найбольш небяспечным. Потым знік кіраўнік "выбарчай камісіі". Далей раптоўна памёр у бальніцы асноўны канкурэнт – рэальны прэтэндэнт на месца кіраўніка. Прапала без следу колькі журналістаў, што надумалі расследваннем заняцца... На месцы зніклых прыходзілі іншыя "правераныя" асобы. Лаяльныя, як вы кажаце. Якія гэтыя месцы ніколі б не займелі, калі б жылі іх папярэднікі. Бо пустыя, тупыя. І на больш высокія, зразумела, прэтэндаваць пакуль не маглі. Словам, да наступных выбараў – альтэрнатывы не засталося. Толькі ён. І ніхто больш. І так не на адзін раз. І нешта канкурэнтаў яму не стала відаць... А куды падзеліся ягоныя апаненты, ведае толькі вецер у полі, хвалі азёрныя ды кроны высокіх-высокіх пушчанскіх дрэваў...

Усе выслухалі гэтую прыпавесць "госця" моўчкі. Асабліва ўразіла паэтычная канцоўка пра кроны высокіх дрэваў і вецер у полі. Ніхто ніяк не пракаментаваў ягоны расповяд. Нават тыя, хто разгарачыўся ў папярэдняй спрэчцы. Пэўна таму, што адразу было зразумела, якую фірму ён мае на ўвазе... Хто б сумняваўся, што гэта менавіта так і было насамрэч. Але навошта "госць" гэта расказаў? Няўжо веды ціснуць і таксама спаць не даюць? Што на яго найшло? Мо каб усіх яшчэ больш напалохаць? І ці не заложыць яго заўтра той другі, арыентаваны на "справядлівасць" калега?.. Зрэшты, а што ён такое сказаў? Дзясяткі фірм, сотні ў краіне, у якіх магло здарыцца нешта падобнае. Ды і не ад сябе расказваў, а нібыта пачутае ад сябра нейкага... А ўсім астатнім – прыклад: будзеце развязваць языкі, лясоў і вады ў нас на ўсіх хопіць.

Доўгае і гнятлівае маўчанне для Андрэя зноў перарасло ў сон...

Разбудзіў яго гуд пад вакном спальні. Не машыны, а натоўпу людзей. Андрэй падышоў, адкінуў штору... Унізе, на асфальтаванай сцяжыне, пад вокнамі кватэры сабраліся людзі – родныя і блізкія тых, каго тут трымаюць. Крычаць, хвалююцца, патрабуюць адпусціць. Андрэй бачыць усіх са сваёй працы, суседзяў, родных і шмат незнаёмых яму людзей... Бачыць, што прыйшлі нават ягоныя тата і мама, якія даўно памёрлі. Глядзяць, падняўшы вялікія вочы на вокны ягонай кватэры і ціха перагаворваюцца. І нячутныя іхнія галасы зліваюцца ў суцэльны гул незадавальнення. А ззаду, пад дрэвамі, стаіць і назірае за ўсім начальнік фірмы, пра якога расказваў "госць". Андрэй яго адразу пазнаў. Стаіць незаўважаны ўсімі і хітра так усміхаецца ў вусы. Убачыў Андрэя і паклікаў да сябе – галавой хітнуў: ідзі сюды. І Андрэй, бы

зачараваны, пайшоў да яго міма бацькоў, знаёмых і чужых людзей. І вось яны з ім ужо ў лазні. Так, у лазні, і Андрэй не здзіўляецца гэтаму. Яны не мыюцца, а сядзяць, захутаныя ў прасцыні... "Думаеш, гэта людзі ў нашай краіне несвабодныя, залежныя ад мяне? Не, зусім не – бо гэта я ў клетцы, а не яны... Я за кратамі, а яны на волі. Я не магу дазволіць сабе самага простага. Не магу пайсці ў краму, каб купіць ліманаду і цукерак, як некалі ў дзяцінстве. Не магу проста прайсціся па горадзе, зайсці ў кавярню, як некалі ў маладосці... А я, верыш, вельмі сумую па тым часе і хацеў бы вярнуць яго. Хацеў бы, вельмі..." Андрэй глянуў на яго – не, слёз на вачах не было, але была такая ўсясветная туга, што міжволі стала шкада яго. Сапраўды, падумаў Андрэй, што там, у горадзе, чакае яго? Не, ну вядома, не смерць, якой ён так баіцца... Не... Бо навошта баяцца яе, смерці? Бо сапраўднай свабодай для чалавека – і ёсць смерць. Іншай свабоды ў нас няма. Толькі памёршы мы вызваляемся ад таго, што робіць нас несвабоднымі. Ад прыдуманых, навязаных нам ці ўзятых добраахвотна абавязкаў, ад страхаў, якія суправаджаюць праз усё жыццё... Мы нараджаемся аднойчы, каб жыць вечна, жыць у сапраўднай свабодзе, але на жаль, мы не ведаем гэтага і не даведаемся, пакуль не памрэм... Таму і баімся смерці. Андрэй кажа гэта яму. "Так, – пагаджаецца ён, – свабода і смерць крочаць побач скрозь усё нашае жыццё, і ў любы момант кожны можа зрабіць выбар быць вольным, альбо... жыць". Ён узіраецца ў Андрэя, і Андрэй бачыць у ягоных вачах, што ў яго, Андрэя... выбару няма. "Ёсць рэчы, – кажа ён Андрэю, – якія можна ўбачыць толькі ўзняўшыся на гару і стоячы на ёй. Тым, хто знізу, ніколі іх не зразумець, колькі б яны ні разважалі пра слязінку дзіцяці... Але ў кожнага заўсёды ёсць выбар: быць на гары ці... Разумееш?" – "Так", – адказвае Андрэй, хоць нічога не разумее. "Добра", – кажа ён, падае Андрэю кубак і Андрэй заўважае – на дне кубка нешта варушыцца. Быццам рыбка плавае. "Не бойся, – кажа ён, – гэта і ёсць смерць... Што ты з ёю зробіш?" Андрэй здагадваецца, што яму трэба выпіць тое, што ў кубку. Але ж, ён казаў раней: у кожнага, у любы момант, ёсць выбар. Заўсёды ёсць выбар. "Што мне зрабіць? – думае Андрэй, – выплюхнуць ваду з рыбкай на траву? Перадаць кубак яму... Падзяліцца з ім... Выпіць аднаму..." – Андрэй пакутліва думае, і тут – смех скаланае ўсё вакол. Яго смех. Д'ябальскі смех... І Андрэй прачынаецца.

...Малодшы сантэхнік расказаў показку. Усе рагочуць. Гучна. Нястрымна. Андрэй не чуў яе, і не ведае, з чаго яны смяюцца. Можна было здагадацца, што показка была пра нейкага кіраўніка, лазню і рыбку, можа, і залатую, бо нехта колькі разоў паўтарыў скрозь смех гэтыя словы. Але ўсе ажно кашляюць ад смеху. І просяць сантэхніка расказаць яшчэ.

– Добра, – кажа ён, – вось вам яшчэ. Нібыта пра нашыя выбары. Датэрмінова-добраахвотныя. Паспрачаліся неяк Гарбачоў, Буш і Коль, ці можа кот есці гарчыцу? Не, кажа Буш. А Коль і Гарбачоў смяюцца: можа. Коль узяў самую смачную сасіску-франкфутэрку, намазаў гарчыцай і даў кату. Кот аб'еў месца, дзе гарчыцы не было, а далей не стаў есці. Коль тыркаў яго мордай у сасіску з гарчыцай: не есць... Смяецца Буш: ну што я казаў? Тады Гарбачоў узяў гарчыцу і намазаў кату пад хвастом. Кот як зараве, ды як кінецца вылізваць гарчыцу... Вось так у нас заўсёды і ўсюды, кажа Гарбачоў: добраахвотна і з песнямі, на працу і на выбары... Свабода, блін, свабода, блін, свабода...

Смех пачаўся яшчэ ад знаходлівасці Гарбачова, а далей выбухнуў так, што, здавалася, вокны павылятаюць. І гучней за ўсіх рагаталі на варыўні.

Андрэй амаль не слухаў размовы ў суседнім пакоі. І показка не падалася яму смешнай. Ён яшчэ не выйшаў з таго сну. Пад уражаннем ад яго зноў нахлынулі думкі. Не звязаныя між сабой...

...Мы прывыклі жыць у няволі. Вызвалілі раба, а ён не ўмее жыць самастойна, ён хоча вярнуцца назад да гаспадара, дзе ўсё было зразумела, дзе меў ён гарантаваны кавалак хлеба і дзе яму не трэба было думаць пра заўтрашні дзень. Тое ж і ў нас, і з намі цяпер... Вызвалілі нас, зрабілі свабоднымі, а аказалася, мы не ўмеем карыстацца свабодай. Нам больш звыклае рабства. Мы не ўмеем самастойна думаць, самастойна жыць. Нам трэба, каб намі кіравалі. Рабства ўжо настолькі прарасло ў нашых душах, што цягне назад. У нейкія аб'яднанні. У СССР. Нехта называе тое прыгожым словам "настальгія". Але гэта няпраўда, нас проста цягне туды, дзе было ўсё зразумела, раскладзена па палічках. Адпрацуеш на заводзе дзесяць-дваццаць гадоў, пажывеш у інтэрнаце і атрымаеш кватэру. А хто сёння табе кватэру дасць?..

...Чалавек страціў свабоду тады, калі пачаў аб'ядноўвацца ў сем'і, роды, плямёны... Навошта было гэта рабіць? Жыць у грамадстве і быць вольным ад яго сапраўды немажліва. Глупства... Немагчыма, недасягальна. Хочаш не хочаш, непазбежна абрасцеш абавязкамі перад... перад кім заўгодна, хоць перад сваімі, хоць перад чужымі... А таму, людзі, кіньце марыць пра свабоду, яе няма, ніколі не было ў вас і не будзе...

...Свабода для ўсіх – міф. Ліса і заяц, воўк і авечка, багаты і бедны, узброены і бяззбройны пакуль існуе гэты свет будуць разумець свабоду па-свойму. Бо твая асабістая свабода – гэта найчасцей несвабода іншых. Прырода зрабіла людзей і звяроў няроўнымі, роўнасці няма, адсюль няма і свабоды... Іначай не бывае... Рабства ніколі не знікала з планеты Зямля. І ніколі не знікне. Сёння за рабоў у чалавека тэхніка. Заўтра чалавек стане рабом тэхнікі... Ды ўжо і ёсць...

...Найвышэйшае шчасце для чалавека – свабода. Такая, якая часам бывае толькі ў дзяцінстве. Калі ты прачнешся раніцай і не ведаеш, чым заняцца. Можна ўсё даступнае табе. Але што? Што рабіць? Ты ляжыш, лена думаеш, і нічога – нічога! – не робіш...

...Тыя ж, хто наймацней крычыць, патрабуючы свабоды, і ідзе паперадзе на шэрагі амапаўцаў, размахваючы палкамі, найчасцей правакатары. Імі кіруе не жаданне свабоды, а імкненне выслужыцца перад гаспадаром, які зрабіў іх несвабоднымі. Але самы несвабодны той, хто прыгнятае іншых. Як гэта ні дзіўна, але часам рабы бываюць больш вольнымі, чым іхнія гаспадары. Бо можна быць вольным і ў турме і не быць свабодным нават седзячы на троне...

...Свабода не ёсць магчымасць нічога не рабіць, а толькі піць ды гуляць, як думаюць некаторыя... Свабода – гэта праца, праца, праца – любімая праца...

...Свабоду нельга купіць ні за якія грошы. Хіба – на нейкі час, за які расплоцішся непазбежна яшчэ большай несвабодай...

...Адзінотны чалавек на бязлюдным востраве не свабодны і не вольны пакуль хоча вярнуцца да цывілізацыі...

...Мы свабодныя ў кожным імгненні жыцця і несвабодныя адразу за ім...

...Свабода – вечнае лета: тое чаго няма і ніколі не будзе ў нашых шыротах...

...Свабода – рака пад лёдам. Быццам і ёсць плынь, але недзе ўнізе, а пад нагамі яе няма. Усё роўна і гладка. І коўзка...

...Свабода – адзінотнае дрэва на даляглядзе, мы ідзем да яго, бясконца сумняваючыся: а раптам гэта міраж...

...Свабода – самая вялікая мана, самае вялікае глупства, прыдуманае чалавекам, бо яна недасягальная ў ідэале, як недасягальны любы ідэал...

...Свабода – вольнае неба, але не над табой, а ў табе самім... Хочаш быць свабодным – будзь ім...

...Свабода разнявольвае, але свабода і абавязвае. Без пачуцця свабоды чалавек не стаў бы чалавекам...

...Але – якім жа свабодным будзе апошні чалавек на планеце Зямля...

Калі Андрэй ранкам ачуўся і агледзеўся, то ўбачыў, што ніхто ў суседнім пакоі не спіць. І жонкі побач няма. Яна там, з усімі. Невядома, ці спаў хто ў гэтую ноч апроч Андрэя. І ці спаў ён? Але гэта была самая доўгая ноч у ягоным жыцці...

## Раніца

Надыход дня ўсе сустрэлі нявыспанымі і незадаволенымі. Хмурнымі, як і ранак за вакном. Прыйшла змена "гасцям". З сабой яны прынеслі некалькі пакункаў з ежай. Сказалі, тут на паўтара мільёна рублёў і папрасілі сабраць грошы з усіх і аддаць. Значыць, ім і сапраўды яшчэ было важна, каб ніхто з кватэры не выходзіў. Але самім плаціць грошы за ежу? Калі сказалі пра гэта, абурыўся стары сантэхнік:

– Во, блін, даюць! У турме хоць кормяць бясплатна, а тут плаці...

– Хто табе сказаў, што там бясплатна? Па выхадзе столькі заплоціш і за сталаванне, і за "гатэль", што мала не падасца... Гэта для рэцыдывістаў бясплатна, а "ворагам народу" за ўсё трэ плаціць.

Плаціць давялося Андрэю, бо, зразумела, амаль ні ў кога не было з сабой грошай. Зрэшты, пэўна ж, былі ў прадаўцоў посуду, напрыклад, ці ў цыганкі, у намесніка. Але яны сядзелі моўчкі, нібыта іх гэта не датычыла.

– Далярамі возьмеце? – спытаў Андрэй у "гасцей". – Так вам будзе выгадней. Усё ж немалая сума, а то інфляцыя, пакуль сядзець будзем, усё з'есць.

Пятрова ці Сідарава – Андрэю ўжо было ўсё роўна, хто з іх хто і імёны ім ён не прыдумваў, – перакасіла ў злосці, ён зразумеў іронію Андрэя, калі той падаваў яму рублі.

*

– Была б мая воля, я ўсіх гэтых апазіцыянераў, якія толькі баламуцяць народ, паставіў бы да сценкі і расстраляў... – пачаў было стары сантэхнік і, ўбачыўшы рэакцыю большасці на ягоныя словы, замоўк.

Маўчанне працягвалася нядоўга.

– А што, – зноў загаварыў ён, – што вы так на мяне глядзіце? Разумны бунтаваць не пойдзе...

– Мне падаецца, ты, Грыша, сеў не ў тым пакоі, – сказаў ягоны калега, – табе трэба быць там, – і ён аднымі вачыма паказаў на варыўню. – Вось паглядзі на мяне. Уважліва паглядзі. Так... Я хадзіў на плошчу. Я апазіцыянер. Ты хочаш мяне расстраляць? Хочаш? Ну во... А там большасць такіх, як я.

Спытай, чаму я пайшоў на плошчу? Пайшоў, бо не магу я чакаць, калі тыя змены самі прыйдуць. Гэта ў народа, у чалавецтва часу наперадзе вечнасць. А ў мяне – адмераны час, маё жыццё, такое кароткае, як паглядзець. І я не хачу сваё жыццё змарнаваць тут і цяпер, пры гэтым... ладзе...

– А што я? Ды я нічога... Усе так гавораць. І па тэлевізары таксама.

– Справа ў тым, што якраз па тэлевізары і гавораць... Мазгі вам забіваюць лухтой. Няўжо ты не разумееш, што казаць так грэшна, што ніхто не мае права нікога забіваць? Тым болей, толькі за тое, што нехта думае іначай, чым ты.

Пачуўшы слова "грэшна", падняла галаву распаўсюдніца Бібліі. Гэта была жанчына гадоў за сорак, сухенькая, падцягнутая, на галаве чорная хустка, падвязаная пад падбародкам. Нават знешне тыповая верніца. Яна страпянулася і, як гусыня, пацягнулася галавой да спрэчкі.

– Даруйце, я не ўмешваюся ў вашыя размовы, але ўсё, што вы тут кажаце, – грэх. І забіваць грэх, і паўставаць супраць улады грэх. Бо любая ўлада ад Бога.

– І што, гэта Бог даў таму, у каго ўлада, права распараджацца чужымі жыццямі, мілаваць ці забіваць? – перабіў яе намеснік.

– Забіваць няможна, гэта найвялікшы грэх. Грэх грахоў. Калі цябе пакрыўдзілі – падстаў другую шчаку. Палюбі ворага свайго, а не забівай. І не кідайся такімі словамі, бо нават гэта грэшна.

Слова "грэшна" спалохала і старэйшага сантэхніка, якога малодшы назваў Грышам. Ён заазіраўся нервова, шукаючы падтрымкі ў прысутных. Гандляры і цыганка маўчалі, суседзі Міша і Маша нешта абмяркоўвалі між сабой, а іншыя слухалі спрэчнікаў, але ў размову не ўлазілі. А маладзейшы сантэхнік, які прыйшоў першым і імя якога Андрэй дагэтуль не ведаў, адчуў, што перахапіў ініцыятыву.

– Займелі моду: ледзь што – расстрэл, забіць... Няўжо мала нарасстрэльвалі, назабівалі... Нашая краіна адзіная ў Еўропе, дзе ёсць смяротнае пакаранне. І выконваецца рэгулярна. Ніхто не пазбаўлены памылак. Тым болей – судовая сістэма. Але пасля смяротнага пакарання памылку не выправіш... Нявіннага забіць – няма больш страшнага граху. А палітычныя праціўнікі вінаватыя толькі ў тым, што яны думаюць іначай, што хочуць пераменаў у краіне, дык за гэта іх забіваць? Падумай, Грыша, сваімі курынымі мазгамі, перш чым так казаць.

– А я дык разумею яго... Грышу. Дастала ўсё... Колькі можна з-за невядома каго, з-за нейкага гора-героя сядзець тут? – сказаў Міша і ў злосці стукнуў кулаком па канапе, на якой паўпрылёг. – Праз тыдзень яшчэ не так загаворыш. Праз тыдзень мы адзін аднаго голымі рукамі...

Андрэй перастаў ужо здзіўляцца словам і выхадкам Мішы, хоць і не пазнаваў яго. Сусед, пасля таго як абмачыўся на парозе, змяняўся проста на вачах і раскрываўся ўсё па-новаму. І ці не ён гэта пра Паўліка Марозава расказваў? Вельмі падобна... Не ўзлюбіў Міша ад самага пачатку маладзейшага сантэхніка за нешта, таму і спрачаўся з ім ці трэба, ці не трэба.

– Вось згадвалі тут пра сталінскія рэпрэсіі. Я падумаў – тады шмат хто жыў у камуналках. Пяць-шэсць сем'яў на адну кухню, на адну прыбіральню. Дык не дзіўна, што столькі даносаў на суседзяў было. І сапраўды: яшчэ трохі, і мы таксама адзін на аднаго кідацца будзем.

– А ўсё таму, што стабільнасць гэтая дастала. Свету з-за яе не відаць. Ні будучыні, ні перспектывы. Стабільнасць, а цэны растуць, а заробкі падаюць... Вось і выходзіць з сябе народ, вінаватых шукае. Толькі не там, дзе трэба.

– Што вы такое кажаце... Я слухаю вас і не разумею, што вам не падабаецца? Якіх такіх пераменаў захацелася... Стабільнасць вам папярок горла. А мяне асабіста ўсё задавальняе. Галоўнае, каб не было вайны...

– Блін! Якой вайны? Якой вайны!.. Наслухаюцца прапаганды. Вы што, з глуздоў з'ехалі? Якая можа быць вайна? З кім? Каму мы трэба?

– Як каму? Натаўцам.

– Якім, блін, натаўцам? Што ты вярзеш. Наглядзеліся тэлевізара... Ды яны больш за нас баяцца, каб мы самі не пачалі вайну і ў першы ж дзень у палон ім не здаліся. Як тыя клапы ў анекдоце...

– Вы не блытайце ўладу і дзяржаву. Абараняць сваю ўладу, сябе, зусім не значыць абараняць дзяржаву.

– Слушна! У нас якраз так і ёсць...

– Ай, ды перастаньце ўжо. Усё ў нас нармальна. Ды і прывыклі мы. Лепшага дык і не трэба.

– Прывыклі... Вось яно галоўнае слова – прывыклі! Чалавек такая жывёліна, якая да ўсяго прывыкае. А хутчэй за ўсё – да рабства... Абы не было вайны, блін...

– Не, ну вы перагінаеце палку... Ніколі беларусы так добра не жылі, як цяпер. Прызнайце хоць гэта. Я цяпер маю пенсію і яшчэ працу. Палову заробленага штомесяц магу адкласці. Грошы магу дзецям, унукам даць. У магазінах поўна ўсяго. Голаду няма. Ніколі раней так не было, нават пры Сталіне. Я пажыла і ведаю. Канечне ж, я буду галасаваць так, як скажуць па тэлевізары. Пакуль буду жыць, буду так галасаваць.

– Ага, і маладых за сабой у магілу цягнуць. А вы пра нас падумалі?

– Памаўчы, цётка ў нечым мае рацыю. Ніколі на гэтай зямлі не жылі ў спакоі ды сытасці. Бо ніколі не жылі самастойна. А цяпер хоць нейкая незалежнасць ды ёсць. Лепей жывем, бо не вывозяць ад нас усё нейкія заваёўнікі – няважна, блізкія ці далёкія.

– А каго гэта вы называеце заваёўнікамі? Ці не нас, рускіх? – гэта зноў загаварыў стары сантэхнік, яго скрыпучы голас Андрэй пазнаў. – Я жыву тут сорак гадоў, а такога яшчэ не чуў.

– Не памятаю, хто сказаў, – адмахнуўся ад яго намеснік, – але думка яго мне падалася слушнай: немцы ніколі не даруюць габрэям Асвенцым... Так і расейцы ніколі не даруюць беларусам ды ўкраінцам іх незалежнасць.

– Нельга гэта параўноўваць: там халакост, там смерць толькі за тое, што ты габрэй...

– А тут за тое, што ты беларус, украінец... Так у трыццатых гадах было. Але няхай, сапраўды, нельга ваяваць, нельга забіваць. Аднак гэта – пакуль нельга. А што будзе, яшчэ невядома. Бо без крыві між братамі-славянамі не абыдзецца. Уся гісторыя пра гэта сведчыць.

– Прагназіст хрэнаў! Ты замоўкнеш? Хопіць бруд ліць... Выдумваць абы што.

– Я не прагназую і не лію бруд, я канстатую. Расія па-ранейшаму імперыя? Імперыя... А значыць, не супакоіцца, пакуль не застанецца ў межах Маскоўскай вобласці – у сваіх першапачатковых межах...

Пасля гэтых слоў стары сантэхнік кінуўся да намесніка. Ледзь да бойкі не дайшло: "госці" расцягнулі іх. А Андрэй у чарговы раз падзівіўся: ягоны намеснік аказаўся нечакана дужа смелым у выказваннях. Ды і ў дзеяннях таксама.

*

Андрэй паглядзеў на гадзіннік. Было ўсяго каля дванаццаці. А здаецца, ад раніцы паўжыцця прайшло. “Вось часта кажуць, – падумаў ён, – што час цяпер ляціць імкліва... Не пагаджуся. Гэта што маецца на ўвазе? Нашая заўсёдная мітусня ды беганіна ў мэце зарабіць хлеб надзённы? Можа быць. А калі зірнуць па іншаму, дык наадварот, у нас нібыта ўсё застыла і цягнецца, цягнецца марудна, як перагружаны цягнічок пад гару. Здаецца, усё вакол развіваецца імкліва. Яшчэ дзясятак гадоў таму мы не ведалі, што такое мабільнік, інтэрнэт, электронная пошта, сацыяльныя сеткі... Так. А ў нас што змянілася, апроч таго, што мы сталі карыстацца гэтымі прыладамі, гэтымі, як кажуць цяпер, гаджэтамі? У асабістым жыцці большасці, у палітыцы ў краіне – нічога. Гэтакі астравок тупасці пасярод свету. Дыктатура, кажаце? Яно то так. Але – размах не той. Паглядзіце расейскае тэлебачанне – там расказваюць, аж захліпаюцца ад захаплення, пра тое, што паспеў зрабіць за нейкіх дванаццаць гадоў Гітлер з Германіяй. Не толькі пра цудоўныя аўтабаны, але і пра сувязі нацыстаў з Тыбетам, іншапланецянамі, пра пошукі Гітлера і нямецкіх вучоных прарыву ў космас, у іншае вымярэнне. За нейкіх дванаццаць гадоў! А Сталін? Прыняў краіну з сахой, а пакінуў з атамнай бомбай... І ніхто не задумваецца нават гледзячы гэта: а ў нас, што ў нас? Пятнаццаць гадоў таптання на месцы ў лепшым выпадку. А па сутнасці – адступленне, вяртанне назад. У СССР. У імперскую Расію. І ўсё дзеля чаго?.. Каб нехта адзін раскашаваў, а астатнія паслухмяна, дысцыплінавана, лаяльна – маўчалі?”

На працягу гэтых больш як сутак Андрэй амаль не ўмешваўся ў размовы. Яму больш цікава было назіраць, як паводзяць сябе іншыя. Для яго ўсё гэта было новым, нязвыклым. Бо ён не так часта бываў апошнім часам сярод людзей. Што было ў яго найперш: праца. У лабараторыі, загадчыкам якой Андрэй быў, у яго асобны кабінет. І там, ля кампутара, ён амаль увесь час адзін, апроч планёрак па панядзелках. Сяброў асаблівых не мае. Некалі па маладосці, яшчэ падчас студэнцтва, пазнаёміўся-зблізіўся з хлопцамі і дзяўчатамі з “Талакі”. Яму цікава было наведваць іх паседжанні, ладзіць разам святы – “Гуканне вясны”, “Купалле”... Гаварыць на мове, спяваць народныя песні. Карэнны мінчук, ён адчуваў сябе беларусам, дзякуючы бабулі і дзядулю, у якіх у вёсцы бываў штолета. А таму “Талака” стала аддушынай, вакном у новы свет, які яму падабаўся. Дарэчы, там ён пазнаёміўся і са сваёй будучай жонкай. Пасля, калі Беларусь стала незалежнай, Андрэй з галавой уехаў у сваю хімію, толькі зрэдзьчас хадзіў на мітынгі пратэсту, якія таксама пачалі паступова затухаць. З усіх ранейшых сяброў-талакоўцаў найцяснейшыя сувязі засталіся толькі з Кастусём К., які стаў праваабаронцам і адным з лідэраў апазіцыі.

Андрэй жыў у сваім свеце, і для яго хімічныя рэактывы былі больш рэальнымі, чым бабулька-бамжыха, пах якой ён чуў кожны вечар на лесвіцы, вяртаючыся дамоў з працы... Тэлевізар практычна не глядзеў. Інфармацыю пра свет і жыццё ў ім ды краіне чэрпаў з двух-трох сайтаў у інтэрнэце. А таму цяпер слухаў гэтыя спрэчкі ў пакоі, як неафіт, як чалавек, які вярнуўся на зямлю пасля працяглага палёту на Месяц ці Марс. Зрэшты, шмат, калі не большасць з таго, што гаварылася цяпер, казалася яго сябрамі некалі, гадоў дваццаць таму. І пра страх, які за савецкім часам быў не меншым, і пра свабоду, і пра выбары, і пра ўладу... Нічога не змянілася з часоў ягонай

маладосці. Нічога. Краіна нібыта закансервавалася... Нібыта і не было гэтых гадоў, якія яны пражылі не сказаць, каб у пакутах, але, мяркуючы па ўсім, дарэмна. І некалі давядзецца пачынаць усё спачатку. Амаль з нуля...

*

Ізноў кагосьці пацягнула на показкі. Каб крыху зняць узніклае было напружанне. Показкі былі старыя, савецкія. Але з новымі ноткамі ды адценнямі, з новымі адчуваннямі ды разуменнем... Нібыта новымі, а на самой справе – нязменнымі. Іх расказвалі па чарзе сантэхнік, Міша і намеснік – галоўныя героі гэтай немалой кампаніі. Адна з показак дужа падыходзіла да сітуацыі. Сітуёвіны, як сказаў сантэхнік:

– ...Двое ў камеры. Адзін сядзіць на нарах, а другі ходзіць з кута ў кут, усё супакоіцца не можа. Той, што сядзіць, кажа: паслухай, не нервуйся ты так: усё ж адносна... Хочаш, як фізік дакажу табе гэта? – Як? – Ну вось, што робіш цяпер? – Хаджу. – Гэта табе толькі здаецца, што ты ходзіш, а на самой справе ты сядзіш...

Усе мы сядзім. Сядзім у яме бязвылазна, бязглузда не гэтыя суткі, а пятнаццаць гадоў ужо. І яшчэ столькі, не менш, наперадзе. Дзеля чаго, навошта? Усё адносна... Мы нібыта жывем, рухаемся, спім, ядзім, кахаем, нервуемся... а насамрэч час даўно спыніўся на гэтай зямлі, а то і пачаў адкочвацца назад...

Показка чапляла показку, але нават рогат напрыканцы кожнай быў нейкім натужным – самотным, калі такім бывае смех.

*

Пятроў ці Сідараў зацікавіўся раптам, а што там у другім пакоі – дзіцячым. Там, за дзвярыма, увесь час цішыня, толькі дзяўчаты час ад часу выходзяць, каб “наведаць” прыбіральню. Пакінуў свайго “калегу” на варыўні, а сам пайшоў да моладзі. Зайшоў знянацку, без стуку ў дзверы, і ўбачыў на стале не схаваны кампутар. Не паспелі дзяўчаты зрэагаваць на ягоны ўваход...

Радасць ягоную Андрэй не бачыў, але пачуў. Усе пачулі. Так, пэўна, Геракл не радаваўся, калі ачысціў Аўгіевы стайні. Схапіўшы ноўтбук, ён тут жа паляцеў на варыўню да тэлефона і кінуўся дакладваць начальству...

О, гэта была песня! Песня шчаслівага салаўя, у якога ад радасці словы перастраюць у горле, і ён захліпаецца і глытае іх.

Выслужвацца і апускаць сваіх калегаў, якія не калегі і не сябры, а супернікі – гэтаму іх добра навучылі. Бо то быў не даклад пра знойдзены кампутар, а данос на сваіх папярэднікаў, якія не даглядзелі – не дабдзілі...

*

Пад абед прыйшоў Пузель з адным памочнікам. Прынеслі некалькі пакункаў ежы. Да Пузеля адразу кінуўся Андрэеў намеснік.

– Колькі яшчэ нам тут сядзець? Колькі гэта будзе працягвацца? Мы разам адзін дзень, а ўжо ўсе перасварыліся. Мы ж не ў космасе – адпусціце нас.

– Колькі трэба, столькі і будзеце сядзець.

– Той, каго вы чакаеце, пэўна, даўно ўжо за мяжой, – падаў голас Міша.

– Па нашых звестках мяжу ён не перасякаў.

– І з Расіяй? Там жа мяжы няма.

– І з Расіяй. Гэта вам здаецца, што мяжы няма... І калі б ён засвяціўся дзе-небудзь там, расіяне нам адразу б яго... перадалі.

Тут умяшаўся адзін з “гасцей”:

– У іх кампутар быў. Мы толькі сёння знайшлі яго. Яны маглі ўсіх папярэдзіць... І таго таксама. Так што тут чакаць няма сэнсу. Сюды ён не прыйдзе.

– Сэнс заўсёды ёсць... Сідараў... Ці – Пятроў, цьфу... Сядзіце тут, пакуль не будзе загаду разысціся.

Пачуўшы гэта, да Пузеля падышоў старэйшы сантэхнік:

– Дык што, мы так і будзем усухамятку харчавацца? Мы ж за тыдзень страўнікі пасадзім.

– Сапраўды. У турме і то гарачае даюць, – падтрымаў яго малодшы калега.

– А ты быў там? – выгукнуў нехта.

– Быў. І не раз. Трэба было слухаць.

Пузель скарыстаў момант, каб не ўвязвацца ў размову, і выйшаў. А старэйшы сантэхнік настойваў:

– І як там?

– Табе цікава? Хочаш быць гатовым...

– Ты думаеш, нас усіх пасадзяць? За што?

– Было б за што – даўно б расстралялі... А так...

– Дык расказвай. Не аднаму мне цікава. Усё роўна няма чаго рабіць.

– Вас цікавіць найперш, як кормяць? Ну, лепей, чым тут. Гэта вы і самі заўважылі: прынамсі, не ў сухамятку. А цяпер дык і лепей, чым я некалі ў студэнцтве харчаваўся. Ранкам бывае каша – пярлоўка там, грэчка... Люблю глядзець, як яна па талерцы распаўзаецца, расплываецца, дыхаючы парай, не раўнуючы як...

– Ды канчай ты ерунду травіць, тожа мне тэму знайшлі.

– А ў абед супчык ласкавы даюць... Лёгенькі такі супчык. Рыбны альбо...

– Цьфу ты, знайшоў чым хваліцца. Бачыў я тую сінюшную баланду – пустахлішча... Счас ад аднога ўспаміну вырве...

Мой намеснік кінуўся да маладзейшага сантэхніка і схапіў яго загрудкі. Аказваецца, гэта сантэхнік пра турму ноччу расказваў. Але куды там намесніку было да здаровага, амаль двухметровага, калі падняўся ва ўвесь рост, сантэхніка. Да бойкі не дайшло, хоць усе з задавальненнем паназіралі б за ёй. Намеснік патрымаўся за кашулю сантэхніка і адышоў убок, а той з выглядам поўнае перавагі чынна сеў на крэсла.

## Дзень

Незадавальненне між тым расло. Найперш сярод тых, хто лічыў сябе “невінаватым”, хто адчуваў сваю перавагу, бо галасаваў правільна. І не столькі да “гасцей” была скіраваная тая незадаволенасць, колькі да Андрэя, да гаспадара (ты ўва ўсім вінаваты, маўляў...), і да тых, хто яго падтрымліваў. Вельмі хутка – літаральна за суткі, усе ператварыліся ў ворагаў. Адчувалася гэта пакуль па позірках з-пад ілба ў бок Андрэя. Да справаў і дзеянняў пакуль не дайшло. Прычына была зразумелай: апроч аднадумцаў, былі тут і абсалютна выпадковыя людзі. Якіх таксама вырвалі з жыцця, парушылі іх планы. Родныя якіх не ведалі, дзе яны. І якіх палохала невядомасць: колькі яшчэ гэта будзе працягвацца? Калі і чым скончыцца? Добра, вы шукаеце злачынцу, але пры чым тут мы? Пытанне вісела ў паветры і рана ці позна павінна было прагучаць.

Першым пачаў абурацца стары сантэхнік. Праўда, абурэнне ягонае было больш падобным да просьбы адпусціць.

– А, уласна, чаму мы тут сядзім? – загаварыў ён ціха і нерашуча. – Чаму нас трымаюць тут? Можа, мне хто-небудзь патлумачыць? – і, звяртаючыся да гасцей на варыўні: – Вам трэба, дык трымайце іх, ворагаў... А мы, чаму мы, тыя, хто заўсёды "за" і ніколі "супраць", павінны сядзець? Адпусціце. Мы нікому нічога не скажам... Мы ж свае...

– Свой знайшоўся... Сядзі і не рыпайся.

– Я народны засядацель ужо дваццаць гадоў! Я са школы ў вашых памочніках – у народнай дружыне... За ўсё жыццё ні разу мяне не затрымлівалі... Нават па п'янаму дзелу... А тут – дажыўся... Вось зараз вазьму ды і пайду адсюль, што вы мне, старому, зробіце?!

– Пайдзі і пабачыш, што зробім... Сказана сядзець, і сядзі. Да асобага распараджэння.

Сантэхнік перакідваўся гэтымі словамі, седзячы на падлозе. Нават не падняўся, а проста павярнуў галаву да "гасцей". Ад пачатку было відаць, што ён ні на што не спадзяваўся і сам нічога рабіць не будзе. Асабліва пасля словаў "да асобага распараджэння". Але большасць гэтая перамоўка супакоіла: усё ж нейкая пэўнасць – "асобае распараджэнне"...

Зноў усталявалася, як Андрэю падалося, напружаная цішыня.

Скарыстаўшы момант, калі Андрэй пайшоў у прыбіральню, да "гасцей" падышоў ягоны намеснік. Калі Андрэй выйшаў, яго размова з "гасцямі" ўжо заканчвалася. Як зразумеў Андрэй – нічым. І тады намеснік вырашыў скарыстаць апошні козыр. Ціхім шэптам, які гучаў у напружанай цішыні так гучна, бы шкробат мышы ў начным пакоі, нахіліўшыся да вуха бліжэйшага "госця", ён прашаптаў:

– ...Я Ясенін. Патэлефануйце Пал Палычу. Вы яго ведаеце... Скажыце, што Ясенін хоча з ім перагаварыць. Альбо дайце мне тэлефон, я сам набяру ягоны нумар.

"Ясенін", – дзіўная мянушка, падумаў Андрэй, бо намеснік ягоны, здаецца, ніколі вершаў не пісаў. Хіба што – сапраўднае прозвішча ягонае было ў пэўным сэнсе літаратурна-пісьменніцкім, але зусім іншым.

– Ведаю такога. А што вы хочаце яму сказаць?

– Ды абрыдла. У гэтым сядзенні даўно няма ніякой логікі. Вы ж самі ўсё бачыце і разумееце. А ў мяне спраў мільён... Пал Палыч мяне адпусціць.

Здзіўлены "госць" з хвіліну маўчаў, мусіць, асэнсоўваючы сказанае, а потым горача зашаптаў намесніку:

– Што вы робіце? Навошта так паліцца? Як мы вас адпусцім? Аднаго... Адразу ўсе здагадаюцца. Разумею, што абрыдла. Але пацярпіце трохі. Пацярпіце! Мы і без званка што-небудзь прыдумаем.

Гэтую размову пачуў не толькі Андрэй, але, пэўна, большасць тых, хто быў у пакоі. Аднак усе, у тым ліку і Андрэй, зрабілі выгляд, што словы яе да іх не даляцелі. Пачутае ж Андрэя агаломшыла: "Дык вось, аказваецца, хто «засланы казачок», – падумаў ён. – Вось адкуль смеласць ды «шчырасць»... Што ж, дзякуй, буду ведаць... буду ведаць".

"Ясенін", угнуўшы галаву, слухмяна вярнуўся на сваё месца. Рацыю ён меў хоць бы ў тым, што сядзенне гэтае і засада гэтая даўно ўжо сталі абсурднымі.

*

Цішыня ўсё ж была ўмоўнай. Хоць сядзелі ўсе спакойна, чынна ўздоўж сценаў – нібыта на прыём да ўрача. Ці да тых "гасцей" на варывенцы. Але

калі Андрэй праходзіў па пакоі, з розных бакоў чуў ціхмяныя перамоўкі між суседзямі. Ужо не пра палітыку ці эканоміку, і не пра выбары. Звычайнае жыццё паступова брала верх.

– ...Не-е! Ключ на дваццаць два да імпартных не падыходзіць. Яны робяць меншага дыяметру – эканомяць...

– ...Бывае – сто тысяч дадуць, а бывае – ні рубля...

– ...Пытаю ў яе: у вас рэйтузы 54-га памеру ёсць? А яна мне: дзевачка, мы іх гадоў дваццаць ужо не прадаем... Дзевачка! На мяне! Як вам? Дык я яе за гэтую дзевачку...

– ...Як казаў Заратустра ў Ніцшэ – не змагайся са слабым, сам слабей станеш, нават перамогшы, змагайся з моцным, набярэшся сілаў, нават прайграўшы...

– ...А яны мне дулю пад нос і да дзвярэй піхаюць! А яшчэ культурныя людзі: Саюз пісьменнікаў Беларусі на шыльдзе напісана...

– ...Ніколі не думаў, што вытрываю цэлыя суткі без кампутара і мабільніка...

– ...Мароз-ваявода дазорам абходзіць уладанні свае... – гэта пра Андрэя, відаць, бо ён якраз праходзіў міма.

І тут нібыта прачнуліся, вярнуліся да сябе прадаўцы посуду. Яны паспрабавалі скарыстаць момант, што сабралася так шмат патэнцыйных пакупнікоў, і прарэкламаваць свой тавар. Але на іх адразу зацыкалі ўсе. І тады горапрадпрымальнікі пачалі скардзіцца на лёс і на тое, як душыць іх дзяржава.

– Раней мы па кватэрах не хадзілі. Быў у нас свой кіёск на рынку. Але задзяўбалі розныя праверкі ды прыдзіркі... Зачынілі.

– Нефіг скардзіцца. Душаць вас і правільна робяць, – асадзіў іх раззлаваны намеснік. – Бо вы ж хочаце купіць задарма, а прадаць утрыдорага. Калі менш за дзвесце працэнтаў не наварваеце, дык і бізнесу няма. Ведаю я вас. А не хацелі б, як на захадзе, за пяць працэнтаў прыбытку гандляваць? Не?

Чамусьці ніхто з ім не спрачаўся. Нават прадаўцы посуду. І Маша як калега іх не падтрымала.

*

Гадзіны ў дзве дня з дзіцячага пакоя раптам пачуўся немы дзявочы крык. Кароткі, рэзка абарваны, як ад спалоху. І адразу ж нешта цяжка і глуха гупнула недзе ўнізе. Праз імгненне здранцвення ўсе кінуліся да дзвярэй, утварыўшы ў іх корак. Андрэй падбег адным з першых і ўбачыў, што ля расчыненага вакна (расчыненага зімой? навошта? – пранеслася ў галаве) стаяць ягоная дачка і адна яе сяброўка, імя якой ён не ведаў: сяброўка ды сяброўка, і з жахам глядзяць у двор. Другой дзяўчыны не было відаць. Андрэй падбег да вакна. Унізе, на белым-белым снезе ляжала сяброўка дачкі. Андрэй здагадаўся адразу: ёй абрыдла сядзець тут і яна вырашыла цішком збегчы. Стаяла каля вакна і ўбачыла, што зусім блізка ад яго, літаральна ў паўметры, знаходзіцца пажарная лесвіца. Калі ўзлезці на падваконне, дык можна лёгка дацягнуцца да перакладзінаў і спусціцца ўніз. Расчыніла вакно, стала на яго, пацягнулася да лесвіцы, але падкаўзнулася, страціла раўнавагу і ўпала ўніз на скаваную марозам зямлю...

Праз хвілю ўсе, разам з "гасцямі", былі на вуліцы каля дзяўчыны. Яна дыхала часценька і глядзела шырока расплюшчанымі вачыма. Ад яе ног па снезе, як па мокрай ваце, разыходзілася пляма крыві.

– Хуткую, выклікайце хуткую! – закрычаў нехта. І адзін з “гасцей” пабег у кватэру да тэлефона ці да мабільнікаў, якія горкай ляжалі на стале ў варыўні.

Дзяўчыну паднялі і аднеслі да бліжэйшае лаўкі, паклалі. Ногі ў яе відавочна былі зламаныя. Прычым пераломы адкрытыя, бо калашыны набраклі крывёю, якая пачынала ўжо крапаць на дол. Дзяўчына не плакала, бо, пэўна, болю яшчэ не адчувала, а толькі здзіўлена разглядвала ўсіх, быццам бачыла ўпершыню.

Прыехала “хуткая”. Забрала дзяўчыну. І ўсе, адным маўклівым натоўпам, адным панылым статкам вярнуліся ў кватэру. Усе... Усе! Нават суседзі Андрэя з верхняга паверха Міша і Маша не падняліся дамоў, а ціхмяна зайшлі разам з усімі ў кватэру. Ну, Андрэй з жонкай і дачкой прыйшлі дахаты, а астатнія? Чаму? Чаму вярнуліся? Навошта? Ніхто ж іх не прымушаў. І якая можа быць “канспірацыя” пасля таго, што здарылася?

На варыўні, на “свой пост”, селі “госці”. Астатнія расселіся па крэслах, фатэлях, на канапе, падлозе. Быццам нічога не адбылося. Але ж – адбылося! І з-за іх усіх. Аднолькава запалоханых, пакорных чужой волі. Што сядзелі паслухмяна, хоць маглі даўно абурыцца і разысціся. Разам з дзяўчатамі. Ранкам. Удзень. Тым болей цяпер. Пасля здарэння... Але ўсе сядзелі прыгаломшаныя, абыякавыя да свайго лёсу і будучыні. Толькі нехта раптам вымавіў словы, якія былі агульнай думкай:

– Бедная дзяўчынка... Бедная...

Сапраўды, бедная... Але толькі яна адна рызыкнула, адважылася вырвацца з бязглуздага, бяздумнага ўвязнення ў гэтай кватэры. Толькі яна адна. Няхай не адкрыта, не выйшла з пакоя насуперак усім і не пайшла да дзвярэй з горда ўзнятай галавой, а таемна. Што ж, шлях да волі ў кожнага асабісты і яна абрала свой... “Так, – падумаў Андрэй, – маладое пакаленне яны ўжо страцілі. І не дапамогуць вярнуць яго ніякія гульні ў адроджаныя “камсамолы”. Але – час ідзе, у краіне нічога не змяняецца, і моладзь пастаўленая перад выбарам: альбо з’язджаць з гэтай “кватэры” – “уцякаць праз вакно”, альбо заставацца тут і рабіць кар’еру. На жаль, з’язджаюць найчасцей лепшыя і адэкватныя, а застаюцца горшыя і прыстасаванцы. А таму... Не мае будучыні такая краіна. Не мае...”

Пад вечар, калі агульны пакой канчаткова ператварыўся ў турэмную камеру, калі ўсім ужо стала абсалютна абыякава, што і як будзе далей, у кватэру, дзверы якой не былі зачыненыя, раптам увайшоў Пузель з прасветленым тварам.

– Ну што, знайшоўся ваш сябар, – сказаў ён, звяртаючыся да ўсіх, нават да тых, хто таго “сябра” ніколі ў вочы не бачыў, – знайшоўся: у Польшчы па тэлевізары выступіў... – ён сказаў гэта з відочным задавальненнем, відаць, і яму самому абрыдла гэтае бяздумнае трыманне “засады”. – Прыйшла вам амністыя... Можаце разыходзіцца, – казырнуў і першым, не развітаўшыся, выйшаў з кватэры. За ім, кіўнуўшы галовамі, Андрэю падалося нават – вінавата, выйшлі ягоныя калегі.

– А-а-а... – хацеў нешта сказаць ім услед Міша, мусіць, пра даведкі на працу, але махнуў рукой, прапусціў наперад жонку і выйшаў.

За ім моўчкі пацягнуліся астатнія. Праз хвіліну ў пакоі засталіся толькі Андрэй з жонкай і дачкой ды закіслы турэмны пах, пакінуты дзясяткам людзей. Андрэй адразу ж кінуўся расчыняць вокны, каб пусціць свежае зі-

моваe, марознае, здаровае паветра. І яно ўварвалася ў кватэру разам з шумам вуліцы. Міжволі Андрэй вызірнуў на праспект. Беглі машыны, уваткнуўшыся ў каўняры ды шалікі, некуды спяшалі постаці і цені мінакоў. На прыпынку пад вакном спыніўся аўтобус, упусціў-выпусціў пасажыраў і, міргаючы паваротнікам, рушыў далей. Нічога ў свеце не змянілася за гэтыя дзень, ноч і дзень. Нічога. Дакладней, усё вярнулася на кругі свае. Стабільнасць, блін...

Дачка між тым пайшла на варыўню, дзе “госці” пакінулі мабільнікі і кампутар. Пасля іх адыходу ўсе затрыманыя разабралі свае тэлефоны, засталіся толькі Андрэевых сямейнікаў. Уздых расчаравання пачуўся адтуль: кампутара не было, на стале ляжалі толькі два мабільнікі з трох. Нехта з прысутных скарыстаўся мітуснёй. “Ну вось, – міжволі падумаў Андрэй, – цыганка ўрэшце ўсё ж не дарэмна праседзела тут паўтара сутак...” Бо менавіта яна сыходзіла адной з апошніх, неяк падазрона затульваючыся і азіраючыся. Падумаў і адразу ж збянтэжана асёкся: на зэдліку за спінай дачкі ляжаў той самы кампутар – нехта, мусіць, пераклаў яго ў апошні момант.

Андрэй агледзеў гасцёўню... І сэрца яго дрогнула – пакінулі пакой не ўсе. У куце, на фатэлі, прыкрытая коўдрай, нерухома паўляжала бабулябамжыха. Вочы заплюшчаныя і галава ненатуральна павернутая да столі. Рот прыадкрыты, як на паўслове. Быццам бы спіць... Быццам бы? Ці?.. Няўжо?.. Падобна... не дыхае? Не можа быць!.. Толькі гэтага не хапала... Але чаму яна не прачнулася ад гармідару, які ўсчаўся, калі пачуўся той адчайны крык дзяўчыны? І на вуліцу не выходзіла... Не ачулася і потым, калі Пузель аб’явіў, што ўсім можна разыходзіцца, і ў пакоі ўзняўся радасны тупат ды грукат?

Андрэй стаяў у нерашучасці: як падысці да бабулі? Стаяў і не адважваўся зрушыць. А раптам?.. Не хацелася і думаць пра тое... Але што рабіць?

Бабулька не варушылася, і дыхання яе Андрэй не заўважаў. За гэтыя паўтара сутак ён не пачуў ад яе ніводнага слова, ні адное скаргі ці просьбы. Яна так і праседзела ціхенька ў куце. Пад коўдрай, каб прыбіць трохі пахі... Ці слухала яна тыя размовы? Ці ела разам з усімі? Ці выходзіла разам з усімі на вуліцу? Андрэй нават не памятаў, ці хадзіла яна ў прыбіральню... Моўчкі праседзела ўвесь час? І во... памерла?.. О, Госпадзе Божа мой!

Андрэй маленькімі асцярожлівымі крокамі падышоў да бабулі, крануў яе за плячо і пачуў ціхае пасопванне.

Бабулька спала.

Бабулька спала... І цяпер здавалася яна зусім не страшнай бамжыхай, як падумалася спачатку, а малым заснулым дзіцём, якое стамілася ад размоваў дарослых. І хай недзе ў свеце адбываюцца рэвалюцыі ці эвалюцыі, плошчы ці майданы, войны ці палёты на Месяц і Марс, яна будзе спаць...

...Яна будзе спаць. І нішто, і ніхто яе не разбудзіць. Бо толькі тут і толькі цяпер яна адчула сябе абароненай. Няма побач сына – п’яніцы і гвалтаўніка. Няма клопату, як пракарміцца. Ёсць цяпло і спакой. Ёй так добра, быццам яна і сапраўды памерла. Што яшчэ трэба для шчасця?

Што яшчэ трэба для шчасця?



Уладзімір Някляеў



...Нішто не памірае ў той жа дзень,
Як памірае. Лёс не гэткі горкі.
Пагасне зорка, але йдзе прамень...
Я прамянём вяртаюся да зоркі...

# Калі мяне не стане

***Ліст да Вольгі***

Калі мяне не стане, не сумуй!
Я так хачу, каб ты не сумавала,
Каб з губ, што мне шапталі *пацалуй*,
Усмешка сарамліва не знікала,
Каб не губляла ты мяне нідзе,
Каб не шукала ў снах, на фотаздымках,
Каб днём і ўночы ты ў маіх абдымках
Хавалася, як ластаўка ў гняздзе.

Калі мяне не стане – ты жыві,
Забыўшыся, што я цябе пакінуў.
Я – у табе, я – у тваёй крыві,
А не ў халодных вежах успамінаў,
Не ў тых лістах, якія напісаў,
Не ў словах тых, якія можна сцерці,
А ў той радзімцы, што пацалаваў,
Упершыню ў сабе адчуўшы сэрца.

Яно – тваё. І я не забяру
Яго ў цябе. Не стаўшы, не памру,
А проста так не стану, як растане
У небе дым, ці гэтак, як не стане
За дымам сцежкі, возера ў тумане,
За возерам вячэрняга агню,
А там, за ім, дзе зноў святлее ранне,
Слядоў тваіх, якіх не даганю...

Калі мяне не стане, ты налі
Віна, якое ў святы мы пілі,
У тонказвонкі келіх свой любімы
І выпі за ўсё тое, чым былі мы
Шчаслівыя, чым дыхалі, жылі,
Што мне праз час,
праз вечнасць будзе сніцца
Так, як сляпому сніцца бліскавіца,
Што ўпала ў цемру на крайку зямлі.

Калі мяне не стане, не віні
Сябе ні ў чым. Як ноччу пры агні,
У скрусе не сядзі перад віною,
Якой няма ў цябе перада мною
І не было, бо ночы ўсе і дні,
Пражытыя з табой, былі, як святы,
Бо я не меў бліжэй, чым ты, радні,
І калі нехта з нас і вінаваты,
Дык толькі я, а ты – ані, ані...

“Цябе не я, а Бог мне выбіраў.
Калі б не выбраў, так бы пакараў,
Як анікога ў свеце не каралі”, –
Шаптаў табе я, калі цалаваў
Твае пагоркі, гэтак хітраваў,
Баяўся так, каб не раскрыжавалі
За тое, што цябе я ў Бога ўкраў,
Калі і Ён, і ўсе анёлы спалі!..
Але прачнуўся Бог – і дараваў.

Адзіная! Прашу цябе, малю,
Усім, што меў і маю, заклінаю,
Любі мяне, як я цябе люблю,
Кахай мяне, як я цябе кахаю,
Даруй мне так, як дараваў мне Бог,
Што даў каханне, каб у ім загінуць
І праз яго ўваскрэснуць, каб пакінуць
Цябе ў жыцці і смерці я не мог!

Яно не згіне, знак яно пакіне,
Як след на гліне, дзе ступаў святы,
Ці крыж на камяні ў сцяне святыні,
У храме, дзе Любоў хрысціла ты,
Дзе на Вялікдзень, голасам літым
Гукаючыся ў кожным Божым слове,
Усе званы захлёбваліся ў звоне,
Калі ўвайшла ты крокам трапяткім
Са свечкаю,
Уся
У залатым –
І хросная, і хрэсніца Любові!

Ты ў ёй жыла, яна жыла ў табе,
Яна на міг цябе не пакідала
І плакала з табой, і святкавала,
Пакутвала – крывінкай на губе
У час пакут нясцерпных праступала,
І ў ёй крывінкай праступала ты...

Калі маланкі білі з цемнаты,
Калі палалі прада мной масты,
Ты бегла першай і агонь гасіла,
І бараніла!.. Ад варожай сілы
Ніхто не бараніў мяне, як ты!

Ты ўсё трывала! Крыўды ўсе і здзекі...
Калі масты абрушваліся ў рэкі,
Палаючы, круціліся ў вірах,
Куды сторч галавой кідаўся страх,
Каб зратавацца на плытах, ці ў лодцы,
А ты за мной – па лёдзе, па паводцы,
Па крыгах, па раз'ятранай рацэ...

Калі агонь з вадой былі бядою,
Ты прыручала іх, агонь з вадою,
Яго ў адной, яе ў другой руцэ.

Каханая! Я стаў табой. Ты мною.
Я стаў агнём, прыручаным вадою,
А ты вадой, прыручанай агнём,
Мы дзве стыхіі прывялі ў наш дом,
Дзе ўпершыню абняўшыся, адчулі,
Як мы падпоры свету скаланулі,
І ў выбуху рассыпаўся сусвет
На зоркі, астэроіды, каметы,
І мы былі нібы ў пачатку свету –
І там былі мы, дзе скончаўся свет.

Далей ісці нам не было куды,
Але мы йшлі далей, за край, туды,
Дзе не было ўжо неба і зямлі,
Дзе тыя, што да нас з табой жылі,
Ані ў жыцці, ні ў смерці не бывалі,
Дзе ні агню няма і ні вады,
Адзін нябыт ды Божыя сляды –
І мы слядамі Божымі ставалі.

Я так цябе кахаў – да спапялення.
У турмах, у катоўнях, у скляпеннях
За кратамі, якія ўночы грыз,
Я падымаўся, калі йшоў уніз,
Ні перад кім не падаў на калені,
Бо я стаяў на іх перад табой,
І не маліў я літасці чужой,
Бо толькі да цябе мае маленні.

Каханая! Калі ці там, ці тут
Дзе будзе правы, ці няправы суд,
Што звінаваціць у віне любой,
Які мяне асудзіць за разбой,
За здраду – і звяршаць той вырак каты,
Ты ведай і па страце, і да страты:
Я толькі прад табою вінаваты,
А болей ані ў чым ні перад кім
На гэтым свеце і на свеце тым.

Але хацеў я гэтага, ці не,
Віна жыла ўва мне – і я ў віне,
І калі ты не даравала мне,
Тады, калі маліў пра дараванне,
Пра літасць, ратавальніцу кахання,
Якое ў нас да самагубства мкне,
Бо жарсць яго катуе невыносна,
Дык я цяпер, пакуль яшчэ не позна
Маліць, прасіць,
малю адчайна, слёзна:
“Даруй!.. Даруй!.. Даруй!..” – цябе прашу,
Пакуль мяне з табой не раз’ядналі,
Пакуль жыву, пакуль маю душу
Не асудзілі, ці не апраўдалі.

На тым шляху, што выбраны не намі,
На тым, які нам Божа даў, вяку
Я праз цябе з віною і грахамі
Прайшоў, нібы праз горную раку,
Дзе берагі іскрылі, як каралі,

Дзе й следу не пакінула брыда!..
Я не баюся Божага суда,
Бо ты мяне абмыла, як вада,
Якою пры хрышчэнні абмывалі.

Калі й застаўся нейкі грэх, дык твой.
Той першародны, што й не грэх нібыта,
Бо ты была паганскаю вадой,
Дурманных зёлак росамі абліта,
Той варажбой, той жарсцю маладой,
З якою мы кахаліся на плёсе,
Імглу жадання на шматкі рвучы,
А потым доўга ў ліпеньскай начы
Плылі, як два купальскія знічы,
Па рэчцы, па вадзе, па нашым лёсе.

*Ніводны міг у лёсе не былы!..*
*Каханая, ты чуеш ток імглы?..*

*Як ён ідзе... стуль, дзе імгла... здалёк...*
*Як нас наскрозь пранізвае той ток!..*

Мы так жылі, нібыта са скалы
Зрываліся – і ў бездані ляцелі,
І соладка імгла блукала ў целе,
І пульсавалі іскаркі імглы
Між дотыкамі цела трапяткімі,
Між кончыкамі пальцаў і тваёй
Шаўковай скурай, скураю маёй
І матылькамі-пальцамі тваімі.

Калі ёсць рай, дык начаваў я ў ім.
Каханая, мы ў ім яшчэ ляцім,
Нас змей залатаскуры спакушае –
І залатыя яблыкі зрывае,
І коўдрай накрывае, калі спім.

Ён ведае, што Бог нам дараваў,
І засцілае дыванам дарожку
Да нашых жарсцяў... І калі, як кошка,
Ноч падкрадзецца, ляжа каля ложка,
Як дзень адыйдзе, поўных тлумных спраў,
Спакуслівa з-пад коўдры высунь ножку –
І я ўваскрэсну, як не паміраў.

Хоць шэптамі, хоць моўчкі пазаві –
Гукнуся я ў імгле тваёй крыві,
Ты й не заўважыш, што была прапажа!

Усё, што разарвалася, звяжу,
А ўвечары, як сон на вейкі ляжа,
Я казку пра каханне раскажу,
Бо хто табе яшчэ яе раскажа?..

Я так яе пачну – і ты пачуй:
Каля мяне не стане, не сумуй
У гэтым свеце, бо пакуль ёсць ты,
Так свет тваёй красою налíты,
Як ягада на ўснежанай калíне,
З якой ужо скружыліся лісты
На сінюю ваду, што ў рэчцы стыне...

Каханая! Мне гэты свет чужы
Быў без цябе! Я быў, як на крыжы
У свеце гэтым, дзе адны магілы,
І толькі праз цябе ён стаў мне мілы,
Стаў Божым светам з вобразам святым,
І калі ветрам вечнасці пустым
Мяне сарве, як ліст зрывае з дрэва –
Я буду там кружыць, дзе ты і Крэва,
Нідзе не быць мне болей і ні з кім.

Няхай і гэты свет – і той міне,
Ды не міне імгненне, што між імі,
Паміж удыхам з выдыхам мільгне,
Паміж тваімі вуснамі з маімі,
Што зблізіліся так – да нематы,
Зліліся гэтак, што ні я, ні ты
Іх разамкнуць, разліць, разняць не ў стане,
Што я тваё, а ты маё дыханне.

Ніводны міг у лёсе не дарма.
Я болей стаў тваім, чым ты сама,
І больш, чым сам я, ты маёю стала,
Такая сіла нас спляла, з'яднала,
Што большай сілы на зямлі няма
Ані ў людзей, ні ў птушак, ні ў звяроў,
Каб разняла нас ці жывых, ці мёртвых, –
Хіба што можа разарваць аорты,
Але й тады зліюцца кроў і кроў.

*Нішто не памірае ў той жа дзень,*
*Як памірае. Лёс не гэткі горкі.*
*Пагасне зорка, але йдзе прамень...*
*Я прамянём вяртаюся да зоркі.*

*5.03 – 20.03.2019,*
*Мінск, Вільня.*

*21.12.2010, унутраная турма КГБ, 9-я камера.*

Яска мая, ясачка, зорачка,

Воля мая!

Не хвалюйся, я ў турме. Усё добра. Сакамернікі далі мне адзежу, так што не голы. На ногі таксама нейкія красоўкі старыя знайшлі (да мяне тут нехта сядзеў, іх пакінуў). Без шнуркоў, праўда, тут шнуркі нельга, але я паперы (газет з-пад матраца) у насы напхаў, неяк трымаюцца. Так што адзеты, абуты і наеты – штодня каша ўранку і ўвечары...

Як ты там? Я днём і ўночы пра цябе думаю, я кахаю цябе ўсім, што ўва мне ёсць: душою, сэрцам, слыхам, зрокам, абдымкамі – як цябе ў іх не хапае, Божа мой, як не хапае!

Яны там нічога з табой не зрабілі? Я вар'яцею, думаючы, што яны маглі нешта з табой зрабіць, прынізіць, ударыць, калі так – я ім горла перагрызу! Уварваліся чорнай зграяй, нічога, знойдзецца на іх сіла... Ты толькі сэрца сваё (маё) не рві, беражы яго, мне трэба, каб яно ціха-ціха, роўна-роўна, доўга-доўга білася й білася, я так люблю слухаць яго, прытуляючыся да цябе ўранку, калі ты прачынаешся, і ўвечары, калі засынаеш... Ты ж, мая дзяўчынка, разумніца, ты не дасі ім парваць наша сэрца, ты будзеш трымацца так, нібы нічога не сталася – нічога яны з намі не зробяць. Нічога! А тое, што ўжо зрабілі – што ж... Я ж казаў табе, што ўсялякае можа быць, але ж найгоршага не сталася, хоць хто ведае, што яно – найгоршае? А нас яшчэ столькі чакае найлепшага...

*22.12.2010.*

Яска, ясачка, красуня,

Воля мая!

Я шалею, не ведаючы, што з табой, яны ж маглі й цябе збіць, скрываваць, мяне забраўшы, для іх жа няма розніцы: мужчына, жанчына, дзіця, – як ты там? Я заўчора спытаў на допыце пра цябе, следчы сказаў, што жывая, дык я аж спалохаўся чамусьці: "А якая павінна быць?.." На допыце адвакатка нейкая была (дзяжурная, іхняя), я папрасіў яе, каб абавязкова табе патэлефанавала, бо разумею, што й ты нічога пра мяне не ведаеш, – яна абяцала... У той дзень (заўчора) нешта ў медпункце мне ўкалолі ў вену (у мяне яшчэ з бальніцы "хуткай дапамогі" катэтар стаіць), ты не хвалюйся, хоць што я кажу, як гэта ты не будзеш хвалявацца, калі я тут месца не знаходжу, але ўсё ж не хвалюйся, не хвалюйся – усё будзе добра. Я толькі, калі везлі мяне сюды, трохі паперажываў, бо голы і не ведаю, куды вязуць, а пасля нічога, нармальна. Турма, канешне, турма, але матрац новы далі. Я ляжу на ім і пра цябе, пра цябе, пра цябе ўспамінаю, згадваю, думаю...

*23.12.2010.*

Яска, ясачка, сунічка,

Воля мая!

Не буду маніць, бо ўсё адно ж не паверыш, што тут надта добра, але і не так страшна, як яно, пэўна, з таго боку табе здаецца. Да мяне сядзелі людзі – і пасля мяне сядзець будуць, дык вось і мне паміж імі пасядзець выпала. У наш час, калі нехта не сеў, дык невядома, што рабіў, – хіба не?..

Паціху я прывыкаю да гэтых умоў, абжываю гэтую прастору – тым больш, што абжываць не цяжка, яна, прастора гэтая, не вялікая. Трошкі большая за нашу кухню. Што дзіўна: сёння, калі выйшаў за яе, за дзверы, дык нібыта не абаронены, а тут ніхто мяне не кране, у камень і жалеза схаванага. Усё паступова становіцца нетурэмным, чужым, а маім: мае нары, мая шуфляда ў тумбачцы... Дзіўна мы ўладкаваныя, дзіўна...

Пачуваюся я лепш, чым... Ну, лепш, чым у машыне "хуткай дапамогі" і ў шпіталі, дзе сябе амаль не помню. Помню толькі, як сястра мяне калола і ніяк (бо машыну

трэсла) у вену не магла патрапіць, пасля маску нейкую (кісларод, ці што?) да твару прыціснула, а ты глядзела спалохана – мусібыць, страшны я ў той масцы быў, а ты такая прыгожая, я прыгажэйшых не бачыў ніколі, і аддаленая, бо я, пэўна, свядомасць страціў, але ўсё адно ведаў: бліжэйшай за цябе няма і не будзе, родная мая...

*24.12.2010.*

Яска, ясачка, сонейка,

Воля мая!

Я думаю і думаю пра цябе, але не толькі пра цябе адну, яшчэ й пра іншых, каго люблю, любіў, і ўсё часцей пра бацьку, ён мне сніцца і, ведаеш, не папракае за тое, што я ў турме, а значыць, нешта не так зрабіў, раз даў сябе пасадзіць, і я чакаю папрокаў – і не чую іх, што мяне супакойвае, бо калі б было, у чым папракнуць, ён бы моўчкі мне не сніўся, такімі б мацюкамі абклаў, якіх ты чуць не чула і нават уявіць не можаш, што такія ёсць, хоць і кажаш, нібы я лаюся... Бацька смяяўся б, пачуўшы тое, што ты называеш лаянкай, а ты мяне за гэта яшчэ і ў бок штурхаеш.

Дык вось: я не думаў, што ў маіх гадах для мяне будзе важна, што скажа мой бацька, да таго ж – нябожчык, але, аказваецца, у любым узросце мае значэнне тое, што пра цябе думаюць і кажуць людзі, – зразумела, тыя, якіх ты любіш, паважаеш, хто для цябе не абы-хто, і я рады, што бацьку я, аказваецца, моцна любіў, хоць мне здавалася, што любіў не надта, нават зусім не любіў за ягоную лаянку, за грубасць – найперш да маці. Бывае, што любоў у нас схаваная ад нас саміх, загорнутая, як яйка ў шматкі газет, у пракінутыя некалі словы, у выпадковыя абразы, у прыдуманыя крыўды. Для чаго яно так? Можа, каб яйка не пабілася? Хоць гэта, канешне, сумнеўна, і я, каб не было ў табе аніякіх сумневаў, ні ў што любоў маю, каханне маё да цябе не загортваю, а вось яно – у адной кашульцы наросхрыст спяшае па начным Менску ад турмы да нашага дома, дзе я так хачу быць з табой, так з табой хачу быць...

*25.12.2010.*

Яска, ясачка, красачка,

Воля мая!

Сёння я дзяжурны быў па камеры, нас тут пяцёра (на чацвёра нараў, адзін на збітых дошках, на шчыце на падлозе спіць), і мы па чарзе дзяжурым. Раз на дзень (пад вечар) дзяжурны смецце ў прыбіральню з камеры выносіць. Прыбіральня ў нашай камеры праз сцяну, там звычайна скрыні кардонныя для смецця ставяць, – і вось я высыпаю яго з нашай камернай сметніцы і бачу ў скрыні шматок газеты, літаральна шматок, не большы за далонь, і ён у лайне, разумееш, але я не лайно бачу, а тое, што на шматку газетным надрукаванае, некалькі сказаў без пачатку, тэкст, які канчаецца: "Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко" – і я вачам сваім не веру, нагінаюся, каб прачытаць, што ж там яшчэ, а вартавы, які ў прыбіральню мяне прывёў, палкай па скрыні: "Давай пошё-ё-л!" – што тут прачытаеш?.. Але й таго, што прачытаў, тых некалькіх сказаў хапіла, каб горла перахапіла: гэта былі першыя словы з волі ды яшчэ адкуль: з другога канца свету – дзе тая Амерыка! І трэба ж было менавіта мне дзяжурыць, смецце выносіць (мог, дарэчы, і нехта іншы, але нікога не было бліжэй да дзвярэй камеры, калі вартавы адчыніў іх), і трэба ж было некаму ў прыбіральні менавіта той шматок газеты скарыстаць і ў скрыню кінуць – вось ужо насамрэч: "Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда". Гэта я да таго, што верш напісаўся сам па сабе – адказ Еўтушэнку, толькі наўрад ці ён яго прачытае, бо наўрад ці ў прыбіральнях амерыканскіх універсітэтаў газетамі карыстаюцца... Гэта я ўжо нібыта жартую, бо зноў нешта салёнае ў горле, да сентыментальнай слязы мяне гэта давяло... Страсанула: ёсць яно, ёсць нашае цэхавае братэрства, непарушнае, святое – і яно не прападзе, не знікне! Ва ўсякім разе датуль, пакуль мы жывыя...

*26.12.2010.*

Яска, ясачка, святлінка,

Воля мая!

Каб ты ведала, як я без цябе ссумаваўся, пішу табе не меней як два разы на дзень, адзін ліст аддаю дзяжурнаму раніцай, каб выслалі, ды не думаю, што яго высылаюць, дык я другі пішу, які пры нейкім чарговымператрусе (а яны тут амаль штодня) таксама, мусібыць, забяруць, але я ўсё адно пішу – раптам хоць слоўца да цябе праравецца, каб ты там спакайнейшая была, хоць разумею: які там спакой... Некалькі разоў я прасіў сустрэчы з адвакатам – толькі для таго, каб паведаміць праз яго, што жывы, здаровы, ды бачу, што ні з кім мне спаткацца не дадуць. Я ўжо й заявы на спатканне пісаць перастаў – толькі паперу псаваць, а яна ў турме дарагая. Тут нітка якая і тая дарагая... Калі б сакамернікі не далі хто порткі, хто кашулю – быў бы голы, як Хрыстос на крыжы. (Дарэчы, прызнаюся, каб ты не думала, што я такі ўжо герой: калі яны мяне голага з бальніцы на мароз пацягнулі, трохі спалохаўся. Ды нават не трохі, зноў гераізму напускаю, а нармальна так затрухаў, бо падумаў, што яны, гэтыя забойцы ў чорным, ведаюць: адзенне мне ўжо не спатрэбіцца. Дык калі ўбачыў, што я ў турме, дальбог, узрадваўся.)

Часцяком згадваю, як ты мяне ўгаворвала (ды так і не ўгаварыла) не займацца палітыкай, не губляць час – пісаць. Бог ведае: можа, дарма я не ўгаварыўся, але ж, калі Бог звёў усё да таго, каб я палітыкай заняўся, Ён таксама ведаў, што рабіў. Дык табе трэба было Бога ўгаварыць – тады ўсё было б так, як ты хацела, маё дзяўчо залатое. Я разумею, што ты хацела, каб было як найлепей – ты мне даруй, даруй, даруй... Але ўсё праміне, што было кепскае, забудуцца жахі, застанецца толькі адно: я светла, светла, светла цябе кахаю, кахаю, кахаю... Зразумела, просценька-проста, шчаслiва, як у казцы, усё ж не скончыцца, але ўсё адно – пасля ўсяго, судоў і турмаў – мы будзем жыць-пажываць ды дабра нажываць. Хоць дабра ў нас і так хапае: ёсць на чым спаць, пісаць (тым больш, што я пішу, лежачы праз маю спіну, вось і зараз ляжу на нарах, яны для спіны маёй самае тое, трэба будзе дома такія змайстраваць), ёсць дзе ад непагадзі схавацца, а што нам яшчэ трэба, сонейка маё?..

Я ўжо даўно не пісаў ад рукі, звык да кампутара, але, аказваецца, да ўсяго можна вярнуцца, у тым ліку ад палітыкі да літаратуры, і я табе абяцаю, што вярнуся і яшчэ напішу для цябе (пра цябе) паэму, каб ты не раўнавала да Яблонскай, – я цябе кахаю так, што Яблонскай і не снілася...

*27.12.2010.*

Яска, ясачка, красуня,

Воля мая!

Недзе я чытаў, што час не толькі ў касмічных падарожжах запавольваецца, што ён увогуле катэгорыя не аб'ектыўная – і хуткасць, з якой ён скрозь нас працякае, залежыць ад мноства прычын і абставін. Ён з рознай хуткасцю працякае скрозь маладосць і старасць, скрозь радасць і гора... Ну і факт, што па-рознаму рухаецца дома і ў турме, гэта я сведчу: у турме разоў у 10 павольней. Ну, можа, трошкі хутчэй. Але ў любым выпадку гадоў пяць я буду захоўвацца тут значна лепш, чым на волі, дзе за гэты час каля паўстагоддзя праміне, і ў тым несумненная перавага турмы, як і перавага міжзорных палётаў.

Да таго ж уяві: я выходжу – і ўжо аніякай пошасці на беларускай зямлі! Дзеля гэтага варта й пасядзець, хіба не?..

Ты можаш сказаць: "Дык і мяне праз 50 гадоў можа не стаць..." – а вось і не можа цябе не стаць! Бо павінна застацца на зямлі нашай найсветлае, найпрыгожае, каб людзі бачылі, што гэта ёсць, – і самі святлелі і прыгажэлі. І так яно і будзе, вось пабачыш, ты назаўсёды застанешся найпрыгожай і найсветлай, красуня мая! Калі толькі зараз не будзеш надта маркоціцца, а то яшчэ і вочкі выплакваць – не трэба! Не

22.12.2010

Яска, ясачка, красуня,

Воля мая!

Як ты там?.. Я цярплю, не ведаючы, што з табой, яны ж нават і ў цябе забралі, скрываюць, мяне запалохалі, дзе бо ж няма роднічы: мужчына, жанчына, дзіця — як ты там? Я заўчора спытаў ці доктара пра цябе, следчы сказаў, што жывая, дзе ж ты спалохаешся часцей!.. А твая павінна быць?.. На допыце адвакатка нейкая была (дзяжурная, іхняя), я папрасіў яе, каб абавязкова табе патэлефанавала, бо разумею, што і ты нічога пра мяне не ведаеш — яна абяцала... У той дзень (заўчора) нешта ў нейкім мне ўкалолі ў вену (у мяне з бальніцы хуткай дапамогі) катэтар стаіць,

дапускай, каб нягоднікі радаваліся з нашай маркоты і слёз – нельга, каб яны радаваліся. Так што весялей, любая, гэтаму гадаўю найбольш упоперак якраз тое, што мы ўсміхаемся ў той час, калі павінны, як яны мяркуюць (бо ўсё для гэтага зрабілі), гараваць.

Мяне сёння вадзілі да аднаго такога, ён мяне ўсё палохаў тым, што са мной будзе, калі... зрэшты, няважна, што гэта за "калі", а я, каб яго не слухаць, цябе ўспамінаў і ўсміхаўся, дык яго аж да вантробаў гэта дастала, морду перакрывіў: "Вы чего это разулыбались?!." І ведаеш, здагадаўся: чаго?.. Пачаў раптам на цябе наязджаць: "Вашей жене захотелось звездой стать, так скажите ей (як я табе магу сказаць?), что звёзды потухают!.." – вось тут я ўсё яму й сказаў... Не ведаю толькі, што ты там такое зрабіла, каб гэтак іх дастаць – ты асцярожней, калі ласка, вельмі цябе прашу (ні да чаго не змушаючы): асцярожней. Для іх няма нічога святога, яны не абмежаваныя ў зле – і калі я за некага баюся, дык толькі за цябе, бо ведаю твой характар, і зноў жа не прашу рабіць таго, чаго па характары не можаш, а толькі – абавязкова глянуць туды, куды збіраешся ступіць, і нідзе не хадзіць адной, і не начаваць адной дома, каб дачакацца пары, калі будзем начаваць разам, родная мая...

*28.12.2010.*

Яска, ясачка, ратавальніца,

Воля мая!

Сёння ахоўнікі (маскі-шоу, іх прывозяць аднекуль, яны тут усіх ганяюць) нейкія надта лютыя, нават у дворыку для прагулак ганялі па крузе і рукі назад, а я раптам адчуў (калі адзін надта ўжо вырабляцца стаў, да мяне прычапіўшыся), што на лютасць іх мне напляваць, яна, лютасць іхняя, мяне не датычыць, ніякім бокам не кранае, яна па-за мной, бо ўва мне ёсць (жыве) толькі тое, што я хаваю, хачу, каб яно было (жыло) ува мне, толькі гэта і больш нічога, і гэта ўсё – ты, мая маленькая ратавальніца. Мяне здзіўляе, як гэта ты, такая маленькая, запаўняеш мяне ўсяго, куды большага, а гэта азначае, што: альбо ты большая, чым я бачыў, альбо я меншы, чым мне здавалася. Будзем лічыць (ну, можа такое быць), што яно і так, і гэтак, і нам яшчэ доўга-доўга спазнаваць адно адное, здзіўляцца адно ў адным нязнаным, нечаканым, але з усяго знанага й нязнанага, чаканага й нечаканага вынікае тое, што мяне засланяе зараз ад лютасці, нянавісці, якой пранізанае ўсё ў гэтых сценах (і як сюды, не разумею, дзень за днём, год за годам ходзяць людзі, якія зарабляюць тут на хлеб, можна ж у іншым месцы зарабіць, калі ты не чалавеканенавіснік і не задавальняеш тут сваю нянавісць, прагу да яе), што аберагае, ратуе мяне: каханне. Яно не браня, не, я ў ім не як у сталёвых

латах, яно – жывое тваё дыханне, якое я пацалункамі збіраю з тваіх вуснаў і дыхаю, дыхаю, дыхаю табой...

*29.12.2010.*

Яска, ясачка, пралесачка,

Воля мая!

Сёння ўраніцы, а пад'ём тут у 6.00, разам з крыкам вертухая (хоць ён, пэўна, не вертухай, бо вертухай – гэта вартавы са зброяй у лагеры) я пачуў, прачынаючыся, твой голас, ты спытала: "Каву згатуеш?.." – і я здзівіўся: "Як гэта ты тут?" – і спалохаўся адразу: "Госпадзі, і Альгуню забралі!" З тым і падхапіўся, убачыў усё, як ёсць, і ўзрадваўся, што ва ўсім гэтым цябе няма, хоць ты ёсць, разумееш, ёсць, ты ніколі мяне не пакідаеш, ты, мусібыць, не спіш, каб прыходзіць у вязніцу, у мае сны, і я вельмі прашу цябе: спі, мая любая, усё будзе добра, нічога кепскага з намі не станецца, я табе абяцаю.

Сёння ў мяне допыт, сказалі ўжо, што ён будзе, і будзе на ім нібыта (гэта адзін з маіх сакамернікаў на сваім допыце чуў, тут такога не кажуць, бо як бы само сабой зразумела, што адвакат павінен быць) адвакат, дык хоць у яго нарэшце дазнаюся, як ты там і што там з табой, хоць спіш ты ці не спіш... Тут цяжкавата найперш праз няведанне таго, што адбываецца за турэмнымі сценамі, хоць мне трэба ведаць толькі адно: ніхто цябе не чапае, нічым не палохае, ты жывая-здаровая. Бо тут мяне страшаць якраз тым... зрэшты, не трэба пра гэта, а то яшчэ, бронь Божа, спраўдзіцца, хоць яно спраўдзіцца не можа, але ж не магло нібыта спраўдзіцца і тое, што сталася са мной, як і ўсё астатняе, што адбылося дзесяць дзён таму, ужо 10 дзён... Ці хутчэй: яшчэ толькі дзесяць дзён, бо тут час нейкі іншы, замаруджаны, ён з цяжкасцю прасочваецца скрозь сцены ў камеру, а прасачыўшыся, вісіць, як туман, над нарамі, і ты нібыта не ў ім, а пад ім, душным і сырым...

Мае нары пры сцяне ў агульную прыбіральню, яна страшэнна халодная (але ж я люблю, ты ведаеш, холад і не выношу спёку, так што ўсё добра), і калі я, павaрочваючыся, кранаюся сцяны лобам ці патыліцай, згадваю шапку, якую ты нацягнула мне перад выхадам на Плошчу на галаву (і тым мяне зратавала), ды ўсё думаю: дзе тая шапка? Зараз бы нацягнуў на вушы і спаў, нічога не чуючы, не адчуваючы, – дык дзе мая шапка? Дзе мая абарона ад усёй гэтай халодна-мокрай, як кандэнсат на сценах, пошасці, якая наплыла, напаўзла на нашае жыццё? Хто мая абарона? ААН? Амерыка? Еўропа?.. Не, ты мая абарона, адна-адзіная ты, мая маленькая, мая мужная дзяўчынка, якую мне трэба бараніць, мне атуляць, засланяць ад пошасці, а я не магу, не здольны гэтага зрабіць, бо не магу, не здольны адсюль выбрацца, мне патрэбная шапка-невідзімка, ты мне перадай яе ў сне, любая...

*30.12.2010.*

Яска, ясачка, папялушачка,

Воля мая!

Учора ўпершыню быў допыт з адвакатамі, дык хоць радасць была нармальных людзей пабачыць. Больш нічога на допыце не было, а калі й было, дык не напішаш, бо не прапусцяць. Зрэшты, і так не прапусцяць (я ўжо ўраніцы адзін ліст да цябе аддаў дзяжурнаму), так што буду пісаць...

Пасля допыту павялі мяне на "бяседу", ёсць тут у мяне "субяседнікі", адзін з іх, можна сказаць, тутэйшы Дзед Мароз, дык вось ён вельмі незадаволены табой, мая Снягурка, нешта ты робіш, што яму не падабаецца, лезеш некуды туды, куды не павінны лезці паслухмяныя снягуркі, і ён прапанаваў мне паўздзейнічаць на цябе, каб ты сцішылася, а я спытаў, як я магу паўдзейнічаць, калі не чую яе, не бачу, і яна мяне не чуе і не бачыць, і Дзед Мароз сказаў: "Што ж, заўтра Новы год, а на Новы год усялякія цуды здараюцца". У мяне сэрца замерла, само ў сябе абвалілася:

няўжо нам дадуць пабачыцца? Канешне, гэта ніякі не падарунак, не робяць тут ніякіх падарункаў, для нечага гэта ім патрэбна (магчыма, яны ўжо і з табой паразмаўлялі, паабяцалі табе спатканне, каб ты сцішылася і была паслухмянай дзяўчынкай), але халера з імі ўсімі і ўсім, чаго яны хочуць, я так хачу ўбачыць цябе! Я ўсю ноч думаў пра тое, як яно можа быць, хоць зразумела, як, могуць і дакрануцца да цябе не даць, але ж і гэтага можа не быць, яны могуць перадумаць, а я не бачыў цябе вечнасць, вечнасць, вечнасць – не магу ўжо болей без цябе трываць!.. А яны яшчэ палохаюць мяне, што нешта могуць з табой зрабіць, арыштаваць, бо Ф. у тую ноч (ноч на 20-е) табе тэлефанаваў, каб ты перадала мне, што яны захапілі Дом ураду, і выходзіць, нібы ты саўдзельца, – вар'яцтва гэта, на якое палова хворых у гэтай краіне, але з таго яшчэ страшней: а раптам?.. Я ім ужо казаў, што калі крануць хоць каго з родных, вены сабе зубамі перагрызу – што яшчэ я магу зрабіць? – але тут на такое не зважаюць: кайданкамі да ложка прышпіляць і не перагрызеш нічога, бо ніякіх зубоў на кайданкі не хопіць. Ты толькі не падумай чаго кепскага, у мяне ўсё добра, нават сінякі на твары ўжо амаль незаўважныя, толькі на рэбрах трохі яшчэ сінеюць, заўтра (Божа, няхай яно настане, гэтае заўтра!) пабачыш, хоць на рэбрах, канешне, не – гэта ўжо я ў марах узляцеў: спатканне ў пакоі, у якім няма нікога, апроч нас, але ж некалі так будзе, а пакуль хай будзе хоць як-небудзь, абы цябе ўбачыць... Я не помню, прабач, што ты падаравала мне на мінулы Новы год [...], але якая розніца, які і з кім ён быў, калі са мной была ты – падарунак лёсу, Бога...

Калі мяне не стане, не сумуй.



Леанід Дранько-Майсюк



...вялікія лічбы –
для катаў асаблівы клопат...

# У Вільні і больш нідзе

**«...Усе бачылі нястачу віна...»**
*Аповесць пра Адама Станкевіча*

## 9. Каб жа сапраўднае шанцаванне...

*Працяг.*

*Пачатак у №4 (41) за 2009 г.; №4 (47) за 2010 г.; №3 (52) за 2011 г.; №1 (62) за 2013 г.; №2 (81) за 2016 г.; №3 (82) за 2016 г. №2 (99) за 2019 г.*

Адам Станкевіч[1], сын Вінцэнта і Антаніны, гадаваўся ў сялянскай сям'і, якая мела восем дзесяцін ворнай зямлі, каня, карову і сваю хату з гумном і адрынай.

У такіх працавітых сем'ях звычайна існавала правіла адвечнага самаабмежавання: ці багата з'ясі, ці мала з'ясі, ці багата вып'еш, ці мала вып'еш, а ўсё роўна – слава адна і тая ж, а раз так, то лепей менш есці і менш піць, а больш работу рабіць.

Словам, жылі ад клопату і да клопату, насілу адціраючыся ад бяды; ведалі: разумны чалавек не разрываецца, робіць усё спакваля, ходзіць у касцёл ці ў царкву, а неразумны

адразу хапаецца і за кош, і за цэбар, і прэ і ў касцёл, і ў царкву, ды яшчэ хоча заскочыць у сінагогу з мячэццю...

Такое жыццё, далейшае навучанне і духоўная служба, як і палітычны выбар на карысць Краю, прывялі Адама Станкевіча да запаветнага разумення: каб дасягнуць **свайго**, трэба цяжка працаваць, трэба стаяць за **сваё** і да канца змагацца як з паланізацыяй, так і з русіфікацыяй.

Даволі рана адкрылася яму галоўнае: народу нанесена духоўнае калецтва!

Кім?

Заходнім суседам і суседам усходнім...

Спачатку маленькі Адась вучыўся паблізу роднай вёскі Арляняты (у Барунах, Гальшанах і Ашмянах) – у тых царскіх школках, у якіх дым русіфікацыі выядаў дзіцячыя вочы.

Ксёндз Язэп Германовіч[2] (сябар Адама Станкевіча) у сваіх успамінах згадваў пра вучобу ў Гальшанах:

«...Нашая мова ў хаце і ў школе была беларуская, але настаўнік не сказаў ніколі ні аднаго слоўца папросту, і мы змушаны былі адказваць па-расейску, нам убілася ў душу такая казёншчына на ўсё жыццё! /.../ Вось што значыць чужацкая школа з чужой мовай: так цар-бацюшка марыў нашых дзяцей і забіваў народную душу!»[3]

Язэп Германовіч згадаў таксама і аб тым, як давялося яму на апошнім іспыце расказваць на памяць доўгі верш Івана Нікіціна[4] «Русь»:

Под большим шатром
Голубых небес –
Вижу – даль степей
Зеленеется...

Расказаць расказаў, але на ўсё жыццё ў душы засталося непаразуменне:

«...Аж дасюль, больш як семдзесят гадоў, я добра не мог адрозніць «голубого» колеру, пакуль у слоўніку не знайшоў, што «голубой» значыць «блакітны»...»[5]

Дарэчы кажучы, твор І. Нікіціна «Русь» з царскай школкі перайшоў у савецкую.

Памятаю, як я, трэцякласнік, завучваў яго, раз-пораз падглядваючы ў чытанку «Родная речь», а калі запінаўся, ці, як сказаў бы Язэп Германовіч, капыціўся, мяне тут жа выручала маці, падказвала патрэбны радок.

«Русь» яна вывучыла ў канцы 1939-га, калі ў Давыд-Гарадок прыйшла камуністычная ўлада...

Падкрэслю, нікіцінскі твор – непрыхаваны ўзор вялікадзяржаўнага шавінізму!

...Это ты, моя
Русь державная,
Моя родина
Православная /.../

Ты на жизнь и смерть
Вела спор с Литвой
И дала урок
Ляху гордому /.../

Но лишь кликнул царь
Свой народ на брань –
Вдруг со всех концов
Поднялася Русь...

У той маёй хрушчоўскай чытанцы гэтых радкоў, здаецца, не было, і ў матчыным сталінскім падручніку, трэба думаць, таксама не было – пільны галоўліт не дапускаў ухвалення царскай дзяржаўнасці і праваслаўя.

Але тады, калі Язэп Германовіч і Адам Станкевіч праходзілі сваю школьную навуку, названыя радкі гучалі, як сказаў бы Якуб Колас, голасам моцы.

Дадам – голасам імперскай сілы!

Я не сцвярджаю, але вельмі верагодна тое, што Якуб Колас у 1910 годзе сваім вершаваным прамаўленнем «Дуб» даў водпаведзь нікіцінскай «Руси» менавіта як шавіністычнаму прадукту:

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго /.../

Комель – слуп-скала,
Дыша сілаю,
А ўгару зірнеш –
Шапка валіцца /.../

Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды не гнуўся ты
Перад бураю!..

Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Спевам-музыкай /.../

Знарок узяўшы нікіцінскі рытм, наш паэт усё адно як супакоіў сваіх чытачоў: мы – людзі моцныя, нас відаць здалёк, і ніколі іхняя навальніца не знішчыць нас...

І ці не ад гэтага супакаення, ці не ад гэтай водпаведзі варонежскаму творцу Якуб Колас для Адама Станкевіча стаўся давеку любімым песняром.

Дзякуючы Коласавай песні, юнак Адам пайшоў не па чужым, а па родным шляху, аб чым і засведчыў у артыкуле «У «палоне» паэзіі Якуба Коласа».

Нацыянальна акрэсліцца дапамагла таксама і творчасць Францішка Багушэвіча[6], як і падтрымка ксяндза Адама Лісоўскага[7].

З добрым адчуваннем роднага грунту юнак Адам адчыніў дзверы Віленскай каталіцкай семінарыі; жаданне вывучыцца на святара надало характару неабходнай цвёрдасці, таму й быў заўсёды ўпэўнены – сваё не пойдзе намарна.

Па вучобе ў Вільні 30 жніўня 1914 года стаў выхаванцам рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе і займеў жыццё ў асноўным характэрнае тым, што ў імперскай сталіцы нацыянальныя мары даводзілася падначальваць больш строгай дысцыпліне, таму запаветнае заставалася глыбока ў душы.

У расійскай сталіцы адбылася для яго і такая значная падзея – ад біскупа Яна Цепляка[8] прыняў сан каталіцкага святара[9]; дарэчы, гэты мужны архіпастыр там жа, у Петраградзе, рукапалажыў у святары і Кастуся Стаповіча (Казіміра Сваяка).

Нашчадкі святых апосталаў (маладыя хлопцы!) шчыра верылі: Бог па-

можа роднай зямлі стаць незалежнай, і дапамогуць іхнія малітвы, а таксама ж людзі, якія прыйдуць у касцёл і пачуюць з амбону беларускую мову.

Аднак жа, разумелі яны, не толькі маліцца і спадзявацца, а трэба яшчэ й дзейнічаць – неабходны грамадзянскі чын!

Адсюль і пачынаўся шлях у палітыку...

Заўважу: рэлігійнасць Адама Станкевіча, можна сказаць, ад пачатку скіравалася да беларускай палітыкі, а ягоная ўпэўненасць мела ўплыў на людзей, і каб жа сапраўднае шанцаванне, то за ім будаваць нацыянальную царкву рушылі б не толькі каталікі, а таксама праваслаўныя і пратэстанты...

А час між тым быў пякельны, крывавы, ішла вялікая вайна, якая пачалася ў тым памятным для яго 1914 годзе, і калі з'яўлялася радасць, то вельмі кароткая, і быць пры гэтай радасці хацелася за ўсякую цану, разумеючы: жыццё шпарка пасоўваецца да смерці, але гэта нічога – галоўнае, каб вынік вайны быў памысны для Беларусі як для асобнай дзяржавы...

29 красавіка 1918 года (у Савецкай Расіі!) Адам Станкевіч скончыў поўны курс ужо не імператарскай акадэміі, а праз некалькі дзён, 3 траўня, за подпісам рэктара прэлата Радзішэўскага[10] яму, як святару Віленскай епархіі, уручылі атэстат.

Можна сказаць, паспелі ўручыць, бо магло таго і не адбыцца – якраз у гэтыя тыдні пад ціскам ленінскай палітыкі акадэмія мусіла была спыніць сваё існаванне ў Петраградзе, і прэлат Радзішэўскі, як руплівы гаспадар, ужо праводзіў эвакуацыю ўстановы ў Люблін...

Адам Станкевіч любіў вучыцца і вучыўся ўсё жыццё; быў прагны да любых ведаў – гістарычных, філасофскіх, рэлігійных, грамадскіх, кнігазнаўчых, палітычных, моўных (тут не магу не згадаць ягоны артыкул «З літуанізмаў у беларускай мове»).

Варта ўвагі й тое, што ён, атрымаўшы ў акадэміі ступень кандыдата кананічнага права, прайшоў яшчэ ў 1921 годзе два курсы на юрыдычным факультэце адроджанага Віленскага ўніверсітэта[11], з якога (паводле Арсеня Ліса[12]) таксама пачыналася беларуская ідэя...

Адам Станкевіч цікавіўся ўсім карысным, унікаў у любую неабходную з'яву, якая, на яго думку, рабіла яснейшым роднае неба.

11 студзеня 1925 года на сходзе БНТ зрабіў даклад «..аб цэлым радзе слоў для азначэньня адарваных (?) паняцьцяў больш тэолёгічна-філязофічнага адценьня...» – і сход, на якім за старшыню быў А. Луцкевіч, а сакратаром Б. Тарашкевіч, пастанавіў: «...Абгавораны спісак слоў далучыць да матэрыялаў...»[13]

А 26 красавіка 1925 года на пасяджэнні БНТ разглядалі пытанне аб выданні беларускага календара на 1926 год, і ў пратакол сакратар сходу Б. Тарашкевіч упісаў: «Выслухаўшы прапазыцыю кс. А. Станкевіча, згадзіліся даць фірму Таварыства (БНТ. – *Л.Д.-М.*) на каляндар, уважаючы, што гэтае выданьне можа прынесьці пэўны заробак Т-ву (Таварыству. – *Л.Д.-М.*). Засьцераглі, што літаратурны матэрыял календара будзе складацца выключна з легальных крыніц, якія знаходзяцца ў кніжным гандлёвым абароце. Правядзеньне пастановы ў жыцьцё даручана кс. А. Станкевічу...»[14]

Што да засцярогі, то яна адзначана ў пратаколе невыпадкова: у ранейшым календары змясцілі маленькі, на адну старонку матэрыял, які не прайшоў цэнзуру, і з-за адной (!) старонкі быў канфіскаваны ўвесь ужо надрукаваны тыраж.

Пазней з цяжкасцю тыраж удалося выбавіць з арышту, а тады ўжо мусілі

заместа забароненай тэрмінова шукаць і спешна ўстаўляць у каляндар новую старонку.

Словам, клопату сабе нарабілі шмат...

У раздзеле «Жыццё без адпачынку» я гаварыў з захапленнем пра абсяг дзейнасці Адама Станкевіча, пісаў пра тое, што ён не цураўся ніякай работы.

Здаецца, меў час на ўсё!

Клапаціўся пра сірот, забіраў іх у прытулак, уладкоўваў у Вільні сваіх пляменнікаў, даваў гімназістам грошы на аплату вучобы, вянчаў маладых, рэдагаваў чужыя кніжкі, рыхтаваў да іх прадмовы, займаўся перакладамі, асэнсоўваў спадчыну Казіміра Сваяка, натхняў на новую творчасць Максіма Танка і Вінцука Адважнага, пісаў і выдаваў свае творы і (Божа мой!) цікавіўся нават вуснай народнай творчасцю.

Пра апошняе паведаміў у сваёй рукапіснай заяве фальклярыст Антон Рафалавіч Янкоўскі[15] – жыхар вёскі Адамчукі.

Дарэчы, пра гэту вёску і, напэўна ж, пра сваякоў Антона Янкоўскага, ды іхніх суседзяў, ёсць адметная згадка ў брашуры А. Луцкевіча «Польская акупацыя ў Беларусі»; А. Луцкевіч цытуе заяву БНК ад 26 траўня 1920 года:

«...24 траўня (мая) г.г. у вёсцы Адамчукі гміны Міцкуны Віленскага пав. арыштаваны былі грамадзяне Франук, Рафал[16], Бэрнард Янкоўскія, Адам, Мацей, Антось, Дамінік, Людвіг, Міхал, Уладак Стафановічы і Броніс Тарашкевіч за тое, што Янкоўскі, як вясковы солтыс, ня мог выслаць фурманак дзеля таго, што фурманкі былі высланы і ў той час не вярнуліся. Калі хацелі арыштаваць Рафала Янкоўскага, то другія сказалі: «Арыштуйце і нас». Тады арыштавалі ўсіх адзінаццаць чалавек, засадзілі ў склеп, дзе іх моцна пабілі і адправілі ў Вільню. Юльян Янкоўскі прыйшоў у Вільню з другімі сялянамі, каб даведацца, дзе знаходзяцца арыштаваныя, і спаткаў у Вільні на Полацкай вул. таго самага камэнданта жандармэрыі пастарунку ў Лаварышках, які арыштаваў і Юльяна Янкоўскага і адправіў у жандармэрыю...»[17]

А заява[18] Антона Янкоўскага такая:

«Министру Внутренних Дел Лит. ССР.

г. Вильнюс.

от гр. Янковского Антона Рафаиловича,

прожив. дер. Адамчуки, Вильнюсского р-на,

п/о Лаворишки

Заявление

Я много лет занимался сбором фольклора в окрестностях г. Вильнюса. Папка с этими материалами (народные песьни[19], сказки, легенды, загадки и другие материалы) находились у известного свойго[20] времени белорусского ксендза Адама Станкевича, прожив. в г. Вильнюс. Во время культа Сталина его арестовали, и папка эта была взята вместе с его материалами. В настоящее время я имею возможность издать эти материалы как фольклор окрестности Вильнюса. Прошу вернуть эти материалы (обыкновенная канцелярская папка, а в ней сшиты рукописи).

15 июня 1963 г. Янковский Антон»[21].

Сапраўды, А. Янкоўскі збіраў народныя творы паблізу Вільні і ў сваёй роднай вёсцы Адамчукі; яго імя, дарэчы, сустракаецца ў томе «Балады»[22], які ў свой час выйшаў у серыі «Беларуская народная творчасць».

Невядома, дзе і калі А. Янкоўскі сустракаўся з «известным белорусским ксендзом»; зрэшты, не гэта галоўнае – галоўнае тое, што, відаць па ўсім,

Адам Станкевіч зацікавіўся працай народнага спевака, узяў ягоныя запісы для азнаямлення і, пэўна што, спрыяў таму, каб яны з'явіліся ў друку.

У заяве А. Янкоўскага мне спадабалася цвёрдасць:

«Прошу вернуть эти материалы...»

Даволі смелы зварот.

Як і ягоны бацька, як і ягоныя сваякі з суседзямі, – не баязлівым быў народны спявак!

Але ці хутка яму адказалі?

Хутка.

Праз два тыдні, 29 чэрвеня, нейкі выканаўца Ташланаў на машынцы адстукаў паперку за №10/1 – 6283:

«...На Ваше заявление сообщаем, что действительно у Станкевича Адама были изъяты рукописи, но за давностью времени они не сохранились.

Начальник отдела КГБ при СМ ЛССР Мыльников...»[23]

З 1949-га мінула ўсяго толькі чатырнаццаць гадоў, але ў 1963-м гэта ўжо, на іхняй мове, значыла «...за давностью времени...»

Хутчэй за ўсё фальклорныя запісы Антона Янкоўскага, як і шмат якія рукапісы Адама Станкевіча, былі спалены.

## 10. Біццё па нервах

Касцельны амбон паволі ператвараўся ў нацыянальную трыбуну, – рэлігійныя прамаўленні ўсё глыбей жывіліся грамадзянскімі нотамі.

У друку выказваў няхай летуценную, але даволі цвёрдую думку: беларусы не згодзяцца на залежнасць ад Варшавы і Масквы, бо прыродна адчуваюць сваю няпольскасць і сваю нерасейскасць.

Варшава і Масква (кожная па-свойму і ў розны час) адпомсцілі за гэта.

Помста першай прымушала нервавацца, жыць наогул неспакойным, трывожным, а то і зусім нервозным жыццём.

«Спрыт польскай палітыкі»[24] выяўляўся і ў тым, што Варшава западозрыла антыленінца Адама Станкевіча ў сімпатыях да камунізму; ход варшаўскіх разважанняў тырчаў, як іржавы цвік з плота: бароніш людзей ад паліцэйскага гвалту – значыць, камуніст!

8 траўня 1924 года сказаў слова ў абарону простага люду на сходзе ў мястэчку Даўгінава Вілейскага павета, за што завялі судовую справу, якую, праўда, скасавалі[25], і невядома, дарэчы, што тут больш дапамагло – духоўнае званне ці дэпутацкі імунітэт?!

1 жніўня 1926 года віленскі ваявода не даў магчымасці яму, паслу Адаму Станкевічу, прамовіць на мітынгу ў Жодзішках; да слова сказаць, у той дзень у Жодзішках забаранілі выступіць В. Рагулю і В. Багдановічу...

Цкаванне доўжылася, – 10 снежня 1928 года айцец А. Станкевіч атрымаў пісьмовы загад Р. Ялбжыкоўскага пакінуць працу ў газеце «Беларуская крыніца» і выйсці з партыі БХД.

Мусіў быў падначаліцца[26], бо ратунку ніякага не было, не меў магчымасці абараніцца і пры гэтым не страціць сан.

А ў 1933 годзе ксяндза звольнілі і з Віленскай беларускай гімназіі...

Узнікалі таксама цэнзурныя перашкоды – так, віленскае староства забараніла (пазней аднак дазволіла[27]) прачытаць лекцыю пра Міхася Баброўскага[28].

Калі ўлада прыпыніла выхад «Беларускай крыніцы», то 28 лістапада 1936 года паліцыя правяла ў кватэры на Полацкай вобыск і канфіскавала паасобныя кнігі і дакументы, а таксама рукапісы.

Дарэчы, у гэты дзень паліцыя арыштавала ў Вільні архівы ці не ўсіх беларускіх устаноў!

Польская дзяржава паказвала кіпцюры, аднак жа пакуль не пхала ў спіну, і да канца 1938 года Адам Станкевіч жыў у Вільні, служыў вікарным ксяндзом у дамініканскім касцёле святога Духа.

Жыў, як той казаў, не трацячы надзеі, але 12 снежня 1938 года яму, як небяспечнай для дзяржавы асобе, загадалі на пяць гадоў пакінуць родную Вільню.

Праз тры дні, 15 чысла, зрабіў занатоўку:

«Кс. Адам Станкевіч, кс. Ул. Талочка[29] і інж. Ад. Клімовіч[30] загадам ваяводы Бацянскага[31] выселены з Вільні і агулам з «пагранічнага паса». Прычыны не паданы. Дагадацца лёгка: наша беларуская культурная праца...»[32]

Ваявода з абразлівай велікадушнасцю прапанаваў Адаму Станкевічу самому выбраць месца, дзе жыць, і ён спыніўся, можна сказаць, амаль на месцы высылкі свайго ўлюбёнага прафесара М. Бабраўскага – выбраў у Навагрудскім ваяводстве павятовы Слонім, 27 снежня 1938 года прыбыў туды і ў якасці капелана асталяваўся ў кляштары сёстраў непакалянак.

Максім Танк пісаў:

«...Заходзіў стары мой сябра Д. Ён толькі што прыехаў са Слоніма. Бачыўся там з ксяндзом Адамам Станкевічам. Прысутнічаў у касцёле «Святых сясцёр непакалянак» на яго пропаведзі...»[33]

Беларускім дзеячам у той час нельга было жыць паблізу мяжы з БССР, таму і айцоў марыянаў высялялі з Друйскага кляштара – скажам, Браслаўскае павятовае староства забараняла законніку марыяніну Язэпу Германовічу заставацца ў Друі, і яшчэ ўлетку 1938 года ён паехаў у Рым...

Выходзіць, нельга было заставацца і ў Вільні, вядомых беларусаў па чарзе высылалі і выслалі б усіх!

Не паспелі...

Адам Станкевіч звяртаўся ў Варшаву, прасіў скасаваць загад Л. Бацянскага, але Варшава не ўлічыла просьбу[34].

Высылалі ксяндза на пяць гадоў, такое было пакаранне за беларускасць, але ход падзей, які пачаўся раніцай 17 верасня 1939 года, зменшыў згаданы тэрмін да дзесяці месяцаў, а праз дзесяць гадоў наогул забраў жыццё.

За сваё духоўнае служэнне Адам Станкевіч, здаецца, не атрымаў ад касцельнай улады ніякіх узнагарод; праўда, ва ўмовах польскай дзяржавы застаўся жывы, а жыццё, вядома, найбольшая ўзнагарода.

## 11. Біццё па крыві

Так, Варшава біла па нервах, а Масква па крыві – то-бок, адразу пхала ў яму, у безыменную магілу пад нумарам.

Зрэшты, не – бывала, што і не адразу...

У верасні-кастрычніку 1939-га, калі органы НКУС дзейнічалі пад кантролем так званага Часовага кіраўніцтва, ксяндза Адама Станкевіча не арыштавалі, і ён спакойна пакінуў Слонім:

«...Я, як /.../ літоўскі грамадзянін /.../ пераехаў у Вільню...»[35]

Добры лёс адвёў бяду?

Магчыма.

А мо канстытуцыя вусатага каўказца паспрыяла, паводле якой гарантавалася недатыкальнасць асобы – у тым сэнсе, што чалавека можна было пазбавіць волі толькі маючы на руках судовую пастанову ці пракурорскі дазвол?!

Не, хутчэй за ўсё дапамагло іншае – перад тым, як Чырвоная армія рушыла ў Заходнюю Беларусь, 15 верасня 1939 года Л. Берыя[36] выпусціў дырэктыву, у якой між іншага выразна бліснула й такое:

«...Аресты духовных лиц пока не производить, особенно католиков...»[37]

Сталінізм сваімі ворагамі лічыў амаль усіх – і вайскоўцаў, і цывільных, і духоўных, і свецкіх людзей (ці не любое саслоўе?!), аднак жа адразу і ўсіх загнаць за дрот, вядома ж, бракавала сіл, таму крывасмокі дзейнічалі хітра і паступова, пільнаваліся свайго чорнага графіка, вось чаму і ўзнікла яно: «...аресты духовных лиц пока (!) не производить, особенно католиков...»

Як бачна, перад служыцелямі іншых культаў прадстаўнікі рымскай царквы займелі некаторую перавагу, і пэўна ж таму Л. Берыя даў ім такую прывілею – адтэрмінаваў арышт і знішчэнне, што іх, каталіцкіх святароў, было больш.

А вялікія лічбы – для катаў асаблівы клопат!

Праўда, гэтая перавага доўжылася толькі дзесяць месяцаў:

«...»В связи с борьбой с повстанческими контрреволюционными организациями» все ксендзы в июле 1940 года были взяты «в активную агентурную разработку»...»[38]

У сакавіку 1941-га Адама Станкевіча (на той час ужо грамадзяніна СССР) двойчы выклікаў на гутарку Сяргей Аляксандравіч Мікалаенка.

Пад такім імем святар запомніў свайго першага чэкіста, аднак жа правільнае прозвішча гэтага лейтэнанта – Мікулаенкаў («Никулаенков»)[39].

Так, гэта былі яшчэ, здаецца, не допыты, а проста гутаркі, можа, нават і за шклянкай гарбаты з лімонам.

Пра што размаўлялі?

Аб тым кропля інфармацыі ёсцека ў дзённіку:

«25.III.1941. Я ў НКВД як сьведка ў справе Клімовіча. Мяне пратрымалі ў прыёме 5 гадзін...»[40]

Так, Мікулаенкаў распытваў пра інжынера Адольфа Клімовіча, і святар, само па сабе, абараняў інжынера, свайго сябра па БХД.

А. Клімовіча мардавалі ўжо не адзін месяц, і каб выйсці з турмы, ён ашукаў сваіх мучыцеляў самым простым спосабам – пераканаў іх у тым, што нібыта прыняў іхнюю прапанову на філёрства.

А яшчэ Мікулаенкаў пытаўся, чаму ён, Адам Станкевіч, дапускаў у друку антысавецкія выступленні[41].

Святар мусіў быў апраўдвацца: маўляў, тыя ягоныя выступленні – горкі плён прыблізнага ведання жыцця ў СССР.

Лейтэнант ці не па-хатняму «ўшчуваў»: хіба можна было так неразумна і неабачліва пісаць, і тлумачыў гуманную сутнасць камуністычнай сістэмы[42]...

Лейтэнант вёў звыклую агідную гульню, і ягоная гульня, магчыма, пад звон чайнай лыжкі, вядома ж, была подступам да вярбоўкі.

Якраз у гэтыя дні Мікулаенкаў падвёў рысу (так яму здавалася!) у справе Адольфа Клімовіча.

Інжынера арыштавалі ў ліпені 1940-га, а 19 сакавіка 1941 года Мікулаенкаў на паперы прасіў маёра дзяржбяспекі Быкава[43] даць яму дазвол на вярбоўку арыштаванага.

Пэўна ж, дазвол атрымаў.

23 сакавіка 1941 года А. Клімовіч, які відавочна ўмеў пачуцці падначальваць розуму, «афіцыйна» згадзіўся на супрацоўніцтва і недзе праз месяц, у канцы красавіка[44], выйшаў на волю.

Праўда, ён, беларускі патрыёт (скажу пра гэта наперад!), даўшы падпіску, тут жа знік з вачэй сатаны, не выканаў ніводнага задання і доўгія гады ўдала пазбягаў маскоўскай пасткі...

А што да сустрэч з Адамам Станкевічам, то да іх Мікулаенкаў, можна сказаць, рыхтаваўся вельмі старанна.

Пэўна ж, маючы вольны час, у лістападзе 1940 года лейтэнант накідаў план агентурна-аператыўных мерапрыемстваў па выдуманай (іншай і быць не магло!) справе «Хадэкі».

Калі гаварыць коратка, Мікулаенкаў далажыў Быкаву пра існаванне «Цэнтра беларускай дзейнасці», шэрагі якога, вядома ж, запоўнілі нацыяналісты, а падмуркам стала БХД.

Лёгка здагадацца: мэта згаданага «Цэнтра» – стварэнне самастойнай, незалежнай ад Масквы, Беларускай дзяржавы, а раз так, то кіраўнікі гэтай арганізацыі праз берліна-варшаўскую групу (гучыць даволі салідна!) ужо просяць у немцаў зброю для змагання супраць саветаў, а сярод кіраўнікоў першым названы ён – ксёндз Адам Станкевіч!

Колькі такіх «Цэнтраў» за сталінскі час наляпілі чэкісцкія галовы – нават не ведаю, ці магчыма злічыць усе?!

Абаротлівыя ж выпаўзні Лубянкі вельмі любілі гэтае слоўца – **цэнтр**, заўсёды карысталіся ім у сваім павучыным сеткапляценні...

Мікулаенкаў падагульняў: каб адразу прасачыць за ўсімі сувязямі нацыяналістаў, у «Цэнтр беларускай дзейнасці» трэба ўкараніць А. Клімовіча, выпусціўшы яго з турмы, а каб кантраляваць «работу» А. Клімовіча, трэба завербаваць Б. Грабінскага, а для атрымання інфармацыі пра ўсіх варта ўцягнуць у павуціну П. Сергіевіча.

Слаўныя нашы людзі (А. Клімовіч, Б. Грабінскі, П. Сергіевіч...), што яны перажылі тады!

Уяўляю маёра Быкава, які, ухваляючы «творчасць» Мікулаенкава, задаволена спраўляў рогат...

І вось 25 сакавіка 1941 года (дзень, як бачым, невыпадковы!) Мікулаенкаў, мусіць жа, разважаў-думаў, што лепей, што выгадней: вербаваць ксяндза, або арыштоўваць?!

Напэўна ж, таксама звяртаўся да свайго патрона, усё таго ж маёра Быкава...

Бальшавіцкія служкі відавочна прабавілі час (тры месяцы!); правалаводзіліся яны ажно да самай вайны з немцамі, бо адразу нешта не склалася ў іхнім паскудным пасьянсе.

Д'яблу трэ было, каб яшчэ мінула больш за тры гады, – толькі ў лістападзе 1944-га на Полацкую па святара прыйшлі...

Не, не д'ябал – Бог даў гэты час Адаму Станкевічу на пісьменніцкую, выхаваўчую, асветніцкую і духоўную працу «пры немцах»; Бог даў гэты час і на стварэнне вельмі неабходнага падручніка «Расказы з гісторыі Беларусі для школы і народу».

## 12. Трупажэры

23 чэрвеня 1944 года пачалася наступальная аперацыя «Баграціён» – Чыр-

воная армія даволі хутка йшла па Беларусі, вызваляла ад немцаў месты і вёскі, набліжалася да Мінска і Вільні, а ўслед, хаваючыся за спіны чырвонаармейцаў, упэўненая ў сваёй беспакаранасці, паўзла дзяржбяспека «вялікага шкодніка»[45].

Сунулася тлустая зборня службістаў, выканаўцаў злачыннай палітыкі, работнікаў плахі – сапраўдная саранча жаху.

Кузьма Чорны натаваў:

«...Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад – яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею...»[46]

Так было ў Мінску, так было ў Вільні, так было скрозь...

Апарат НКДБ – крымінальнікі, апранутыя па форме і з адпрацаванай на допытах бандыцкай праграмай: спачатку ўгаворы, а тады (пры марнасці ўгавораў) ламанне рэбраў.

Шмат гадоў крымінальнікі ў форме ператваралі поле беларускай культуры ў прастору смерці.

Яны, майстры выняць душу, ведалі найперш адно: чалавек, якога катуюць, можа сказаць усё што заўгодна, таму жорстка мучылі няшчасных, – кажучы па-простаму, запускалі пад шкуру па пяць пальцаў.

Ім не была патрэбна ісціна, таму чарніла ў чарніліцы мела для іх большую цану, чым кроў у чалавечых жылах!

Ім да па́ры былі іхнія жонкі, якія збывалі на чорным рынку амерыканскія харчовыя пасылкі, і толькі тое лендлізаўскае[47] багацце, якое не трапляла ім у наманікюраныя лапы, даходзіла чырвонаармейцам у акопы.

Таксама істоты без душы, хоць і жанчыны; яны не маглі глядзець у сваю душу, бо не было куды глядзець...

Прызнаюся – мяне бярэ абрыда, калі ўспамінаю, што сталінскія крымінальнікі пільнаваліся законнасці, старанна падводзілі юрыдычныя абгрунтаванні пад свае фабрыкацыі, клапаціліся, каб кожная пячатка была на адпаведным месцы, кожны подпіс займаў сваю графу, а яшчэ ім было вельмі важна вырваць з арыштаваных сабе кампліменты, – маўляў, арыштоўваючы вас, мы паводзілі сябе шляхетна!

Вось як гэта паказана ў творы М. Сяднёва «Раман Корзюк»:

«...– Падпішэцеся, калі ласка, вось тут, што ў часе арышту з вамі абыходзіліся ветліва, – чалавек з НКВД даў Камоцкай алавік.

Камоцкая падпісалася ў адпаведным месцы пратаколу...»[48]

Нават смешна, пільнаваліся законнасці там, дзе не было ніякай законнасці, дзе існавалі толькі лозунгі для выгляду, над якімі залацелі сталінскія рызы і бармы – мундзір генералісімуса...

Я заўважыў – дзеці і ўнукі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны зазвычай хваляцца гэтак: «Мой бацька, ці мой дзед, быў лётчыкам... Мой танкістам... Мой пехацінцам... Мой сувязістам... Мой разведчыкам... Мой артылерыстам...»

І маюць права гэтак хваліцца, бо іхнія дзяды і бацькі – воіны!

Аднак жа ніхто (амаль ніхто!), прынамсі, я ніколі не чуў, каб нехта пахваліўся: «А мой бацька, мой дзед, служыў следчым у НКУС!»

Бо сорамна, бо няма чым/кім хваліцца, бо іхнія палахлівыя бацькі-дзяды сядзелі не ў акопах, а ў кабінетах, выконвалі волю палахлівых правадыроў.

Я не перабольшваю, а проста нагадваю: баязлівасць таксама поўніла і кроў іхніх вышэйшых карміцеляў, пачынаючы з партыйнага алімпа.

Скажам, як жа баяўся Ленін, вяртаючыся ў красавіку 1917-га з Еўропы ў Петраград, што на шведска-расійскай мяжы яго арыштуе Часовы ўрад!

А калі праз некалькі месяцаў, здаецца, у ліпені, Леніна паклікалі ў суд, то

ён тут жа ўцёк з Петраграда і вярнуўся, як вядома, толькі тады, калі Часовага ўрада, які яго і хацеў судзіць, па-сутнасці ўжо не існавала.

А пра баязлівасць вялікага Сталіна, якую ён паказаў у чэрвені-ліпені 1941-га, напісана не адна гістарычная старонка; тады ж умлелі ад страху і нашы непасрэдныя кіраўнічкі Панамарэнка і Цанава[49].

24 чэрвеня 1941 года яны – маладыя, саракагадовыя мужчыны! – не кінуліся з гранатамі насустрач нямецкім танкам, а, нічога не сказаўшы простым людзям, па-зладзейску нішкам пакінулі Мінск – уцяклі са сваімі сем'ямі і слугамі ў бяспечны глыбокі тыл.

Калі ж такіх засцігала бяда, – лілі слёзы, і мозг у іхнім чэрапе ўмомант ператвараўся ў суцэльны страх, і тут плач Цанавы ў Бутырскім астрозе – ці не самы дакладны адлюстровак таго страху.

Ці хоць пакаяўся хто?

Здаецца, ніхто, нават на пісьме...

А калі хто і пакінуў мемуары, то дарма ў тым чытве шукаць аўтарскага пакаяння!

Той жа А. Арлоў[50], напрыклад, які ў 1938 годзе ўцёк у ЗША, на мностве старонак сваіх успамінаў даводзіў, што нікога не мардаваў, не катаваў і не знішчаў; ва ўсім вінаваты яны, Сталін, Ягода, Яжоў ды іхнія памочнікі, а ён, Арлоў, узышоў на самы верх лубянскай гары і не запляміў крывёю бязвінных людзей свой чэкісцкі фрэнч, і, вядома, гэткім жа чыстым анёлам адплыў хавацца ў Амерыку.

Мусіць жа, толькі ў мастацкай літаратуры чалавек на людной вуліцы можа стаць на калені і прызнацца: я – вінаваты...

Як Раскольнікаў[51], напрыклад.

А вось аўтары мемуарнай літаратуры – не Раскольнікавы, яны, пішучы пра сябе, ніколі не прызнаюцца ў сваёй крывавай віне (у некрывавай таксама), таму зазвычай асноўны змест іхніх пісанняў: адкрытае ці прыхаванае самаапраўданне; словам, такія ўспамінальнікі Богу душою невінаватыя!

І прыкладаў тут можна прывесці мноства: маршал Ж. у сваіх успамінах амаль святы, генерал-фельдмаршал М. – таксама; тое ж і асы люфтвафэ – ніводзін з іх не напісаў пра сябе: «Гэта я скідваў авіябомбы на дзяцей...» – само па сабе, ягоныя бомбы заўсёды ляцелі толькі на варожыя ўмацаванні...

Зрэшты, чалавеку (не дзеючай асобе мастацкага твора!) уласціва хаваць сваю і вялікую, і малую віну.

## 13. Лёгка сказаць

Прадчуваючы бяду і нават нешта большае за бяду, Адам Станкевіч рыхтаваўся да самага горшага; трывога ў тыя дні моцна забрала ягоныя думкі, таму 7 ліпеня 1944 года (немцы яшчэ знаходзіліся ў Вільні) склаў тастамент «Мая апошняя воля», у якім, нягледзячы на неспакой, па-сялянску дбайна распарадзіўся сваёй маёмасцю – адпісаў яе блізкім людзям.

Першы радок «апошняй волі»: «На выпадак прымусовага майго выезду із Вільні, або на выпадак сьмерці маей...»[52] выяўна сведчыць – радзіму пакідаць не збіраўся.

А шкада, трэ было дзеля ўласнага жыцця і далейшай працы сабрацца ў трывожную дарогу і рушыць у эміграцыю...

За кароткі час мінула некалькі наездаў-акупацый, і ўсе яны выбівалі беларускае жыта!

Польскі наезд у 1939-м рассыпаўся канчаткова.

З Варшавы часам чулася: «Польшча для палякаў!»

Так, палякі зневажалі, трымалі ў турмах, забіралі здароўе, але давалі дыхаць, пакідалі жывымі – дзякуй за такую мяккасць!

А **тыя** і **гэтыя** не проста гнаілі за кратамі – адбіралі жыццё, кідалі мільёны жыццяў у лёд Магадана і агонь Асвенціма; **тыя** і **гэтыя** забівалі хрысціянства, якое вучыла і такой мудрасці: «Не рабі сабе куміра...»

«Не Бог – куміры мы?!» – па-сутнасці гэтак прамаўлялі правадыры **тых** і **гэтых**...

Трэ было хавацца, бо шмат ведаў пра каменнае дзікунства абсалютных бязверцаў, чый жалезны прынцып: «Знішчай усіх – чужых і сваіх!» – наводзіў на зямлю жах; адчуваў: насоўваецца тая цемра, пры якой небяспечна нават думаць, а не тое што гаварыць пра нейкія там свае правы.

Восенню 1939-га сутыкнуўся з «таварышамі» ў Слоніме, але тады абышлося, а з ліпеня 1940-га і па чэрвень 1941-га, жывучы ў савецкай Літве, пралетарскую ўладу ў асобе Мікулаенкава спазнаў зблізку.

Няўжо не дыхнула смяротным холадам?!

Урэшце, чытаў жа ў Ф. Аляхновіча пра страшнага грузіна, і сам Аляхновічаў лёс, апалены салавецкім пеклам, вельмі акрэслена гаварыў, ад каго трэба ратавацца!

Але, мусіць жа, князь каталіцкай царквы, ці больш дакладней – князь веры не можа пакінуць алтар свой...

9 сакавіка 2018 года паэт Сяргей Панізнік[53] змясціў у фэйсбуку фота Ф. Аляхновіча з Уладзіславам Галубком[54] і даў такое тлумачэнне:

«Здымак 1918 г., знойдзены ў львоўскіх архівах у 1966 г., я перадаў у рукі вучонага сакратара Літаратурнага музея Янкі Купалы. Алесь Есакоў[55] адразу ж папярэдзіў, каб копію я нікому больш не паказваў, бо могуць быць непрыемнасці. Пасля службы ў дзеючай арміі А. Есакоў трапіў у партызанскі атрад, байцы якога выконвалі спецзаданні; у Вільні, напрыклад, шукаючы кампрамат на Ф. Аляхновіча, нічога асаблівага не здабылі, але ў расстрэльных спісах ён значыўся, і прыйшлося выконваць загад на парозе яго дома...»

Цікава, і навошта было шукаць нейкі там кампрамат, калі драматургу ўжо быў вынесены самы страшны прысуд?!

Дарэчы, Томас Вянцлава[56] ў сваёй кнізе «Віленскія імёны»[57] назваў забойцу Ф. Аляхновіча – гэта савецкі тэрарыст Ёзас Сіманавічус, які нарадзіўся ў 1905-м, а памёр у 1984 годзе.

А яшчэ ў кніжцы Т. Вянцлавы можна прачытаць, што Ф. Аляхновіч баяўся прыходу саветаў і моцна піў, і што для маладой Беларусі ягоная творчасць дапамагала выхоўваць нацыянальныя пачуцці...

Вось пішу і не магу не думаць: Сіманавічус і Есакоў, магчыма, служылі разам і ў Вільні, на Полацкай, ці на якой іншай вуліцы, маглі бачыць Адама Станкевіча, які не схацеў пакінуць сваіх парафіян і тым самым не падбаў пра ўласную бяспеку.

Застаўшыся дома, дачакаўся моманту, калі чырвоная лапа, моцна сціснуўшы, тузанула на сябе жалезны прэнт ручнога званка...

Так, трэ было рушыць у эміграцыю, трэба, – аднак жа лёгка сказаць, ды цяжка зрабіць.

## 14. Першы арышт. Удакладненне даты

13 ліпеня 1944 года ў Вільню ўвайшла Чырвоная армія, а праз два тыдні (памятаем!) 27 ліпеня айца Адама наведаў Максім Танк...

Мінула лета, мінала восень...

У тыя дні, поўныя неспакойных думак, ксёндз-пробашч Адам Станкевіч кіраваў парафіяй і служыў у касцёле святога Міхала...

Час непазбыўнай трывогі, час няпэўнага настрою, – і вось вынік: «...7 снежня 1944 года... органы савецкага НКУС арыштавалі А. Станкевіча...»[58]

Аднак ці ў гэты дзень ён быў зняволены?

Варта ўдакладніць.

2 снежня 1944 года ваенны пракурор даў дазвол на пазбаўленне святара волі, а праз два дні, 4-га чысла, выпісалі ордэр на арышт за нумарам 410[59].

Заместа камісара дзяржбяспекі Гузявічуса ордэр падпісаў (амаль па-сталінску чырвоным алоўкам!) ягоны намеснік Рудакоў; ніжэй бачны подпіс блакітным атрамантам афіцэра Шуцьева[60].

Кідаецца таксама ў вочы і двухмоўная – па-літоўску і па-руску – сіняга колеру круглая пячатка з гербам савецкай Літвы ўсярэдзіне; лацінскія літары пячаткі большыя за кірылічныя.

З такім пісьмовым указаннем і заявіўся на Полацкую лейтэнант Пяткявічус[61], не адзін – з ім былі памочнікі з дзяржбяспекі Заварын і Васільева.

Ордэр прад'явілі Марыі Шутовіч – на адваротным баку дакумента захаваўся даволі выразны алоўкавы надпіс лацінкай: Order ćytała. M. Śutowić. 7.XII.1944»[62]

Але чаму гэту страшную паперку (запрашэнне ў пекла!) не паказалі самому Адаму Станкевічу?

Ды таму, што ён ужо быў арыштаваны і знаходзіўся ва ўнутранай турме НКДБ Літвы.

Мяркуючы па ўсім, яго забралі дзесяць дзён таму, – захаваўся рукапісны пратакол допыту ад 27 лістапада 1944 года[63]; допыт правёў старшы лейтэнант дзяржбяспекі Яратаў[64].

Склалася не зусім зразумелая карціна – чалавека забралі без ніякіх прадпісанняў!

Зноў паклікалі на «сяброўскую» гутарку?!

Магчыма.

Але гэтым разам не выпусцілі і толькі недзе праз тыдзень «спахапіліся», што «парушылі» працэдуру (напэўна ж, так яно й было?!), і запусцілі сваю канцылярыю, але не сталі, калі так можна сказаць, лістапад цягнуць у снежань – у выніку дата ўручэння ордэра (7 снежня 1944 года) і зрабілася «рэальнай» датай арышту, на якую і спасылаюцца даследчыкі.

Цікавая, здаецца, і такая акалічнасць: чэкісты – «...людзі поўныя крыві, сытасці і сілы...»[65] – прыбылі на Полацкую не сярод ночы, як зазвычай рабілі, а сярод белага дня.

Але ў гэтым не аператыўным (арышт), а «канцылярскім» (уручэнне ордэра) выпадку можна было заявіцца і ўдзень!

Вядома, ордэр маглі прад'явіць і самому арыштаванаму, скажам, у камеры ці ў кабінеце следчага, але чамусьці гэтак не зрабілі...

Тады ж, 7 снежня, Пяткявічус, Заварын і Васільева правялі вобыск, на якім прысутнічала прадстаўніца домакіраўніцтва – нейкая Валадзько Ніна Мацвееўна; яна распісалася ў пратаколе, вывеўшы сваё прозвішча таксама лацінскімі літарамі[66].

Ператрус доўжыўся тры гадзіны – з 13-й па 16-ю, забралі асабістую перапіску гаспадара кватэры, кнігі і ягоны савецкі пашпарт[67].

Дарэчы кажучы, гэты пашпарт не вярнулі, і ў сакавіку 1945 года Адам

Станкевіч атрымаў новы дакумент[68], канфіскаваны падчас другога арышту ў красавіку 1949 года.

*(Працяг будзе)*

*4 красавіка 2019 г, чацвер, 16 г. 51 хв.; Менск.*

---

[1] А. Станкевіч нарадзіўся (паводле старога стылю 24 снежня 1891 г., а паводле новага стылю – 5 студзеня 1892 г.) у вёсцы Арляняты Крэўскай воласці Ашмянскага павета Віленскай губерні – сёння гэта Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці.

[2] Язэп Германовіч (1890 – 1978) – беларускі каталіцкі святар, больш вядомы як пісьменнік Вінцук Адважны; скончыў Віленскую духоўную семінарыю, служыў у Друі ў ордэне марыянаў, быў місіянерам у Харбіне, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў у Вільні, прайшоў сталінскія лагеры, памёр у Лондане; аўтар неверагодна цікавай кнігі «Кітай, Сібір, Масква» (1962).

[3] Вынятка з выдання: Вінцук Адважны. Выбраныя творы. Укладанне, прадмова, каментар Ірыны Багдановіч. Мінск, «Кнігазбор», 2011 г.; с. 515. Далей: В. Адважны. Выбраныя творы. 2011 г.

[4] І. Нікіцін (1824 – 1861) – рускі паэт з Варонежа.

[5] В. Адважны. Выбраныя творы. 2011 г.; с. 516.

[6] Францішак Багушэвіч (1840 – 1900) – беларускі паэт, вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнік паўстання 1863 – 1864 гг., скончыў у Нежыне юрыдычны ліцэй; як адвакат абараняў сялян і мяшчан у Віленскім акруговым судзе. Аўтар паэтычных зборнікаў «Дудка беларуская» (1891) і «Смык беларускі» (1894).

[7] Адам Лісоўскі (1884 – 1929) – беларускі рэлігійны дзеяч, рымска-каталіцкі святар, вучыўся ў Вільні, Пецярбурзе, Інсбруку, Мюнхене, адзін з заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху; на нашу мову пераклаў кнігі Новага Запавету.

[8] Ян Фелікс Цяпляк (1857 – 1926) – біскуп рымска-каталіцкай царквы, мітрапаліт Віленскі; адміністратар Магілёўскай архіепархіі; за сваю духоўную дзейнасць быў асуджаны бальшавікамі на смерць, але, дзякуй Богу, да расстрэлу не дайшло – біскупу дазволілі выехаць у Польшчу.

[9] Адам Станкевіч быў рукапаложаны ў святары 28 снежня 1914 года (ст. ст.).

[10] Ідзі Бенядзікт Радзішэўскі (1871 – 1922) – каталіцкі святар, прафесар філасофіі, рэктар імператарскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў 1913 – 1918 гг.

[11] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 17.

[12] Арсень Ліс (1934 – 2018) – беларускі даследчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986), доктар філалагічных навук, аўтар грунтоўных даследаванняў, частка якіх уключана ў ягоны збор твораў «Gloria victis!» (2010).

[13] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 9, l. 18. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[14] Тамсама, l. 19. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[15] Антон Янкоўскі (1901 – 1982) – беларускі народны спявак, збіральнік фальклору.

[16] Вельмі верагодна, што гэта бацька Антона Янкоўскага.

[17] А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. 2009 г.; с. 209.

[18] Пунктуацыя і стыль захаваны.

[19] Слова напісана з мяккім знакам.

[20] Так напісана ў лісце.

[21] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, l. 5. Назіральная справа № 2661.

[22] Балады. У дзвюх кнігах. Кніга 1. Мінск, выдавецтва «Навука і тэхніка», 1977 г.; с. 716.

[23] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, l. 9. Назіральная справа № 2661.

[24] Словы Адама Станкевіча.

[25] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 156 ap.

[26] Тамсама, l. 157.

[27] «Лекцыя. Кс. Ад. Станкевіч 7.III сёл. ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы ў VI залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсітэту прачытаў лекцыю на тэму: «Праф. М. Баброўскі, яго жыцьцё, дзейнасьць і беларускасьць»: часопіс «Шлях моладзі» № 3 (102), Вільня, сакавік, 1937 г., с. 22; раздзел «Хроніка. З беларускага жыцьця».

[28] Міхась Баброўскі (1784 – 1848) – беларускі славіст, адзін з заснавальнікаў беларусазнаўства, доктар тэалогіі, вывучаў спадчыну Францішка Скарыны, прафесар; з Вільні быў сасланы ў Жыровіцы.

[29] Уладзіслаў Талочка (1887 – 1942) – беларускі рэлігійны дзеяч, публіцыст; вучыўся ў каталіцкім універсітэце ў Інсбруку, удзельнік Беларускай канферэнцыі ў Вільні ў 1918 г. Пахаваны на віленскіх Росах.

[30] Адольф Клімовіч (1900 – 1970) – беларускі грамадскі дзеяч, інжынер; у 1922 г. пачаў вучыцца на філалагічным факультэце Пражскага ўніверсітэта, а тады перайшоў на агранамічны

факульгэт Пражскай палітэхнікі. Вучобу завяршыў у 1928 г. Рэдагаваў гаспадарчы часопіс «Самапомач», выкладаў у Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, быў старшынёй «Беларускага цэнтра ў Літве». У 1953 г. прысуджаны бальшавікамі да расстрэлу, які быў заменены на 25 гадоў няволі.

[31] Л. Бацянскі (1892 – 1970) – паланізатар, віленскі ваявода ў 1935 – 1939 гг.; меў чын палкоўніка. Памёр у Лондане.

[32] Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 842.

[33] «Лісткі календара», запіс ад 13 студзеня 1939 г.

[34] Пастанова міністэрства ўнутраных спраў ад 14 жніўня 1939 г. (№ АР. 122/484).

[35] А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 331.

[36] Л. Берыя (1899 – 1953) – народны камісар унутраных спраў СССР у 1938 – 1945 гг.

[37] Вынятка з выдання: Эмануил Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». Мінск, выдавецтва «Адукацыя і выхаванне», 2016 г.; с. 56. Далей: Э. Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». 2016 г.

[38] Э. Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». 2016 г.; с. 79.

[39] Старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзялення Віленскага гарадскога ўпраўлення НКГБ.

[40] Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 846.

[41] LYA, f. K. - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 159.

[42] Тамсама, I. 183.

[43] Намеснік начальніка Віленскага гарадскога ўпраўлення НКДБ ЛССР.

[44] «1.V.1941. Клімовіч на волі...»: Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 846.

[45] Так пісьменнік Вінцук Адважны (ксёндз Язэп Германовіч) называў Сталіна.

[46] К. Чорны. Збор твораў. 1990 г.; с. 382.

[47] Лендлізаўскае – ад «ленд-ліз» (*англ.* lend – пазычаць, lease – здаваць у арэнду) – згодна такой палітыкі ЗША ў час Другой сусветнай вайны забяспечвалі сваіх саюзнікаў харчаваннем, адзеннем, лекамі, зброяй, ваеннай тэхнікай.

[48] М. Сяднёў. Раман Корзюк. 1985 г.; с. 105.

[49] Л. Цанава (1900 – 1955) – наркам унутраных спраў БССР (1938 – 1941), наркам дзяржаўнай бяспекі БССР (люты – ліпень 1941), міністр дзяржбяспекі БССР (з красавіка 1946).

[50] А. Арлоў (*сапр.*: Лейба Лазаравіч Фельдбін; 1895 – 1973) – старшы маёр дзяржбяспекі НКУС, што адпавядала армейскаму чыну генерал-маёра; аўтар кніжкі «Сапраўдны Сталін. Успаміны генерала НКУС» (1953).

[51] Галоўны герой рамана Хведара Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне» (1865 – 1866).

[52] У апошніх радках айцец А. Станкевіч адзначыў, што дакумент складзены ў Вільні «...у дзень Апосталаў Славян святых братоў Кірылы і Мяфодзія». Правапіс вынятак у тэксце і зносцы захаваны.

[53] Сяргей Панізнік (н. 1942 г.) – беларускі паэт, публіцыст; аўтар дакументальнай аповесці «Браніслава» (1985).

[54] Уладзіслаў Галубок (1882 – 1937) – беларускі драматург, адзін з заснавальнікаў нашага тэатра, першы народны артыст БССР, аўтар шматлікіх твораў, у ліку якіх і камедыя ў трох актах «Пісаравы імяніны» (1917). У. Галубок забіты сталіністамі.

[55] Алесь Есакоў (1911 – 1985) – беларускі крытык, вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы; аўтар кнігі «Зерне да зерня: Абразкі з жыцця Янкі Купалы» (1977).

[56] Т. Вянцлава (н. 1937 г.) – літоўскі паэт, праваабаронца.

[57] T. Venclova. Vilniaus Vardai. R. Paknioleidykla. 2006 m.; p. 219.

[58] А. Станкевіч. Выбранае. Выбранае. 2008 г.; с. 19.

[59] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 147.

[60] Капітан дзяржбяспекі, начальнік 3-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ Літоўскай ССР.

[61] Супрацоўнік НКДБ Літоўскай ССР.

[62] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 147 ap.

[63] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 162. 27 лістапада 1944 года, як дзень свайго першага арышту, А. Станкевіч пазначыў і ў «Каляндарных нататках»: З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 849.

[64] Старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзела НКДБ ЛССР.

[65] Так трапна пра сталінскую брацію напісаў Вінцук Адважны (ксёндз Язэп Германовіч) у кнізе «Кітай, Сібір, Масква».

[66] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 151 ap.

[67] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 151: пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171, выдадзены 22 траўня 1941 года 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі.

[68] LYA, K. F - 1, ap. 58, P - 12505, b.b., l. 17: пашпарт серыі ТЭ, № 670899, выдадзены 13 сакавіка 1945 года 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі.

Міхась Скобла



...Згубіў ён тогу і забыў дарогу,
Што ў храм прыгожы досвіткам вяла.
Маліўся не красе – шкляному богу,
Пацірам – пляшка з вермутам была...

# “Патрыцыя нізрынуць у плебеі...”

## *ЗМЯЯ*

Ён спаў каля ляснога ручая,
І запаўзла у рот яму змяя,
Ён не адчуў агіды – бачыў сны,
І лашчыў слых яму ручай лясны.

Праз сон ён чуў, як пачужэў язык.
У сне ён закрычаў і прахапіўся –
І крык ягоны у змяіны сык
Ператварыўся і ў траве згубіўся.

Ён енчыў, ён шаптаў – і кожны зык
У слізкім, га́дзінай абжытым роце
Ператвараўся у змяіны сык,
І змеі адгукаліся ў балоце.

Ён замаўчаў.
Знямеў.
Зміры́ўся.
Звык.
І нейк у люстэрку ручаіны
Пабачыў, як раздвоіўся язык
І сыкаў, як прыроджаны змяіны...

### *РАДАЎНІЦА*

Над крыжамі птах пяе.
Гэй, аднавяскоўцы,
Мармуровыя мае!..
У адказ – ні слоўца.

Паражнілі гляк да дна,
Запівалі квасам.
Танцавалі да відна
Польку з выхілясам.

Звонкаглінныя збанкі
На платах віселі.
Спеў ляцеў на ўсе бакі,
Па тры дні – вяселлі.

Прывяла вярба наўгад,
Жоўтая, як з воску, –
Ні людзей няма, ні хат,
Закапалі вёску.

Там клады і тут клады,
Зруб ляжыць ля зруба.
Перабраліся б сюды,
Дзед Васіль мой малады,
Цётка мая Люба.

Памінальнай свечкі ўсхліп
Стыне ў халадэчы.
Можа, тут вы ажылі б,
Запаліўшы ў печы.

Экскаватарны раскоп.
Вецер рве газету.
Комін, нібы перыскоп,
Глянуў з таго свету...

### ПАТРЫЦЫЙ

Рака, змяніўшы рэчышча, глыбее.
Трапляе рэдка рыба на гачок.
Патрыцыя нізрынуць у плебеі
Спрабуе варты жалю дзеячок.

За срэбнікі (не ўсім даюць па трыццаць)
Ён кудламі на форумах трасе:
“Без белай тогі выгнаны патрыцый
Трапляў у выцвярэзнік, як і ўсе.

Згубіў ён тогу і забыў дарогу,
Што ў храм прыгожы досвіткам вяла.
Маліўся не красе – шкляному богу,
Пацірам – пляшка з вермутам была”.

Палічыць чаркі выпітыя чэлядзь
І выпытае факты звадыяш.
Ім хочацца патрыцыя знікчэміць,
Каб па-плебейску выгукнуць: ён – наш!

Ды што з таго, што, выселены з Рыма,
Ён садзіць бульбу ці гусей пасе...
Прысела вечнасць пад яго дзвярыма
І тогу вышывае пакрысе.

### АЗЯРЫЧЫНА

*Зміцеру Санько*

Мне прыснілася Азярычына –
У зялёных садах сяло.
Родных песняў там – не падлічана,
І ляціць душа намагнічана
У салодкае іх сіло.

Там за беленькім за бярэзнічкам
Талалайчык рассыпаў брэх.
Там рыпець да світання веснічкам
І звінець капяжам са стрэх.

Азярычына да Дзярэчына
Прысуседзілася на слых.
Там з кута ліхата адпрэчана,
Там не садзяць на покуць злых.

Не відаць праз гаць у зары чаўна,
Не зарос азярод быллём...
Я гатоў ісці ў Азярычына
Праз Айчыну ўсю з хатулём!

### ПАКУТНІК

Збіраў, як бульбу ў кошык,
Рыфмар і медзь, і срэбра.
За кожны спрэчны грошык
Лічыў ахвярам рэбры.

Ён кантынгент парнасны
Закопваў без рыдлёвак
І кожны пук уласны
Рабіў пучком рублёвак.

Даймала, як прастуда,
Яшчэ адна загана –
Ён мучыўся, што Юда
Прадаў Хрыста затанна.

### СКАЗ ПРА ЦАРЫЦУ

*З Ліны Кастэнкі*

Прымае цар паслоў дзяржаўных.
Ужо здзівіў чым толькі мог.
За тронам еўнухі дрыжалі,
Загадаў прагнулі. Парог
Ахоўвалі дзве алебарды.
Карона высіла чало.
Былі рабыні, блазны, барды,
Адной царыцы не было.

І цар, пазбыўшыся спакою,
Агучыў еўнухам загад:
Царыцу выклікаць з пакояў –
Паслам заморскім на агляд.
Бо ў золаце палац іскрыцца,
Вяльмож, чаляднікаў – гурма,
Але другой такой царыцы
У цэлым свеце больш няма.

Еўнухі сандалі халатамі абмяталі,
Загад той ледзьве пралепяталі.

Назад чалэпкалі, панікшы,
Паклоны білі – не злічыць.
– Маўчыць царыца, найвялікшы,
Стаіць царыца і маўчыць!

Цара спужалася ўся дворня.
– Я вас у порубе згнаю!
Скажыце ў вытанчанай форме –
Чакае цар жану сваю.

Ляцелі еўнухі, ад страху енчылі.
Назад пляліся, з парога кленчылі,
Ілбамі грукнуліся долу,
Хтось анямеў, хтось ледзь мычыць:
– Маўчыць царыца, ясначолы,
Стаіць царыца і маўчыць!

Ускочыў цар, як шаляніца:
– Я голадам вас замару!
Як можа хай сабе й царыца
Ісці насуперак цару?!

Еўнухі – бегма, лазою ніцай
Слаліся, бедныя, перад царыцай:
– Загад вялікага і мудрага,
Пярэчыць, ваша мосць, не след.

...Бялелі плечы перламутрава,
Ляцелі бровы на той свет.
Страх не крануў аблічча ейнага.
– Загад цара не прызнаю,
Бо, перададзены праз еўнухаў,
Ён страціў сіламоц сваю!

## *КАЗАК МАМАЙ*

*З Дзмітра Паўлычкі*

Сядзіць ён на манер турэцкі –
Навука хітрага пашы.
Жывот пукаты, нібы ў нэцкі,
За поясам тры палашы.

Ён мае ўсё: каня і зброю,
І хлеб, і грошай пра запас.
Але ў вачах – журба ізгоя
(Як, зрэшты, у любога з нас).

Ён хныкае: “Такі мой лёс!”
Палаш і шаблю адкладае,
Тужліва на бандуры грае
І песні сумныя спявае,
І ў неба скрушна паглядае,
І Бога ў сведкі запрашае,
І спавядаецца да слёз.

І кажа Бог яму: “Мамаю,
Ты ж не калека, не ізгой.
Чаго ты плачаш, я не знаю,
Я жальбы слёзнае тваёй
Не разумею і паловы...”
Але Мамай на тыя словы
На рэагуе. Плача й годзе.
Сягоння ўцёк ён ад пашы,
І вось паплакаць на свабодзе –
То шчасце для яго душы.

А Бог ізноў: “Не плач, казача.
Ты вольны, будзь сабе наўме.
Ныццё тваё абрыдла мне”.
Але Мамай сядзіць і плача
На волі, бы ў пашы ў турме.

Вісіць на яблыні ручніца –
Заіржавела ад расы.
Ідзе да студні маладзіца –
Не бачыў свет такой красы.
Казак, шмат шчасця не бывае,
На купалы грудзей зірні –
Аж конь іржэ і забывае
На іх вачэй сваіх агні!

Але Мамай сядзіць і плача,
Збірае слёзы ў кулакі.
А Бог маўчыць. Той плач, няйначай,
Трывае ён мо тры вякі.
Калі ж трывання пас парвецца,
Бог адлупцуе Мамая –
І, можа, хоць тады ўсміхнецца
Сямейка сумная мая!



Сяргей Рублеўскі



...Як цяжка
сябе ашукаць!..

# Я, мама і смерць у калідоры

***Два апавяданні***

## Апошні палёт Артура Казюры

Душа пісьменніка Артура Казюры патрэскалася, нібы шыбіна ад кінутых у яе шчодрай жменяй каменьчыкаў. Яго заціскалі нястача, непаразуменні з роднымі, звадкі ды іншая побытавая чамярыца. Колькі такіх каменьчыкаў!

Апроч усяго, балюча калола сэрца растанне з Зойкай, гарачай каханкай, якая колькі гадоў таму спакусіла яго сваімі вабнотамі, а цяпер раптам сышла да другога. Міжволі зноў і зноў згадваліся начныя размовы пра непадуладнасць іх пачуцця часу, пра непарушнае панітаванне душаў...

Новы Зойчын каханак, як сама вяртляўка хвалілася Артуру, быў куды лепш, чым ён, абазнаны ў жыцці, куды дужэйшы за яго і больш прыдатны для “простага чалавечага шчасця”, мае для гэтага аўто, няхай сабе старой, але надзвычай надзейнай маркі. Цяпер і яна на тым легкавіку

будзе ездзіць, як пані! Для Артура ўсё выглядала так, нібыта каханка помсціць яму за даўнія, але для яе незабыўныя ўчынкі, і, як часта ў жанчын бывае, робіць гэта з асалодай і неўтаймоўнай злоснай радасцю. “А трэба было жаніцца ў свой час, як сабачка на ланцужку за табой бегала б...” – сказала яму аднойчы Зойка.

“Сапраўднага кахання ў нас, мусіць, і не было ніколі, – з горыччу думаў Артур. – Наогул, як яно рэдка здараецца ў людзей, сапраўднае каханне! Усё любошчы ды любошчы... Грахаводнікі няшчасныя...” – глыбока ўздыхнуў небарака.

Але жыццёвую калатуху, якога б густога замесу яна ні была, як бы ні гарчыла, заўсёды праглынеш, калі не са смакам, дык са страхам за хоць якое падаўжэнне сваіх дзён.

Усё неяк абышлося б і ў Артура, каб не стрэмка, якую ён пад уплывам звабнай аблуды яшчэ ў юнацтве з ахвотай сам сабе глыбока загнаў у сэрца.

Такой пажыццёвай стрэмкай стала для яго захопленасць прыгожым пісьменствам. Спачатку, праўда, не надта прыгожым, з так або інакш затоеным у радках дысанансам, а з цягам часу – ужо з прыкметнай моўнай мілагучнасцю і выразным рытмам апавядальнасці... І Артур пакрысе пачаў адчуваць сябе пісьменнікам. Да таго ж сваё адчуванне ён падмацаваў выданнем трох кніжак і пачаў пісаць чацвёртую.

Праўда, ён так і не асмеліўся ўзяцца за напісанне рамана, каб выявіцца напоўніцу. Але як тут выявішся, калі і на абразках ужо добра ўходаўся, нібы слабы ганчак, які ўвязаўся за спрытным зайцам, нагнаў сабе дыхавіцу.

Аднойчы ў бальніцы, калі Артур пасля моцнай прастуды ляжаў з запаленнем лёгкіх, да яго ў вольны час пачаў прыходзіць Самуіл Фейгензон, сусед па доме, які тым часам падлечваў свае вочы і месціўся ў адпаведным аддзяленні лякарні паверхам ніжэй.

– Што ты тут крэмзаеш? – запытаўся аднойчы Самуіл у Артура, калі ўбачыў на яго тумбачцы густа спісаныя аркушы.

– Ат, так сабе... Аповед адзін для новай кніжкі дарабляю. Чамусьці аніяк не магу танальнасць вытрымаць, збіваюся раз-пораз...

– Дык што ты, можа, сапраўдным пісьменнікам наважыўся стаць, прафі?.. – усміхнуўся Самуіл, прымружыў вочы і пачаў уважліва ўзірацца ў Артура, усё адно як упершыню бачыў.

– Глядзі, гэтае ярмо бязлітасна шыю муляе... – падоўжыў гаворку сусед з упэўненасцю знаўцы, усё адно як тое ярмо на сябе прымерваў.

– Хаця... – Самуіл задумаўся на якое імгненне. – Табе ўжо колькі, за пяцьдзясят, здаецца?.. – ён яшчэ шчыльней прымружыў вочы і са слабай, пазначанай толькі куточкамі губ усмешкай дадаў: – Вэй, мой харошы, вялікім пісьменнікам ты ўжо не станеш, хіба што маленькім... Вось такім, – і кплівы сусед паказаў двума тоненькімі пальчыкамі вышыню, роўную пушцы сярнічак.

Агаломшаны Артур у адказ не сказаў ні слова, моўчкі праглынуў высновы Фейгензона, як горкую пігулку. У ёй жа па сутнасці не было нічога крыўднага, калі не крыўдаваць на шчырасць ды праўду і не звяртаць увагу на з’едлівасць суседа па доме, а цяпер і бальніцы.

Назаўтра пад кропельніцай самотны Артур, пазіраючы на празрыстую трубачку, у якой слязліва-суцяшальна і дужа марудна, здавалася, нават не паспяваючы за часам, сачыўся лекавы раствор, думаў пра сваё жыццё. У тым ліку, вядома, і літаратурнае. Як высветлілася, яго ўсё ж такі закранулі за жывое словы Фейгензона.

“Ну і няхай сабе маленькі... Як верабейчык... – узнавіў у думках размову з суседам і прытым цяпер нечакана для сябе запярэчыў яму Артур. – Не ўсім жа ў пошчаку салаўіным заходзіцца! Камусьці і “чык-чырыкаць” трэба... Ёсць жа людзі, якія і без вераб’інай просценькай песенькі жыць не могуць! Без песні звыкласці, якая нітуе з родным кутком. Дык і мае чытачы абыходзяцца звыклым. Няхай іх няшмат, але ж мае!..” – суцяшаў і крыху пафасна ўзбадзёрваў сябе Артур. А тады, усцешаны прыемнымі душэўнымі зрухамі, зноў пачаў назіраць за кропельніцай і неўзабаве задрамаў.

Праз колькі дзён Артура выпісалі з бальніцы. Перад адыходам дамоў ён зайшоў да Самуіла Яхімавіча, пажадаў яму ўдалага лекавання і на развітанне з юнацкім імпэтам падвёў рысу: “І каб усё ў вас было на раз, як чык-чырык!”

Фейгензон не звярнуў увагі ці зрабіў выгляд, што не звяртае ўвагу на гэтую фамільярнасць. Артур жа, ідучы на прыпынак, раптам засаромеўся сваёй бесцырымоннасці і пачаў дакараць сябе: “От жа, ядавіты зуб, аніяк не магу забыць на кепікі старога чалавека! Так і свярбіць ушчыкнуць яго, пад’ялдыкнуць, калі не плячом штурхнуць, дык хаця б крысом зачапіць... Усё адно як неўтаймоўную злосць на суседа займеў... – Артур прыпыніў хаду і паправіў шалік, які трохі муліў шыю. – І за што пакрыўдзіўся, якой трасцы... Ды яшчэ так марудна крыўдачка да сэрца дапаўзла, на другія суткі... Ат, пустое ўсё, пустое...” – перасмыкнуўся ён, нібы пасля благога сну, і пакрочыў далей.

Прыпынак быў ужо побач, і трамвай патрэбнага нумару скрыгатаў коламі на бліжнім павароце.

У напалову пустым вагоне Артур уладкаваўся на сваім улюбёным, ля вакна, месцы. Прыляпіўся шчакой да шкла і пачаў назіраць за мінакамі на ходніках, аглядаць голыя перад зімой дрэвы з выразнымі карункамі чорных ліній галля, і яму стала сумна. Навакольны свет, здавалася, жыў асобна ад яго, ды і ён амаль згубіў ранейшую цікавасць да свету. Артуру раптам заманулася як мага шчыльней прыляпіцца да шкла, нібы аркуш паперы або кляновая лісцінка, каб адцурацца ад усіх на свеце, ён быў гатовы нават сплюшчыцца, стаць дзвюхмернай істотай... Так душа прагла адзіноты!

– У вас праязны ці будзеце плаціць? – раптам прагучаў каля вуха жаночы пісклявы голас.

– Буду плаціць за ўсё, – імгненна адказаў Артур.

А калі кандуктар сышла, схамянуўся ды зноў пачаў дакараць сябе: “... за ўсё! ...за ўсё! – са злой іроніяй у думках паўтараў пісьменнік. – І чаму я чапляюся да людзей, а цяпер вось і да зусім незнаёмых, выпадковых, чаму праваку́ю іх, імкнуся зацягнуць у вір свайго душэўнага бязладдзя... І чым далей, тым больш. Што са мной робіцца?”

Але ўдумвацца ў гэта не было часу: трамвай зрабіў апошні паварот, і да дома Артура заставалася ўсяго два прыпынкі. Ды і абставіны не спрыялі – жалезны ляскат, надакучліва-ласкавы голас апавяшчальніка прыпынкаў, людская мітусня, панылыя твары пасажыраў, хоць і звыклыя для нашага транспарту, цяпер больш, чым раней, раздражнялі Артура. І ён, усцешаны вяртаннем дамоў, пачаў думаць пра другое – як неўзабаве змые з сябе ў лазенцы бальнічныя пахі, віп’е вялікі кубак духмянай гарбаты і засядзе за ўлюбёны, адштукаваны знаёмым сталяром пісьмовы стол... Спачатку, пакуль слабы, – на якую гадзінку, а можа і на паўгадзінкі, а потым, з цягам часу, будзе праседжваць за ім днямі...

Але не ўсё з намераў Артура спраўдзілася. У гэты дзень адключылі гарачую ваду, і ён не змог, як наважваўся, памыцца, толькі спаласнуў твар халадзёнкай. “Для работы гэта нават лепш. Не разамлелы сяду за стол, а ўзбадзёраны, як спартанец”, – суцешыў сябе пісьменнік і пачаў рыхтавацца да працы.

Але спярша ўзяў адмысловую мяккую анучку і старанна выцер стальніцу, бо за час яго адсутнасці на ёй даволі асела пылу.

А тады задумаўся, чым пісаць: алоўкам, як у бальніцы, ці якой іншай прыладай? Вырашыў – іншай, нядаўна падоранай сябрамі асадкай фірмы “Parker”, каб надаць новы, можа, нават больш пераканаўчы гарт сваёй працы. Апроч усяго, Артуру хацелася напоўніць хоць якой святочнасцю аднаўленне засяроджанага літаратурнага занятку ў родных сценах. А змена просценькага алоўка на прызнаную ва ўсім свеце асадку – чым не ўрачыстасць! Дарма, што такія “ўрачыстаці” і раней у яго адбываліся раз-пораз, бо Артур аніяк не мог вызначыцца, чым найлепш пісаць, каб з асалодаю. Аловак мяняў на шарыкавую ручку, шарыкавую ручку на асадку, потым зноў паўтараў чаргаванне ў тым або іншым парадку. Цяжка не спакусіцца самападманам.

Ён напоўніў сваё “вечнае пяро” фірмовым атрамантам, якога меў у запасе колькі флаконаў, каб хапіла надоўга, акуратна паклаў пад руку стосік свежых аркушаў паперы і пайшоў на кухню гатаваць гарбату.

Потым вярнуўся за стол з гарачым кубкам і пачаў пісаць.

Артур вырашыў пакуль не падаўжаць бальнічны рукапіс і распачаў новы апавед. Але з першых сказаў стала зразумела, што словы, не склееныя скразным пачуццём аўтара і дзейных асоб твора, ледзьве трымаюцца ў радках.

Каб перабіць настрой, Артур вырашыў з’есці яблык – сакаўны, чырвоны, з тых, што прывёз да хваробы ад свайго старога дзядзькі Васіля.

Але яблык не абудзіў, як ён чакаў, згадак пра шчаслівае вясковае маленства, а хіба толькі выклікаў яшчэ большы апетыт, і пісьменніку прыйшлося зноў ісці на кухню...

Потым ён перагледзеў па інтэрнэце навіны, паслухаў лёгкі джаз з узмацняючым адчуванне самоты саксафонам, пахадзіў у роздуме з кута ў кут па сваім пакоі, напісаў яшчэ адзін кароценькі, на якіх тры сказы абзац аповеда і, трошкі супакоены, лёг пад цёплы плед на канапу з кніжкай у руках.

Дрымота пакрысе пачала зморваць пісьменніка, і ён адклаў кніжку ды з ахвотай скарыўся дрымоце, а тады і сну. Апроч жадання пазбавіцца стомы, яму карцела параўнаць, чым сны ў родным затулку, арозніваюцца ад бальнічных, якія апаноўвалі яго ў казённым ложку.

Назаўтра дзень прайшоў амаль гэтак жа, з невялікімі пераменамі.

І паслязаўтра тое самае паўтарылася, і пасля, і пасля... Цэлы тыдзень, а тады і месяц.

Неўзабаве скончыўся працоўны адпачынак, які Артур прадбачліва аформіў пасля хваробы. Думаў супакоіцца пасля ўсіх сваіх непярэлівак, набрацца сілы, уволю насядзецца за пісьмовым сталом... А тут на табе – не пішацца. Дык адкуль той сілачцы брацца?! Ён жа даўно заўважыў простую залежнасць здароўя пісьменніка ад літаратурных здабыткаў: калі ты пішаш дзень ада дня, крукам седзячы за сталом, дык тады і пачуваеш сябе зухам, перапоўнены бадзёрасцю, прагнеш жыцця... А калі не пішаш, дык гібееш...

Што ж ты, браце, ведаючы дарогу, не ідзеш па ёй, не бяжыш, не спяшаешся!..

У чацвер Артура разбудзіў дождж. Зранку заляпаў па бляшаным падваконні буйнымі кроплямі, памкнуўся было выбіваць звыклую чачотку, а потым, усё адно як збіўся з тропу, пачаў барабаніць неўпапад, быццам зусім не ведаў свайго рытму. А праз колькі хвілін знянацку сціх... Калі Артур прыслухаўся, дык усё ж учуў лёгкае шаргаценне па блясе, не раўнуючы як бухматым мяккім венічкам. "Можа, дождж у адно імгненне пераўтварыўся ў снег, дык і ледзь чутно яго. Перад зазімкам такое бывае..." – падумаў Артур і падышоў да вакна. Адхінуў цяжкую шчыльную штору – і пакой напоўніла восеньскае, здавалася, усё адно як набрынялае вільгаццю, святло. Ён згадаў, як улетку яго стол залівала зыркая, няўлежная, гулліва-дуроная, нібы котка, сонечная пляма. А цяпер святло лягло цяжкім і нават здавалася трохі халаднаватым шызым абрусам. Пісаць не заманьвалася. Адно што ўсплылі ў памяці словы знаёмага знанага пісьменніка, які ведаў праблемы Артура і, відаць, каб падбадзёрыць яго, сказаў падчас кароткай сустрэчы ў кнігарні:

– Ну што раскіс, браце, бачу, бачу, не аднеквайся... Вучыся ў мяне: устаў, ногі ў тэпці, і за працу! Стол побач, каву жонка згатуе і паднясе... Шчыруй, толькі ў працы нашае выратаванне!

– Я не п'ю кавы, і ў мяне няма жонкі... – сумна адказаў зніякавелы Артур.

– Ат, з памяці вылецела. Ну, так, так... Даруй. І не крыўдуй. Але ўсё адно пішы! – і яны развіталіся.

"Не буду!" – буркнуў сабе пад нос, нібы толькі што адбылася тая размова, змарнелы пісьменнік і лёг у свой яшчэ не засланы і не зусім астылы ложак.

Чаму не будзе, дакуль не будзе ці пакуль не будзе?

"Няўжо наогул не буду больш пісаць?" – зайшлося ў страху сэрца Артура. Раней ён і падумаць так не асмеліўся б. А цяпер... Пісьменнік пакрысе пачаў ужо ўсведамляць, што на змену папярэдняй у яго ўкараскалася іншая, не менш жорсткая, на яго думку, хвароба – дэпрэсія. Ды і знаёмы псіхіятр неяк згадаў пра яе ў размове, нібыта між іншым, але пачаў пры гэтым даволі падрабязна, у стылі харор расказваць аб наступствах бязлітаснай немачы. Артур здзекліва ўсміхнуўся ў душы: маўляў, ведаем мы вас, дактароў, калі не можаце вылечыць, дык падрабязна, нібыта самі тую хваробу вынайшлі, расказваеце, як яна ўбіраецца ў сілу, як доўжыцца і які будзе вынік. Нібыта людзі без расповедаў не здагадваюцца...

Пасля дажджу Артур з ахвотай паддаўся сну – у сне лепш за ўсё марнаваць час.

"Па сутнасці, усё маё жыццё цяпер – прыкрае марнаванне часу... А можа, яно і раней такім было, проста не звяртаў увагу... Можа, і ва ўсіх людзей так, і яны ўсведамляюць гэта толькі напрыканцы свайго веку, калі ўжо нічога не зменіш..."

І тут Артура раптам жагнула даўно ўжо адцураная корць: яму захацелася сесці за стол і пісаць... Ён нават забаяўся гэтага свярблівага жадання, і, каб незнарок не адпудзіць яго, асцярожненька, нібы трымаючы ў руках напоўнены, як вочка, кубак гарачай гарбаты, падышоў да стала. Артур вырашыў вельмі далікатна абысціся з гэтым добра забытым, але па-ранейшаму шчаслівым жаданнем і з бояззю прысеў на край крэсла.

"Буду дзень сядзець, пакуль не напішу аркуш тэксту, а то і два аркушы..." – пакляўся сабе Артур.

І ён гадзіны тры сядзеў крукам, не разгінаючыся, нават на якое падсіл-

каванне забыўся, але аркуш змусіў сябе напісаць, нават на другі перайшоў. Праўда, на палове другога аркуша спыніўся, бо адчуў, што словы, як той гарох, хоць і напісаны ў радочкі, а трасяні паперу – здаецца, тут жа пасыплюцца на падлогу, толькі трэтар пойдзе. Таму што зноў не нанізаныя, нібы тыя каралі, на нітку сагрэтага душой пачуцця. Дык Артур асцярожна паклаў сваю пісаніну на ўскраек стала, на стосік чыстых аркушаў, нават не чытаючы. А навошта чытаць, калі нічога не выправіш! Гэта ж усё адно што вінегрэт зноў і зноў перамешваць: тыя ж бурачкі, тая ж бульбачка, той жа салёны агурочак і той жа смак, колькі ні барляй лыжкаю...

І Артур вырашыў трохі пагуляць на вуліцы, каб суняць сваё раздражненне. Балазе надвор'е к вечару ўсталявалася прыемнае, бязветранае, а ў скверыку па суседстве з домам на вузкай утульнай алеі запаліліся ліхтары. Лацвей тут шпацыраваць з канца ў канец прысадаў, калі мінакам няма аніякай справы да твайго настрою, да твайго клопату, да тваёй самоты. Як і табе да іх, занураных у высокія каўняры, марудлівых, таксама са змрочнымі ў жоўтым святле ліхтароў тварамі. Артура нават трохі ўсцешвала хоць такое сумнае людское паяднанне.

А пра сённяшнюю сваю літаратурную працу пісьменнік, гуляючы ў скверы, і не ўспамінаў. А што ўспамінаць, калі яна па сутнасці ператварылася ў звыклую побытавую дзею, якую выконваеш між іншым, механічна, амаль няўцямна, па даўняй звычцы...

А вось згадка аб новай страшнай хваробе зноў і зноў вярэдзіла душу.

“Адкуль яна ўзялася, гэтая пошасць, гэтая навалач... Закрыла мой далягляд – ад краю да краю... – думаў Артур, паныла брыдучы па алеі. – Запаленне лёгкіх ясна адкуль – дужа застудзіўся на рыбалцы – дажджлівая ноч у палатцы, ветраная раніца... А дэпрэсія? Са слоўніка замежных слоў, ці што...” – памкнуўся ў думках хоць трошкі ўзбадзёрыць сябе жартам гаротны аўтар, але нічога не атрымлівалася.

У канцы алеі ён спыніўся ў разгубленасці, усё адно як забыўся, што трэба павярнуць назад, каб доўжыць, як і рабіў дагэтуль, свой шпацыр.

Тым часам у алею ўвайшла гаманкая, узрушаная вясёлай спрэчкай чародка дзяўчат. Гарэзніцы штосьці голасна даводзілі адна адной, размахвалі рукамі, са смехам таўхаліся... Артур схамянуўся і пайшоў за імі.

“А можа, гэта Заіл мне са сваімі любошчамі так у знакі даецца?” – раптам згадаў Артур сваю прыўкрасную каханку.

Зойка ж на дух не пераносіла, што б ён ні напісаў: і каму гэта будзе цікава, і хто гэта да канца дачытае, праз словы, як праз дзядоўнік высозны прадзірацца трэба – і дзе ты такіх вясковых слоўцаў нахапаўся, нікому невядомых, хіба што толькі тваім землякам... І яшчэ, і яшчэ... Чахвосціла, не раўнуючы як старажытны Заіл Гамера. Дык і атрымала дзеля смеху ў свой час адпаведную мянушку. “Хаця... З кім я, Казюра-казюрка, няхай сабе і незнарок зраўняўся – з нябеснай літаратурнай вышынёй? Зусім з розуму выжыў...” – астудзіў свае пачуцці Артур.

Тым часам вечаровы морак загусцеў да цемры, і светлавыя плямы ліхтароў сталі куды больш выразнымі, а ў святле замітусіліся дробныя сняжынкі.

“Зіма... – нібы зусім нечаканую навіну адзначыў у свядомасці Артур. – А зімой мне заўсёды цяжка пісалася. Што рабіць, давядзецца вясну чакаць. Да дзядзькі Васіля з'езджу, як толькі цеплыня надыйдзе, на пчолак нагледжуся...”

Дзядзька ж яго кожную вясну не мог дачакацца вылету пчол. А калі вылятАлі з вулляў, казаў: “Пчолкі ажылі, і я годзік яшчэ пражыву...”

“Дык, можа, і я ачуняю...” – з гэтым спадзяваннем і пакрочыў небарака дадому.

Час доўжыўся, але нічога не дапамагло – ні вясновая цеплыня, ні пчолы... І амаль нічога не змянілася ў жыцці пісьменніка. Пісьмовы стол іншы раз, асабліва калі з раніцы Артур быў не ў гуморы, нагадваў яму адмысловы варштат для катавання. Дык як за яго садзіцца? Сядзеш, а рука адразу ўсё адно як прыкутая да стальніцы, здранцвелая – ні зварухнуць. І на адну літару цяжка на аркушы пасунуць.

“Сам сабе кат! І такі здзеклівы!..” – аднойчы змрочна адзначыў Артур.

Напрыканцы вясны ў яго жыцці ўсё ж адбыўся адзін прыкметны зрух – нябога зноў пачаў... курыць. Махнуў рукой на строгую забарону ўрачоў: каб болей ні-ні, каб і думаць забыўся пра такое вычварэнскае вынаходства, як цыгарэты! Але Артур раптам лёгка выкінуў з галавы перасцярогу “правільных людзей”. Якая ж гэта дэпрэсія без тытунёвага палення!..

Нягледзячы на тое, што пісьменнік жыў адзін у сваёй кватэрцы, ён аблюбаваў для курэння прытулак па-за яе сценамі – на балконе. У свой час Артур было надумаў пісаць на ім: зашкліў, абшыў вузенькай, з прыемнай фактурай дрэва вагонкай, а з аднаго, больш сонечнага боку прыладзіў стол-палічку, дастаткова шырокую, каб раскласці паперу і пісьмовыя прылады. Але навошта тое цяпер...

На паліцы стаяла скульптурка пацешнага Буды з азораным усмешкай тварам і з рухомай галавой – толькі крані, і яна пачынае хітацца з боку ў бок, усё адно як лялечная істота, ні з чым на свеце не згодная. Артуру ж у хітанні Буды, у яго ліслівай усмешцы бачыліся бязлітасная іронія і дакор: маўляў, што ж ты так раскурыўся, бядак, зусім меру страціў, у труну захацеў?!

Ён адставіў цацку ўбок, як мага далей, каб і рукавом не зачапіць. А сам падумаў: “Але ж куру і праўда без меры. У людзей выпальванне цыгарэты – паўза ў жыцці, а ў мяне жыццё ўжо – паўза ў курэнні, – з горыччу падумаў пісьменнік, але тут жа махнуў рукой: – Ат, бяды столькі... Здароўя, якім бы слабым яно ні было, заўсёды хопіць на завяршэнне жыцця. А калі што, дык жыццё няўдалае і скамшаць можна, як сапсаваны аркуш...”

Да таго ж Артур пачаў купляць цыгарэты трохі даўжэйшага, чым звычайны, памеру. Не таму, што не мог накурыцца... Не толькі таму. Новыя цыгарэты часам свайго выпальвання задавалі добры рытм думання.

Цяпер Артур больш часу бавіў на балконе, чым за пісьмовым сталом. Смалячы чарговую цыгарку, ён міжволі пачынаў абдумваць сюжэт новага апавядання, хоць і ведаў, што твор наўрад ці будзе напісаны. Вяртаўся ў пакой, а запісаць толькі што надуманае не мог – быццам невядомая сіла ўтрымлівала яго за світэр, не пускала да стала...

Тады знясілены, раздражнёны пісьменнік клаўся на канапу адпачыць або ўключаў лёгкую музыку, або ішоў на кухню гатаваць сабе гарбату, нават калі зусім не хацелася яе піць.

З цягам часу Артур усё ж змусіў сябе занатоўваць на свежых аркушах хаця б назвы задуманых апавяданняў і, як неўзабаве даўмеў, такім чынам яшчэ на большы тэрмін адкладваў іх напісанне.

“Акрыяю, быць не можа, каб я не выкарабкаўся з гэтай немачы! – узбадзёрваў сябе Артур. – З цяжкіх ложкаў уставаў, а тут жа на сваіх нагах...” – і змарнелы творца падраўноўваў на стале стосік сваіх накідаў: на кожным аркушы зверху было асабліва старанна выведзена “Артур

Казюра", а крыху ніжэй – толькі назва аповеду. Пісьменнік саромеўся прызнацца сабе, што ўжо цешыцца хоць з такіх занатовак.

Аднойчы – і што на яго найшло – Артур вырашыў не чакаць лепшых часоў, узяў са стала аркуш з назвай задуманага аповеда і ўзяўся пісаць. Напісаў колькі сказаў і... пайшоў курыць. І тады на балконе ён нечакана для сябе пачаў доўжыць распачаты аповед у думках – сказ за сказам. Праўда, раптам адчуў, што годзе, далей не запамінаецца, дык навошта вышэптваць тэкст сабе пад нос.

Артур падчас такога творчага думання было памкнуўся адразу вяртацца ў пакой, каб хуткай рукой перанесці на паперу свой слоўны здабытак. Але і з гэтага намеру практычна нічога не атрымлівалася. Асабліва, калі рабіў якую паўзу перад тым, як сесці за стол. Надуманае забывалася. І нават калі садзіўся пісаць адразу, згадваліся толькі пара-тройка сказаў, а то і адзін...

"Як цяжка сябе ашукаць! Як немагчыма нават самымі вытанчанымі хітрыкамі падмяніць сапраўдную літаратурную працу на яе вычварэнскую імітацыю! А можа, маё адмысловае мысленне на балконе – зусім іншы літаратурны жанр, які можна вызначыць як... "літаратурны ананізм". Во дажыўся дык дажыўся... Да абуха! Пустацвет агурочны!" – з крыўдай падумаў Артур.

"Не дадаў, не дадаў ты мне, Госпадзе, таленту..." – выдыхнуў падчас аднаго з такіх узрухаў пісьменнік. І раптам яго нібы агнём апякло: "Ат, нябога! Што мне ў галаву лезе... Недадаў... Выходзіць, надзяліў талентам Усявышні, толькі меркай не той скарыстаўся – для маленькага пісьменнічка. Годна, годна, Артурчык! Як быццам не ведаеш, што Госпаду няма аніякай справы да таго, чым ты займаешся – словы пужкай корці ў шчыльны гурт абціскаеш ці сапраўдных каровак пасеш на лузе... Абы душа чыстая была, незаплямленай грахамі, калі паўстанеш перад Ім, няўцямны..."

Ад нязводных праблем і перажыванняў Артур на вачах пачаў сохнуць, як высокая трава ў спякотнае лета. Зусім звёўся. Нават бутэльку добрага віскі, якую купіў колькі тыдняў таму на адкладзеныя на чорны дзень грошы, аніяк не мог дапіць. Іншым разам наліваў порцыю ў адмысловую шырокую крышталёвую з тоўстым цяжкім дном шклянку, але ж піць з гора – толькі памнажаць яго. Дык нёс напой на кухню, накрываў шклянку талерачкай, каб не выдыхаўся, і ставіў у лядоўню да лепшых дзён.

"А быў жа час, калі піў толькі набрынялае сонцам віно ўдваіх і закусваў радасцю... А цяпер вось праз зубы ледзь цэдзіцца мужчынскае пітво, якое лацвей піць і ў адзіноце..."

Піць віно ўдваіх з якой сяброўкай ён больш не наважваўся – маючы змрочныя падставы, асцерагаўся прыкра абагуліць усіх жанчын. А яны ж па-ранейшаму, быў упэўнены Артур, такія розныя, такія непаўторныя, як само жыццё.

Якіх-кольвечы грамадскіх дзеяў і нават прысутнасці на іх ён таксама выракся. Нават на выставы мастакоў, хоць і вельмі любіў жывапіс, перастаў хадзіць. Артура ўтамляла любое сумоўе, асабліва калі ў ім прымалі ўдзел хоць колькі даўніх яго знаёмцаў. Тады ж пачыналася катаванне: "Стары, куды ты прапаў? Здаецца, вечнасць прайшла, як мы з табой бачыліся...", "Як жывеш, пісьменнік? Як маешся? А дзе твая Зойка?", "Як здароўе? Напісаў што новенькае? Зайшоў бы, пасядзелі б... Карціны мае новыя паглядзеў бы і сваё што-небудзь пачытаў. Люблю слухаць, калі ты чытаеш. Непаўторна!" – ну і гэдак далей, усё адно як балючую рану пальцам раскалупліваглі.

Адно, што яго яшчэ ўсцешвала, дык гэта рыбалка са спінінгам. Артур

з суседам, які са сваёй прыроднай маўклівасцю і абыякавасцю да літаратуры зусім не раздражняў яго, было з'ездзіў на ўлюбёную рэчку – ні адной паклёўкі! Можна было падумаць, што за доўгі час яго адсутнасці драпежная рыба тут зусім звялася, ці ёй даліся ў знакі браканьеры, і яна зашылася ў густыя водарасці ад іх электрычнага страхоцця ці ўзнялася ўверх, аж у іншую краіну, да вытоку, які пачынаецца з ланцужка невялікіх азёр... Можна было што заўгодна прыдумаць і паверыць у гэта, калі б сусед Іван не спаймаў аж тры важкія шчупакі. Прытым, як на зло, на такую ж бляшню, як у Артура.

“А я ж ўсю рыбалку ні разу не згадаў, не пачаў абдумваць які свой свежанькі сюжэт, як было даўней, у галаве маёй не завірыліся словы, нібы вада на каторым хуткацечным перакаце... – з сумам падумаў Артур. – Няўмольна вузее, абціскаецца прастора слоўнага быцця... А яе ж нічым не заменіш, нічым не надточыш...”

Аднойчы Артур адчуў, што пачаў баяцца будучыні. Не далёкай, яе ніхто не баіцца, а бліжэйшай, якая надыйдзе праз чатыры-пяць месяцаў, калі аголеныя галіны дрэў дробна пакрояць шызае неба і нагадаюць яму аб пачатку невылечнай, як ён пачаў ужо думаць, хваробы. І ўсё пойдзе на новы круг. І будуць абміраць і дранцвець на стрыжні алоўка ці на пёрку асадкі слоўцы, усё адно як у боязі асмеліцца сысці на халодны снег аркуша... А толькі ж выструненыя ў радкі словы маглі б стаць кладачкамі праз твань хваробы.

“Дык навошта тады жыву? Толькі каб дыхаць?..”

І аднойчы Артур падышоў да паліцаў шукаць кнігу замежнага аўтара “Пісьменнік і самазабойства”, якую набыў з паўгода таму.

Адклаўшы ў свой час дачытванне кнігі на потым, цяпер ён здзівіўся яе таўшчыні і важкасці. Колькі людцаў згінула, і многія ад адной і той жа праклятай хваробы.

Артур ведаў, што былі пісьменнікі, якія з надыходам сталых гадоў імкнуліся абхітрыць дэпрэсію. Як толькі прадчувалі яе набліжэнне, пераходзілі на іншы жанр творчасці, нават стыль імкнуліся змяніць, каб не пазнала іх і абмінула зацiскальная немач...

А вось у выбары спосабу самазабойства ўсе яны, у адрозненне ад творчасці, былі аднастайныя і трывіяльныя, як усе людзі: пятля, атрута, рэвальвер, утапленне, скачок з вышыні... Смерць, маючы посную натуру, не любіць фантазёраў!

“Засільванне мне зусім не падыходзіць, – падумаў Артур. – Язык высалаплены да кораня, скасабочаны, як быццам здзекліва дражніш каго, парткі абмочаныя, пахнуць старасцю, як пісаў адзін знаёмы пісьменнік... Старасцю! Цьфу!..”

І ўсё ж праз пару дзён, калі Артур, маючы побытавую неабходнасць, наведаў будаўнічы рынак, ногі самі падвялі яго да павільёнчыка, у якім гандлявалі вяроўкамі. Яны ляжалі ў вялізных акуратных скрутках і былі самай рознай таўшчыні і ўзору пляцення – замаўляй якую хочаш... Артур неўпрыкмет, усё адно як баючыся выдаць свае дурныя думкі, памацаў вяроўку ў адным са скруткаў, каб праверыць, ці мяккая. “Ай, дурань, дурань... Засільвацца яшчэ не надумаў, а шыю намуліць ужо баюся...” – сумеўся ён і нават засаромеўся сваёй цікаўнасці.

Не падыходзіла яму і атручванне – хімію не любіў са школы. Гэта ж яшчэ жывым трэба ператварыцца ў колбу, у якой адбудзецца невыносная для жыцця рэакцыя...

Рэвальвер падышоў бы: раз – і гатова. Хіба што трохі аглушыць на адно вуха перад вечным спачынам... Дык жа на тым свеце і цалкам глухіх прымаюць, нікім не грэбуюць! Але дзе ты возьмеш той рэвальвер, тым больш што назапашаныя грошы ў Артура былі на сыходзе...

Пачаўся цёплы сонечны ліпень. Пісьменнік даўно ўжо не затуляў расчынены насцеж балкон. Дом яго стаяў непадалёк ад рэчкі, якая трымала сваю плынь у звыклых, не абціснутых гранітам берагах, можна сказаць, пакуль не мела гарадской прапіскі. У рэчцы не купаліся, але на ўтравелым беразе, акурат насупраць дома пісьменніка, гараджане з ахвотай загаралі, асабліва маладыя дзяўчаты. У гэтыя дні Артуру заманьвалася часцей, чым звычайна, выходзіць на балкон. І не толькі, каб пакурыць, але і каб паслухаць водгулле гаманы людзей, дарослых і дзяцей, якое даносілася з берага рэчкі.

“Дзіўна, няўжо яшчэ не цалкам выракся людскога сумоўя? – імкнуўся разабрацца ў сваіх пачуццях Артур. – Ат, лета, разамлеласць, аж галава кружыцца... Слабасць часовая...”

Пісьменнік і не думаў забывацца на свой чорны намер.

Выходзячы на балкон, ён штораз міжволі пазіраў на зямлю, усё адно як прымерваўся да вышыні, хоць і ведаў, што не адважыцца пераруліцца ўніз. Артуру згадваўся выпадак з дзяцінства, калі яны, вясковыя мальцы, хадзілі ўлетку ў вайсковы гарадок, які месціўся непадалёк. Ім карцела скокнуць з вышкі, якая была ўсталявана на мясцовым возеры. Вышка тая па сённяшнім меркам была прымітыўная – драўляная, на тры паверхі, зробленая накшталт вялізнай этажэркі. Затое надзейная – з тоўстых бярвенняў і дошак, з трывала замацаванымі лесвіцамі.

Артур з зайздрасцю назіраў, як скокаюць у ваду дзеці афіцэраў, яго равеснікі – з самай верхатуры і ўніз галавой!

Урэшце ён наважыўся, і ў чорных трусах, якія прыкра адрозніваліся ад спрытных плавак афіцэрскіх сынкоў і былі такім жа споднім, як у многіх мужчын-аднавяскоўцаў, узняўся на другі паверх вышкі. Вада ў сонечны дзень прасвечвалася ўглыб і здавалася згубнай безданню. Артурчык злез далоў і праз колькі хвілін зноў узышоў. І зноў злез, і зноў узышоў: “Што я горшы?!” – нарэшце адважыўся ён і скокнуў. Дарма што не галавой у ваду, а салдацікам – нагамі, прыціскаючы рукі ўздоўж тулаўца, як падчас каманды “смірна!”

Ён зрабіў гэта! Але дзіцячы страх вышыні з сябе не змыў, насіў яго ў душы і па сёння. Дык які тут скачок з дзевятага паверха?! Не даляціш да зямлі, як абамлееш...

Але менавіта балкон падказаў Артуру выйсце з яго смяротнай нявыкруткі.

У нядзельку, бліжэй да паўдзённага часу, ён рашуча падышоў да зашклёнай шафы, дастаў адтуль сваю апошнюю кнігу, перагартаў веерам старонкі і рушыў на балкон. Сеў на табурэт, сцішыўся, перакурыў, раскрыў кніжку ў адвольным месцы і пачаў акуратна каля самага карэньчыка, каб захавалася цэлай, вырываць адну са старонак. Цягнуў, і здавалася, усё адно як драпежны звер сваім вялікім кіпцюром выдрапвае на яго сэрцы незагойную баразёнку. А тады ўстаў, падышоў да самага краю балкона, паклаў старонку на далонь, добра нагнуўся – “Вось бы скокнуць цяпер!” – і на выцягнутай руцэ злёгку падкінуў яе ўверх. І яна, падхопленая лёгкім павевам ветрыка, паплыла... Нават знаку не было, што старонка будзе змушана абніжацца долу. Яна ўпэўнена трымалася на вышыні, усё адно

як маленькая лодачка на пругкай плыні. І Артур увобміг атаясаміўся са сваёй жыццесцвярджальнай, як вераб'інае чык-чырык, частачкай.

Ветрык не слабеў, а ў прагаліне прыбярэжных дрэў, на лісцях якіх зялёным ліпеньскім мёдам свяцілася сонца, нават крыху павялічыў свой націск і стаў падобны на цягу ў коміне. І неўзабаве вынес Артура-старонку на залітую цёплым сонечным святлом прастору, да людзей.

Падлеткі, якія найдалей адышлі ад берага, каб было менш рызыкі, што мяч заляціць у раку, гулялі ў валейбол, а за імі, крыху воддаль загаралі дзяўчаты. Артура-старонку было ледзь не закрануў узвышыны чарговым ударам мяч, але ветрык акурат у гэты момант ахоўна ўзмацніўся, збочыў яго рух і панёс наўпрост да дзяўчат.

Адны з іх соладка драмалі пад ласкавымі промнямі, другія чыталі важкія тамы фэнтэзі, фантастыкі, дэтэктываў з выразнай любоўнай інтрыгай... Але вецярок, нібы ўсё разлічыў наперад, аднёс Артура-старонку крыху ўбок, дзе на прыгожай даматканай, відаць, падоранай бабуляй посцілцы ляжала зграбненькая яснавокая з пышнымі валасамі дзяўчына. У руках яна трымала непадобную на іншыя невялічкую кніжку на беларускай мове ў стракатых вокладках.

Артур, каб убачыў кнігу, адразу пазнаў бы яе, таму што нядаўна і сам прачытаў “Казкі сталічныя” Адама Глобуса. І быў усцешаны майстэрствам аўтара, які так удумліва падабраў імёны дзейных асоб, так універсальна – і для Парыжа, і для Вільні, і для Мінска, і для Віцебска... Імёны ўсіх вычварэнцаў – людажэраў, крывасмокаў, ведзьмакоў... Артур, як толькі прачытваў старонку, спешна перагортваў яе, усё адно як пакручваў трубку калейдаскопа, каб дазнацца чарговае імя-шкельца са здзіўляльнага ўзору. Зрэдчасу ён усміхаўся, захоплены разняволенай фантазіяй аўтара.

Між тым, калі Артур-старонка апынуўся акурат над дзяўчынай, вятрыска, нібы па камандзе, зусім аціх, і гаротны вандроўнік, гайдаючыся ў паветры, пачаў плаўна набліжацца да чытачкі... Яснавокая, як толькі адчула, што можа дастаць рукой, тут жа ўхапіла яго. Потым азірнула тэкст, нібы хацела пераканацца, што свой, беларускі, і склала Артура-старонку напалам, усё адно як заплюшчыла нябеснаму прыхадню вочы. Потым прыгажуня прыўзнялася на локцях, дачытала апошні абзац апаведа ў сваёй кнізе і паклала між старонак прынесеную ветрам закладку.

Туды, дзе неарэалізм, дзе вычварэнцы, вычварэнцы, вычварэнцы, нібы ў апраметнай...

Увесь час, пакуль Артурава частачка, нязгасная іскрынка яго душы ляцела да берага рэчкі, пісьменнік стаяў на балконе і пільна назіраў за яе палётам. А калі яна схавалася за дрэвамі і прайшло колькі хвілінак, ён раптам адчуў, як яго жывая, трапяткая душа, у сугуччы з яе папяровым вобразам, увобміг шчыльна сціснулася да чаканай дзвюхмернасці – танюткай паперкі.

## Я, мама і смерць у калідоры

Мы спім утраіх – я, мама і смерць у калідоры. Аніяк не скажаш «у вітальні», бо хто з людзей надумае яе прывецiць... Дык у калідоры.

Не ведаю, як і калі смерць праціснулася ў наша жытло. Можа, у фортку пратачылася... Чуў жа аднойчы скрозь сон грукат, нібы хто вядро буракоў высыпаў на падлогу, мусіць, звалілася і так загрукацела косткамі... А можа, і не праз фортку ўлезла, можа, дзверы за сабой не прычыніў, калі выносіў смецце, вось яна і шмыгнула, як мыша... Але што зробіш, не асмелішся

ж выганяць прэч гэтую хімічна-мінеральную істоту, калі тваёй маме за дзевяноста. Дык і змірыўся з ёю, як з неўтаймоўнай хадой часу, і падаслаў на падлозе пад бок непажаданай прыхаджанкі гумавы кілімчык. Смерць ніколі не спіць, а паляжаць на баку ёй усё адно на чым.

Па начах чужаніца, нібы самнамбула, паволі блэндае па калідоры сюды-туды, сюды-туды, усё адно як штосьці-небудзь згубіла і безупынку шукае.

Я чуйна сплю ў сваім пакойчыку, за адзін крок ад пісьмовага стала з раскіданым на ім рукапісам.

Мама – у пакоі насупраць, які ў свой час быў адведзены маім дзецям. Ці чуйна яна спіць, ці звяртае ўвагу на начное ўзрушэнне смерці, я не ведаю.

І наогул, калі яна спіць, не ведаю. Зойдзеш у пакой – вочкі адкрытыя. І так штораз, нібы заўсёды чакае цябе, хоць на самой справе чакае толькі раніцай, калі я прыходжу ўзнімаць яе з ложка. Твар матулі тады кранае ледзь прыкметная, як слабы водбліск зараніцы на ледзь асветленым небе, усмешка... Такі вось дотык да маёй душы яе нязгаслай радасцю.

Іншым разам мне здаецца, што мама і спіць з адкрытымі вачыма, каб лепш бачыць свае бясконцыя сны пра мінулае.

Колькі месяцаў таму яна казала мне пра свае начныя відзежы: «А-я-яй, усю дзярэўню нашу перагледзела, усіх людцаў, як жывых, пабачыла...» І мне хочацца верыць, што гэты прагляд доўжыцца і па сёння.

Толькі мама ўжо амаль нічога не гаворыць мне – не стае сілы нават на словы. Хіба толькі шэптам пацвердзіць, што хоча піць. Прашэпча або хітне галавой у знак згоды.

Але адно слоўца яна вымаўляе выразна і даволі гучна: «До!» – і звычайна тады, калі я даю ёй які-небудзь напой з кубачка.

– Мама, папіла ці яшчэ будзеш?

– До...

Гэтае куртатае, бяскрылае слоўца, здаецца, узлятае пад неба, а тады вяртаецца з вышыні, каб зноў, як малюсенькі верабейчык, сесці на рысачку маміных вуснаў.

Аднойчы ноччу беспрытульная смерць сноўдалася па калідоры і раптам спынілася – надумала: ціхутка прыадчыніла дзверы ў мой пакой і памкнулася ўвайсці. Абуджаны не столькі яе шаргаценнем, колькі нязнаным дагэтуль болем у грудзях і прыкрай трывогай, я хуценька ўключыў над галавой святло і нечакана для сябе, як бывае ад самага вялікага спуду, загарлаў немачкі:

– Га! Па маю душу прыйшла, падла?! Мала табе сястрыцы?! Не памятаеш, як забрала яе ды маму да смяротнага адчаю давяла, і яна на апошнім кроку спынілася ад самагубства? Мала?! Хочаш абчасаць матулю, як дрэўца, да апошняй галінкі? Хочаш, каб яе пакута стала страшней, чым ты сама, людажэрка?.. Гэтага хочаш?!.

Уджалены калючым болем у сэрцы і ахоплены нястрымным гневам, я ўскочыў з ложка і з размаху зачыніў дзверы, ды так моцна грукнуў імі, што тоўстае шкло дробна задрыжала, здавалася, адно імгненне – і яно рассыплецца на дробныя кавалачкі.

Я занепакоіўся, ці не ўсхваляваў маму, і душу маю балюча агарнула шкадаванне. Сеў на ложак, каб трохі ачомацца, і раптам убачыў на падлозе... парэшткі шкілета – кісць правай рукі з доўгімі, як у піяністкі, пальцамі – адбіў у смерці дзвярыма.

Дзіўна, але я зусім не збянтэжыўся, а нават трохі супакоіўся і засяродзіўся, бо трэба было ўзнімацца з ложка ды прыбіраць з падлогі сляды яе нечаканай спробы наведвання.

Костачкі нашай з мамай нязванай сужыхаркі былі халодныя, як веснавыя ледзяшы з-пад страхі, і таксама надзвычай гладкія. “Відаць, адпаліраваныя бясконцымі думкамі людзей аб сваім немінучым сконе...” – падумаў я.

А сам узняўся з ложка і панёс кісць зламысніцы ў канец калідора, дзе на кілімчыку суцэльна ляжалі ў трывалым счэпе ўсе астатнія косткі. Асцярожна паклаў кісць зверху і рушыў назад марнаваць час да раніцы, бо заснуць ужо не мог.

А на світанку ў калідорным змроку я разгледзеў, што рука ў нястомназлоснай руплівіцы цэленькая, як і не было няўдалага для яе ўварвання. Менавіта ёю трымала смертухна сваю коску.

Уключыў святло і ўбачыў, што яна сціскае касавільна з ўсяе сілы, так, што кісць аж уліпла ў дрэва, нібы ў пластылін.

«Сярдуе... – падумаў я і ўсхваляваўся. – Як жа мне цяпер ратаваць маму ад раз’ятранай зламысніцы?..»

І мне, лічы, адразу памяць падказала: ядой і... хусткай!

У вайну, калі бабулю Праскоўю і маму, як і многіх іншых жыхароў вушацкай блакаднай вёскі, немцы зняволілі і збіраліся вывезці на рабства ў Германію, бабуля на перасыльным пункце ў Лепелі, каб з дачушкай патрапіць у адну калону, якія ворагі фармавалі па ўзросту, пачала маладзіцца: падчарніла вугальком бровы, больш модна перавязала хустку – так, як насілі дзяўчаты. І яе ўгледзеў адзін паліцай, жыхар суседняй вёскі, які да вайны заляцаўся да вабнай Праскоўі. І зварухнулася ў зачарсцвелым сэрцы юначае пачуццё... Колішні заляцанец улучыў момант і вывеў з сагнанай захопнікамі чарады вяскоўцаў бабулю з мамай. “Ідзіце за мной і не азірайцеся...” – толькі і сказаў цераз плячо.

А я дастаю з шафы святочную матуліну хусцінačку, у якой яна ў свой час наведвала царкву, і завязваю яе сваёй любай, як умею. Мне здаецца, што ў гэтым уборы яе лягчэй будзе пазнаць анёлу-ахоўніку. Дарма, што ён пазнае яе найперш па зіхатліваму ззянню душы, няхай і хусцінка падказвае, будзе пазначкай, каб анёл-ахоўнік хоць на трохі яшчэ адпрэчыў непазбежнае.

Калі я з лыжачкі кармлю маму, дык міжволі зноў і зноў згадваю словы, з якімі яна шмат гадоў таму звярталася да мяне. У юнацтве я было захварэў на язву страўніка, дык матуля навучала: «Беражыся, Сяргейка! Як засмокча пад лыжачкай, тут жа з’еш што-небудзь, хоць скарыначку – пажуй. І так заўсёды рабі. Ежа – першыя лекі! Трэба пераядаць хваробу, сынок».

І вось цяпер у думках я зноў і зноў кажу ёй амаль тое самае: «Трэба, трэба, матулечка, “пераядаць” смерць, няхай сабе і апошнюю, невылечную хваробу... Усё адно трэба!»

І матуля напачатку сваёй зморнай нямогласці слухалася мяне, не раўнуючы, як я яе ў свой час.

Але неўзабаве прыйшоў дзень, і яна зусім страціла хоць якую цікавасць да ежы. Рот, як замкнёны, не бярэ ні крошкі.

Я пачаў думаць, што б прыгатаваць матулі найсмачнейшага... Але што прыдумаеш, калі для беларускі смачней за бульбу нічога няма. З бульбай выжывала ў нішчымніцу, з ёй мусіць і дажываць свой век.

З бульбачкай варанай, няхай сабе на пліце, не такой, як у свой час варыла яна ў печы ці ў грубачцы – з кменам ды цыбулінкай...

І хоць мама адмаўлялася ад яды, я пайшоў на кухню і пачаў абіраць бульбу. “Падрыхтую, а тады пагляджу, што згатаваць: можа проста звару або дранікаў насмажу з прыгарачкамі, як яна любіць, а то ўтушу са смятанкай,

як мне гатавала ў маленстве...” Жонка з дочкамі і ўнукамі жыла на лецішчы, і я ўспрытніўся гатаваць самыя розныя стравы. Асабліва з бульбы.

Я абіраў яе адмысловым, танюткім вострым нажом, усё адно як трымаўся запавету матулі, бабулі і пра-пра-прабабулі: шалупінне павінна быць не таўсцей ад таўшчыні нажа.

І мне міжволі згадалася коска нашай змрочнай пастаялкі, якой яна зразае з клубеня Зямлі тоўстую шалупіну людскога быцця. «Лязо яе касы, хутчэй за ўсё, куды вастрэйшае, чым у гэтага швейцарскага ножыка...» – падумаў я.

Ну вядома ж, вастрэйшае, вастрэй не бывае! Яна ж ім не целы падкошвае, а пераразае нітачку чалавечага часу. Для гэтага трэба ж пратачыць лязо паміж двума імгненнямі, якія злучаны адно з адным імклівай плынню... Дык лязо павінна быць таней ад воласа!..

Адным узмахам сваёй адмысловай касы смерць раптам перарэзала пупавіну, якая злучала мяне з матуліным слоўным багаццем, нягледзячы на тое, што словы ў гаворцы сашчыльнены, не раўнуючы як тыя імгненні...

Пра якое-небудзь іншае тлумачэнне мамінага анямення я і думаць не хацеў. Толькі смерць можа так бязлітасна, па-вычварэнску чыніць невыносныя пакуты не толькі мамінай, але і сынавай душы, абрыньваць іх у прадонне адчаю!

Абіраючы бульбу, я раптам адчуў, што сэрца маё збілася са звыклага рытму і напоўнілася злосцю, нібы хто шуфлікам падсыпаў пад яго гарачыя вугельчыкі. Дык і ўсклікнуў з адчаю ці то ў думках, ці то ўслых: «У-у-у, гадаўка! Будзеш бясконца з нас здзеквацца?! Рэж, пераразай усе ніты повязі з жыццём, да апошняй! Матуліны, а заадно і мае...»

Я падсунуў да стала табурэтку і ўперыўся позіркам у сцяну. Мне хацелася ўявіць перад сабой далёкі абшар і аніяк не атрымлівалася – толькі абрыдлыя шпалеры...

І ўсё ж пакрысе я пачаў супакойвацца, а маё сэрца – адыходзіць ад мулкіх узрушэнняў.

І нечакана да мяне прыйшла лёгкая, як выдых, думка: смерці ж няма! Яна альбо была, альбо будзе. Яе ніколі няма цяпер, у гэты момант. Толькі калі спраўдзіцца.

Не цяпер! Не цяпер! Не цяпер адбудзецца прыкрае здарэнне з маёй мамай працягласцю ў адно імгненне...

Ведаю, што перад гэтым імгненнем у людцаў з’яўляецца пакутніцкае прадчуванне прыходу смертухны, пачынаецца кананне, падчас якога адкрываюцца абсягі пекла і раю. Пекла безупынна нагадвае пра сябе нясцерпным болем, які, як ненажэрны звер, ірве ікламі знясіленае цела, а рай міжволі згадваецца, калі гэты боль на якую хвілінку аціхае... Усё астатняе – і прыдуманы людзьмі ў далёкім мінулым вобраз смерці, і ілюзіі, знітаваныя з ім, – усяго толькі дзіцячае памкненне ставіцца да кашчавай з літасцівай лёгкасцю...

Усё гэта – нікчэмная спроба прыручыць смерць, увесці яе ў побытавую сферу звыкласці і забыць на тое, што страшней за яе нічога на свеце няма, хіба што, апроч страха перад Богам. Але Ён атульвае сваім страхам толькі гатовых да гэтага людзей праз відушчасць сваёй душы...

Смерць не такая страшная, калі ёсць яшчэ большы страх!

Падчас сядзення на кухні за сталом грудзі мае пакрысе напаўняліся рашучасцю, якая падштурхоўвала не валаводзіцца больш са смерцю, а выгнаць яе прэч з калідора свайго ўяўлення. Забыць, не помніць пра яе, насуперак адвечнай людской звычцы.

І я тут жа выгнаў, а лепш сказаць выдаліў смерць са сваёй свядомасці, як выдаляюць непатрэбныя файлы з кампутара.

І ўзрадаваўся, калі наступнай ноччу адчуў, што смерці больш няма ў кватэры, усё адно як выпарылася.

...Наступнай раніцай ачуняла мама і з'ела колькі лыжак свежанькай стравы.

Я карміў яе і не мог стрымаць сваёй радасці, зноў і зноў прыгаворваў: «Еш, еш, мая мамутка...» І раптам схамянуўся: так жа ў нашай вёсцы звярталіся да маленькіх дзетак, ды і да мяне мама, калі быў хлапчанём, а я цяпер сваіх унукаў так прылашчваю... Дык на якое імгненне я сумеўся ад незнарок залучанага ў нашае з мамай сумоўе слоўца з пары салодкага ўзросту, а тады ўсміхнуўся сам сабе і падумаў: «Я ж гэтым слоўцам, насуперак смерці, ссукаў ніту часу і закальцаваў яго! Няма ні пачатку, ні канца...»

Штораз, калі я бяру маму пад пахі і ўзнімаю з ложка, каб яна пасядзела трохі ў глыбокім, зручным фатэлі, прыцiскаючы яе да грудзей, схіляю галаву і ўдыхаю пах яе валасоў. У гэтым паху – натхняльнае падмацаванне маёй душы, бо валасы матулі, як і раней, пахнуць... роднай хатай, адзіным затулкам на свеце, дзе я яшчэ адчуваю сябе шчаслівым.

І толькі невыносна балюча вярэдзіла маё сэрца разуменне таго, што смерць да нас вернецца – яна ж ніколі не сыходзіць беззваротна... Хіба што трохі адступае.

І тады, у той чорны дзень я вось так, як цяпер, вазьму маму пад пахі і пакладу ў дамавіну. Я сам.

***

...І смерць вярнулася. І ўвайшла наўпрост у цела мамы – не праз фортку, не праз прыадчыненыя дзверы, а праз лёгкія.

І ўсё пайшло не так, як у жывых бестурботных людзей: адразу здзервянелі, змарнелі ўсе мае лірычныя пачуцці. Свет стаў геаметрычным.

...Мама ўвечары пачала цяжка і часценька дыхаць, і я са спадзяваннем, што ўсё неяк абыдзецца і да раніцы мама акрыяе, паклаў яе ў ложак. А ноччу я і жонка, якая прыехала к таму часу дамоў, раз-пораз заходзілі ў пакой да матулі і прыслухоўваліся, як яна дыхае. Зменаў не было.

Сярод ночы я наведаў маму і жагнуўся: галава была яшчэ цёплая, а ногі ўжо... акалелі...

І заенчыў голасна і працяжна, са слязьмі і адчайным замаўканнем ды сцісканнем сківіц ад бездапаможнасці і адчаю.

А тады сціснуў далонямі галаву і пачаў хадзіць узад-уперад па калідоры, і думаць пра тое, што матуля ўсё сваё жыццё, сваю чуйную, як полымя свечкі, душу ахвяравала дзеля майго лёсу, дзеля майго спакою і палёгкі.

Яна і памерла, здалося, дзеля мяне, каб я дакрануўся да смерці і адчуў, якая гэта жудасная, бязлітасная і хцівая істота.

Адчуў, асцерагаўся і бярог сябе.

Апошні ўрок для сваёй крывінкі...

Андрэй Федарэнка



...доля рускага чалавека – цярпець...

# Літаў

***Урывак з рамана***

Кампанія “Славлеспрамвест”, падобна нафтагазавай кампаніі, як павуціннем апляла вялікімі і малымі філіяламі Расію, Беларусь, Прыбалтыку, Украіну, Скандынавію і цяпер цэлілася на Малдову, Румынію, Балгарыю. Яна мела адносіны да вырабу мэблі, да вытворчасці нейкіх катлоў, да паставак драўніны і будматэрыялаў, да выпуску каваных вырабаў, да перапрацоўкі харчовых адходаў, – словам, займалася ўсім на свеце. Але асноўнай яе дзейнасцю былі пасярэдніцкія паслугі ў імпарце і экспарце лесу. З тых мясцін, дзе ён ёсць, яна памагала яго выразаць і перапраўляць туды, дзе яго няма, або туды, дзе ён ёсць, але яго берагуць і не высякаюць. Цікава, што бізнес гэты ніколі не затухаў, нягледзячы ні на якія палітычныя расклады. Усім хочацца свае прыродныя рэсурсы пакінуць нечапанымі, а карыстацца чужымі.

Дзейнічала кампанія дзе афіцыйна, дзе неафіцыйна, дзе па-беламу, дзе па-чорнаму; у адным месцы яе філія-

лы ўзнікалі, у другім цярпелі крах, штат супрацоўнікаў бесперапынна абнаўляўся: хто на павышэнне, хто на паніжэнне, хто проста знікаў і неўзабаве аб'яўляўся ў Лондане або ў месцах не надта аддаленых, – і толькі для акцыянера і адначасова супрацоўніка кампаніі Леаніда Літава ўсё было як з гусі вада. Ён як звязаў свой лёс з лесам адразу пасля ВНУ ў роднай Вятцы, калі яму было 23 гады і калі кампанія яшчэ называлася "Кіраў-Лес", так і заставаўся нязменным. Якія б вакол ні адбываліся катаклізмы, яны абміналі яго бокам. Ляснуў "Кіраў-Лес" – Літаў выплыў чамусьці ў Таліне, у кампаніі "Еўраэкспалес". Там усё паўтарылася, і ён, як грыб з-пад зямлі, вырас у Калінінградзе, потым у Беластоку, а затым яго пачало кідаць па ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, як тэнісны мячык. І куды б яго ні закідвала, першай справаю ён пачынаў ужывацца ў мясцовы побыт.

"Мой абавязак, калі хочаце, доўг, – заяўляў ён, – прыняць культуру і вучыць мову краіны, якая мяне прытуліла".

Праўда, намеры так і заставаліся намерамі. Пры ўсім жаданні зрабіць гэта проста фізічна было немагчыма – хаця б таму, што ён нідзе не затрымліваўся больш за два гады. Зрэшты, ён мала з-за гэтага перажываў. Энергічны, хуткі на пад'ём, ён лёгка зрываўся з аднаго месца і пералятаў на другое. Камунікабельны, таварыскі, хутка сыходзіўся з новымі людзьмі; акрамя ўсяго меў надта шчодры на любоў характар, быў жанаты чатыры разы, яшчэ тры засталося да "Сіняй Барады", як ён сам жартаваў. Праўда, зараз жа бажыўся, што сваёй Ірмы, апошняй жонкі, дачкі дзвінскага латгальца і латышкі, ён ні на кога не прамяняе. Сышліся яны, калі лёс закінуў яго ў Венцпілс (дзе зноў казаў Леанід Літаў: "мой абвязак прыняць культуру краіны, якая мяне прытуліла"), у кампанію "Балтлес". А калі там усё паўтарылася, зноў пачаліся цёмныя справы, Літаў – замест Лондана ці гасціннай балтыйскай турмы – апынуўся разам з жонкаю і з малымі дзецьмі ў ліпені месяцы 2013 года ў Крыме, супрацоўнікам кампаніі "Укркрымбудлес".

Няцяжка было здагадацца, што нехта аберагае яго, вядзе па жыцці. Але ніхто, у тым ліку і ніводная з жонак, не ведалі, хто менавіта. Сам Літаў трымаў на гэты конт магільнае маўчанне. Сяброў у яго не было, а знаёмым ён ні п'яны, ні цвярозы ні разу не прагаварыўся. Можа, яму хацелася, каб думалі, што яму проста шанцуе, што ён сам дабіваецца ўсяго ўласным талентам і розумам. На асабліва дакучлівыя роспыты знаёмых: "ну прызнайся, які ў цябе блат?" – ён адказваў жартам:

"У мяне не *блат*, а *сястла*".

І хлусіў, бо быў менавіта брат. Праўда, зводны – адна маці, розныя бацькі, таму і прозвішчы мелі розныя. Брат быў на тры гады маладзейшы за Літава, але кар'еру іх нельга было і параўноўваць. Літаў пасля сваіх пертурбацый хоць і выходзіў сухім з вады, заставаўся цэлы, але і ўгару не йшоў, а як бы закансерваваўся, застыў на месцы звычайнага аўдытара. А гэты зводны малодшы брат даўно сядзеў у Маскве, насіў на лацкане трыкалор РФ і меў такую ўладу, што Літаву і не снілася. Калі Літаў аднойчы нясмела спытаў, ці ёсць у яго свае яхты, самалёты і верталёты, ён толькі іранічна гмыкнуў: верталёты і яхты, якая драбяза.

Чамусьці так склалася, што яшчэ з дзяцінства старэйшы Літаў заўсёды ва ўсім падпарадкоўваўся малодшаму, прывык выконваць яго волю, і ўжо тым больш пазней, калі брат імкліва пайшоў угару.

Адносіны паміж імі былі дзіўныя. Літаў амаль нічога не ведаў пра яго асабістае жыццё. Брат быў жанаты, але Літаў у вочы не бачыў яго жонкі. Брат ніколі не запрашаў яго да сябе ў Маскву і сам ні разу не прыехаў да Літава на яго часовыя стаянкі. Звычайна яны трымалі сувязь па тэлефоне ці па скайпе. І калі брат абзываўся, Літаў імгненна настройваў сябе на патрэбную хвалю: залішняй вінаватасці, перабольшанай пакорлівасці, празмернай павагі. Малодшы не прамінаў ніводнага выпадку, каб не нагадаць старэйшаму, што той ад яго ва ўсім залежыць.

– Зайздрошчу я табе, – казаў ён. – Хай бы мяне хто засланіў такой спіною. Што б ты рабіў без мяне? – а заканчваў заўсёды аднолькава, як падводзіў рысу: – Пасада і вышнія эшалоны ўлады прывучылі мяне не верыць людзям. Не трэба, каб ведалі, што мы радня. Пачнуць цікавіцца табою, выйдуць на мяне, а мае магчымасці не бязмежныя. Усе толькі і чакаюць, каб наляцець і разарваць. Ад іх не схаваешся, яны нічога не даруюць!

На гэтых загадкавых *яны* і *ўсіх* звальвалася ўсё. Кожны раз пасля такіх размоў у Літава спаўзала з твару пакора, ён нібы камянеў, вочы звужваліся і глядзелі ў адну кропку, а твар рабіўся каменным, як у старога, многа разоў бітага баксёра, які прайграў чарговы бой. Ужывую сустракаліся яны рэдка, на два-тры гады раз, і заўсёды на нейтральнай тэрыторыі. Літава прыгняталі гэтыя сустрэчы яшчэ больш, чым відэасувязь.

– Церпіш? – спагадліва пытаў брат.

– Ды не.

– І праўда нічога не хочаш? Ні кар'living ернага росту, ні больш грошай?

– Ды не.

Брат пільна ўзіраўся ў яго, затым ляпаў па плячы і з палёгкай знаходзіў, як яму здавалася, тлумачэнне:

– Ну, гэта ты так кажаш. Бо ў цябе няма магчымасці. Ты не думай, што я табой грэбую, саромеюся цябе, заціраю, не даю падняцца. Зразумей: я павінен цябе стрымліваць. Ты – непрадказальны. Ведаеш сваю ахілесаву пяту?

– Ведаю...

– Помніш школу? Універсітэт? Помніш свае пазнейшыя фокусы?

– Помню...

– Кожны на маім месцы страхаваўся б. Я не магу не думаць пра рэпутацыю. Так што пацярпі яшчэ трохі. Доля рускага чалавека – цярпець. Дай мне ўмацавацца. Умацуюся – і цябе не забуду. Крышку засталося.

Кожны раз было пацярпі, і крышку, і ўмацавацца, Літаў заставаўся на месцы, а брат падымаўся ўсё вышэй, – здавалася, вышэй ужо і нельга, а яму было ўсё мала. Не любіў Літаў гэтых сустрэч яшчэ і таму, бо ведаў: амаль заўсёды пасля іх яму зноў давядзецца мяняць дыслакацыю – пераязджаць на новае месца. Перадапошні раз яны бачыліся ў жніўні 2014 года ў Крыме, ужо ў рускім Крыме, на невялікай дачцы паміж Місхорам і Гаспрай. Быў дзень. Яны прагульваліся па высокім беразе дарожкаю, белай ад крымскага пылу; абодва ў панамах і ў шортах, але на гэтым падабенства канчалася – надта розныя былі знешне: невысокі, як бы пажаночы акруглы, мяккі Літаў і даўгалыгі хударлявы брат. Поўныя ногі Літава былі загарэлыя да шакаладнага колеру, а жылістыя худыя братавы – чырвоныя, як у індзейца, у плямах ад першых дотыкаў пякучага паўднёвага сонца. Зверху былі горы, знізу блішчэла мора. У бухтачцы тры

невялікія чарнаморскія дэльфіны – мільгаў то востры трохкутны плаўнік, то чорная спіна, то белы жывот – збівалі каля берага да кучы кефаль, каб спакойна паабедаць.

– Як табе Крым? – спытаў брат.

– Ды так неяк. Не магу зразумець. Дзіўная рэч: калі ён быў украінскім, я адчуваў сябе дома, а стаў наш – як у гасцях. Быццам зайшоў у чужы дом без гаспадара, пераклейваю шпалеры, перастаўляю мэблю, і ўвесь час думка – а што калі нарвуцца гаспадары?

– Кінь. Па-мойму, нічога няма дурней, чым вайна за тэрыторыю. Межы такое ж часовае, як і ўсё ў гэтым свеце. Яны самі сабой знікнуць у наступным стагоддзі, калі не ў сярэдзіне гэтага. Вялікае перамяшчэнне народаў не спыніць. Рана ці позна створыцца адзіны транснацыянальны саюз, дзе будзе і Украіна, і Амерыка, і Расія, і тады разборкі, чый Крым і чыя Аляска, проста страцяць сэнс.

– Так, глабалізм, – няпэўна сказаў Літаў.

– Не столькі глабалізм, колькі фізічны, калі хочаш, фізіялагічны працэс – усім разам элементарна лягчэй пракарміцца.

Браты прайшлі ў ратонду, затым на адкрытую тэраску, знялі панамы, і зноў выявілася розніца паміж імі: Літаў, саромеючыся невялікай лысінкі, даўно сам сябе спецыяльнай машынкай падстрыгаў пад нуль (што, зрэшты, яго толькі маладзіла), брат – з пароды тых, хто свае валасы і свае зубы захоўвае да смерці. У яго была густая, плацінавага колеру шавялюра, высакародны профіль, стомленыя разумныя вочы. Прыселі за столік з паўднёва-курортным наборам: вінаград, віно, персікі, у марлі – салёная малдаўская брынза, ад якой так прыемна скрыпяць зубы. Віўся вінаград па рашотках над галавою, варушыўся на століку цень яго зубчастых лістоў; па сцяне тэрасы паўзлі ружы – і кучна, і па адной; праз іх відаць былі гранатавыя дрэўцы, фейхоа, лагерстрэмія і дзве карлікавыя пальмы з кашлатымі стваламі (а ў гэтым іх пакуллі замест райскіх птушак ціўкалі, мітусіліся, жылі самыя звычайныя шэрыя вераб'і). Крыху далей раскінулася крымская магнолія з белымі, як малдаванская брынза, вялікімі, з добры сподак, кветкамі, якая тут, на ПБК, звычайна цвіце ад пачатку чэрвеня і па жнівень. Брат услед за Літавым таксама паглядзеў на дрэва.

– Пахне.

– Прыемна, я так люблю! – падхапіў Літаў.

– Аднак я чуў, – заўважыў брат, – што яе трэба нюхаць на адлегласці. Зблізку гэты пах небяспечны, асабліва ўночы. Пяць кветак у спальным пакоі на ноч, ды яшчэ з зачыненымі вокнамі, могуць усыпіць навек. А прызнайся, ты не супраць быў бы падарыць мне такі букецік?

– Ну што вы, – Літаў прыклаў да грудзей поўныя загарэлыя рукі. – Як можна...

– Добра. Магнолія магноліяй, а я папрашу цябе вось аб чым. Збірай манаткі. Нельга табе затрымлівацца на адным месцы, тым больш з тваім мінулым. Пакуль транснацыянальны саюз, ніхто не ведае, як яно там далей будзе. Трэба перасядзець, перачакаць.

– І... дзе?

– У Беларусі.

Вось так заўсёды. Літаў прывык, што брат ганяе яго, як дэльфіны кефаль, звычайна ён без лішніх слоў выконваў, што скажуць. Але гэтым разам набраўся смеласці.

– З гадамі цяжка вось так зрывацца з месца.

– Нічога не зробіш. Цярпі. Доля рускага чалавека – цярпець. Ды і нічога ад цябе там не патрабуецца. Рабі тое, што і да гэтага рабіў. Вучы мову, укараняйся ў мясцовы побыт, уваходзь у чужую культуру, наладжвай кантакты з нацыянальнай творчай элітай, словам, станавіся сваім. Ніхто не патрабуе, каб ты шпіёніў, збіраў звесткі, вербаваў. І вось яшчэ: помніш нашу ўмову? Што ты абяцаў?

– Помню...

– Не ўздумай паўтараць сваіх фокусаў! Я цябе сур'ёзна папярэджваю. Трымай сябе ў руках. Мы абодва ведаем, чым гэта канчаецца. Зразумей – мае магчымасці не бясконцыя. Я табе памагаў усё жыццё, а цяпер так можа скласціся, што ты мне будзеш памагаць.

Другая і апошняя сустрэча братоў адбылася праз два гады, у снежні 2016-га, чамусьці ў Варшаве – так брат захацеў. Для Літава гэтыя два гады прайшлі як у чароўным сне. Цяпер ён не мог уявіць, што жыў недзе ў іншым месцы. Ён зразумеў, што грунтоўна пускае тут карані і вырваць іх будзе нялёгка. З горыччу ён казаў жонцы: "На што былі патрачаны гады! І чаму адным даецца гэта ад нараджэння, а другім – такой дарагой цаною! А як табе тут?"

Жонка-прыбалтка, хоць і зусім не падзяляла радасці мужа, адказвала: "Мне там добра, дзе табе".

Зімовая Варшава мала чым адрознівалася ад іншых еўрапейскіх зімовых гарадоў. Брукаваныя гарбатыя вулічкі і плошчы, чырвоныя чарапічныя дахі, плюсавая тэмпература, мяккае пахмурнае надвор'е, уключаныя днём фары машын. Брат гэтым разам таксама быў пахмурны, як гэтае надвор'е, гаварыў чамусьці вельмі ціхім голасам. На горцы Старога Мяста яго пацягнула на настальгію; пачаў успамінаць, як некалі летам тут пахлі чарэшні – "проста водар, я любіў стаяць і проста дыхаць, сапраўдныя былі пахі, а цяпер еўрауніфікацыя, без паху і ва ўсім аднолькавы смак". Перад тым, як зайсці ў кавярню, папярэдзіў: "Тавары па-англійску", – і да Літава дайшло, чаму ён гаварыў ціха: саромеўся, ці баяўся, роднай мовы. Выпілі гарачага шакаладу з каньяком і пайшлі ўніз па вуліцы ў напрамку Віслы.

– Вы адзін? – спытаў, азіраючыся, Літаў. – Усё ж можа не варта так рызыкаваць.

– Кінь. Каму-каму, а табе сама больш выгадна, каб мяне не было. Вось тады б ты ўжо разгарнуўся! Поўная была б воля.

– Ну што вы! Як можна...

– Лепш скажы: праўда, што ў гэтай *Беларусіі* нешта ёсць?

– Праўда. Які край! Якая гісторыя! Якія людзі!

– Ты нават знешне памаладзеў, – з зайздрасцю заўважыў брат.

– Што вы! Здароўе стала лепш. Чым менш сплю, тым лепш адчуваю сябе. Раней баяўся крызісу сярэдняга ўзросту, а яно – наадварот – пад пяцьдзясят такая працаздольнасць.

Літаў пачаў расказваць, якія беларусы: працавітыя, як немцы, спеўныя, як украінцы, таленавітыя, як рускія, і наіўныя, як амерыканцы, – "тым больш дзіўна, калі не сказаць – дзіка, чуць заявы іх кіраўніцтва, што Беларусь добраахвотна можа ўвайсці ў склад іншай дзяржавы".

– Я цябе не вельмі засмучу, калі скажу, што яна ніколі і не выходзіла са складу іншай дзяржавы? А цяпер, пасля Украіны, ужо і не выйдзе.

– Ну і шкада. Як на маю думку, ім не трэба ні Расія, ні Еўропа. Расія

нічога ім не дасць, а Еўропа ў іх пад нагамі. У іх прыкладна тая самая Фінляндыя. Выдатныя дарогі, чыста, вясной едзеш – сеюць, у канцы лета – прыбіраюць, капаюць, жнуць. А прырода! Іх прырода хітрая, яна нібыта сціплая, але якая непаўторная! Мова – музыка, а не мова, і амаль ніхто на ёй не размаўляе...

– Музыка музыкай, – перабіў брат, – а там яшчэ засталося што-небудзь? Не ўсё яшчэ высеклі? Колькі лесу ў Прыбалтыку сплавілі пад выглядам сыравіны, а фактычна дроў? Але гэта няважна, – абарваў ён ужо сам сябе. – Не надта прырастай там.

– А што? – спытаў Літаў і сам не пазнаў свайго голасу.

– Хутка зноў пераязджаць.

– Куды?

– У Малдову. А адтуль, хутчэй за ўсё, у Румынію. Віна пап’еш, памідораў паясі.

– Калі?

– Думаю, недзе вясной, у маі. І вось яшчэ што. Сітуацыя памянялася. Узяліся за мяне, – неахвотна патлумачыў брат. – Моцна, усур’ёз узяліся. Вішу, калі шчыра, на валасінцы. Можа, яшчэ палітычнага прытулку давядзецца прасіць. У сувязі з гэтым я павінен урэзаць твае фінансаванне да мінімуму. Разумею, гэта жорстка. Але я вымушаны. На самае неабходнае ты, канечне, атрымаеш, але больш – прабач, ні капейкі.

– Як... а як жыць? – разгублена спытаў Літаў.

– Цярпець, – адказаў брат. – Такая ўжо доля рускага чалавека.



дэбют

Павал Каспяровіч



...найлепшая ўзнагарода для паэта,
каб на месца яго смяротнай сутычкі
сціплыя дзяўчынкі прыносілі кветкі...

# Чорная рэчка

***Апавяданне***

Запрашэнне на канферэнцыю прыйшло нечакана. Ён гуляў па лесапарку з дзіцячым вазком. Раптам патэлефанавалі, і мілы жаночы голас прапанаваў паўдзельнічаць у міжнароднай канферэнцыі ў Санкт-Пецярбургу, прычым усе транспартныя выдаткі – за грошы расейскага міністэрства.

– Так, так, канешне, – ледзь не закрычаў ён на ўвесь лесапарк, – я хачу ўдзельнічаць у гэтай канферэнцыі, – і пачаў нервова прамаўляць імёны: – Цой, Грабеншчыкоў, Башлачоў, Навуменка. Ды мой малодшы сын засынае толькі пад Васільева!

І праўда, так сталася, што яго малодшы сын засынаў пад меланхалічныя песні гурта “Сплін”, музыка якога адразу ахінала ўвесь пакой нейкай дрымотай і глушыла гармідар іншых дзяцей.

– Даруйце, – адказалі на тым канцы, – я не слухаю такую музыку, і наш офіс знаходзіцца ў Маскве. Адным

словам, мы вас чакаем, прыязджайце, неабходнае запрашэнне мы дашлем на імя вашага кіраўніка.

Усе астатнія дні ён не знаходзіў сабе месца. Піцер быў горадам яго ўлюбёных рок-гуртоў і паэтаў, горад, пра які яны марылі падлеткамі. Калісьці ў 9-м класе ён вывеў нітраэмаллю на спіне чорнай майкі надпіс: "Ленінградскі рок-клуб: Кіно, Аліса, Акварыум, Заапарк, ДДТ". А спераду на грудзях – кітайскія іерогліфы "У–шу". З сябрам дзяцінства Лёхам яны залезлі на бітумны дах свайго дзевяціпавярховіка і там шчыравалі над альбомнымі аркушамі з нажніцамі, робячы трафарэты і выціраючы ацэтонам белыя плямы фарбы з далоняў. Чым абвяргалі словы класікаў аб тым, што лепшае адзенне выробляецца толькі на Малой Арнавуцкай у Адэсе.

Час быў такі, фільмы "Асса", "Игла", "Узломшчык" у кінатэатрах і ўсеагульнае захапленне ўсходнімі адзінаборствамі.

Перабудова...

Тады ім проста здавалася, што Піцер – гэта горад, дзе жывуць адныя нефармалы, а на вуліцах толькі і робяць, што ўсе пагалоўна спяваюць рок-гімны. Фільмы пра бандыцкі Санкт-Пецярбург іх не цікавілі.

– Вам проста пашчасціла, – гаварыла галоўны бухгалтар, выдаючы яму сціплыя "сутачныя" ад роднай арганізацыі, – там столькі цікавых месцаў, пастарайцеся пабываць там і там... – і пералічвала, мошчы якіх святых знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургскіх храмах.

– Ды дзякуй, што вы, у мяне свой пантэон, я разбяруся, – шляхетна прамовіў ён, хаця таксама быў вернікам і нават зрэдку прыслужваў у алтары. Святых ён, канешне, шанаваў, але жыццё іх было яму мала зразумелым. Нават сына свайго малодшага ён назваў не ў гонар імператара-парфіраносцы, што было афіцыйным тлумачэннем, і не ў гонар Кастуся Каліноўскага, што было традыцыйным для адносна свядомых беларусаў, а ў гонар свайго любімага Кінчава, чым здзейсніў мару дзяцінства. Хаця ўсе папярэднія дзеці былі названыя ў гонар святых, і гэта быў яго шчыры выбар.

"Чорная рэчка..."

Гэтыя словы цяпер не выходзілі ў яго з галавы. Калісьці ў юнацтве ён чытаў, як Ясенін прыехаў туды з кімсьці з паэтаў і хадзіў там сплаканы. Чорная рэчка была месцам апошняй дуэлі Пушкіна.

І менавіта Чорную рэчку ён вырашыў наведаць падчас паездкі на канферэнцыю. Гэтае месца вабіла яго сваёй таямнічасцю. Уяўлялася нейкая вузкая маленькая рачулка са смуроднай чорнай вадой, нізка нахіленыя дрэвы, хмызы, бураломы. Ну акурат як чараўнічы лес з фільмаў стылю "фэнтэзі".

Графік канферэнцыі выдаўся напружаным, паседжанні з раніцы і да вечара, а ехаць па цемры на ўскраіну Пецярбурга ён не хацеў. Толькі ў апошні дзень перад ад'ездам, калі заставалася пару гадзін да цягніка, выбраўся на Чорную рэчку. Перад гэтым уважліва вывучыў інтэрнэт-мапу. Насамрэч існавала станцыя метро з такой назвай, і дзесьці ўбок праз некалькі вуліц і праспектаў быў сквер з помнікам на месцы дуэлі. Трымацца трэба было маленькай крывой вуліцы, названай у гонар матроса Жалезняка. "Цікавае суседства, – падумаў ён, – як мільгануў гэты матрос на авансцэне рэвалюцыі, так і вуліцу атрымаў на ўскрайку".

У метро яго пару разоў ахоплівалі прыступы расчуленасці. Ён уяўляў, як падыдзе да помніка, сэрца праніжа боль і як гэта будзе прыгожа і высакародна. Ён, пасланец з далёкай Беларусі, прыехаў на месца дуэлі вялікага паэта.

Трэба сказаць, што ён таксама быў паэтам, ці хацеў ім быць. Ягоныя вершы хвалілі, але рысай яго характару была неабходнасць браць з кагосьці прыклад. У паэзіі – з класікаў, ну і з рок-зорак, бо ён любіў рок-музыку. Былі рок-гурты, для якіх ён пісаў вершы, але далей мясцовага ўзроўню яны не выйшлі. Яму было за сорак, ён жыў сваім штодзённым клопатам, гадаваў дзяцей, працаваў, друкаваўся ў тамтэйшых літаратурных выданнях, выступаў на паэтычных вечарынах, якія сам і арганізоўваў. Адным словам, правінцыйны літаратар, падобных шмат на неабсяжнай прасторы былога Саюза, а ў Беларусі – дык у кожным горадзе свае класікі і рок-зоркі.

Імжэў дробны надакучлівы дождж. Па выхадзе з метро трэба было крочыць направа, перайсці мост праз Вялікую Неўку. Але праз дваццаць хвілін хуткай хады ён стаў адчуваць, што заблукаў, і вярнуўся назад.

Раней ён ужо быў аднойчы ў Піцеры. Узімку 2003 года вандраваў па абласных цэнтрах Беларусі. Канешне, вандроўкамі гэта было цяжка назваць, але нейкі элемент прыгодніцтва прысутнічаў. Папярэдне ён знаходзіў сярод сяброў магчымыя варыянты “ўпісак” і прыязджаў у горад, дзе пару тыдняў “тусаваўся” сярод тутэйшых нефармалаў, чытаў вершы і распаўсюджваў ці папросту раздаваў касеты з запісамі свайго тагачаснага рок-гурта. Так ён спрабаваў кампенсаваць шкоду ад свайго папярэдняга шматгадовага п’янства, якое ў рэшце рэшт давяло яго да мяжы вар’яцтва ці смерці, і выправіць нейкую ўмоўную шкоду рок-н-ролу і паэзіі, што смешна на цяперашні час, але тады ён так насамрэч думаў. Так, ён хацеў паспрабаваць стаць паэтам-пілігрымам, па прыкладзе Аляксандра Башлачова, а потым і паўтарыць яго трагічны лёс, чаго, дзякуй Богу, не адбылося, але разважанні пра неабходнасць трагічнасці лёсу час ад часу праяўляліся.

Дык вось, аднойчы ён зранку спаў на чыгуначным вакзале Віцебска, бо хлопец, у якога ён пару начэй “упісваўся”, сыходзіў на працу і культурна прасіў яго прадоўжыць сваё паэтычнае амплуа па заснежаных вуліцах горада.

Лежачы на мулкай лаўцы з напоўненым касетамі заплечнікам за спіной, ён раптоўна прачнуўся ад лёгкага штуршка і, падхапіўшыся, убачыў сваіх сяброў-рокераў з роднага горада. Яны ехалі з канцэртам у Піцер з перасадкай у Віцебску. Так ён аднойчы ў жыцці адчуў сябе ў ролі Шуры Балаганава. На канцэрт паехаў разам з імі. “Хвастом” ці “прычэпам”.

У Піцеры яны прабылі тры дні, акрамя канцэрта да стомы хадзілі па гістарычным цэнтры горада, начавалі ў знаёмых на мансардзе ў мастацкай майстэрні, куды прабіраліся ўпотай ад суседзяў з надыходам цемры. Так што прагу па знаёмстве з Піцерам ён спатоліў тады, і цяпер яна моцна не праяўлялася.

Хлопцы ўсё надакучвалі яму кпінкамі, кшталту, ну што, на магілу Цоя паедзеш, бо ў 90-х кожны прыхільнік “рускага року”, які прыязджаў у Піцер, лічыў сваім абавязкам наведаць месца пахавання загінулага музыкі. Ён быў бы і не супраць завітаць да куміра маладосці пры зручнай кампаніі, але гэтыя яго спадарожнікі былі юнакамі кірунку “анарха-панк” і да яго куміраў ставіліся з лёгкай ironіяй, таму ён аднекваўся і саромеўся. Ну а цяпер, калі яму было за сорак, ехаць на магілу Цоя здавалася несур’ёзным, пры ўсёй павазе да спевака. Зноў жа, бракавала часу і кампаніі.

Дарэчы, была ўжо гісторыя, як ён у дзясятым класе збег з дома на магілу Цоя. Цой, як вядома, спяваў, што той, хто вучыўся ў спецшколе, наўрад ці зможа зразумець таго, хто ў 15 гадоў збег з дома. А яму ішоў ужо 16

год, і вучыўся ён ў спецшколе, таму познім зімовым вечарам нікога не папярэдзіў і сеў на цягнік. Да Піцера ён не даехаў і, пасля трох галодных начовак на халодных вакзалах Слоніма, Мінска і Баранавічаў аўтаспынам, вярнуўся дамоў. Дома, канешне, была трагедыя, уся школа гудзела, пару класаў знялі з заняткаў і адправілі на пошукі, а над ускраінамі горада кружыўся верталёт, выглядваючы цела савецкага школьніка.

На станцыі метро ён яшчэ раз уважліва вывучыў мапу суседніх вуліцаў. На гэты раз ён вырашыў трымацца правага берага Чорнай рэчкі, пакуль не дойдзе да вуліцы, названай у гонар гераічнага матроса.

Чорная рэчка аказалася даволі шырокай у параўнанні з яго ўяўленнямі. Нават не рэчка, а быццам канал, роўныя акуратныя набярэжныя, як пад лякала зробленыя. Ціхае цячэнне, амаль без руху, апалае лісце з рэдкіх навіслых дрэваў. І сучасны горад вакол савецкай ці постсавецкай забудовы.

Ён крочыў уздоўж набярэжнай, а потым, калі дарога пераўтварылася ў аўтастраду і стала складанай развязкай, нырнуў пад яе і апынуўся на чыгуначных шляхах, праскочыў праз пераход і заўважыў вакол звычайную прамысловую зону, якая бывае на ўскраінах усіх гарадоў. Ніякіх намёкаў на стыль “фэнтэзі”, поўны “індастрыял”. Няўклюдныя будынкі, баракі, гаражы, вароты. Няскошаная трава, засыпаныя пяском бардзюры, лініі электраперадач, закураныя трубы і адсутнасць тратуараў. Як хочаш, так і ідзі, раз прыйшоў. Дзесьці ўдалечыні будоўлі новых дамоў, а так – дождж і сівыя хмары ў свінцовым небе.

Цяжка цяпер сказаць, чаму і як ён захапіўся паэзіяй. Можа, у гэтым заслуга яго бацькі, які паэзію не тое каб любіў, але калісьці цікавіўся. Калі ў пачатковай школе яны ўзімку выбіраліся пакатацца на лыжах у той лесапарк, дзе ён цяпер прагульваўся з каляскай, то бацька абавязкова спыняўся на якой-небудзь паляне, натхнёна ўтаропліваўся ў заснежанае наваколле і пачынаў цытаваць заезджаныя ўжо за ўсе папярэднія прагулкі радкі Цютчава ці Ясеніна пра лес, які паўставаў, нібы зачараваны невідзімкай, і дрэмле пад казку сну. Яшчэ бацька помніў урывак з Коласа пра “родны кут, які так мілы” і пераклад з Міцкевіча пра “возера Свіцязь, якое, як шыбіна лёду, ляжыць”. Выбар быў невялікі, бо на гэтым веды бацькі ў паэзіі заканчваліся. А яшчэ ў дзіцячым садку бацькі ўзялі яго з сабой на экскурсію ў Навагрудак, дзе ўся група сфатаграфавалася на кургане ў памяць Адама Міцкевіча, а ён, пяцігадовы хлопчык, забраўся на самы верх і стаў там, нібы статуя. Можа, тады дух паэта-выгнанніка і перадаў яму схільнасць да рыфмавання, жартаваў ён потым.

Але ў сярэдніх класах школы ён пачуў Высоцкага, і Уладзімір Сямёнавіч стаў яго нязменным кумірам на доўгія гады. І ніхто з рокераў: ні Летаў, ні нават Башлачоў – не змаглі скінуць спачылага барда з юнацкага п’едэсталу, толькі ўжо Гумілёў, Пастэрнак і Ахматава з Мандэльштамам прымусілі Высоцкага пасунуцца.

Потым, калі яго маленькія сыны прасілі яго праспяваць ім калыханку, адзінае, што ён успомніў на памяць, гэта песні Высоцкага і Галіча. Таму і засыналі яго дзеці пад “Брацкія магілы” ў выкананні бацькі.

Праз сорак хвілін таропкай хады ён стаў то маліцца, то злавацца: “Божа, ну дапамажы Ты мне выбрацца з гэтых завугольляў. Нармальныя людзі ходзяць цяпер дзе-небудзь па Палацавай плошчы ці вакол Ісакія, а ён тут. Трэба было прыехаць у Піцер, каб швэндацца па прамысловай зоне”. Яшчэ трэба было сачыць за аўтамабілямі, якія праносіліся побач, каб не

збілі. Бо не хапала яшчэ вярнуцца з Паўночнай Пальміры нябожчыкам-падарункам жонцы і дзецям.

“Хутчэй знайсці гэтае месца, і дамоў, на цягнік, месца двубою яму падавай, дуэлянт недароблены”.

Трэба сказаць, што ў апошні час ён часта разважаў пра тую пару, калі дваране бавіліся дуэлямі. Адзін надта паважны чыноўнік з гарадской сацыяльнай структуры агідна пакрыўдзіў яго жонку і выставіў за дзверы. І ўжо колькі дзён потым ён не мог пазбавіцца ад думак вызваць таго паўліна з паводзінамі фараона на бойку ў спартыўнай зале. Да першай крыві ў баксёрскіх пальчатках. Дарэчы, павінен жа быць у яго, як у сапраўднага паэта, свой Дантэс ці Мартынаў. Але па праўдзе нічога гэтага ён бы не зрабіў, бо разумеў, што гэта глупства, бо прываліў бы той парсюк яго сваім жыватом, ды і біцца ён не ўмеў. Таму прыходзілася проста маліцца за таго дзеяча наменклатуры і зычыць яму ўсяго добрага, а самому вінавацiцца за гнеў.

З лёгкасцю фізкультурніка ён пракрочыў па аўтастрадзе, збег па высокай лесвіцы, звярнуў пад слупы апоры і збоку ад моста, паміж дзвюма каляінамі прамысловай чыгункі на ўскрайку спальнага мікрараёна ўбачыў невялічкі скверык метраў сто на сто. На мапе той здаваўся яму ледзьве не старажытным паркам на прынёманскіх узгорках роднага горада.

Мокры, з падцёкамі ад дажджу помнік-стэла вышынёй метраў 10 са сціплым надпісам. Сіметрычна выкладзеныя з бітай чырвонай цэглы сцяжыны і высокія хударлявыя бярозы вакол. Правільна пісалі ў інтэрнэце ў каментарыях, што трэба прыходзіць сюды ці позняй восенню, ці ўзімку, калі мяце мяцеліца.

Раптоўна ён адчуў, як з носа ўпартым струменчыкам пацякла кроў. Добра, што ў заплечніку ляжаў цэлы пачак вільготных сурвэтак. Ён стаў прыкладваць іх да носа, яны адразу набрынялі крывёй, юшка не спынялася. Зноў ахінула паніка.

– Што за містыка, – змрочна падумаў ён, – гэтага яшчэ не хапала, заліцца тут крывёй.

А можа, гэта знак падобнасці лёсаў?! Можа, ён таксама памрэ неяк гвалтоўна, ён жа хоча быць падобным да класікаў.

Мозг проста працяла болем.

Імгненне – і паніка змянілася радасцю.

– Як гэта сімвалічна! Малады паэт сплывае на месцы дуэлі Пушкіна крывёю! Праўда, ад банальнай стомленасці, але як паглядзець! “І зноўку кроў на Чорнай рэчцы”! Так, так, напісаць верш на месцы дуэлі. Гэта будзе бомба!

Ён дастаў блакнот, стаў апантана падбіраць рыфмы і гэтаксама імпульсіўна спыніўся – не, глупства, камедыя і фальш!

Прыляцеў голуб і сеў пад самыя ногі.

– Вось птушкі міра яшчэ не хапала! Поўны набор містыкі.

Але ён адчуў, як трывога суцішваецца і ўсё цела ахоплівае спакой і цішыня. Стаў нервова хадзіць і маліцца:

– Божа, даруй грахі рабу Твайму Аляксандру, вольныя і нявольныя! Даруй яму ганарлівасць і распусту з п’янкамі, калі яны былі. Зайздрасць, гарачасць нораву. Даруй яму гнеў, калі ён быў, здрады, калі яны былі, рэўнасць, даруй яму гэтую дуэль. Дай душы яго спакой і мір. Божа, даруй грахі рабу Твайму Дантэсу, не помню імя яго. Божа, даруй грахі рабу Твайму імператару Мікалаю, калі ён там заляцаўся да жонкі чужой

Наталлі. Даруй грахі і рабе Тваёй Наталлі, калі яна там якія падставы для рэўнасці давала. Божа, даруй грахі рабам Тваім секундантам, якія былі тут на дуэлі. Божа, даруй і мне мае грахі. Калі я прыцягнуўся сюды дарэмна, як валацуга, даруй мне. Божа, можа гэта ганарлівасць, але дай мне хоць кроплю ад таленту раба Твайго Аляксандра! Дай хоць штонебудзь ад велічы яго генія! Божа, дай гэта ўсё і сябрам маім, нашым аўтарам беларускім, няхай яны пішуць, спяваюць, – і стаў пералічваць імёны: – Анатолю, Дануце, Юрыю, Валянціну, Вользе, Алене, Галіне, Андрэю, Але, манаху Іаану, Алесю, Уладзіміру, Усеваладу... Дай нам сяброўства, разумення адзін аднаго, пазбаў ад зайздрасці і звадаў. Хай будзе на ўсё святая воля Твая!

Ён адчуў моцную стому, сеў на лаўку, выцер твар, сурвэткі перасталі чырванець, кроў не цякла. За гэты кароткі час галубоў наляцела цэлая чарада. Ён пакарміў іх пячэннем з заплечніка і азірнуўся. Па дарожцы да помніка падышла дзяўчына-падлетак з букецікам белых кветак, усклала іх на прыступкі, пастаяла хвілінку і пабегла далей.

Ён разгубіўся ад расчуленасці, вось яна, найлепшая ўзнагарода для паэта, каб на месца яго смяротнай сутычкі сціплыя дзяўчынкі прыносілі кветкі.

Да цягніка заставалася паўтары гадзіны. Трэба вяртацца. Ён падняўся, сумна азірнуўся на пляцоўку з помнікам, на сквер, на бярозы і пайшоў у бок чыгункі да станцыі метро.

Ззаду стэлы была выбіта дата ўсталявання – 1937 год.

– Цікавы парадокс, – падумаў ён, – па ўсёй краіне рэпрэсіі, Ахматава піша “Рэквіем”, а ўлада ставіць помнік паэту-вальнадумцу.

Вярнуўшыся ў гістарычны цэнтр, ён прабегся па Палацавай плошчы, пастаяў на набярэжнай Нявы перад Петрапаўлаўскай крэпасцю і падумаў пра яшчэ адну недарэчнасць, – турма, названая ў гонар апосталаў, адзін з якіх быў павешаны, а другі закатаваны праз усячэнне мячом.

Потым паспрабаваў зайсці ў Ісакій, куды яго не пусцілі, а ў Казанскі сабор ён і сам не пайшоў. Бо, шчыра кажучы, адштурхоўвала такая грандыёзнасць, пабудаваная на народных касцях.

У цягніку ён паснедаў і ад стомленасці хутка заснуў.

У сне яму бачылася раз’езджаная санямі лясная дарога, стромкія вяршаліны хісткіх соснаў пад паўночным сіверам, мітуслівыя постаці людзей, раскіданыя шынялі, каманды секундантаў, пісталетныя стрэлы, шэры дым у марозным паветры і перадсмяротны крык параненага паэта. А потым заплаканыя твары дзяцей і сужэнкі, толькі не Наталлі Ганчаровай, а яго ўласнай жонкі, і дзяцей яго, якія крычалі: “Тата, тата, вярніся...”

Ён прачнуўся і доўга не мог ачомацца ад сну... Паглядзеў на гадзіннік. Была амаль поўнач. Цягнік стаяў на нейкай станцыі пад назвай “Дно”.

– Ну і назву даў Гасподзь месцу гэтаму, – падумаў ён.

Нахлынулі ўспаміны. Калісьці з адным сваім сябрам яны вырашылі, што сапраўдныя паэты доўга не жывуць. Ім было ўжо за дваццаць гадоў, таму 25-гадовы рубеж жыцця Лермантава ім не падыходзіў, бо не заўтра ж паміраць. 27 гадоў былі вельмі прывабнай датай: Цой, Башлачоў, Джым Морысан, Джэніс Джоплін, Курт Кабэйн. 30 гадоў таксама падыходзіла – Ясенін. 37 – увогуле цудоўна: Пушкін, Маякоўскі, Арцюр Рэмбо. 42 гады – сам Высоцкі.

Далей варыянтаў не было. Старасць Булата Акуджавы і Якуба Коласа іх не цікавіла.

Паступова яны прайшлі ўсе пастаўленыя рубяжы і апынуліся ў паэтычных доўгажыхарах, а сябар увогуле стаў паспяховым бізнесоўцам.

Навошта ён павалокся на гэтую Чорную рэчку. Да Пушкіна ці да прывідаў свайго юнацтва? Трагічнай смерці яму захацелася? Жыць надакучыла? Ужо заўтра пасля абеду ён павінен быць у тым самым лесапарку з каляскай і цёзкам легендарнага Кінчава ў калысцы. Аб трагічнасці і падабенстве лёсаў не магло быць і размовы. Чорная рэчка засталася ўдалечыні, як мроя, як марыва, як фантом. Прагназаваць сваю смерць ён не збіраўся. Трэба было жыць – гадаваць дзяцей і чакаць новых вершаў. Над берагамі сваёй роднай ракі, чыстай струменістай і прыгожай. Над Нёмнам.



Анатоль Кудравец



…там, дзе нельга пісьменніка адрозніць
ад прыжывалы, ад нахлебніка,
там не будзе літаратуры…

# "Літаратуры трэба галава і сэрца…"

## *З дзённікавых запісаў і нататнікаў*

*Падрыхтоўка запісаў да друку Веранікі КУДРАВЕЦ і Ганны ЧАКУР.*

*22 красавіка 1966.* Цёплая туманная раніца. Асфальт мокры ад дажджу, што прайшоў недзе пад раніцу. На яго павыбіваліся дажджавыя чарвякі. Пахне чаромха, пачала выпускаць стрэлкі жаўтавата-зялёных лісткоў. Таполі ў жаўтаватым марыве. Ціха плыве, круцячы на заваротах, рака.

У кустах адскочыла таксама крыху рыжаватая крапіва. Пячэцца. Дробненькая, як мініяцюрныя "хрэсці", дзяцеліна. Не зялёная – з алавяным налётам. На сіняватай цвёрдай махавой падсцілцы павыпускаў стрэлкі-галоўкі на тоненькіх-тоненькіх зялёных ножках зязюльчын лён. Дождж вымыў дарогу – на ёй, месцамі, чорныя кучкі смецця, белы пясок, ярка-чырвоная гліна. Азімае жыта пусціла трэці лісток. Так, маленькімі кусцікамі, цягнуцца тоненькія вузенькія лісточкі.

У калгасе садзяць бульбу. У чатыры радкі. На абед едуць жанчыны, назбіраўшы ў кустах букецікі блекла-блакітных, разетчатых кветак.

У горадзе расце ўжо цыбуля, шчаўе – можна несці на базар. У вёсцы яшчэ не зрабілі нават грады.

Хочацца капацца ў зямлі, раскідаць гной, араць, а за табой няхай бабы садзяць бульбу.

На прыродзе знікае душэўная пустата і зацятасць. Хочацца слухаць гэты мілы шчэбет вераб'ёў, песні шпакоў, асцярожны свіст жаўцякоў.

*6 трайня 1966.* Полымя ўзаемнай дружбы можа гарэць, калі яго падтрымлівае жар агульных інтарэсаў.

*9 трайня 1966.* Зацвіла вішня. Адламалі галінку. Пах сухога, перагарэлага сена – душны, сухі...

*15 трайня 1966.* Млеюць пад сонцам лясы. Разморaныя сосны пускаюць прамую дробную слязу. Цвіце бессмяротнік – белым, ружаватым цветам.

*20 трайня 1966.* На базары. Жанчына прадае бэз.

Пакупніца: Што Вы, ён жа ўвесь асыплецца.

Прадаўшчыца: Што ж тут такое. Галаву чэшуць – валасы сыплюцца, галінкі ломяць – пялёсткі сыплюцца.

*8 чэрвеня 1966.* Вы ж цэлую рэпетыцыю напісалі.

*9 чэрвеня 1966.* З пісьма з піянерскага лагера. "Добры дзень, мамачка! (У лагеры) мне тут добра, толькі не бяры пуцёўку на другі тэрмін".

*9 ліпеня 1966.* Дзіўна, але на тым месцы, дзе некалі стаяў манумент Сталіну, зазелянела густа трава. Прабілася паміж каменнем і ярка-зялёным квадратам зазелянела на плошчы.

На поўначы клубіліся, быццам стаялі, прыгожыя кучавыя аблокі колеру парашку чырвонай цэглы, знізу густога, зверху – рассыпанага, развеянага, чырвона-шэрыя.

*4 студзеня 1967.* "Яму стала зябка, як тому яблыку на галінцы". ("Двое")

**Па дарозе ў Аколіцу**

Ніколі не было такога туману. Месяц – ружовая пляма ў белых ватных коўдрах, цішыня... Ні голаса, ні звону, ні дыху... Маладыя сосны абсыпаны снегам – цяжкім, ліпкім, і здаюцца кактусамі – тоўстымі, тлустымі, рагатымі. Перад вачыма – санны след і шэрая плёнка. Глядзіш на неба і здаецца, што адтуль сеецца нячутна і густа мука. Спынішся – нічога няма.

Вішні – як галінкі белага бэзу ў перыяд цвіцення: густыя, прыгожыя, растапыраныя, лагодныя.

Ездзіў у Прылукі, да Варлена. Вельмі цяжкае ўражанне пакінула паездка. Асабліва кальнулі ў сэрца першыя хвіліны спаткання. Ён выйшаў у залу – нейкі маленькі, беленькі, чысценькі, як дзіця, якое прыбралі, вымылі таму, што ідзе свята і будуць гэтыя людзі, каб вёў сябе прыстойна.

Усякая з'ява грамадская – з'ява сацыяльная.

Яму вельмі цяжка – маленькі пакойчык 2 на 4, на дваіх з братам, і ў ім ён і днём і ноччу. То спіць, то не можа заснуць.

Часам мільгае ў вачах дзіўны выраз, – дзіўны і страшны, – вочы мутнеюць, робяцца шэрымі, нейкі час глядзяць на цябе, як бы нічога не цямячы. Як бы да яго вяртаюцца памяць і прытомнасць.

Послушай: далёко, далёко на озере Чад
Изысканный бродит жираф.

**Н. Гумилёв**

Палагея:
– Во, згрэбла, яно зноў ссыпалася. Папера плыўкая.
– скарчанеў увесь на холадзе
– ссунуўся з каня
– такі худы – аж духі сашчапіла
– каб ляснула (звалілася звысака), то разлілася б (па падлозе, зямлі)
– пакуль ты вывучышся, дык я порахам стану ў зямлі

*7 студзеня 1967.* Памёр Сочынеў Анатоль Яфімавіч. На 42 годзе. Згарэў на рабоце. 2 студзеня паміж 13 і 14 гадзінамі. Слухаў, як рэдактар расказваў пра паездку ў Амерыку. Адчуў сябе нядобра, але даседзеў да канца. Выпісаў камандзіроўку. Вырвала. Пачаў есці яблык. Інсульт (кровазліянне ў мозг). Праз паўгадзіны ўсё было скончана.
31 снежня зямлісты твар, ацeслівы, быццам абсыпаны мукой. Не мог елку ўзнесці на 3 паверх. У сейфе знайшлі мёд. Картку, у якой было запісана, што ў яго ўжо быў адзін інсульт. Хаваў, каб ніхто не ведаў.

Дзіўная прывычка. Выцірае ногі, калі выходзіць.

*15 ліпеня 1964.* Быўшы турэмшчык, адседзеў 8 год:
– Сядзяць у турме ўсякія. Адзін вока не запарушыць, а другі пярсцёнак разам з пальцам зніме.

*8 студзеня 1967.* 8 ліпеня павінна быць добрая пагода. Сонечная.
Старыя ўгадваюць пагоду (зіму) па Пакровах. Якія Пакровы – такая зіма. Сонечны дзень – ясная, марозная. Дажджлівы – халіпа. Золь – мароз (на памінках І. Хадановіча, дзядзька Ігараў).

*13 студзеня 1967.* (Па пісьму) (“Па дарозе дамоў”)
Ён выйшаў з вагона, пастаяў трохі, пачакаў, пакуль цягнік пойдзе далей, перайшоў цераз пуці. Ля слупа стаялі, прывязаныя за металічныя крукі, дзве падводы. Ён абмінуў іх, не стаў пытаць, куды яны (можа, якая і падвезла б), і ўвайшоў у лес. Па цвёрдай сцежцы крочыў шырока і цвёрда. Ён яшчэ не разумеў, што за сённяшнюю ноч высталеў можа на цэлы год, ці два, ці ўсе дзесяць, але адчуваў, што стаў другім, зусім другім. І гэта дабро, купленае цаной подласці, будзе ісці за ім. І сумны пагляд вачэй маладога хлапца-праваднікa, і яго словы:
– Ну, пляшывы чорт. Зноў свінню падсунуў. Добра, што кантралёры не натрапілі.

*14 студзеня 1967.* “Дома”.
Ён слухаў маці. Яна гаварыла, што прыехаў Братачка. Цягаўся столькі год па

свеце – быў і ў Чалябінску, і на цаліне, і на Украіне... Сустрэў яе сёння на вуліцы: “Аўгінка мая, каб табе год доўгіх, прыехаў я, братачка, дамоў. Паміраць прыехаў”.

А ў руках – кош, і ў кашы грыбы. Якіх там толькі няма. Ты ж ведаеш Братачку. Ababкі, падасінавікі, сыраежкі – старыя, аплюхлыя.

– Што, кажу, табе часу няма добрых назбіраць. Іх жа да чорта сёлята.

– Ай, Аўгінка, некалі. І гэтыя добрыя. На скавараду, сала, цыбулі – і ўсё тут.

Слухаў маці, глядзеў на чорную, падзяўбаную ў парозе падлогу, у адной маснічыне дзірка прагніла (трэба замяніць) і думаў пра тое, што гэта вялікая няпраўда, калі мы думаем, што дастаткова пакінуць дом – і ўсё парваў. Не. Як звяры ідуць панюхаць логава, дзе некалі нарадзіліся, так і чалавек. І дарэмна суцяшае сябе чалавек, быццам увесь свет яму радзіма. Прыйдзе час, калі ў крыві яго прабудзіцца тое, што вякамі вырастала, і кліч продкаў, памяць сэрца, і зашчыміць сэрца, і звяжа рукі туга, і захочацца заплакаць каля шурпатай голай дзічкі.

Ён падумаў яшчэ пра тое, што добра, што маці не паслухалася яго і не прадала хату і не пераехала да сястры. Да каго ж бы ён прыехаў?

*21 студзеня 1967.* Шалай. Начальніцкія хромавыя боты, галіфэ. Сам як яго прозвішча. Быў бухгалтарам, за нейкія не простыя махінацыі адседзеў два гады ў турме. Вярнуўся. З год пацягаўся на розныя работы ў калгас, потым уладкаваўся на хлебакамбінат. Зноў бухгалтарам. Паправіўся і стаў гладкім.

*24 студзеня 1967.* Па дарозе дамоў.

Сёння ён паедзе дамоў... Гэтая думка прыйшла нечакана, як бы выпадкова, і адразу захапіла яго ўсяго. І ўжо як быццам не было нічога другога, а толькі яна адна, адна турбота і востры непакой пра маці: як яна там. Прыйшло адчуванне, што калі ён сёння не паедзе, то там, дома, здарыцца нешта благое. А не здарыцца, то можа трэба памагчы што, і ўрэшце ёй будзе нечаканая радасць убачыць яго, яна ж ведае, што ў яго на носе экзамены, трэба сляпіць вочы над кнігамі, і толькі тады ён будзе лічыць дні...

*27 студзеня 1967.* Адкрыты партыйны сход.

Матузаў: “Правда” пісала ў адным сваім артыкуле... Забыў назву, видимо товарищи помнят... Что... Да, об музее... да подарил Ленин подарок какому-то товарищу... Не Ленин? Да, не Ленин, какой-то революционный деятель... видный.

Выступіў Кошман. Гаварыў пра важнасць падзеі – 50-годдзе рэвалюцыі. “Я, як намеснік сакратара партбюро, усё зраблю, каб...”

Чым пусцейшыя думкі, тым званчэйшы голас, а ў голасе – звон.

*29 студзеня 1967.* Сабака гырчыць у сне. Яму сніцца заяц, якога ён не дагнаў (які ўцёк ад яго).

*31 студзеня 1967.* “Мне вельмі цяжка пакідаць гэты свет, ведаючы, што ты застаешся, мама. Але яшчэ цяжэй заставацца на гэтым свеце. Я згубіў святло жыцця. А гэта – усё”.

Зайшоў на факультэт. На адной з студэнцкіх газет (аўдыторыя 4) прачытаў “Зробім, што зможам. Хто можа, хай зробіць лепш”. Дай Божа здароўя аўтару гэтых мудрых слоў. Дай, Божа!

*Feci, quod potui, faciant meliora potentes.*

На старонках гэтай жа, прылепленай побач з дошкай газеты было напісана: “Слоўнік сатаны”.

Аплодисменты – эхо прозвучавшей пошлости.

Вежливость – самая приемлимая форма лицемерия.

Воздух – питательная среда студентов.

Год – период, состоящий из 365 разочарований.

Дружба – корабль, в ясную погоду просторный для двоих, а в ненастье – только для одного.

Мода – деспот, которого умные люди высмеивают и которому подчиняются.

Поздравление – вежливое проявление зависти.

Превзойти – нажить врага.

Святой – мёртвый грешник в пересмотренном издании.

Спина – та часть тела вашего друга, которую вы можете созерцать, очутившись в беде.

Счастье – приятное ощущение, вызываемое созерцанием чужих страданий.

Трус – кто в минуты опасности думает ногами.

Успех – единственный непростительный грех по отношению к своему ближнему.

Эрудиция – пыль, вытряхнутая из книг в пустую голову (череп).

*5 лютага 1967.* Не спалася ноччу.

Неба над горадам бела-шэрае, быццам пеністае, свежае, толькі працэджанае малако.

Сіняватым кругам свяціўся плафон пад столлю, нежывым люстраным бляскам адсвечвала пляма акна на паліраваных дзверках шафы. Было адліжна. З даху зрываліся кроплі вады і барабанілі па блясе падваконніка.

Здавалася, што гэта дома, зімой, познім марозным вечарам рэдкія іскры зрываюцца, барабаняць у сценкі трубы астываючай печы-“буржуйкі”.

*11 лютага 1967.* Прачытаў сёння ў анатацыі да зборніка вершаў Хв. Жычкі “Галоўная думка зборніка – вернасць грамадзянскаму абавязку перад Радзімай, партыяй, народам...”, і стала неяк не па сабе. Не трэба пра гэта крычаць – не трэба. І сам Хв. здаўся не такім, як я яго ведаў, – крышку горшым, не ўсюду шчырым.

Днём было сонца – чыста вясенняе, цёплае. Вераб'і не нарадуюцца – крычаць так, што, здаецца, ляскат ідзе па вуліцы. І ёсць чаму радавацца. Перад гэтым мароз быў 32°.

І праўда – вясна. Выйшаў раніцой на Чырвонаармейскую – горад у бок трактарнага, як на далоні, у сіняватым снезе.

Неба яркае, чыстае, весновае.

*12 лютага 1967.* Зборнік Насовіча

Абож (ціж) ты не ведаеш.

Абыяк робіць.

А ўжо ж...

Аўдотка – невялікая азёрная рыба.

Авоенькі – авоячкі.

Агу – агу (дзіця).

Адамава костка.

ажына (ежевика)

азіят праклятый

аёячкі...

аксаміт – бархат

акурат як у бацькі

амшара (імшара) амшыць

анигугу –

аняж (няўжо ж)
антылерыя
аснар такі

*13 лютага 1967.* "– І астаўся маскаль у пекле, ня хоча ў неба, бо там вельмі ўсё сьвятое, а чалавек грэшны."

"Выпісы з беларускае літаратуры". (Частка 1.) Дзяржаўнае выдавецтва Масква – 1925 – Ленінград. Стар. 25, Валачобная.

Ішлі, прышлі валачобнікі,
Іграючы, сьпяваючы,
– Добры вечар, пане гаспадару!
– Ці сьпіш, ці ляжыш, пане гаспадару?
– Калі ты сьпіш – Бог з табою,
– Калі ня сьпіш – моў са мною,
– Адчыні вакно, паглядзі на двор:
– На тваім двары стаіць шацёр,
– Навюсенькі, бялюсенькі,
– А ў тым шатры залатое крэсла.
– На том крэсле сам Бог сядзіць.
– Перад Богам усе сьвяткі
– Шахуюцца, рахуюцца,
– Катораму сьвяту наперад пайсьці?

*23 красавіка – Юр'еў дзень*

Першы раз выганяюць скаціну ў поле. Юрый-ахоўнік скаціны.

Сёмуха (Тройца, духаў Дзень, праз сем тыдняў пасля Вялікадня)

Хаты ўбіраюцца зялёнымі бярозкамі, двары і вуліцы – чыста падмятаюцца, пасыпаюцца аерам. Гэтыя сьвяткі называюцца яшчэ і "зялёнымі".

Гэта русалчына сьвята.

Купалле – у ноч з 23 на 24 чэрвеня.

*15 лютага 1967*

За вакном бібліятэкі, па другі бок вуліцы – ліпы. На галінах – некалькі варон. У дзюбе адной – вялікі белы сухар. Яна некалькі разоў спрабавала дзяўбаць яго, прыцiснуўшы да ствала лапай, але сухар быў, відаць, вельмі засушаны ці змёрзшыся, і паддаваўся туга. Некалькі разоў хацела адабраць яго другая варона, але гэта ўспявала падхапіць яго і пераляцець на другі сук. Адзін раз яна ўсё ж не змагла гэтага зрабіць, і сухар, зачапіўшы галінку, паляцеў уніз – у снег. Вароны правялі яго вачамі і... супакоіліся. Што значыць: сам не гам і другому не дам.

Ён пазычыў у яе 50 рублёў. Ішлі месяцы, а вярнуць доўг ён ніяк не мог. Каб не стаць вечным даўжніком, ён ажаніўся з ёй.

Як гэта страшна, хацець – і не магчы. Не магчы не таму, што ёсць нейкія перашкоды (любыя перашкоды можна пераадолець), а фізічна не магчы.

Хацець быць здаровым – і не магчы, хацець быць прыгожым – і не магчы, хацець быць патрэбным – і не магчы. Не, апошняе няправільна. Захочаш – будзеш, нідзе не дзенешся.

Чаму пра любоў да бліжніх чалавек часцей за ўсё ўспамінае тады, калі трапляе ў бяду?

Памёр Барыс Віктаравіч Платонаў. Страшна робіцца ад адной толькі думкі, што яго няма. Хто ж застанецца ў купалаўцаў? З кім яны? Страшна пачынаецца для Беларусі гэты юбілейны год. Прайшло паўтара месяца, а ўжо нястала Аркадзя Чарнышэвіча, Івана Гутарава...

*17 лютага 1967.*

Ён развёўся з жонкай год дзесяць таму назад, і кожны дзень, беручы ў рукі газету, пачынаў чытаць яе з чацвёртай старонкі, на якой заўсёды змяшчаліся аб'явы аб разводах. Радавала тое, што і другія разводзяцца.

*19 лютага 1967.*

В редакцию Белорусской СССР

г. Минск

Жалоба

От инвалида Отечественной войны III группы Бурцева Александра Петровича, проживающего в Могилёвской области Кличевский р-н Колбчанского с/с д. Околица. Я гражданин работаю в колхозе "Советская Белорусь" с первых годов своей жизни не смотря на инвалидность я выполнял все посильные работы и наряды в колхозе. А теперь я имею 50 лет и других непосильных работ выполнять не могу. Не смотря на это что в мине есть документы заключённые врачебно трудовой экспертной комиссии освобожаюсь тяжёла физического труда и на всё это председатель колхоза тов. Забродский не обращает не какого внимания на мои документы и не даёт мне посильной работы, предлагает ити на общие работы где мне непосильно их выполнять и так я нахожусь 2 года без работы много раз я ходил в колхоз на наряд но бригадирь посильной работы не даёт отправляет домов бывали даже такие упрёки и насмешки преглашали в сельский клуб музыкантом или продавцом в магазин там лёгкая работа разве это не насмешка от дельных комунистов местной власти. Да ещё мою семью лишили теглом и всеми правами колхозника, а в мине дети учются в школу ходят 10 километров магазина в нашей деревне нет надо ити 10 километров чтобы купить хлеба всё это надо ити пешком и нести на плечах, а каня бригадирь не даёт что бы покупить детям хлеба, даже есть такие похабные отношения бригадира попросил я коня чтобы завести зерно в мельницу змалоть бригадирь выразился неси на плечах, а каня не дам, а мельница расположена 10 километров вот какое отношение коммуниста бригадира к инвалиду Отечесвенной войны это просто дикость 2 года не дают работы да ещё оштраховали за невыполнение наряда и высчитали деньги з моей жены каторые она заработала.

Товарищи советские руководители обратите вы это внимание где ж найдёшь такой дикости мой сын 16 ноября 1967 года пошёл в ряды Советской красной армии и что же этот бригадир коммунист Пенчук А.И. недал каня чтобы отвести моего сына на вокзал и пришлось взломать замок и самовольно взять лошадь что бы отвести новобранца на вокзал разве это справедливо со стороны бригадира прошу разобраться и ведёт он себя очень не культурна и не цензурна оскорбляет это просто варварство поехала моя жена к своему сыну в гости просто отведать вернулась от сына я пошёл к бригадиру попросил лошадь – чтобы привести жену с вокзала чтоже он ответил иди бери за руку и веди домой с вокзала, а вокзал до села 12 километров разве эта не насмешка над инвалидом Отечественной войны это как бригадиру коммунисту не к лицу заниматься такого дикостью в етом году всем известно какая что ненайдёт ни какой транспорт только на лошадях. Прошу редакцию обратить внимания на мою красноармейскую семью и как на меня инвалида Отечественной войны.

Тов. Бурцев

*20 лютага 1967.*

Дома.

І раптам яму стала страшна, што маці магло не быць, магла яна паехаць да сястры, і не было б куды ехаць яму. І гэтыя людзі былі б чужымі, і не паціснулі б яму руку...

*21 лютага 1967.* Хутар пад назвай “Марусіны буські” (для партызан)

“Хто піражкі хаціць?”

“Каб цябе хмара паймала”.

“Чмарая, як цыганка”.

*28 лютага 1967.* Каля 2-х гадзін ночы. Вакзал. Зноў бяссонніца.

“Смаленне кабана” (“Марута і Зіна”?)

Нона:

– Цётка, я не дробна крышу?

– А добра, Ноначка, як пакрышыш, так і добра. Гэта ж у каўбух – нават не ў каўбасы...

– Мне ўсё адно, я магу і драбней...

Рукі ў яе сальныя, кавалачкі мяса папрыліпалі да іх. Яна спрытна бярэ кавалкі мяккага сіняватага?(белае вываранае) мяса, стукае нажом па днушцы, ссыпае кавалачкі мяса ў таз... – Стук-стук-стук-шась – ссунула ў таз насечаныя, стук-стук-стук-шусь.

Аксеня ў квадратных цынкавых ночвах валаводзіцца з каўбасамі. Чысціць кішкі. Рукі ў яе белыя ад сала.

– Кажа, пайшлі спаць, – і пайшоў у другую хату, на печ. – Я пабыла трохі, і таксама прыйшла да яго... Узлезла, дык ён як дзьмухне ў вуха: я думала і ўліпну ў комін. Дні чатыры шыяй не магла павярнуць. Дык я ўголас. Прыбягае тата – босы, у споднiках, лажыўся спаць. У руцэ папружка матляецца.

– А ну марш з маёй хаты, – як крыкне на Гогу. Я дык сяджу на печы, раву, а самой смешна. Ён стаіць босы, маленькі, натапыраны, як певень, а Гога як злез з печы, дык як ні ў два вышэйшы за яго. Я думала, біцца будуць. Але паслухаўся. Адзеўся і пайшоў. Дасвіданія праўда даў усім...

– Я думаю, цётка, каб у суд падаў... Можа і заставіў бы заплаціць. Хоць рублёў з 50.

– Дык ён і грошы ўзяў вашы...

– Мы ж яму і кашулю купілі, і на вяселле патраціліся. Ён жа ні капеечкі не даў. Можа хоць гэта вярнуў.

– А чорт з імі, Ноначка, з гэтымі грашыма. Добра, што выблыталася.

Ага, выблыталася. Дык у яго ўжо двое дзяцей і жонка...

– А-й, лопнула. Перагрэў... Спаліў шкуру, вот шкода... Ды дзе ж ты ўладзіш. Не гарыць, а тлее. Тлела, тлела – і спаліла. А такой бяды.

– Яно, як маё жыццё. Дзе недасмалена, дзе перасмалена.

– А я думаю ўсё ж схадзіць да пракурора. Можа хоць рублёў 50 адсудзім.

– Я не дробна крышу, цётка. Вы кажыце, не бойцеся, мне ўсё роўна.

– А ладна, Ноначка. Дзякуй і за гэта, ты мне так памагла.

– Я дык люблю крышыць.

Ноч, 2 гадзіны. У пасажырскай зале ціха, спяць, дрэмюць, так сядзяць – маюцца пасажыры. Хлопец спіць, адкінуўшы галаву на спінку лаўкі. Заходзіць міліцыянер шырокі, тоўсты, з тупым, хмурым тварам. Прайшоў паўз хлапца па праходу, нічога “падазрыцельнага” не ўбачыў, вяртаецца назад. Спыняецца каля хлопца, глядзіць на яго твар, потым нагінаецца, бярэ за вуха, трэ яго. Хлопец

спрасоння адмахваецца рукой, б'е па руцэ міліцыянера. Твар таго набракае чырванню. Хватае пяцернёй за валасы хлапца, тармосіць. Той крыху прачынаецца, б'е па руках міліцыянеру, вырываецца. Міліцыянер выходзіць з сябе. Хватае яго за плячук, штурхае, той чуць не падае, нагінаецца, падхоплівае шапку.

– А ну пайшлі на выхад, а то яшчэ палкі палучыш. Іч ты яго, адбіваецца.

Павёў...

Цётка ў плюшаўцы, пад якую пададзеты пінжак, нясе завязаны ў хустку невялікі вянок: на драцяным каркасе вялікія, як у фікуса зялёныя бляшаныя лісты. У другой руцэ – сетка з баранкамі. Відаць, цётка прыязджала ў горад, можа купіць што. Баранкі – дзецям, вянок – на магілу, па ўсяму – на свежую.

На лаўцы спіць дзядзька, выцягнуўшыся на ўсю яе даўжыню. Адной нагі няма вышэй калена. Адразу і не заўважыў бы, калі б не яе замена – разбэрсаны, расперазаны пратэз, які, таксама даўгі, ляжыць на падлозе. З калашыны вытыркаецца нежывая прамая нага. Страшэнна нежывы жоўты колер добра вырабленай свіной скуры рэжа вочы.

Тут жа валяецца і мыліца – з чорным гумавым наканечнікам.

Учора каля катка на Цэнтральнай плошчы зарэзалі сувораўца. Нейкі падонак (17) год напіўся і паспрачаўся з сабутыльнікамі, што зарэжа першага сустрэчнага. Гэтым сустрэчным быў суворавец.

Праз дзве гадзіны ён памёр.

*4 лютага 1967.*

Прыйдзе Барыс – за саху бярысь,
Прыйдзе Мікола – не пытайся ні ў кога.
Бяры сявеньку,
Сей памаленьку.

Да Міколы няма ні зімы, ні лета.
Два Юр'і – абодва дурні,
Адзін галодны, другі халодны.

Дарога трохі закрамянела.

*5 лютага 1967.* Ехаў дамоў. Да Несяты, як заўсёды, даехаў проста: сеў у Мінску, вылез у Несяце. На дварэ – сырасць. Золасць, чорная вада непрыемна паблісквае пад нагамі. Ніхто не сустракае. Як хацелася б, каб быў хто-небудзь знаёмы. Наперадзе 12 км – і якой дарогі! Яна дае сябе знаць з першых жа метраў: каля ўваходу ў лес першы раз улажу ў ваду: прыняў яе за зямлю. Праўда, у чаравікі не набраў – хуценька выскачыў. Глядзіш пад ногі: справа і злева снег – у пояс, прама – вада, пасярод яе – шэрая палоска, мешаніна з размяклага снегу. За Турцом чуць не ўсунуўся ў раку. Ішоў па слядах. Нехта ішоў. Ля ракі шамнуў у снег. Зямлі не дастаў, а ўскочыў па пояс. Неяк выграбся. Журчыць, пераліваецца вада ў рэчцы. Чорная, што дзёгаць. Палю запалкі, шукаю пераход. Іду за нечымі слядамі, шчупаю нагою снег. Пакуль што трымае. Ля ракі (яна ўся зацягнута снегам) зноў дастаю запалкі. Палю, адну, другую, трэцюю. І тады заўважаю, што снег трымаецца толькі зверху. Знізу яго з'ела сырасць і вада, і ён як арка звязвае два берагі. Унізе – чорная нара, на дне якой журчыць вада. Яшчэ адзін крок – і я паплыў бы. Давялося б бегчы ў Турэц.

Іду на другі бок дарогі. Там снег як быццам шчыльнейшы. Нечые сляды вядуць

цераз раку. Па снезе. Мацаю нагой. Цвёрда. Далей – дзержыць. Апошнія два метры перапаўзаю на жываце. Чую, як пада мной, пад снегам, журчыць вада. Перапоўз! Ура!

Ну што ж, цяпер у дарогу. Лес, цёмна. Шэрае неба. Дзе-нідзе, як праз сіта, праблісквають зоркі. Не дарога, а брод. Самы звычайны – з чорнай, страшнай вадой. Тут хадзілі машыны, трактары, снег змясілі да вады. Іду па броўцы: грабяню, снегу, што ляжыць абапал дарогі. Крок управа – правальваешся. Снег па пояс, а то і больш. Крок улева – вада. У правым чаравіку ўжо хлюпае.

Чорт яго, такі даўгі лес. Калі ён скончыцца! Можа на полі лепшая дарога будзе. Кожны крок – асцярожнасць. Спачатку памацаю, прашчупаю, тады стаўлю нагу.

Нарэшце святлее. Здаецца выйшаў на развілку – Дулебня–Максімавічы. Так і ёсць. Але радасці няма.

Наперадзе цёмна-сіняе поле (праглядаюць гарбы баразён) і вялікае чорнае возера. Трактары і машыны папрацавалі тут спраўна. На шырыню 50 метраў вада, непрыемна-тусклая. Спрабую абыйсці па полю. Снег правальваецца, пад снегам – вада. Цяпер можна быць спакойным – вада ёсць у абодвух чаравіках.

А наперадзе – 11 кіламетраў. Блішчаць, жоўта міргаюць агні Дулебні. Здаецца, яны зусім побач.

Знайшоў нейкі хрыбет – бульдозеры ссоўвалі зімой снег. Прабіраюся па ім, шукаючы раўнавагу, баючыся зрабіць крок управа – снег, а пад ім – вада, крок улева – вада са снегам.

Пачынаю нядобрым словам успамінаць радзіму сваю. 4 гадзіны язды ад сталіцы – кіламетр ад чыгункі – і тапіся. Ні праехаць, ні прайсці.

Вось і Дулебня. Але і яна не радуе. На вуліцы такая ж каламута. Ні дарогі, ні сцежкі. Цікава, як ухітраюцца хадзіць людзі? Ці ўвесь час сядзяць дома.

Тут лягчэй – свецяць ліхтары, можна знаць наперад, што ставіш нагу ў ваду, падрыхтаваць сябе псіхалагічна.

Шмат снегу. Гурбы паперамяталі сяло. Некаторыя вышэй платоў.

У канцы сяла напіўся вады – дастаў з калодзежа: халодная, але пахне ўжо расталым снегам.

За сялом зноў возера – страшнае і шырынёй і чарнатой. Нейкі цемнаваты след вядзе налева – да дарогі, што ідзе паўз сяло. Іду па ім. Правальваюся – раз, другі, трэці... Бягу, толькі пырскі шлёпаюць па полах паліто. Бягу па вадзе. Выбягаю на дарогу – прайшоў бульдозер і рассунуў снег. Вады няма тут.

Бягу ўжо і па гэтай дарозе – баюся за ногі. Наперадзе яшчэ 8 кіламетраў.

Шмат не прабяжыш. Задыхаешся.

– Спакойна, Анатоль Паўлавіч, спакойна. Не спяшыце, а то ўжо пачалі спатыкацца. Спакойна.

Трохі супакойваюся. Не, ногі не мерзнуць. І макрата не вельмі непрыемная.

Злева зачарнелі могілкі. Гэта добра. Яны стаяць на паўдарозе да Вожава. Добра, што паўз дарогу слупы стаяць. Відаць, што паўзеш якраз туды, куды трэба. Звіняць правады. Чаго? Здаецца і ветру ж няма.

Пачынае надаядаць торба. Не цяжкая, а на плячы не трымаецца, перакатвае з аднаго на другое. Цікава, чаму гэта дарога пайшла ўлева? Вунь і камяні справа – з-пад фундамента. А, пайшла ў аб'езд кругом сяла. Абмінае Вожаў. Трэба ісці праз сяло. Хто яе ведае, куды выведзе тая, аб'яздная. Тут недалёка, метраў 50.

Вот табе і 50 метраў. Першы крок – і па пояс у снег. Другі – тое ж самае. А зямлі пад нагамі не чуваць. Не хочацца і вылазіць. Вось так і сядзеў бы. Яшчэ два крокі, тут цвярдзей. Па версе трымае. Яшчэ трымаеш мяне.

Усхадзіўся сабака ў крайнім двары. Запалілася святло. Неяк весялей стала. Ну, яшчэ крок, яшчэ. Добра, што плот блізка. Іду паўз яго. Калі правальваюся, хапаюся за частаколіну – яна не пускае апускацца да дна. Калі дастаю яго – снег па пахі.

Ура!.. Выбраўся ў сяло. Тут ёсць цвёрдая чорная сцежка. Яна пятляе ад двара

да двара. Сцежка вядзе ўгору. Здаецца ж тут не было ніколі такіх высокіх пагоркаў... Нарэшце вяршыня. Лявей мяне, ступіць два крокі – хата. На нейкі метр вышэй дарогі. Дык вось яно што – гэта такая высокая гурба снегу! Наперадзе чорная дарога. Яна ідзе над платамі. Смела крочу наперад – і раптам правальваюся некуды. Не правальваюся – лячу. Ногі пайшлі наперад – цяпер еду на спіне. Аказваецца – гурба скончылася. Я спусціўся на зямлю. Праз некалькі крокаў зноў узбіраюся ўгору. Цяпер я буду мудрэйшы. Пільнуюся, калі ж пачнецца спуск. Зноў угору, зноў уніз... Яблынь у садах не відаць – толькі адны макаўкі.

З Вожава вядзе сцежка да магазіна. Не хочуць слухацца ногі. Дрыжаць і едуць у бакі. Два разы спатыкнуўся і зарыў носам. Спакойна, Анатоль Паўлавіч! Наперадзе яшчэ тры кіламетры. Каля сёмай брыгады тое ж, што і ля Вожава: дарога пайшла ў аб'езд. Трэба ісці ў сяло. Снег па пояс, пад снегам нешта халоднае і мокрае. Праўда, яго я не баюся. Вот толькі б дабрацца да цвёрдай дарогі. Здаецца, зноў паляцеў. І рукі ў вадзе. Смех ды й годзе. Трэба выбірацца. Цікава, чакае мама ці не. Мусіць, не. Які дурань па такой пагодзе будзе паўсці. Ды яшчэ ноччу.

Маўчаць ліпы... І сабакі маўчаць. То правядуць заўсёды, а гэта хоць бы цяўкнуў каторы...

Елачкі. Уладзеў сад. Напрамую не пайду, там мокра. Смешна, але цяпер, ля дома, спалохаўся памачыць ногі. Мама не стала пытаць, хто стукае ў вакно: пабегла адчыняць...

Хвядос і Марфа

Калі не паталаніць у жыцці, дык з самага пачатку.

Нездарма назвалі Легіён. (Заброцкі).

А твар вот такенны – няйначай пчолы пакусалі.

Жанчына доўга жыла на Украіне. Прывыкла, падабаецца ёй там, але... Хацелася б прайсці па росным лузе ранічкай, каб сукенка ўся ўрасілася і прыліпла да ног.

А яшчэ сесці на бераг рэчкі і спусціць ногі ў халодную ваду, каб яна абмывала ногі (тут вада гарачая).

І з'есці антонаўку – халодную, з расой, крамяную, каб аж зубы зайшліся.

Аказваецца, яна нарадзілася і вырасла ў Беларусі, у лесе – з рэчкай, садам.

*11 сакавіка 1967*. Р-н Г. Мар'ясава "Пусть знают сыновья". Стр. 187

"...Снаряд тихонько подкрался с вражеской стороны, ничем не выдал себя, пока не ахнул взрывом в двадцати, не больше, метрах от того пригорка, на котором сидели солдаты".

*16 сакавіка 1967*. Бачыў Шылаву Л. Сустрэў у бел. аддзеле.

Пагаварылі. Цяжка з ёй гаварыць. Ныццё. Можна зразумець: ні сям'і, ні работы. Прарываецца злосць старой дзевы.

Забараніла плямянніцы (1 год) заходзіць да яе ў пакой. (Чэшскі гарнітур). Брату і братавай – глядзець тэлевізар. "Тут не просмотровый зал".

Баліць печань. Хачу патлусецець. Твар стаў худзейшым, сталі азначацца косці пад скурай. Колер скуры не зусім здаровы – ружовая жаўцізна. Ці гэта печань можа?

Нялёгка даецца дарога ў навуку.

Ніколі я не выйду замуж. Страшна ўжо баюся замужжа.

Учора расказалі цудоўны анекдот.

Прывезлі ў вар'ятню новага кліента. Ходзіць ад сцяны да вакна па пакоі і паўтарае... сорак шэсць, 46... 46...

Зайшоў дырэктар дома. Гэты спыніўся ля вакна, пазірае туды... 46... 46... Дырэктар з-за пляча рашыў паглядзець: што ж ён убачыў... Толькі высунуў галаву, той схапіў яго за руку і праз вакно выкінуў на вуліцу. А вакно – на пятым паверсе.

Пацыент зноў пачаў хадзіць па пакоі... Сорак сем... 47... 47...

*20 сакавіка 1967.* Мне ўсё часцей і часцей здаецца, што я ў нейкай даўгатэрміновай камандзіроўцы. Кожны вечар кладуся спаць са страхам не праспаць заўтра, “выканаць заданне” і г. д. Адчуванне гэтага страху не пакідае нават у ночы, у час сну...

*22 сакавіка 1967.* Як лунка на рацэ, забялеўся прасвет сярод хмар – там, дзе павінна быць сонца, – і зноў схаваўся, заплыў, закрыты хуткай шэрымі, халоднымі хмарамі.

Учора сніўся вельмі прыгожы горад – Мазыр. Невысокія старыя дамы з чырвонай цэглы, пакрытай зялёна-жоўтымі варсінкамі шматвекавога моху. Чарапічныя, вострыя дахі. Нешта заходняе, нямецкае і разам з тым наша, роднае. І радасць ад знаёмства з гэтай прыгажосцю, як быццам прычасціўся да нечага таемна-невядомага.

*25 сакавіка 1967.*

Вецер хвалі ўперад гоне, вербы гне.
Ходзяць спутаныя коні ў тумане.
Буланыя мае коні
капытамі ціха звоняць
ў сэрца мне.

**Л. Геніюш**

Будуць доўга калісьці работаць сыны
ў бяспеччы сваіх кабінетаў
варушыць неспакойныя сны
на крыжы распінаных паэтаў.

**Л. Геніюш, 1942 г.**

*22 снежня 1967.* Мароз – 20-22, снег, дрэвы ў рудаватым полымі. Прыходзілі Герман і Мік. Цімафеевіч. Мастак з завода халадзільнікаў – нізкі, з вялікім лысым ілбом, цёмна-карыя да чарнаты вочы за акулярамі. Тонкая жылістая шыя адкрытая шырокім каўнярам простай рубашкі.

Ён сказаў:

– Бывае, працуеш, як Чорт, дзень і ноч, і потым вычхаўся, не хапіла сілы. Бачыш, трэба адпачыць, перадыхнуць. І тады цябе ўбачаць і гавораць:

– Бачыш, ён не робіць нічога. Ты чаму нічога не робіш. І ўсё: як адсякаюць рукі і ногі па швах, па самыя плечы. І нічога не хочацца рабіць. Гэта як чарвяк – залезе ў нутро і ўсё пераверне.

Мік. Цім. – 18 год працаваў у арміі, у грамадзянскай абароне. Увесь час гаварылі, смяяліся:

– Дык што ты хочаш? Ты ж не мастак? Куры смяяцца будуць.

І ён паверыў. 18 год пісаў лозунгі. І потым пайшоў на завод. За месца 65-70 р. Стаў атрымліваць 110 р. І ўсе ўбачылі, што гэта мастак. Любіць рэз. Ехала дэлег. з завода халадз. у Францыю.

– Цімафеевіч, ці можаш выручыць.

Сядзеў цэлую ноч, і пад раніцу быў гатовы зубр. Той, які і патрэбен быў.

Прыходзька спытаў:

А. Ц. Б. Загадаў перадрукаваць пяць вершаў А. Вярцінскага, якія аўтар і рэдактар вырашылі зняць з-за іх вастраты, і даць яму. Для чаго?

Р. Барадулін аддрукаваў на машынцы: “Уладзіслаў Іосіфавіч! Завошта Вы зарэзалі паэта Міколу Міцкевіча?”

Прыйшоў генерал Аляксееў.

– Мікалай!.. Арганізуйце мне старшага лейтэнанта! Кляўко старшы лейтэнант, і я ўсяго лейтэнант.

*19 лютага 1968.* Жыццёвыя несуразіцы могуць на нішто звесці любую геніяльнасць. Кладуся ў пасцель да жонкі (у мяне вывіхнута левая нага ў ступні): "Можаш ты нарэшце пакінуць мяне ў спакоі! Дасі спаць!" (Спіце на здароўе!)

Дзіўнае становішча: быццам я не дома, а недзе на кватэры і мяне ў любы час могуць калі не выгнаць, то ветліва папрасіць... І быццам я не бацька сваёй дачкі, быццам я вінаваты ім – дачцы і яе маці нешта...

Можа і праўда я ім нешта вінаваты... Тады што?

Здаецца, я ўжо і пасуду мыю, і не ўмешваюся ў іхнюю кармёжку...

Трэба панапісваць пісьмы.

*7 сакавіка 1968.* Смеласць сама па сабе – нішто, пустое слова, смеласць мае значэнне ў злучэнні з канкрэтным чалавекам і канкрэтнымі абставінамі.

Калі ў чалавека няма шчасця, ён выдумляе яго, калі ў чалавека няма кахання, – ён выдумляе яго. Як ні дзіўна – часта чалавек з выдуманым шчасцем і каханнем бывае нашмат шчаслівейшы, чым чалавек з рэальным шчасцем, каханнем.

*13 сакавіка 1968.* Афарызмы Веры. Яна ўступае ў пару творчасці – прыдумляе новыя словы, сказы, песні, у якіх ёсць рытміка, мелодыя і ні аднаго знаёмага слова – усё прыдуманыя на хаду злучэнні гукаў.

*14 сакавіка 1968.* "У горле нешта цвёрда". (Кашляе і не можа пракашляцца).

"Чуеш, як маё сэрца "цік-цік-цік""? – і паказвае на правы бок.

*5 ліпеня 1968.* Дурацкі стан. Пустата. Расліннасць. Бязважкасць. Хаджу на работу, працую, раблю дома ўсё са страшэнным спакоем, раўнадушшам. Быццам гэта раблю не я, а нехта другі, быццам гэта датычыцца не мяне, а некага другога. Страшэнны спакой і абыякавасць. З такім спакоем можна забіваць і ісці на смерць. І нічога і нікога не шкада. Ні сябе, ні другіх. Люба хварэе, а ў мяне няма жалю да яе, як і да сябе, і да другіх.

Хутчэй злосць – на сябе, і на яе, і на ўвесь свет. Што гэта такое? Канец любові? Хто яго ведае. Канец веры ў самога сябе? Здаецца, не.

Ад незадаволенасці жыццём, і асабістым асабліва. Мы часта вельмі недаацэньваем асабістае шчасце, сямейнае шчасце. Яно можа быць мала прыкметным пры ўдзячных умовах, але асабліва кідаецца ў вочы, калі ёсць непаладкі ў жыцці акружаючых і саміх віноўнікаў.

*14 ліпеня 1968.* Жаласць – вельмі страшная рэч. Страшная для тых, хто жалее, і для тых, каго жалеюць.

Не хачу жаласці!

А куды самому дзецца? Куды? Некалі думаў, што ёсць бераг – сям'я. Цяпер берагу – няма. Ёсць дачка, і яшчэ...

Ёсць яшчэ літаратура. Дай, божа, каб яна забрала ўсяго. Не забярэ. Літаратуры трэба галава і сэрца. А цела?

*21 ліпеня 1968.* Достоевский, дневник.

"И стоит ли расковывать теперь мечи на орала? Теперешний мир всегда и везде хуже войны, до того хуже, что даже безнравственно становится под конец его поддерживать: нечего ценить, совсем нечего сохранять, совестно и пошло

сохранять. Богатство, грубость наслаждений порождают лень, а лень порождает рабов. Чтоб удержать рабов в рабском состоянии, надо отнять от них свободную волю и возможность просвещения”. (156)

*1 верасня 1968.* Вера:
– Мама, можна я ўстану Люду.
Вера:
– Мама, я абапёрлася табе на жывоцік.
– Не трэба. Там жа ты хлопчыка (брацiка) задушыш.
– Не, не задушу. Ён ужо не ў жывоцiку.
– А дзе ж ён?
– Катаецца на тралейбусiку во тут. (Паказвае ад грудзей да пятак.)
Вера:
– Мама, а яго ўжо няма ў жывоцiку. Ён выйшаў. I я яму буду сястрычка.
– Мы былi на вулiцы i зрабiлi паварöцiк.
– Якi паварöцiк?
– Iшлi i туды i назад.
– А я без чулках i без насках.

*18 верасня 1968.* Тры хвiлiны сустрэчы.
На аўтобусным вакзале сустрэўся з Эдзiкам Смольскiм. Ён такi ж рухавы, вясёлы, як i некалi, такi ж тонкi, шчуплы, паголены – нiбы прасветлены. Свецiцца наскрозь.
Першыя пытаннi, першыя адказы. Дыялог.
– Што новага?
– Нiчога. Выдаў кнiжку, прыняты ў Саюз.
–А што там у вас у Саюзе, плацяць што?..
–...
– Ну, якiя-небудзь выгады ён дае.
–...
– А за кнiжку многа атрымаў...
– Ды так, рублёў 600-700.
– Ну, нiчога...
Праз некалькi хвiлiн сустрэлi Лiдзiю. Яна таксама ўсё такая ж, белая, да хваравiтасцi, бесцялесная, бясстрасная. Пытаецца ў Эдзiка:
– Дзе ты цяпер?
– Iду ў ВНIIТУ.
– Кiм?
– Заг. адзела.
– Колькi табе паклалi?
– Сто семдзесят...
– Нiчога...
У вёсцы Яўладавiчы, заехалi да ўдавы, муж-жывёлавод толькi што памёр.
Жонка сустракае прычытаннямi:
– Ой, старшыня, старшыня... А як жа ён чакаў цябе... I Леус да цябе прыйшоў. А ты ляжыш, маўчыш...
Старшыня крануў за плячук. Яна адразу перастала: як i не плакала.

У магазiне:
– Дайце паўлiтра i дзесяць пачак “нишчего в горах”.
Прадаўшчыца дае яму гарэлку i 10 пачак “Памiру”.

*3 кастрычніка 1968.* Вера (прачнуўшыся):
– Папа, а мае рэбяцёначкі танцавалі...
– Якія рэбяцёначкі?
– Ну, кукалкі. Каблучкамі. Стук-стук-стук. (Відаць, сніла сваіх кукалак).

У панядзелак, 30 верасня, сустрэў на прыступках лесвіцы Няхамкіна. Прывітаўся.
– А, Толя, хачу ўзрадаваць. Учора слухаў радыё, выпадкова наткнуўся на Мюнхен. Станкевіч вельмі хваліў твае апавяданні...
Па ўсяму відаць, што Няхамкін і сапраўды “радыё“, што Станкевіч “хваліў” апавяданні А. Кудраўца.
Потым сустрэў Замскага. Той таксама рады. Смяецца.
– Дык чуў: цябе хвалілі.
– Чуў, чуў...

*18 кастрычніка 1968.* Вера доўга хварэе. Прывыкла да хвароб.
– Папа, я буду гуляць у бальніцу.
–...
– Папа, я Ваню налячыла, а цяпер буду лячыць Іначку.

Вечарам прыйшла Рая Патапава. У сям’і – непаладкі. Ігар тыдзень п’е, завёў баб, б’е жонку. Прыйдзе п’яны, і калі нельга біць жонку ці хоць крычаць на яе – б’е ката. Бярэ за шыю і душыць. У таго аж вочы лезуць на лоб. Потым гадзіны дзве не можа адчыхацца.
Вальку выгнала жонка.
Юля нарадзіла сына.

*21 кастрычніка 1968.* “Раданіца”.
1. Брыгадзір напіўся – чаму не хочаш падкаціцца да маёй жонкі.
2. Гарадскі – быў Іванька, а цяпер – Паўлавіч.

– Бацька памёр?
Радасна: – Га-а-тоў!

Ідзе бацька касіць з сынамі. Бацька пераскочыў канаву.
Першы сын:
– Бачыш, бацька наш лёгкі, як сабака.
Другі:
– Ці ж можна так гаварыць пра бацьку. Пераскочыў – і х. з ім.

Прыйшоў Рыгор Барадулін. Прачытаў дзве эпіграмы:

Пераліцоўваю старызну
і ў друк нясу –
Ладысь Карызна.

І самаэпіграму:

Не хацелась паміраць
Буржуям нямецкім,
Але тут пачаў страляць
Камандзір савецкі.

Словы і музыка Карызны.

*2 лістапада 1968.* Дырэктару вялікага завода, выступаючы перад залай, замест слова ахінея – ахунея.

Ехалі з Зялёнага ў Мінск. На 15 км ад Мінска – аварыя. Стаіць на ўзбочыне газік "аварыйны", правыя колы збіты, правы буфер сплюшчаны, сорваны дзверцы.

На шашы, упоперак – забіты чалавек, ногі крыж-накрыж, у ботах, камбінезоне, твар пакрыты мяшком, відаць толькі жоўтая, як разрэзаная бульбіна, рука, лужына крыві пад галавой, другая лужына крыві – яркай бурачневай далей ад шашы.

Метрах у дваццаці ўпоперак шашы дагары коламі "МАЗ", перакулены прычэп – ён вёз пясок...

Рыгор Барадулін расказаў цікавы эпізод.

Стары інтэлігент, год васьмідзесяці, худы, высокі, строга, з іголачкі, апрануты, з белым чыстым тварам, любіць выпіць – не дома, не адзін, абавязкова ў рэстаране. Любіць "рассуждаць" пра 20-я, 30-гады, пра ўздым тых гадоў...

Пайшоў у рэстаран, напіўся і, спускаючыся з другога паверха, спаткнуўся на прыступках, паляцеў. Пабіўся моцна – выбіў зубы, зламаў пяць рэбраў...

Калі спыталі адрас – назваў свой, стары, даваенны... (дваццацігадовай даўнасці).

*26 лістапада 1968.* Як клянуць разбойнікі-вуркаганы:

"І век цябе будуць кляваць вароны, і ніколі ты не ўбачыш на сабе сокала яснага".

*11 снежня 1968.*

– Верачка, званіў папа, прывет табе перадаваў.

Вочы заблішчэлі, узрадавалася:

– Мама, ідзём скарэй. А што ў тым прывеце?

*23 снежня 1968.* З гаворкі мамы.

Хай пасадзіць сярод вуліцы, і праз два гады прыедзе, яна сядзець будзе, ніхто яе не возьме.

Такога зяця я і з гразі зляплю.

Максім век скача цераз качаргу, Гарошка скакаў.

А ўчора дарогу трохі абабілі, пайшлі аўтобусы.

Абабіўся трохі ў людзях.

Крылле абабілі, прыціх.

Мяллян Мяккі – куды хочаш, туды і вернецца.

Будуць папікаць, сячы па вачах.

Цапу – лапу як на калена.

Так насталі ўжо, дык скарагодзяць (жэняць).

Які ж у цябе рэсурс ёсць, каб жаніцца, каб жыць.

Вера спякла птушачку з цеста. Шкадавала з'есці яе. Усё ж не ўтрывала, з'ела.

– Мама, ты не шкадуй птушачкі. Яна паляцела ў цёплыя краі (паказвае на жывот). Там сонца. А як стане цёпла, прыляціць назад.

*26 снежня 1968.* З гаворкі мамінай.

– Абначаваўся.

– Як завінулася мяцеліца.

– Такая замець, ні следу, пахраснік замяло.

– Хто зарве, дык і цягне.

– Спадніца лубам узялася, не магу ногі змянець, усё залубянела.

– Кажу: кладзі печку як можна.

– Нехта крычаў (галасіў) у лесе – шукаць хадзілі.

– Яшчэ б гоні – не дайшла б.
– Горка без гарэлкі.
– Завалей.
– Пра Івана: “Жаўтушка пайшла. Доктар кажа не выжыве. А выжыў. Доктар даўно косці жарыць – памёр (утапіўся), а ён жыве”.
– Разак-разак быў, у Клічаў зайшла, лапці і злезлі, хоць ты босая ідзі назад.
– Я як за ветачку – туды, у бальніцу.
– Звергла карова, цялё дасталі, а места не выйшла. Год гніло... і карову звяло. Думала, ад шалупаек, нашкодзіла.
– Пра Івана: за ножку кранеш – чуствуе, а так – шкілет жывы, гатовы...

*28 снежня 1968.* (Люб. Зах.)
– Мама, а завтра мой садик работает?
– Нет.
– А твоя работа работает?
– Нет.
– А папина?

*22 студзеня 1969.* (Люб. Зах.)
Вера забинтовала Мишке лапу:
– Мама, посмотри, какая у него хромая рука.

*7 лютага 1969.* Люб. Зах.)
– Уже 7 часов, а папы что-то нет. И Людмила Викторовна не идёт.
Вера: – Мама, а ты хочешь с кем-нибудь поговорить? Так поговори со мной!

*16 лютага 1969.* Па дарозе з Асіповіч у Мінск.
– Старыя сквапныя.
– Сэрца ўзарваў лякарствамі.
– Цяпер жыццё ідзе быстра...
– Кожнаму году ёсць свая сабыція...
Вера: – Я тваю звука не хачу слухаць каб ты мне не мяшаў будаваць.

*17 лютага 1969.*
Вера: – Папа, а ведаеш, чаму снег рыпіць?
– Не.
– Таму, што сняжынкі ламаюцца.
– Дай мне кашаладку.

*19 лютага 1969.* Тэзісы нясказанай прамовы.
Мы любім гаварыць. Мы любім гаварыць шмат. Мы любім станавіцца ў позы абаронцаў дабрачыннасці і права. “Не будь тебя, как не впасть в отчаянне...” Мы любім паказваць сябе Дон Кіхотамі. Калі перад намі ўяўныя ветраныя млыны. А як толькі падуе вецер уласніцтва – куды што дзяецца. Дзе тая маска? Дзе што? Тады атрымліваецца, што ў чалавека, у якога тры законныя сямейныя душы, – іх пяць. Пяць. Ён, яна, яно. Плюс служанка, плюс маці. (Яна, між іншым, не разводзілася са сваім мужам, з якім пражыла... год).
Тады... Калі “агульнанародныя” інтарэсы падпадаюць пад праверачны прэс інтарэсаў увогуле. Калі прымешваюцца “свае” інтарэсы, тады можна на ўсё напляваць. Тады “Я” вырастае да велічыні зямнога шара. Калі не я, то хто? Хто? Тады можна змагацца нават за тое, каб адсяліць ад сябе 85-гадовую паралізаваную маці. Чаму? Яна не дае магчымасці тварыць. Тварыць у імя чалавецтва... У імя

народа. Народ усё возьме. Народ усё вывезе. Усё. Ён і вывозіў, і вывозіць. Ён робіць тое, што трэба. Ён сее хлеб і корміць нас. І не толькі нас. Ён плодзіць і гадуе дзяцей. Нас гадуе. Народ – гэта аснова. Мы гэта ведаем, хоць часта і забываемся пра гэта. Народ – і заслона. Ён заслоніць, калі трэба, загародзіць. Але мы часта карыстаемся паняццем народ, як паняццем "заслона", *за*сланка. Нам трэба засланіцца. Засланіцца ад каго і ад чаго? Ад сябе і ад людзей. Чым засланіцца? Народам. Народ не пацерпіць. Народ не пойдзе. Народ...

Там, дзе трэба вырваць сабе кавалак, мы забываемся пра народ. Мы забываемся пра ўсё. Мы тады вінавата аціраемся па кутках Саюза, баючыся спаткацца вачамі з кім-небудзь. Як пабіты сабака. Хто парасё ўкраў, у таго ў вушах вісчыць. Нават, калі хто надумаў украсці, у яго вісчыць.

Галоўнае ўзяць. А потым усё стане на месца. Потым усе будуць здароўкацца. Будуць усміхацца, нават шыю гнуць. А як жа. Яны ж будуць сваіх дзяцей праводзіць ва ўніверсітэт. А дзе яны дзенуцца... Хай паспрабуюць. Я яму пакажу народнага! Усё стане на месца... Вось тут я і падышоў да маралі. Я лічу, што гэта дзіка, што за нейкую адну кватэру (няхай і двухпакаёвую) б'юцца ілбамі некалькі пісьменнікаў. Дзіка. Лічу дзікім той факт, што работа пісьменнікаў ацэніваецца ў некалькі, калі не ў некалькі дзясяткаў разоў дзешавей работы мастакоў. У мяне ёсць прыклады...

Але разам з тым я хачу сказаць пра маральнае аблічча пісьменніка. Маральнае. Калі ён плюе на ўсё, каб атрымаць некалькі кв. м. (без якіх ён можа і абысціся пакуль што), то які ён пісьменнік. Які ён народны? Народны – за кошт народа? Ці ў імя народа? Дык што значыць яго народнасць? А можа гэта нешта другое? А? Мне здаецца, што мы часта няправільна ставім пытанне: ён служыў народу. Не народу – сабе служыў. Сабе – з народам.

Вось тут маральны корань пісьменніцтва. Тут. Там, дзе нельга пісьменніка адрозніць ад прыжывалы, ад нахлебніка, там не будзе літаратуры. Не будзе.

Сёння ў мяне нарадзіўся сын. І ўсё спакойна. Апрача некалькіх хвілін у раддоме, калі даведаўся, што ў мяне ёсць сын. А так спакойна. Быццам гэта ўжо даўняя, агульнавядомая рэч. Рэч... Не падзея. Верыцца, але яшчэ не асязаецца. Млявая пустата ў жываце і няяснасць у сэрцы. Добра, што сын (а не дзеўка) і больш нічога. Хіба толькі страх. Як і куды прывязу. Як ужывуцца ў адным пакоі – Вера і ён. Думаю, што ён будзе з характарам. Адным словам, 19-га ў 0.20 з'явіўся Павел Кудраўчык. Жыве!

*23 лютага 1969.*
Вера: – Мама наша раскудраная (растрапаная).
– Цёця Фаня, а чаму ў Вас так многа хлопцаў?
– Колькі многа.
– Цэлы дзіван.

*2 сакавіка 1969.* Капалі магілу чалавеку, яўрэю, які некалі быў бухгалтарам выдавецтва, Пеймеру – маленькаму, сухому, і зморшчанаму, але калі выносілі яго з кватэры (яна была на першым паверсе), труна не праходзіла на лесвічнай пляцоўцы, і яго, як якое бясформенае мяса, паклалі на прасціну, а потым, у пад'ездзе паклалі ў труну. Дык тры хлопцы – адзін малады, у сіне-белым буйной вязкі світэры, два другія – пажылыя, год пад 45-50, капалі магілу. І нас (Р. Барадулін) здзівіла, што лом, якім дзяўблі зямлю, блішчыць, як сточаны парог.

І падумалася: гэта таму, што ён увесь час у рабоце. І смерць – гэта таксама работа. Бо на спіне ў юнака ў світэры выступіў пот, яна пацямнела і іскрыста блішчэла на халодных промнях сонца.

Смерць – работа. Яна забірае гэтага маленькага сухога чалавека – кажуць, ён

заўсёды пазычаў людзям грошы – значыць робіць сваю работу. Якую – добрую ці дрэнную? Вызваляе, расчышчае месца... А для чаго, для каго? Для добрага ці для дрэннага? І гэта работа трэба. Трэба.

*6 сакавіка 1969.*
Вера: – Мама, дай салодзенькай вадзічкі. Мне слюна горкая папалася.

*7 сакавіка 1969.*
Вера: – Мама, а калі ўсе не ўстануць, дык раніцы не будзе?

*13 сакавіка 1969.* І тады яму здавалася, што чай пахне венікамі – напаранымі ў гарачай вадзе, бярозавымі венікамі.

*12.03.2001.* Ніколі не ведаеш, якая сустрэча чакае цябе наперадзе...

Ехаў з Вячы самым раннім аўтобусам нейкім, відаць, не рэйсавым. У раёне вуліцы Валгаградскай апынуўся ў сем трыццаць. Іду па правым баку вуліцы, па тратуары. На плячы дарожная торба – чорная, з мноствам кішэняў, на шырокім рамяні. З ёй я ўжо паўдзясятка гадоў езджу ў дарогу: яна пакаўная і даволі прыстойная. Некалі я купіў яе ў Берліне, на Курфюрстэндам, у адным з шыкоўных супермаркетаў, і вось ужо колькі гадоў яна спраўна мне служыць.

Дзень выходны, нядзеля, чацвёрты дзень жаночых святаў. На тратуары бязлюдна, на праезнай частцы – безмашынна, ні аўтобусаў, ні тралейбусаў. Чацвёрты дзень святаў, усе стаміліся.

У раёне кінастудыі пачуў ціхі шум машыны ззаду. Чамусьці рашыў, што гэта міліцэйская машына, толькі яна магла ехаць так ціха, нібы крадучыся, ці спяшацца няма куды.

Не азіраюся, іду сваёй дарогай. Машына набліжаецца, раздаецца асцярожны сігнал клаксона: “Пі-пі!”

Я яго “не пачуў”, іду далей. Сапраўды міліцэйскі “газік”, пераганяе мяне, спыняецца ля бардзюра, з машыны выходзяць двое ў міліцэйскай форме, перасякаюць травяную лінію – ка мне, рукі пад казырок.

Кажу “Добры дзень!” Адзін маладзейшы, сяржант, другі старэйшы, старшы лейтэнант. Гаворыць сяржант, старшы лейтэнант маўчыць, быццам яго ўсё гэта мала ці зусім не цікавіць.

– Что у вас в сумке?

Здымаю торбу з пляча, стаўлю на асфальт:

– А што вы хачаце ў ёй знайсці?

– Может там оружие...

– Хацеў бы мець, ды не ведаю, дзе ўзяць...

– Вот как... – пераглянуліся між сабой. Старшы лейтэнант працягвае маўчаць.

– Праверце, – паказваю вачыма на торбу.

– Это ваша сумка?

– Мая.

– Вы и открывайте.

– Я ведаю, што там, а вам трэба, вы і адкрывайце.

Сяржант нахіляецца над торбай, бярэцца за язычок замка, ён не хоча ісці, не паддаецца. У маёй торбе дзве “маланкі”, адна разышлася даўно, і я, каб не мяняць яе, сшыў: хопіць другой. Сяржант спрабаваў адкрыць якраз тую, зашытую.

– Не гэтую, другую, – я паказаў на спраўную “маланку”. Сяржант пацягнуў за язычок, замок лёгка разышоўся, і чорныя бакі торбы шырока разышліся ўбакі, адкрыўшы тое, што было ў ёй.

Дома якраз скончылася бульба, і, збіраючыся з дачы, я кіло з пяць насыпаў у

цэлафанавы мяшочак і паставіў у торбу. Здаецца, і завязваў мяшочак, але, відаць, слаба, завязка за дарогу разышлася і частка бульбы высыпалася, проста ў торбу, і цяпер прыгожыя адборныя клубні нявіннай горкай свяцілі ў вочы міліцэйскаму патрулю. А наверсе на гэтай горцы дзве кніжкі чатырохтомнага збору твораў Васіля Быкава, выдадзенага ў 1980-82 гадах. Светла-шакаладны балакрон вокладкі, размашысты подпіс-загаловак: Волатам: "Васіль Быкаў"...

Некалькі раней я браў два томікі на дачу, перачытаць некаторыя творы народнага пісьменніка, а цяпер яны вярталіся дамоў.

– Можа, хочаце пачытаць? Я дам.

Сяржант глядзеў на начальніка.

– Паехалі.

Я зашмарнуў сваю торбу, ускінуў на плячо і пайшоў далей.

*16.05.1992 Берлін.*

Добрага дня вам, мае дарагія Анюта і Вера!

Вось і заканчваюцца мае дні ў Германіі. Хоць і хацелася пабачыцца з вамі, але на гэта так мала было надзеі. Жыццё ёсць жыццё. Добра, што адбылася гэта наша паездка, добра, што я пагаварыў з вамі, добра, што ў вас усё добра.

Трэба думаць пра дом, рыхтавацца ў школу.

Сваёй паездкай і сваёй працай тут я задаволены. Адзначана яна і капейкай (маркай) лепш, чым калі-небудзь. Вярнуся ў Мінск, абавязкова знайду Алейнікаву. Трэба трымацца за яе.

Маё слова "Пераможаныя пераможцы" ("Besiegte Sieger") надрукавана ў часопісе "Kontinent" (№2, 1992 г. April, Mai, Juni). Можа, убачыце дзе. Вы не сказалі, як спадабаліся Анюціны малюнкі. Можа, прывязе што-небудзь з Германіі.

Сёння вечарам ідзём да фраў Розы, заўтра fahren nach Hause. Трывожуся за маці, ці выпісалася?

Паўлу думаю купіць скураную куртку за 99 марак, сабе купіў мацерчатую за 70. Хай мама Люба носіць тую.

Трэба выказаць у друку падзяку вялікую і той арганізацыі, што так шчыра дапамагала і дапамагае нам.

Хачу яшчэ пачуць хоць галасок Анюты.

У нас пасяліліся шпакі і пліска, так што месца паціху абжываецца.

Цётка Зіна і Наташа абяцалі пасеяць бульбу (маці хворая, а я вось ужо трэці май у Германіі), трэба будзе прывезці ім падарункі.

Ды ладна, буду заканчваць. У панядзелак павінны быць у Мінску, а там такі калаўрот, такая яма.

Анюта! Дзядуля вельмі чакае цябе. Мне вельмі спадабаліся твае малюнкі, у Мінску трэба будзе вучыцца маляваць далей.

А гэта наш шпачок ляціць у свой домік. Прывітанне вам ад усіх – Паўла, Лены, бабулі. Усе не могуць дачакацца вас. Абдымаю, цалую.

*Дзядуля Толя.*



Алесь Асташонак



...сёння мы жывыя – заўтра забітыя,

дык чаго ж баяцца?..

# Марш-кідок у Дурдуны

***Трагіфарс у 3-х дзеях***

Ён пазваніў мне а трэцяй гадзіне ночы. Праз паўгода пасля нашай адзінай, аднак векапомнай сустрэчы. Спрасонку я ніяк не мог даўмецца, хто гэта п’яна смяецца ў слухаўку і запрашае мяне ў такую часіну ў госці. Але нарэшце я пазнаў голас – як пачуў згадку пра Смакаў, а следам прапанову (гэта ўзімку): “Паехалі пад Смакаў у грыбы! Там такія апенькі растуць – паўтары метры ростам і дагары нагамі!”

Гэтаму чалавеку я абавязаны маёй самай заблытанай прыгодаю, поўнай не толькі неверагоднасцяў, але і сэнсу, які выявіцца, можа, адно ў самым канцы расповеду пра яе.

Я жыў тады, напрыканцы так званае перабудовы, самотны, непрыкаяны, у пансіянаце непадалёк ад мястэчка Смакаў, што раскінулася на мяжы сяродку і захаду нашае айчыны. Мне было яшчэ толькі трыццаць сем гадоў, і ветру ў галаве хапала на траіх.

Вандроўкі ў мястэчка былі мне аддушынай у аднастайным пансіянацкім існаванні. Наведваючы піўніцу, я, здаралася, заводзіў гаворку з самымі простымі людзьмі, падобных да якіх у

мяне ў жыцці дагэтуль амаль і не было. Яны адгукаліся, людзі самі загаворвалі са мною, і гамонкі гэтыя адкрывалі мне свет, на чыйсьці погляд, можа, і прымітыўны, але насамрэч трагічны – тым больш, у акрэсленай вонкавай сваёй камедыйнасці.

# I

*І Асташонак нечага там трэцца ўсё. Але дзе ён не трэцца, куды ён не ўлезе, нідзе спакою не дасць. Ніякае сталасці не мае і, мабыць, чалавекам ніколі не будзе...*

*– Дзе ж Асташонка падзелі? – запытаў зайздросна Зыгмусь Чухрэвіч. – Прыстаў да канпаніі.*

**Кузьма Чорны. “Вераснёвыя ночы”**

Я здзьмуваў з куфля шум і думаў пра тое, ці адрозніваюцца светапогляд і паводзіны смакаўчанаў рознага веравызнання. Спярша мне здавалася, што каталікі п’юць, лаюцца і ўсчынаюць гвалту меней за праваслаўных. Але выдае на тое, што перад куфлем ды чаркаю ўсе роўныя. А галоўнае, відаць, мірнае суіснаванне, напрацягу стагоддзяў, веры “польскай” і “рускай”, як часта кажуць у Смакаве, дужа ашляхетніла людзей. Няшмат бачыў я ў мястэчку мужчын на залішнім падпітку, а ўжо жанок, дык барані Божа; мала чуў не тое што на вуліцы, але і ў піўніцы, брыдкіх слоў, аніразу не бачыў бойкі, нават на святы, як гэта на ўсходзе найчасцей бывае, – наадварот, у такія дні мужчыны тут рабіліся самавітымі. І ніхто не распавядаў мне, каб былі ў Смакаве сваркі з канфесійных прычынаў. Як не было тут, напэўна, і класавых бітваў. Не з’яўляліся, мусіць, і расейскія патрыёты з дробнае засцянковае шляхты, гатовыя або памерці, або ўратаваць сваё “Ацечаства”. Нават у наваколлях няма тут калгаса імя Ілліча, партз’езду ці чырвоных аратаяў. Словам, памяркоўныя тут людзі.

І, не паверыце: тут у піўніцы піва не разбаўляюць.

– Піва тутака неблагое, – загаварыў са мною невысокі, дробнай камплекцыі, прыкладна маіх гадоў чалавек, які стаяў побач за тым самым столікам, што і я.

– Смачнае піва, – развіў выказаную суседам думку другі, таго ж узросту, мажны, з мыліцамі, прыткнутымі да століка. – Можа, лепшае аж да самае Ліды. У Лідзе ж яшчэ за польскім часам піваварня была.

– Бровар, – паправіў яго першы.

– Бровар – гэта як штосьці малое, – запярэчыў мажны. – Скажам, надумаў ты сабе і радні ды сваякам піва варыць, дык будку якую паставіў. А піваварня – яна і ёсць піваварня.

Спрачаліся яны доўга, адразу нібыта забыўшыся на мяне, але нарэшце ўсё-такі пагадзіліся, што лідскае піва, пра што гаворка, лепшае за смакаўскае, хоць смакаўскае лепшае, чым ва ўсходнікаў, і не след яго раўняць з менскім: тое зусім што вада. А лідскае па правілах, што за польскім часам былі, вырабляецца.

Тут ніколі не скажуць, як на ўсходзе, “да вайны”, “польскі час” прамаўляюць з важнасцю ў голасе нават тыя, у каго бацькі нарадзіліся пры Саветах.

– А вы як мяркуеце? – запытаўся ў мяне першы, чарнявы, па ўсім было відаць, смялейшы, шпарчэйшы за свайго прыяцеля, словам – дападны.

Я, няхай і крыўдна было за напой майго роднага Менска, згадзіўся. Як тут не згодзішся, калі гэта праўда: са смакаўскім менскае піва раўняць было грэшна, хіба што не як вада яно.

Хлопцы не проста так са мною загаварылі. Яны цадзілі піва ці не кроплямі, калі я яшчэ толькі прыйшоў сюды, але перад імі й дагэтуль стаялі два недапітыя куфлі, я ж браўся ўжо за трэйці куфаль – і гэта не магло не запыніць іхняе ўвагі.

Нізенькі быў чарнявы, густыя валасы тырчэлі караценькім “вожыкам”. Мажны, з мыліцамі – русявы, прыкметна ўжо злыселы. На абодвух тварах, і смуглявым

у першага, і чырвоным у другога, бачная была добра знаёмая заўсёднікам піўніц пакута: гэта калі не так ужо каб цяжка, але і не так ужо каб лёгка, калі душа не шукае ўжо ліхаманкава паратунку, але цягнецца яшчэ да падманнага лекавання. Такія ўжо фізіялогія ды псіхіка пітака, як хто не ведае. Вочы ў абодвух нязлыя, нягледзячы нават на пэўнае занядужанне, можна сказаць, што і добрыя. Цёплыя – прыродаю і надзеяю. І ўжо пэўна што не дурныя.

Як душа неспакойная, неўтаймаваная ды яшчэ крыху творчая, я, у адрозненне ад сярэдняга інтэлігента, дарма што так званы пісьменнік, не толькі не пабойваюся гэткае публікі, але і нават хінуся да яе. З гэтымі тыпамі – скажа, дыягнастуючы мой выпадак, крытык – я пашыраю свой пісьменніцкі далягляд. Але ён будзе мець рацыю толькі часткова. Калі я ўступаю ў кантакт з асобамі падобнага кшталту, літаратар ува мне жыве адно ў падсвядомасці. Усплывае ён з яе ўжо тады, як я згадваю штось з напатканага. Проста мне з такімі людзьмі па-чалавечы няцяжка. І я зусім не ўспрымаю іх як будучых маіх персанажаў. Гуляць з імі ні ў што не трэба. Можна шчырасці сваёй не баяцца і быць упэўненым у тым, што ў адказ на сваю шчырасць напаткаеш іхнюю. Калі, вядома, перш чым сысціся, хоць трохі разгледзіш іх. Бо можна і памыліцца – і нават жорстка, што ў мяне здаралася. Але, апечаны колькі разоў у такіх выпадках, я навучыўся збольшага хутка распазнаваць людзей, я адчуваю іх інтуітыўна. Гэта, вядома, усё роўна не засцерагае ад памылкі назусім, але шанц дае немалы.

І што дужа істотна: калі б хто з нявопытных братоў маіх па рамястве, жадаючы глыбей спазнаць жыццё, "унядрыў" бы сябе, так бы мовіць, на нейкі час у іхні асяродак, яго чакала б непазбежнае хуткае фіяска, мажліва з непрадказальнымі наступствамі, – фальш людзі адчуваюць адразу, сярод іх трэба быць сваім. І адной любоўю да пякучых напояў тут не абысціся – павінна мецца ў табе нешта такое, пра што я і сам не ведаю, што сказаць. Добрае тое нешта ці дрэннае – гэта як паглядзець. Як чалавеку яно прыносіла мне і прыемнасці, і няўдачы. Як апавядальніку адно дапамагала.

Разгаварыліся.

Грошы, вядома, былі ў мяне аднаго.

Неўзабаве Пранусь, малы, чарнявы, і Пятрок, мажны, русява-злыселы, першы з каталіцкае сям'і, другі з праваслаўнае, вялі мяне па запаветнай сцяжыне. Пранусь мусіў раздабыць нам "ачышчанай". Тады, як хто не ведае таго не дужа каб доўгага часу, што зваўся перабудоваю, ужо мінула тая вялікая эпоха, калі можна было разжыцца градусным напоем у краме без пайковых квіткоў на кожнага чалавечка, а да новае вялікае эпохі, у якую мы ўсе цяпер маем шчасце жыць, было яшчэ адносна далёка.

Нявapта апісваць тыя блуканні па вуліцах ды дварох, стаянні на сонцапёку (быў месяц травень, час якраз пасля адзнакі шчасных наступстваў працоўнай салідарнасці й выпакутаванай перамогі) у чаканні, якое спакваля станавілася ўсё больш нецярплівым, – праўда, пакуль Пранусь абыходзіў смакаўскіх самагоншчыкаў, Пятрок, прыкметна ўжо ўспацелы, бо ўвесь час налягаў на мыліцы й шлакі з яго, адпаведна, больш выходзілі, змяншаў напругу, распавядаючы мне паціху пра сябе з Пранусём.

Абодва няўдачлівыя. Нежанатыя. Пятрок сямейнага шчасця яшчэ не ўведаў, а Пранурся жонка выгнала паўгода назад з менскае кватэры. Пранусь працаваў качагарам у кацельні піянерлагера каля пансіянату, дзе жыў я, Пятрок – шафёрам у пансіянаце суседнім, але цяпер быў на бальнічным, бо зламаў нагу, як гнаўся за парсюком, што выскачыў, як утрапёны, з бацькавага хлява. Пятрок сядзеў два гады "на обшчым рэжыме" за нейкі мардабой, Пранусю даводзілася толькі начаваць у менскім выцвярэзніку.

– Во, бляха, нарабілі Саветы дзялоў, – сказаў раззлаваны Пятрок, прану-

дзіўшыся ля чарговага, ці ўжо не пятага, падворка і дачакаўшыся ў выніку Прануся без здабычы. – Днём з агнём гарэлкі не знойдзеш. Раней самагнёт хіба што ў царкве не давалі.

– Але мы, барацьбіты за народнае шчасце, гэты цыяністы калій пры любой уласці знойдзем, – разважыў, як я паспеў ужо прыкмеціць, не толькі больш аптымістычна настроены "па жыцці", але і схільны да рыторыкі Пранусь. У яго і мова была больш далёкая ад трасянкі, чым у Петруся, – але не толькі таму, што ён быў больш выбітной асобаю. Гэты, па ўсім было відаць, прайдзісвет, дужа хутка падладзіўся пад мяне, а Пятрок, здавалася, заставаўся самім сабою.

У рэшце рэшт мы апынуліся ля двара Адолюся, стрыечнага брата Пранусёвай цёткі Стэфкі. А яшчэ праз якую хвіліну ейны меншы хлопец, Карусь, выцягнуў употайкі ад маці з патаемнага сховішча дзве пляшкі самаробнай. Самай чыстай ачысткі, запэўніў нас канапаты падлетак. Мае новыя прыяцелі завялі мяне за хату, дзе мы прыселі на лаве за адмысловы стол, зроблены дзядзькам Адолюсем акурат на гэткія во справы, прасвяціў мяне, лагодна ўсміхаючыся, Пранусь. Твар ягоны, і так зычлівы, яшчэ больш пацяплеў, калі Карусь прынёс нам пяток яек і кавалачак паляндвіцы з паўбоханам хлеба ды цыбуляю і агуркамі – зялёнымі й маласольнымі.

– Во як у нас, каталікоў, гасцей сустракаюць, бачыш? – з гонарам мала не прагрымеў куртаты Пранусь. Адкуль толькі ў чалавека, пры такой статуры, гэтакі голас узяўся?

– А то ў праваслаўных хужэй, – хітнуў галавою Пятрок. – Помніш, як нас Хведар частаваў на Піліпаўку?

– Дык то ж Піліпаўка, боўдзіла, а то ж дзела звычайнае, – паблажліва паглядзеў на яго Пранусь.

– Ат, што з табою, з ватыканаўцам, гаварыць! – махнуў рукою Пятрок.

Завязалася міжканфесійная сварка. Але як яны ўзышліся, гэтак і астылі. Не да таго ж было, як усё раптам раздабылася.

Пачастунак і праўда, як на сітуацыю, быў дыхтоўны, дый заплаціў я за яго не так ужо і багата.

Засябраваць за такім сталом, пабадзяўшыся разам па мястэчку, у такім утульным у гэткую спёку закутку, – справа не надта складаная. Ды яшчэ й душа з палёгкаю ўздыхала.

Праз нейкі час высветлілася, што і Пранусь, і Пятрок хоць і лічылі, што кожная баба чорту сястра, не з'яўляліся, аднак, прыхільнікамі мужчынскае адзіноты. Мая самота дужа ўразіла іх: як яны ўпэўніліся, я ж чалавек і харошы, і вучоны, не тое што яны, васьмігодка на тройкі ды ПТВ механізатараў, і грошы маю, і "выглёнд", і адзеты файна, усё роўна як па тэлевізіі паказваюць.

Абгаварыўшы жанок, панаракаўшы на лёс чалавечы з бабаю і дапіўшы гарэлку, прыяцелі выявілі, што з малога Каруся, пры ўсім ягоным дачасным спрыце, больш анічога не выцягнеш. Памаракаваўшы, Пранусь прапанаваў везці мяне ў Сівец, гарадок кіламетраў за сорак ад Смакава, з пэўнымі перавагамі урбаністычнае цывілізацыі, там нават была пры пастарунку камера папярэдняга зняволення, важна адзначыў завадатар – і там мяне чакала Света, кабета маладая, трыццаці прыблізна гадкоў, вабная, у самым жаночым соку.

Пранусь з імпэтам абмаляваў рукамі ў паветры, што за спакуса – ейныя грудзі ды сцёгны. Не распусная, але і не дзікунка, працуе ў нейкай сівецкай канторы інжынерам, пасля інстытута, і кватэру сваю мае, у "гарадскім доме", з прыбіральняю ў хаце, і баня свая на двары, во як.

Не можа такі відны чалавек, як я, чэзнуць на самоце, непарадак гэта. Ён, Пранусь, глядзець на гэта спакойна няздатны. А яшчэ ў Сіўцы, у найгалаўнейшай тамтэйшай краме, ёсцека маладзіца, якая дасць гарэлкі і без квіткоў, колькі захочаш, хоць заліся, а ў госці без гарэлкі людзі не ходзяць, дый Света выпіць не супраць, дзеўка

дужая, ялаўка яшчэ тая, багата ў каго з мужчын можа па чарках твар у чырвань увагнаць. Тут Пранусь раптам скеміў, што сказаў лішняга, і ўмомант паправіўся:

– Але ж не п’яніца, пэўне ж. Дарма што выпіць здатная, лішняга не возьме, а то і зусім можа толькі чарачку-другую прапусціць. Як яна тады б у канторы працавала і тэхнікум свой закончыла? Аднак, ты сам разумееш, без гарэлкі правільныя людзі ў госці не ходзяць.

На ягоныя бязладнасці, што датычылі Светы, я не зважаў, бо паспеў зразумець, што гэта за чалавек, а з пастаноўкаю пытання наконт гарэлкі ў такой сітуацыі быў цалкам згодны. Ну як мне, вольнаму ды яшчэ нападпітку, было адмовіцца ад сустрэчы з гасціннаю і пагляднаю кабетаю, у якой нават прыбіральня ў хаце і “баня” на дварэ, інстытут яна закончыла ці тэхнікум, або ўвогуле не закончыла нічога? У рамантычных адносінах з жанкамі я не надаю дамінантнае ўвагі іхняй адукацыі – бессаромна прызнаюся, мне і сваёй хапае. Была ў мяне адна адукаваная жанчына – о, гэта быў бы расповед для моцных духам!

Ну з якое трасцы мне было адмаўляцца? Наперадзе – новая прыгода. Па дарозе можна нагледзецца на краявіды. То ж у гэтым краі нарадзіўся вялікі чалавек, які напісаў геніяльныя радкі “Ядуць рабацягі зжаўцелае сала” і “Шэры шэрага вядзе”, Віктар Шніп, як хто не ведае. Калі б яму яшчэ ў землякі Уладзіміра Скарынкіна з ягоным “Нешта я апошнім часам бы вядро пустое грукачу”, краю гэтаму на літаратурнай мапе Беларусі апошняга часу цаны б не было! А я ж у Сіўцы, пражыўшы ў пансіянаце без каліўца два гады, сорамна прызнацца – і не быў яшчэ ані разу. Як чалавеку, які спрабуе нечага людзям на паперы распавядаць, гэта ўжо самая сапраўдная ганьба.

А што, калі там, у таямніча-далёкім Сіўцы, чакае мяне якаясь прыкрая неспадзяванка? Мы ж нападпітку дый яшчэ вып’ем.

Пятрок, вядома, з ягонымі мыліцамі, ад блізкай паездкі захаплення не меў, але ж не ў меншае хваляванне прыводзіла яго думка пра маладзіцу ў тамтэйшым гастраноме з ейным невычэрпным рэзервуарам.

Ну якая тут небяспека, якая легкадумнасць, калі едзеш да панны, да таго ж загадкавай, з вясёлымі прыяцелямі, у нязведаную мясціну? Нават лёгкага казытання нерваў я не адчуваў. Праўда, навучаны вопытам, набытым параўнальна нядаўна ў Менску, калі, з пэўнага сцёку акалічнасцяў (ноч, памылка з кабетаю, далёкі раён, спусцелая кішэня), я быў змушаны начаваць у пад’ездзе, спінаю да ледзьве цёплай батарэі, я запытаўся ў Проніка (так цяпер я зваў Прануся з ягонай лагоднай прапановы), ці ж такая зычлівая гэтая Света, як ён распавядае, а калі не, дык ці ёсць там у яго хоць бы нешта ўзамен – у наяўнасці ў Сіўцы прыдатных пад начлег пад’ездаў я сумняваўся.

– Па-першае, – з мяккім дакорам паўшчуваў ён мяне, – ты туды едзеш з сябрам. Разумееш? Па-другое, да кабеты каталіцкага выхавання. А каталікі... –узіраючыся ў мяне, ён вытрымаў доўгую паўзу, якую закончыў звышпераканальна: – гэта каталікі. Ну, а па-трэцяе, у мяне там усё павязана. Ад Светы да прадаўшчыцы і начальніка сівецкай жандармерыі.

Па дарозе на аўтастанцыю збочылі да Петрака. Нахадзіўшыся, ён меў патрэбу абмыцца і перамяніць кашулю – ці ж не ў сваты ехаў. Цяпер ён быў у ільняной, з пекным беларускім арнаментам.

– Дзеля цябе надзеў, бэнээфавец, – падміргнуў мне Пятрок. – Дзед яшчэ за польскім часам насіў.

– Да кабеты ж едзем, – змерыў ён позіркам Проніка. – Каталіцкіх паводзінаў.

Неўзабаве мы ўжо драмалі ў аўтобусе. Дарогі на каталіцкі захад суццёва не згадаю, бо, як і прыяцелі, прыснуў. Памятаю адно, вёскі не ўражвалі дабрабытам, як і тыя, што бачыў раней на ўсход ад Менска. Адметнасці? Хіба што, дзе-нідзе, крыжы ў канцах селішчаў.

У пекным горадзе Сіўцы ад аўтастанцыі да галоўнае гарадское крамы – рукою падаць. Па тым, як лёгка Пронік узяў у прадаўшчыцы аж пяць пляшак гарэлкі – без пайковых квіткоў і нават не “перадаючы” грошай, – я зразумеў, што чалавек ён тут і праўда слынны.

Шампанскага – Свеце? А вось шампанскага ў Сіўцы ў тую пару не было і, у адрозненне ад камеры папярэдняга зняволення, яшчэ быць не магло. Ішла перабудова. Да новай светлай будучыні было яшчэ далёка.

## II

*Лёс наш, пры няспынных небяспеках, не падобны да лёсу іншых. Сёння мы жывыя – заўтра забітыя, дык чаго ж баяцца? Мы лічым жыццё сваё гадзінамі, якія мусім прабавіць як весялей, і ніколі не след разважаць пра дні будучыя, бо невядома, ці будуць яны. Увесь наш клопат у тым, каб пражыць жыццё, што дасталася нам без нашае волі, а не думаць пра мудрагелісты ягоны працяг.*

**Флібусцьерскі запавет**

*– Тпр-р-р!..*
*– Што там?*
*– Гужы ад’ехалі.*
*– Чаго ж яны?*
*– Хамуціна лопнула.*

**Кузьма Чорны. “Гаворка ўночы ў дарозе”**

*Напіўся, то паўзі спаць і не сунь свой язык на гарачую патэльню. Ён у цябе вісіць, як ануча...*

**Іван Пташнікаў. “Чакай у далёкіх Грынях”**

Як будзеце ў Сіўцы, дык ведайце: у правым ад галоўнае крамы баку, – над крамаю, дарэчы, месціцца адзіная ў горадзе рэстарацыя, за мастком над рачулкаю жыве Света. Аднак знайсці яе цяжка.

Ужо на мастку я зноў запытаўся ў Проніка, – бо неяк не дужа ўпэўнена ішоў ён па ім, – ці ж забяспечаны ўсё-такі нам у Сіўцы прытулак, а то вось на гэтым поплаве начаваць давядзецца, вунь пад тымі ялінамі. Павадыр, падазрона ўсміхнуўшыся, адказаў:

– З кабетаю каталіцкіх паводзінаў.

– Ды закалупаў ты ўжо гэтай кабетаю! – узвіўся Пятрок. – Што там за дралка? – і адразу ж схамянуўся, аднак было ўжо позна. Вядома, і я не меў вялікіх ілюзій наконт гэтае таямнічае Светы, але ўсё-такі – каб гэтак ганіць жанчыну, да якой мы ішлі ў госці!

– Даўно, ёлуп, пачастунку ў лыч не каштаваў? – знішчальна зірнуў на яго Пронік.

– Ты тут... годзе ўжо табе... вядзі лепш! – хоць і вінаваты, агрызнуўся Пятрок.

Ён, няхай і быў абмыўшыся ды ў свежай кашулі, ужо зноў прыкметна прытаміўся і ўсё больш цяжкавата налягаў на мыліцы. Часта спыняўся і выціраў узмакрэлы лоб замурзанай насоўкаю з абрысамі алімпійскага мядзведзя, што невядома як яшчэ захаваліся на ўжо мала не празрыстай анучцы.

Хутка Пронікавы крокі зрабіліся зусім ужо няўпэўненымі. Хада яго, пры набліжэнні людзей, што ішлі нам насустрач, пачала выдаваць на каскады фінтоў нападніка на футбольным полі, які то прымае мяч на грудзі, то спрабуе рвануць па краі, то імкнецца прадзерціся ў цэнтры.

– Вы не ведаеце, дзе тут Света жыве? – закончыў ён нарэшце выніковым чынам свае загадкавыя скокі.

– Света?.. Якая Света? – спытаўся ў адказ нехлямяжы чалавечак.

Скарыстаўшы затрымку, Пятрок сунуў гладыёлусы пад паху, – яны ўжо прыкметна звялі, – папляваў на далоні, выцер іх адна аб адну, і манеўры гэтыя незаўважанымі для Проніка не засталіся.

– Якая? – падабраўся павадыр. – Ну, ёмкая такая...

– Ёмкая? – чалавечак яшчэ больш зморшчыў спярэшчаны лоб. – Ёмкіх тутатка хапае. А калі Света, дык ёмкай не ведаю... Хіба худая?

– Худая? – зноў зрабіў нешта накшталт фінта Пронік, аж ногі ледзь не заплялiся.

– Ну, што палка... Чапяла... Вышэзная, – з усяе сілы намагаўся дапамагчы небаракам зычлівы незнаёмец.

– Не. Чакай! – усё роўна як страсянуўся Пронік. – А яна ў канторы працуе?

Пятрок пакутна задумаўся і пачаў выразна цыркаць слінаю.

– У канторы? У якой канторы? Не, гэная ў аптэцы. Выбачайце, хлопцы, не ведаю я вашай Светы.

Чалавечак пашкандыбаў сваёй дарогаю. Пронік, і так малы, на вачах паменеў.

– Ты... гэта што? – абрынуўся на яго Пятрок. – Прыпух, бляха, ці што? Дзе ж яна ўрэшце жыве, твая кабета? Каталіцкіх паводзінаў. Ты зараз па цэбры атрымаеш. Ты ж трындзеў, што яна ў норме. А цяперака гавэндзіш, што ёмкая?

– А ты што – косткі любіш? – смачна сплюнуў Пронік. – Супакойся, сябра. Усё як у Лондане будзе. Як у лепшых дамах Філадэльфіі і Таронта.

З наступным насельнікам Сіўца нам пашанцавала.

– З базы Света, ці што? – запыталася кабета.

– З базы, з базы, кума! – загарэліся ў Проніка вочы.

– Ёмкая? Бялявая?

Пронік радасна ківаў, мы пераводзілі дух.

Жанчына паказала на двухпавярховы цагляны дом за павароткаю:

– Вось толькі на прозвішча забылася... Здаецца...

Пронік ухіліўся ад высвятлення прозвішча і, падзякаваўшы, рвануў уперад, цяпер ужо без фінтоў.

– Дзе тут Света жыве? – гаркнуў ён на ўвесь двор, як толькі вынес нагу з-за рога.

З хлеўчука ў двары высунулася летная, мажная – як абняць у сцёгнах, дык рукі ззаду не счэпіш, – баба.

– Света? – утупілася яна ў разы ў чатыры вузейшага ад яе Проніка. – То нашта табе Света? – змерыла яна яго пагардлівым позіркам, падпершы свае магутныя клубы цяжкімі кулакамі.

– Госці да яе!

– Гэта хто ж? Ты? – шырока ўсміхнулася баба. У голасе ў яе выспяваў прыхаваны шал.

Павадыр пракаўтнуў камяк у горле і, нібыта забіваючы мяч у вароты, рэзка кіўнуў галавою ў мой бок:

– Гэна гэты во – госць.

Прыгледзеўшыся да мяне, баба крыху палагоднела:

– Няма дачкі дома.

– А калі будзе? – усё роўна як гаўкнуў Пронік.

– Праз гадзіну. Як з базы вернецца. – Баба добра што не стала задаваць лішніх пытанняў і знікла ў хлеўчуку.

Я звярнуў увагу на матчыны словы “як з базы вернецца”. База – не кантора. Але ж і на базе, нават сіўцоўскай, можа быць якоесьці бюро. Ды і ўсё што хочаш можа быць у Проніка ў Сіўцы, як і ва ўсёй нашай непрагляднасці, кантораю. Але ж пры такой гаспадыні, як гэтая баба, са Светаю, якая б тая ні была, шанцы на вялікую гасціннасць былі не дужа багатыя. Выдавала на тое, што мала што свяціла з гэтаю Светаю. Хоць хто яго ведае?

– Усё, у натуры! – заззяў Пронік. – Праз гадзіну вернецца.

– А куды нам зараз сунуцца? Мо тут дзе прысядзем? Глынем па каліўцу.

– Тут? – павадзіў галавою Пронік. – Няможна тут.

– Гэта чаму? – аблізнуў языком перасохлыя вусны Пятрок.

– Дужа мы відныя тутака людзі. Якая ў нас будзе тады рэпутацыя? Пойдзем у рэстарацыю. За гадзіну абярнуцца паспеем.

У рэстарацыі было пуста. За столікам у куце сядзелі дзве афіцыянткі, зусім яшчэ маладзенькія, і загадчыца, старэйшая, зграбная, як кажуць людзі пра кабету паглядную і нехударлявую, а насупраць іх міліцыянт, вялікі, вальяжны і стомлены.

На суседнім крэсле вісеў кіцель з капітанскімі пагонамі. На століку, паміж букачом з гарэлкаю і талеркаю з салатаю, вядома, "аліўе", ляжаў гальштук.

Капітан нешта расказваў, сам сабе смеючыся, персанал глядзеў яму ў рот і надрыўна заліваўся смехам.

– Таварышчы, у нас перэрыў, – у лоб расстраляла Проніка, што ішоў паперадзе, адна з маладзіц, як толькі заўважыла нас.

– Дык гэта ж... з намі пісьменнік! – гаркнуў павадыр.

– Што? – зароў міліцыянт. Твар у яго ажно агнём запалыхаў.

– З намі пісьменнік, – адчаканіў Пронік. – Супрацоўнік і лаўрэат сталічнай і рэспубліканскай прэсы. А яшчэ і цэнтральнай.

Вочы ў капітана наліліся крывёю. Напэўна, падумаў я, галоўны сіўцоўскі міліцыянт. У блізкае Пронікава знаёмства з начальнікам тутэйшай жандармерыі я ўжо не верыў.

– Ты што, маладзён, смяешся? Якія ў Сіўцы пісьменнікі? – Капітан гаварыў чыста па-беларуску. – Ты хоць ведаеш, хто я?

– Так точна, таварыш маёр. Начальнік усёй сівецкай міліцыі. А пісьменнік прыехаў у Смакаў у камандзіроўку. Мы яго сюды на ваш горад паглядзець прывезлі.

Капітан палагоднеў: новае званне, якое надаў яму хітры Пронік, прысвоеная пасада і важкае "ваш горад" настрою яму не пагоршылі.

– То сядайце тады з намі, – прапанаваў ён. – Бярыце стулы і сядайце за наш столік.

Ад запрашэння мы не адмовіліся. Але Пятрок замітусіўся, нават мыліцы, як толькі ён сеў, абваліліся на падлогу.

– Гэта хто з вас пісьменнік? – спытаўся капітан-маёр. – Гэны, што ў беларускай кашулі? То чаму з мыліцамі? Як ён такі па камандзіроўках ездзіць?

– Не, – напусціў яснасці Пронік, – з мыліцамі не пісьменнік, а наш, смакаўскі, сябра беларускага пісьменства і сакратар тамтэйшай рады БНФ. А пісьменнік...

– А ёж... – не стрымаўся міліцыянт. – У вас там што ў Смакаве – ажно рада БНФ?

– Ды яшчэ якая! Я ягоны падсакратар.

– То чаму ж ён маўчыць, – углядаўся ў Петрака сівецкі парадкаахоўнік, – а ты ўсё сакочаш?

– Важнасць трэба блюсці.

– Важнасць, кажаш? Нешта я гэтага твайго сакратара бачыў, здаецца. Ці не ты гэта, – звярнуўся міліцыянт да Петрака, – бузіў у нас пазалетась каля гастранома?

– Я не бужу, – пракаўтнуу камяк у горле Пятрок. – Ашыбаецеся вы, гражданін начальнік.

– Чакай, а чаму ты мяне гражданінам завеш? Ці не сядзеў ты, саколік?

Пятрок здрыгануўся.

– Барані Божа, – супакоіў яго Пронік. – За што яму было сядзець? Ён мухі не пакрыўдзіць.

– То які ж тады з яго бэнээфавец, калі за сябе пастаяць не можа?

– Калі грукочуць гарматы, – вырашыў аказацца я, – мудрыя маўчаць.

– Вось яно як, – ацаніў міліцыянт позіркам цяпер ужо мяне. – Гэна вы, значыць, пісьменнік? І што вы, выбачайце, пішаце?

– Суровую прозу жыцця, – сціпла адказаў я.

– Дай Божа і заўтра тожа, – узняў сваю чарку гаспадар сітуацыі. – Налівайце.

– Няхай жыве і квітнее найгалаўнейшы горад нашага краю Сівец! –мала не зароў Пронік.

– Вось гэта я паважаю. – Твар у міліцыянта быў задаволены. – Толькі чаму ў гэнага вашага... сакратара рука дрыжыць?

– Праца нервовая, – саліраваў Пронік. – І багата яе, працы. Напружанай. Да з’езду рыхтуемся.

– Нешта не чуў я пра вашую сходню. Нам бы на раённай нарадзе сказалі. Быць такога не можа, каб гэтага нам не сказалі. Абавязаныя былі давесці да ведама. Як вышастаяшчыя ніжастаяшчым.

– Вы мужчына? – скалануў яго сваім пытаннем Пронік.

– Ты што?

– Што – што?

– Аслупянеў, ці як?

– Я, спадар маёр, – плёў свае мудрагелістыя вузлы Пронік, – запытаўся ў вас так таму, што сакрэт вам хачу перадаць.

– А... – адлегла ў міліцыянта.

– З’езд, значыцца, будзе закрыты. Напаўлегальны, значыцца.

– Як – напаўлегальны? Падпольны ці што? – Але вочы ў капітана былі спакойныя. Класавая нянавісць не перапаўняла ягоную сялянскую заходніцкую душу – яму было цікава, ён нават задаволенасць меў у п’янасці сваёй праз тое, што далучаецца да таямніцы, а сам апазіцыйны рух відавочна быў яму не варожы. Як евангельскі мытар, ён мог бы кінуць грошы на дарогу.

– Улады, – працягваў Пронік, – вырашылі правесці эксперымент: на невялікі перыяд пусціць дзейнасць нашага дзвіжэння на самацёк...

– Ды ну? – вылупіў вочы міліцыянт.

– Далі апазіцыі волю, каб паглядзець, што з гэтага выйдзе. Таму і не сталі паведамляць адказным інстанцыям, гэна значыцца вам, пра правядзенне з’езду.

– А ёж..! – грукнуў кулаком па стале капітан. – Глузды, мабыць, у тых уладаў пазаварочваліся. Яна, апазіцыя гэная, за той невялікі перыяд такога накаламуціць, што... Давайце вып’ем.

Выпілі. Наліваў Пронік. І гаспадара сітуацыі ён, мякка кажучы, не пакрыўдзіў.

– Ну і дзела, – падаў аслабелы голас міліцыянт. – Ці яны там падурнелі ў Мінску, ці што? Ну не веру я.

– А што тут такога? – паціснуў плячыма Пронік. – Вырашылі праверыць гэтакім чынам жыцьдаздольнасць процівадзествуюшчых сілаў.

– Праверац, маць іх..!

Вось гэтакая гаворка вялася ў нас за сталом. Выявілася, даволі лёгка, што міліцыянт, як было відаць па зорках на пагонах, зусім не начальнік тутэйшай жандармерыі, а просты выканаўца, – сімпатызант пераменаў.

На жаль, ён хутка скасеў дазвання, і нам не давялося пачуць вялікіх прызнанняў. Апафеозам ягонай шчырасці з’явіліся апошнія словы, прамоўленыя ў паўсне:

– Стаміліся ўжо, маць іх..!

Далей гаварылі без капітана.

Загадчыца выказала замілаванне маёй беларускай моваю. Зрэшты, было відаць, амаль такой гаварыла яна сама заўсёды, а цяпер хіба што крыху старалася. У гэтых мясцінах не ведаю як пасля трынаццаці гадоў незалежнага існавання зямлі нашай роднай, а тады гаварылі яшчэ далёка не такою трасянкаю, як на ўсход ад Менска. І зусім не дзівам было тое, што міліцыянт тут сустрэўся досыць незвычайны – як у адносінах мовы, так і з пункту погляду палітычнага асэнсавання рэчаіснасці, прынамсі, мала не дакларavанага.

Дзівам, на маю думку, з’яўлялася тое, як мала спатрэбілася часу на савецкую абкатку тутэйшага люду, бо як па вялікім рахунку, дык яны ўжо адрозніваліся ад усходнікаў не надта істотна. Заставалася хіба што свая соль. Ці гэтая соль досыць багата значыла? Мог бы кінуць металёвы рубель або хоць пятак на свой сімвалічны гасцінец якісь магілёўскі “мытар”?.. Які-небудзь выкапень – мяркую, што так. А выпадковы, першы стрэчны, – пераканаyы, што не. Дзіўны ўсё-такі, як той казаў, горад Ершалаім! То ж бо Сівец. І да яго падобныя Ліда, Навагрyдак, Браслаў. Гэткіх міліцыянтаў ці дзяржаўных пасадоўцаў, нават на ўзроўні гарадскога начальніка, сустракаў я пасля ў пералічаных мейсцах.

Спалі, беларус, багоў, якім пакланяўся, і пакланіся тым, каго спальваў? Лепш было б не паліць нікога і нікога не абагаўляць, а жыць сваім простым, разумным жыццём. Толькі ж ці ёсць ты яшчэ на свеце – беларускі бог з самай малой літары?.. Спадзяюся, што ёсць. Не пад адным толькі Бахусам, мусіць, жывем мы. Хоць і пануе ён уладна і на ўсходзе, і на захадзе, не разбіраючы, хто праваслаўны, а хто каталік.

Такія вось блытаныя думкі лезлі мне ў галаў. Вядома, ім усё ж замінала пагляднасць кабет, што красаваліся цяпер насупраць мяне, раскрываючыся ў падступным сваім харастве. Ці ж не дзеля гэтае спакусы перадусім зацягнуў мяне ў такую далячынь чорт-валацуга, які часам водзіць мною, флібусцьерам, у прагных пошуках недасяжнай нашай Тартугі!

Прызнаўшыся безаглядна ў неабыякавасці сваёй да рознага кшталту пякучых напояў, якія прынеслі мне, неадменна трэба падкрэсліць, багата бедаў-нягодаў, аднак усё роўна не страцілі ў маіх вачох непарушнай сваёй прывабнасці, прызнаюся гэтаксама шчыра, неабыякавы я і да жанчын і гатовы нават пайсці ў заклад, што багата якія з іх не абурацца на мяне за маю пакручастасць у стасунках з асобамі жаночага полу. Не толькі жанчыны мне падабаюцца, але і, выбачайце, я сам, з такім вось ладам думак пра іх і стасункі з імі. Не ўсім, вядома, я даспадобы. Але што далёка не адной, дык пэўна. Ведаючы гэты грэх за імі й за сабою, мяркую, што Творца даруе яго нам, інакш, барані Божа, я мог бы пайсці пакланяцца ідалам – гэта ж не палітыка, дзе я непахісны і заклікаю да жыццястойкасці ўсё беларускае і не прынесенае ўсходнімі вятрамі.

Але, я хрысціянін. Аднак не магу паўстаць супраць народнае мудрасці: “Што там за кума, што пад кумам не была?” З гэтага пункту гледжання я гонар сваёй кумы, вядома, адстояў. Выбачайце, калі абразіў чыесьці пачуцці – аднак я так думаю і маю на гэта права. Мажліва, я прытрымліваюся нейкае сінкрэтычнае веры – ахрысціяненага паганства. І не баюся гэтага. Барані Божа вось толькі, каб я стаў неафітам апагаененага хрысціянства. Ці гэта ўсё толькі слоўная эквілібрыстыка і мяне, заблуднага, чакае пекла?

Аднак у той дзень мяне чакаў, можа, рай. Ну хто мне такая гэтая сіўцоўская прымадона з ейным светлым імем? Я не ведаю яе і, мажліва, дай Бог мне яе ніколі не ўведаць. Я мала верыў у асаблівую яе вабнасць, выпраўляючыся, усё роўна як Швейк да 99-га Будзёвіцкага палка, у свой анабазіс да Сіўца, бо не надта пакладаўся на Пронікаў густ, а вось з гэтымі маладзіцамі й адной ужо не маладзіцаю, але асобаю пекнаю, можна было заставацца спакойным: тут табе і 60х90х60, і 80х100х80. Не зусім я быў упэўнены ў верагоднасці майго добрага са Светаю знаёмства, дык што ж мне тады захоўваць гэтай яшчэ не панне сэрца майго вернасць?

Я задаю гэтае дзёрзкае пытанне нават жанчынам. Хто з вас, любыя чараўніцы, з усяго маху кіне ў мяне за нейкую там Свету камень, хто ж не зразумее таго, як маглі мяне ўразіць матэматычна ўжо выражаныя пекныя формы?

Нават больш. Тыя, чые вабнасці блізкія да ўказаных, маглі б, пры жаданні й з майго запрашэння, дабрацца да даведніка Саюза пісьменнікаў, каб уведаць маё

мейсцазнаходжанне. Аднак, на жаль, апошняга, пры любых нацяжках, здарыцца не можа. Кабеты з такімі параметрамі, жанчыны ўвогуле, з любымі паказнікамі, не складаюць, як бы мне таго ні хацелася, істотнай часткі й так малалікіх чытачоў беларускіх часопісаў. Ды дзе там – цяпер, пасля вялікае перабудовы і наступнае барацьбы пакуль яшчэ невядома толкам за што, іхняя большасць ва ўсёй сваёй жаночай разнастайнасці наўрад ці звяртаецца ўвогуле да часопісаў, за выняткам глянцавых. Гэтыя мудрыя істоты, народжаныя самою прыродаю, шукаюць свайго інтарэсу ў іншых сферах жыцця, больш заземленых і таму неадменна беспамылковых.

Стаміўшыся ад авантураў, не кажучы ўжо пра гарэлку, цяпер я жанглюю словамі, верачы ў тое, што і гэты занятак не марны, гэтаксама шчыра, як у прывабнасць лічбаў жанометраў пад сто і за сто, якім не зашкодзіць кампанія лічбы сорак і, няблага было б, іскрыстых дзевяць-дванаццаць.

Я ў паходзе, я ў марш-кідку, я ў прарыве з будзённасці, я ў анабазісе. Вы зразумелі: у анабазісе я, а гэта ж зусім не анамнез, не анемія, не амнезія. Я ўцякаю з нуднае шэрасці, вольна плыву па хвалях жыцця непрадказальнага, шматбаковага і салодкага гэтымі сваімі якасцямі.

А калі вы пачнеце казаць пра тое, што пры такім, як у мяне, характары-тэмпераменце, пры гэткім падыходзе да нормаў паводзінаў будаўніка грамадства і па галаўні атрымаць можна, дык пакіньце гэтыя развагі баязліўцам: мне з імі не па дарозе – як і ім са мною.

Мне шкада іх, мне з імі было б сумна, нават больш, я ўцякаў бы ад іх – няхай і ў сябрыну да Проніка з Петраком, не самыя яны і горшыя людзі, а як папраўдзе, дык выдатныя хлопцы, хіба што са сваімі прымаразкамі, дарэчы, набагата меншымі, ніж маразы ў галовах і сэрцах бальшыні тых, хто кіруе імі аж на самым версе, забыўшыся на сумленне ці думаючы ў слепасці сваёй, што яно ў іх ёсць.

Хто насмеліцца быць мне суддзёю?

Не буду прыкрывацца парушынкаю ў чужым воку. Хапае ва ўласным маім трэсак – наконт бярвенняў не ведаю.

Я ў адной са сваіх стыхій.

Я птушкалоў, я паляўнічы, я флібусцьер і пры захопе карабля не адмаўляюся ад здабычы, маючы на яе поўнае, неадменнае і святое, здабытае ў баі права.

Пакіньце мне пакуль што хоць гэтае прывіднае шчасце на пакутнай маёй зямлі.

І, нарэшце, не толькі ў пагляднасці жанчын насупраць мяне была справа. Ноч усё-такі набліжалася. А на Проніка ўжо надзеі вялікае не было. Крэдыт даверу да сябе ён яшчэ конча не вычарпаў, аднак пазіцыя ягоная ў маіх вачах істотна пахіснулася. У павадыра трохі вер, а сам маракуй.

Аўтобусы на Смакаў ужо не ходзяць.

Я чалавек дастаткова маральны, і таму засяроджваць свае позіркі на стандартах дзявочага хараства было мне не надта ёмка.

Высветлілася неўзабаве ў ціхай гаворцы з загадчыцаю, што яна не супраць зрабіць мне паслугу і даць прытулак. Праўда, мне аднаму. Сябры? Пронік сам казаў, што ў яго тут усё павязана. Шкада было Петрака, але ён паспеў ужо сказаць мне на хаду, што з пляшкаю-другою гарэліцы ён і пад ялінаю не абы як паспіць.

Праўда, жанчына папярэдзіла, што чалавек ейны, шафёр, у камандзіроўцы, якая ўжо блізілася да канца, а ён мужчына раўнівы, так што давядзецца быць пільным. Я, хоць чалавек сам і не надта каб асцярожны, аднак апошнім гэтым словам вялікага значэння не надаў. Астудзіў мяне Пронік, які пачуў маю з кабетаю размову.

– А пад лаваю там... – усміхнуўся ён, – сякера ляжыць, спадар дэлегат закрытага з’езду... Шоферы – народ небяспечны, а нас чакае вецер вандровак.

Капітан захроп. Манументальнасць ягонага сну адно ўзмацнілася. Каб перадаць яе, як на тыя хвілі, дык трэба не толькі словам валодаць, але і мець кампазітарскі слых.

– І не баіцца ён так капітаніць? – запытаўся я ў жанчыны.

– А што яму тут баяцца?

– Багата, выбачайце, вас абірае?

– Мы на яго не крыўдуем. Што зробіш, як жыццё такое? Працавала б я тут на зарплату! Яму таксама жыць трэба... Вось і п'е ён тут і есць дый яшчэ дахаты возьме. А мы і радыя. Ён нас не чапае, ну й мы з ім, што мышы пад венікам. Мы тутака мірна жывем... Ну што, раз сякеры пад лаваю баішся, вып'ем на развітанне? А сякера мо і праўда ляжыць. І чалавек у мяне вой як раўнівы! – загадкава зазірнула яна мне ў самыя вочы і залівіста засмяялася.

Заставалася Света.

Па дарозе Пятрок зноў нарваў кветак – дзікіх ружаў. Гладыёлусы, ужо звялыя, ён пакінуў у рэстарацыі, на добрую згадку.

Ужо ля знаёмага дома нас перапыніла Свеціна маці. Яна бордзка некуды кіравалася.

– Прыйшла ўжо Света, – сказала яна. – А я на начную спяшаю. Вы ж, бачу, не гіцлі якія. Вось толькі з гэным што здарылася? – кіўнула яна на Петрака, усміхаючыся. – Кавалер! Глядзіце, каб усё па-людску было. Мы на другім паверсе жывем, – кінула яна ўжо на хаду.

Узняліся на другі паверх. Паскакаўшы на пляцоўцы, Пронік націснуў на званок. Рух ягоны поўніўся адчаем.

Перад намі нарэшце паўстала Света. Мы глядзелі на яе, яна – на нас.

Кабета была ці не такая ж ёмкая, як яе маці.

Пронік кашлянуў.

– Гэта ж мы да цябе, Света, – пачаў ён, затанцаваўшы на мейсцы – і ўсё часцей, часцей, у мяне аж у вачох ад яго замільгацела, уяўляю, што рабілася ў вачох у Светы, – з гасцінцамі, – выняў ён з дзвюх кішэняў штаноў рыльцы пляшак. – І з кветкамі, – кіўнуў на Петрака.

– Да мяне, кажаш? – насмешліва змерыла яна яго позіркам, слізнула вачыма па Петраку і, запыніўшы погляд на мне, гаркнула павадыру: – Што, усе ўжо глузды прапіў? А ну давай шуруй! – І штурханула нябогу рукамі ў грудзі. Той ледзь утрымаўся на нагах. – Я ж табе, блін, казала: каб пысы тваёй тут болей не бачыла! Раз дурня ў хату пусціла, дык ён зноў ломіцца, пустадомак нягеглы! Ну куды ты сунешся? Ты на сябе паглядзі й згадай, што было. Во дзе ёлуп! А вы хто будзеце? – запыталася яна раптам у мяне, яшчэ больш звужаючы свой і так скіраваны на мяне позірк, гэтаксама, як і прыём, на мяне падрыхтаваны. – Праходзьце. Бярыце ў яго пляшкі. Ясна, што на вашыя грошы купленыя. Толькі гэтага, з венікам, таксама не трэба. Няхай валіць. Бачу, такі ж. Сунься, сунься, адкуль прысунуўся.

Я, хоць і быў уведзены ў зман, прайсці не мог. Пачуццё таварыства не дазваляла.

Мы зноў ішлі па вуліцы.

Не буду, як і раней, расказваць пра чарговую сварку Петрака з Пронікам. Паперы не хопіць, а ў чытача цярпення. Калі яго яшчэ хапае, і калі такі чытач увогуле застаўся.

– Дык дзе начаваць будзем? – запытаўся я ў свата. Я ўжо і не злаваў на яго. Ніхто мяне ў Сівец не цягнуў. Дый цікава было, чым усё гэта скончыцца. Такі ўжо авантурны я чалавек. – Ты ж бажыўся, што не на поплаве, не пад ялінамі.

– Я яму пабажуся! – цыркаў слінаю Пятрок.

– Вядома, не на поплаве, – нягледзячы ні на што, выгляд Пронік захоўваў бадзёры. Такога тапіць будуць, ён стане крычаць “Вынырнем!” – Са мною не прападзеце. Хадзем да аўтастанцыі. Тамака ў мяне ў касцёле вартаўніком сябрук.

У ягонай абяцанцы з’явілася істотная змена; адсутнасць кабеты, каталіцкіх паводзінаў альбо не. Хіба што касцёлам усё-такі патыхала.

Пятрок ганяў па шчоках скулы:

– Дык мы што, у храме, у натуры, заначуем?

Я дык у касцёле з вялікім інтарэсам заначаваў бы: во гэта быў бы вопыт з адчуваннямі й, мажліва,назіраннямі. Блюзнерства? Не ведаю. Па продках я ўсё-такі праваслаўны, і па хрышчэнні, так што гэта пэўным чынам, мусіць, мяне ратавала б,

– Паглядзім, – адказаў Пронік. – Можа і там. А чым табе храм дрэнны?

– Грэх жа, – няўпэўнена працягнуў Пятрок.

Я адно падзівіўся. Мне ледзь не сорамна зрабілася за сябе. Пісьменнік. Гіпатэтычна маральная асоба. Во якія ў нас людзі, хоць і ў турме сядзелі. З такімі б толькі светлую будучыню і рыхтаваць.

– Хрыстос з царквы гандляроў выгнаў, – абсек Пронік Петраковы сумненні, – а каб начлежнікаў чапаў, дык гэтага я не чуў.

– А гарэлка? Не станем жа мы яе на раніцу пакідаць? – не сунімаўся Пятрок.

Гэта і праўда быў душазломны маральны момант.

Гарэлку можна і з ксяндзом выпіць. Адразу атрымаеш адпушчэнне грахоў.

Ад такое перспектывы ў мяне аж дых перахапіла. Ды і ў Петрака, напэўна, закружылася галава.

Падышлі да касцёла.

– Чакайце, – сказаў Пронік і рушыў у храм. Што важна: цяпер ён не прытанцоўваў. З’яўлялася надзея?

Чакаць давялося доўга.

– Нешта ён прапаў, – хітнуў галавою Пятрок. – Во звязаліся з ёлупамі.

– Гэта ж табе не дзе-небудзь, а ў касцёле пераначаваць дамовіцца трэба, – заўважыў я.

– Ат, вялікае дзела? – махнуў рукою Пятрок. – Раздумаўся я. За пляшку ў нас хоць з чортам дамовіцца можна.

– Гэта з чортам? А з... храмам?

– У нас усюды – храм. Не зарабляе народ ні халеры.

– І ў касцёле? – засумняваўся я.

– А што – касцёл не савецкі? – аргументаваў непахісны Пятрок. – Гэта ж табе не за польскім часам.

Закончылася служба. Па дарозе, што вяла да шашы, ішлі вернікі. Людзей нападпітку, цынічна разважыў я, відаць усё-такі не было. Але некаторыя ўжо смяяліся. Спакваля чарга вернікаў радзела.

Праз якую хвіліну выйшаў з касцёла і Пронік. Але не з параднага ўвахода, а са службовага.

– Ну што? – з надзеяй спытаўся Пятрок.

– Ніц нэ бэндзе, – уздыхнуў Пронік. – У цане не сышліся.

– З вартаўніком? – здзівіўся Пятрок.

– З ксяндзом, боўдзіла.

Запанавала вялікае маўчанне. Чуваць было, як тахкаюць маё і Петракова сэрцы. З Пронікавым было ўсё ў парадку. З такім і да папы рымскага можна дайсці. Выводзь, павадыр, свой народ хоць бы з пустэльні непрагляднасці.

– Не мог я ксяндзу гарэлку прапанаваць. Забаяўся. А грошай, я ведаю, у нас асабліва няма.

– А чаго ў цябе пляшка пачатая? – нахмурыўся Пятрок.

– Гэта я з вартаўніком размаўляў.

– Ну і...?

– Тры пляшкі прасіў.

– Тры пляшкі? – мала не падскокнуў Пятрок. – Ды за тры пляшкі я яго сам хоць на алтар палажу. А як жа ён, вартаўнік, з ксяндзом развітвацца будзе? За адзін толькі пах выганіць айцец ёлупа.

– У яго на такія выпадкі кафейныя зярняты ёсцека.

– Ну, дык што нам цяперака?

– Нічога, хадзем, – супакоіў нас Пронік.

– Куды?

– У дурдом.

– Куды? – галава ішла ходырам.

– Хадзем, я кажу.

– Хадзем, – сказаў мне Пятрок. – З гэным усё роўна – усюды дурдом. Тры пляшкі, насос, прасіў! Я б яго, падлу, задушыў за тры пляшкі. Ну і парадкі. Касцёл!

– А то твой поп лепшы? – абрынуўся на сябра Пронік. – Праз дзень з пахам.

– Што?

– Людзі кажуць. – Счапіліся зноў. – А на Вялікдзень дык я сам бачыў – што цэп быў. Скажаш, няпраўда?

– Ну – не што цэп... – Сварка патроху заціхла.

Перайшлі шашу.

За тратуарам – у Сіўцы, пры ўсім распаведзеным, былі яшчэ нейкія тратуары! – мы ўпёрліся ў агароджу. Уражанне было такое, што падышлі мы да нейкае спецтэрыторыі, дзе мог бы пражываць гарадскі галава. А можа, і начальнік міліцыі. Аднак брама, якая знаходзілася непадалёку, была шырока расчыненая. І мы ўвайшлі ў агароджаную зону. Па тэрыторыі павольна сноўдаліся ці стаялі на адным мейсцы людзі. Нічога асаблівага, чагосьці дзіўнага я ў іхніх стаяннях ці перамяшчэннях не заўважыў. Такія ж грамадзяне, што і за агароджаю. Няўжо тут парк такі вялікі, – падумаў я, – за польскім часам пабудаваны? На тое, што народ у гэтым парку адзеты быў неяк вельмі па-хатняму, я ўвагі вялікае спярша не звярнуў: мегаполіс усё-такі, і норавы прасцейшыя, – а словам Проніка пра дурдом значэння не надаў, расцаніўшы іх як чарговы жарт.

Павадыр падышоў да нейкага, як мне здалося, падлетка і перагаварыў з ім па-свойску, як добры стары знаёмец. Мы з Петраком стаялі воддаль.

Вярнуўся Пронік да нас, загадкава ўсміхаючыся.

– Гуляць будзем?

– Гуляць? Дзе – тут? – здзівіўся я. – З кім? З тым вунь хлопцам?

– А чым табе хлопец дрэнны? Хлопец як хлопец. Тутака ўсе такія. Давядзецца толькі мальца частаваць.

– Гэтага? – Сумненні не пакідалі мяне: з выгляду падлетак аніяк не выдаваў нават на юнака.

– Гэтага, гэтага. То хадзем, гусары, – павёў нас Пронік да падлетка.

Падышоўшы да яго, я выявіў, што гэта быў няпэўнага ўзросту чалавек, хворы на сіндром Дауна.

– Вядзі, – сказаў яму Пронік.

“Даун” павёў нас па тэрыторыі, як выявілася, не такой ужо і малой. Яна была забудаваная двухпавярховымі цаглянымі дамкамі. Па дарозе я заўважыў кабет у белых халатах і зразумеў: дурдом гэта ці не, а лячэбная ўстанова пэўна.

– За польскім часам комплекс збудаваны, – нібыта ўгадаўшы маю нядаўнюю думку, каментаваў Пронік. – Тут адпачывалі арыстакраты. Во й мы прыабшчымся. Пакаштуем белае косткі.

Якраз у гэты момант міма нас прайшла другая купка цётак у медыцынскіх строях. Мы з Петраком няўпэўнена пераглянуліся.

Зайшлі ў адну будыніну, прайшлі па калідоры. “Даун”, які йшоў паперадзе, адчыніў дзверы. Увайшлі.

Пасярэдзіне пакоя месціўся стол. Вакол яго – некалькі ложкаў. Рэзруху няма, але і асаблівага парадку – таксама. Змрочна. Няўтульна. На адным ложку адпачываў мужчына. Ён утупіўся ў мяне бязглуздым позіркам, ашчэрыўшы зубы, рэдкія і няроўныя, бы плот у Смакаве ля піўніцы – людзі заходзілі туды з тылу, пабываўшы ў канторы па вырабу надмагільных помнікаў. Такое вось якраз параўнанне і адпаведныя ва ўсіх адносінах і напрамках думкі прыйшлі мне тады ў галаў.

Чалавек усміхнуўся, і мяне працяў жаль. Гэта быў самы сапраўдны алігафрэн. Мы і праўда апынуліся ў дужа спецыфічнай установе. Але наглядае тут хоць хто за гэткімі неардынарнымі пацыентамі, ці кабеты ў белых халатах проста так па тэрыторыі сноўдаюцца? Можа, гэта ў іх маскхалаты і ўвогуле ўсё наўкол – сон розуму?

Пронік не пакінуў без увагі маю задуменнасць:

– Спакуха. Тут усюды – агульная млявасць. Як і паўсюль. Страна дуракоў. Зараз мы ў філіяле.

– Заводзь, як дамаўляліся, – сказаў “Дауну” Пронік. – Мейсца файнае. На ўсіх ложкаў хопіць.

“Даун” выйшаў. Праз якую хвіліну ён вярнуўся з разбітым магнітафонам у руцэ. Услед за ім у палату ўвайшлі тры дзяўчыны.

Сімпатычным іх назваць было б цяжка. А ўжо пячаткі чагосьці духоўнага на іхніх тварах зусім не было. Света на іхнім фоне здалася б Ганнай Ахматавай.

“Даун” уключыў магнітафон. Пронік выставіў на стол пачатую ім у касцёле пляшку. Мужчына з жудасным выскалам зубоў узняўся і дастаў з тумбачкі газету, на якой расклаў агуркі, памідоры, хлеб і шматок сала. Я асцярожна паглядаў на нож, які неўзабаве з’явіўся побач з салам. Увагу маю адцягнуў назоў газеты: “Шлях камунізму”. Пронік разліў гарэлку. Шклянак, дарэчы, назбіралася ажно дзевяць, на адну больш, чым трэба было. Хто ж яшчэ, можа, прыйдзе?

Дзяўчаты, смеючыся, выпілі й пачалі кідаць на прысутных мужчынаў, усіх без вынятку, красамоўныя позіркі.

Пятрок, мабыць, перажываў шок, мацнейшы ад перажытага ў размове з міліцыянтам у шынку. А я дык увогуле – аслупянеў. У дужа стракатых, прызнаюся вам, кампаніях даводзілася мне бываць, у самых надзіва непрыстасаваных да застолля памяшканнях, пачынаючы ад сутарэння і заканчваючы электрашчытавой, аднак, каб апынуцца ў лякарні пэўнага кшталту за адным сталом з ейнымі пацыентамі... Каб пераўзысці дасягнуты рэкорд мне, флібусцьеру, заставалася адно – смела пайсці на абардаж.

Адна дзяўчына прапанавала мне пайсці з ёю на белы, як сказала яна, танец. Не ведаю, як я сам не збялеў, пачціва адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што не ўмею танцаваць. Дзяўчына дужа здзівілася і запэўніла мяне з імпэтам, што навучыць. Выручыў Пронік, галантна працягнуўшы ёй руку. Пятрок другой дзяўчыне таксама адмовіў, кіўнуўшы на мыліцы, аднак гэтая была больш рашучая. Як ужо ён адскакаў свой белы танец, аднаму Богу вядома. Я бачыў толькі, што потам яго абдало чысцей, ніж у кідках-пераходах услед за Пронікам. Трэцяя запрасіла гаспадара палаты – відаць, ён каціраваўся тут вышэй за “Дауна”, няхай той і быў распарадчыкам балю. Танцаваць яму было вельмі прыемна, і ў ягонай партнёркі твар шчасна свяціўся.

Гучна граў магнітафон, дзяўчаты залівіста смяяліся, мужчына рагатаў, вочы ў яго ліхаманкава блішчэлі, у позірку, скіраваным то на дзяўчыну, да якое ён прыціскаўся, то на пляшку, з’явілася асэнсаванасць, якой бы я іншым разам мог пазайздросціць. Пронік нешта азартна выкрыкваў, Пятрок абліваўся потам, я ўрос у крэсла. “Даун” сядзеў побач са мною і спрабаваў выбіваць нажом такт.

Музыка на момант сціхла. Пронік прысеў, паляпаў мяне далоняю па плячы:

ну як, маўляў. Забулькала астатняя ў пляшцы гарэлка. Павадыр паставіў на стол новую бутэльку.

– Дзе начаваць будзем? – спытаўся я, ледзь варушачы вуснамі. Смяяцца ці плакаць? А што як хто прыйдзе? Ці не пакінуць тады нас тут саміх? Нездарма ж мяне ўжо на белы танец запрашаюць.

– Тут, дзе ж яшчэ? – здзівіўся з маёй нездагадлівасці Пронік. – Чым не мейсца? І дзеўкі не капрызныя. Яны табе тут такое яшчэ пакажуць!

І паказалі. Петракова партнёрка, ледзь толькі выпіла другім разам, скінула пантофлі, спрытна, як відавочна не першы раз, ускочыла на стол і пачала на ім скакаць, голасна падпяваючы Але Пугачовай:

– Без тебя, любимый мой...

Адной рукою яна пагладжвала сцягно, другой пачала павольна расшпільваць гузікі халата. І гэта пры тым, што эротыкі ў нас тады на экране не было ніякай! Таленавіты наш народ.

– Зараз раздзявацца пачне! – з захапленнем усклікнуў Пронік.

Я быў усё ж далёкі ад таго, каб раздзяліць ягонае захапленне, нягледзячы на ўсю непаўторную вастрыню бачанага. Спінаю адчуваў небяспеку звонку: павінна ж была быць на тэрыторыі гэтага разважальнага комплекса хоць нейкая служба аховы.

Я не памыліўся. Неўзабаве дзверы расчыніліся, і ў палату ўвайшла цётка ў белым халаце.

– Гуляем? – хоць і строга, але даволі спакойна запыталася яна. Наўрад ці ўбачанае ўсхвалявала яе. Здалося, ёю кіруе адна толькі цікаўнасць.

– Гуляем, – задаволена працягнуў гаспадар палаты, яшчэ больш ашчэрыўшы зубы. – Праходзьце, Зянонаўна, сядайце з намі.

– А гэта хто, новенькія? – запыталася Зянонаўна, ківаючы на залётных.

Асцярожліва паглядаючы на цётку, дзяўчына спусцілася са стала на падлогу, пачала зашпільваць гузікі.

– Прывялі, значыцца, – пахітала галавою Зянонаўна. – Музыку, вісусы, цішэй не маглі зрабіць? Па-чалавечы са мною дамовіцца не маглі? Уся больніца на вушах. – І раптам зараўла: – А ну ходу адсюль, пакуль я яшчэ цярплівая!

Мы імгненна выскачылі не тое што з палаты – з тэрыторыі. Як і не было нас там. Петраковы мыліцы адно мільгалі ў мяне паперадзе. Непачатую яшчэ пляшку Пронік спрабаваў быў прыхапіць на хаду, але цётка абсекла ягоны намер умомант:

– За арэнду трэба плаціць! І за кіно!

## III

*Лягу я на зямныя дарогі – колькі па іх прапаўзло і прайшло істотаў! І колькі яны пранеслі па гэтых дарогах суму і радасці!.. Абніму я зямныя дарогі.*

***Кузьма Чорны. “Таворка ўночы ў дарозе”***

*Няма чаго нам, як кату ля гарачага сала, хадзіць.*

*Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая.*

***Уладзімір Караткевіч. “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”***

Пакуль мы гулялі ў спецлякарні, спусціліся прыцемкі.

– Дык дзе начаваць будзем, каталік? – гаркнуў Пятрок. – Калі й тут, з дурнямі нат не ўдалося? І гарэлкі паменела. Мо ўсё-такі пад ялінамі?

Ялінамі ў паветры сапраўды выразна запахла. Я ажно адчуў колкую цеплыню іхніх лапаў у сябе на твары. А спаміж іголкамі – зоркі ў небе, раз на зямлі не давялося сёння зорак нахапаць.

Аднак лёс упарта не хацеў пакідаць нас сам-насам з пустатою. Непадалёку ад установы вырасла на тратуары магутная постаць мужчыны гадоў пяцідзесяці. Высокі ростам, шырокі ў плячах. Штармоўка, джынсы, кірзачы, саламяны капялюш. Доўгія вусы, тыднёвае шчацінне. Чакай – і тут стомлены позірк. Каб з пахмелля, дык не скажаш, але і свежасці асаблівае няма.

Разгаварыліся. Выклалі набалелае.

– Я вас выручу, – суцешыў нас мужчына. – Выпіць ёсць?

– Ёсць, а як жа! – узвіўся Пронік. – А далёка?

– Дзядок тут у мяне ў лесе. У яго нават і прасціны чыстыя знойдуцца.

– Няўжо?

– Галоўнае, каб вы яму налілі. У вас казёнка?

– Казёнка, казёнка! Дык ці ж далёка? – мітусіўся Пронік.

– Ат, лухта! Мо кіламетры з чатыры.

Перад дарогаю, вядома, выпілі. Ідучы, раззнаёміліся. Мужчыну звалі Франэкам. Некалі ён быў трэнерам па акадэмічнай грэблі, а яшчэ раней – майстрам спорту міжнароднага класа, чэмпіёнам СССР, "быў у прызах на Еўропе і свеце". Страціў працу, потым кватэру. Прычына – усё тая ж. З-за чаго ў нас усе беды? Гарэлка засмактала. У Мінску бамжаваць не стаў, перабраўся пад Сівец. Увесну наймаецца да сялянаў, з вялікаю гаспадаркаю ці слабым здароўем у заробкі, узімку прыбіваецца да якога дзядка ці кабеты. Жыць можна, ён асабліва ні на што не крыўдуе. Нават выпіць выпадае. Дзядок, да якога мы ідзем, жыве бабылём у лесе і сам гоніць "ачышчаную", але вельмі ўжо любіць "казёнку", каштаваць якую яму нячаста даводзіцца. Рады дзед нам будзе, вой як рады, ён нас і самагонкаю сваёю пачастуе.

Даведаўшыся, хто я, Франэк згадаў, што ў яго быў добры прыяцель-пісьменнік, з якім ён, на жаль, праз жыццё, што так склалася, даўно ўжо не бачыўся. Багата перагаварылі мы, багата чарак узялі разам, сказаў ён з непрыхаваным смуткам. І прачытаў па памяці ягоны верш, які я добра ведаў, – слова ў слова, з душою.

Я з сумам паведаміў яму, што гэта быў і мой колішні прыяцель – на жаль, чатыры гады назад ён памёр, і ўсё тая ж прычына адыграла немалую ролю ва ўсіх непрыемнасцях, якія выпалі на ягоную долю ў апошнія гады жыцця, а можа і азвалася наастачу заўчаснай смерцю.

Франэк застыў, утаропіўся ў мяне разгубленымі вачыма, поўнымі сабачай тугі, і апусціў на шашу рукзак. Пронік і Пятрок адсталі. Яны ўвесь час спрачаліся (я проста апускаю ўсе гэтыя высвятленні не столькі адносінаў, колькі светапоглядаў).

А цяпер ім зрабілася блага, і, што дзіўна, адначасна – можа, у іх адна на двух была жыццятворная сістэма. Яны застылі ў дзіўных паставах на ўзбочыне, раскарачаныя, і пакутна вызваліліся ад лішняга.

Франэк прыкрыў далоняю вочы.

– Давай памянём чалавека, – сказаў ён дрыготкім голасам. – Вось як яно, жыццё, складваецца. А я яму, ведаеш, чырвонец вінны застаўся.

Памянулі.

Пронік і Пятрок нічога не заўважылі, бо ўсё яшчэ знаходзіліся ў нязручных для назіранняў паставах. Спробы свае ачысціцца яны агучвалі крыкамі – ці то пераможнымі, ці то паразнымі. Раптам са шчакі ў Франэка ўпала слязіна. Яна сустрэлася з асфальтам цяжка і гучна, як кропля, што прабівае камень.

І ў той самы момант пачуўся чарговы выкрык.

Чым больш ішлі, тым больш цямнела, і тым менш прамаўлялася словаў. Лясныя сцяжыны рабіліся ўсё больш пакручастыя, а кіламетраў мы наматалі ўжо пэўна больш як чатыры абвешчаныя – і як толькі Пятрок трываў?

На караблі наспяваў бунт. Я, так бы мовіць, камандор, маўчаў, а вось каманда...

Матросы, хоць і стомленыя, выпраўлялі плечы, тым больш што зведалі палёгку, і скосу пазіралі на штурмана.

Нарэшце той абвясціў, што, мабыць, крыху заблукаў, і яму, каб у мазгох прасвятлела, трэба крыху асвяжыць розум.

А я якраз перад тым правёў выпрабавальны манеўр. Заўважыўшы раптам, што я ўвесь апошні час чамусьці іду паперадзе, я збочыў. Збочыў і павадыр.

– Куды ты нас вядзеш, падла? – зароў Пятрок.

– Да дзеда.

Я адышоў крыху воддаль і прылёг на траву. Глядзеў у зорнае неба і чакаў, чым усё гэта скончыцца.

– Дык дзе той дзед? – закрычаў Пронік. Усё роўна як не ён вадзіў мяне з Петраком па Сіўцы.

– Кажу табе: у лесе.

Пятрок аж узвыў.

– Мачыць яго будзем, – вынес раптам прысуд Пронік. – Мачыць!

– Як – мачыць? – разгубіўся, нягледзячы на ўвесь свой шал, на ўсё сваё крымінальнае мінулае, Пятрок.

І мне неспакойна зрабілася. Я прыўзняўся.

– Моўчкі, – цвёрда сказаў Пронік. – Трыбунал вырашыў.

– Ты хоць можаш сказаць, дзе мы цяпер знаходзімся? – з апошняй надзеяй спытаўся ў яго Пятрок.

– У лесе.

– Бачу, што не ў стэпе, – усміхнуўся Пронік. – Лінч табе зараз будзе.

– Што? – перапытаў Франэк.

– Ты, мабыць, дрэнна вучыўся ў сваёй фізкультурніцкай семінарыі. Маліся – ясна? – Стары стырнавы пагрозліва насоўваўся на свайго пераемніка.

– Ну, ну... не трэба, у натуры, – сунімаў яго Пятрок. – Няхай сунецца, ёлуп, куды хоча. Мы ўжо як-небудзь тут перакантуемся.

– Дзе ты кантавацца збіраешся? Тутака?

– Ну...

– Што – ну? Кажу табе – мачыць будзем. Ідзі, – загадаў Пронік Франэку. Той пакорліва пасунуўся ўперад у нікуды. – Дык дзе мы хоць, Маісей, прыблізна знаходзімся? Дзе тут вёска якая? Ці мо скажаш, што заблудзіўся? Шукай дурняў! Ты ўсё тут ведаеш, вадзіў нас, каб гарэлку дажлукціць, а там – была ні была. Ідзі, змей! Будзе табе і лінч, будзе табе і клінч. Глядзі, – ажывіўся Пронік, – масток!

Перад намі і праўда быў масток, а пад ім – рачулка.

– Смехавічы непадалёк, – панура сказаў Франэк ужо ля самага мастка.

– Смехавічы, кажаш? Ідзі, ідзі. Будуць табе зараз Смехавічы.

На мастку маленькі Пронік, як толькі Франэк, дайшоў да сярэдзіны, імкліва схапіў таго за ногі і – я ажно дзіву даўся – перакуліў праз парэнчы. Праз які момант небарака ўжо бухтаўся ў вадзе.

Рачулка была, на шчасце, не такая ўжо й мелкая – інакш Франэк пэўна пераламаў бы сабе як не шыю, дык нагу ці руку.

– Плавай, грабляр! – крыкнуў яму ўніз Пронік. – Можа, вёслы падкінуць – ці так выплывеш? Я ж казаў, – зарагатаў ён, – мы яго тут замочым!

– Навошта ты так? – запытаўся ў яго Пятрок.

– Няхай не водзіць. Хадзем.

– Куды? Ты сам Сусанін. Годзе. Хопіць ногі мучыць. Заначуем тут. У натуры. Не зіма – не змёрзнем. Глядзі, як цёпла. Гарэлкі зараз глынем.

– Пад ялінамі? А з чым у госці прыйдзем?

– У якія, бляха, госці.

– Гэты ж сказаў, што Смехавічы непадалёку. У мяне ў Смехавічах Зэнэк жыве. Сябра мой Зэнэк! – мала не праспяваў Пронік. – Будзе мне рады!

Я ўбачыў, як Франэк, выбраўшыся з вады, знік у лесе па-ангельску.

Як гэта ні дзіўна, Пронік вёў нас упэўнена, і ўжо неўзабаве мы апынуліся ля краю вёскі.

– Вось яны – Смехавічы. Я па скрайняй хаце пазнаю. Тутака Фэлька жыве. А вунь тамака – Лёдзя. А мы дак да Ядзі. Гэта Зэнэкава маці.

Такая ўпэўненасць надала мне з Петраком імпэту.

– Ну вось і прыйшлі, – паведаміў нам Пронік, як толькі мы параўняліся з, мусіць, самай пакаселай у вёсцы хацінкаю. – Тутака Зэнэк жыве.

Ён адчыніў веснічкі й прайшоў на двор.

– Адчыні, цётка Ядзя! – пастукаў ён у вакно.

– Ну каго там нясе? – пачуўся з хаты голас кабеты.

– Гэта я – Пронік!

– Хто?

– Ды Пронік гэта! Да Зэнэка прыйшоў.

– Няма Зэнэка.

– А дзе ж ён?

– Да Тамаша пацягнуўся.

– То дзякуй, цётка Ядзя, пайду я.

– Ідзі-ідзі.

Пайшлі на другі край сяла.

– Вунь тутака Тамаш жыве, – сказаў Пронік і паўтарыў усё тыя ж маніпуляцыі.

– Ну хто там прэцца? – пачуўся з хаты незадаволены голас старой жанчыны.

– А ці ж ёсць у вас Зэнэк?

– А чорт яго ведае, дзе той Зэнэк з маім Тамашом цягаюцца! Лепей бы Зэнэк твой і не прыходзіў. Як ні зойдзе, усё хлопца звядзе, вісус, не дасць спакою ні ўдзень, ні ўначы. Папёрліся, мусіць, у Дурдуны.

– У Дурдуны, кажаце?

– У Дурдуны.

– А да каго ж гэта?

– А скуль мне ведаць? Свіння гразі заўсёды знойдзе.

Пасля гэтага адказу цішыня запала проста мёртвая. Мярцвячая цішыня. Усё. Канец. Здавалася, чуваць было, як тахкае ў Петрака сэрца.

І тут грымнуў пярун, блісканула маланка, а ўжо праз які момант пасек дождж.

Мы агледзеліся. Убаку ад вёскі, цераз поле, віднелася доўгая будыніна, у вокнах якой гарэла святло.

– Ферма! – радасна абвясціў Пронік. – Бяжым туды!

Дождж, моцны ад самага пачатку, узмацняўся з кожным імгненнем. Думаць не было калі. Мы кінуліся бегчы цераз поле. Тое было ўсё ў калдобінах, і не тое што Пятрок, а і я, і Пронік спатыкаліся й падалі. Нарэшце, змоклыя дашчэнту, дабеглі да дзвярэй, высокіх, шырокіх, ці не ва ўсю сцяну. Яны былі расчыненыя.

Перад намі распасцерлася шыкоўная панарама: доўгі праход, а ўздоўж яго, адна за адною, кожная ў сваім стойле, каровы.

– А тут, я гляджу, як пастарацца, дык і закусіць можна, га? – весела выкрыкнуў Пронік.

Дык вось куды закінуў нас нарэшце вецер вандроўкі!

А зрэшты, усё роўна, падумаў, мабыць, ужо кожны з нас – абы дах над галавою.

У канцы праходу, ля самае сцяны, стаяў воз, накрыты саломаю. Канец ягоны ўпіраўся ў крайняе стойла. Там мы і прылеглі.

– А ці ёсць тут? – запытаўся я ў Проніка, накрываючыся саломаю.

– З людзей?

– Ну так.

– Вартаўнік мусіць быць.

– Ну дык. І дзе ж ён?

– А ліха яго ведае. Адпачывае, мабыць. Рыхтуецца да выканання сацыялістычных абавязкаў. Давай лепш вып'ем. За ўдалы фініш. Каб цяплей было. А ты казаў, пад ялінамі! – паўшчуваў ён Петрака. – Ведаць мусіш: са мною не прападзеш. Палову зараз каўтанем, з дажджу на ноч сагрэцца, а другую на сняданак пакінем. У мяне якраз два яблыкі ёсць. Адно зараз, другое ўранку.

Дождж неўзабаве сціх, але ўвесь час у кароўніку свістаў вецер і дзьмула халадам. Багата, відаць, дзірак было ў сценах, у чым я ўранку і ўпэўніўся.

Снілася, што нагу мне, чамусьці нагу, цалуе пяшчотна жанчына. Мабыць, кабета каталіцкіх паводзінаў, якую хоць у сне прычакаўся. Пачуццё было такое салодкае, што я не вытрымаў і прачнуўся. У мяне задзерлася калашына, і карова лізала аголеную лытку.

Світала. Разам са мною расплюшчылі вочы таварышы-вандроўнікі.

– Ну што, пойдзем? – прапанаваў я.

– А то ляжаць тутака будзем! – падаў голас Пятрок. – Вернецца вартаўнік, скажа, што спёрлі чагось. Салому пакралі.

– Якой сам накраў тону і за пляшку мутнай прадаў, – аказаўся Пронік. – Пахмяліцца б зараз, а то нешта калоціць – ці то з холаду, ці то з бадуна.

Узняліся, атрэсліся й пайшлі з кароўніка...

Поле вакол. Калгаснае. Шырачэзнае. Сонца. Ужо чырвонае, цёплае.

– Глядзі! – сказаў раптам Пронік, паказваючы рукою ўбок. На зямлі ляжаў чалавек.

– А ёж..! – сцямнеў з твару Пятрок і адразу агледзеўся, ці ёсць яшчэ тут хтось. – Няўжо... мёртвы?.. Во будзе, як прыпаяюць нам! Давай ходу адсюль! Тут табе ўжо не саломаю пахне.

– Чакай! – спыніў Пронік Петрака, які ўжо прыналёг на мыліцы. – Паглядзець хоць трэба, што з ім.

Падышлі да чалавека. Пронік прысеў на карачкі й прыклаў вуха да грудзей чалавека.

– Дыхае, – з палёгкаю абвясціў ён.

– Адпусціла, – пахітаў галавою Пятрок і сплюнуў.

– Мокры ён зусім, – сказаў Пронік. – Няўжо ўсю ноч так на зямлі й праляжаў?

– Дык што гэта з ім? – зноў занепакоіўся Пятрок. – Мо прыступ які? Зноў клопату не абабрацца. Навешаюць на нас гэную салому!

Пронік агледзеў чалавека..

– Гэта вартаўнік, мабыць, – сказаў ён і кіўнуў на кішэню ягонай ватоўкі. З тае тырчэла пляшка каламутнай вадкасці, запхнутая згорнутым з газеты тычком.

Я звярнуў увагу на тое, як дзіўна былі скручаныя ў чалавека пальцы на руцэ, што ляжала на грудзёх: не ўсе пяць або хоць бы чатыры, апрача вялікага, як гэта можа зазвычай быць, а чамусьці толькі два сярэднія – астатнія тры былі выпрастаныя.

– Ведаю я, што гэта за прыступ, – усміхнуўся Пронік. – Зараз ён у мяне ачухаецца, змагар за калгасную долю!

На нашую размову чалавек ніяк не рэагаваў – быў з выгляду і праўда што мёртвы.

Пронік дастаў з кішэні ў чалавека пляшку, адкаркаваў яе і прыклаўся да рыльца. Выразна пачулася бульканне.

Сярэднія пальцы ў чалавека распрасталіся, і ён, не расплюшчваючы вачэй, працягнуў да Проніка дрыготкую руку:

– Дай.

Ашалець было можна.

– Гэта ў яго пальцы ад пойла скруціла, – растлумачыў нам Пронік і працягнуў чалавеку бутэльку: – Лячыся. А Дурдуны, гэта ж побач зусім са Смехавічамі... Глядзіце.

У другім канцы поля таксама раскінуліся пакаселыя хаты.

На самым ускрайку ўжо гэтае вёскі раскінулася будыніна, бадай ці ж не адна крыху тут дагледжаная.

Над ладнымі дзвярыма красавалася шыльда:

“Дом агітатара калгаса «Шлях перамогі»”.

*(На гэтым рукапіс абрываецца.)*

СЛОВЫ

Сяргей Шапран



...самае галоўнае – гэта тое,
што адбываецца з людзьмі,
з кожным з нас паасобку...

# Пачуць літаратуру ў звычайным жыцці

## *Гутарка з нобелеўскім лаўрэатам Святланай Алексіевіч*

*– Стаўшы нобелеўскім лаўрэатам, Вы, Святлана Аляксандраўна, працяглы час казалі, што не абжылі гэты новы стан. Але цяпер, амаль праз чатыры гады, ужо, відаць, не можаце так сказаць?*

– Усяго тры гады прайшло, чацвёрты толькі пачаўся, не такі ўжо вялікі тэрмін... Я стараюся быць роўнай сабе самой і не здрадзіць ні сабе, ні сваім уяўленням і перакананням. У чымсьці я па-ранейшаму веру ў чалавека, у чымсьці... Вядома, хвіліны адчаю ў мяне таксама здараюцца – усё ёсць, як і ва ўсіх... Не магу сказаць, што нобелеўскае лаўрэацтва – гэта нешта асобнае ад мяне. Адзінае, што адчуваеш большую адказнасць за свае словы.

*– Вы не раз наракалі, што сталі жыць пасля Нобелеўскай прэміі не сваім жыццём. «Ляціш самалётам і шчыра размаўляеш з чалавекам, а заўтра чытаеш гэта на сайце радыё “Свабода”.*

*Або табе тэлефануе хтосьці з сяброў, а потым бачыш гэтую гутарку на старонках “Народнай волі”», – гаварылі Вы. У гэтай сувязі ўспамінаецца такі эпізод з жыцця Льва Талстога: калі ў Яснай Паляне гасцявалі сястра жонкі Льва Мікалаевіча, то літаральна ўсе – і яго жонка, і яго літаратурны сакратар, і дачка Таццяна, і яе муж, і хатні лекар, і заезджыя госці – хто ў сшытках, хто на асобных лістках паперы старанна фіксавалі размовы з вялікім пісьменнікам...*



*Святлана АЛЕКСІЕВІЧ.*

– Але вось з многімі выказваннямі Талстога мы сёння не згодныя. І мне вельмі шкада Соф’ю Андрэеўну, да якой, як мне здаецца, Леў Мікалаевіч быў несправядлівы... Усё ж свет такі вялізны, і наколькі ні быў бы вялікі чалавек, ён усё роўна толькі маленькая часцінка гэтага свету.

*– Аднак я меў на ўвазе саму камічнасць сітуацыі.*

– Ну так, трэба быць асцярожным... (*Алексіевіч усміхаецца.*) Ну, падумаеш, хтосьці мне не падабаецца!.. Вось я неяк сказала, што не вельмі люблю аднаго пісьменніка, і тут жа ўзняўся шум: «Ах, Алексіевіч сказала!..» Ну, падумаеш – сказала! Гэта ўсяго толькі маё меркаванне, і гэта зусім не значыць, што яно – галоўнае... (*Алексіевіч смяецца.*)

*– З пэўнага моманту я паспрачаўся б...*

– Не-не, я цвяроза гляджу на гэтыя рэчы.

*– Святлана Аляксандраўна, прашу мне дараваць, але некаторыя пытанні будуць крыху запозненымі, аднак мне і сёння было б цікава пачуць Вашыя адказы на іх. І вось адно з іх: Іосіф Бродскі, выступаючы з нобелеўскай прамовай, казаў пра няёмкасць, збянтэжанасць ад таго, што на гэтай трыбуне ён, а не Восіп Мандэльштам, Марына Цвятаева, Роберт Фрост, Ганна Ахматава, Уістан Одэн. «Гэтыя цені бянтэжаць мяне пастаянна, бянтэжаць яны мяне і сёння, – казаў Бродскі. – Ва ўсялякім выпадку, яны не заахвочваюць мяне да красамоўства. У найлепшыя свае хвіліны я здаюся сабе быццам бы іх сумай, але заўсёды меншай, чым любая з іх, паасобку».*

*Вы ж, даведаўшыся пра прысуджэнне Вам Нобелеўскай прэміі, яшчэ падчас першай прэс-канферэнцыі ў рэдакцыі «Нашай Нівы» міжволі ўспомнілі Івана Буніна і Барыса Пастарнака. Але вось калі пазней выступалі з нобелеўскай прамовай, якія, карыстаючыся вызначэннем Бродскага, цені мінулага бянтэжылі Вас? І ці бянтэжылі?*

– Сапраўды, перш за ўсё ўспамінаюцца ўсе нобелеўскія лаўрэаты, якія пісалі на рускай мове, паколькі гэта ўсё вялікія пісьменнікі. І потым, я шкадавала, што прэмію не атрымалі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, што было б справядліва...

Зрэшты, тут важна вось яшчэ што – каб цені вялікіх не прыгняталі, а, наадварот, давалі пачуццё свабоды. Каб яны спараджалі жаданне ісці далей і спрабаваць рабіць нешта іншае, новае, а не хадзіць па адным і тым жа коле, пастаянна натыкаючыся на саму сябе. Таму і хачу зрабіць вось гэтыя дзве кнігі: пра каханне і пра смерць. Мяне даўно цікавяць гэтыя метафізічныя, ірацыянальныя рэчы, якія мы не здольныя зразумець. Мне хацелася б ведаць, што сучасны чалавек думае пра гэта? Пра што ён здагадваецца? Чаго баіцца? І якія забабоны існуюць у гэтай

сувязі ў нашым сённяшнім дні?.. Ва ўсялякім выпадку, калі чытала, як сыходзілі ў нябыт Старажытны Рым ці Рэч Паспалітая, мне кожны раз не хапала кніг, у якіх гаварылася б пра тое, што адчувалі людзі, калі разбураўся іх свет. І як у гэты час ратаваўся, за што, за якія апоры чапляўся чалавек – той самы чалавек, якога мы называем вечным? Бо самае галоўнае – гэта тое, што адбываецца з людзьмі, з кожным з нас паасобку. Адсюль і мая цікавасць да тэм кахання і смерці... Так што, паспрабуем прайсці цяпер яшчэ адзін шлях.

*– Увогуле, фармальнай падставай для гэтай нашай сустрэчы з'яўляецца тая акалічнасць, што нумар «Дзеяслова», дзе і будзе апублікавана наша з Вамі гутарка, – соты, і ў ім будуць прадстаўлены перш за ўсё аўтары самага першага нумара. У тым жа даўнім 2002 годзе ў «Дзеяслове» былі надрукаваны два аповеды з Вашай дагэтуль незавершанай кнігі «Чароўны алень вечнага палявання» (у «Дзеяслове» яна была названая «Чароўны алень вечных ловаў»). Вы самі не раз прызнавалі, што пішаце падоўгу. Але вось гэтая Ваша кніга бясспрэчны рэкардсмен – Вы працуеце над ёй больш за дваццаць гадоў. Даўжэй толькі Гётэ пісаў свайго «Фаўста» – шэсцьдзясят гадоў!*

– Вельмі не проста сабраць гэтую праўду, яе аскепкі. І нават аднойчы пагаварыўшы з чалавекам, вы ніколі адразу не збераце нават кавалак для кнігі – вы павінны будзеце зноў і зноў прыходзіць да чалавека, а колькі размоў па тэлефоне, колькі лістоў!..

Я даўно ўжо думаю пра гэтыя дзве кнігі, але асабліва ў кнізе пра каханне так цяжка выскачыць з канона і прапанаваць новае прачытанне гэтай вечнай тэмы! Тым больш што я вывучаю не ўвогуле абстрактнага чалавека, а чалавека, побач з якім жыву. А ён вельмі змяніўся за апошнія дваццаць гадоў. Прыватнае жыццё, пра якое мы раней так грэбліва адгукаліся, набывае для яго ўсё большы сэнс. І чалавек не прыкрываецца ўжо ніякай ідэяй, а шукае сэнс свайго ўласнага жыцця, спрабуючы адказаць на пытанні: што ж гэта такое – быць шчаслівым? З чым ты пойдзеш з гэтага жыцця? Што будзеш успамінаць у апошнія хвіліны?.. «Ведаеце, што я згадаю перад смерцю? – сказаў мне адзін таксіст, калі мы загаварылі пра гэта. – Згадаю, як піў віно з жаночага туфліка!» Кожнаму, вядома, будзе ўспамінацца нешта вельмі асабістае.

*– Спявак Леанід Барткевіч згадваў, як, гасцюючы ў заснавальніка тэлеканала CNN Тэда Цёрнера, заспяваў песні з «песняроўскага» рэпертуара і расчулены гаспадар заплакаў. «Каханне і шчасце за грош не купіш, – казаў ён у парыве шчырасці. – У мяне ёсць усё: і грошы, і ўлада, але я не ведаю, для чаго мне ўсё гэта». У той час медыямагнат разводзіўся са сваёй жонкай – славутай кінаактрысай Джэйн Фондай.*

– Або вось Малашэнка нядаўна скончыў жыццё самагубствам [Ігар Малашэнка – адзін са стваральнікаў расійскай тэлекампаніі НТБ. – *С. Ш.*]. Гэта быў сапраўды вельмі цікавы і разумны чалавек – я крыху ведала яго... І вось таксама, бачыце... Шчасце... Ніхто не вучыў нас быць шчаслівымі. Я нават не ведаю, ці можна гэтаму навучыць?.. Мне хацелася б скласці пошукі кожнага ў цемры ў нейкую адну агульную карціну. Пошукі шчасця.

*– Міжволі ўзгадалася, як мы гутарылі з Вамі год таму, і Вы сказалі, развітваючыся: «Калі б Вы ведалі, якая цяпер у мяне цікавая праца на стале!» Вочы Вашы свяціліся ў тую хвіліну. Вы пэўна ж гаварылі пра гэтую будучую кнігу?*

– Так-так, вядома.

*– Тым не менш яе фінал...*

– Не, гэта пакуль яшчэ далёка, вельмі далёка... Цяжка адарвацца ад сябе ранейшай... Разумееце, гэта павінен быць іншы слоўнік, іншая мова, іншы інструментар. А я пакуль застаюся закладнікам сваіх ранейшых кніг... Я нібы ў кокане, з якога трэба вырвацца. Але для гэтага мне не хапае адзіноты.

*– Якой пасля Нобелеўскай прэміі стала, канечне, менш?*

– Так, замала...

*– Калі рыхтаваўся да гэтай сустрэчы, даведаўся, што, яшчэ толькі падыходзячы да будучай сваёй кнігі «У вайны не жаночы твар», Вы сабралі першыя дзевяць апавяданняў і не ведалі, што з гэтым рабіць, і цэлы год потым чыталі ўсё, што было напісана пра вайну, каб скласці свой погляд на вайну.*

– Я збірала тады светапогляд вайны, але вайны мужчынскай.

*– Іншы на Вашым месцы тут жа выдаў бы гэтыя апавяданні, не клапоцячыся ні пра які светапогляд.*

– Не, мне нецікава так працаваць, бо так працаваць можна бясконца... Мне потым гаварылі, што я магу ўсё жыццё пісаць-дапісваць «У вайны не жаночы твар» – пакуль не памрэ апошняя франтавічка... Вядома, нейкія новыя дэталі з'явіліся б, але толькі не новы светапогляд... Не-не, вядома. Гэта ўсё працяглая праца і доўгія, напружаныя разважанні.

*– Але цяпер Вы працуеце паралельна адразу над дзвюма кнігамі?*

– Ну, пакуль так, пакуль я думаю... Гэта ўпершыню так – амаль паралельна... Я думала пра «Чароўнага аленя вечнага палявання» яшчэ тады, калі рабіла ваенную кнігу, але, дзякуй богу, што не напісала яе, паколькі гэта будзе зусім іншая кніга, чым думалася спачатку... Калі б я зрабіла яе тады, зрабіла тым чалавекам, якім была раней, кніга спазнілася б у гэтым часе.

*– А ў Вас ёсць адчуванне, што кніга павінна з'явіцца менавіта ў гэты час, не раней і не пазней?*

– Не, кнігу заўсёды трэба рабіць як бы ўвогуле. Не тое, што на ўсе часы... (*Алексіевіч усміхаецца.*)

*– Вось, напрыклад, «Радзіва "Прудок"» вельмі да часу аказалася напісана Горватам.*

– Так, я чытала яе. Гэта выдатная рэч, і, думаю, што паўтарыць яе ніколі ўжо не ўдасца – хай ніхто нават не спрабуе. Ёсць рэчы, якія можна зрабіць толькі аднойчы. Вось гэта тое, што называецца кнігай Горвата. Хоць яна і ўкладваецца ў сістэму так званай вясковай прозы, але ўсё роўна Горват стаўся ў чымсьці першы, паколькі інакш паглядзеў на пэўныя рэчы...

Сёння чалавек вельмі шмат разважае пра сябе і сваё жыццё, і яму патрэбны ў гэтых пошуках нейкія кропкі апоры.

*– Вы кажаце пра Горвата ці...?*

– Не-не, пра кнігу аб каханні.

*– У сувязі з тым, што фінал працы не блізкі, успомніўся аповед Вашай перакладчыцы на шведскую Кайсы Эберг-Ліндстэн – яна была ў жаху, бо, пераклаўшы адну частку, чакала ад Вас наступную, аднак замест яе атрымлівала старую, але пераробленую. І так – тры гады. Па яе словах, праца была цяжкая і па-свойму неверагодна цікавая.*

– Разумееце, пакуль чалавек жыве і вы з ім размаўляеце, паставіць кропку ў вашай размове немагчыма – гэта бясконцы працэс, паколькі пра адну і тую ж рэч ён у іншы раз раскажа, магчыма, больш дакладна, бо шмат думаў пра гэта потым, пасля вашай сустрэчы, і ў яго адбылося ўнутры разняволенне, у выніку якога ён здолеў «дастаць» з сябе больш «матэрыялу»... Гэта ўсё досыць тонкая і складаная праца...

Я вось нядаўна з цікавасцю праслухала лекцыю Дзмітрыя Быкава – якога вельмі паважаю – пад дзіўнай назвай «Действительно ли документальная проза Светланы Алексиевич подрывает российские скрепы» (*Алексіевіч усміхаецца.*) Я лічыла, што гэтая істэрыя ў рускай культуры вакол майго імя ўжо скончылася, але аказалася, што не.

*– Дык ці падрываюць Вашы кнігі «русские скрепы»?*

– (*Алексіевіч смяецца.*) Быкаў прыходзіць да дваякай высновы: быццам бы, так, а быццам, і не; быццам, я – пісьменнік, а быццам, журналіст. Неяк усё ў ім самім няпэўна... Але самае галоўнае, што мяне здзівіла, – ён так і не зразумеў, што я зрабіла – пра што гэтыя кнігі. Ён не зразумеў, што гэта гісторыя нашага жыцця пры Утопіі, і ўспрыняў іх на ўзроўні журналісцкай працы. Таму і не зразумела, пра што ён сам кажа. Адным словам, дзіўная лекцыя... (*Алексіевіч усміхаецца.*)

Некаторым сапраўды здаецца, што рабіць тое, чым я займаюся, вельмі проста: паслухаў чалавека, запісаў, расставіў знакі прыпынку і – усё.

*– Прыгадалася, як Зміцер Плакс, які рыхтаваў п'есу па Вашай кнізе «Час сэканд-хэнд», пасля распавядаў: «Калі я пачаў працаваць з яе тэкстамі, я зразумеў, што там перароблена ўсё – ад пачатку і да канца. Гэтая мова яе цалкам выдуманая, цалкам сінтэтычная. Калі ты спрабуеш разбіць гэта на дыялогі – людзі так не гавораць. Гэта ты заўважаеш толькі тады, калі пачынаеш працаваць з яе тэкстамі, гэта геніяльна зроблена. За адно гэта можна даваць Нобелеўскую прэмію».*

– У звычайным жыцці чалавек так, вядома, не гаворыць – у штодзённым побыце яму хапае банальнасцей. Але я займаюся – займалася, ва ўсялякім выпадку да гэтага часу – чалавекам, які быў або каля смерці, або ў стане любові, а ў гэтым стане людзі кажуць надзвычайна. Не ўсе, вядома, але многія, таму што гэта стан, калі чалавек нібы вырастае, быццам на дыбачкі становіцца і дастае з сябе ашаламляльны матэрыял... Толькі гэтую тканіну трэба саткаць з вялізнай колькасці слоў, якія яны мне нагаварылі.

*– Дадаў бы, што існуюць яшчэ памежныя станы, акрамя як побач са смерцю або ў каханні. Калісьці я пазнаёміўся з акцёрам Іварам Калныньшам, які ўразіў мяне неверагоднай шчырасцю. Калі ж праз пару гадоў я зноў рыхтаваў з ім інтэрв'ю, то ўбачыў зусім іншага чалавека – негаваркога і закрытага. Прычына перамены неўзабаве высветлілася: калі толькі пазнаёміўся з Іварам, ад яго сышла жонка; калі размаўляў праз час – жонка вярнулася, і ўсё ў яго жыцці было добра.*

– Так-так, Вы патрапілі якраз у той стан, які я шукаю. А я заўсёды шукаю ўзрушанага чалавека. І Калныньш не столькі з Вамі размаўляў, колькі сам з сабою... Я шукаю такога чалавека, у такім стане, паколькі тады ён можа дастаць з сябе шмат такога, пра што іншыя людзі, магчыма, нават не здагадваюцца. Можа, нават літаратура не здагадваецца...

*– Святлана Аляксандраўна, прабачце за наіўнае пытанне, але Вам вядома творчае натхненне?*

– Ну канечне! Вы вось паспрабуйце нешта напісаць, не вельмі выразна афарміўшы думку, якая Вас усхвалявала, – і калі Вы праз нейкі час паспрабуеце яе расшыфраваць, у Вас нічога не атрымаецца, бо гэтая электрычнасць ужо сышла. Гэта і ёсць натхненне.

*– Між тым хацеў бы яшчэ згадаць Вашага настаўніка Алеся Адамовіча і яго тэрмін «звышлітаратура», які многія палічылі тады ўражвальным: у адным са сваіх артыкулаў Адамовіч успамінаў Дастаеўскага, яго ўзрушэнне на Сямёнаўскім пляцы, калі жыццё, здавалася, не проста заканчвалася – абрывалася. Потым, па словах Адамовіча, варыянты гэтага перажывання пераходзілі з рамана ў раман Фёдара Міхайлавіча – «пакутлівае самаўглядання асуджанага чалавека».*

– Так-так, вось гэты хуткапіс яго маўлення...

*– Але, працягваў Адамовіч, у Дастаеўскага гэта адна геніяльная гісторыя на ўсю кнігу, у Вашых жа кнігах падобных гісторый мноства. І калі прадоўжыць гэтую думку Адамовіча, лагічна прыйсці да высновы, што, можа быць, Вашы кнігі і ёсць тая самая звышлітаратура?*

– Я называю гэта раманам, сабраным з чалавечых галасоў. Гэтак жа кампазітар выбірае гукі з хаосу, які яго акружае. Аднак не думаю, што гэта звышлітаратура – тут трэба быць больш сціплым... Гэта не звышлітаратура, а нейкая іншая літаратура,

што спрабуе расказаць пра пэўныя рэчы, пра якія звычайнай формай аповеду распавесці немагчыма і нават несумленна. Таму і ідзеш ад галоўнага – ад самога чалавека, якому паверыць любы, паколькі ты ідзеш ад непасрэднага сведкі... Мы ўжо не верым носьбітам нейкіх ідэй, таму што шмат разоў былі расчараваныя і ашуканыя. А вось сведку мы верым, асабліва калі такіх сведкаў мноства. Адзін можа і схлусіць, а калі сведкаў многа, дамагаешся ўжо нейкага вобраза падзеі і часу, пра якія яны распавядаюць.

Аднак тут таксама трэба быць заўсёды напагатове, бо, распавядаючы, людзі ўсё адно твораць – кожны падае сваю версію. І пісьменнік павінен быць вельмі ўважлівым, з велізарнай інтуіцыяй, ён павінен чуць гэты фальш. Але, дзякуй богу, хоць нарадзілася я ў горадзе, але ўсё юнацтва пражыла ў вёсцы, і таму ў мяне цвярозае стаўленне да жыцця – мяне ж вёска выхавала, і я чую любы фальш, я памятаю гэтыя вясковыя аповеды, ведаю, як гавораць людзі, чыё жыццё было знішчана. Яны, гэтыя людзі, хоць і жылі, але гэта было ўжо згаслае пакаленне.

*– Увогуле, цікава, што застанецца – і ці застанецца? – ад нашага часу? У кагосьці вычытаў: сённяшняе маладое пакаленне не пакіне пасля сябе практычна нічога – ні ўспамінаў, ні нават почырку. Дакладная заўвага ў эпоху інтэрнэту...*

– Так, толькі нейкае мігаценне сэнсаў, усё такое лятучае, эфемернае... Людзі раней існавалі зусім у іншым часе і ў іншай прасторы. І я сама з вялікай цяжкасцю адваёўваю хоць бы рэшткі ранейшага рытму для працы, але рабіць гэта ўсё складаней.

*– А калі Вы ўсё ж знаходзіце час для працы?*

– Пасылаю ўсё да д’ябла і ўцякаю за горад. (*Алексіевіч смяецца.)*

*– А тэлефон? (У гэты момант нечакана зазваніў тэлефон Алексіевіч, і мы дружна засмяяліся.*)

– Я дастаткова жорсткі чалавек, калі гаворка ідзе пра захаванне самой сябе... Увогуле, я стамілася ад сябе ранейшай і хачу пра іншае думаць, іншае рабіць, але ніяк не магу вырвацца – мяне ўвесь час цягнуць у маё мінулае жыццё!

*– Але гэта таксама, мусіць, своеасаблівая плата за Нобелеўскую прэмію.*

– Ці то за прэмію, ці то за жыццё – не ведаю... За ўсё разам, відаць... (*Алексіевіч усміхаецца.*) Сапраўды, каб нейкія рэчы сур’ёзна абдумваць, патрэбна адзінокае спакойнае жыццё, а тут проста нейкая віхура!

*– А калі Вашае жыццё было больш шчаслівым – да Нобелеўскай прэміі ці пасля яе?*

– Уласна, я не бачу асаблівых перамен, паколькі на мяне гэтыя знешнія рэчы не робяць такога ўжо вялікага ўражання.

*– Маю на ўвазе, што Вы сталі больш запатрабаваны.*

– Неяк ўжо даўно няма часу. Але цяпер, вядома, гэта проста суцэльнае вар’яцтва! Вельмі цяжка да працы прарвацца, ніяк не атрымліваецца... Вось, напрыклад, думаю: заўтра ў мяне нарэшце будзе вольны дзень, але раптам тэлефануе былы аднакурснік: «Света, прыязджае Галя!..» (Галя – гэта маці Дзіяны Арбенінай, якая прыязджае ў Мінск з канцэртам; мы сябравалі ў часы студэнцтва.) Я пытаюся: «Што ты хочаш гэтым сказаць?» – «Давай збярэмся! Я рэстаран замовіў». – «Божа мой, які ты рамантык! Табе на самой справе хочацца ўбачыцца амаль праз пяцьдзясят гадоў?» – «Хочацца», – адказвае ён.

*– І Вы ідзяце?*

– Ну а як? Скажуць, што я такая пагардлівая!.. (*Алексіевіч смяецца.*) Але я не пагардлівая зусім – проста сіл няма... Я ўжо і сумку сабрала, каб з’ехаць за горад... А потым Аляксандр Лукашук патэлефанаваў... [Адносна прэзентацыі кнігі «100 цытатаў на Свабодзе» Святланы Алексіевіч. – *С. Ш.*] Акрамя гэтага, прыязджае яшчэ перакладчыца з Бразіліі... Вось гэта і ёсць маё жыццё.

*– Аднак калі вярнуцца да Вашай Нобелеўскай прэміі, да цырымоніі яе ўручэння.*

*Тады, у Стакгольме, Вы парушылі многае з таго, што можна было парушыць: не апранулі сукенку; падчас святкавання выступалі не з падзякай, а зноў гаварылі пра эпоху «чырвонай імперыі» і маленькага чалавека, свайго героя, ахвяру марксісцкай лабараторыі светлай будучыні...*

– А Вы чулі, як прымала публіка? Шведы сустрэлі прамову проста надзвычайна. Усё ж такі шчырасць заўсёды дзівіць людзей... А наконт сукенкі – калі мне сказалі, што трэба быць у дэкальтэ, я адказала: «Як жа я буду выглядаць, распавядючы пра Чарнобыль ці “цынкавых хлопчыкаў” у дэкальтэ і ў залатых каралях?!» Гэта ўсё ў мяне ёсць – і дэкальтэ, і каралі, але які ў гэтым сэнс? Я была б не я, калі з’явілася б на Нобелеўскай цырымоніі ў такім уборы! А так я засталася сама сабой.

– *І каралі ў Вас ёсць?*

– Ну вядома. Я ўжо дастаткова доўга жыву...

– *Ніколі не бачыў Вас у золаце.*

– Па-мойму, я разы два толькі і надзявала яго.

– *У сувязі з тым, што Вы і ў Стакгольме пайшлі супраць правілаў, як не ўспомніць, што пісаў у сярэдзіне 1980-х у «Литературной газете» Анатоль Казловіч, калі толькі выйшла Ваша першая кніга: «Памятаю яе малодшакурсніцай журфака. Мы, хто быў крыху старэйшым, але ўжо больш упэўненым і нават самаўпэўненым, не маглі не звярнуць увагу на гэтую далікатную дзяўчынку, якая пачынала люта спрачацца, калі гаворка заходзіла пра нашую будучую прафесію. Начытаная, упартая, яна мела пра журналістыку сваё меркаванне, свой пункт гледжання на яе спецыфічныя праблемы. Пасля ўніверсітэта Святлана з’ехала ў Брэсцкую вобласць, працавала ў раённай газеце “Маяк камунізму”. Памятаю, будучы там у камандзіроўцы, я зайшоў у рэдакцыю. Калегі паўжартам, напаўсур’ёзна паведамілі, што Алексіевіч хоча перарабіць газету, нападае на старых журналісцкіх “ваўкоў”: маўляў, трэба больш пісаць пра людзей, а не пра тэхналогіі, важныя чалавечыя лёсы, а не графікі сяўбы і жніва. Святлана ж з сумам казала мне пра тое, што пішацца ёй цяжка, няма сваёй тэмы. Паведаміла, што выкладае вечарамі ў школе. “Навошта? – спытаў я. – Лепш выкарыстоўвай гэты час для галоўнага, пішы нарысы”. – “Не, – сказала яна, – як я магу пісаць, не ведаючы жыцця?..”».*

– (*Алексіевіч усміхаецца.*) Я нават не ведала, што Толя так пісаў пра мяне...

– *Гэта значыць, Ваша непахісная натура яшчэ тады давала ведаць пра сябе?*

– Ну так, у мяне быў вельмі моцны характар. Але я думаю, што без моцнага характару нічога нельга дабіцца ў жыцці па-сапраўднаму. Да таго ж я з настаўніцкай сям’і ўжо ў чацвёртым пакаленні. І доўгі час нават сумнявалася: быць мне настаўнікам ці стаць журналістам? Але, вядома, журналістыка перамагла.

– *Я наогул думаю, маючы на ўвазе Вашы папярэднія настаўніцкія пакаленні, што Вам вельмі пашанцавала ў гэтым сэнсе.*

– Так, яны напрацавалі для мяне... Я Вам зараз пакажу фатаграфіі маіх беларускіх бабы і дзеда, якія ў іх прыгожыя твары!..

– *А дома Вы таксама спрачаліся?*

– Нават не памятаю, але ў школе і потым ва ўніверсітэце так яно і было. Мяне, напрыклад, не пусцілі за мяжу з-за таго, што была незгаворлівай, хоць я атрымала прэмію за найлепшую навуковую працу, дзе ўзнагародай была паездка па замежных ленінскіх мясцінах. Аднак я заўсёды адстойвала сваё меркаванне, якое нярэдка разыходзілася з афіцыйна прынятымі догмамі... Так што спрачацца я сапраўды магла. Але ў мяне і мама была такой, што з ёй асабліва не паспрачаешся!.. Характар! Такая ўкраінка... (*Алексіевіч усміхаецца.*)

– *Гэта значыць, што Вы ў маму пайшлі?*

– Па характары – так, а па розуме і па павазе да чалавека – гэта, вядома, у бацьку... Памятаю, як маці лаялася на яго: «Што ты цэлую гадзіну з прыбіраль-

шчыцай стаяў і размаўляў!» *(Алексіевіч смяецца.)* Яна пашле яго вады прынесці, а ён сустрэне прыбіральшчыцу і доўга будзе з ёй гаварыць – гэта было вельмі маё... Тата вучыўся да вайны ў Камуністычным інстытуце журналістыкі, і мне здаецца, што шмат чаму я ў яго навучылася...

*– Ваша кніга «100 цытатаў на Свабодзе» заканчваецца нечакана – аповедам пра бабулю і пра ўкраінскі перыяд дзяцінства, з дзівоснай чарэшняй і пахамі абмалочанага збожжа і ўкраінскага пылу...*

– Так, дзяцінства ў памяці засталося пахам, бо яблыкі, чарэшня, грушы, алыча – усё на Украіне вельмі моцна пахне. І нават дарожная гразь, з якой ног не выцягнеш. Зямля там літаральна напоена пахамі...

І, вядома, мая ўкраінская бабуля (беларуская бабуля загінула ў партызанах ад тыфу). Разам з ёй я была на ўкраінскіх базарах, дзе ўсе тады былі галаднаватыя і дзе вельмі пахла салам... Пахі пастаянна пераследавалі мяне на Украіне... Я была маленькая, і менавіта бабуля ўсё мне ўпершыню тлумачыла... Памятаю, мы ідзем з ёю ў поле, а яна раптам кажа: «Давай абыдзем». Аказваецца, яна даўно гэтае месца абыходзіць, таму што, кажа, тут пасля вайны немец ля немца ляжаў. Сваіх забралі і пахавалі, а немцаў пакінулі і потым трактарамі перакапалі. Страшная гісторыя... Тады ж я ўпершыню ўбачыла і бязногіх інвалідаў, што каталіся на дошках. Іх яшчэ зневажальна называлі «самаварамі»... Мы сядзелі з бабуляй у вагоне, а ён ішоў і спяваў... Ішоў – дзе ж ён ішоў? Ён ехаў на дошцы з колцамі, а потым яго вынеслі з вагона...

Між іншым, я цяпер узгадала, Вы мяне прымусілі ўзгадаць... *(Алексіевіч усміхаецца.)* Брат расказваў: «Калі ты прыязджала, бабуля, хоць вельмі цябе любіла, але заўсёды была ў жаху, таму што ты раз – і знікла! Бабуля кінецца шукаць, а цябе – няма! Ужо і змяркаецца, як раптам каля дома спыняецца камбайн, і цябе на руках уносіць камбайнёр (а мне тады было гадкі чатыры) і кажа: «Дзе маці і бабця гэтай малой? Якая цікавая дзяўчына! Я такую дзяўчыну яшчэ не бачыў!..» Бабуля часта гэта ўспамінала, казала, што хоць прывязвай мяне! Настолькі жыццё было мне цікавае...

*– І бабуля сапраўды Ваш самы любімы чалавек?*

– Так-так. Мама была больш жорсткая, а бабуля вельмі добрая, вельмі мяккая, прыгожа спявала і сама была вельмі прыгожая. Яна ж зусім маладая засталася без мужа. Памятаю яе аповед, як мой дзядуля – ён быў прыгожы і цікавы чалавек – пайшоў на фронт. Гэта быў 1944 год. Пасадзіўшы дрэвы, ён сказаў: «Я вярнуся, Саша. Чакай мяне» (бабулю клікалі Сашай). І загінуў за паўтара месяцы да заканчэння вайны. Застаўшыся адна з дзецьмі, бабуля ні капейкі не атрымлівала за яго, таму што ён лічыўся прапаўшым без вестак. І толькі нядаўна пошукавік Анатоль Міціненка дапамог знайсці месца, дзе пахаваны дзядуля. Я была рада, што нарэшце даведалася праўду пра гэта. І толькі падумала: як шкада, што ні бабуля, ні мама не дажылі да гэтага часу!..

Я вельмі ўдзячная Анатолю Міціненку, які дапамог мне ў гэтых пошуках, прычым дапамог не мне адной. Думаю, што ў яго гэта пачалося з чагосьці асабістага, як і ў Леаніда Маракова, якога настолькі ўзрушыла гісторыя яго расстралянага ў 1937 годзе дзядзькі – паэта Валерыя Маракова, што тэме сталінскіх рэпрэсій ён потым прысвяціў усю рэшту свайго жыцця.

*– Дарэчы, калі б не Аляксандар Фядута, я таксама наўрад стаў бы займацца быкаўскай тэмай. Гэта Аляксандр Іосіфавіч прапанаваў напісаць кнігу пра Быкава. Не без яго ўдзелу стала даследчыкам беларускай літаратуры і Ганна Севярынец...*

– Так, відаць, у яго ёсць нюх на гэтыя рэчы. У кожнага з нас ёсць нейкі чалавек, які дапамог нам калісьці. Так, на мяне вялікі ўплыў аказаў Алесь Адамовіч. Мяне ўразіла само яго мысленне, тое, як была ўладкаваная яго машына мыслення... Такога ўзроўню пісьменнікаў у нас не было раней, няма і цяпер.

*– І, дарэчы, цяпер выдавецтва «Лімарыус» падрыхтавала кнігу Ганны Севярынец «Вакол Пятра Глебкі», дзе будуць пададзены цалкам унікальныя сведчанні, у тым ліку дзённікавыя запісы Глебкі 1920-х гадоў і зробленыя ў першыя дні пасля смерці Янкі Купалы.*

– Мне дырэктар «Акадэмкнігі» Вольга Глухоўская распавядала, што на мінскім кніжным кірмашы вельмі добра ішла новая кніга Севярынец – ледзь не па сто штук прадавалі кожны дзень! [Гаворка ідзе пра кнігу «Гасцініца “Бельгія”». – *С.Ш.*] Мяне дзівіць яе энергія і яе шчырасць, і я заўсёды з цікавасцю чытаю, як яна піша пра дзяцей. Думаю, яна выдатны настаўнік. Уяўляю, як пашанцавала тым, каго яна вучыць!..

*– Але, Святлана Аляксандраўна, каб падвесці рысу пад ранейшай размовай: памятаю, якія разгараліся спрэчкі ў інтэрнэце, калі варажылі, пра што Вы скажаце ў тыя нобелеўскія дні ў Стакгольме. Вось Вы любіце паўтараць, што Вы – чалавек-вуха. Але тады, восенню 2015 года, Вы бралі да ўвагі спрэчкі вакол Вашага імя, прыслухоўваліся да іх?*

– Не, але я, вядома, слухала і чула. І доўга шукала ход, каб сказаць у гэтай зале па-беларуску – гэта было для мяне вельмі важна. І раптам успомніла гэтую маленькую-маленькую бабулю, якая мяне за вёску праводзіла. І я, вядома, была вельмі рада, што гэтыя яе словы прыйшліся да душы людзям, што яны многіх кранулі.

*– У гэтых словах, несумненна, была прытчавасць, якая і робіць звычайны тэкст літаратурай.*

– Гэта тое, чым я і займаюся, – здолець пачуць літаратуру ў звычайным жыцці.

*– А сама нобелеўская прамова ці цяжка Вам далася? Ці для Вас ад пачатку было відавочна, пра што Вы скажаце ў Стакгольме?*

– Не, я не сказала б, што задаволена гэтай прамовай, паколькі напісаць яе трэба было ў тэмпе, і ў мяне было вельмі мала часу для гэтага. Таму я сказала далёка не ўсё, што хацела. Але спадзяюся, што калі-небудзь усё ж напішу кнігу – своеасаблівы раман пра раман, дзе будуць дзённікавыя запісы і дзе выкажу ўсё, што прадумала за гэтыя трыццаць гадоў.

*– Не аднойчы назіраў Вас падчас сустрэч з чытачамі і кожны раз дзівіўся: як Вас на ўсіх хапае – кожнаму адказаць, кожнаму кнігу падпісаць і, самае галоўнае, кожнаму ўсміхнуцца!*

– Вы ведаеце, без любові да чалавека я б нічога гэтага не зрабіла. Без любові людзі проста не будуць з вамі размаўляць... Вось у мяне іншы раз пытаюць: «А ў Вас ёсць паперка з пытаннямі?» (*Алексіевіч усміхаецца.*) Не, я ніколі не ведаю, пра што буду пытацца – гэта залежыць ад самога чалавека, ад нашага агульнага настрою, гэта залежыць, нарэшце, ад закаханасці адзін у аднаго. У гэтай працы важна ўсё.

*– А Вы бываеце раздражнёнай?*

– Вельмі рэдка. У мяне татаў, роўны характар... Хоць часам усё ж здараецца... Я, напрыклад, пару разоў у жыцці выкідвала тэлефон праз акно, прама праз шкло... (*Алексіевіч смяецца.*)

*– Проста разбівалі акно??*

– Так... Гэткім чынам у жыцці ўсё было.

*– Гэта пасля размовы з кімсьці?*

– Ну, вядома... У мяне не такі ўжо просты характар... (*Алексіевіч усміхаецца.*)

*– А ў Вас не ўзнікае часам адчуванне, як у вядомым вершы Пімена Панчанкі:*

Сягоння не засну,
Мяне так шчыра хваляць,
Як спелую сасну,
Якую хутка зваляць.

*Вас у інтэрнэце – прабачце, што нагадваю пра гэта, – нават двойчы «хавалі». І калі набраць у Гугле Вашае імя, то найперш выскачаць такія фразы-запыты: «Святлана Алексіевіч кнігі», «Святлана Алексіевіч вершы», «Святлана Алексіевіч памерла» і толькі потым ідуць назвы Вашых кніг.*

– Я з цікаўнасцю гляджу на гэта, але не надаю такога ўжо значэння. Тым больш што той італьянец не толькі мяне – ён многіх «хаваў», гэта вядомы правакатар... Мне значна цікавей не пра гэта думаць, а напрыклад, сфармуляваць, знайсці загаловак для кнігі. Для мяне назвы кніг – гэта вельмі складаная, цяжкая праца. Вось паспрабуйце знайсці такі загаловак, як «Час сэканд-хэнд» або «Цынкавыя хлопчыкі», так?

*– Але Вы праглядаеце ўсё, што пра Вас пішуць?*

– Пасля Нобелеўскай прэміі ўжо не так нападаюць, а раней, здаралася, было па чатырыста-пяцьсот водгукаў, дзе як толькі мяне ні называлі! Але я спакойна на гэта рэагую. Я, вядома, чытаю, паколькі мне цікава тое, што называецца масавай свядомасцю. Праўда, гэта не азначае, што я чытаю ўсё запар – проста прагортваю-праглядаю, каб улавіць агульны настрой. Ці вось калі рускія пісьменнікі нападалі на мяне пасля ўручэння прэміі – я тады артыкулаў дваццаць прачытала, прычым прачытала з цікавасцю... (*Алексіевіч усміхаецца.*) А потым пачытала, што пісалі пра Буніна, калі яму далі Нобелеўскую прэмію, і падумала: усё ж такі шалёным сабакам мяне яшчэ не называлі!.. (*Алексіевіч смяецца.*)

*– А Буніна называлі?*

– Кім і чым толькі яго не называлі! Яшчэ і больш страшна было. Або што пісалі пра Бродскага... Калі хочаш быць сумленным і жадаеш заставацца самім сабой, за гэта трэба вельмі дорага плаціць. Так што Вы таксама спакойна стаўцеся да сваіх праблем...

*– А помніце, як Васіля Быкава называлі ў беларускіх газетах і па беларускім тэлебачанні: і «літаратурным паліцаем», і нават «звычайным Іудам»!*

– Так, што толькі ні пісалі, ні казалі! Нават яшчэ ў часы майго студэнцтва. Я ж, будучы студэнткай, таму і паехала ў Гродна на стажыроўку, бо захацела яго ўбачыць. Нам, маладому пакаленню, кнігі Быкава былі цікавыя... Але ён вельмі сэрцам успрымаў усё. Калі я, усё жыццё займаючыся, уласна, вывучэннем масавага мыслення, да ўсяго стаўлюся як да інтэлектуальнай думкі і магу абстрагавацца ад чагосьці негатыўнага, то Быкаў не мог.

*– І па начах спіце спакойна?*

– Так. Што ж я буду з-за гэтага хвалявацца?.. Уяўляеце, калі б «Архіпелаг ГУЛАГ» далі правіць сучаснікам – што ад кнігі засталося б?.. Таму трэба спакойна рабіць сваю справу і рабіць так, як ты сам яе разумееш.

*– Раз ужо мы пра Васіля Быкава загаварылі: некалі на прапанову вядомай серыі «ЖЗЛ» выдавецтва «Молодая гвардия» напісаць пра Васіля Уладзіміравіча я атрымаў такую адмову: «Кандыдатуру В. Быкава кіраўніцтва адпрэчыла па камерцыйных меркаваннях». Гэта пры тым, што Быкава ў Расіі выдаюць-перавыдаюць значна часцей, чым у Беларусі. Мяркую, прыкладна тая ж фармулёўка прагучала б, калі хтосьці прапанаваў бы напісаць у серыі «ЖЗЛ» пра Вас...*

– Так, думаю, адказ быў бы тым жа.

*– Між тым чытацкую цікавасць і да Быкава, і да Вас вызначаюць, на шчасце, не серыя «ЖЗЛ» і выдавецтва «Молодая гвардия». Я, напрыклад, даведваўся ў «Акадэмкнізе», якія менавіта Вашы кнігі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю – безумоўным лідарам продажу з'яўляецца «Час сэканд-хэнд». Аднак цікава, што чытае астатні свет?*

– Ой, гэта вельмі цікава. Зразумела, што цікавасць выклікае найперш «Час сэканд-хэнд», але яшчэ і «Чарнобыльская малітва» – некалькі гадоў таму толькі ў Францыі яна была выдадзена больш чым трохсоттысячным накладам. Гэта аб-

салютная фантастыка! Аднак што ўразіла мяне, дык гэта тое, што ў апошнія гады кніга «У вайны не жаночы твар» стала выходзіць у тых краінах, дзе да гэтага часу не выдавалася, і там яна мае поспех: у Амерыцы, Англіі, Калумбіі – дзе хочаш! Мяне гэта вельмі здзівіла...

Магчыма, тут многае адыграла сваю ролю: і жаночы погляд на вайну і на каштоўнасць усяго жывога, і здольнасць людзей ахвяраваць сабой... Усё ж гэта тое, што ўжо сыходзіць, і мы, напэўна, апошняе пакаленне, якое бачыла, ведала людзей, здольных на падобныя ахвяры. Сёння людзі ўжо не стануць так лёгка аддаваць сваё жыццё, як гэта рабілі іх папярэднікі...

Памятаю, як уразіў мяне аповед адной франтавічкі. Яны, па-мойму, тады Петразаводск адбілі ў немцаў, і раптам звяртаюцца людзі: «Хадземце хутчэй адкапаем – раптам яна яшчэ жывая!» І калі раскапалі магілу, убачылі прыгожую дзяўчыну. Тады й даведаліся, што яна была звязана з партызанскім падполлем, але немцы яе схапілі. Яе павінны былі расстраляць, аднак фінскі афіцэр, якому было даручана гэта зрабіць, сказаў ёй: «Заўтра я выведу цябе перад салдатамі і скажу: “Сталін – дзярмо”, – і ты паўторыш за мной. Толькі так я змагу цябе адпусціць». Назаўтра ўсё так і здарылася: ён тры разы сказаў ёй гэта, але яна не паўтарыла. І ён вымушаны быў яе расстраляць.

*– Цана кампрамісу.*

– Так. Сёння мы, калі б апынуліся ў падобнай сітуацыі, пра любога кіраўніка сказалі б, што ён – дзярмо, бо чалавечае жыццё вышэй за гэта. І зусім не значыць, што калі напісаў прашэнне прэзідэнту, то чымсьці паступіўся. Важней, што ты выратаваў сябе і сваё жыццё. Усё-ткі самае галоўнае – чалавек і яго сям'я.

*– Памятаеце, як пэўны час таму тут спрабавалі насадзіць лозунг, які, увогуле кажучы, прыпісваюць гебельсаўскай прапагандзе: «Не пытай, што дала табе краіна, – спытай, што ты даў краіне!» Аднак гэтая ініцыятыва хутка заглохла.*

– Не-не, людзі ўжо інакш думаюць – сёння чалавек шануе сваё жыццё. Шчыра кажучы, я нават была вельмі здзіўленая тымі рускімі, якія ехалі забіваць у Чачэнію і на Украіну. Напэўна, гэта часткова звязана з тым, што яны засталіся без працы і ўвогуле без якіх-небудзь маральных паняццяў і прынцыпаў, без разумення, што такое дабро і зло. І хоць часам кажуць пра нейкую рэлігійнасць, але прычым тут гэта? Я сама бачыла, як пад духавы аркестр праводзілі, як мне патлумачылі, добраахвотнікаў-патрыётаў ва Украіну. Нават поп быў там. Але я не ўпэўненая, што падобнае было б магчыма ў Беларусі.

*– Вядомы IT-бізнесмен Віктар Пракапеня, распавядаючы ў адным інтэрв'ю пра свой турэмны досвед, прывёў такую гісторыю: адзін яго сукамернік цяжка пераносіў зняволенне, і тады наглядчык сказаў яму: «Што ты плачаш? Мой дзед такіх, як ты, у 1937-м чалавек па сто ў дзень расстрэльваў!» То бок гэты наглядчык не саромеецца, а выхваляецца тым, што яго дзед быў масавым забойцам.*

– Ну, калі ўлада кажа, звяртаючыся да чэкістаў, што, маўляў, вам няма чаго саромецца, а потым міністр МУС пераапранаецца ў форму НКУС!.. Вы можаце ўявіць, каб нехта ў Германіі апрануў форму СС? Ды ён проста да свайго працоўнага месца не дайшоў бы – яго адразу знялі б!

*– Раз ужо мы пра гэта загаварылі – а што Вы, Святлана Аляксандраўна, думаеце пра люстрацыю?*

– Мяркую, гэта працэс, які павінен быў адбыцца, але яго час прайшоў, мы страцілі гэты шанец.

Хоць гэта дужа складанае пытанне, паколькі грамадства наша было наскрозь прасякнута бальшавіцкай, камуністычнай ідэяй... Напрыклад, мой бацька – найразумнейшы чалавек, дырэктар школы – уступіў у партыю падчас Сталінградскай бітвы. Ён, вядома, падпаў бы пад люстрацыю. Аднак ці была б у гэтым справядлівасць? Аналагічна і ягоныя сябры – таксама разумныя і сумленныя

людзі – шчыра верылі ў камуністычную ідэю... Мой бацька лічыў, што сама ідэя добрая – гэта Сталін яе сапсаваў... Памятаю, як мы спрачаліся з ім, калі я вярнулася з Афганістана. Я сказала яму тады: «Тата, ты не вер усяму, што кажуць, – мы там забіваем людзей». І тата ўпершыню нічога не змог мне адказаць – ён плакаў. Для яго гэта было ўзрушэннем. І тым не менш ён да апошняга захоўваў партыйны білет і, па-мойму, да апошняга верыў у гэтую ідэю... Аднак, калі ўбачыла, як ён плача, я перастала спрачацца з ім – мне стала шкада яго. Я зразумела, што любоў вышэй за ўсё.

*– Любоў да бацькі?*

– Так-так, любоў да бацькі... Я потым часта чула ад сваіх гераінь: калі збіраемся, гаворым пра ўнукаў, пра рэцэпты, пра што заўгодна, але толькі не пра палітыку... Добра памятаю словы адной жанчыны: «Жыццё і наша любоў адзін да аднаго вышэй за ўсё».

*– У мяне быў сусед у вёсцы, дзядзя Пеця, ужо пажылы чалавек, з якім кожны раз, калі я прыязджаў, мы спрачаліся пра Лукашэнку. Але нашы спрэчкі, калі яны заходзілі надта далёка, звычайна заканчваў дзядзя Пеця, ён казаў: «Што мы будзем з-за іх лаяцца? Яны – далёка, а мы – тут».*

– Так-так, у чалавеку перамагае чалавечае... Я сама гэта даволі позна ўсвядоміла – мы ж былі зараджаны антыкамунізмам... Між тым была вялікая мудрасць у тым, што паэт Максіміліян Валошын ратаваў у сваім доме ў Кактэбелі і белых, і чырвоных.

*– Аднак вярнуся да пытання аб люстрацыі: на мой погляд, калі б яна ў свой час прайшла...*

– То паўтарэння гісторыі не было б, так. Але калі б гэта было зроблена своечасова – яшчэ на той хвалі энергіі... Хоць гэта было б, вядома, вялікае ўзрушэнне для нашага грамадства. Аднак і без таго дзіўна, як ціха – ва ўсялякім выпадку, нам так тады здавалася – сышлі 15 мільёнаў камуністаў, сышлі без крыві, ніхто іх не абараняў. Хоць, як сёння высвятляецца, пайшлі яны не без крыві... Зрэшты, мінулае павольна, але вяртаецца. Гэта нельга назваць камунізмам, аднак нешта падобнае даўно ўжо адбываецца.

*– На Вашу думку, у будучыні люстрацыя ўсё ж магчымая?*

– Баюся, што ўжо не атрымаецца, – ГКЧП перамог.

*– Перамог?*

– Так. Не перамог тады, у жніўні 1991-га, але перамог цяпер.

*– Іван Антонавіч Брыль распавядаў мне аднойчы: калі на пачатку 1990-х старшынёй усесаюзнага КДБ быў Вадзім Бакацін...*

– Ён жа адкрыў тады архівы КДБ, за што і паплаціўся.

*– І вось малдаўскі пісьменнік Іон Друцэ звярнуўся да яго з просьбай паглядзець сваю справу. Бакацін, запрасіўшы Друцэ да сябе і паказаўшы на папку, папярэдзіў: «Вы, вядома, можаце паглядзець, але вельмі Вам не раю, бо расчаруецеся ў многіх сябрах». Друцэ думаў усю ноч, а раніцай адмовіўся глядзець сваю справу. «Іван Антонавіч, а Вы як паступілі б?» — запытаўся я. «Я б прачытаў», — адказаў Брыль. А Вы, Святлана Аляксандраўна, хацелі б паглядзець сваю справу?*

– Думаю, што не.

*– Каб не расчароўвацца?*

– Не, не тое, каб не расчароўвацца ў чалавеку, – я ўжо дастаткова ў ім расчаравалася за трыццаць гадоў, і ў прынцыпе, нішто ўжо не змяніла б майго стаўлення да яго... Не, я не хацела б...

*– Ну, лепш думаць пра чалавека Вы ўсё адно не сталі б.*

– Так. Чалавек і цудоўны, і страшны адначасова – гэта абсалютна відавочна.

*– У 1990-я гады не раз гучалі публічныя прызнанні пісьменнікаў, якіх КДБ у свой час спрабаваў завербаваць. Пра гэта мне распавядалі і Рыгор Барадулін, і*

*Уладзімір Някляеў, і Міхась Скобла, і Славамір Адамовіч. Спрабавалі завербаваць і людзей з блізкага атачэння Васіля Быкава, калі ён жыў у Гродне, а яму самому прапаноўвалі напісаць аповесць пра чэкістаў. А Вас, Святлана Аляксандраўна, не спрабавалі завербаваць?*

– Была адна такая гісторыя... Я тады павінна была ехаць у Бельгію – гэта было звязана з нейкай маёй навуковай працай, ужо не памятаю падрабязнасцей. І раптам тэлефануе нейкі мужчына і кажа, што хоча сустрэцца. А тады цяжка хварэла мая сястра – у яе быў рак у апошняй стадыі, і я адказала, што ў мяне зусім няма часу. Ён настойваў: гэта вельмі трэба, і нават сказаў, дзе працуе... Сустрэліся мы ў парку. «Мы дадзім Вам рэкамендацыю для паездкі ў Бельгію (у той час былі патрэбныя характарыстыкі для выезду за мяжу), хоць у Вас вельмі складаная біяграфія, – заўважыў ён. – Нягледзячы на тое, што Вы атрымалі першую ўсесаюзную прэмію і павінны былі паехаць па ленінскіх мясцінах, але супраць гэтага выступіў Ваш дэкан Бурлацкі. Вы і супраць Тоўсціка выступалі...» Гаворка ішла пра Мікалая Тоўсціка, з якім я і сёння сябрую. Мы разам вучыліся, і раптам на трэцім курсе ён вырашыў уступіць у партыю, але мы, наш курс, не далі яму рэкамендацыю. Так ён не ўступіў у КПСС, за што, напэўна, потым дзякаваў нам, трэба будзе ў яго спытаць... (*Алексіевіч усміхаецца.*) «Мы Вас можам выпусціць, – казаў мне гэты чалавек. – Але з адной просьбай: вярнуўшыся, Вы распавядзеце нам, што там было». Я адмовілася гэта рабіць. «Мы яшчэ раз з Вамі сустрэнемся», – сказаў ён на развітанне.

*– Вы разумелі, пра што гаворка?*

– Ну, вядома. Хто ж гэтага не ведаў! Гэта былі 1980-я гады, яшчэ не перабудова, але ўжо ўсё ішло да гэтага... Так што, нічым гэта не скончылася, не змаглі мяне завербаваць, а потым і сэнсу не было – пачалася перабудова... Між іншым, і ў Бельгію я тады не паехала, бо трэба было даглядаць сястру.

*– Рыгор Барадулін распавядаў, што яго вярбоўка працягвалася некалькі гадзін, а завяршылася нечакана. «У нашым родзе здраднікаў не было», – сказаў Барадулін. «Гэта мы здраднікі?! – абурыўся гэбіст. – Падпішыце, што ніколі не раскажаце пра гэта!» – «Вось гэта я з задавальненнем».*

– Я нават не памятаю, ці прасілі мяне што-небудзь падпісаць?..

*– Аднак пра люстрацыю я завёў гаворку яшчэ і ў сувязі з адной пісьменніцай, якая адыграла ў Вашым лёсе хай невялічкую, але ўсё-ткі ролю. Маю на ўвазе Эдзі Агняцвет...*

– Так, яна, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў і Віктар Каваленка пазычылі мне грошы на дыктафон і касеты, калі я пачынала працаваць над кнігай «У вайны не жаночы твар».

*– Усё ж асоба Агняцвет не такая ўжо адназначная...*

– Так, я ведаю гэтую гісторыю. Справа ў тым, што першым грошы даў мне Адамовіч, а потым ужо Каваленка, які і прапанаваў: «Папрасіце ў Эдзі». Яны, здаецца, разам працавалі, і яна якраз у той момант завітала да яго. «Ты можаш пазычыць? – спытаў ён у Агняцвет. – Вось дзяўчына такую справа хоча рабіць...» І яна тут жа дала грошы... Не ведаю, можа, грахі замольвала, а можа, проста была такім чалавекам?.. Зрэшты, я потым усё ім вярнула.

*– У Адамовіча ў запісных кніжках: «Гарачы “цыган” Андрэй Макаёнак на бурных сходах 1956-1957 гг. патрабаваў выключыць з СП хоць бы самых відавочных даносчыкаў і пасадчыкаў. Не аддалі і самых дробных. Не хто-небудзь, а “класікі” не аддалі. Каб не размотвалі клубок далей?» Эдзі Агняцвет, як кажуць, тады плакала: «Была камсамолкай, нас прымушалі...» Яе так і не выключылі з Саюза пісьменнікаў. Дарэчы сказаць, у іншы раз Адамовіч пісаў ужо больш прымірэнча: «Мы павінны былі задумацца (але гэта нас толькі абурала), чаму тыя, хто вярнуўся з ссылкі, самі пакутнікі, былі куды больш памяркоўныя і больш спагадлівыя да іх калег, што*

*здрадзілі ім, чым мы, хто асабіста не пацярпеў... Тыя, што пабылі ў лапах НКУС, ведалі нешта такое пра людзей, пра сябе, пра чалавечыя магчымасці і межы, чаго не ведалі мы, каго толькі рыхтавалі да такога лёсу, – калі часы памяняюцца».*

– У маладосці я, вядома, выступала за люстрацыю, цяпер жа, калі больш пражыла і бачу, як цяжка даецца чалавеку выбар... Вось у мяне ў кнізе «Час сэканд-хэнд» ёсць ашаламляльны аповед аднаго чалавека: у 1930-я гады ён быў яшчэ дзіцём і вельмі любіў суседку цёцю Олю. Але калі адбылася перабудова і былі адчыненыя архівы КДБ, маці паведаміла яму: «Зараз я ўжо магу сказаць, што твая цёця Оля, якую ты так любіў, здала свайго роднага брата, і ён загінуў на Калыме». Чалавек гэты з'ехаў агаломшаны. А праз некалькі гадоў ад мамы прыйшоў ліст: цёця Оля памірае. Ён прыехаў і спытаў: «Цёця Оля, скажы: чаму ты гэта зрабіла?» – «Паспрабаваў бы ты знайсці ў той час хоць аднаго сумленнага чалавека!» – адказала яна. «А што ты наогул памятаеш пра 1937 год?» Цёця Оля ўсміхнулася: «Я была шчаслівая – мяне кахалі і я кахала».

Не існуе хімічна чыстага зла. Зло – гэта і Сталін, і Берыя, і вось такая цёця Оля. І падобных гісторый у кнізе «Час сэканд-хэнд» – мноства.

*– У сувязі з гэтай дый іншымі гісторыямі, прычым не з аднаго толькі «Часу сэканд-хэнд», міжволі ўспамінаецца яшчэ такі Адамовічаў запіс: «Я вось чытаю "Цынкавых хлопчыкаў" С. Ал[ексиевич], учарашнія школьнікі і раптам кінутыя... куды? Вярнуліся з жахам у душы: хто ж мы і што гэта такое? Ведаеце, гэтыя аповеды – на ўзроўні Даста[еўскага], веданне на тым узроўні. Хоць ніякага творчага шчасця, а наадварот».*

*Святлана Аляксандраўна, на самай справе ніякага творчага шчасця?*

– Калі ўдаецца знайсці і сфармуляваць нейкія адказы, то кожны раз адчуваеш добра зробленую працу. Не ведаю, ці можна назваць гэта творчым шчасцем?

*– Гэта, відаць, пераклікаецца з ранейшай размовай пра творчае натхненне.*

– Так-так.

*– Янка Брыль, калі я працаваў над кнігай пра Васіля Быкава, неяк пажадаў: «Дапаможа Вам бог, наш, літаратурны бог». Як, па-Вашаму, ён ёсць – літаратурны бог?*

– *(Алексіевіч усміхаецца.)* Ва ўсякім выпадку, я дакладна ведаю, што пачуццё шляху павінна быць. Памятаю, як пасля першай сваёй кнігі раптам выразна адчула гэта. Таму і паехала пасля ў Афганістан, а потым у Чарнобыль... Я тады ясна ўсвядоміла, што павінна рабіць у гэтым жыцці. Гэта і ёсць пачуццё шляху.

*– Між іншым, у адным з ранніх інтэрв'ю Вы ўспаміналі, як падчас знаёмства з Адамовічам – гэта было ў сярэдзіне 1970-х, яшчэ да кнігі «У вайны не жаночы твар», – наракалі на тое, што вось Вам трыццаць гадоў, а нічога яшчэ не зроблена, што Ваша пакаленне – вечны «пачатковец»...*

– Так-так.

*– І калі ўжо скончалі працу над першай кнігай, Адамовіч нагадаў Вам пра гэтую размову: «Бачыце, Вы не мелі рацыю, – сказаў ён. – У трыццаць гадоў трэба было "зрабіць сябе", каб быць гатовым да такой працы, таму што раней нічога не атрымалася б».*

– А мне яшчэ памятаецца, як ён сказаў, калі прынесла яму ўжо амаль гатовую кнігу: «Добра, што я не зрабіў гэтую кнігу, – мне б у галаву не прыйшло спытаць пра шматлікія рэчы! Як мужчына, я проста не ведаў, не падазраваў пра іх існаванне. І якое шчасце, што Вы гэта зрабілі!» Гэтыя яго словы вельмі шмат значылі для мяне тады, шмат значаць і сёння. Першапачаткова ён жа сам хацеў рабіць гэтую кнігу – гэта яго ідэя была. Ён, наогул, задумаў некалькі такіх кніг... Але вось як Адамовіч не падазраваў пра жаночы погляд на вайну, так і я цяпер, працуючы над кнігай пра каханне, я не магу справіцца з мужчынскімі аповедамі – гэта зусім іншая псіхалогія, і я часам проста не здагадваюся, пра што трэба спытаць! І ў гэтым

для мяне вялікая праблема, з якой пакуль не ведаю выхаду. Чагосьці пастаянна не хапае... Я й да гэтага часу не зусім магу зразумець, як жа ўладкоўваецца ў мужчынскай свядомасці каханне.

*– Аднак калі яшчэ прыгадаць даўнія эпізоды Вашага жыцця, то не магу не спытаць вось пра што: адны з першых журналісцкіх матэрыялаў – Вы тады былі яшчэ студэнткай – Вы напісалі ў суаўтарстве з Г. Чаранковай. Ці не тая гэта Ваша сяброўка, разам з якой Вы ў 1970 годзе паехалі на журналісцкую практыку ў «Гродзенскую праўду» да Васіля Быкава?*

– Так, гэта мая аднакурсніца, маці Дзіяны Арбенінай – Галя Чаранкова.

*– У першыя гады журналісцкай працы Вы неаднаразова выступалі з літаратурнымі рэцэнзіямі – пісалі пра новыя кнігі і творы Вольгі Іпатавай, Валянціны Коўтун, Ніны Мацяш, Юркі Голуба, Петруся Макаля, Алеся Разанава...*

– Алесь мне падабаўся, гэта цікавы і паэт, і чалавек.

*– Але вось гэтыя імёны – кожны раз гэта быў асабіста Ваш выбар ці рэдакцыйнае заданне?*

– Здаецца, што рэдакцыйнае заданне, паколькі паэзіяй я не надта захаплялася, але працавала ў аддзеле культуры, дзе маглі сказаць: «Пра каго хочаце напісаць?» І памятаю, што калі сустрэла кніжачку Разанава, вельмі захацела пра яе напісаць... Цікавае я знаходзіла і ў паэзіі Юркі Голуба і Валі Коўтун – да гэтага часу помню яе пеўня, які «асколак студзіць пад крылом», так мяне гэта зачапіла, я тады ўпершыню падумала пра пакуты жывёл падчас вайны, пра што да гэтага часу ніхто не казаў.

*– А памятаеце ў паэта Веніяміна Блажэннага, у якога мы разам з Вамі дваццаць гадоў таму былі ў гасцях, яго «Моление о кошках и собаках, о маленьких изгоях бытия...»?*

– Так-так. Я пісала найперш пра тыя рэчы, якія былі блізкія майму светапогляду. Хоць, па сутнасці, і светапогляду асаблівага яшчэ не было – ён толькі складваўся. І вось я ўсюды шукала сваё і часам яго знаходзіла. Як, напрыклад, у кніжачках Марыны Цвятаевай, здабыць якія тады было дужа складана.

*– А ў Арктыцы Вы таксама сваё шукалі, калі ў 1983 годзе адправіліся на востраў Дыксан і зямлю Франца Іосіфа?*

– Мне вельмі хацелася ўбачыць свет. І таму калі зарабляла трошкі грошай... Сям'я ў нас была незаможная, паколькі бацькі спачатку мяне вучылі, потым – сястру і брата. І вось калі атрымлівалася хоць трошкі зарабіць, я імкнулася некуды паехаць. Я, напрыклад, вельмі марыла ўбачыць айсбергі!..

*– Вы і нарыс потым пра тую экспедыцыю напісалі.*

– Зусім невялічкі, паколькі рэдактар, якому прынесла яго, сказаў, што гэта не цікава, паколькі далёка ад Беларусі.

*– То бок Вы адправіліся ў Арктыку не паводле рэдакцыйнага задання, а па ўласным жаданні?*

– Так, сама паехала... Я ў часе той вандроўкі пасябравала з капітанам, немаладым ужо чалавекам, які сказаў аднойчы (там жа не адразу ўваходзіш у Арктыку, а ад Мурманска ідзеш па вадзе): «Калі б ты паехала са мной гадоў трыццаць таму, тут бы кішэла ўсё вакол, а цяпер бачыш – нічога няма. І далей нікога ўжо не будзе – ні жывёл, ні рыбы. Вось бачыш, што чалавек робіць».

*– А, дарэчы, ці захавалася Ваша першая кніга «Я з'ехаў з вёскі», якой так быў незадаволены загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Савелій Паўлаў?*

– Так, ён тады выклікаў мяне ў ЦК і са здзіўленнем запытаўся: «Адкуль ты ўзялася такая?!» Спачатку ён спачувальна да мяне паставіўся: маўляў, дурніца, сама не разумее, што робіць, і даў мне два месяцы на выпраўленне. І калі я прыйшла ў другі раз і прынесла той жа тэкст, Паўлаў пачаў ужо раўці на мяне... Пасля гэтага і пачаліся мае службовыя непрыемнасці.

А што да той кнігі, то яна была зроблена нецікава, гэта была звычайная журналістыка, а не літаратура.

*– Хтосьці добра з'іранізаваў: праклён для пісьменніка – поўны збор твораў.*

– *(Алексіевіч смяецца.)* Калі глядзіш нават на раннія працы Мікеланджэла, то адразу бачыш – гэта Мікеланджэла! А я ўсё ж прайшла доўгі шлях... Кніга «Я з'ехаў з вёскі» была ўсяго толькі спробай, я тады яшчэ шукала свой жанр...

*– Васіль Быкаў любіў паўтараць знакамітую фразу, якую часта прыпісваюць Талстому, хоць не Леў Мікалаевіч яе «вынайшаў»: «Рабі што павінен, і хай будзе, што будзе». Не хацелася б, каб пытанне прагучала пафасна, але які Ваш прынцып жыцця? У гэтай сувязі прыгадваецца яшчэ гісторыя, якую, як кажуць, любіў расказваць следам за Эйнштэйнам Ваш настаўнік Алесь Адамовіч: пра тое, што стары Майсей быў забыўлівы – Гасподзь пакінуў 11 запаведзяў, але Майсей запомніў толькі 10, 11-я абвяшчала: «Не бойся!»*

– Не бойся, так. Але мне падабалася іншае выказванне Талстога: «Трэба правіць вышэй таго месца, куды табе трэба, інакш знясе». Яно вельмі доўга было маім дэвізам. А цяпер мне ўжо бліжэй іншае: «Як ні сумна ў гэтым незразумелым свеце, але ён усё ж цудоўны». Гэта з Івана Буніна. Або яшчэ па душы такія словы Олі Седаковай: «О, жыць гэта балюча» – тут ужо зусім іншая танальнасць...

*– Вы нагадалі мне пра вальтэраўскі афарызм: «Усё да лепшага ў гэтым найлепшым са светаў». Аднак, мяркую, гэта пад сумнеў можна паставіць – занадта ўжо аптымістычна гучыць.*

– І галоўнае, што жыццё вельмі кароткае і не паспяваеш ва ўсім разабрацца... Трэба ўсё ж больш часу, каб абдумаць нейкія рэчы.

*– Апроч таго, жыццё мае звычай раптам абрывацца.*

– Так, на жаль.

*– Але вось яшчэ пра страх і пра 11-ю запаведзь. Мяне ўразіла адна гісторыя з жыцця народнай артысткі СССР Ларысы Александроўскай, якая, адказваючы неяк на пытанне, што было найстрашным на вайне, нечакана ўсміхнулася: «Самае страшнае было пасля вайны». І распавяла, як выступала на нарадзе ў Крамлі, дзе прысутнічаў Сталін, які, відаць, увайшоўшы ў гуллівы стан, запытаўся падчас выступу Александроўскай: «А чаму гэта прадстаўніца беларускага народа кажа па-руску? Гаварыце па-беларуску, мы зразумеем». І яна пачала ліхаманкава перакладаць. Калі ж, завяршыўшы прамову, села на месца, яе раптам паляпалі па плячы: «Пройдзем». І калі прывялі ў асобны пакой, загадалі: «Пачакайце». Так яна чакала пяць, дзесяць, дваццаць хвілін, але ніхто не прыходзіў. У галаве ў Александроўскай круцілася толькі адна здагадка: «Пасадзяць!»... Адпусцілі яе праз гадзіну — толькі тады й стала вядома, што ўвесь гэты час, пакуль яна жыла думкай пра арышт, стэнаграму яе выступлення перакладалі з беларускай на рускую мову.*

– Усё ж у мой час такіх страшных гісторый ужо не было – гэта была адносна «вегетарыянская» эпоха. І мае страшныя гісторыі мелі хутчэй экзістэнцыяльны, асабісты характар. Калі, напрыклад, памерла мая мама, а я тым часам знаходзілася за мяжой... Ці тата захварэў на хваробу Альцгеймера, і вось прыязджаеш, а чалавека ўжо няма. Тата, які быў такі разумнік, які любіў мяне, і я цяпер не магла нават пагаварыць з ім!.. Пару дзён ён яшчэ пазнаваў мяне, а потым проста ўжо не мог успомніць... Гэта ўсё былі вельмі асабістыя ўзрушэнні...

А пакаленне Александроўскай сталінская эпоха літаральна зжэрла. І я ўяўляю, які жах, якое пекла перажыла яна, чакаючы арышту. Ніякія складанасці нашага сённяшняга жыцця не параўнальныя з гэтым.

*– Жартам заўважу: Сталіна на Вас не было, Святлана Аляксандраўна.*

– Ну, яшчэ невядома, што нас чакае, яшчэ невядома...

*– Дарэчы сказаць, калі рыхтаваў кнігу інтэрв'ю і дыялогаў з Вамі «У пошуках*

*сэнсу», заўважыў, што пра ўладу Вы цяпер кажаце не так рэзка, як дваццаць гадоў таму.*

– Дваццаць гадоў таму ўсе мы думалі, што гэта скончыцца ўжо заўтра...

*– А высветлілася, што ўсё яшчэ наперадзе (як Вы некалі слушна сфармулявалі: «Мінулае яшчэ наперадзе»), і ў грамадстве даўно існуе стомленасць ад марнага чакання.*

– Вядома, эфект стомленасці прысутнічае, але змяніліся і самі людзі: яны ўжо іншага хочуць – жыць сваім асабістым, прыватным жыццём. І ніякія агрэсіўныя формы супраціўлення ўжо не знаходзяць падтрымкі ў народзе. Толькі, напэўна, моладзь можа яшчэ выйсці на вуліцу, ды і то – наўрад ці...

Калі ў мяне пытаюцца, чаму я не стала сцягам супраціву і чаму ў нас у «Інтэлектуальным клубе» няма ніякіх заклікаў да звяржэння, я адказваю: давайце спачатку зразумеем культурныя, ментальныя складнікі нашай праблемы. Палітычныя стачкі нічога ўжо не дадуць. Ну, закрыюць нас заўтра – гэта ж не выйсце са становішча. Значна важней, што ў нас у клубе выступяць, да прыкладу, Цімаці Снайдэр ці Віктар Пракапеня і людзі пачуюць іх і задумаюцца... Той жа Пракапеня – вельмі разумны чалавек, з прыкметамі геніяльнасці, я сказала б. Ён бывае ў мяне, калі прыязджае сюды. З ім вельмі цікава гаварыць. У яго няма ніякага падлашчвання. Тым больш што ўсіх сваіх ён вывез адсюль, і сам досыць незалежны чалавек. Пракапеня сто гадоў абышоўся б без бізнесу тут, але ён сапраўды хоча штосьці зрабіць для Беларусі...

Не ведаю, ці маю я рацыю, аднак мне здаецца, што трэба мяняць формы супраціву. Гэта не значыць, што варта ісці на кампраміс – зусім не. Да таго ж вялікае пытанне: дзе мяжа гэтага кампрамісу?.. Цяпер многае залежыць ад саміх людзей, ад учынкаў кожнага, асабліва, калі чалавек мае хоць маленькую, але ўладу... Вось адзін возьме для бібліятэкі мае кнігі, а іншы – не. Аднак не Лукашэнка ж сочыць за гэтым! Я не яго прыхільнік, але справа не ў ім адным.

*– Прыкладна гэтаксама, як і з Вашым беларускім пяцікніжжам, некалі было і са Зборам твораў Васіля Быкава.*

– Дык з кім, з чым мы маем справу? Гэта ж таксама форма рабства... Я не ведаю... Я не ведаю, куды сыходзяць нашы пакуты і чаму яны не канвертуюцца ў свабоду?

*– Я часам прыгадваю свайго былога сябра – мы вучыліся на філолагаў, толькі мой сябар, скончыўшы ўніверсітэт, стаў не настаўнікам, як ягоны бацька, а міліцыянерам. Нашы шляхі пасля вучобы разышліся – звычайна мы сазвоньваліся раз у год, віншавалі адзін аднаго з днём нараджэння, дый толькі. А тут пасля прэзідэнцкай кампаніі 2010 года і разгрому Плошчы сябар перастаў тэлефанаваць, чаму я, па шчырасці, быў рады, бо ён для мяне даўно быў суўдзельнікам гэтага зла... Пазваніў ён праз некалькі гадоў. «Ты, напэўна, шукаў мяне, а ў мяне нумар тэлефона змяніўся. Я ж табе не тэлефанаваў таму, што нам сказалі пасля 2010 года: "Падумайце, хто ў вас сябры", – шчыра прызнаўся ён. – Але цяпер я на пенсіі і такі шчаслівы, бо магу тэлефанаваць каму заўгодна і гаварыць усё, што хачу!» – «А ці мела сэнс жыць так, як ты жыў?» – «Ну, у мяне ж дзве кватэры, машына, сям'я. І цяпер я нарэшце зажыву сапраўдным жыццём!»*

– Так-так, у гэтай маленькай гісторыі заключана ўсё, што з намі адбываецца... Дзве кватэры, машына, сям'я... Вось яна, цана... Гэта вельмі добры прыклад.

*– Зрэшты, кожны з нас дапускае памылкі, вялікія і малыя, але я пазайздросціў Вам, калі падчас сустрэчы з чытачамі, арганізаванай летась IT-кампаніяй «Andersen», адказваючы на пытанне пра жыццёвыя памылкі, Вы сказалі, што не было такіх ужо вялікіх памылак, пра якія Вы маглі б шкадаваць... Вы і ў гэтым сэнсе, мусіць, шчаслівы чалавек?*

– Ну, калі і былі нейкія памылкі, то яны тычыліся толькі асабістых адносін...

Так, я магла б сказаць, што я – шчаслівы чалавек. Хоць я доўга шукала свой шлях, але потым раптам адчула яго, і ўжо ўсё далейшае жыццё займалася тым, чым хацела. Вось як Вы. *(Алексіевіч усміхаецца.)*

*– Прабачце за гэтае пытанне, але вось Вы падоўгу працуеце над кожнай са сваіх кніг, і тым не менш у Вас у планах яшчэ, як мінімум, дзве кнігі. Ці азначае гэта, што Вы запраграмавалі сябе яшчэ на энную колькасць гадоў?*

– Ну, гэта ўжо як літаратурны бог вырашыць... *(Алексіевіч усміхаецца.)* Усё-ткі я досыць даўно трымаю ў памяці гэтыя кнігі, даўно іх пішу, і гісторый у мяне шмат, але сабраць матэрыял – гэта хоць і цяжкая задача, аднак не самая складаная. У мяне няма новага погляду – і ў гэтым, паўтаруся, уся справа.

*– І на заканчэнне нашай гутаркі. Дырэктар маскоўскага Пушкінскага музея Ірына Аляксандраўна Антонава – ёй каля ста гадоў, – адказваючы неяк на пытанне: калі пасля будзе магчымасць, апынуўшыся перад Богам, задаць адно-адзінае пытанне, пра што б яна спытала? – сказала: «Я б спытала: “За што?” Ён ведае, што я маю на ўвазе». Заўважу, што за гэтай недамоўленасцю адчуваецца вялікая асабістая трагедыя...*

– Так, таямніца, нейкая асабістая таямніца.

*– Але хацеў бы пераадрасаваць гэтае пытанне Вам, Святлана Аляксандраўна: пра што Вы спыталі б у Бога, калі б з’явілася такая магчымасць?*

– ...Я спытала б: чаму такі невялічкі тэрмін, бо так мала паспяваеш за гэты час!.. Я б гэта ў Яго спытала... Усё ж можна было б пабольш. Каб прыйсці да Яго не з пустымі рукамі...

Ніна Мацяш – Леанід Галубовіч



...мінае ўсё,
а жаляў
і любові
час не ссячэ...



# Выбранае ліставанне

***(2006-2008)***

*У маім хатнім архіве захоўваецца даволі аб'ёмнае ліставанне з вядомымі і неардынарнымі творцамі нашай нацыянальнай літаратуры. Перачытваючы сёе-тое на самоце, я прыйшоў да высновы, што трэба найбольш цікавае выдрукоўваць, хоць бы ў знак памяці і пашаны да гэтых людзей, бо нярэдка час сцірае шмат якія праявы не толькі пэўнай эпохі, але і творцаў, якія яе тым ці іншым чынам вызначалі. Хіба, скажам, прыхільнікаў нацыянальнага краснага пісьменства не зацікавіць перапіска з такімі выбітнымі асобамі, як Мікола Купрэеў альбо Ніна Мацяш? Таму прапаноўваю вашай увазе выбраныя месцы з электроннага ліставання (захоўваецца і паштовае) з вядомай паэткай і перакладчыцай Нінай Язэпаўнай Мацяш (1943–2008). У мяне ёсць спадзяванне, што пасля прачытання лістоў паэткі перад прыхільнікамі яе паэзіі шырэй адкрыюцца нацыянальная значнасць гэтага арыгінальнага творцы, яе характар і... яе пакутлівы лёс... Большасць лістоў не датаваныя. Мабыць, у мяне было спадзяванне на электроннае пазначэнне даты і часу пасылак*

*па электронным замоўчванні, аднак калі тэксты капіраваліся на файлы з аднаго носьбіта інфармацыі на другі, то па недаглядзе тыя пазнакі губляліся. Шкада, вядома. Дакладна, што гэтыя лісты пісаліся ў часе маёй працы ў "лімаўскім" холдынгу, калі мы рыхтавалі да выдання кнігу Ніны Мацяш "У прыгаршчах ветру", і тое адбывалася ў прамежку 2006–2008 гадоў. На жаль, Ніна Язэпаўна заўчасна памерла ў другой палове 2008 года, а яе кніжка пабачыла ў свет толькі ў траўні 2009-га. Я выбраў найбольш вострае, актуальнае і балючае з нашага ліставання, друкуючы лісты ў аўтарскіх арыгіналах і абсалютна бесцэнзурна.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

*Ніна, дзень добры!*

Ва ўсякім выпадку спадзяюся, што так. Атрымаў ад Вас ліст і хачу падзякаваць за шчыры адказ.

Каму сёння лёгка? Як і заўжды і паўсюль – людзям з духоўнай і душэўнай паталогіяй... Для мяне заўсёды важным **было** не здраджваць сваім ідэалам, быць шчырым і самаадданa рабіць тое, што можаш. Я ад гэтых сваіх прынцыпаў не адступаю, дзе б ні быў і куды б ні *закідвала*... Вось і цяпер, можа, нават наперакор здароваму сэнсу, працую там, дзе патрэбны беларусы. А яны патрэбны паўсюль, а не толькі на апазіцыйных (не заўжды нацыянальна заангажаваных) мітынгах і вузкіх незалежных пасядзелках... Цяжка пра гэта казаць, калі с*курай* адчуваеш, як здрабнеў і сапсеў гэты народзец. Адныя змірыліся з рэгулярнай, хоць і дробнай, *пензіяй*, другія – хоць з якім заробкам, трэцім давай вядомасць і хоць які аскепак славы, чацвёртым – гранты, іншыя проста прыспешваюць час свайго прыходу да ўлады... Запэўніваю Вас, што хто пасля гэтага калгасніка ні прыйдзе да ўлады – рабочы, інтэлігент, ваенны, кадэбіст – Беларусь і мы з Вамі застанемся ў тым жа *каланіяльным* становішчы. Каб беларусы адчулі і свядома вызналі сябе самадастатковай нацыяй (занялі "*свой пачэсны пасад між народамі*") трэба яшчэ (калі яны агулам магчымыя) неймаверныя высілкі сама мала трох пакаленняў... А пры такім раскладзе, як цяпер, то і спадзеву мала. Так, як Валік Акудовіч кажа, *"ад прадзедаў спакон вякоў"* пакінуты нам **нацыяналістычны анклаў**, які нам трэба зберагаць і захоўваць як найвялікшую сваю каштоўнасць. Галоўнае сёння, што мы ёсць, і важна тое не страціць. Не мае асаблівага значэння – дзесяць нас ці два мільёны... Вунь ірландцаў, не зважаючы на іх дзяржаўны статус і колькасць, ведае ўвесь свет, бо дух вялікіх продкаў захавалі ды інтэлект не страчваюць. Развіваюцца не ўшыр, як варвары, а ўвыш і ўглыб...

Зрэшты, на тое ў кожнага з нас сваё разуменне. Трэба яго толькі *зсумаваць* і вылучыць неабходнае...

Паеду з 1 жніўня ў вёску да мамы (там цяпер дачка). Ёсць шмат фізічнай работы, а то *застаяўся* тут...

Дрэнныя справы ў Купрэева. Знайшлі ў хаце паўжывым каля ложка, у пролежнях чэрві поўзалі: доктар сказаў, што нармальны чалавек такога не вытрываў бы... Цяпер у Пружанах у больніцы, там з ім сястра і Аня Хадаровіч з райгазеты (Света Алексіевіч перад ад'ездам у Францыю перадала яму праз мяне 50 еўра, то я ўчора выслаў; мо санітарцы, каб абмывала, мо на лякарства якое; яшчэ трэба з Баравіковай *спагнаць* яго ганарар за аповесць "Лісты з млына", бо пасля Міколу перавязуць у Дом сасатарэлых пад Баранавічамі; ён нерухомы і паўсляпы, з прыступамі эпілепсіі ў дадатак). Не далёка ад яго адышоў і Толя Сыс. Абамжэў, звалацузіўся, стаў натуральна папрашайнічаць... Дэградацыя поўная. Я гаварыў, што Толю кадэбісты "ўтравілі", і нам трэба было яго *сілком* на лячэнне адправіць, – дык усе вялікія гуманісты... Ім цяпер лягчэй глядзець на яго нямогласць

і гідліва пасміхацца ўслед... Вось вырак ВЫКЛЯТЫХ ПАЭТАЎ! Яшчэ Цютчаў пісаў: і як гэта ўсё пераждыць, каб *“сердце на клочки не разорвалось”*...

Бадай, усё. Жадаю моцы і трывання. Жывіце з Богам.

*Шчыра – Лёня.*

*Дзень добры, Лёня!*

Ліст, як і эл. адгуканьне, атрымала, дзякую. Адразу ж пажалюся: дзеля сяброўкі дазволіла аднаму “сьпецу” папрацаваць з маім кампутарам, і той – выпадкова канешне – зьнішчыў маю праграму *The bat* разам з усімі лістамі, а іх там было дзесь больш дзвюх соцень... І вярнуць ужо немагчыма, як ні намагаліся іншыя мясцовыя праграмісты. Шкадую моцна, бо мае адрасаты і ў Польшчы, і ў Нямеччыне, і ў Чэхіі, і ў Балгарыі. Цяпер ужо і абрысна не ўзнавіць, пры жаданьні, падзеяў, эмоцыяў, думак мінулых двух гадоў, пераджытых з сябрамі-прыяцелямі. Вось ужо і гэты факт “свойчыць мяне са сьмерцю” (В.Шымборска).

Буду ўсьцешаная і падбадзёраная, калі А.Карлюкевіч так наладзіць працу холдынгу, што дзяржаўныя беларускамоўныя выданьні перастануць не заўважаць, а то і аплёўваць вытураных недагодлівых пісьменьнікаў. Ці згадваў “ЛіМ” пра юбілей Г.Бураўкіна? Пытаюся, бо ня бачу ж газету. (Дзякую за кастрычнік!) Ці ўзгадае 16-га верасьня пра С.Законьнікава, а 30-га пра Н.Гілевіча? Гэта былі б такія важлівыя крокі да паразуменьня і згоды! Мяне дужа ўбольвае гэты раздрай. Я зусім не канфліктны чалавек, заўсёды шукаю ў іншым найперш добрае, заўсёды гатовая першай папрасіць прабачэньня, калі вінаватая ў нейкай злой эмоцыі, у прыкрай нястрыманасьці. Але тут, у сітуацыі з холдынгам, самі разумееце, справа ходзіць не пра нечыя прыватныя амбіцыі, а пра дзяржаўную пазіцыю, падтрыманую часткай пісьменьнікаў, якім трэба, аказваецца, самім есьці і свае сем’і ўтрымваць, – як быццам бы іншым ні есьці, ні сем’і ўтрымваць ня трэба!.. Вось і Баравікова “пашкадавала” Алеся: цэлы месяц вешала мне лапшу на вушы, што ўжо выслалі яму грошы (па маёй просьбе да Раі), пакуль урэшце ёй ня збрыдзелі мае настойлівыя званкі і яна не адаслала мяне да бухгальтаркі, каб я сама папрасіла тую зрабіць паслугу – даслаць чалавеку заробленыя яшчэ паўгоду таму назад грошы. Я не пасаромелася, папрасіла. І нібыта на гэтым тыдні Алесь атрымае тыя 160.000 бел.руб. Нібыта, бо ня маю ніякай пэўнасьці – пасьля таго, як у панядзелак, патэлефанаваўшы Маруковісе і атрымаўшы яе абяцаньне схадзіць да дырэктара і папрасіць дазволу на датэрміновае (!) пералічэньне ганарару для Каско, на наступны ж дзень (!) спахапілася, што яна забылася зрабіць гэта!.. Няма нічога брыдчэйшага ў чалавеку, як ягоная лухта і безадказнасьць.

Ня ведаю, як там ужо і мяне шкадавала Баравікова, я не абмяркоўвала зь ёю гэтую тэму. Практычна ж я пакуль не зрабіла нічога на карысьць абл. адзьдзяленьня, але хлопцы (Мельнічук ды Паплаўскі) “прыбіраюць тэрыторыю”, Каско рыхтуе літстаронкі ды паперы дзеля прыёму ў СБП новых кандыдатаў. Робім пэўныя прыкідкі на заўтра, хоць Бог, як вядома, сьмяецца з планаваньняў чалавечых...

Мацуйцеся, дружа! І адгукайцеся, я радая Вашаму голасу ў любой форме.

*Ніна.*

*Вельмішаноўная Ніна Іосіфаўна, вітаю Вас!*

Атрымаў ад Вас вельмі гожы зборнічак Віславы Шымборскай у Вашым перакладзе. Шчыра дзякую. Папраўдзе кажучы, мне хацелася б мець кніжку гэтай паэткі з яе выбранай паэзіяй, а не апошнімі вершамі чалавека надта пашанотнага веку. Усё ж у Віславы паэзія маладзейшага часу ўласна мяне *забірае* больш. Я вельмі люблю яе тонкую лірыку з іранічнай душэўнай падсветкай. Прабачце, што выказваюся наўпрост, але ж кажу не тое, што трэба было б казаць, а тое, што думаю. І гэта зусім не значыць, што вершы ў зборнічку выпадковыя і пераствараэн-

не іх на нашу мову не лепшае – не, якраз тут усё файна сышлося. А найперш хацелася б сказаць Вам дзякуй за афармленне кніжкі. Не памятаю ўжо, калі гэтак гожа і адпаведна была выдадзена паэзія. Ці правільна я, па прастаце сваёй, зразумеў, што Вы мастакуеце выявы з пёраў, якія і занатаваныя на вокладках... Бо Крыстына Лялько мне пярэчыць і кажа, што гэта толькі Вашы напісы (ад: пісаць пяром) называюцца "пёркаграфіяй"... Ці так гэта? Няўжо я такі невуч і цемната вясковая? Але ўсё адно – прыгажосць якая! Як нешта нерукатворнае...

Цяпер да галоўнага, пра што хачу паведаміць. Вельмі хутка і неспадзявана для мяне напісаў добрую рэцэнзію на Вашу натхнёную працу душы Анатоль Бутэвіч. Я падрыхтаваў яе да публікацыі ў 9 нумары "ЛіМа" (3 сакавіка, як бы да Жаночага дня). Збіраўся, між іншым, сам напісаць, але ж вось, не паспеў нават звіліны распрастаць, як зямляк мой Анатоль Іванавіч наперад заскочыў... То гэта ж і добра, значыць, кніжку заўважылі і яна зажыла сярод людзей сваім жыццём. Дай ёй Бог доўгага веку.

Як Вы самі маецеся? Што новага ў Вас?

Тут палітыка і палітыкі выелі вушы і вочы да магуліны мозга. Ад гэтых супрацьстаянняў беларушчыны не прыбаўляецца. На жаль...

Я намагаюся жыць проста і сумленна. Пішу адпаведна – пра перажытае... Некаторыя сталі ў чаргу за гістарычным геройствам. Што ж, хай пастаяць... Пакуль яшчэ абсалютна нічога не заваявалі. Пакажа Казулін грошы – пнуцца за Казуліным (ведаючы, што да Масквы). Сапсее Казулін – сыходзяць ад Казуліна. Яны твораць беларушчыну ў сваім вузкім коле, рэдка выходзячы за яго межы. Самі сабе кажуць і пішуць, самі сябе слухаюць і чытаюць. Мы ж (а тыражы сягаюць за 3 тысячы) працуем на тых, хто застаецца па-за іх межамі. Па школьных бібліятэках вельмі шмат нашых выданняў разыходзіцца. І знайдзіце вы ў нас якую "оголтелую" прапаганду лукашызму ці нечага падобнага. Не знойдзеце, апроч "Нёмана". І яшчэ адна закавыка, усе, хто ў нас не хоча друкавацца, хоча, каб мы друкавалі нешта пра іх. Тут ні адзін не сказаў: забараняю пісаць пра сябе, ма*ю* творчасць і ма*е* кнігі. Ого, яшчэ й крыўду выказваюць, калі, крый Божа, іхняга юбілею не згадаеш... Во як. Правільна Алесь Разанаў гаворыць: самі сябе ў куток заганяем і ізалюем... Хіба, скажам, яўрэі могуць пайсці на такое дзеля разбурэння, а не захавання сваёй нацыі. Хіба што яўрэі з беларускімі каранямі...

Але гэта доўгая гаворка. Пакуль усё.

Жадаю Вам здароўя, дабра і творчых удач!

Паклон Вам ад маіх дзяўчат. Яны Вас ведаюць і любяць.

Абдымаю вас.

*Шчыра – Лёня.*

*Ніна, прывітанне!*

Атрымаў Ваш электронны роспачны ліст і вырашыў усё ж адказаць дзедаўскім метадам (каб выпадкова не знішчылася чужымі рукамі праз сучасную тэхніку сувязі).

Спагадаю Вам, хоць, дзякаваць Богу, усе згіблыя лісты прачытаныя і свой душэўны водгук займелі...

Вы так *перажываеце* за холдынг, што на тое самае не пакідаеце мне маёй заслужанай долі... (Спрабую шуткаваць.)

Юбілеі Бураўкіна, Гілевіча, Законнікава, Вярцінскага будуць пададзены ў "ЛіМе" толькі ў "Календары юбілейных дат" (*бягучым радком* па сутнасці). У "Полымі" ў маёй рубрыцы "Метрыка літаратурная" (з выявай Пагоні, між іншым, на Статуце ВКЛ) гэта зроблена больш шырока і падрабязней (пераказаны біяграфіі і падрабязна пададзена бібліяграфія аўтараў).

Яны не хочуць з намі супрацоўнічаць, то чаму мы павінны прагінацца ў адказ.

Так не бывае. І Вы гэта ведаеце. Пачытайце ў 23 нумары “Дзеяслова” чарговую жыццёва-творчую справаздачу Гілевіча, і Вы ўсё (ці амаль усё) зразумееце. Асабліва тое месца, дзе ён тлумачыць сваё ўступленне ў КПСС ужо ў паважным узросце. Маўляў, так яму падказалі ўкраінскія сябры-пісьменнікі: будучы камуністам, нашмат больш зробіш для любай сэрцу Айчыны... А насамрэч усё нашмат прасцей было: якраз тады Гілевічу пачало свяціць Старшынства (ці першасакратарства, як яно там называлася?) у СП БССР, якое патрабавала ад кандыдата на падобную пасаду прыналежнасці да камуністычнай партыі...

Сёння, дарэчы, падобныя метады выпрабоўвае Карлюкевіч у холдынгу. Як мне распавёў Наварыч, ён выклікаў да сябе Бадака (намесніка Баравіковай) і сказаў прыкладна так (па-сяброўску): *“Алесь, ты ў курсе, што табе неўзабаве свеціць кар’ерны рост па службе... Але для гэтага трэба, каб ты быў членам СПБ... Прычым неадкладна, а то, раптам запатрабуюць тваю справу, а ты не член дзяржаўнага Саюза пісьменнікаў; пасля, пахапкам, можа, і позна будзе даганяць... То ўжо зрабі гэта лепш цяпер, не адкладваючы, каб пасля не кусаць локці... Як сябру кажу...”*

Цяпер Бадак *гібее* ў глыбокім роздуме. Праўда, я не думаю, што яны Раю так хутка спішуць на пенсію. Яна яшчэ ім ой як патрэбная! Ды й часопіс яна робіць неблагі (у межах магчымага).

Гэта я да таго, што ўсе названыя Вамі “юбілейна-ялейныя хлопцы” нічога ў сваім жыцці не “прашляпілі” – ні службы, ні дружбы, ні літаратуры, ні Айчыны... Я аддаю даніну павагі кожнаму з іх, але не настолькі, каб трывожыцца за іх “няшчасную долю”... Сумняваюся, што супрацьлеглы літаратурны лагер хоць гэтак аддзначыць “годдзе” каго-небудзь з холдынгаўцаў (Наварыча, Казлова, Баравіковай, Федарэнкі, Галубовіча)... Крый Божа, у мяне тут няма ні намёка, ні хоць якой патугі на параўнанне з вышэй названымі папярэднікамі, але ўсё ж і гэта, скажам сціпла, людзі не менш беларускія... і, не пабаюся сказаць, не менш творчыя...

Ніна, я падчас вельмі здзіўляюся Вашым адназначным эмацыйным вычуваннем адносна сучаснай літаратурнай сітуацыі (цесна ўвязанай з грамадска-палітычнай)... Мусова не карэкціруйце свой погляд да сярэднеарыфметычнага. Не думайце *цётчыным* часам пра час сённяшні. Ніштo не стаіць застыўшым, усё цячэ-мяняецца, хоць, у рэшце рэшт, “упадае ў адно месца”...

Таму – усё, што ні ёсць, да лепшага. Нават гэта, што ёсць. Так мне думаецца...

Вядома, гісторыяй будуць названыя і змагары, і гандляры, і паэты, і справаводы... (Лукашэнка ж, нябось, таксама думае – і не сумняваецца ў тым! – што яго імя таксама напішуць “на обломках самовластья”)... Якія парадоксы!

Я з таго ж цеста (гразі) і, што тут хаваць, хацеў бы, каб засталося колькі і маіх выбаленых слоў сярод іншых на запавуціненым гарышчы нашай старой айчыннай хаты...

Чалавек – складаная істота. І, на жаль, ад звера, ад жывёлы, ён пакуль яшчэ далёка не адышоў... Хочацца спажывы і прагнецца палёту. Але, не спажыўшы, не паляціш... Хіба ў мроях альбо ў бездань...

*До*, як любіць казаць выдатны наш паэт з Крэва.

Ці атрымаў Алесь Каско свой ганарар? Што яшчэ цікавага? І што гэта за хлопцы, прозвішчы якіх Вы назвалі як сваіх памагатых у справах СБП? Літаратары?

А галоўнае, як сябе адчуваеце (па-за кампутарнымі справамі, вядома)? “Не духам адзіным” – гэта якраз не пра Вас, таму: чым узносіцеся? Сваім духам ці грэецеся пры чыім іншым (перакладаеце)?

Не крыўдуйце. Такі я ёсць. Магчыма, дзякуючы Вам, стану лепшым...

Жадаю Вам здароўя і творчага неспакою!

Кланяюся.

*З павагай і шчырасцю – Лёня.*

*Дарагі Лявоне!*

Гэта праўда: так званая “палітыка” гэтак нахабна ўмешваецца ў стасункі людзей, што не выстарчае ні часу, ані сіл дзеля нармальнага чалавечага сумоўя. Не адказвала адразу, “па гарачым”, каб унікнуць непатрэбнай эмацыйнасьці, аднак, бачу, што ўсё адно мушу ўдакладніцца. Я перажываю не за паасобных сяброў маіх. Яны сапраўды “нічога ў сваім жыцьці не “прашляпілі”(?), як Вы кажаце, і служба была, і дружба ёсьць, і літаратура, і Айчына. І калі я пыталася ў Вас аб нагадцы пра іхнія юбілеі, я ніякім чынам не думала пра нейкае “прагінаньне” з боку холдынгаўцаў. Я думала значна прасьцей: дзяржаўныя выданьні легальна трапляюць у бібліятэкі ды школы, дык каму, як ня вам, нагадваць пра бясспрэчна таленавітых беларускіх пісьменьнікаў і тым самым паказваць сапраўднае аблічча беларускай літаратуры? Пагатоў, што нібыта і мэта такая маецца. Пагатоў, што і юбіляры гэтыя – на жаль, “уходящие кадры” (ёсьць гэткі жорсткі панятак у кінематографе). Што ж да Гілевіча – пры ўсёй ягонай слабасьці да самалюбаваньня – назавіце мне, калі ласка, яшчэ каго зь пісьменьнікаў з такой тытанічнай працаздольнасьцю, магутным творчым даробкам і нястомным біцьцём у паэтычна-публіцыстычны звон “трывогі нашай”. Няма роўнага яму. Хоць амаль усім баліць моўнае, нацыянальнае пытаньне, кожны з нас нешта скажа-скажа, дый замоўкне. А Гілевіч нястомна, нібы тая кропля, усё точыць ды точыць гэты валун несправядлівасьці, абразы і ганьбы. І думаю я гэтак, мілы Лявоне, без намеру падлабуньвацца пад думку маіх сяброў, бо маю ж і ўласны пэўны досьвед, пэўнае меркаваньне, грамадзянскую пазіцыю, у рэшце рэшт: на сёмым дзясятку кабетка! “Нетрудно быть. Куда трудней посметь ответ давать нам на допросе: чьи вы?” Гэта Марцін Адан, перуанскі паэт (чытаю цяпер лацінаамерыканскую паэзію). І спачуваю Алесю Бадаку. Шкада, што “гібее”: слабенькі... Добра, Лёнечка, закончу сёньня на гэтым, бо ліст задужа доўгі, каб хоць добра адаслаўся. Пішыце, як Вам зручна, я паасьцерагуся давярацца чужым “сьпецам”. Хай гоіць і падмацоўвае Вас беларускае “бабіна лета”!

*P.S.* Дзякуй Карлюкевічу, ганарар Алесь атрымаў. І, здаецца, памалу прапіў ужо...
*Ніна.*

*Ніна, прывітанне!*

Ужо даўно атрымаў Ваш ліст, а ўсё ніяк не збяруся з адказам...

Зрэшты, асабліва і пісаць няма пра што. Настолькі ўсё наўкол просталінейнае і прымітыўнае, што даводзіцца *скрыўляць* яго толькі ў сваіх мазгавых звілінах...

Тут учора мітусіўся Слава Дашкевіч (агулам, апошнім часам гэты, з усіх бакоў няшчасны, чалавек напісаў вельмі шмат выдатных трагічных вершаў; пэўна, да Вас даходзілі чуткі пра тое, што мінулым летам у аварыі загінулі яго сястра, дачка і ўнучка – спяшаліся на машыне з вёскі ў Менск на святочны салют з нагоды лукашэнкавага Дня Рэспублікі, 3 ліпеня), які зандаваў апазіцыйныя настроі (праз мяне): маўляў, ці не супраць былі б *пашкевічане* правесці аб'яднальны пісьменніцкі з'езд з *чаргінцоўцамі*, на якім прысутнічаў бы і прэзідэнт... Глядзіш, знайшлі б агульную МОВУ і Дом літаратара вярнулі б, і нацыянальную ідэю на высокім узроўні пралангавалі б, і выбары кіраўніцтва найновага Саюза пісьменнікаў правялі б на дэмакратычнай аснове... Во як! Ці то ўжо іх так да сцяны прыперлі, што ні туды – ні сюды, ці то гэта запускаецца ў ход нейкая новая ідэалагічная кэдэбэшная *абманка*, каб *таленавітае дзіця* суцішылася і на Захадзе не крычала – не плакалася?.. Паеду, кажа мне, разам з апазіцыйнымі літаратарамі на суботнік 20 траўня ў Іслач і перамоўлюся: ці знойдуць яны ў сабе сілы пайсці на падобную прапанову (кампраміс). А яшчэ казаў пра тое, што добра было б, каб сабраць 150 подпісаў найбольш уплывовых і таленавітых пісьменнікаў у падтрымку гэтага аб'яднаўчага з'езда...

Нешта пасля размовы Пуціна з Лукашэнкам пра палітычную кансалідацыю ў Беларусі і апошніх непрыемных рашэнняў Еўразвязу *чаргінцы* раптам перасталі гаварыць пра свой вясновы з'езд і прысутнасць на ім Лукашэнкі... Заціхлі і зніякавелі... І сапраўды, а з кім яму там сустракацца?! З Мятліцкім, Марціновічам і Шніпам?! Таму, відаць, зверху і была дадзена *указіўка*, на спробу вось такой змушанай кансалідацыі...

Госпадзе, як гэта ўсё абрыдла! Пра творчасць усё часцей гаворым у другарадзь...

Такія справы.

У жніўні паеду ў вёску да мамы. Яна ўжо пераехала ад сястры з Баранавіч да сябе... Але і там хварэе і нудзіцца без работы...

Дачка напярэдадні экзаменаў. Жонка ў адпачынку. Ездзіла да сястры ў Смаленск на некалькі дзён. Цяпер сядзіць і чытае "Дзеяслоў". Дарэчы, учора давалі яны свае прэміі "Залаты апостраф". Дранько-Майсюку – за прозу, Слінко – за паэзію і невядомай мне дзяўчыне – за дэбют... Наконт Слінко я паспрачаўся б. Мяркую, нізка гаротнай Галі Сушы (Галы Гары) была найбольш уражлівай...

Нічога са сваіх лімаўскіх публікацый не дасылаю, бо пакуль не магу прабіцца са сваім у друк. Казлоў апошнім часам (пасля выкліку да міністэрскага Цэрбера) прыглядваецца да ўсяго праз двайныя акуляры... Смешна і сумна ўсё гэта. Як пісаў Імант Зыядоніс: *"Хочацца белага-белага, лебядзей..."*

Як Вы, што новага, здароўе? Ці нанялі жанчыну для дапамогі?

І ці даслалі Вам апошні нумар часопіса "Калосьсе"?

Я жыву між двух франтоў, гэта значыць, знаходжуся ў самым эпіцэнтры спрадвечнага і бесперспектыўнага змагання... за жыццё...

Заставайцеся з Богам.

Абдымаю Вас. Паклон ад маіх дзяўчат.

*Шчыра – Лёня.*

*Лёнечка,*

дзякуй вялікі за інфармацыю аб Дашынай. Цяжка мне дапамагчы ёй, бо – водстань, і ня толькі прасторавая, хоць гэта зараз найістотнае. Абавязкова патэлефаную, неадкладна. Я ня маю яе хатняга нумару тэлефона, мо знайду ў бібліятэцы. Тады, па вяртаньні з Аўстрыі, на нашай вечарыне яна паводзілася звычайна, талкова і ўсьмешліва. Я рана пакінула ўсіх у застольлі, але хлопцы паразвоньвалі на наступны дзень, казалі, што ўсе разышліся ў добрым настроі. Ярыну я зусім ня ведаю як чалавека. Бяды ў любога хапае, аднак ня кожны ўмее спраўляцца зь ёю. Буду ўвечары тэлефанаваць і Каску. На мінулым тыдні і ён, а затым я, мелі пэўны шок: папрацаваў ён толькі дзьве гадзіны пасьля зацьвярджэньня, яшчэ быў на лятучцы, як з выканкама патэлефанавалі, што яму адмаўляюць у працы, бо прыйшла "раскладка", паводле якой Алесю нельга даверыць тую пасаду... Нехта напісаў чарговы данос, мабыць той, хто сам мерыўся заняць яе, – як здагадваецца Алесь. Аднак праз два дні жонка выплакала-такі тую працу, і з сёньняшняга чысла ён зноў працуе. Калі ня здарылася зноў што... Як тут не зап'еш?!.

Вельмі добра Вы напісалі пра Голубаву "Багру". Чакацьму Вашага слова пра "Лён", я ўжо яго і маю, і прачытала. Глыбокая, зьмястоўная і эмацыйная, прадмова Скоблы: якія разумныя, уталентаваныя хлопцы ў нас! І Сыс – ніводнага прахаднога, нецікавага верша, а смутак, а моц, а годнасьць!.. Як пра гэтую паэзію нешта сказаць, што сказаць?.. У Вас гэта атрымаецца, Вы патрапіце. А я пачытаю. Мелася адбыцца ў Бярозе літвечарына з удзелам Каско, Папекі, Гаравой, Осіпавай і маім, але адклалася на месяц па сямейна-бытавых прычынах у чалавека, які ладзіць нашу сустрэчу. А да мяне заўчора прыязджалі з пас. Ленінскі, што пад Берасьцем, хочуць у красавіку бачыць мяне там у школе. Трэба будзе паехаць. Дзякаваць Богу, мінаюцца сьвяты ды сьвяткі, бо я ўжо стамілася ад людзей. Яшчэ

толкам не працую, ляніва абдумваю згадку-эсэ пра Брыля: Наташа Семашкевіч складае кнігу ўспамінаў. Яна яе выдасьць, спадзяюся, знойдуцца ў сям'і грошы. Падобная ж кніжка пра Ул. Калесьніка дагэтуль адно на подступах – з-за абяцанага выканкамам ды гаркамам, аднак ня спраўджанага фінансаваньня. Дык што ўжо казаць пра кніжку Дашынай!.. Калі б хоць у "правільным" Саюзе была, а то ж!..

Усяго найлепшага, дружа! Пайду тэлефанаваць...

*Ніна.*

*Дзень добры, шаноўная Ніна!*

Не трэба выбачэнняў... Я сам у гэтую спякоту блытаюся ў жыцці, як заяц у жыце...

Пахавалі ўчора Брыля... Усё, як ніколі, было шляхетна і годна: "Магутны Божа" Арсенневай пры вынасе цела з дому ў двор, развітальныя словы Гілевіча, Гарэцкага, Мальдзіса, Някляева, Законнікава (бадай, толькі Далідовіч трохі парушыў мінорны рытм, доўга чытаючы з выдрукаваных аркушаў будучы лімаўскі артыкул), бел-чырвона-белыя сцягі, шчыра сыноўнія рыданні Сідарэвіча, жоўты калодзішчанскі прылесны жвір...

З адным – блізкім – развітаўся, а з некаторымі далёкімі нарэшце пабачыўся...

У наступным "Ліме" будзе тры старонкі прысвечаныя памяці Івана Антонавіча (дарэчы, напісала там жа і дала мне верш для гэтага нумара "ЛіМа" і Данута Янаўна)... Сёння ў "НН" добра напісаў пра апошнія дні Брыля Сідарэвіч Толя...

І ўсё ж глыбокае асэнсаванне страты яшчэ наперадзе...

"ЛіМ" Вам падпішуць (я сказаў, але, мабыць, з наступнага месяца, з верасня).

Што да маёй дачкі і Вашай пляменніцы...

Ксеня з адзінаццатага класа (з кастрычніка) хадзіла на платныя курсы пры Акадэміі мастацтваў (70 даляраў за месяц); пасля здавала тэсты па беларускай мове і гісторыі Беларусі (сёлета як ніколі складаныя, таму: 5 і 5 па 10-бальнай, і гэта ў прынцыпе нядрэнна), пасля – тры творчыя экзамены: эцюд (тэатральная сцэнка – самае складанае, дапамагаў акцёр і празаік Анатоль Жук з ТЮГа – 6 балаў), сцэнарый (8 балаў), агульнае субяседаванне па тэатры, мастацтву, літаратуры і культуры, чытанне байкі ці верша (чытала верш Някляева "Вадэвіль у двух актах") – таксама 8 балаў... Ну і сярэдні бал атэстата...

Прызнаюся Вам, што ў мяне былі такія-сякія знаёмствы яшчэ з часу маёй колішняй працы на БТ...

Ксюша, між іншым, паступіла на завочнае аддзяленне (платнае – 600 даляраў за навучальны год, праўда, калі ўладкую на працу на тэлебачанне – там ёсць працецкія дапаможныя вакансіі адміністратаў груп і памочнікаў рэжысёраў – то можна будзе перавесціся на бясплатнае навучанне)...

Адным словам мінтрэнгі шмат... У асноўным усе месцы платныя (на дзённым **удвая даражэй**), ды і набіраюць не столькі здольных, колькі "наўзбочных" тым ці іншым спосабам заангажаваных... Пяць месцаў бясплатных, дык і тыя то дзецям афганцаў, то чарнобыльцаў, то...

Такія справы, калі коратка. Ездзілі на платныя курсы і пасля спрабавалі паступаць людзі і з правінцыі (скажам, з Гомеля дзяўчына ў нас некалькі разоў нават начавала)... Калі што трэба будзе ўдакладніць, то пытайцеся.

Сустрэўся "ў Брыля" з Разанавым (а то ўсё звонімся), перамовіліся пра некаторыя закардонныя рэчы... Ён занадна разумны і доследны для маёй галавы... Але душой тонкі чалавек, а галоўнае, у адрозненне ад многіх, шчыры і сумленны...

Заўтра еду да МАМЫ.

Там, пры лесе, паспрабуем з ёй ачуньваць душой і целам...

І Вам таго жадаю.

Кланяюся.

*З павагай – Лёня.*

*Віншую з “унучкай”!”*

“Чым лепей зведваю людзей, тым болей люблю сабак”... Не памятаю, хто сказаў, але – ім я, каб магла сама даглядаць, трымала б калі не сабаку, дык хоць ката. Яны ўмеюць любіць чалавека шчыра і верна, з натуральнай патрэбы любові, і толькі, безаглядна аддаючы ўсю сваю ласку, на якую здольныя. Дык віншую Вас з гэтым жывым цёплым скарбікам добрага Вашага настрою! Пачытала ў “ЛіМе” Ваш водгук пра Сыса. У нас шчыльнае супадзенне мастацка-эстэтычных густаў: пералічанае Вамі лепшае ў зборніку і мне бачыцца найлепшым. А вось паасобныя Вашы меркаванні падаюцца мне спрэчнымі. Да прыкладу, разважанне аб прычынах непрыходу старэйшых развітацца. Ну якая тут магла быць зайздрасць, Лявоне?! Няўжо Вы ўсур’ёз думаеце, што прыжыццёвая “народная слава” Сыса грунтавалася на разуменні моладзевай публікай ягонай творчай геніяльнасці? Моладзь заўсёды гатовая руйнаваць усе каноны і аўтарытэты, Толя ж – малады, прыгожы, артыстычны – рабіў гэта прылюдна і безаглядна, з ім было цікава і весела – найперш гэткім жа маладым і ўсхмеленым уласнай жыццёвай моцай, гатовай перавярнуць свет. Ну, а калі ўжо на авансцэну выйшаў хмель іншага гатунку, думаеце, Толіку пляскалі ў ладкі за глыбіню вершаў? Так, нехта і за іх. А большасці было зноў... толькі весела. Бо “сапраўдную мастацкую веліч” немагчыма ўбачыць ані ў п’яным аблічча, ані, пагатоў, у труне... І тое страшэннае няшчасце, якому папусціўся Сыс, ніякі не “мастацка-эстэтычны акт”, Лявоне. На нашых вачах зараз нешта падобнае творыцца з Дашынай, дык якая ўжо ў гэтым эстэтыка, дружа!..

Давайце трохі пра іншае. Я й сама мерылася даслаць Вам сваё эсэ, а цяпер з радасцю раблю гэта, бо вельмі хачу пачуць Вашу думку наконт абзаца-старонкі пра Федарэнку: ці да месца мая рэакцыя на яго “разглагольствованіе” менавіта тут, ва ўспамінах? Буду дужа ўдзячная за параду. Што ж да публікацыі ў “ЛіМе”, дык я, можа, у рэшце рэшт і пагадзілася б, аднак – ужо не магу, бо паабяцала “Тэрмапілам”, а там публікуюць толькі з першых рук.

Дык Крэйдзіч толькі паможа выкупіць наклад? А ў абласным друку ўжо абвясціў, што выдасць (!) усяго Купрэева... Застаецца толькі ўздыхнуць. І пажадаць Вам здароўя ды шчаслівых прагулянак з “унучкай”!

*Ніна.*

*Ніна, прывітанне!*

Атрымаў Ваш ліст і цудоўнае эсэ пра Івана Антонавіча...

Усё добра, апроч двух момантаў, якія мяне “зачапілі”....

Першы, ці трэба пачынаць з *“рэлігійнай аскезы”* мудрага чалавека і творцы? Ці трэба гэта падкрэсліваць, ды яшчэ на самым зачыне?

Не ўпэўнены.

Тым больш, Вы пры гэтым пішаце Бог (Гасподзь, Тварэц) і Ён (Брыль, творца) з вялікай літары, як бы ўраўніваючы дзве непараўнальныя велічыні...

Зрэшты, не ведаю. Для мяне асабіста Янка Брыль ужо не пабольшае і не паменшае, ад таго якім ён для мяне ёсць насамрэч...

Другое, Як Вы і казалі, згадка (ды мо залішне аб’ёмная) пра неназванага Вамі (чаму, задумаецца чытач?) наўмыснага апанента Брыля, Федарэнку. Ёсць тут нейкі перабор, бо для асноўнай тэмы эсэ гэты чалавек *задробны,* і атрымліваецца, нераўнуючы як у Маякоўскага, *“вопрос исперчен”*... *“Я бы сузил”*, як пісаў Дастаеўскі.

Але то Ваша воля. (Між іншым, неўзабаве ў сваёй лімаўскай міні-прозе ён, як вош, учэпіцца ў Быкава, – чытаў у карэктуры.)

Ды і параўнанне з Джакондай трохі кульгае ці, як кажуць, не з той оперы. Мне так здаецца.

Яшчэ, засумняваўся я, а ці мог Дранько-Майсюк у сярэдзіне сямідзясятых ездзіць з Танкам і Брылём на выступленні (у няпоўныя 20 гадоў)?

Цікава было даведацца мне, што Кастэнка мае дачку-паэтку ад паляка Пахлеўскага... Бо я Кастэнку люблю да жарсці, нават перакладаў напачатку 80-х, жывучы яшчэ ў вёсцы (маю яе апошняе “выбранае” на ўкраінскай мове)...

Ёсць у Вашым эсэ шмат слоў-н褐ватвораў. Але часам Вы перабіраеце меру. Здараюцца і не зусім мілагучныя... Я іх усе выпісаў і, з Вашага дазволу, пры выпадку буду імі карыстацца...

Агулам, як я ўжо сказаў на пачатку, уражанне вельмі станоўчае. Цёплае, шчырае, пашанотнае, абыходлівае, амаль даччынскае...

Хоць, вядома, і Брыль неаднназначны. Былі і ў яго свае грахоўныя “потрясения” у жыцці... Думаю, праз пяць гадоў, калі дзеці і ўнукі не адцэнзуруюць яго “дзённікі”, мы ўведаем усю “непреложную” сутнасць гэтага тытана нацыянальнага духу...

Дзякуй за думнае чытанне. І за Ваш талент.

Заставайцеся з Богам.

*Лёня.*

*Дзень добры, дружа Лёня.* У мяне сяброўская прапанова: не “выкацца”. Пачынаю першай, але калі атрымаю адказ у ранейшым стылі, дык моўчкі вярнуся да яго і сама. 11.05. некалькі разоў набірала нумар Баравіковай, каб па-зямляцку і чыста па-чалавечы павіншаваць зь юбілеем, але, здаецца, ня варта было таго рабіць, бо двойчы слухаўку бралі і адразу ж клалі, потым двойчы робат жаночым голасам папярэджваў пра пашкоджаньне на лініі, нарэшце, нехта зноў падняў трубку, але не азваўся, і я, ад пачатку да канца паслухаўшы “А я лягу-прылягу...” ды марна пагалёкаўшы, у думках пажадала ўсяму добра падвяселенаму таварыству здароўя і дала сабе спокуй, як кажуць палякі. Ты пытаесься пра маё здароўе, а мне й казаць няма чаго. Бо я й сама ня ведаю ступені свайго здароўя ці нездароўя. Баліць сэрца, пабольвае ці то селязёнка, ці то падстраўнікавая, ці нырка гэтак адгукаецца. На добры лад, не зашкодзіла б грунтоўна абследавацца, але хто ж гэта будзе сядзець пры мне ў той клініцы?.. Дый сэнс?.. Ня хочацца варушыць свой загнаны на дно душы смутак, які перамяняецца там у нецікавасьць да жыцьця. Ведаеш, калі гадамі, цягам дзясяткаў гадоў **штодня** чакаеш, каб наранку нехта прыйшоў і дапамог устаць, прыбрацца ды прыбраць, а ўвечары – дапамог укласьціся спаць, **псіхалагічная стома** проста немінучая. А дадай яшчэ тое, што чым далей, тым цяжэй падабраць ахвотных памочніц, бо равесьніцы ўжо й самі хворыя, а для маладзейшых гэтая праца і непрэстыжная, і не даходная: уяві, сабес выплачвае маёй цяперашняй памочніцы 58.000(!), прычым 19.000(!) забірае ў *мяне* зь пеньсіі (232.000). Каб маладзіца мела хоць 100.000, я дадаю ёй яшчэ сорак. За гэткую капейку здатная працаваць хіба ахвярніца. Малюся, каб не захварэла ці наагул не пакінула. Бо для радні я непадымная. Свае шчыра і шчодра дапамагаюць гароднінай ды шкваркай, а іншым чынам **аб’ектыўна** не могуць. Вось чаму мне ўжо спакойна думаецца пра *вырай* і *жадаецца* аднойчы не прачнуцца. Я ўжо зрабіла тут усё, што магла: і трымалася годна, без гістэрыі ды варажнечы, і сказала ўсё, што хацела і як змагла. Цяпер пайшоў дубляж усяго гэтага, нецікавы найперш мне. До! Давай я Табе лепей некалькі вершаў пакажу. Не для друку, Лёня. Справа не ў *зацятасьці,* дружа. Мне *скрушна,* што “ЛіМ”, як і “Маладосьць”, і “Полымя”, **ані муркам** не зрэагавалі на чарговы ганебны антыбеларускі чын – вядомы Табеператрус школьных праграмаў. Разумею, *чаму* не зрэагавалі: хто б дазволіў?! Вось чаму мне і прыкра, і скрушна. Не сасьпела я друкавацца ў такой “газеце творчай інтэлігенцыі”. Даруй. А вершы пачытай, бо я й сама не ведаю, што гэта такое. Адгукніся, добра? Будзь!

*Ніна.*

*Ніна, вітаю Вас!*

Нешта я зноў ссамоцеў і здзічэў... хоць Дзень Волі выдаўся па-сапраўднаму светлым і святочным, не зважаючы на розныя дробныя перашкоды... Прайшоўся і я – ад Купалы да Акадэміі – адвёў душу, адсопся... Таго-сяго пабачыў: Вярцінскага, Акуліна, Наварыча з жонкай, Трафімчука... Літаратараў было няшмат. Найбольш моладзі, што парадавала, але адначасова і засмуціла, бо – рускамоўная... Але калі наша апазіцыя ў пераважнай большасці працуе ў “рускамоўным фармаце”, а я ўсё сваё жыццё пакладаю дзеля роднай мовы, то ці трэба мне рваць душу за такія *дэмакратычныя* перамены... Яны ж па сутнасці для мяне анічога не мяняюць – толькі Лукашэнку на Казуліна, умоўна кажучы. А чым яны розняцца? І Лукашэнка калісьці ў Вярхоўным Савеце пінжакі ірваў за перамены і нават аднойчы ў “ЛіМе” нешта пра беларускую мову “вякаў”... Дык гэты яшчэ, пры пэўных нечаканках, можа натуральна вярнуцца да мацярынскай беларускай мовы, а былому рэктару няма да чаго варочацца (хіба да Расіі)... Падобныя пытанні мяне даўно даймаюць. Я іх тут Вам па вучнёўску выклаў, а можна было б і па-філасофску паразважаць, але то ўжо доля Акудовіча...

Цяпер – зноў будні. Якавенка-такі звольнілася (ні то сама сышла, ні то “па просьбе “трудящихся”)... Таму – запарка. Шмат работы. І рэдагаванне крытыкі, і свая рубрыка, і старонка гумару, і віншаванні з юбілеямі, і... некралогі – усё на мне (толькі на паўштата дапамагае Іра Шаўлякова)...

У заўтрашнім нумары – эсэ Чобата “Як я маладым пісьменнікам быў...” і мае “Кулуары” пра творчасць і асобу Алеся Разанава. Kінцe вокам. Пра апошнюю па часе, чацвёртую, кніжку Алеся Сцяпанавіча ў мяне ўжо ёсць рэцэнзія цікавай дзяўчыны-аспіранткі Тані Ціхановіч, яна пісала і пра яго папярэднюю кніжку... Праз які месяц дамо, калі нічога не здарыцца.

У сераду (4 красавіка ў музеі гісторыі беларускай літаратуры ў 16 гадзін) адбудзецца-такі прэзентацыя кніжкі Васіля Гадулькі “Голас”. Прыедзе з Гародні Галя Самойла (яна ўступіла ў новы СПБ, праўда, яны далі ёй і нейкую работу, бо працавала дворнікам). Алесь Каско паабяцаў прыехаць таксама, але тут пэўнасці няма... Песімістычна ў тэлефоннай размове са мной выказаўся ён пра сваю цяперашнюю працу. Што зробіш. Жыць неяк трэба.

Кніжка Купрэева як бы пасоўваецца. Праўда, Карлюкевіч “прапанаваў” замяніць назоў (“На вуліцы Карла Маркса з Паэтам”) на нейтральны. Чаго насцярожыўся? Кажа, Купрэееву і так Дзяржпрэмію за нешта падобнае знялі, а ты ж ведаеш, на якой вуліцы ў нас рэзідэнцыя прэзідэнта... Я пайшоў на саступкі дзеля выхаду самой кнігі і памяці Міколы, назваў: “Лісты з млына”). Аднак тут уз’еліся нашы рэкламісты: што гэта за назоў, абсалютна не рыначны, вяртайце першы варыянт, ён куды больш прыцягальны для чытача... Я пайшоў зноў да Карлюкевіча, пагаварыў... **Паабяцаў падумаць**. Як расце на вачах новы лукашысцкі чыноўнік! Таму – пакуль не ведаю... Зрэшты, выйшла б толькі кніжка ў свет...

Федарэнку беднага з-за п’янкі ледзь не паперлі. Карлюкевіч акт склаў і ўжо гатовы быў: альбо СПБ, альбо на вуліцу... Падлавілі хлопца, адным словам. Аднак нечакана за Андрушу Ніна Чайка заступілася, хоць з ёй самою кантракт ледзь ліпіць... І пакуль яго як бы пакінулі ў спакоі. Праўда, сёння ён ужо зноў пад мухай па калідорах валюхаецца... Лёс.

У “Нашым слове” Лявон Баршчэўскі “наехаў” на Казлова (той у папярэднім нумары даў газеце інтэрв’ю з нагоды юбілею “ЛіМа”). Хацеў Лявон выказацца па варварскіх зменах у школьных праграмах па літаратуры і чамусьці ўсклаў віну за гэта на супрацоўнікаў холдынга... Не за нацыянальнае яднанне ў барацьбе з рэжымам, за мову і дэмакратыю чалавек “ратуе”, а заняўся пошукамі “ведзьмаў”... Нашы палітычныя літаратары мяне, груба кажучы, “смущают”. Хацеў пісаць

адказ на гэтую публікацыю (ці чыталі Вы яе?), але пакуль перадумаў. Ці трэба? Ці не лепш быць разумней? А там, між іншым, і соль ёсць, і нямала. Але ўсё ж, усё ж, усё ж...

Што яшчэ? Ды, апроч вясновага святла, нічога асаблівага...

Адным слова, жыццё працягваецца, якім бы яно ні было. І ўжо гэта няблага.

Як Вы? Што цікавага? Здароўе, справы?

Паклон. Цалую рукі.

Жывіце з Богам.

*Лёня.*

Дзякуй, Лёнечка, за вялікі даверлівы ліст. Можа, і мне калі-небудзь прынагодзіцца расказаць трохі пра маю найбліжэйшую радню. Дзеля таго патрэбна толькі магчымасьць даўжэй пасядзець за кампутарам. Летам, калі ўсталёўваецца сапраўдная цяплынь, як зараз, якая ня надта прыгнятае "дзяцей прыроды" – вяскоўцаў-местачкоўцаў накшталт белаазёрцаў – дык я назапашваюся сонечнай ласкі трох-чатырох месяцаў на ўсю рэшту майго "зьняволеньня" ў чатырох сьценах.

Я радая за Цябе! За сям'ю Тваю радая! Гэтак азывацца пра найблізкіх людзей – жонку, дачку, маці – можа толькі папраўдзе шчасьлівы чалавек, нават калі ўся каштоўнасць гэтага сапраўднага зямнога шчасьця не дарэшты ўсьведамляецца, бо засланяецца часовым – пралётнымі, як хмаркі, узаемнымі "бзікамі" ды непаразуменьнямі. Дзякаваць Богу, што ў Тваім выпадку яны не стаюцца той "тыраніяй дробязяў", якая – дай ёй толькі волю! – зглыдае ўсё найлепшае ў чалавечых узаемінах і жорстка нішчыць падваліны сямейнага сьвету – любоў, узаемапавагу, узаемападтрымку ды падзячлівую радасьць адно аднаму і Провіду за ажно гэтак шчодрае спачуваньне самотнай душы чалавечай. Не маркоцьцеся! Ці прыязджаў Ты да Купрэева? Да мяне яшчэ ніхто зь берасьцейцаў не азываўся. Калі быў, раскажы трохі, як усё зладзілася. Прачытала ў "ЛіМе" прысьвечанае Міколу. Кранальнае эсэ уздольненага Чарнякевіча, журботны ліст сястры Рудкоўскага, стрыманы расповяд Ганны пра жахлівую нэндзу, пакуты састарэлага творцы – "сацыяльнага выкідыша"... "Я так многа хацеў вам сказаць..." Напэўна ж, пра сваю – і ўсіхнюю! – трагічную прагу спачуваньня, дабраты і любові. І не патрапіў, ня здолеў, ня змог. Бо чамусьці ня рупіўся сам любіць па-сапраўднаму, несьці адказнасьць "за тых, каго прыручыў". Як безьліч іншых, спрагнелых і няўмелых. У крыўдлівай зацятасьці нявздольных разрозьніць хлеб ад каменя ў працягнутай руцэ... Лёс? Лёс. Той, што таксама вымагаў ад чалавека нечага свайго... Прачытала я, Лёня, і Твой артыкул у "Нашым слове". Як і пра артыкул Баршчэўскага, скажу, што думаю: не спадабаўся. Калі ў першым разе секанула пасяганьне нават на права рэдактарскай рады самім разьмяркоўваць сваю газетную плошчу, не кажучы ўжо пра скрайнюю непрымірымасьць да апанента, дык у Тваім рэагаваньні гэтаксама ўбоіў і засмуціў зласьлівы закід пра "работодателей", бо гэтым Ты стаў на адну дошку зь ідэалагічнымі службамі. Прынамсі, такое ў мяне ўражаньне і адчуваньне, калі пакрыўдзіла – прабач і даруй, але гэтак "азвалася" Тваё, як зазвычай, цікавае і перакананае слова. Мяне вельмі засмучаюць падобныя газетныя, публічныя "сямейныя" разборкі бакоў, "правых" ці "левых" – няважна. За ўзбадзёрлівы водгук на вершы вялікі дзякуй, дружа. Наступным разам дашлю яшчэ жменьку – пачытаць. Друкавацца ў "ЛіМе"... Можа, некалі высьпею. Пагатоў, што зь месяц таму назад амаль усё з таго, што склалася, ужо раздала – у "Тэрмапілы", "Дзеяслоў", "Новы час". Гарнуся з самым цёплым сястрынскім пачуцьцём да Цябе і ўсіх у Тваёй хаце, –

*Ніна.*

*Ніна, прывітанне!*

Атрымаў ліст. Адказваю.

Што да артыкула ў "Нашым слове", то мне і самому ён не вельмі "да твару", бо пісаўся на імгненных эмоцыях. Але не стрываў, дурань. І тут "вінаваты" Карлюкевіч, які збаяўся друкаваць яго ў "ЛіМе". Я зазлаваў і нават не рэдагуючы пераслаў *e-mail*ам Судніку, а той – адразу (таксама без усякага рэдагавання) – у друк. Я яго разумею. Ім трэба *гарачыя* матэрыялы, каб неяк падняць цікавасць да газеты...

Але што было, то было – не вернеш. Ды я і не саромлюся за свае думкі (нехта іх носіць да смерці пры сабе, а я агалошваю). Такі чалавек.

Былі ў Івацэвічах у Купрэева. 25, у пятніцу. На машыне Сапажкова. Ехалі, як хацелі, заязджалі ў розныя цікавыя куткі Беларусі. Сама імпрэза была цёплая, шчырая... Каско быў, Папека, Філатаў, Крэйдзіч, ну і мясцовыя начале з Гапеевым... Поўная актавая зала бібліятэкі. Бібліятэкары з раёна і проста зацікаўленыя людзі... Потым ездзілі на край Івацэвіч на магілу... Цудоўны помнік нарэшце даведзены да ладу, і я табе скажу, ён нават у Мінску на *vip-алеі* Маскоўскіх могілак глядзеўся б арыгінальна... Спакой, зелень, сажалка побач, птушкі шчабечуць, кветкі растуць... Ляжыць сабе Мікола, што пан, у гэтым замілаваным царстве паднебным... Нераўнуючы як у Эдэме... Хоць, пэўна, і пекла не абміне, як і ўсе мы, грэшныя...

Пасля самоты падгаварыў нас Гапееў з'ездзіць за дваццаць кіламетраў у Косава да сядзібы Касцюшкаў і палаца князёў Пуслоўскіх... Не зважаючы на спякоту, там то ўжо душу і вока пацешылі... Прыгажосць і даўніна як бы адсланяюць цябе на пэўны час ад усякага часу... Ці была ты там калі? Там жа, у доме-музеі Касцюшкі нечакана падышоў да мяне (мы не знаёмыя былі, але ён мяне пазнаў) мясцовы гісторык і адраджэнец, здаецца, Зайка (?) і, адвёўшы мяне ўбок ад усіх, пачаў распавядаць, як яны тут з Разанавым на раварах скалясілі ўсе ваколіцы, і што ён прачытаў мой артыкул у "НС" і падтрымлівае мяне... Аднак кампанія наша не дала нам надоўга адасобіцца, пагаманіць і бліжэй пазнаёміцца... Дзядзька цікавы, галавасты і неардынарны... Якім чынам і калі яны тут з Разанавым сутыкаліся – не дапытваўся, але цяпер пытанне гэтае мяне даймае...

Трохі пра гэту нашу паездку пачытаеш у бліжэйшым "ЛіМе".

Пра іншае пісаць – дарма час траціць. Усё нейкае згарачэлае і згарчэлае...

Мімаходзь жыцця...

Спадзяюся, што ў цябе настрой лепшы. Дай Божа.

Трымайся. І заставайся з Богам.

Абдымаю цябе.

*Лёня.*

*Дзень добры, Лёнечка.*

Вялікі дзякуй за доўгі, зьмястоўны ліст. Па-добраму дзівуе Твая працавітасьць, сталая гатоўнасьць Твайго інтэлекту рэагаваць, аналізаваць, супастаўляць, высноўваць. Кожная Твая эсэйка – гэта заўжды сьвежы позірк на аўтара ці на ягоную рэч, і заўжды ацеплена жывым духам Тваёй зычлівасьці. Не вынятак і артыкул пра Калесьніка. Колькі ўжо напісана-выказана пра яго ў адным толькі томе "Пасланец Праметэя", а Ты й тут здолеў знайсці ўласныя фарбы, дадаць свае адценьні ў партрэт нашага – усіхнага! – Настаўніка. І дзякуй, што хоць Твае асьцярожненькія радкі пра прэмію прагучалі *ўслых*.

Я згодная з Табой, што наяўнасьць *дзвюх* рэгіянальных прэміяў Калесьніка ня можа цешыць. Але нас, непасрэдных выхаванцаў Уладзіміра Андрэевіча, папросту беспардонна абразілі нахабнай прыхватызацыяй усёй, улучна зь імем, спадчыны Калесьніка. Пракаўтнуць гэтую абразу моўчкі? Так, імёнаў, вартых ушанаваньня, яшчэ багата. Але аддаць найсьвяцейшае?!. Дык хто ж мы былі б у вачах Настаўніка пасьля гэтакай здрады яму?!.

*Старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэту*
*К.А. Сумару*

*старшыні Брэсцкага абласнога ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”*
*Ніны Мацяш*
*(вул. Леніна, 48-94, 225215 г. Белаазёрск Брэсцкай вобл.)*

***з а я в а.***

*27 ліпеня г.г. Брэсцкім аблвыканкамам было прынята рашэнне аб усталяванні літаратурнай прэміі імя У.А. Калесніка. Можна было б толькі з удзячнасцю павітаць і парадавацца такім пашанлівым чынам выказанай павазе да гэтага багата ўталентаванага чалавека, які звыш сарака гадоў жыцця аддаў педагагічна-асветніцкай, выхавальна-культурніцкай ды творчай літаратурнай дзейнасці на зямлі берасцейскай. Аднак, пры азнаямленні з вышэй памянёным дакументам у сукупнасці з далучанай да яго “Инструкцией о порядке присуждения премии Брестского областного исполнительного комитета имени В.А. Колесника”, узнікае шэраг сур’ёзных пытанняў, на якія хочацца атрымаць адказ.*

*1. Чаму, згодна з пунктам 7 гэтай інструкцыі, пры вылучэнні літаратурных твораў “учитывается обязательное членство кандидата в Брестском областном отделении общественной организации “Союз писателей Беларуси”?*

*2. Чаму літаратары, якія складаюць афіцыйна зарэгістраванае Брэсцкае абласное аддзяленне ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, **пазбаўленыя** права браць удзел у творчым конкурсе?*

*3. На якой падставе прэферэнцыі аддаюцца аддзяленню СПБ?*

*Дазвольце нагадаць, што да снежня 2005 года абласная пісьменніцкая арганізацыя была адзінай і менавалася аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Паміж сябрамі (членамі) гэтай арганізацыі ніколі не існавала ніякіх палітычных спрэчак альбо прынцыповых разыходжанняў у пытаннях творчасці, што выключала падставы для самараспадзелу. Раскалолі нас, па нейчаму злому намыслу, па-жывому, гвалтоўна, не параіўшыся з намі, наагул не цікавячыся нашай думкай: па-валюнтарысцку забавязалі А. Крэйдзіча, так бы мовіць, “стварыць” і ўзначаліць задуманае “новообразование”, паабяцаўшы поўную падтрымку ўладных структур, і гэтага, як выяўляецца, было дастаткова, каб абвясціць тую суполку адзінай уладальніцай духоўнай спадчыны ўсяго “берасьцейскага вогнішча”, нават улучна з імем Уладзіміра Калесніка.*

*4. Гэта маральна?*

*Абласную пісьменніцкую арганізацыю чвэрць веку таму назад стварыў, згуртаваў і падняў “на крыло” незабыўны Уладзімір Андрэевіч. Ён вучыў нас, тадышнюю літаратурную моладзь, дасканаліць індывідуальнае пісьменніцкае майстэрства, аднак патрабаваў не толькі самаадукоўвацца, але і “самаачалавечвацца”, што, па Калесніку, азначае – гартаваць свой характар і самасвядомасць, быць мужным, прыстойным і паважлівым у стасунках з людзьмі, ніколі не губляць сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці, заўсёды адстойваць праўду, любіць Беларусь і пакланяцца Красе.*

*Мы, сябры абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, ганарымся, што ў свой час мелі такога светлай памяці Настаўніка, Кіраўніка і Сябра. І мы рашуча пратэстуем, каб слыннае імя У.А. Калесніка, якое магло б і павінна было стаць сімвалам адзінства і згоды ў грамадстве, па нейчай неабачлівасці альбо па злой волі скарыстоўвалася дзеля пашырэння і паглыблення расколіны між дзьвюма творчымі асяродкамі дый ва ўсёй грамадзе берасьцейскай інтэлігенцыі.*

*З павагай*
*Старшыня Брэсцкага аддзялення ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”*
*12 верасня 2007 года. Ніна Мацяш.*

Цяпер ёсьць, як ёсьць. Адказу на гэты ліст яшчэ няма, дый наўрад ці будзе. А сёлетнюю прэмію года 17-га верасьня ў універсітэцкім Калесьнікавым цэнтры мы ўручылі Дашынай і Філатаву. Апошняму ўжо хлопцы-радцы пастараліся, мяне паставілі перад фактам, бо на сходзе было вырашана, што прэмія будзе адна, а не дзьве: знайшлі ўсяго 350 даляраў, што там дзяліць. І мне хацелася падтрымаць Ярыну. Намінантаў набралася трое – Дашына, Каско і Філатаў. Каско саступіў на карысьць Лёні. Як на мой густ, дык не цягне проза Філатава на гэтую прэмію, але й дыктаваць сваю волю ўсім не хачу і не буду. А Філатаў шчасьлівы!.. І я ўжо ўсьміхаюся, бо Калесьнік вельмі цёпла ставіўся да Лёні, нават смакаваў часам ягоныя байкі, бо й сам жа любіў гумар і ўмеў дасьціпнічаць.

Чула, але яшчэ не бачыла сама (кажуць, у "Зары" на літстаронцы ўнізе напісана), што абкамаўскай прэміяй адзначаныя "Пасланец Праметэя" і... "Доўг памяці": Уладзіміру Калесьніку – прэмія імя Уладзіміра Калесьніка... Весела жывем, у поўнай згодзе з прынцыпамі тэатра абсурду!

Мне вельмі сумна, Лёня. Гнятліва. Зноў побытавыя праблемы: чарговыя пошукі чарговай памочніцы. І дакуль Божа будзе выпрабоўваць мяне?.. І так нескладана, у прынцыпе, паддацца спакусе самавольнага сыходу. Кажу страшныя рэчы? Яшчэ не страшныя, бо яшчэ не гатовая. А можа й наагул не страшныя. І гатовай так і не стану.

Шкада, што Ксеня залішне тузае вашы бацькоўскія нервы. Ці хоць мае яна ўжо нейкі лепшы варыянт працаўладкаваньня? А калі была ў Маскве, хто ж даглядаў Тэры ды Пахома? Сяброўка, ці да вас прывезла? Бо і ў гэтых дробных рухах – грунт або ілюзія дзявочай самастойнасьці. Ды ў любым разе, ніхто ні за каго не пратупае ягонай жыццёвай сьцежкай. Ах, каму ж я гэта кажу?!.

Да сустрэчы – на лімаўскіх разваротах!

*Гарнуся. Ніна.*

*P.S.* Алесь Разанаў зараз у Менску, азываўся. 1.10. ідзе ў суд па зыску да МТС, якая прысабечыла (ёмкае слоўка, нават калі не мяняць е на а!) "яйкаквадраты".

*Ніна, прывітанне!*

Дзякуй за цёплы аб'ёмны ліст.

У мяне тут набралася што казаць Табе, але нестае часу на шырокую размову.

Прачытаў "Тэрмапілы" на сайце Камуніката, а таксама віртуальны берасцейскі часопіс "Літ-Раж" са Шчурам і ўсімі астатнімі... У "Тэрмапілах" уразіў шмат якімі мініяцюрамі Янка Сіпакоў. Своеасаблівa пра Разанава напісаў Максім Шчур у "Літ-Ражы". Агулам, гэта добрае пачынанне... Такога інтэрнет-часопіса нават у сталічных "выскачак" няма. Думаю, будуць водгукі. Можа хіба зняць сям-там напускны флёр ды самаіронію... Але нават арыгінальныя "экзерсісы" Пістончыка чытаюцца без змусу і "отвержения"...

Выйшаў чарговы выпуск "Літаратурнай Беларусі", дзе мне перапала ад Іпатавай, хоць я разлічваў на Баршчэўскага, з якім палемізаваў (ды і адказваць Вользе Міхайлаўне трэба было ў "Нашым слове", дзе вялася дыскусія, а не ў іншым выданні, не ўсе чытачы якога, мажліва, былі ў курсе папярэдняй палемікі). Усё правільна як бы, але гэтае выпучванне трыбуннага рытарычнага змагарства патрохі ўсім набівае аскому. Можа таму, што "воз и ныне там"... Я ўяўляю, як бы многія з яе блізкіх супольнікаў былі радыя майму ўступленню ў чаргінцоўскі саюз (у артыкуле на тое нават ёсць прамыя намёкі), з якім езуіцкім задавальненнем яны б па мне патапталіся! Відаць, працягваць гаворку "глуханямых" далей не мае сэнсу, хіба хто збоку, як нейтральны чалавек, нас рассудзіць... Ці ўсё, як заўсёды ў нас, беларусаў, застанецца па-някрасаўску: "Вот приедет барин, он нас и рассудит"?..

Выйшла кніжка Купрэева. Адбылася ў Максімавым музеі яе прэзентацыя (з вашых краёў былі М. Папека і А. Белы). Паўнюткая зала. Дзве гадзіны разняволенай, зацікаўленай (і выступоўцамі, і слухачамі) размовы... Выступалі: Акудовіч, Ягоўдзік, Папека, Запартыка, Скалабан, Белы, Галубовіч... Гэта з 17 да 19 гадзін. А пасля яшчэ да 21 гадзіны сядзелі вузкім колам за гасцінным і ў меру хмельным сталом у дырэктаркі (Тані Шэляговіч)... Была і былая першая жонка Міколы Сямёнавіча. Вельмі прыгожая жанчына – інтэлігентная, “гжэчная”, вытанчаная часам і лёсам... Карацей, даўно нікуды не завітваючы, атрымаў поўны, як кажуць маладыя, “кайф” (разам з Верай, яна адпрасілася з працы).

Будзем на самым пачатку снежня з прэзентацыямі ў Брэсце (абл. бібліятэка і універсітэт), а таксама ў бібліятэках у Івацэвічах і Пружанах. Кніжка выглядае няблага. Галоўнае, вельмі чытэльны шрыфт і разгортваецца напоўніцу, а не баючыся разваліцца... Да Новага году выйдзе і зборнік Ярыны Дашынай. Усё ўжо ў рабоце. Адмысловая вокладка (яна сама даслала, хоць і запатрабавалася дапрацоўка) і карэктура...

Толькі што перамаўляў з Разанавым (з Берліну тэлефанаваў). Хачу нешта выдрукаваць да яго юбілею, дык выявіліся складанасці. Інтэрв’ю з ім, якое прапануе мне Е. Лявонава, ён даваць у “ЛіМе” не хоча, але хоча, каб пра яго сказалі іншыя людзі, хоць коратка (“яму было б цікава”)... Атрымліваецца, што людзі ў “ЛіМе” могуць пра яго сказаць, але сам ён у тым жа “ЛіМе” для людзей нічога казаць не будзе... І гэта мне трэба?! Задрала ўжо пустое супрацьстаянне... Буду думаць...

А, ледзь не забыў, наконт крыўды Рублеўскай і Тваёй заўвагі. Люда была са Шніпам на купрэеўскай прэзентацыі і дала рады годна павітацца са мной. Яна вышкаленая і ўмее трымаць удар. Іншым бы павучыцца. А вось Твая заўвага пра “спеліся-зжыліся” істотная. На далейшае буду памятаць.

Як жыццё восеньскае? Трывай – *“і прыйдзе дзень...”*, як пісаў Масей Сяднёў.

Сам я мацуюся хатыніцкімі журавінамі Ірыны Міхайлаўны (сястры Міхася Рудкоўскага), з якой у нас завязаўся пісьмова-тэлефонны дыялог (піша для “ЛіМа” ўспаміны пра брата, а заадно тое-сёе і пра Купрэева)... Дык вось нечакана для мяне даслала поштай палескіх дароў. Жонка “заквасіла” і я па лыжцы ранкам і вечарам іх спажываю. Гарката для языка, ды здарова для жывата... Вельмі беларуская жанчына. Творцам на такіх сясцёр рэдка каму шанцуе...

Будзь і Ты, па магчымасці, здаровая целам і духам.

Заставайся з Богам.

Абдымаю.

*Лёня.*

*Добры дзень, Лёня!*

Заўчора паслала Табе ліст зь некалькімі неасьцярожнымі радкамі: прабач за хьвіліннае маладушша і не трывожся, калі ласка. Жыцьцё яшчэ літасьцівае да мяне, не дапускае да непапраўнага. Дый волі на тое ў мяне наўрад ці хопіць, бо й грунт духоўны ня той. Жыцьцё ж і даецца дзеля выпрабаваньняў – на далейшую дарогу, у іншых сьферах.

Я чаму яшчэ пішу, не дачакаўшыся Твайго адказу. Прынесьлі мне “Зару” з падрыхтаванай Крэйдзічам літстаронкай. І сапраўды, ёсьць там допіс – інфармацыя нейкага Рыгора Сасновіча (яўны псеўданім, хлопцы ня ведаюць такога журналіста) пра юбілейныя падзеі 17 верасьня. Апісваецца ўсё, што адбывалася ў маёй прысутнасьці, аднак без упаміну ніводнага пісьменьніцкага імя, а замест уручэньня прэміяў Дашынай ды Філатаву сказана, што прэміяй адзначаны дзьве кнігі: “Пасланец Праметэя” і “Доўг памяці”... Калесьніку – прэмія імя Калесьніка... А да ўсяго ж: выканкам наагул яшчэ нічога нікому не ўручаў! Зноў цынічна

нахлусілі людзям. Крэйдзіч рыхтаваў літстаронку, і ведаў жа ён праўду, а вось зноў пайшоў на дробную подласьць. Ну і як пасьля гэтага ставіцца да чалавечка? Ніяк. Бог яму судзьдзя.

Ці забраў Сьлінко ў Цябе паперы берасьцейцаў?

Ці вярнулася з Масквы Ксюша?

Сардэчнае прывітаньне Веры.

З Богам!

Дарэчы: ці чытаў Ты ў "Нашай веры" малітву "Ойча наш..." Дануты Бічэль? Магутна!

*Будзь! Ніна.*

*Ніна, прывітанне!*

За працай нават дакладна не помню, калі табе пісаў апошні раз... Здаецца, прайшло больш тыдня.

Наконт паездкі ў Брэст і ў Пружаны, што казаць? Усё было вельмі файна. Паўсюль. Я пра гэта напісаў. Будзе пасля Новага года ў "ЛіМе".

Папека нават прэміяй мядовай нас уганараваў... Ксеня яшчэ аблізваецца...

Мне Дашыну шкада. Выдаюць кніжку. Да Новага года і выйсці можа. Пры дапамозе Брэсцкай абласной бібліятэкі. Замаўляюць ці не 800 асобнікаў, ды на астатнюю Беларусь яшчэ 700 застаецца. І паліграфія павінна нядрэнная быць. Кожны верш на асобнай стронцы. Мая прадмоўка.

Але ж як яны зборнік пашкуматалі! Пяць ці шэсць вершаў агулам знялі (з палітычных прычын). У шмат якія ўнеслі, няхай і нязначныя, але праўкі... Мяне ўвесь час трэсла (і яшчэ цяпер трасе). Я нават хацеў Іры сказаць, каб адмовілася, але падумаў, калі яна тады ўвогуле што выдасць, а ёй жа 28... (Зрэшты Галя Дубянецкая не асабліва плачацца з гэтай прычыны.)

А ў заўтрашнім "ЛіМе" даюць даволі аб'ёмны крытычны пасаж (у аглядзе свежых часопісаў холдынга) Лады Алейнік на Ірыну публікацыю ў 11 нумары "Маладосці". І так паступае арганізацыя, якая сама выдае зборнік гэтай паэткі, і хоча распаўсюдзіць і распрадаць яго?! Я прасіў і Ладу, і Казлова, і Карлюкевіча – не, у нас свабода слова... Ты чула! Дурдом у іх, а не свабода слова... Відаць, Карлюкевічу выгадна за кошт абласной бібліятэкі выдаць Дашыну кніжку, але нехта збоку ці зверху цісне, каб сапсаваць дзеўцы свята, бо, *ты пымаеш*, яна ў іх Саюз *пясьменнікаў уступаць* не жадае... Я гэткія непаразуменні толькі так разумею... Бо, калі тлумачыш ім гэтую абракадабру, то чырванеюць і мямляць нешта: вось выйдзе кніжка, дык рыхтуй адразу добрую рэцэнзію, а яшчэ лепш – дзве, каб розгалас быў... То я ж сам пісаць не магу, бо прадмова там мая. Ну, тады замаўляй каму... Спагаднікі заднім розумам.

Вядома, водгукі я арганізую. Справа ж не ў тым, а ў дурноце і бесталаннасці гэтых сраных кіраўнікоў лукашысцкай літаратуры! (Не магу сябе стрымліваць. Прабач.)

А Іра ўжо і на прэзентацыю запрашае ў Берасце, і ў Менск абяцае прыехаць... А мне сорамна, нібыта я перад ёй вінаваты.

Ты, пэўна, не кажы ёй падобных слоў, ды і я не буду. Не трэба псаваць дзяўчыне трапятлівы настрой... Можа яно як найлепш пройдзе. Мо гэта мне знутры так пагана ўсё бачыцца, а звонку будзе выглядаць зусім няблага... І шмат хто з маладых нават пазайздросціць ёй...

У самога вось настрою няма. Ты ж адчуваеш.

Не ведаю, я неяк адчувальна сапсеў ад гэтай нашай бясконцай беларускай безвыходнасці...

Слухай, даўным-даўно аддаў быў Казлову "заначку" пра ваш "Выток". Ужо і забыў пра тое, а сёння гляджу сігнал – ён стаіць у рубрыцы "Кніжная паліца".

У гэтым жа нумары і мае кароткія пісанкі. Няроўныя, як і гэты ліст да Цябе. Яшчэ раз выбачаюся за нервовасць і нястрыманасць. Але ж тым "зацемкам" ужо пяць гадоў стукнула... Заляжаліся ў пялюшках...

На тым усё.

Што ў цябе новага?

Жадаю здароўя і творчага неспакою.

Абдымаю.

*Лёня.*

*Дарагі Лёня!*

Артыкул Іпатавай і я чытала. Прабач, але я падзяляю яе разважаньні, і для Цябе гэта, канешне, не навіна, бо неаднойчы ж чуў і ад мяне штосьці падобнае. І ніхто "збоку" ня зможа "рассудзіць" пакрыўджаных і крыўдзіцеляў так, каб зьняліся ўсе ўзаемавытыкі. На тое патрэбен немалы час, зьмена самой сітуацыі. Але ж "воз и ныне там", як сам бачыш. Мне таксама агоркла чытаць у прэсе пра наш раскол. Выдатна разумею Твой стан, бачу праўду Тваіх думак – што "патапталіся б" і па Табе ў выпадку Твайго пераходу ў СПБ. Не разумею іншага: навошта Ты сам сябе аж гэтак падстаўляеш?!. Навошта ўвязваесься ў падобныя дыскусіі? Няўжо не ўсьведамляеш, што ў гэтым разе міжволі робісься важлівай фігурай на гульнявым полі **тых**, хто дае Табе кавалак сумленна заробленага хлеба, **чые мэты, аднак, зусім не Твае мэты?** Кожны Твой эмацыйны, па-свойму аргументаваны выпад на адрас знаных і насамрэч таленавітых пісьменьнікаў з СБП – на вагу золата для чаргінцоў, найперш таму, што Ты й сам – выбітны Паэт і найадметнейшы крытык лірычна-філасофскага замесу, а да таго ж і сябра СБП, **сябра тых, каго яны пакліканыя зьнішчыць.** І як жа ім не цешыцца з такой нагоды, калі мы спрошчваем іхнюю задачу – самі сябе нішчым?!. Што ж, гэткая ўжо чалавечая натура, і нам прыемна, калі між чаргінцамі ўзьнікаюць сваркі...

Я не за недатыкальнасьць асобы. Я супраць таго, каб дадаваць грунту для далейшага наступу на беларускіх пісьменьнікаў. З гідлівасьцю бачу, як імкліва русіфікуюцца абласныя чаргінцоўскія адзьдзяленьні. Як той жа Крэйдзіч, што піша па-беларуску, а з шэфам сваім, па радыё ды тэлебачаньню адразу ж пераходзіць на расійскую. Як рускамоўная віцебская піітка-кіраўнічка не дапускае да ўдзелу ў літімпрэзах ніводнага літаратара з СБП. Як першага выдатнага перакладчыка "Новай зямлі" на ўкраінскую падкрэсьлена не запрасілі на Каласавіны, хоць да гэтага нібыта й цікавіліся, нібыта й радаваліся неардынарнай творчай падзеі, працы, вартай найвышэйшых дзяржаўных адзнакаў. Як быццам тая павага патрэбна толькі перакладчыку, а не беларускай літаратуры, культуры, дзяржаве Беларусь, а пагатоў падчас нібыта дзяржаўнага ўшанаваньня нашых духоўных геніяў... Трапна сказала Іпатава: падмена. На ўсіх узроўнях ва ўсіх духоўна-інтэлектуальных сьферах.

У гэтым сьвятле вельмі зразумелая й пазіцыя Разанава, ягоная адмова фігураваць на старонках чаргінцоўскага выданьня, бо ён, і толькі ён, мае права распараджацца сваімі творамі, чым ёсьць і інтэрвью. Іншыя, калі хочуць, могуць разважаць пра яго як заўгодна і дзе заўгодна, ён не пасягае на чужое права. І ўжо ж, канешне, ён ня супраць Цябе, Лёнечка.

Твая злосьць таксама зразумелая: Табе хочацца рабіць цікавай і зьмястоўнай газету. Але якія б ні былі Твае высакародныя намеры служыць толькі праўдзе і беларускай літаратуры, у праўладным выданьні гэта, пры ўсіх Тваіх тытанічных высілках, нерэальна, бо з праўдай пра існыя стан мовы, літаратуры, культуры, духоўнасьці туды не паткнуцца, бо яны й створаныя дзеля таго, каб людзі ня ведалі праўды. І Табе гэта бачна лепей ад мяне.

Так што, трывай, братка.
На гэтым і скончу. Адгукайся.
З добрым сэрцам да Цябе, з прывітаньнем да сямейнікаў –
*Ніна.*

*Ніна, вітанне!*

Дзякуй за віншаванне з Колядамі! Заставайся ў Божай ласцы і Ты. Цалуем Цябе – Ксеня, Вера і я... Хай Табе Бог дае ўсё тое, чаго Ты вартая і чаго душой жадаеш.

Так, ты даслала мне трэці нумар "Вытокаў". Але ж напісала пажаданні на першай старонцы і цяпер яе нельга будзе (а мо і можна) сканаваць для "Кніжнай паліцы". А я думаю, што і гэты нумар магчыма было б даць...

"Зацемкамі" сваімі гэтым разам я вельмі незадаволены. Не адцэнзураваў сябе як след. Звычайна, перад тым як аддаваць у друк, даю на вычытку Веры, а тут "абышоў" яе – і вось табе маеш... Ужо атрымаў важкага *"здубавецця"* ад Хрысціны Лялько ды іншых... Але асабліва ад яе, ажно дагэтуль у адным месцы папеквае... Ну і добра, надалей будзе навука...

**Кніжка Ярыны нарэшце выйшла!!!**

Учора трымаў у руках сігнал, прычым у друкарні далі ўсяго адзін асобнік. Ды і той я выпрасіў у Карлюкевіча і тут жа аддаў на рэцэнзію Ціхану Чарнякевічу (вельмі адораны крытык расце, заўваж; між іншым ён і пра кніжку дзеяслоўскую Кудраўца напісаў нам, неўзабаве дадзім).

Тут жа патэлефанаваў Ярыне, адчувалася, што ледзь стрымлівала эмоцыі... А кніжка напраўду мае "гожы выглёнд": зробленая з густам вокладка (з падтэкставым намёкам на бел-чырвона-белую сімволіку), шрыфт выдатны, чытэльны, кожны верш на асобнай старонцы... Шкада, што пяць вершаў зацэнзурылі і такія-сякія праўкі давялося ўносіць рэдактару Міколу Мінзеру (бо граматыка ў Ірыных тэкстах нярэдка была парушанай, у яе ляпсусаў, на жаль, пакуль яшчэ хапае, трэба ёй прыводзіць сябе да класічнай гжэчнасці, як у стылістыцы, так і ў мове, і ў змесце)... Ды ўсё ж, не зважаючы ні на што, кніжка павінна мець поспех (неардынарнасцю стыля і мыслення, асабліва для нашай сучаснай жаночай паэзіі, як бы нейкае няяснае водгулле ад Сільвіі Плат). Агулам, думаю, свята Ірыне пад Новы Год зрабілі... Хай пакуль пацешыцца...

Праневіч (прадмова), Каско і Пракаповіч (званіў ім усім тры дні назад) маюць усё-ткі намер выдаць у нас зборнік паэзіі. Я не думаю, што яго ўжо так **чысціць** будуць (бо, апроч некалькіх Алесевых вершаў, там асабліва не будзе да чаго прычапіцца)...

Не буду хлусіць, я трохі стаміўся са сваім *гэтым* шчыраваннем. Каб яшчэ хоць які ганарар плацілі, усё ж шмат часу забірае... Але я ўжо гэтым, нераўнуючы як алкаголем "жыву"... Вырак такі ці што?.. Вера ўжо іншым разам папракае, што сабой і сваім не займаюся... Але ж і гэта сваё – НАША.

Вельмі блізка сышоўся (натурамі) з дачкой Купрэева Святланай. Аказалася, яна вершы піша. Добры верш пра бацьку. Праўда, па-расейску.

**ПОЭТУ...**

Стихов и прозы твой летящий слог
Таланта Божьей искрою отмечен.
Всегда творил, жил, как хотел, как мог,
Был неприкаян, грешен, незамечен.

Судьба жестока, а стихи нежны...
Полет, паденье – все как у поэтов.

Творить – от Бога, пить – от Сатаны,
А, может, от второго то и это.

Любить, страдать, скитаться по земле
Приходят из иных миров поэты.
И души их блуждают в вечной мгле,
Земля рождает их, чтоб быть воспетой.

И ты ее родную так воспел,
Что сердце задыхается от боли,
И ты, конечно, этого хотел –
Стихи, как птицы, выпустил на волю.

Раз дан талант – мучения сполна,
Все в жизни по закону равновесья.
Твой светлый рок – Поэзия – она
Списала все – во тьме и в Поднебесье...

А надоечы выдала мне верш і па-беларуску. Яна ж да дзесяці гадоў жыла ў Сіняўцы (Клеччына, непадалёк ад Ляхавічаў, 12 км ад маёй вёскі праз лес), ды і пасля лета ў іх праводзіла. Сябе з козамі тамашнімі ў абдымку на фотках паказвала... Характар у яе Міколы Сымонавіча, хоць яна да яго ўсё яшчэ прывыкае (ён жа яе абсалютна не гадаваў і не выхоўваў). У турфірме працуе ў Траецкім прадмесці, наводдаль музея Багдановіча. Самастойная і самадастатковая. Купіла машыну і ганяе па свеце. Ванроўная дзеўка (*"душа, как девушка чиста, а девушке уже за тридцать"*, памятаеш, у Кошаля Пятра было такое, а Святлане ўжо за сорак)... Папрасіла пачытаць мае вершы і "зацемкі"... Даў. Атрымаў станоўчы водгук. Хачу падсунуць ёй Станкевіча, Бахарэвіча, Глобуса, Федарэнку, Някляева, Дранько-Майсюка... Гэта я так рэагую на яе словы, што ў беларусаў пасрэдная літаратура, як была так і засталася. З кожным разам адчуваю, што ёй робіцца цікава...

Дарэчы, патлумачыў ёй і яе маці, пра два Саюзы пісьменнікаў. Яны былі здзіўлены, бо па сутнасці не з'яўляюцца прыхільнікамі гэтага рэжыму (асабліва Таццяна Мікалаеўна). Пабыў у іх утульным доме, папіў кавы з торцікам, пагладзіў двух пышных сіямскіх кошак, пагаманілі, пагарталі старыя сямейныя альбомы... Здзіўляюся, што нягледзячы на такія адносіны (па сутнасці адсутнасць усякіх адносін) яны так беражліва захоўваюць здымкі і рэдкія паштоўкі былога мужа і бацькі, Міколы Купрэева.

Запісаўся...

Вядома, Каляды будзем святкаваць дома. Вера, праўда, з калегамі па працы пойдзе ў кафэ (у іх якраз нейкі юбілей)...

Сяджу. Працую. Пішу. У першых двух паслянавагодніх нумарах будуць у "Кулуарах" Мінкін і Законнікаў, завяршаю артыкул пра Катлярова ("Сначала жизнь. Потом судьба")... Далі мне новую кніжку А. Бахарэвіча "Праклятыя госці сталіцы" (раман як бы). Буду ўчытвацца. Хлопец таленавіты. Набокаўская стылістыка, але падчас шматслоўны, а бывае і проста пустаслоўны...

Як Ты? Што?

Заходзіў Разанаў. Трохі (адчувалася) крыўдануў на маю "зацемку". Пагаманілі, у тым ліку і разам з Бадаком і Карлюкевічам...

Ну, кланяюся...

Абдымаю.

Прывітанне ад дзяўчат маіх.

*Лёня.*

*Мае ваганні без кавычак, Лёня.*
*Вітаю!*

І “самотнае зрэб’е” на душы толькі грубее і яшчэ мацней муляе. Павымятала з усіх куткоў нататнікавага “сусеку” вершы апошніх трох-чатырох гадоў, і такая паныласць ад уласнай пісаніны апанавала, што ня выказаць. Ці трэба гэтую прыватную марнасць выносіць на людзі?! У лістах, у размовах пазьбягаю нуды, а тут – адна немач... Карацей, дамаўляемся так: зараз я адпраўлю Табе ўсё, што набралася і сяк-так скампанавалася. І вельмі прашу глянуць уважліва, чаго ўсё гэта вартае. Мне хочацца, каб у кнізе быў і вянок санетаў “Бабіна лета ў Белаазёрску”, бо той калектыўны зборнічак “Тры грацыі” з гэты творам, зрыхтаваны сьветлай памяці Анатолем Кірвелем і выдадзены ў Санкт-Пецярбургу, амаль ніхто ня бачыў і не чытаў. Малавядомыя і трыпціх “Чытаючы Вярцінскага” ды цыкл “Паводле карцінаў Чурлёніса”. Але! Апошнія верлібры, якіх я нават абназовіць не здольваю, моцна выбіваюцца з гэтага шэрагу – тэматычна і стылёва. Дык ці на дабро гэта кнізе? Можа, ахвяраваць колькасцю, зьменшыць напалову, і ўсё, вытрыманае ў традыцыйным стылі, адкінуць, а пакінуць адно гэтыя, так бы мовіць, “абразкі фаўны і флоры”, далучыць да іх з паўсотні перакладаў – і годзе? Тады й немачы, пра якую я казала напачатку, не застанецца, і цэласнасьць захаваецца? Зараз мне Тваё рэдактарскае вока немаведзь як дарагое! І калі Ты ня супраць рэдактарства, а мне падалося, што ня супраць, дык дзеля гэтага я і ад Тваіх заманлівых “кулуараў” гатовая адмовіцца, калі буду змушаная на тое! Ты мне й так, як рэдактар, выкажаш шчыра ўсё, што думаеш. Форма, канешне, будзе не такая файная, але сэнс не пашкодзіцца ж! То дзякуй вялікі за згоду.

Твой Чобат – мой Чобат па ўспрыманьню: і трохі ніякавата было паперш ад тых прысвячэньняў коцікам, і балюча-балюча ад чалавечай адзінотнасьці. Ну, а Твае аналітыка ды вобразнасьць не перастаюць дзіваваць і ўражваць: гэтулькі ўжо аўтарскіх кніжак Табой разгледжана, і для кожнай знаходзіш непаўторныя, слушныя думкі і фарбы. Па Тваіх артыкулах усю сучасную беларускую літаратуру можна вывучаць!

Што да *шапачкі*, якую, па волі Марыйкі Мартысевіч, *вяжа* Табе Дашына, дык мне здаецца, тут ня трэба шукаць нейкага адмысловага падтэксту. Ты ж у сваіх “кулуарах” заўсёды ў адной і той жа *кепачцы*, вось Ярынка па душэўнай дабраце жаночай і вырашыла зьвязаць Табе *яшчэ адну* – хай будзе добраму чалавеку *на зьмену*!.. Мне зноў сьмешна!..

А зараз скажу зусім нясьмешнае: Дудзюк перайшла ў той саюз і нават... узначаліла абласное аддзяленьне – замест Крэйдзіча, які прагнуў сысці, і гэта яму ўдалося, стаў рэдактарам Іванаўскай раёнкі. Мне яшчэ ні Дудзюк, ні Крэйдзіч не паведамлялі пра гэта, але берасьцейскія хлопцы, запрашаючы Зіну на Раду, пачулі ад яе ў адказ: “Я ўжо не ваша!” Пра свой сыход яна, не без вагомага ўплыву Баравіковай, даўно думала, і са мной яшчэ на Вялікдзень дзялілася “навіной”, што Чаргінец уласнаручна выкрэсьлівае з тэмпланаў “Мастацкай літаратуры” кніжкі ўсіх, хто не ў ягоным саюзе, вось Зіна, па яе прызнаньню, і “прызадумалася”, бо тры раманы гатовыя, і па 1000 асобнікаў назьбірана, а не выдаюць...

Горкая Твая праўда, Лёня: не ворагі страшныя – страшна аднадумцаў ды сяброў страчваць. Я папрасіла хлопцаў не чапаць Зіну, яна мае права на ўласны выбар, няхай і разьбіраецца сама з сабой. Але на душы вельмі гадка. І Зіну шкада. Няўжо яна не разумее, што зрабіла з сабой?..

Вернемся да нашых баранаў, як кажуць французы. Чакацьму Твайго азываньня на вершы. І падкажы назву кніжкі! Першае, што прыходзіла ў галаву – *“Бабіна*

*лета ў Белаазёрску”.* Не скажу, што засмакавала... А калі яшчэ й здымецца гэты вянок санетаў, дык і назва сама па сабе адпадае.

*З сардэчным прыхіляньнем да дзяўчатаў і Цябе – НІНА.*

*P.S.* А ў якім стане кніжка Паплаўскага?

*Ніна, прывітанне!*

Атрымаў Твой ліст і набор рукапісу магчымай кнігі...

Пакуль толькі прабегся вачыма...

Што ж тут плакацца, назбіралася добрая вязанка лірыкі.

Сёння зранку пайшоў да Алеся Карлюкевіча. Вырашылі так: Ты дасылаеш мне (файлам) да 1 верасня канчатковы рукапіс зборніка для маёй рэдактуры.

Усё павінна быць на Твой густ: альбо “выбранае”, альбо новыя творы і пераклады, альбо рознае, гэта значыць, тое, што Ты пажадаеш – не больш за 240.000 знакаў (на кампутары, недзе каля 6 друкаваных аркушаў). Гэта прыкладна аб’ём “Трохперсця”. (Можаш, вядома, даслаць з запасам, каб можна было выбіраць на рэдактарскі густ.) Дадаць: фота, біяграфічную даведку і грунтоўны артыкул жыцця і творчасці (чый, хто?) Можа ўжо ёсць такі, недзе друкаваўся ці каму магла (маглі б) замовіць? Пасля будзе заключана дамова з аўтарам.

Вось і ўсё.

Я пайду ў адпачынак (паеду да мамы) 25 ліпеня. Вярнуся 25 жніўня.

Напішы, ці згодная?

Абдымаю.

*Лёня.*

*Дзень добры, Лёня!*

Канешне ж, я згодная і са зьместам, і са структурай кніжкі. Што да эсэ пра Брыля, паўтаруся: калі яно выглядае “прышпіленым” да тэкстаў, дык лепш не зьмяшчаць. Трэба было мне паставіць яго ў “Жырандолю”. Але хацелася паболей месца пакінуць іншым.

Дзякуй Табе за добрае і разумнае слова пра альманах. І за слушную выснову наконт адзіннасьці (з дзвюма н), то бок цэласнасьці пісьменьніцкага арганізму. Але, але... Расколіна ж прайшла праз усё грамадства. Я ня веру, што беларускія пісьменьнікі, нават сваёй шэдэўральнай літаратурай, калі такая ўзьнікне, зьяднае і згуртуе, **з’адзіньніць** яго. Без рашучай і цьвёрдай дзяржаўнай моўнай палітыкі, мары пра гэта – звычайная ўтопія. Ужо й гаварыць на гэтую тэму ня хочацца.

Як заўсёды цікава, бо жыва, “пакулуарыў” Ты і з Дубянецкай. Праўда, я ажно гмыкнула на Твой пасаж пра тое, што – лепш бы ўжо й не выдавала Галя сваю кніжку, бо вершы, сабраныя да купы, толькі падпсавалі арэал паэткі ў Тваіх вачах. Нічога сабе камплімент! Галя не пакрыўдзілася? Мабыць, не, прынамсі, што ўжо тут скажаш, лепш прамаўчаць! Але Ты вырабіўся і зрабіў істотную выснову. Веру, што справядлівую. Бо кніжку не чытала. Ды ведаю Твой густ.

Што да маіх вершаў, то, калі будзеш чытаць дасланы варыянт, заўважыш сямтам рэдкія праўкі і чатыры новыя вершы: *У пячоры, На секунду праявіцца..., Які спакойны ды сонечны... і Два характары – дзьве крамяніны...* А сёньня, здаецца, качаткова ўпакорыўся верш памяці Жэні Янішчыц:

**ПАМЯЦІ ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ**

Пяро макала ў думнае дасвецце,
пісаліся ня вершы, а лісты,

якімі й выкупілася ад смерці,
ад нематы.

Калі загнала жорсткая замгліна
пчаліны луг твой у глухі вышар,
нязлоўленая, уцякла ў каліну
твая душа.

Цяпер жывое дрэўца і табою,
няма безабаронней і ярчэй.
Мінае ўсё, а жаляў і любові
час не ссячэ.

І покуль будзе бачыцца сцяжынка,
якой ішла ты ў бедах, бы ў шаўках,
вярэдзіціме сэрцы і галінка
твайго радка.

Што скажаш?.. Дадай яго, калі ласка, у кніжку. Думаю, ягонае месца за прысьвячэньнем Брылю "Птушкі і гнёзды". Мяккія знакі я павыдаляла, каб Табе было прасьцей.

Атрымала ад Крэйдзіча паведамленьне, што "Трохперсце" адзначана аднагалосна, ужо ёсьць рашэньне выканкама. Мне яшчэ з гэтай нагоды не тэлефанавалі, але чакаю званка ад *нама* па ідэалогіі, бо абяцаў азвацца. Нібыта хочуць бачыць там і мяне. Наўрад ці я выбяруся ў Пінск, але нейкае прывітальнае слоўка перадам. Толя не ўдакладніў час юбілейных мерапрыемстваў, чакаю інфармацыі. Але расьцягнулі сьвята з купецкім, дакладней, з пацёмкінскім размахам ажно на два дні – 20 і 21 лістапада. А як гэта практычна вырвацца людзям і ў Велясьніцу 20-га, і ў Пінск 21-га, не падумалі. А можа й падумалі. Гуляць дык гуляць?!. Усёадно сусьветны фінансавы крызіс!

Добра, Лёнечка, годзе ўжо мне тлуміць Табе галаву. Бо ў самой затлумленая.

Адгукайся.

Дарэчы, і чым супакоілі, калі супакоілі, Аўруціна? З такімі творцамі й напраўду лепш не зьвязвацца.

Як у Цябе ўдома, – спакойна? Чым занятая Ксеня? Прывітаньне і ёй, і Веры.

Будзь!

*Ніна.*

*Дзень добры, Ніна!*

Атрымаў два варыянты прадмовы Генадзя Праневіча...

Нарэшце селі, усё падлічылі і вырашылі наступным чынам:

**скарочаны варыянт прадмовы Праневіча,**

**вершы Мацяш,**

**яе пераклады і артыкулы да Шымборскай, Кастэнкі і французскай плеяды,**

**плюс фота і біяграфічная даведка.**

Вельмі шкада, што няпоўнай ідзе файная прадмова Генадзя і што не можам уціснуць эсэ пра Я. Брыля (зрэшты, гэта яшчэ не канчаткова вырашана, буду змагацца)...

Як гавораць: усім дзякуй за працу.

Абяцалі хлопцы зладзіць прэзентацыю "Трохперсця" у Берасці і ў Ганцавічах (у Міколы Пракаповіча заўчора мінуўся юбілей, якраз неблагая нагода была як для чаркі, так і для сустрэчы з чытачамі – няхай жыве і творыць здаровы!)...

Такія справы, калі коратка.

Жадаю дабра!

*Лёня.*

*Вітаю, дружа Лёня!*

Трохі падужэла маё недаладнае сэрца. Праўда, на людзі выходзіць яшчэ ніяк не варта было б. Ня ведаю, ці пераканаю, каб ніхто не пакрыўдзіўся. Гэта я пра 17-га сьнежня, калі мяркуюць быць у Белаазёрску з прэзентацыяй "Галасоў з-за небакраю" Скобла з Разанавым. Можа, яшчэ хто зь мінчукоў далучыцца да іх. А ў каледжы, дзе ладзяць сустрэчу, я тры гады працавала, дык дужа просяць і мяне быць. Ну, як ужо складзецца.

Як заўсёды, зацікаўлена дападаю да Тваіх артыкулаў. Тое, што Ты даўно і пасьпяхова напрактыкаваўся ў грунтоўнай аналітыцы, вывастрыў думку і амаль упакорыў эмоцыі – не навіна. Але калі Ты чытаеш усе гэтыя, узятыя на разгляд, кніжкі?!. Калі абдумваеш?!. Схіляю галаву!

А мне Алесь Корнеў, – некалі я пісала Табе пра маё стаўленьне да ягонага вершаваньня, – даслаў сёньня ажно тры свае зборнікі: "Пад зоркай Мілавіцай", "Крыжы зямелькі нашае" і "Жаночыя напевы". Спадзяюся, нешта выбяру зь іх у альманах, бо ёсьць жа ж і неблагія вершы. Папрасіла Трафімчыка напісаць рэцэнзію, які таксама прапаноўвае свае ня дужа ўмелыя крытычныя паслугі...

Даслаў новую кніжку "Аўтографы" Расьціслаў Бензярук, а ў лісьце – запэўніваньне ў павазе да мяне і – заява аб "разрыве з СБП", які "цяжка даўся". Бо чалавек за пяць гадоў выдаў 8 кніжак, а гэтага ніхто й не заўважыў, нават на прэмію "вылучыла другая арганізацыя" (удакладнім: сын Анатоль, які ў Крэйдзіча, апошні й за "Кола Сварога" пастаяў). Гэта першае. А другое – нацягнутыя стасункі з Каском, зь якім Бензярук ужо не хоча болей сустракацца... Але ж і адзін, і другі працуюць у адной рэдакцыі... Толькі Алесю да пенсіі яшчэ гнаць ды гнаць там "пагонныя метры", а Бензяруку празь месяц споўніцца 65. Пры добрым здароўі яшчэ, канешне, хочацца мець стабільны грашовы дадатак. Алесь, пэўна, замінае. І вельмі лёгка можа зьляцець з пасады, дакладней, збавіцца заробку зь вядомай усім прычыны. І сьціплы, мякькі Бензярук не пашкадуе... Гэткія вось "дзеці" ў мяне...

Лёнь, Ты ні разу не адказаў на маё пытаньне наконт лёсу кніжкі А. Паплаўскага: што з рукапісам, ці рыхтуецца кніжка? Паплаўскі саромеецца пацікавіцца. Калі што ведаеш, адкажы, калі ласка.

Віншую Цябе, Веру, Ксюшу з надыходам Калядаў і Новага году. Няхай добры Бог пашле кожнаму з вас усё жаданае, сьветлае, што ацаляе і ўзвышае!

*Ніна.*

*13 сьнежня'08*

(Гэта апошні ліст Ніны, ноччу з 18 на 19 снежня яна сканала ад сардэчнай недастатковасці, адна ў сваёй кватэры, раніцай яе смерць *агледзела* сацыяльная работніца.)



Анатоль Сідарэвіч



…“Патрабуем, каб кожны народ
меў свой сейм у сваём краю!”…

# “За нашу і вашу свабоду”

## *Першыя крокі Беларускай Сацыялістычнай Грамады на агульнарасійскай палітычнай арэне*

Калі нехта думае, што царская ахранка кепска працавала, той памыляецца. Таемная паліцыя ведала, дзе жывуць і дзе сустракаюцца, каб весці свае размовы аб перспектывах рэвалюцыі ў Расіі, правадыры сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў ды іншых апазіцыйных партый, якім пашанцавала выехаць за мяжу, а не апынуцца ў Туруханскім краі.

Я ўжо недзе пісаў, што Расія павольна, з адступленнямі, але рухалася ў напрамку да прававой дзяржавы. Пазасудовыя расправы, акрамя адміністрацыйных ссылак, выключаліся. Судовыя слуханні былі публічныя. Прысуды нават ваенна-палявых судоў, дзе слуханні былі закрытыя і праводзіліся паводле спрошчанай працэдуры, даводзіліся да агульнага ведама. Тагачасны палітычны сыск меў цвёрдую ўстаноўку не забіваць палітычных апанентаў і “здраднікаў” за мяжой і ў самой імперыі. Гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да палітычных здараліся, але без суда пазбаўляць іх жыцця паліцэйскія, жандары і турэмшчыкі не адважваліся.

У той час лічылася, што палітычная паліцыя не мае права засылаць у апазіцыйныя палітычныя арганізацыі сваіх агентаў. Але жандары ўсё ж засылалі сваіх людзей або вербавалі сяброў гэтых арганізацый. Засланых і завербаваных агентаў у той час называлі проста – правакатары. І калі правакатараў выкрывалі, гэта выклікала шырокі грамадскі рэзананс і два наступствы. Наступства першае: кіраўніка жандарскага ведамства, якое "пракалолася", або адпраўлялі на "заслужаны адпачынак", або, што здаралася часцей, пераводзілі служыць у іншыя мясціны. Так было, напрыклад, з шэфам віленскай ахранкі палкоўнікам Канстанцінам Шабекам, які ў 1908 г. мусіў пераехаць на Каўказ. Наступства другое: выкрыты правакатар мусіў мяняць сваё аблічча, імя і прозвішча ды ўцякаць з Расіі, як гэта было, напрыклад, з Барысам Герцыкам, які на пачатку XX ст. уваходзіў у Менскі сацыял-дэмакратычны камітэт і хаўрусаваўся з Іванам ды Антонам Луцкевічамі або з нашым земляком (нарадзіўся ў Пружанскім павеце) Еўна Азефам. Той, хто быў надта даверлівы і своечасова не схаваўся, заўчасна пакідаў гэты свет, як тое здарылася з Георгіем Гапонам. У той час і пазней грамадская думка была на баку тых, хто выконваў смяротны прысуд правакатару, вынесены яго былымі таварышамі (нагадаю, як дзякуючы падтрымцы грамадскасці ў Польскай Рэспубліцы і за яе межамі быў уратаваны ад шыбеніцы Сяргей Прытыцкі).

Напісаць такую прадмову мне спатрэбілася, каб паведаміць чытачу, што адным з першых дапаможнікаў для вывучэння гісторыі сацыялістычнага руху ў Расіі стала праца "Революционное движение в России" генерал-маёра Асобнага корпусу жандараў Аляксандра Спірыдовіча. Два ёмістыя выпускі гэтай працы выйшлі ў свет у 1914 і 1916 гг. Пэўна, гэтую працу чыталі і ва ўрадавых кабінетах, але нейкія радыкальныя меры дзеля ачышчэння арміі і флоту, земстваў і гарадскіх управаў ад сацыял-дэмакратаў і эсэраў учынены не былі. Царызм не парупіўся стварыць хоць бы адзін-аднюсенькі канцлагер для ўнутраных ворагаў.

Далей я буду спасылацца на А. Спірыдовіча. У ходзе майго апавядання паўстануць таксама постаці Азефа і Гапона.

## Аб нараджэнні БРГ/БСГ

Цяжка адказаць, чаму менавіта ў 1902-1903 гг. маладыя людзі прыйшлі да думкі аб неабходнасці стварэння беларускай палітычнай арганізацыі, якая, апроч звяржэння царызму, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, мела б на мэце яшчэ і дасягненне незалежнасці Беларусі і пабудовы ў нашай краіне дэмакратычнага рэспубліканскага ладу.

Антон Луцкевіч прызнаваўся: яны (студэнты, нядаўнія гімназісты) угледаліся, што дзеецца ў суседніх і больш аддаленых народаў Расійскай імперыі. А перыяд з 1882 па 1903 гг. можна назваць часам шырокага партыйнага будаўніцтва. Партыі стваралі сыны і дочкі прыгнечаных народаў (армянаў, габрэяў, грузінаў, латышоў, літоўцаў, палякаў, украінцаў, фінаў) і выразнікі інтарэсаў прыгнечаных сацыяльных класаў (рабочых і сялянаў). Расійскія буржуазна-дваранскія партыі паўстануць толькі тады, калі дазвол на тое дасць урад.

Першая спроба стварыць беларускую палітычную арганізацыю была ўчынена на пачатку 1902 г. Ужо сама яе назва – Беларуская рэвалюцыйная партыя (БРП) – падказвае нам, што ініцыятар яе заснавання Вацлаў Іваноўскі быў уражаны падзеямі ў нашых паўднёвых суседзяў, дзе гучна заявіла пра сябе Рэвалюцыйная ўкраінская партыя (РУП)[1]. І тое, што заснаваная пад канец 1903 г. партыя стала называцца Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадой (БРГ), падказвае нам, што тут таксама не

[1] У 1905 г. РУП стане Украінскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыяй Украіны (УСДРП).

адбылося без украінскага ўплыву: згадайма шэраг украінскіх арганізацый другой палавіны XIX ст., якія мелі ў сваіх назвах слова "грамада".

Але чаму менавіта ў 1902-1903 гг. нараджаецца і рэалізуецца ідэя беларускай палітычнай арганізацыі? Скажам, нацыянальна арыентаваныя эстонскія сацыял-дэмакраты стварылі сваю партыю толькі ў 1907 г., а да гэтага ўваходзілі ў Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП).

Можна думаць, што нараджэнне думкі пра партыю і яе рэалізацыя ў 1902-1903 гг. адбывалася ў немалой ступені таму, што маладыя рэвалюцыянеры бачылі адставанне Беларусі ад суседзяў – Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны. Думаецца, што заснавальнікі БРГ добра разумелі: Беларусь, якая знаходзіцца на разломе дзвюх цывілізацый[1], з'яўляецца арэнай жорсткай барацьбы паміж дзвюма культурамі: польскай і расійскай. І польскі, і расійскі палітычныя класы, інтэлектуальныя эліты ставілі задачу асіміляцыі беларускага народа, яго, кажучы па-польску, *wynarodowienia*, дэнацыяналізацыі сялянскай нацыі[2]. І беларусам трэба было прамовіць сваё слова. Адкладваць стварэнне партыі на пазнейшы час не было як.

Нараджэнне і рэалізацыю ідэі беларускай партыі менавіта ў 1902-1903 гг. можна тлумачыць і палітычнай інтуіцыяй яе заснавальнікаў. Расія была цяжарная рэвалюцыяй. Прыход да ўлады пасля перыяду контррэформаў Аляксандра III (1881–1894) маладога цара ніяк не азначаў, што ўрад аслабіць ціск на грамадства і здзейсніць даўно наспелыя рэформы. А калі ўрад упарта не жадае праводзіць наспелыя рэформы, з непазбежнасцю наступае рэвалюцыйная сітуацыя. Непазбежнасць рэвалюцыі разумелі і ва ўрадавых колах. Каб зняць сацыяльна-палітычную напружанасць, міністр унутраных спраў Вячаслаў Плеве раіў Мікалаю II распачаць маленькую пераможную вайну. І 9 лютага 1904 г. расійска-японская вайна пачалася.

## БРГ/БСГ і Парыжская канферэнцыя

Агульнавядома, што расійска-японская вайна мела імперыялістычны характар і вялася за сферы эканамічнага ўплыву і за перакройванне палітычнай карты свету. Калі маладая японская нацыя разумела, што вайна вядзецца за статус Японіі як вялікай дзяржавы і рэгіянальнага лідара, дык шырокія масы ў Расіі не маглі ўцяміць, за што вядзе вайну іх дзяржава: ніхто ж не выключаў Расію з ліку вялікіх дзяржаў.

Чым больш працягвалася вайна, тым больш падаў аўтарытэт царызму ў вачах народа, перш-наперш адукаванай яго часткі. У краіне былі не толькі моцныя антываенныя настроі. Калі ўжо ў вялікарускіх рэвалюцыйных колах шырока было распаўсюджана "пораженчество", то чаго здзіўляцца, што ваеннай паразы Расіі жадалі прадстаўнікі прыгнечаных народаў? І не толькі жадалі – ішлі на кантакты з японскімі эмісарамі.

---

[1] Аўтар вядомай працы "Сутыкненне цывілізацый" Сэмюэль Ханцінгтан пісаў аб праваслаўнай цывілізацыі, цэнтрам якой лічыў Расію. Аднак супраць такой класіфікацыі ёсць пярэчанні. Маскоўскае праваслаўе, у адрозненне ад так званага грэцкага, а таксама беларускага, украінскага, балгарскага, сербскага, румынскага і г.д., ніколі не было прыгнечаным; наадварот, маскоўская Царква большую частку сваёй гісторыі была ў дачыненні да іншых вызнанняў у Маскоўскай (потым Расійскай) дзяржаве Царквой-прыгнятальніцай. Польшчу С. Ханцінгтан аднёс да заходняй цывілізацыі, але Польшча, як і Вялікае Княства Літоўскае, была перыферыяй заходняй цывілізацыі, была і з'яўляцца перыферыяй светаэканомікі. Яна належыць да земляў на ўсход ад Лабы, дзе доўга захоўвалася прыгоннае права.

[2] Паняцце "сялянская нацыя", пэўна, увёў Фрыдрых Энгельс у 1869 г. Гл.: Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2-е. Т. 32. С. 300.

Пра супрацоўніцтва польскіх сацыялістаў і нацыянал-дэмакратаў (эндэкаў) з японскімі чыннікамі ўжо даўно і нямала напісана. Атрымлівалі дапамогу ад японцаў і бальшавікі на чале з Уладзімірам Леніным. Цесныя кантакты з вайсковым аташэ Японскай імперыі ў Стакгольме палкоўнікам Матадзіра Акасі[1] падтрымлівала Фінляндская партыя актыўнага супраціўлення (ФПАС), якая тэрорам вяла змаганне супраць русіфікацыі свайго народа. Дапамагала ёй у гэтай барацьбе Сацыял-дэмакратычная партыя Фінляндыі (СДПФ).

Генерал жандармерыі Аляксандр Спірыдовіч [11:150–151][2] і савецкі гісторык Карнэлій Шаціла [4:55] пісалі, што менавіта ФПАС, яе лідэр Коні Цыліякус сталі ініцыятарамі склікання канферэнцыі апазіцыйных і рэвалюцыйных арганізацый Расійскай дзяржавы ў Парыжы (30.09 – 4.10.1904 г. паводле н. ст.). Аднак у часопісе Польскай сацыялістычнай партыі (ППС) "Przedświt" можна прачытаць, што ў ліку ініцыятараў канферэнцыі былі і ППС, і "арганізацыі латвійскага, літоўскага, а таксама беларускага пралетарыяту"[19:133].

Тут польскія сацыялісты, пэўна, мелі на ўвазе дзве адозвы. Адна з іх была выдадзена супольна Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадой, Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй (ЛСДП), Польскай сацыялістычнай партыяй і латвійскімі сацыял-дэмакратамі, якія яшчэ не арганізаваліся як партыя[3], а другую падпісалі БРГ і ППС.

Вось цытата з другой пракламацыі:

*Братцы запасные, няйдзице на войну! Хто можець, нихай уцекаець, а каго силой возьмуць на войну, тот у войску нихай усими силами стараецся збунтоваць усех солдатоу, нихай каждый як можець шкодзиць, нихай стараецся каб цар проиграу войну. Тагды правительство ослабееть, тагды мы скорей яго поборем и завядзiом лепшые порадки. Тагды ня будзець панованья, усе будзем роуные, будзем працоваць не на правительство и паноу, а только на сябе; будзем сами упрауляць сабой по праудзе и справядливосци, ня будзе тагды бяды и крыуды.*

*Смело, братцы! Покажем цару и нашим угнетацелям, што мы ня хочим быць нявольниками и робиць, што им уздумаецся. Ня пойдзем добровольно на войну, ня дадзим гроши ни на флот, ни на «Красный Крест»! Прочь цара, прочь правительство!* [18:40].

Як бачым, у гэтай улётцы прапановы аб скліканні канфрэнцыі рэвалюцыйных і апазіцыйных партый Расіі не было. Не было яе і ў першай.

Планавалася, што ў канферэнцыі возьмуць удзел 18 партый і арганізацый, а ўдзельнічалі ў ёй толькі восем: Армянская рэвалюцыйная федэрацыя (АРФ, Дашнакцуцюн), Грузінская партыя сацыялістаў-федэралістаў-рэвалюцыянераў, Латвійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (ЛСДРП), Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР), Польская нацыянальная ліга[4], ліберальны расійскі Саюз вызвалення і ФПАС. Аляксандр Бурбіс пісаў, што ў канферэнцыі ўдзельнічала і БРГ [2:9].

РСДРП і некаторыя іншыя сацыял-дэмакратычныя партыі Расіі, якія прэтэндавалі на адзіна правільнае разуменне марксізму і сацыялізму, перад міжнародным сацыялістычным кангрэсам у Амстэрдаме (14–20.08.1904 г.) прынялі

---

[1] Да Стакгольма М. Акасі (1864–1919) быў вайсковым аташэ ў Санкт-Пецярбургу, а пасля Стакгольма – у Берліне. Пазней ён займаў пасады начальніка японскай вайсковай паліцыі ў Карэі, намесніка начальніка генеральнага штаба і нарэшце генерал-губернатара Тайваня. Даслужыўся да рангу генерал-лейтэнанта.

[2] Лічбы ў квадратных дужках абазначаюць: першая парадкавы нумар кнігі, часопіса ў спісе літаратуры, другая – пасля двухкроп'я – нумар старонкі ў пэўнай кнізе, часопісе.

[3] Заснаваная ў 1904 г. Латвійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя ў 1906 г. стала Сацыял-дэмакратыяй Латышскага краю і ўвайшла ў склад РСДРП.

[4] Польская нацыянальная ліга (Polska Liga Narodowa) – таемная нацыяналістычная арганізацыя, створаная ў 1893 г. У 1897 г., калі была заснавана Нацыянальна-дэмакратычная партыя (Partia Narodowo-Demokratyczna), сябры Лігі сталі адначасова сябрамі гэтага ўтварэння. Ліга была забаронена санацыйным рэжымам у другой палавіне 1920-х гг.

рашэнне ў Парыжскай канфэрэнцыі не ўдзельнічаць. Рада РСДРП зацвердзіла гэтае рашэнне 3.09.1904 г. [5:543, заўвага 133]. На такое рашэнне паўплывалі, у прыватнасці, інфармацыя лідаркі Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ) Розы Люксембург пра тое, што канферэнцыя будзе праводзіцца на японскія грошы [15:35], а таксама пазіцыя, занятая ў сувязі з гэтым старшынёю Рады РСДРП Георгіем Пляханавым, які, як вядома, быў патрыётам Расіі, за што вядомы расійскі шавініст Уладзімір Пурышкевіч выказаў яму падзяку і ўсклаў на яго магілу вянок з надпісам "Политическому врагу – великому русскому патриоту-социалисту Плеханову от монархиста В. Пуришкевича" [14:3-4]. Зрэшты, Пляханаў і без Люксембург мог здагадацца, за чые грошы будзе праводзіцца канферэнцыя: у літаратуры ёсць звесткі, што ў 1904 г. аташэ Акасі сустракаўся таксама і з ім, а не толькі з Леніным.

У пратаколе канферэнцыі [8:360-362; 9:152-155] адзначана, што РСДПР, РУП і СДКПіЛ прыслалі матываваную адмову ад удзелу ў канферэнцыі.

Арганізацыі-ўдзельніцы канферэнцыі дамовіліся, што супольнай мэтай іх барацьбы з'яўляецца не толькі звяржэнне самадзяржаўя, але і палітычнае пераўладкаванне Расіі на асновах дэмакратызму, у першую чаргу ўвядзенне ўсеагульнага выбарчага права.

Што тычыцца нацыянальнага пытання, то арганізацыі-ўдзельніцы канферэнцыі, пазбягаючы канкрэтыкі наконт будучага дзяржаўнага ўладкавання Расіі, прызналі права кожнай народнасці на нацыянальнае самавызначэнне і за гарантаваную законамі свабоду нацыянальнага развіцця. Барацьбу супраць русіфікацыі рэвалюцыйныя і апазіцыйныя партыі і арганізацыі ставілі ў адзін шэраг з барацьбой супраць агрэсіўнай знешняй палітыкі царызму.

Было абмеркавана таксама і пытанне аб спосабах дзейнняў партый і арганізацый. За кожнай з іх прызнавалася права дзейнічаць самастойна, і разам была выказана думка аб неабходнасці каардынаваных дзеянняў.

Канферэнцыя прыняла дэкларацыю [8:362-363; 9:155-156]. У гэтым дакуменце былі пацверджаны антыманархічныя і дэмакратычныя прынцыпы, зафіксаваныя ў пратаколе канферэнцыі. Пацвярджаліся таксама права нацыянальнага самавызначэння. У дэкларацыі ўтрымлівалася таксама патрабаванні гарантаваць законамі свабоду нацыянальнага развіцця ўсіх народаў імперыі, а таксама адмяніць усе меры царскага ўраду, на моцы якіх парушаны канстытуцыйныя правы Фінляндыі. Было запісана ў дэкларацыі і патрабаванне спыніць гвалт з боку расійскага ўраду ў дачыненні да асобных нацый.

Асобны пункт гледжання на будучы палітычны лад Расіі меў Саюз вызвалення, з якога ў час рэвалюцыі 1905 г. вырасце Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (кадэты), або Партыя народнай свабоды. У адрозненне ад сацыялістаў, польскіх і фінляндскіх нацыяналістаў, якія, выказваючыся супраць самадзяржаўя, па сутнасці выступалі супраць манархіі, лібералы ставілі за мэту ліквідацыю менавіта самадзяржаўя, абсалютызму і ўсталяванне ў Расіі "канстытуцыйнага рэжыму", г. зн. канстытуцыйнай манархіі [8:362-363; 9:156-157].

Вышэй было паказана, што пра ўдзел у канферэнцыі БРГ пісаў А. Бурбіс. Аднак гэта не зусім так. Запрошаная да ўдзелу ў гэтай сустрэчы, БРГ з нейкіх прычын свайго прадстаўніка ў Парыж не прыслала, што і зафіксавана ў пратаколе канферэнцыі. Аднак Юры Туронак [12; 62-63, 174] піша, што партыя, якая да таго часу стала называцца Беларускай Сацыялістычнай Грамадой, далучылася да рашэнняў канферэнцыі.

## Пра так званую зубатаўшчыну, або Паліцэйскі сацыялізм

Перш чым пісаць пра ўдзел прадстаўніка БСГ у наступнай міжпартыйнай канферэнцыі, хачу нагадаць, што ў другой палавіне XIX ст. свет уступіў у эпоху

імперыялізму. У сацыялістычнай літаратуры можна прачытаць, што буржуазія частку звышпрыбыткаў, атрыманых ад эксплуатацыі калоній і паўкалоній, аддавала рабочаму класу, асабліва кваліфікаваным і высокакваліфікаваным работнікам (так званай рабочай арыстакратыі). Так было, да прыкладу, у Злучаным Каралеўстве. Нямеччына на дзяльбу "каравая" прыпазнілася: заваёўваць заморскія тэрыторыі яна пачала толькі пасля абвяшчэння Германскай імперыі (1871). Дзяліцца сваімі прыбыткамі з работнікамі нямецкая буржуазія не хацела. Але ў гэтай дзяржаве быў рэйхсканцлер Ота Эдуард Леапольд фон Бісмарк-Шонгаўзен, герцаг цу Ляўэнбург. Ведаючы значэнне прамысловасці і гандлю для імперыі і яе мілітарнай магутнасці, Бісмарк, у душы прускі юнкер, усё ж недалюбліваў буржуазію. З другога боку, ён проста ненавідзеў сацыялістаў. Карыстаючы з таго, што ў 1878 г. нейкі не зусім адэкватны чалавек страляў у кайзера, ён дамогся выключнага закона супраць сацыялістаў. Каб выбіць глебу з-пад ног Сацыялістычнай рабочай партыі, ён сам стаў праводзіць у жыццё асобныя пункты сацыялістычнай праграмы. Цягам 1880-х гадоў ён дамогся прыняцця трох важных сацыяльных законаў: аб страхаванні ад хваробаў, аб страхаванні ад няшчасных выпадкаў, аб пенсійным забеспячэнні ў старасці і з прычыны інваліднасці. Бісмарк змусіў нямецкую буржуазію дзяліцца са сваімі работнікамі часткай прыбыткаў і гэтым уратаваў яе ад страты ўсяго набытку падчас рэвалюцыйных падзей 1918-1919 гг.

Дасягнуты ў час канцлерства Бісмарка сацыяльны парадак атрымаў назву "дзяржаўны сацыялізм".

Да нямецкага досведу прыглядаліся ў іншай краіне, дзе буржуазія дзяліцца сваімі прыбыткамі таксама не хацела, а ўрад і імператар не мелі палітычнай волі змусіць яе пайсці на такі крок. Як паведамляе Вялікая савецкая энцыклапедыя, комплекс прапанаваных сацыяльных мер атрымаў у гэтай краіне назву "паліцэйскі сацыялізм"[1:599]. Тая ж энцыклапедыя прызнае, што ініцыятар сацыяльных мерапрыемстваў, начальнік маскоўскага ахраннага аддзялення Сяргей Зубатаў, выкарыстоўваў ідэі нямецкага сацыял-дэмакрата Эдуарда Бернштэйна і расійскіх легальнага марксізму ды эканамізму.

Што ж прапаноўвалі палкоўнік жандармерыі Зубатаў і яго аднадумцы?

У маладосці нарадаволец, Зубатаў разумеў, што ў Расіі абвастраюцца сацыяльныя супярэчнасці, якія могуць прывесці да рэвалюцыйнага выбуху. Прыхільнік абсалютнай манархіі, ён, каб запабегчы рэвалюцыі, прапаноўваў шэраг мер: скарачэнне рабочага дня, павышэнне заробкаў, паляпшэнне ўмоў працы. У Расіі з'явіўся аналаг прафсаюзаў – першыя легальныя галіновыя карпарацыі рабочых, якім належала прадстаўляць іх інтарэсы перад прадпрымальнікамі. Учыняліся крокі дзеля стварэння сістэмы ўзаемадапамогі сярод рабочых, павышэння іх адукацыйнага ўзроўню. Усведамляючы важнасць габрэйскага пытання і беручы пад увагу, што многія габрэі ў значнай меры складаюць актыў рэвалюцыйных арганізацый, Зубатаў спрыяў стварэнню легальнай Габрэйскай незалежнай рабочай партыі і правядзенню ў Менску першага легальнага з'езду расійскіх сіяністаў. Вядома, Зубатаў хацеў, каб рабочыя карпарацыі і сіяністы працавалі пад кантролем паліцыі.

Ва ўрадавых колах прапановы і захады Зубатава сустрэлі супраціў. Асабліва вызначыўся ўплывовы міністр фінансаў Сяргей Вітэ. Сустрэўшы процідзеянне, Зубатаў настойваў, што спрыяць паляпшэнню становішча рабочых, а таксама законнаму ўрэгуляванню іх канфліктаў з прадпрымальнікамі павінна палітычная паліцыя. Вось чаму з'явіўся тэрмін "паліцэйскі сацыялізм", або "зубатаўшчына".

Да дзяржаўнага сацыялізму Расія не дарасла, расійская ўлада і буржуазія не гатовыя былі ўслед за ўрадамі заходніх краін і ўласнікамі асноўных сродкаў вытворчасці добраахвотна пайсці на саступкі работнікам і такім чынам запабегчы рэвалюцыі. У 1917-1918 гг. яны перастануць быць уладай і ўласнікамі.

Супраць “паліцэйскага сацыялізму”, “зубатаўшчыны” выступілі таксама і рэвалюцыйныя колы. Сацыялісты розных кірункаў былі ўпэўненыя, што ажыццяўленне іх праграм прынясе працоўным сапраўдную свабоду і шчасце. А дзеля гэтага належала перш-наперш ліквідаваць манархію.

## 9(22) студзеня 1905 г. Ініцыятыва Георгія Гапона

Адной з арганізацый, створаных пры дапамозе Зубатава, быў заснаваны ў лютым 1904 г. “Сход рускіх фабрычна-заводскіх рабочых Санкт-Пецярбурга”. Калі на пераломе 1904 і 1905 гг. у сталіцы імперыі пачалася забастоўка, у “Сходзе...” выспела думка падаць цару петыцыю, у якой былі б выкладзены патрэбы рабочых. Петыцыя была складзена, і было вырашана арганізаваць мірнае шэсце піцерскіх рабочых да Зімовага палаца, каб падаць дакумент цараддворцам. Аб мірным характары шэсця святар Георгій Гапон, які быў аўтарам статута “Сходу...” і адыгрываў у гэтай арганізацыі ключавую ролю, папярэдзіў асабіста цара і міністра ўнутраных спраў.

Што адбылося далей – ведае кожны, хто хадзіў у школу. Ад кулі святара Георгія ўратаваў адзін сацыяліст-рэвалюцыянер. Пры дапамозе эсэраў Гапону ўдалося перабрацца ў Заходнюю Еўропу.

У Еўропе Гапон сустракаўся з шэрагам палітыкаў-эмігрантаў, у тым ліку з Пляханавым і Леніным. У яго нарадзілася ідэя правесці канферэнцыю сацыялістычных і рэвалюцыйных партый Расіі. У прамове Леніна на III з’ездзе РСДРП [6:180–181] названы 18 партый, запрошаных на канферэнцыю, але насамрэч іх было сямнаццаць, бо 18-я ў тым спісе, Украінская сацыялістычная партыя, у 1903 г. аб’ядналася з РУП.

У тым пераліку мы бачым і Беларускую Сацыялістычную Грамаду. Як можна даведацца, кантакт для сувязі з БСГ Гапону дало Міжнароднае сацыялістычнае бюро – каардынацыйны і інфармацыйны цэнтр Сацыялістычнага (Другога) Інтэрнацыяналу.

Сродкі на правядзенне канферэнцыі, зноў-такі, ішлі з-за мяжы праз Фінляндскую партыю актыўнага супраціўлення. Таму некаторыя лічаць ФПАС сапраўдным арганізатарам канферэнцыі.

Ленін казаў у сваё прамове пра “сомнительный состав” канферэнцыі. Такое цверджанне ён дазволіў сабе тады, калі выявілася, што на канферэнцыі склалася, кажучы ягонымі словамі, “огромное преобладание” сацыялістаў-рэвалюцыянераў, з якімі расійскія сацыял-дэмакраты, асабліва бальшавікі, вялі зацятую барацьбу за гегемонію ў рэвалюцыйным руху. А перавага ПСР была ў тым, што яна (зноў спасылаюся на Леніна) пайшла на ўсемагчымыя саступкі “националистическим непролетарским партиям”. Для прыхільніка цэнтралізаванай расійскай дзяржавы і цэнтралізаванай партыі, нацыяналістычнай і непралетарскай з’яўлялася кожная партыя, якая выступала супраць цэнтралізаванай дзяржавы і супраць цэнтралізаванай партыі. Леніна не задавальняла, што ад самага пачатку на канферэнцыі “выдвинут был национальный вопрос”.

З 17 партый, якім Гапон накіраваў запрашэнні, да 2 красавіка 1905 г. у Жэневу, дзе пачыналася канферэнцыя, не прыехалі прадстаўнікі ЛСДП, СДКПіЛ, Польскай сацыялістычнай партыі “Пралетарыят”, РСДРП (меншавікі), РУП і СДПФ (у Леніна яна чамусьці Фінляндская рабочая партыя).

Прыехалі на канферэнцыю прадстаўнікі АРФ (Дашнакцуцюна), грузінскіх сацыялістаў-федэралістаў-рэвалюцыянераў, Латышскага сацыял-дэмакратычнага саюза (ЛСДС), ППС, расійскай ПСР і ФПАС.

Прыехаў і прадстаўнік БСГ. Але тут маецца інтрыга. Ні ў матэрыялах канферэнцыі, ні ў мемуарнай літаратуры не названыя ні прозвішча, ні партыйная мянушка таго

прадстаўніка. Гэта persona incognita. Не назваўся ён з канспірацыйных меркаванняў. І слушна зрабіў. Нават вельмі слушна, калі ўзяць пад увагу, што правакатар Азеф хуценька "зліў" ахранцы спіс удзельнікаў канферэнцыі і яе рашэнні, што старшыні канферэнцыі, Гапону, неўзабаве стукне ў галаву пачаць супрацоўніцтва з ахранкай[1]. З другога боку, усё ж добра было б ведаць, хто гэта з беларускіх сацыялістаў не распазнаў у невысокім, рыжаватым, лысым, картавым і мітуслівым расійскім сацыял-дэмакраце "правадыра і настаўніка сусветнага пралетарыяту".

Так, Ленін прыехаў на канферэнцыю. Ад патомнага дваранiна Пляханава дваранін у другім пакаленні Ульянаў адрозніваўся тым, што не быў патрыётам царскай Расіі. І яму было няважна, адкуль і якім спосабам здабываюцца грошы ў партыйную касу. Важна, што гэтыя грошы ішлі на ўтрыманне партыйнага апарату і на барацьбу з царызмам, у тым ліку на партыйны друк.

Прыехалі на канферэнцыю таксама прадстаўнікі Армянскай сацыял-дэмакратычнай рабочай арганізацыі (АСДРА), Бунда – Усеагульнага габрэйскага рабочага саюза ў Літве[2], Польшчы і Расіі – і ЛСДРП.

Ленін спадзяваўся навязаць канферэнцыі свой парадак дня і сваё бачанне рухаючых сіл, мэтаў і задач расійскай рэвалюцыі, а таксама спосабаў вядзення барацьбы. Аднак гэта яму не ўдалося. Што ўдалося Леніну, дык звесці з канферэнцыі армянскіх сацыял-дэмакратаў[3], бундаўцаў і прадстаўнікоў ЛСДРП. Зачэпкаю для такога кроку быў пратэст ЛСДРП супраць прысутнасці на канферэнцыі прадстаўнікоў ЛСДС, бо Латвійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя лічыла Латышскі сацыял-дэмакратычны саюз слабой, ледзь не фіктыўнай арганізацыяй. Аднак большасць удзельнікаў канферэнцыі не згадзіліся з такім цверджаннем. І мелі рацыю, бо ЛСДС у час рэвалюцыі вёў актыўную, у тым ліку тэрарыстычную, барацьбу і быў найбольш пераследаванай партыяй у Латвіі.

Трэба адзначыць, што пад заявай аб сыходзе з канферэнцыі першы паставіў подпіс прадстаўнік ЛСДРП, а Ленін быў другі.

У часопісе "Przedświt" можна прачытаць [21:168], што пляханаўска-меншавіцкая "Искра" ў з'едлівым і дасціпным артыкуле без літасці кпіла з прадстаўнікоў партый, якія адправіліся на канферэнцыю, прызналі яе патрэбу і важнасць, а пазней адумаліся і ўцяклі. "Искра" дадавала, што партыі, якія засталіся ў Жэневе, з гэткай жа слушнасцю маглі жадаць выдалення АСДРА, якую меншавікі лічылі поўнай фікцыяй.

Пасля сыходу прадстаўнікоў армянскіх сацыял-дэмакратаў, бундаўцаў, бальшавікоў і ЛСДРП на канферэнцыі засталіся прадстаўнікі сямі партый: АРФ (Дашнакцуцюна), БСГ, грузінскіх сацыялістаў-федэралістаў-рэвалюцыянераў, ЛСДС, ППС, ПСР і ФПАС.

## Дакументы Жэнеўскай канфрэнцыі

Дакументы Жэнеўскай канферэнцыі сацыялістычных і рэвалюцыйных партый Расіі апублікаваныя ў часопісе ППС [21:168-177]. Гэта дзве палітычныя дэкларацыі, рэзалюцыі аб Міжпартыйным пасрэдніцкім бюро, аб Аб'яднаным баявым камітэце, аб каардынацыі баявых акцый у асобных мясцовасцях, рэзалюцыі

[1] Не назвалі свае імёны і прадстаўнікі Фінляндскай партыі актыўнага супраціўлення.

[2] Пад Літвой у габрэйскіх колах разумелася былое Вялікае Княства Літоўскае (дзе жылі габрэі-літвакі), а таксама сучасная Літва. Як паказваюць матэрыялы, на пачатку XXI ст. дзеячы БСГ, у тым ліку А. Луцкевіч, мусілі тлумачыць дзеячам Бунда і больш шырокай габрэйскай грамадскасці, што такое Беларусь.

[3] Армянскія сацыял-дэмакраты, як і бундаўцы, пакінулі канферэнцыю хутчэй за ўсё на знак салідарнасці з ЛСДРП, а не таму, што падтрымлівалі Леніна. Вядома, што ў бальшавікоў былі складаныя адносіны і з Армянскай сацыял-дэмакратычнай рабочай арганізацыяй, якую Ленін характарызаваў як нацыяналістычную, і з Бундам, які, як і ўкраінскія сацыял-дэмакраты, не жадаў безумоўна ўлівацца ў РСДРП.

ў справе мабілізацыі ў царскае войска і ў справе сыходу з канферэнцыі 4-х сацыял-дэмакратычных арганізацый.

Няма поўных тэкстаў іншых дакументаў, але ў часопісе "Przedświt" паведамляецца, што партыі-ўдзельніцы канферэнцыі вырашылі выдаць тры супольныя адозвы. Першая з іх – адозва супраць мабілізацыі, другая – супраць раздзьмухвання царскімі ўладамі міжнацыянальнай і міжрэлігійнай варожасці, у прыватнасці супраць антысемітызму і супраць нацкоўвання люмпен-пралетарыяту на інтэлігенцыю, студэнтаў і забастоўшчыкаў, трэцяя – адозва – агульнапалітычная, з заклікам да народа ўзяць фактычную ўладу ў свае рукі.

Са сваёй асобнай дэкларацыяй выступіла ФПАС, якая растлумачыла, што з'яўляецца партыяй рэвалюцыйнай, але не сацыялістычнай, бо ў яе складзе ёсць як сацыялісты, так і людзі, якія сацыялістамі не з'яўляюцца, але да сацыялізму ставяцца з сімпатыяй.

У сувязі з прыняццем 1-й палітычнай дэкларацыі з асобнай дэкларацыяй выступіла БСГ, а ў сувязі з дэкларацыяй БСГ заяву зрабіла дэлегацыя ППС. Гэтым дакументам мы надамо асаблівую ўвагу, але не меншай увагі заслугоўваюць 1-я і 2-я палітычныя дэкларацыі Жэнеўскай канферэнцыі сацыялістычных і рэвалюцыйных партый.

У чым значэнне дакументаў Парыжскай і Жэнеўскай канферэнцый для беларускага гісторыка, для тых хто цікавіцца гісторыяй беларускага вызвольнага руху?

Тыя, хто чытаў нарыс праграмы БРГ/БСГ 1903 г. і праграмы БСГ 1906 г., могуць сказаць, што гэта вельмі кароткія дакументы і што на некаторыя пытанні адказу ў іх няма. Напрыклад, у абодвух дакументах нічога не гаворыцца аб мове навучання ў школах. Або і такое: у абодвух праграмах запісана, што БСГ выступае за ўсеагульнае выбарчае права, але не ўдакладнена, з якога ўзросту. І таму трэба мець на ўвазе, што палітычныя арганізацыі, беручы ўдзел у міжпартыйных канферэнцыях і падпісваючы іх дакументы, тым самым заяўлялі, што яны вызнаюць каштоўнасці і кіруюцца прынцыпамі, а таксама імкнуцца да мэтаў, якія ў гэтых дакументах выкладзены. Вось чаму дакументы Парыжскай і Жэнеўскай канферэнцый маюць важнае значэнне для вывучэння і лепшага разумення каштоўнасцяў, прынцыпаў і мэтаў беларускага вызвольнага руху, прадстаўленага ў той час Беларускай Сацыялістычнай Грамадой.

Нагадаю, што Жэнеўская канферэнцыя прыняла дзве палітычныя дэкларацыі. Першая з іх – і гэта не задавальняла Леніна – прысвечана нацыянальнаму пытанню ў Расійскай імперыі, а другая – агульнапалітычным і сацыяльным пытанням, а таксама пытанням культуры. З тае прычыны, што ў сувязі з 1-й палітычнай дэкларацыяй БСГ выступіла са сваёй адмысловай дэкларацыяй, а ў сувязі з дэкларацыяй БСГ сваю заяву зрабіла дэлегацыя ППС, для зручнасці разгляд дакументаў канферэнцыі лепш пачаць з 2-й палітычнай дэкларацыі.

## За палітычныя і сацыяльныя пераўтварэнні

Удзельнікі Жэнеўскай канферэнцыі кіраваліся агульнапрынятай праўдай, што сацыяльныя і палітычныя задачы рэвалюцыі непарыўныя. На іх думку, без палітычных пераўтварэнняў нельга было дасягнуць істотных пераўтварэнняў сацыяльных, паляпшэння жыццёвага ўзроўню народа. Спробы царызму супрацьпаставіць эканамічныя патрэбы палітычным імкненням, спробы паказаць сябе "сацыяльнай манархіяй" і адно толькі ворагам палітычных рэформаў удзельнікі канферэнцыі назвалі ашуканствам.

Сацыялістычныя і рэвалюцыйныя партыі, якія сабраліся ў Жэневе, лічылі галоўнай сваёй мэтай поўную перабудову Расійскай імперыі на дэмакратычна-

рэспубліканскіх падставах, якія б адпавядалі інтарэсам усіх паасобных народаў. Гэтую перабудову належала ажыццявіць свабодна абраным **устаноўчым сходам**.

Партыі, якія падпісалі 2-ю палітычную дэкларацыю, прызнавалі як аснову праўдзівага і вольнага народапраўства шэраг дэмакратычна-рэспубліканскіх прынцыпаў, і першы сярод іх – усеагульнае, роўнае, непасрэднае і таемнае галасаванне для ўсіх грамадзянаў, якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту. Партыі выступалі за самую шырокую аўтаномію акругаў і грамадаў – па-цяперашняму кажучы, за самае шырокае мясцовае самакіраванне. Абвяшчаўся прынцып федэрацыі паміж нацыянальнасцямі, якія застаюцца “пад супольным дзяржаўным дахам”, г. зн. у складзе Расіі. Партыі выказваліся і за тое, каб законы выдавалі прадстаўнічыя органы, і за непасрэднае народнае заканадаўства (рэферэндумы). Выбары ў прадстаўнічыя органы, на думку ўдзельнікаў Жэнеўскай канферэнцыі, павінны быць прапарцыянальныя. Пажаданымі для іх былі таксама выбарнасць і адказнасць перад выбаршчыкамі чыноўнікаў, бясплатны суд і замена пастаяннага войска народнай міліцыяй, якая служыць па месцы жыхарства. Натуральна, што сацыялісты і рэвалюцыянеры выступалі за поўную свабоду сумлення, слова, друку, аб’яднанняў, работніцкіх таварыстваў і страйкаў, безумоўную роўнасць грамадзян перад законам, за недатыкальнасць асобы і жылля, за аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, за абавязковае і роўнае для ўсіх агульнае і свецкае навучанне ў роднай мове і за кошт грамадства, за раўнапраўе моваў і за тое, каб мясцовыя мовы сталі мовамі судоў і адміністрацыі. Выказвалася пажаданне, каб у мясцовасцях з мяшаным насельніцтвам кожная нацыянальнасць у адпаведнасці з яе колькасцю мела сваю долю ў мясцовым бюджэце на культурна-асветніцкія мэты.

У сацыяльнай сферы ўсе ўдзельнікі Жэнеўскай канферэнцыі патрабавалі прынамсі ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня, устанаўлення мінімальных заробкаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, дзяржаўнага страхавання ад няшчасных выпадкаў і хвароб, пенсійнага страхавання і страхавання на час страты працы коштам ураду і працадаўцаў. Удзельнікі канферэнцыі жадалі, каб законам была прадпісана ахова працы ў адпаведнасці з патрабаваннямі сучаснай навукі гігіены і каб гарантам такой аховы была інспекцыя, якую выбіраюць самі работнікі. Пажаданай была таксама прафесійная арганізацыя работнікаў з правам усё больш шырокага ўдзелу ў распараджэннях, якія датычаць унутранага жыцця прамысловых прадпрыемстваў. Сацыялісты і рэвалюцыянеры настойвалі на заснаванні біржаў працы і іх удзеле ў выпрацоўцы працоўнага заканадаўства, а таксама на адмене ўскосных падаткаў, апрача падаткаў на прадметы раскошы, увядзення пагрэсіўнага падатку на даходы і спадчыну і поўнай адмены падаткаў на даходы і спадчыну, калі яны не перавышаюць пэўную суму.

Гэта, паўтару, мінімальныя патрабаванні ў сацыяльнай сферы. Іх ажыццяўленне разглядалася як умацаванне палітычных і сацыяльных пазіцый працоўнага народа для далейшай барацьбы за вызваленне ад “буржуазна-капіталістычнай эксплуатацыі”, г. зн. за сацыялізм. А пакуль што на парадку дня было вызваленне працоўных ад палітычнай няволі і “астаткаў і перажыткаў феадалізму і паншчыны”. Асабліва гэта тычыла сельскай гаспадаркі. Удзельнікі канфрэнцыі выказаліся за аграмаджванне, або за пераход у распараджэнне грамадства, у карыстанне працоўнага сельскага люду ўсёй зямлі, якая абрабляецца ў апоры на наёмную працу.

Падкрэсліваю: удзельнікі канферэнцыі выказаліся за аграмаджванне, сацыялізацыю зямлі, а не за яе адзяржаўленне, этатызацыю. Пры гэтым аграмаджванне зямлі, на іх думку, належала праводзіць у адпаведнасці з мясцовымі асаблівасцямі.

Як прыхільнікі шырокага мясцовага самакіравання, партыі, якія прыслалі сваіх прадстаўнікоў у Жэневу, выказваліся за развіццё грамадскай, муніцыпальнай і валаснай гаспадаркі, а таксама за дзяржаўную і муніцыпальную палітыку, якая вядзе да развіцця кааперацыі ў дэмакратычным духу.

## За самавызначэнне народаў

Як мы памятаем, Леніна не задавальняла, што ад самага пачатку на Жэнеўскай канферэнцыі быў "выдвинут был национальный вопрос". Наогул, расійскія сацыял-дэмакраты (што меншавікі, што бальшавікі) у 1905-1907 гг. не лічылі нацыянальнае пытанне вельмі актуальным. Так, яны выкрывалі пагромную палітыку царызму, змагаліся супраць распальвання нацыянальна-рэлігійнай варажнечы, але не больш.

Калі чытаць напісаную пад кіраўніцтвам сакратара Цэнтральнага Камітэта Барыса Панамарова і сем разоў выдадзеную велізарнымі накладамі афіцыйную гісторыю КПСС, дык можна даведацца адно толькі тое, што рэвалюцыя 1905-1907 гг. "пацвердзіла *неабходнасць і магчымасць* (вылучана мною. – *А.С.*) баявога саюзу працоўных усіх нацыянальнасцяў па кіраўніцтвам пралетарыяту для супольнай барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне" [3:108]. Адной жа з прычынаў паражэння рэвалюцыі аўтары гэтай кнігі лічылі тое, што не было "дружнага ціску на царызм працоўных мас прыгнечаных народаў, сілы якіх падрываліся нацыяналістычнымі партыямі" [3:103-104]. Прызнаць, што бальшавікі недаацанілі значэнне нацыянальнага пытання і вагу нацыянальных сацыялістычных партый, у калектыва пад кіраўніцтвам кандыдата ў члены Палітбюро і акадэміка Панамарова смеласці не хапіла. Неабходны і магчымы рэвалюцыйных саюз народаў Расіі так і не паўстаў, бо самым буйным агульнарасійскім сацыялістычным партыям не было чаго прапанаваць прыгнечаным народам. Праўда, эсэры, якія таксама не вызначаліся радыкальным, рэвалюцыйным падыходам да нацыянальнага пытання, хоць бы надавалі яму немалую ўвагу, пра што сведчыць Жэнеўская канферэнцыя[1].

У першай палітычнай дэкларацыі Жэнеўскай канферэнцыі выдатнай мовай апісана палітычная сітуацыя ў імперыі. Удзельнікі канферэнцыі прыйшлі да высновы, што царызм вядзе дзве вайны – вонкавую (на Далёкім Усходзе) і ўнутраную, бо расстрэлам мірнай працэсіі 9 студзеня 1905 г. самаўладча-цэнтралістычны рэжым абвясціў вайну народам Расіі. "І кожны, хоча ён таго ці не хоча, мусіць выбраць адзін з лагераў. Трэцяй дарогі няма", – чытаем мы ў дакуменце. Пытанне было пастаўлена так: свабода або смерць. Пры гэтым аўтары дэкларацыі выказвалі ўпэўненасць, што смерць чакае царызм, бо царызм – гэта сіла, якая хіліцца да заняпаду, а люд, які (у асобе ўсіх народаў імперыі) адраджаецца да новага жыцця, – гэта сіла маладая.

Аўтары дэкларацыі параўналі рэвалюцыйныя партыі з катаржнікамі, якія прыкутыя адзін да аднаго. І барацьба гэтых партый па меры ўцягвання ў яе ўсё шырэйшых пластоў насельніцтва, па меры пераходу да рашучых метадаў змагання, не выключаючы тэрору, няўхільна вядзе да ўсеагульнага збройнага паўстання. Вынікам гэтага збройнага паўстання павінна было стаць зварджэнне дынастыі.

Удзельнікі канферэнцыі меркавалі, што лёс краіны вырашаць узброеныя грамадзяне і скліканыя імі **ўстаноўчыя сходы**, якім належыць ажыццявіць вялікі прынцып самавызначэння народаў. Прынцып, дадам, ухвалены Лонданскім (1896) кангрэсам ІІ Інтэрнацыяналу.

Партыі-ўдзельніцы канферэнцыі сфармулявалі непасрэдныя мэты барацьбы. Першаю і галоўнаю мэтаю была "поўная перабудова сучаснай Расійскай імперыі паводле дэмакратычна-рэспубліканскіх прынцыпаў на падставе ўсеагульнага, непасрэднага, роўнага і таемнага галасавання".

Сродкам для дасягнення гэтае мэты ўдзельнікі канферэнцыі лічылі скліканне ва ўмовах, якія гарантуюць поўную свабоду народнага волевыяўлення (свабода слова, сходаў, аб'яднанняў, гарантыі недатыкальнасці асобы, вызваленне ўсіх

---

[1] У 1907 г. з ініцыятывы ПСР у Фінляндыі адбылася канферэнцыя расійскіх нацыянальна-сацыялістычных партый, удзельніцай якой была і БСГ (яе прадстаўлялў І. Луцкевіч), але пра гэтую канферэнцыю я тут не пішу.

арыштаваных або асуджаных за палітычныя і рэлігійныя перакананні), на падставе ўсеагульных, непасрэдных, роўных і таемных выбараў **Устаноўчага сходу** прадстаўнікоў усіх мясцовасцяў Расійскай дзяржавы.

Я не дарма вылучыў словы "ўстаноўчыя сходы" і "Устаноўчага сходу". Аўтары 1-й палітычнай дэкларацыі лічылі, што нароўні з Устаноўчым сходам у Пецярбургу павінен быць скліканы Устаноўчы сход у Варшаве, што паміж Польшчай і Расіяй павінны быць ліквідаваны даўнія і шляхам "вольнай дамовы паміж гэтымі канстытуцыйнымі органамі" ўсталяваны новыя адносіны. Такім чынам, на парадак дня было пастаўлена пытанне аб аднаўленні дзяржаўнай незалежнасці Польшчы.

Што тычыцца Фінляндыі, то аўтары 1-й палітычнай дэкларацыі, памятаючы, на якіх умовах яна была далучана да Расіі, лічылі яе аўтаномнай дзяржавай і заявілі, што яна таксама не возьме ўдзел у "цэнтральным" (г. зн. агульнарасійскім) Устаноўчым сходзе. Усе партыі-ўдзельніцы канферэнцыі выказалі падтрымку народу і "перш за ўсё пралетарыяту" Фінляндыі, які імкнуўся да склікання свайго асобнага Устаноўчага сходу.

Падтрымаўшы незалежніцкія імкненні Польшчы і Фінляндыі, удзельнікі канферэнцыі падтрымалі таксама аўтанамісцкія памкненні народаў Каўказа, а дакладней – Закаўказзя. Дзеля гэтага належала склікаць Устаноўчы сход гэтага рэгіёна для выпрацоўкі гарантый яго аўтаноміі, а таксама для "перабудовы ўсяго ўнутранага ладу гэтага краю на дэмакратычна-федэратыўных прынцыпах". Калі казаць канкрэтна, то на Жэнеўскай канферэнцыі (відаць, зважаючы на этнічную цераспалосіцу рэгіёна і з улікам думкі армянскіх ды грузінскіх сацыялістаў) была замацавана ідэя Закаўказскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспублікі. У 1922 г. бальшавікі, сказіўшы гэтую ідэю, стварацьне дэмакратычную, а сваю Закаўказскую Сацыялістычную Федэратыўную Савецкую Рэспубліку.

Канферэнцыя выказала пажаданне, каб удалося як мага раней дасягнуць паразуменне з іншымі партыямі, якія прадстаўляюць іншыя народы і асобныя вобласці, якія маюць культурна-нацыянальныя адрозненні. Гэтае паразуменне патрэбнае было дзеля таго, каб дамагчыся канстытуцыйных гарантый іх свабоднага развіцця.

Партыі-ўдзельніцы канферэнцыі, прытрымліваючыся кожная сваёй праграмы, лічылі патрэбным каардынаваць свае дзеянні ў барацьбе супраць супольнага ворага.

Канферэнцыя заклікала людзей не быць маўклівымі гледачамі або нават саўдзельнікамі ў злачынствах самаўладдзя, заклікала іх выбіраць паміж гінучым абсалютызмам і народам, які адраджаецца да новага жыцця. "Хто не з намі, той супраць нас. Вырашальныя эпохі нараджаюць рашучых людзей. Няхай жа жыве распачатая Вялікая Рэвалюцыя расійскай дзяржавы!" – было напісана ў апошніх радках 1-й палітычнай дэкларацыі Жэнеўскай канферэнцыі сацыялістычных і рэвалюцыйных партый Расіі, якую ад імя Цэнтральнага Камітэта сваёй партыі падпісаў і прадстаўнік Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

## Асобная дэкларацыя БСГ і польскія сацыялісты

Ужо напісана, што заснавальнікі БРГ/БСГ добра разумелі, што Беларусь знаходзіцца на разломе дзвюх цывілізацый і з'яўляецца арэнай жорсткай барацьбы паміж дзвюма культурамі: польскай і расійскай. Яны выдатна ведалі, што для польскага палітычнага класа Польшча – гэта не толькі землі, на якіх палякі складаюць этнічную большасць або з'яўляюцца найбольшай этнічнай групай. Для іх Польшча – гэта Рэч Паспалітая Абодвух Народаў у межах 1772 г. І польскія сацыялісты ў гэтым пытанні практычна не адрозніваліся ад польскіх нацыяналістаў. Тое, што ППС запісала ў сваёй праграме адраджэнне польскай дзяржавы ў якасці асноўнага пастулату, ад самага першага моманту несла пагрозу Беларусі і ад сацыялістаў.

Стоячы на інтэрнацыяналістычных пазіцыях, Грамада не магла адмаўляць права палякаў на адраджэнне сваёй дзяржаўнасці, але, з'яўляючыся партыяй беларускай працоўнай беднаты, БСГ не магла не адстойваць і права на нацыянальнае самавызначэнне, на дзяржаўнасць сваёй сялянскай нацыі. Таму ў самым першым праграмным дакуменце, прынятым у 1903 г., партыя запісала, што яна змагаецца за "незалежную рэспублику демократычную" [13:86].

Падпісваючы 1-ю палітычную дэкларацыю Жэнеўскай канферэнцыі, прадстаўнік БСГ добра памятаў пра незалежніцкі пастулат сваёй партыі, ведаў ён, што такое Польшча для польскіх нацыяналістаў і амаль усіх сацыялістаў. Да таго ж за адным сталом з прадстаўніком БСГ сядзелі паплечнікі Юзафа Пілсудскага: Станіслаў Вайцяхоўскі, у 1922-1926 гг. прэзідэнт Польскай Рэспублікі[1], Вітальд Ёдка-Наркевіч, ідэолаг ППС, у той час рэдактар часопіса "Przedświt"[2], а таксама Браніслаў Славінскі[3], які праз Швейцарыю вяртаўся са Злучаных Штатаў у Польшчу.

Пра Ёдку-Наркевіча можна было сказаць словамі аўтара "Прамовы Мялешкі": наша костка, ды сабачым мясам абрасла. На пачатку 1903 г., разважаючы аб праграме Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі, якая заклікала стварыць граматыку беларускай мовы, даць народу асвету на роднай мове і веданне сваёй гісторыі, Ёдка-Наркевіч пісаў [19:56], што адным ужо выданнем сацыялістычнай літаратуры на роднай мове рэвалюцыянер "спрычыняецца да стварэння матэрыялу для будучай нацыі", што нават з нацыянальнага гледзішча такая праца больш прадуктыўная, чым тое, што прапанавалі аўтары адозвы БРП.

Як слушна адзначыў Ю. Туронак [12:164], Ёдка-Наркевіч, усведамляючы, у якім кірунку пойдзе беларускі рух далей, "намагаўся залучыць яго пад штандары сваёй партыі" дзеля барацьбы з царызмам. Ён не звязваў гэтую галоўную мэту з адначасовым вырашэннем беларускага пытання, калі лічыў, што пэпээсаўскіх брашур, а не навуковай граматыкі, будзе дастаткова для паляпшэння ведання народам сваёй мовы. "За гэтым крылася боязь перад культурнай і палітычнай эмансіпацыяй Беларусі", – зрабіў выснову гісторык.

Ю. Туронак лічыў, што наступствам такой пазіцыі Ёдкі-Наркевіча было прынятае ў чэрвені 1903 г. з ініцыятывы Пілсудскага рашэнне Цэнтральнага Рабочага Камітэта ППС спыніць выданне партыйнай літаратуры на беларускай мове. Супольныя антываенныя і антыцарскія ўлёткі 1904 г., якія згадваліся вышэй, былі праявай не стратэгіі, а тактыкі ППС.

Седзячы за адным сталом з Ёдкам-Наркевічам, Вайцяхоўскім і Славінскім, прадстаўнік БСГ, пэўна ж, быў упэўнены, што не без ведама кіраўніцтва ППС у 1904 г. у Гродзенскай губерні паўстала Сацыялістычная партыя Белай Русі. Антон Луцкевіч дапускаў, што прычынай стварэння СПБР быў менавіта "страх перад будзіўшымся тады *нацыянальным* пачуцьцём у беларускіх масах" [7:177].

---

[1] Трэба адзначыць, што С. Вайцяхоўскі (1869-1953) у 1906 г. адышоў ад ППС, а ў 1921 г. стаў сябрам Польскай сялянскай партыі "Пяст", якая ў 1922-1926 гг. уваходзіла ва ўрадавыя кааліцыі Польшчы. Пасля майскага (1926) дзяржаўнага перавароту Пілсудскі дамогся адстаўкі Вайцяхоўскага з пасады прэзідэнта.

[2] Можна прачытаць [17:253], што Вітальд Ёдка-Наркевіч (1864-1924) нарадзіўся ў Варшаве. Між тым Вікіпедыя (https://pl.wikipedia.org/wiki/Witold_Jodko-Narkiewicz) паведамляе, што поўнае яго імя Вітальд Томаш і што нарадзіўся ён у Слуцку. Атэстат сталасці атрымаў у Слуцкай гімназіі. Яго радзінным маёнткам была Бабоўня на Случчыне (цяпер Капыльскі раён), які належаў Вітальду Ануфрыю Ёдку-Наркевічу (1834-1898), народжанаму ў Пукаве (цяпер в. Камсамольская Капыльскага раёна), выпускніку Дорпацкага (цяпер Тартускі, Эстонія) універсітэта, вядомаму варшаўскаму акулісту [17:252]. У час 1-й сусветнай вайны стаўленне Пілсудскага да Ёдкі-Наркевіча значна пагоршылася. Адной з прычын гэтага былі надта шчыльныя кантакты Ёдкі з Берлінам.

[3] Браніслаў Славінскі (1862-1836) разышоўся з Пілсудскім пасля майскага (1926) дзяржаўнага перавароту.

Пра гэта сведчыла хоць бы тое, што стваральнікі СПБР "даволі рашуча выступалі проці "нацыяналізму" Грамады". Няма сумнення, што іх вуснамі прамаўляла ППС.

Маючы ўсё гэта наўвеце, няведамы прадстаўнік Грамады прапанаваў удзельнікам асобную дэкларацыю, поўны змест якой падаю ў перакладзе з польскай:

**Дэкларацыя БСГ**
***(у справе палітычнай дэкларацыі I)***

*Дэлегацыя БСГ, цалкам далучаючыся да вышэйпісанай дэкларацыі, уважае патрэбным заявіць наступнае:*

*Лічачы неабходным адасабленне тэрыторыі гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) разам з усімі, якія насяляюць яе, народнасцямі у асобны палітычны арганізм, яна [БСГ], аднак, не прапануе канфрэнцыі паставіць гэтае жаданне [на галасаванне], бо гэтая справа павінна быць вырашана агульным паразуменнем сацыялістычных партый усіх народнасцяў, якія насяляюць гэтую тэрыторыю*[1].

Такім чынам, прадстаўнік БСГ ўчыніў спробу запабегчы апетытам тых польскіх дзеячаў, якія лічылі польскімі і землі колішняга (ад 1569 г.) Вялікага Княства Літоўскага. Калі б на канферэнцыі ў Жэневе прысутнічалі прадстаўнікі Бунда, ЛСДРП, ЛСДП, СДКПіЛ і хоць бы адной з фракцый РСДРП, г. зн. прадстаўнікі партый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі[2], дэкларацыю аб адасабленні гістарычнай Літвы можна было б паставіць на галасаванне. Паказальна тое, што прадстаўнікі расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў і Латышскага сацыял-дэмакратычнага саюза, якія ўдзельнічалі ў канферэнцыі, палічылі за лепшае не выказваць свае адносіны, а вось польскія дэлегаты ад імя ППС выступілі са сваё заявай, якая ў часопісе "Przedświt" чамусьці апублікавана разам з беларускай дэкларацыяй пад агульным загалоўкам "Дэкларацыя ППС і БСГ (У справе паліт. дэкларацыі I)".

Падаю тэкст пэпээсаўскай заявы ў перакладзе:

*"Дэлегацыя ППС як прадстаўніцы польскага і часткі габрэйскага пралетарыяту ў Літве далучаецца да вышэйпісанай дэкларацыі дэлегацыі БСГ".*

Не будзем надта затрымлівацца на тым, што дэлегаты ППС чамусьці забылі пра Сацыял-дэмакратыю Каралеўства Польскага і Літвы, якая таксама прадстаўляла польскі і частку габрэйскага пралетарыяту ў Беларусі і Літве. Засяродзімся на іншым. Можна падумаць, што ППС у асобах яе прадстаўнікоў на Жэнеўскай канферэнцыі падтрымала жаданне БСГ бачыць Літву і Беларусь асобным палітычным арганізмам. Асмелімся выказаць думку, што польскія сацыялісты, далучыўшыся да дэкларацыі беларускіх сацыялістаў, загадзя ведалі: згода ўсіх сацыялістычных партый усіх народнасцяў, якія жывуць у Беларусі і Літве, ніколі дасягнутая не будзе. Калі казаць пра дэлегатаў ППС асабіста, то ніхто з іх не выступіў супраць захопніцкай палітыкі адроджанай польскай дзяржавы ў 1918-1921 гг. Ёдка-Наркевіч цікавы тым,

---

[1] З тае прычыны, што дакумент, праўдападобна, надрукаваны некарэктна, падаю яе тэкст як ён надрукаваны ў "Przedswicie":

*Delegacya B. S. H., przyłączając się w zupełności do powyższej deklaracyi, uważa za niezbędne oznajmić, co następuje:*

*Uznając za konieczne wyodrębnienie terytoryum Litwy historycznej (Litwy i Białorusi), wraz z wszystkiemi zaludniającemi ją narodowościami w oddzielny organizm polityczny, nie proponuje ona jednak konferencyi postawienia tego żądania, albowiem sprawa ta winna być rozwiązaną łącznem porozumieniem się partyj socyalistycznych wszystkich narodowości, zaludniających to terytoryum.*

[2] На жаль, яшчэ не вывучана пытанне аб дзейнасці на сучаснай тэрыторыі Беларусі ўкраінскіх партый, але далейшыя падзеі паказваюць, што ўсе яны глядзелі на Беларусь вачамі ўкраінскага сацыяліста-рэвалюцыянера і гісторыка Міхайлы Грушэўскага, які лічыў украінскімі паўднёвыя паветы Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, ці не ўсю Чарнігаўшчыну і значную частку Падляшша.

што ў 1916 г. прапаноўваў немцам стварыць буферную дзяржаву, якая б ахоплівала падрасійскую частку Польшчы, Беларусь і Літву [17:256], а Вайцяхоўскі на пасадзе прэзідэнта падпісаў не адзін шкодны для беларусаў закон.

Не думаю, што прадстаўнік БСГ быў такі наіўны, каб спадзявацца на кансэнсус усіх сацыялістычных партый усіх народнасцяў Літвы і Беларусі. Не могучы ігнараваць іх права выказаць свае адносіны да ідэі дзяржаўнасці Беларусі і Літвы, прадстаўнік БСГ, пэўна ж, лічыў больш важным зафіксаваць гэтую ідэю афіцыйна, пісьмова перад прадстаўнікамі сацыялістычных і рэвалюцыйных партый Арменіі, Грузіі, Латвіі, Польшчы, Расіі і Фінляндыі. Можна быць пэўным, што аб пазіцыі БСГ стала вядома літоўскім ды ўкраінскім сацыялістам.

## Заключэнне

1. Тое, што БРГ/БСГ была запрошана на Парыжскую канферэнцыю рэвалюцыйных і апазіцыйных арганізацый і на Жэнеўскую канферэнцыю сацыялістычных і рэвалюцыйных партый Расіі, паказвае, што партыя беларускіх сацыялістаў была прызнаным суб’ектам агульнарасійскага сацыялістычнага і рэвалюцыйнага руху.

2. Тое, што кантакт для сувязі з БСГ Г. Гапону дало Міжнароднае сацыялістычнае бюро, кажа нам, што БСГ была занесена ў спіс сацыялістычных партый прынамсі тагачаснай Еўропы. Не вывучаным застаецца пытанне, чаму партыя не стала сябрам Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу. Дзеля гэтага камусьці давядзецца даследаваць дакументы Міжнароднага сацыялістычнага бюро і, не выключана, кангрэсаў ІІ Інтэрнацыяналу.

3. Важна тое, што дэлегаты ППС не настойвалі на прысутнасці ў Жэневе сяброў Сацыялістычнай партыі Белай Русі. Гэты факт дае падставу для разважанняў[1].

4. БСГ займала паслядоўна інтэрнацыяналісцкую пазіцыю, яна падтрымлівала нацыянальна-вызвольныя памкненні сацыялістычных партый іншых народаў і не забывала пры гэтым пра інтарэсы свайго народа.

5. На Жэнеўскай канферэнцыі сацыялістычных і рэвалюцыйных партый быў абвешчаны прынцып федэрацыі паміж нацыянальнасцямі, якія застаюцца “пад супольным дзяржаўным дахам”, г. зн. у складзе Расіі. Тэзіс пра тое, што Беларусь павінна стаць аўтаномнай часткай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, быў замацаваны ў 2-й праграме БСГ, прынятай ІІ з’ездам партыі ў студзені 1906 г. Ведама, дэлегаты з’езду кіраваліся пры гэтым не толькі рашэннямі Жэнеўскай канферэнцыі, але і прагматычнымі меркаваннямі: перш чым патрабаваць незалежнасці, неабходна стварыць патрэбную базу.

Тут трэба адзначыць і тое, што патрабаванне аўтаноміі Беларусі з’явілася ў пракламацыях БСГ яшчэ да ІІ з’езду партыі. Так, ва ўлётцы “Царава дума” (кастрычнік 1905 г.) утрымліваўся такі пастулат: “Патрабуем, каб кожны народ меў свой сейм у сваём краю!” А заканчвалася яна словамі: “Хай жывець народнае праўленне і канстытуцыйны (устаноўчы – *А.С.*) сход у Вільні!” [10:79]. Ва ўлётцы “За свабоду!” (9 снежня 1905 г.) гэты лозунг удакладняўся: “Хай жыве сейм у Вільні для Беларусі!” [16:226]. У пракламацыі “Товарыщы работники!” (снежань 1905) маецца яшчэ адно ўдакладненне: “Хай жыве автономія Беларусі і сэйм у Вільні!” [16:232].

6. Тое, што БСГ выступіла на Жэнеўскай канферэнцыі за адасабленне ў асобны палітычны арганізм Беларусі і Літвы, было адзначана толькі ў адной з вядомых нам прыкламцыяў БСГ. Гэта ўлётка “Да салдатаў!” (19 кастрычніка 1905 г.), якая

---

[1] Зрэшты, СПБР доўга не праіснавала: у 1906 г., калі ППС раскалолася на дзве фракцыі, гэтая структура знікла з палітычнай арэны.

заканчвалася словамі: "Хай жывець народны сход Литвы и Беларуси ў Вильни!" [10:77]. Аднак гэтая ідэя не знікла. Увосень 1915 г. Літва і заходнія паветы Беларусі былі занятыя немецкім войскам. Ужо ў снежні 1915 г. быў выдадзены на чатырох краёвых мовах напісаны Іванам Луцкевічам універсал "Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага".

Пра тое, якія змяненні зведала канцэпцыя беларуска-літоўскай дзяржавы, я пісаў, у прыватнасці, у прадмове да кнігі твораў А. Луцкевіча "Да гісторыі беларускага руху" (2010, 2015). У гэтым жа артыкуле я хацеў паказаць, як паводзіла сябе БСГ у першыя гады свайго існавання, робячы першыя крокі на агульнарасійскай палітычнай арэне, якія каштоўнасці яна вызнавала, якімі прынцыпамі кіравалася, якія мэты перад сабою ставіла і што яднала яе з сацыялістычнымі партыямі і вызвольным рухам іншых народаў Расійскай імперыі.

Можна без агаворак сцвярджаць, што Грамада была пераемніцай вызвольнага руху XIX ст., што яе натхняў лозунг "За нашу і вашу свабоду". Змагаючыся за лепшую долю беларускага народа, яна безумоўна прызнавала права на лепшую долю за іншымі народамі Расійскай імперыі.

Літаратура:

1. Большая советская энциклопедия. В 30 т. Т. 9. – М.: Советская Энциклопедия, 1972.
2. Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ. 1921. № 1.
3. История Коммунистической партии советского саюза. Изд. 7-е, дополненное. – М.: Изд-во политической литературы, 1985.
4. История СССР. 1982. № 4.
5. Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Изд. 5-е. Т. 8. – М.: Гос. изд-во полит. литературы, 1959.
6. Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Изд. 5-е. Т. 10. – М.: Гос. изд-во полит. литературы, 1960.
7. Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. Выд. 3-е. – Смаленск: Інбелкульт, 2015.
8. Наши противники: Сб. материалов и документов. Т. I. – М., 1928.
9. Программные документы национальных политических партий и организаций России (конец XIX – 1917 г.). Сб. документов. Вып. 2. – М.: ИНИОН РАН, 1996.
10. Социялістычны рух на Беларусі ў проклямацыях 1905 году. – Мн.: Інстытут беларсукае культуры, 1927
11. Спиридович А. И. Революционное движение в России. Вып. 2. Партия социалистов-революционеров и ее предшественники. – Птг., 1916.
12. Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006.
13. Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов... – М., 1921. Рэпрынт: Мн.: 1994.
14. Тютюкин С. В. Г. В. Плеханов. Судьба русского марксиста. – М.: РОССПЭН, 1997.
15.Фельштинский Ю. Вожди в законе. – М.: ТЕРРА – Книжный клуб, 2008. С. 35.
16. Цётка. Выбраныя творы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2001.
17. Polski słownik biograficzny. T. XI. – Wrocław-Warszawa-Kraków: Wydawnictwo PAN, 1964 – 1965.
18. Arche – Пачатак. 2009. № 1-2.
19. Przedświt. 1903, luty. Nr 2.
20. Przedświt. 1905, marzec. Nr 3.
21. Przedświt. 1905, kwiecień-maj. Nr 4-5.

Сяргей Дубавец



...кахаеш цела,
а любіш душу...

# #пастаў_свой_помнік

***З фэйсбучных запісаў***

*

Так даўно гэта было, што многія ўжо й не памятаюць, а маладзейшыя не ведаюць, што быў у нас калісьці выбар: мова ці каўбаса.

*

НН піша то «ў КрЫме», то «ў КрымУ». А я згадаў старую чумацкую песню пра валоў, якую чуў у нас на Палессі з дзяцінства: «Ву КрымЕ йшлі, цяжка везлі, з КрЫму едуць дай рыкаюць». Спявалі і беларусы пра Крым.

*

Калі ўжо ёсць Мінсква і мінсквічы, дык мусяць быць і мінскалі.

*

Львоўскі хірург распавёў, як ён на Майдане зашываў воіну святла разбітую галаву: «А нічога, што я гінеколаг?» Воін зарагатаў. І ніякага наркозу не трэба.

*

Устаць, як заўсёды, а шостай раніцы. Умыцца-апрануцца. Адчуць, што зусім не выспаўся. Зноў зірнуць на гадзіннік і... Бінго! 00:00

*

Маё пакаленне – першае за ўсю гісторыю, якое не ведала вайны. Не пакіне мяне гэтая думка.

*

На сайтах для расейскіх турыстаў у Празе не раяць наведваць тыя рэстарацыі, дзе ёсць меню па-расейску. Маўляў, і дзяруць задорага, і кормяць нясмачна, і публіка так сабе. Гм.

*

Калектыўны Ананіч шчыруе ва ўсіх без выключэння сферах жыцця. Забараніць, не пушчаць, адабраць, абабраць – гэтыя словы ў лексіконе чынавенства гатовыя канчаткова выцесніць антонімы – дазволіць, паспрыяць, зразумець, падтрымаць.

*

У адрозненне ад іншых беларусы пазбаўленыя магчымасці сустрэць на чужыне незнаёмага земляка, дапамагчы ці атрымаць дапамогу, кантакт, сяброўства ўрэшце з роднаснай душой. А як пазнаць, калі беларусы гавораць па-расейску і, улічваючы адносіны да расейцаў за мяжой, стараюцца ўвогуле маўчаць? Яшчэ адна магчымасць і яшчэ адна радасць у гэтым свеце і ў гэтым жыцці, даступныя іншым, але не табе.

*

Залацінкі расейскае мовы: *Севжелдорлаг*. Яны быццам інтуітыўна імкнуцца гаварыць па-казахску.

*

Калі я быў падлеткам, найвышэйшай сакральнай сцэнай кахання ў нас лічылася – схадзіць з жанчынай у душ. Пра гэта нават у кнігах пісалі і ў фільмах паказвалі. Але часы змяніліся, і сёння пра такое не чуваць. Падазраю, што і з маіх колішніх сябрукоў мала каму гэта ўдалося. Але гаварылі пра душ, закаціўшы вочы і з прыдыханнем.

*

Кожны народ законна адказны за сваё, а за чужое – толькі як за крадзенае.

*

Сталінскія рэпрэсіі, кажаце? Трэба памятаць? А што змянілася? Таемная і бескантрольная структура на месцы. Катаванні ў «амерыканцы» на месцы. Даносы і сфабрыкаваныя паводле даносаў справы на месцы. Тысячы бязвінных у турмах на месцы. Праслед за беларушчыну на месцы. ВМП на месцы... Што змянілася? Я скажу: у сталінскія часы было на парадак больш апраўдальных прысудаў.

*

Затэлефанавалі з БТ, запрасілі на ток-шоў... заўтра. Ну-ну. Толькі матузкі завязаць засталося.

*

Як гэта заўсёды бывае, рабы падзяліліся на тых, што змагаюцца за сваю волю, і тых, што бароняць сваё рабства.

*

Шукаў для дзіцяці верш пра Беларусь. Такі, каб нічога не тлумачыць. Проста тры-чатыры страфы без лапцей, кладзьбішча, камуны, літоўскай пагоні, страшылак і дэпрэсняку. Проста, што Радзіма, маўляў, і нейкія рыскі адметнасці. Уражаны тым, што не знайшоў.

*

Памятаю са школы, як шмат у размовах дарослых і дзяцей было незразумелых мне выразаў кшталту «ён цябе ракам паставіць», «што ты без мыла ў ср...ку лезеш», «мужык ты ці не мужык»... Толькі пасля высветлілася, што ўсё гэта – з ГУЛАГу.

*

Вось падумаеш, што парад 3 ліпеня праводзіцца ў гонар дня нараджэння Франца Кафкі, і ўсё выглядае ўжо не так па-кафкіянску.

*

А вы праўда лічыце, што выступаць супраць русіфікацыі, цыбулізацыі помнікаў архітэктуры, казакаў-харугваносцаў, клерыкальнай карупцыі і пабудовы «наших храмов» на кожным кроку, а пры тым заставацца вернікам РПЦ – гэта не шызафрэнія? Як быць «чэсным камуністам», маўляў, насамрэч камунізм – гэта не гэта ўсё. Мне ў місійнасці такіх вернікаў бачыцца на першым месцы пашырэнне глыбокае душэўнае безнадзёгі, а тады ўжо ўсё астатняе.

*

Гляджу на сваіх даўніх сяброў і думаю – як хто з іх я хацеў бы жыць? Няма каму пазайздросціць.

*

Ёсць рэчы, якія для нас сённяшніх – за парогам будзённасці. Нешта жахлівае магло быць у вайну, нешта страшнае можа быць дзесьці ў Сірыі, але не цяпер у будынку праз тры кварталы ад нас. Парог будзённасці не дазволіць нам загаварыць пра гэта на поўны голас і тады, калі яно само стане будзённым. Проста мы незаўважна для сябе ўвойдзем у гэтую ваду...

*

А «за Пуціна», калі пра нешта пазітыўнае, гэта за што?

*

Нешта вынесла мяне ў стары забыты ЖЖ, і я наноў перажыў колішнюю інтэлектуальную асалоду ад чытання. Сёння яна нікім не выклікаецца, бо нікім не перажываецца. Ці, наадварот: нікім не перажываецца, бо нікім не выклікаецца. Не думаю, што прычына ў твітарнасці тэкстаў, аб’ём тут ні пры чым. Пры чым глыбіня і сутнасць выказвання. Самое мысленне становіцца твітарным, мітуслівым і плыткім. Свет змяняецца? Я ўсё разумею. Не разумею толькі, навошта людзям адмаўляцца ад асалодаў, змяншаць свае кайфы, збядняць свае арсеналы...

*

Неяк сказаў Бартосіку, што на лукойлаўскіх запраўках самыя чыстыя клазеты. Паехаў Бартосік у Пецярбург і там вырашыў праверыць. Сапраўды, кажа, прыгажосць. Паведаміў ён пра гэта работніцы запраўкі. Выказаў захапленне. Рэакцыя была нечаканай. Яна зрабіла пакутніцкі твар і сплаканым голасам прагудзела: «Нас заставля-я-яют».

*

Раскажу вам пра родную мову. У мяне яна не матчына, а бабуліна. Як ва ўсіх на той час. На лета – у вёску, да бабулі. Баба Хвядора была непісьменная, але строгая. Восем сваіх дзяцей у вайну адна захавала ўсіх. І мову ведала адну – беларускую. І песні спявала, і казкі казала. Ну а тут, у Менску, мяне ўжо перавучвалі, як маглі. А я натурысты быў, не надта й перавучваўся. Можа, адчуваў, што сапраўднае, а што так сабе. Так і выйшла.

*

Галоўны герой беларускай гісторыі не князь які-небудзь, не палкаводзец, не палітык (што ў большасці выпадкаў азначае неадэкват), а друкар. Памятаеце, у Караткевіча Бог даў беларусам найгоршае ў свеце начальства? І вось працяг: а пасля паглядзеў, што яўны перабор выйшаў, надта лютуюць начальнікі, і даў нам найлепшага ў свеце героя.

*

Пакуль палююць на касінераў, паўстанне не скончанае.

*

Нехта напісаў, што з расейскіх месяцаў восені складаецца СОН. Адгадайце, што складаецца з беларускіх?

*

Толькі на ахову Лукашэнкі ў бюджэце 2018 года прадугледжана 12 нобелеўскіх прэмій.

*

Беларусы не хочуць быць нацыяй. Прычына адна: РБ не нацыянальная дзяржава. А тыя, хто хоча, далучаюцца не да нацыі, а да культуры. Што таксама няблага. Бо нас такіх не становіцца меней, становіцца толькі болей. Гэта быў навагодні тост.

*

Насамрэч «чуждых нам западных ценностей» толькі адна – чалавек.

*

А праўда, што дэпутат за дзве кадэнцыі зарабляе сабе пенсію, роўную заробку? І гэта ўсё, дзеля чаго нас запрашаюць галасаваць.

*

Ну што, Аляксандр Грыгор'евіч? Шведаў 10 мільёнаў, як нас. А ў іх і АББА, і Вольва, і Ікея, і ўзровень жыцця. І Карлсан. Найбольшая ў свеце папуляцыя ласёў. Ласёў, Аляксандр Грыгор'евіч! А што ў нас, акрамя вас?

*

Новы руска-беларускі слоўнік. Апгрейд – апгрэйд, бэкграунд – бэкграўнд, дедлайн – дэдлайн, лайфхак – лайфхак... Якія ўсё ж блізкія мовы.

*

Калі Руская праваслаўная царква насамрэч Украінская, дык і Русь насамрэч Украіна, і руская мова насамрэч украінская, і рускія насамрэч украінцы. Ой, што пачынаецца...

*

У сталоўцы... А катлета «Спатканье» – ана с чем?

*

На рэферэндуме пра смяротную кару важна правільна паставіць пытанне: Ці гатовыя вы самі прывесці прысуд у выкананне?

*

Хоць ты забі ўсіх беларускіх нацыяналістаў, птушкі ў Беларусі будуць спяваць, дрэвы шапацець, хвалі плёскаць – па-беларуску. У іх «второго государственного языка» няма.

*

Цырульніца ў Калодзішчах, звычайная цётачка, моцна занепакоеная намерам Інданезіі легалізаваць лёгкія наркотыкі. З аднаго боку, а што рабіць? Усе гэтыя землятрусы і цунамі, а так пакурыў – і нармальна. З іншага боку, яны ж так і цяжкія легалізуюць.

*

Следам за «святым сталінам» можа быць толькі «святы чорт», далей – ужо марсіяне.

*

Беларусы – усеабдымная назва, таму ніякія іншыя не прымаюцца (сэнсава яны ўсе тут ужо ёсць). Беларусы ўключаюць дзве часткі нацыі: белых і рускіх. Белыя – якія разумеюць каштоўнасць свабоды і чалавека. А рускія – проста рускія.

*

Этнограф Часлаў Пяткевіч, які апісаў побыт беларускіх сялян пачатку мінулага стагоддзя, распавядае, што і прыбіральняў у палешукоў не было, хадзілі проста за хату. Чым гэтая «славянская традыцыя», якой чамусьці ніхто не трымаецца, горшая за хатні гвалт?

*

Нехта тут напісаў, што шчаслівы, бо сённяшніх паэтаў не расстрэльваюць. Нуну. Можна падумаць, Галубок, першы народны артыст БССР, дапускаў, што яго расстраляюць. Ці кампанія Кляшторнага ў ТАВІЗе (Таварыства аматараў выпіць і закусіць) на расслабоне абмяркоўвала, як іх заўтра паставяць да сценкі. Я больш скажу. Калі заўтра расстраляюць Рыжкова ці Івашчанку, ніхто нават асабліва й не здзівіцца. Бо справы цяпер фабрыкуюцца абсалютна гэтаксама, як і тады, калі паэты маглі сказаць, што яны шчаслівыя, бо іх не вешаюць, як Каліноўскага. Эх... Нетрывалае гэта шчасце.

*

Такое адчуванне, што гісторыя расце на вачах. Раней мы пра Вільню па факціку выдрапвалі. А цяпер ледзь не пра кожную вёску ўскрываецца нешта сусветнае.

*

Ты можаш не любіць беларускую мову, але толькі яна можа палюбіць цябе.

*

«Патрыятызм – гэта калі ты хочаш свабоды для сваёй радзімы; нацыяналізм –

калі ты ідзеш супраць іншай нацыі», – кажа Адам Міхнік і дапускае непаслядоўнасць, бо адкуль тут бярэцца «супраць» і «іншая нацыя»? Па аналогіі з патрыятызмам нацыяналіст хоча свабоды для сваёй нацыі. І ўсё. «Супраць іншай нацыі» – гэта ўжо ксенафобія, шавінізм, імперыялізм – вызначэнняў хапае на кожны выпадак. На маю думку, якраз патрыятызм – найгоршая форма нацыяналізму, бо гэта і ёсць нацыяналізм мінус чалавек.

*

Ездзілі сёння купляць яблыні, саджанцы. Людзей шмат. Усе бяруць гатунак «Прэзідэнт». Прадавец кажа: кожны беларус хоча пасадзіць прэзідэнта. А я вось пра што падумаў. Калі яго пасадзяць, ці знойдзецца хоць адна душа, якая панясе яму перадачу?

*

«Васіль Іванавіч, а ты бутэльку гарэлкі вып'еш?» – пытаецца Пецька. «Вып'ю», – адказвае Чапаеў. «Васіль Іванавіч, а дзве бутэлькі вып'еш?» – «Вып'ю». – «Васіль Іванавіч, а вядро вып'еш?» – «Не, Пецька, вядро толькі Уладзімір Ільіч можа».

*

Першага траўня. Смех сказаць. Капаў грады, памарозіў рукі. Успомніў, як калісьці ў калоне «Гарызонту» ў адных кашулях стаялі каля другой клінікі (і яе ўжо няма), радасна пілі чарніла, і Белы зваліўся з высокага парапету ўніз галавой, як мы неслі яго на руках па калідорах той клінікі на рэнтген мазгоў, як я трымаў ягоную лысаватую галаву, як усе былі вясёлыя, бестурботныя, нават непрытомны Белы ўсміхаўся, як вярталіся назад, без Белага, у сваю калону. І было ўжо сапраўднае лета. Які ж гэта год? Зараз скажу. 1977.

*

Шукаеш адказы пра 19.12.2010, а знаходзіш толькі новыя пытанні. Мы з Таняй ехалі на Плошчу з Вільні і не даехалі. Прайсці мяжу было нерэальна. Чарга машын на Катлоўку цягнулася ад Лаварышак, дзе мы ў яе і ўпёрліся. Хто ездзіць, той ведае, што пад Каляды на мяжы збіраюцца сотні фураў (цяпер тое самае), але ў іх свая асобная чарга. Дык вось, 19.12.2010 фуры з легкавікамі былі пастаўленыя ў адну чаргу. І ўсе, хто з Літвы ехаў на Плошчу, апынуліся ў заторы на паўсутак і болей. І вось вам пытанне ў вашую калекцыю: з якой такой прычыны літоўскія ўлады прынялі рашэнне 19.12.2010 закаркаваць мяжу ў Беларусь?

*

Кахаеш цела, а любіш душу.

*

«Свабода» назвала найлепшыя кнігі 2018 года. Сёлета выдаліся, як ніколі раней, – і колькасна, і якасна. Файная тэндэнцыя. Яшчэ пару такіх гадоў, і настане кніжны бум. Не бяда, што чытае меншасць. Большасці не існуе.

*

Стэфе праз тры месяцы будзе тры гады. Яна кажа: «я хатэля». Пазней цвёрдасць і мяккасць у складах памяняюцца месцамі – «хацела». Між іншым, толькі так Стэфа і чуе. Але недзе ж у прыродзе закладзена гэтае «хатэля». Каго мы так імітуем: немца, эстонца ці, можа быць, грузіна? Ёсць жа мовы, якімі людзі з малалецтва кажуць «правільна».

*

Колас быў паэт ого-го, не тое, што Купала. А Купала быў паэт ого-го, не тое, што Колас. А яшчэ Колас быў настаўнік ого-го, не тое, што паэт... Гэта такі спосаб ацэнкі.

*

Увёўшы «польскае паўстанне» Каліноўскага, господа хорошие разбураюць логіку гістарычнага развіцця. Выходзіць, гэта «польскі паўстанец» Багушэвіч напісаў праграмны маніфест для будучай Беларусі. І адкуль тады ўзяліся цэлыя пакаленні нашаніўцаў і бээнэраўцаў? Паўтарайце тады да канца – пра Беларусь як польскую інтрыгу. І з якога перапуду вы незалежнасць Беларусі называеце найвялікшай каштоўнасцю? Яна для вас як томас для Украіны, ніякая не каштоўнасць, а смерць.

*

Пра ўдзел у галакосце і не толькі. Нацыя, здольная пераступіць праз сваё г-но, мае шанец на чыстую будучыню. Нават калі ніякага г-на не было. Калі ж нацыя даказвае, што г-на не было, што гэта не г-но, што гэта не яе г-но, што яе г-на тут толькі кавалак... – будзе вэдзгацца з гэтым г-ном і ў будучыні. Нават калі ніякага г-на не было.

*

Што лучыць Бахарэвіча і Харэўскага і адначасова адрознівае іх ад астатніх? Тое, што ўжо прозвішчамі сваімі яны як бы кажуць нам: «Харэ». Слова, між іншым, устойліва ўжываецца разам са словам «балдзець». Калі б яны, да прыкладу, задумалі партыю, дык сёння партыя з такой назвай была б надзвычай запатрабаваная. А пакуль яны – героі маёй новай кнігі «Д'ябал запрэжаны ў плуг». Не такія ўжо і эпізадычныя.

*

Які помнік паставіць у Мінску? Фармальна гэта помнік году – 1963. Нейкая ўмоўная лаўка, на адным канцы сядзіць Освальд, які абдумвае план забойства прэзідэнта Амерыкі, на другім – Ханжанкоў, які абдумвае план падрыву савецкай радыёвежы, што глушыць «Голас Амерыкі». Абодвум крыху за дваццаць. Сядзяць спіна да спіны. Пакуль яшчэ жывыя і на свабодзе. Так пачынае свой распавед экскурсавод...

Галіна Багданава



...такое знаёмае кожнаму з нас рэальнае
і такое казачнае жыццё...

# Таямніца лілеі

***Мастачка Алеся Скарабагатая вяртае нам чысціню***

Гэта не насцярожаная, штучная стэрыльная чысціня. Гэта жывая, пульсуючая зямная беласць, што ўбірае ў сябе ўсе колеры, мае безліч адценняў: цёплыя – малака, сцюдзёныя – снегу, а яшчэ адценні вады, семені, неруш адбеленага палатна... І яшчэ, магчыма, колер таго нябеснага святла, з якога мы ўсе прыходзім у гэты свет і ў якое пераўтвараемся пасля смерці... Чысціня і празрыстасць...

Дзеля чыстага празрыстага паветра Алеся бясстрашна ўздымаецца на горныя вяршыні. Дзеля чыстае празрыстае вады чулліва прыпадае да крыніцы. Гэта яе натуральнае жыццё.

Такіх аўтапартрэтаў, як "Таямніца" Алесі Скарабагатай, няма ў гісторыі мастацтва. Яе пагляд фіксуе, а рука мкне да палатна і піша "Дождж", які мые і мые і так жа чысцюткія вадзяныя лілеі.

І яшчэ ў яе ёсць незвычайны, наскрозь белы нацюрморт, дзе на белым настольніку ў шклянцы – белае малако, у місачцы – белыя яйкі, але называецца ён, гэты нацюрморт, "Скарыначка"... Бачыце, збоку ляжыць скарыначка хлеба?

## Колер жыцця



*"Таямніца. Мама"*

Усе ведаюць, што колер жыцця – гэта колер агню, колер крыві, чырвоны колер. І партрэт "Таямніца. Мама" Алеся Скарабагатая стварае з чырвонай, пунсовай напаўпразрыстаю тканінай. Яе маці, Зінаіда Фёдараўна, не толькі выгадавала цудоўных дзяцей – двух хлопцаў і Алесю, але набыла вядомасць як адмысловы кулінар, а цяпер яшчэ і як жывапісец.

Нацюрморты Алесі Скарабагатай маюць рэальныя жывыя колеры, яны маюць водар, смак. Яны адчувальныя на дотык, яны гучаць... І блінцы "У бабулі", і гурочак, сала "У дзядулі", здаецца, перамаўляюцца між сабою. Памятаеце казкі Андэрсена? Нейкім цудам Алеся ажыўляе ўсе свае нацюрморты. Кожны з іх хавае ў сабе нейкую гісторыю. А здараецца, прадметы ажываюць у назвах. Напрыклад, "Хочаш кавы?" І адразу за сталом бачыш тых, хто застаўся за рамаю гэтага нацюрморта. Алеся любіць пісаць "Мёд". Яна здолела перадаць пульсуючае ў ім сонечнае святло, тое, чаго ўсім нам так не стае... Можа таму ўжо чатыры гады Алеся Скарабагатая нязменна атрымлівае на выстаўцы "Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам" прыз глядацкіх сімпатый... У яе творах ёсць такое знаёмае кожнаму з нас рэальнае і такое казачнае жыццё.

## Колер вечнасці

Скажаце, чорны? Я назвала б яго касмічным. Для кагосьці ён чорны. Для кагосьці ажывае неспазнанымі вобразамі. Як у дыптыху Алесі Скарабагатай "Ноч" і "Дзень". Глыбінны падтэкст "Ночы" нараджаецца з вобразна зафіксаванай прасторы міфа.



*"Мёд"*

Ноч – унікальны час нашай далучанасці да вышэйшай, духоўнай сутнасці быцця. "Зорную ноч" напісаў Ван Гог. "Космас" увасобіў Язэп Драздовіч.

Алеся Скарабагатая зачароўвае нас трывожнаю, затканаю зоркамі глыбокаю аксамітнаю сінечай. Яе "Ноч" можна ўспрымаць як алегорыю Мужчыны. Мудры сівабароды стары, святар, чарадзей, быццам дырыжор з нябачнаю чароўнай палачкай. Ён стварае, выплятае тканіну светапарадку. Мы можам пазнаць сілуэты вядомых беларускіх архітэктурных помнікаў – храм у Сынкавічах, Ружанскі палац, са-



*“Хочаш кавы?”*

бор у Відзах. Мастачка чыста інтуітыўна абрала знакавыя для нашай краіны помнікі архітэктуры. “Дзень” сплецены з сонечнага святла сланечнікаў, якія цярпліва вывязвае, стварае Жанчына-працаўніца, што схілілася над грандыёзным казачным палатном. Вобразы сланечнікаў таксама не раз увасабляліся ў мастацтве. Былі “Сланечнікі” Ван Гога, пісалі сланечнікі Гаўрыла Вашчанка, Алена Лось... Чароўныя кветкі, быццам пупавінаю звязаныя з Сонцам... Сланечнікі на карціне Алесі Скарабагатай “Дзень” падобныя і на касмічныя аб’екты, і на дзіцячыя тварыкі... Алеся Скарабагатая па-майстэрску спалучае рэальныя дэталі з па-за часавай прастораў, яна здольная пісаць не проста фарбамі, святлом. Так умеў калісьці самы дарагі на сёння мастак Вермеер. Ствараецца ілюзія, што само палатно выпраменьвае святло.



*“Танец светлячкоў”*

Дыптых “Ноч” і “Дзень” вымушае нас па-філасофску задумацца пра ролю мужчыны і жанчыны, пра яднанне неба і зямлі.

Дыптых, які перадае сам дух нашай краіны, нашай культуры, дзе заўсёды знаходзілі гарманічнае яднанне ўзвышанае, касмічнае і зямное, цяпер знаходзіцца ў інтэр’еры залы пасяджэнняў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Азербайджане. Гэта новы, вельмі сучасны падыход да прэзентацыі нашай краіны.



*"Дзень"*

За выкананыя Алесяй Скарабагатай варыянты гэтых карцін яна атрымала Нацыянальную прэмію Рэспублікі Беларусь па выяўленчым мастацтве.

Казачны свет начнога лесу ажывае ў палатне "Танец светлячкоў". А серыю "Лес", дзе ў белай прасторы набываюць голас не толькі так далікатна выпісаныя грыбы, але і заімшэлыя галінкі, карэньчыкі, можна суаднесці з сімфоніяй.

На персанальныя выстаўкі Алесі Скарабагатай стаялі чэргі і ў Мінску, і ў Оршы... І ў Парыжы яе творы прымалі з вялікай прыхільнасцю...

Алеся ж працягвае эксперыментаваць... Са скураю, тканінаю, шакаладам; са святлом і металічнаю сеткай (кампазіцыя "Прыцягненне бязважкасці", у суаўтарстве з Алесем Багданавым). А як дакладна ў адным з нацюрмортаў яна ўвасобіла характар французаў, напісаўшы ўсяго толькі іх любімыя... багеты...

Прызнаюся, я фанатка творчасці Алесі Скарабагатай, з самых ранніх яе твораў. Мне пашчасціла бачыць яе кампазіцыю, напісаную на рэспубліканскім мастацкім конкурсе, калі яна яшчэ вучылася ў Гімназіі-каледжы мастацтваў. Падыдзеш блізка – россып фарбаў. Адыдзешся – жывое, рэальнае кацяня! Сапраўднае чарадзейства. Алеся на тым конкурсе перамагла. Потым я старалася не прапускаць прагляды кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзе яна вучылася, дзе пад кіраўніцтвам прафесара Уладзіміра Зінкевіча абараніла сваю дыпломную ("Ноч" і "Дзень"), а цяпер выкладае.

Не, я не спрабую разгадаць, хачу хаця б наблізіцца да яе Таямніцы. Дзеля таго, каб раскрыць нешта вельмі важнае ў сабе самой... З лілеяй трэба быць вельмі асцярожнай. Яна знак чысціні, знак будучыні...

палата №6

Яўген Рагін



...наяўнасць кахання –

умова абавязковая...

# Апошні папяровы салдат

***І пайшлі яны, як ім падалося, наперад***

Ніколі не пагаджуся з тымі, хто кажа, што няма ў нас нацыянальнай ідэі. Была, ёсць і будзе. І ніяк не маю на ўвазе слоган «За сильную и процветающую Беларусь!» Гэта не ідэя, гэта – тост. Дык вось, тостаў нам і без таго хапае, а нацыянальная ідэя адна, нам яе мудрыя продкі пакінулі.

Спрадвечны герб «Пагоня» і ёсць сімвалам нашай нацыянальнай ідэі. Нават калі аднаго нашага чужынец возьме ў палон, мы будзем гнацца без стомы, пакуль яго не выратуем. Мы ведаем кошт чалавечага жыцця. Мы гатовыя разлічвацца асабістай крывёю... Вершнік – не толькі ваяр на кані. Калісьці вершнікамі называлі асаблівае саслоўе людзей, якія здолелі ўзняцца высока ўверх над асабістым і гонарам лічылі весці за сабой нацыю. І каб спляжыць гэтую нацыю, чужынцы імкнуліся вынішчаць у першую чаргу менавіта вершнікаў.

Так было ў Сярэднявечча, так было падчас рэпрэсій 1930-х, так было пастаянна. Але вершнікі – невынішчальныя. Нават адзін здольны на тое, каб мечам сваім змяніць расклад сіл на

карысць свайго народа. Нават адзін будзе ляцець над лясамі і прысадамі, каб каршуковым ударам адпомсціць ворагу.

Вы зразумелі, чаму так мала на Беларусі конных помнікаў?

Вельмі каротка – пра ўражанні ад леташняй вандроўкі па Украіне. Пісаць буду пра тое, што здзівіла і прымусіла ці то зайздросціць, ці то абурацца. Варта тут, напэўна, толькі зазначыць, што апошні раз наведваў гэтую краіну гадоў дваццаць з гакам таму. Усе мы былі тады савецкімі, нават у страшэнным сне не магло прымроіцца, што дзесьці побач разгарыцца і будзе тлець дзікунская вайна.

Дык вось, у жніўні мы адправіліся за мяжу разам з сынам і на ягоным легкавіку. Пабывалі ў Чарнігаве, Кіеве, Пераслаўлі-Залескім, у некалькіх вёсках.

Асфальтаваная шаша да Кіева – досыць прыстойная. Ці не ўшчыльную да дарогі падступае падлесак, больш ліставы, чым хвойны. Едзеш нібы па шырокім зялёным метро. Кожная пядзя зямлі дбайна дагледжана і акуратна засеена: збожжавымі, сланечнікам ды кукурузай. Паўсюль шчыруе ўборачная тэхніка, падаецца, нямецкай вытворчасці. Амаль на кожным кіламетры паміж гарадамі і ў іх саміх – банеры з выказваннем украінскага прэзідэнта, узведзеным у ранг нацыянальнай ідэі: «Наша армія абароніць нашу зямлю, наша мова абароніць наша сэрца, наша вера абароніць нашу душу». Як па мне, дык паліттэхналогія – вышэйшага гатунку. Аж кроў стыне ў жылах. І нідзе я не сустрэў абвестак, рэкламных шчытоў ды шыльдаў, выкананых на рускай мове. Паўсюль – спрэс украінская. І гэта таксама – нацыянальная ідэя. Не думаю, што яна зменіцца з прыходам новага прэзідэнта.

Сённяшні Кіеў – запалітызаваны. Але па-свойму. Дык вось, на кухнях, у транспарце і ў чэргах толькі і размоў, каб абраць кіраўніком дзяржавы коміка Уладзіміра Зяленскага ці лідара «Акіяна Эльзы» Святаслава Вакарчука. Маўляў, гэтыя па інтэлігентнасці душы красці не стануць. Па многіх тэлеканалах ідзе паўтор сатырычнага серыяла «Слуга народу», дзе Зяленскі выконвае галоўную ролю, а Вакарчук – адзін з самых запатрабаваных спевакоў на FM-станцыях украінскай сталіцы. Іх любяць, ім вераць. «Я не здамся без бою!» А калі новы прэзідэнт не апраўдае даверу, украінцы хуценька папросяць яго «прайсціся лесам». І гэта таксама нацыянальная традыцыя.

Дваццаць гадоў таму мы рыбалілі на Дняпры і варылі юшку за прэстыжным раёнам Конча-Заспа. Цяпер на гэтым месцы – вілы з прыступкамі аж да ракі. Нідзе няма абвестак, што наўкола – прыватная тэрыторыя. Але да недасведчаных аматараў краснапёрак падыходзяць сугнеістыя людзі спартыўнай выпраўкі і ветліва раяць падшукаць іншае месца для стыхійнага адпачынку. Адкуль навасёлы? Кажуць, адтуль, дзе грымяць сёння гарматы...

Тым не менш беларусаў тут вельмі паважаюць, у чым пераконваўся неаднаразова і ў крамах, і ля шматлікіх гістарычных адметнасцяў горада над Дняпром. А на месцы гібелі гамяльчаніна Міхаіла Жызнеўскага і па сёння захоўваецца ягоны партрэт і нацыянальныя сцягі нашых краін.

Пра вайну. На сцяне вакол Міхайлаўскага манастыра (аднайменная царква была падчас падзей на Майдане шпіталем для Нябеснай Сотні) дзясяткі фотаздымкаў загінулых. Іх колькасць з цягам часу няўхільна павялічваецца. Пра трагедыю нагадваюць і два мабільныя помнікі-знакі ў выглядзе пляскатых фігур салдатаў у натуральную велічыню, прабітых кулямі. Гэтыя знакі «курсіруюць» па горадзе, з зайздросным пастаянствам усталёўваюцца ля шыкоўных рэстаранаў. Кажуць, гэта пэўным чынам спрыяе прабуджэнню грамадзянскага сумлення. Але вайну тут кожны ўспрымае па-рознаму. Гатовая да скандалу жанчына сталага веку звяртаецца да кіроўцы маршруткі: «Грошы не перадаю, бо я ўдзельніца баявых дзей!» Кіроўца абыякава паціскае плячыма. У кіеўскіх дварах шмат жанчын усходняга тыпу з

гэтакімі ж цёмненькімі дзецьмі – гэта крымскія татары. Асобныя з іх досыць вольна размаўляюць па-ўкраінску.

З пункту гледжання беларускага кіроўцы Кіеў – горад, дзе на вуліцах пануе махноўшчына. У цэнтры сталіцы можна гнаць пад сотню кіламетраў за гадзіну. Калі на паліцэйскіх джыпах няма праблісковага агню, «водзіі» ігнаруюць уладароў дарог. Сітуацыя для нас, прама скажам, нязвыклая. Як, дарэчы, і наяўнасць пад шматлікімі сталічнымі мастамі такіх ямін, дзе без належнага манеўру можна назаўжды пахаваць свой легкавік. Дарогі тут гадамі не рамантуюцца.

А вось для турыстаў горад прыстасаваны няблага. У цэнтры, дзякуючы сетцы ядальняў «Пузата хата», можна вельмі танна падсілкавацца баршчом і галушкамі. Праўда, сала ў шакаладзе падаецца толькі ў рэстаранах. Жытло таксама адносна таннае, прынамсі, у Мінску такое – не адшукаць нават па ўскраінах. Вось вам і краіна, якая ваюе.

Уразіла ўкраінская вёска. А дакладней – зямля. Яна, як антрацыт, блішчыць на сонцы і аддзячвае нязменна стабільным ураджаем. Заставацца бедным пры такой глебе немагчыма па вызначэнні. Адна з вёсак называецца па-беларуску – Грэбля. Я так і не даў рады адшукаць вытокі тапоніма. Людзі ў сённяшніх украінскіх вёсках не «калгоспныя», а аднаасобнікі – кожны сам сабе гаспадар. Гэта можна прачытаць у вачах, заўважыць у паставе і нетаропкіх, але выверанах рухах. Так выглядаюць сяляне, якія з маленства працуюць толькі на сябе. Але ў выніку хапае і нам. У Пераслаўлі пабывалі на кірмашы. Божухна! Гэта не кірмаш, а шматактавая драматургічная дзея з элементамі камедыі, трагедыі і фарсу. І ўсё гэта падаецца пад дэвізам «Сам бы йіў, ды грошы трэба!» Вам трэба машына колатых дроў? Калі ласка! А ёсць яшчэ натуральны самаробны сланечнікавы алей, ліпавы мёд. Да дзевяці ранку лепшае сала ўжо раскуплена. Не бяруся разважаць, чаму ўкраінскае сала лепшае за беларускае. Так склалася гістарычна, што на гэтае пытанне няма адказу. Ведаць трэба іншае: набыццё «свінскага» прадукту вымагае шэрагу ўменняў ды навыкаў. Вось вам інструкцыя. У маладых дзяўчат – сала не купляць. Яны прыгажосцю сваёй, нахабствам, жартамі ды грудзямі задураць галаву так, што дахаты вернецеся не з адборным салам, а з кнурацінай. Нават высакакласныя спецыялісты па сале прызнаюць правільнасць дадзенага правіла паводзін на рынку. Сапраўды, якое можа быць сала, калі такія грудзі!

А вось хлебнага ўкраінскага самагону не каштаваў, адно толькі – цукруху пад назовам «Тры гічкі». Гічка – бураковае бацвінне, ім звычайна пляшку закаркоўваюць. Самагон – моцны, але не надта гаючы. Ад нашага – весела лунаеш над стрэхамі.

Госці кажуць, што ва Украіне пануе культ ежы. Дазвольце не пагадзіцца. Так, сталы і ў будзень шчодра застаўлены стравамі. Я не адразу дацяміў, што такім чынам гаспадыня выказвае прыязнае стаўленне да сямейнікаў: каб хоць зранку і ўвечары збіраліся за адным сталом, падсілкоўваліся ды абмяркоўвалі сумеснае жыццё-быццё. Завядзёнка, што ўмацоўвалася вякамі. Украіна ўвогуле моцная векавымі традыцыямі.

У адзін з дзён над стомленым гарачынёй Кіевам павіс адмысловы пах. Мне патлумачылі, што час ад часу каналізацыя не вытрымлівае («нас – многа, а прыбіральняў – мала»). Але яе гадамі ніхто не рамантуе. Кажуць, падчас футбольнага чэмпіянату над горадам распылялі прыемныя пахам аэразолі.

Калі вярнуўся ў Мінск, яшчэ раз перагледзеў серыял «Слуга народу». Многае стала зразумелым.

Арфаэпія як працяг фізіялогіі. Памятаеце радыстку Кэт са знакамітага серыяла? Яна выдала сябе тым, што падчас родаў крычала па-руску. Так ужо ўладкавана жанчына, што ў пікавых сітуацыях выказвае стаўленне да свету менавіта на

роднай мове. Цікава, як лаюцца ў радзільнях нашы дзяўчаты, якія з беларускай мовай сустракаюцца адно толькі ў школах і там жа з ёй і развітваюцца? Вельмі спадзяюся, што калі не мовай нашай, дык хоць акцэнтамі, вымаўленнем (цэканнем, дзеканнем, чэканнем...), трасянкай – урэшце не выклікаюць сумневу ў сваім нацыянальным паходжанні.

І яшчэ. У мяне ёсць сяброўка. Я калі яе ўпершыню пацалаваў, у яе, хлопцы, вочы такімі вялікімі зрабіліся... Трохгадовая Ульяна – дачка дыялектолага, журналіста Юрыя Чарнякевіча і літаратурнага крытыка Аксаны Бязлепкінай. Уля – беларускамоўная, і з гэтай нагоды ў яе столькі чалавечых пераваг, што мы толькі дзівімся без стомы. Самае галоўнае, што яна – сапраўдная. Таму што беларускамоўная. Сувязь з беларускім Богам прамая, без адаптараў і без лішніх метабалізмаў. Вось сістэма збою і не дае. Аднойчы сядзела на лавачцы, штосьці смактала ды мармытала пад нос і раптам вымавіла вельмі выразна: «на лавацццы». Нават філолагі з вялікім практычным вопытам не адразу запамінаюць, што на стыку марфем адбываецца іншым разам працэс прыпадабнення шыпячых да свісцячых, які не перадаецца на пісьме. Я, каб усё гэта сфармуляваць, нават у падручніку корпаўся. А гэты сімпатычны шпінгалет выдаў гатовы прадукт не таму, што так у кніжцы напісана, а па той прычыне, што так лацвей, так у яе геннай памяці закладзена. Ох, дарэмна Юра за доктарскую дысертацыю не бярэцца!

Вішталь – гэта брат. Васька – гэта конь. Абодва – ахламоны, як іх назвае цётка Вара. Паехалі яны ў начное, прыўзнятыя, радасныя. Ды штосьці там здарылася непрыемнае: ці Вішталь Ваську недазразумеў, ці наадварот. Покуль трусілі дахаты, падымаючы пыл, Вішталь нібыта і памякчэў. Але ж конік – яшчэ «тэй» пароды: помсціць вырашыў у любым выпадку. Усё так і атрымалася. Ля кворткі (тое ж, што брамка і веснічкі) конь і чалавек спыніліся. Вішталь перакінуў правую нагу на зямлю, а левая яшчэ спаўзала па конскім баку, калі Васька, скасіўшы хітрае вока, так грацыёзна пераступіў капытамі, што левым заднім надзейна прыціснуў да стаптанага мурагу правы Вішталевы «кет». Не пальцы, не ступню – падэшву. Ды так надзейна, нібыта цвіком прыбіў. Вось яно, салодкае імгненне помсты! Вішталь ірвануўся – падэшва засталася ў яго, верх «кета» – у Ваські. (Мо хто не ведае, што такое «кеты»? У нас так кеды называюць – універсальны абутак, у якім хоць у оперу, хоць на фізкультуру.)

І стаіць гэтая карцінка перад вачыма. Цёплы вечар. Васька з заплюшчанымі ад задавальнення вачыма. Вішталеў енк: «А ў чым я на танцы пайду?!» І цётка Вара з сенцаў: «А ты, Віць, галошыкі ўсторкні (ці ўсторні?)» Вось так і абышліся тым вечарам танцы без Вішталя. Сумна трошкі было, але нічога. А потым мы заснулі. Я – на другім паверсе хлеўчука, на сене з мышамі, Васька – на першым. Мне снілася суседская Маня, Ваську, напэўна, – бацька Махно.

Я калі ў мэтах аздараўлення галадую (бывае такое, бывае), дык перачытваю «Вёску» Андрэя Федарэнкі. Там месцамі так слаўна пра салёныя грузды і гуркі, пра смажаніну і бульбу з кропам, пра сала і сырыя яйкі! Перад сном перагледзеў – нібыта падсілкаваўся. Я Андрэю пра гэта неяк распавёў. «Я пра такі гастранамічны падыход да сваёй творчасці ўпершыню чую», – сказаў ён. Напэўна, пакрыўдзіўся.

Пра жыццёвы мінімум дзеля духоўнага максімуму. Ты мужык і найперш адказваеш за тое, каб за тваёй душой быў хаця б які кажух, крысом якога ты мог бы ў начную халадэчу накрыць усіх блізкіх (няхай спакойна сапуць) і сядзець без сну, паліць і ўглядацца за бліжэйшыя балоты (дзе там наша слаўнае мінулае?)

ды радавацца таму, што пад кажухом гэтым яшчэ дастаткова месца для ўнукаў і праўнукаў; адна бяда – тытуню засталося мала.

Генадзь Ісакавіч Лапацін, трэба сказаць, – даволі нудны чалавек. Доўга абдумвае сваё пытанне, доўга абдумвае ваш адказ. Нават калі ён яшчэ не прагучаў. Лекцыі гэтага чалавека друкуюцца ў зборніках Сарбоны (ці Оксфарда?), але ён не надта любіць пра гэта распавядаць. Ён увогуле не расказчык. Уважліва слухаць людзей – частка яго прафесіі. Прафесія Лапаціна – гэта ўсё ягонае жыццё. «У мяне ёсць работа, – любіць ён паўтараць. – І я яе раблю». Падаецца, з аднолькавай годнасцю гэты чалавек змешваў бы аптэчныя парашкі дзе-небудзь у Мар'інай Горцы ці ўкладваў бы шпалы дзе-небудзь за Бешанковічамі.

Генадзь Ісакавіч Лапацін – супрацоўнік Веткаўскага музея. Ладзіць экскурсіі (дзятва на ім літаральна вісіць), ездзіць у камандзіроўкі. Галоўны аб'ект абследаванняў – бабулькі, іх мова, песня, абрад, маральны закон, стаўленне да Жыцця і Смерці, да Кахання і Любові... Словам, усё тое, што прынята называць светапоглядам на светабудову. Кожная такая бабуля – планета. А такіх бабулек – дзясяткі. І кожная выказвае яму самае патаемнае, усё тое, пра што побач з іншым яна нават падумаць пабаялася б. А ён проста ўмее слухаць. Уменне, узведзенае ў ранг мастацтва. На сёння ён носьбіт велізарнага аб'ёму самых розных замоў (у тым ліку і не вельмі добрых), але язык не падымаецца назваць яго знахарам. Знахары вершаў не пішуць. А таленавіты ва ўсім Генадзь Ісакавіч Лапацін піша. Не, хлушу. Ён іх не піша, а зрывае, як яблыкі ў таямнічых старасвецкіх садах роднай Веткі. Вось антонаўка, у лістоце якой жывуць беларускамоўныя радкі. А вось малінаўка, што пладаносіць па-руску. Садоўнік радуецца, Гена – таксама.

Бабулькі кормяць яго з рукі, пастаянна сочаць за тым, каб вочы ў музейшчыка заўжды блішчэлі ў чаканні чарговай знаходкі. Так даглядаюць за экзатычнай птушкай, якая не размнажаецца ў няволі. Добрага вам палёту, Генадзь Ісакавіч Лапацін.

І зноў пра маміну вёску Купрэеўку, якой няма ўжо на свеце.

У суботу дзядзька Ілля ехаў на «лісапеце» з фермы, заўважыў, што крама адчынена, і купіў 0,5 яблычнага. Сеў на сонечны муражок і, як сам любіў казаць, рассуропіўся. А тут (хто яго чакаў!) Міхась Канцавы таксама на падпітку. Не любілі яны адзін аднога. Слова за слова – даў Мішка Іллю кухталя. Без дай прычыны. Крыўдна! Ціхенька заплакаў Ілля і дахаты пашыбаваў, трымаючыся за «велік».

Тым часам, адмахаўшы ад Веткі пяць км пешкі, у Купрэеўку ўваходзіў Грышук, малодшы сын Іллі, што вучыўся ў Гомелі на машыніста цеплавоза. Паколькі нейкім невядомым чынам навіны па вёсцы распаўсюджваюцца імгненна, дык Грышуку (ён яшчэ і да крамы не дабраўся) адразу даклалі, хто бацьку пакрыўдзіў. Грышук, нядаўні дэсантнік, змяніў маршрут, знайшоў Міхася і хвілінаў дзесяць вучыў яго добрым манерам.

Тым часам з Гомеля ў Купрэеўку ехаў на сваім «гарбатым» «Запарожцы» (больш падрабязней пра гэтае славутае аўто я ў наступны раз распавяду) Вішталь, сярэдні сын Іллі, які служыў сяржантам міліцыі. Яшчэ ў Ветцы яму паведамілі, што здарылася з бацькам. Вішталь збочыў з маршруту, ледзь не задушыў Міхася, грымнуў дзверцай і хвілінаў дзесяць вучыў недарэку, як аднавяскоўцаў паважаць варта.

Тым часам з Веткі ў Купрэеўку ляцеў на службовай «Волзе» (вазіў дырэктара аўтабазы) Валодзя, старэйшы сын Іллі. Пра інцыдэнт яму патэлефанавалі. Таму ён адразу кінуўся на пошукі Міхася. Знайсці яго было нескладана: твар нябогі свяціўся ўсімі колерамі вясёлкі. Хвілінаў дзесяць Валодзя вучыў Мішку, як свет любіць. Прыкладна з таго часу Міхась пачаў на Іллю маліцца.

А што хлопцы? Заехалі разам у краму, потым скіраваліся да бацькі. Трохі прысаромілі ды разам за стол селі. А лазня ўжо гатовая была...

Нічога не прыдумаў. Усё так і было.

Аднойчы Данута Бічэль раздражнёна запыталася па тэлефоне: «І адкуль ты, Рагін, усплыў?» Не думаю, што маё «ўсплыццё» прынесла дыскамфорт тым, хто ўсплыў некалькі раней. Разумею, што і пытанне было ў нейкай ступні рытарычным. Але карціць адказаць. Мо самому сабе? Сапраўды, адкуль, як і навошта? Бо нават і не марыў. І мэты не ставіў стаць сталічным публіцыстам. Так абставіны скláліся. У маім жыцці дзяньгуба заўжды так, а не інакш...

Спачатку пра «ўсплыў». Чалавек, які вырас на Сажы, можа толькі *выплыць*. Што я і зрабіў, ратуючыся ад цэзію ды стронцыю: выплыў у мінскай Свіслачы, маючы за душой жонку, двух сыноў, дзесяцігадовы журналісцкі стаж і рэкамендацыю Віці Стрыжака да Толі Зэкава, каб той узяў мяне ў «Добры вечар». Але ні я не быў д'Артаньянам, ні Зэкаў – дэ Трэвілем. Толя, без ніякіх там «мерсі», адказаў прыкладна так: у іх саміх такіх, як я, хоць у баразну замест гною. Перспектыва не радавала. Я выказаў гэтаму гораду ўсё, што я пра яго думаў і, згадаўшы пра наяўнасць філалагічнага дыплома, знік на шэсць гадоў у школе.

О, як зацягвае гэтае сярэднеадукацыйнае цёплае балота! У выніку напісаў некалькі эсэ пра настаўніцкае жыццё і быццё перасяленцаў. За што і быў прытуленым пад слаўным «лімаўскім» скрыдлом. У штат мяне браў намеснік галоўнага рэдактара Барыс Пятровіч. Галоўны рэдактар Уладзімір Някляеў быў не супраць: «Рагін! Ну што ты сташ там, як Рагін? Ідзі і пішы, як Рагін!» Падкасаўшы штаны, раблю гэта і па сёння. Абраў для сябе адну з лепшых у краіне рэдакцый. Пішу, вандрую, здзіўляюся.

І ўвогуле плаваю цяпер на спіне, без асаблівых напружанняў і хваляванняў, палю пры гэтым дамініканскія сігары (сыны падвозяць), гляджу на мудрагелістыя беларускія аблокі на бяздонным беларускім небе і пачуваю сябе не менш як дырэктарам Мінскага мора. Здалёк нагадваю выспачку з вялікім курганам і вулканам, што перыядычна пыхкае. Час ад часу падплываюць з каньяком бландзінкі з шатэнкамі. Я – не супраць. Я ўвогуле прызвычаіўся слухацца маладых і ў іх жа вучыцца. Неяк геніяльны Сяргей Трафілаў, не старэйшы за майго старэйшага, зазначыў: «Не стрымлівайце сябе!» Я, наскрозь савецкі, паспрабаваў і цяпер знаходжуся ў стане ці не пастаяннага творчага шчасця. Але час ад часу, азірдваючыся ў пошуках калег-равеснікаў, пачуваю сябе ці не апошнім папяровым салдатам папяровай арміі СМІ. «А ён на нітачцы вісеў, бо быў ён папяровым...» Танчэе нітачка, танчэе...

Што я яшчэ зразумеў, пакуль выплываў? Што горад нельга паставіць на калені. Каб не пракаўтнуў, з ім можна толькі пасябраваць.

Што творца абавязаны пастаянна акрэсліваць прасторы сваёй адзіноты. Чым яна шырэйшая, тым больш шанцаў не нашкодзіць у думках, словах, тэкстах тым, хто цябе любіць. І наяўнасць кахання – умова абавязковая. Я разумею, цяжка, амаль невыканальна. Калі стаміліся кахаць самі, зрабіце так, каб кахалі вас. Сапраўднае пачуццё прадухіледжвае крыху эгаістычнага цынізму....

Карацей, я даплыў да стану поўнай духоўнай раўнавагі. Маўклівасці стала больш, жаданняў – менш, хоць «Залаты Апостраф» і не зашкодзіў бы. Дзе мае сігары?

Што гэта так нахабна выплыла з-за буйка і пачало імкліва рассякаць хвалю. Хто гэта? Я! І, заўважце, ніякіх бурбалак.



Ірына Саматой



...птушкі –

складнікі нашага свету...

# Праз прызму мінулага

***Ян Чыквін. Трохкрылыя птушкі. – Беласток: PRYMAT, 2018. – (Бібліятэка беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Кніга 106). – 188 с.***

Добра вядомы беларускаму і заходнееўрапейскаму чытачу як паэт, перакладчык, літаратуразнаўца Ян Чыквін сабраў пад зеленаватай вокладкай новай кнігі лепшыя ўзоры сваёй лірыка-філасофскай прозы. У прадмове да паэтычнага зборніка Яна Чыквіна "Неспакой" Сакрат Яновіч заўважыў: "Чыквін – паэт задуменняў. Паэт пытанняў. Лірык інтэлекту" [3, с. 3]. Гэтыя словы ў поўнай меры адносяцца і да прозы аўтара, аб'яднанай у тры раздзелы, пад назвамі "Калі свет быў яшчэ малады", "Трохкрылыя птушкі", "Няскончанае маўчанне". Па-мастацку тонка і пераканальна пісьменнік падае зрэз жыцця пасляваеннай вёскі на беларуска-польскім памежжы праз дзіцячыя ўспаміны ў апавяданнях-гісторыях першага раздзела. Як правіла, гэта дыялогі аўтара з самім сабой, сваім мінулым.

Першае апавяданне "Кніга ў зеленаватых вокладках" уводзіць чытача ў свет дзіцячых мар, каштоўнасцяў, таямніцаў.




Менавіта тоўстая зеленаватая кніга з бібліятэкі хроснага бацькі Дзям'яна стала для лірычнага героя-дзіцяці своеасаблівым імпрэсінгам, штуршком да мастацкай творчасці, крокам да самапазнання, духоўным арыенцірам. А таксама прычынай сваркі з лепшым сябрам і ўчыненым дзіцячым "злачынствам" – выкраданнем і продажам кнігі.

Успамінамі пра вясковы парадак, хатнюю цішыню, матчыну пяшчоту, жартаўніка дзядзьку Івана прасякнута апавяданне "Грышук". З гумарам аўтар расказвае пра сяброўства хлопчык з сабакам, які меў чалавечае імя Грышка. Псіхалагічна пераканальна раскрыты ўнутраны свет падлетка, яго эмоцыі, матывы ўчынкаў, а таксама разуменне і ацэнка адносінаў людзей.

Карціна першага пасляваеннага лета з кантрастнымі мастацкімі дэталямі (вяскова-палявая цішыня – салодка-млявая пахучасць травы – скапаная акопамі зямля, спакойнае неба – магіла салдата ў двары) выразна пададзена ў апавяданні "Хлопцы". Аўтар расказвае пра дзяцінства сваіх аднагодкаў, якіх вайна зрабіла не па гадах дарослымі, пра іх гульні і эксперыменты з небяспечнымі "цацкамі" – кулямі і снарадамі. Адзін з такіх выпадкаў ледзь не прывёў да гібелі чалавека. Ян Чыквін як мастак-псіхолаг падводзіць чытача да думкі, што неўтаймаваная прага жыцця часта прыводзіць да трагічных наступстваў.

Апавяданні "Вяселле" і "Доля і Мара", дастаткова напружаныя і дынамічныя па сваім змесце, пабудаваныя на праўдзіва-драматычных гісторыях тамтэйшых мястэчак і вёсак. У першым пісьменнік паспяхова развівае думку пра тое, што радасць і смутак, жыццё і смерць заўсёды ідуць побач. Апісваецца прываблівая для чытача сітуацыя: Яначкавыя збіраюцца жаніць свайго адзінага сына Васіля на "басаногай жамчужынцы" Мані з суседняй вёскі. Лірычныя перажыванні, каханне маладых цесна звязаны з прыродай, якая жыве прадчуваннем непапраўнага: "Дні стаялі яшчэ па-летняму расхістана цёплыя. Аднак па белых аблачынках на ўсё яшчэ высокім небе ды апусцелых і ўчарнелых доўгіх палетках сенажацяў, вытаптаных і парэзаных коламі вазоў, бачна было, як з чатырох бакоў свету цягнецца сюды са сваім табарам восень" [2, с. 35]. Не прымушаюць сябе чакаць і драматычныя падзеі: трапіў у глыбокую водаяміну і не выплыў сын суседа Мікалая – Грышка, які разам з братам лавіў рыбу на вяселле. У адной хаце спявалі "Многія лета", у другой – галасілі над нябожчыкам. "Чужая бяда яна ж іхняя, не наша, казалі старэйшыя, падтрымліваючыі сябе і малодшых па духу" [2, с. 43]. Трагічны фінал апавядання: праз год тая ж рака забрала да сябе і Васіля, які хацеў налавіць рыбкі для цяжарнай Мані.

У апавяданні з сімалічнай назвай "Доля і Мара" праз прызму бачання персанажа аўтар спрабуе патлумачыць: "Хто ж такі і калі паварочвае сцежкі чалавечага жыццейка?" [2, с. 46] Дзве сястры Аўдолія (Доля) і Марфа (Мара) раслі ў сям'і вясковых інтэлігентаў разумнымі і здаровымі, ў шчырасці і любові. Пісьменнік адзначае, што драматычны паварот ў іх жыцці пачаўся пасля таго, як яны выйшлі замуж за братоў Дзёмку і Паню Тамашуковых. Іх род, як цішком гаварылі вяскоўцы, славіўся гаспадарлівасцю і маёмаснасцю, нажытай драпежніцтвам і забойствамі. Мастацкая дэталь, якая спрыяе ўнутрытэкставай напружанасці і падкрэслівае культ смерці ў доме – малюнак Гальбана "Мёртвы Хрыстос" у чорнай раме. У час вайны з немцамі Доля стала сведкай таго, як яе муж Дзямід застрэліў роднага брата Паўла, а пазней і свайго сына Івана. Зайздрасць, нянавісць, гвалтаванне сталі нормай жыцця персанажа. У гэтым творы пісьменнік робіць наступныя высновы: чалавеку, які прагна ўзіраецца ў смерць,

наканавана пагібель. І, на жаль ці на шчасце, нам не дадзена даведацца, што нас чакае, прадбачыць метамарфозы ўласнага лёсу.

Матыў помсты і прабачэння мае псіхалагічна-эмацыйны змест у апавяданні “Жыццё пачынаецца нанава”. Як і ў папярэдніх творах перад чытачом – мастацкія замалёўкі з жыцця вёскі ў даваенны і пасляваенны час. “Шчасцем у гэтых мясцінах не хваліліся. Адвучыла вайна” [2, с. 64]. Сям’я Даркі і Сцяпана, як і многія з іх суседзяў, жывуць чаканнем, з незагоенай душэўнай ранай – дочкі Аня і Верка вывезены ў Нямеччыну. Паспрыяў гэтаму траюрадны брат Сцяпана, нямецкі солтыс Саўка. Аўтар паказвае, як паступова нараджалася і выспявала ў душы Сцяпана прага помсты: падпільнаваць, забіць, падпаліць хату злыдня. Перажыванні героя носяць дынамічны характар і толькі неадступная памяркоўнасць жонкі і вяртанне дачок з палону сталі паваротнымі падзеямі, якія ўратавалі Сцяпана ад злачынства і прывялі да даравання. Пісьменнік спрабуе спасцігнуць чужую свядомасць праз стасункі з прыродай: яркая карціна жытнёвага поля, калі ўсё жывое “бясслоўна гамоніць паміж сабой, паўтараючы пасля кожнага свайго ўдыху і выдыху, нясконччаны запеў: жыць – жаць, жыць – жаць...” [2, с. 79], спавольненая жаўруковая кантылена ў блакіце неба, турліканне перапёлак сярод бяскрайніх сенажацяў, небаязлівы бусел, які “ціха, без шуму ляціць на сваё кубло” [2, с. 76]. Аўтар стварае знарок запаволеныя пейзажныя малюнкі, падцвярджаючы, што вайна, неспакой, душэўныя пакуты людзей закончыліся.

У малюнках і вобразах, створаных творчым уяўленнем Я. Чыквіна моцная рэалістычная аснова, адчуваецца добрае веданне жыцця, аднак ён заўсёды імкнецца ўбачыць унутраны сэнс таго, што адбываецца, ускладаючы вялікія надзеі на падтэкст, сімволіку, алегорыю, часта выкарыстоўваючы прыёмы ўмоўнага пісьма.

Лірычныя мініяцюры, паэтычныя навелы, замалёўкі, якія адлюстроўваюць рэфлексію асобы ў імкненні спасцігнуць загадкі быцця, асэнсаваць феномены вечнасці, глыбокі роздум над прызначэннем чалавека на зямлі, складаюць змест другога раздзела “Трохкрылыя птушкі”. Аўтар паказвае бачанае з вышыні пражытага, адкуль самае важнае, істотнае напаўняецца шматлікім сэнсам. Часам ва ўласна-аўтарскія разважанні ўводзяцца выказванні літаратурных класікаў А. Маруа, Ф. Дастаеўскага, А. Пушкіна, І. Тургенева, Дж. Байрана, Я. Івашкевіча. Зварот да іх спадчыны робіцца з мэтай правесці пэўныя вобразныя паралелі, падкрэсліць ідэю немагчымасці размежаваць час і прастору. Словы Ёгана Вольфганга Гётэ: “Мы многа, вельмі многа рыхтуемся да жыцця і не маем часу на жыццё” [2, с. 107] сугучныя аўтарскім роздумам і развагам.

Медытатыўны характар малой прозы Я. Чыквіна вызначаецца пастаянным зваротам аўтара да мінулага (дзяцінства, час вучобы) і паглыбненнем ва ўласны свет. Шчымліва-светлае адчуванне ад наведвання Нікольскага сабора, невытлумачальная глыбіня малітваў у выкананні хора напоўнілі на той час адзінокую душу аўтара: “Я ўнутрана выплакаўся перад вялікасцю духа, ва ўсёабдымным царкоўным аксамітным меласе” [2, с. 99]. Позірк лірычнага героя нечакана выхоплівае ў шматлюдным аўтобусе воблік дзіўнай незнаёмкі, які прыводзіць за сабой у Ісакіеўскі сабор, а потым становіцца на доўгі час “напамінам-перасцярогай аб нечым, ці, можа, ніколі недасягальным для мяне, непаўторным шчасцем, якое здараецца аднойчы на ўсё жыццё ў струменным нашым быцці – нечым хвілінным, няўлоўным, непаўторным” [2, с. 96].

Малая проза мастака слова прасякнута вершаванымі інтанацыямі. Гэта, перш за ўсё, спавядальная шчырасць аўтара, блізкая лірычнаму герою, лексіка-сінтаксічная арганізацыя тэксту (шматлікія тропы, стылістычныя фігуры) і, безумоўна, рытм. Частыя паўторы слоў “адчуваю”, “помню”, “успамінаецца”, “сустракаю”, “загледзеўся”, “у тую хвіліну” ствараюць асаблівы рытм, архітэктоніку тэксту, надаюць яму пэўны інтанацыйна-сэнсавы код. У большасці паэтычных навел

Яна Чыквіна рытм складваецца з апавядальнай сюжэтнай часткі, якая паступова пераходзіць ва ўспаміны або лірычныя адступленні аўтара. Паяднанне думкі і пачуцця выліваецца ў афарыстычныя выказванні: “Цішыня, як нябачная сцяна, вяртае нам рэха нашых патаемных думак” [2, с. 110], “Чым большая птушка, тым горш спявае” [2, с. 110], “Пра некаторыя чалавечыя праўды даведваемся, калі ўжо, аднак, няма руху назад” [2, с. 130], “Галава з’яўляецца найбольш кансерватыўнай часткай чалавека” [2, с. 113], “Хто здалёку ад чалавечай мітусні – мае пачуццё працягласці часу і датыкання вечнасці” [2, с. 130]. Думка не ляжыць на паверхні, а вынікае з глыбіні душэўнага вопыту, асабістых перажыванняў аўтара.

“Няскончанае маўчанне” – назва трэцяга раздзела празаічнага зборніка, у які ўвайшлі апавяданні, пазначаныя экзістэнцыялісцкім ўспрыманнем рэчаіснасці. Абумоўлена гэта часам нараджэння аўтара (пакаленне дзяцей вайны), калі “нашы мацеры паўтаралі адзінаццатую запаведзь: “Не памірай!” [2, с. 170], а таксама інтэлектуальным перажываннем, якое выклікана ростам адчужэння чалавека ад духоўных прадуктаў сваёй дзейнасці. Значны ўплыў на творчасць Яна Чыквіна, як зазначаў літаратуразнаўца У. Конан, аказалі менавіта філосафы-экзістэнцыяналісты М. Хайдэгер, Ж.-П. Сартр. Бездапаможнае жыццё чалавека, абмежаванасць яго магчымасцей, абсурднасць існавання востра прадстаўлена ў апавяданні “Гальштук Шэкспіра”. Галоўны герой, студэнт трэцяга курса тэатральнага вучылішча, па волі бацькі выбраў прафесію, адарваўся ад роднай глебы, прагне ўцячы з неабжытага горада. “Хопіць, хопіць, – паўтараў сабе ў думках, – хопіць мучыць сябе, калі ты пайшоў не той дарогаю, калі супраць прыроды!” [2, с. 140] Адсюль – яго разлад са светам, сацыяльная адчужанасць, немагчымасць прыняць грамадства, якое існуе, з аднаго боку, і быць зразумелым яму, з другога. Трагічны фінал твора – звар’яцелы бацька абрывае жыццё сына, не прыняўшы яго вяртанне.

Звяртаючыся да мінулага, характарызуючы ўласныя адчуванні і людское існаванне аўтар ужывае экзістэнцыйныя тэрміны “адзінота”, “трывога”, “шкадоба”, “пустата” (апавяданні “Гасціная”, “Незнаёмец”, “Несмяротны”, “Падарожжа”). Апавяданне “Ненапісанае” прыадчыняе дзверы аўтарскай творчай лабараторыі, знаёміць чытача “з блізкім, кроўна пражытым, заўсёдна зменлівым, калыхлівым маім унутраным творам, які жыў ува мне сваім жыццём і жыў са мною, які доўгімі гадзінамі трымаў на сабе ўсю маю ўвагу” [2, с. 168].

Чалавек, у паказе пісьменніка, асуджаны на няскончанае маўчанне, гэта значыць на гульню са смерцю. Такім “пасланцом смярцюхі”, “сімпатычным гадзюкам” [2, с. 184] у апавяданні “Няскончанае маўчанне” з’яўляецца былы контрразведчык, работнік камітэта цэнзуры, пазней тэхнар на філалагічным факультэце Фелікс. Галоўны герой, малады выкладчык, гуляючы з Феліксам у шахматы, выпадкова даведваецца, што цэнзар не пусціў у друк яго зборнік прозы, прыкрываючыся разгулам нацмэнаў у краіне. У гульні Фелікс імкнуўся прыхаваць сваю сутнасць, замаскіраваць свае пачуцці, а на самой справе жорстка распраўляўся з людзьмі, дабіваў іх.

Вядомы літаратуразнаўца У. Калеснік, характаразуючы творчасць беластоцкага аўтара, слушна заўважыў: “Фантазія ў Яна Чыквіна не простая, чытаць яго вобразы часам даводзіцца з напругай, а часам і пакідаць фрагменты неразгаданага падтэксту. Але, нягледзячы на ўскладнёную чытальнасць, а, можа, і дзякуючы ёй, чытача агортвае адчуванне велічнасці лёсу чалавека і фатальнага трагізму пражывання адпушчанага яму часу” [1, с. 14].

Для лірыка-філасофскія апавяданняў Яна Чыквіна, з незвычайным вобразам трохкрылых птушак уласціва элегічная танальнасць, антынамічнасць светабачання, інтэлектуальны трагізм, часам экзістэнцыялісцкае ўспрыманне рэчаіснасці. У адным са сваіх лістоў да аўтара артыкула пісьменнік заўважыў: “Птушкі – складнікі нашага свету. Падсвядома мы ім зайздросцім: яны ўмеюць лётаць! У іх

месіціца нешта няўлоўнае для чалавека. А ў палёце, асабліва калі, скажам, галубы ўзлятаюць, набіраюць разгон, яны зверху, над сабою ляскаюць крыламі – а для чалавечага вока ў такі момант здаецца, што над голубам з'яўляецца трэцяе крыло. І ў чалавечым, нашым жыцці таксам ж шмат няўлоўнага".

Зборнік прозы "Трохкрылыя птушкі" якраз пра тыя моманты ў нашым жыцці, якія нябачныя, невымоўныя, невытлумачальныя.

Спіс літаратуры:

1. Калеснік, У. Два светы Яна Чыквіна / У. Калеснік // Сляза пякучая Айчыны: Творчы партрэт Яна Чыквіна. – Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". – 2000. – С. 12 – 41.
2. Чыквін, Я. Трохкрылыя птушкі / Я. Чыквін. – Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". – 2018. – 186 с.
3. Яновіч, С. Неспакой творчасці / С. Яновіч // Чыквін Я. Неспакой. – Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". – 1977. – С. 2.



Леанід Галубовіч



...кожны творца піша свой запавет
з першага занатаванага сказа...

# Ад сузірання да празорлівасці

***Леанід Галубовіч. Сузіральнік. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; вып. 25). – 144 с.***

Калі пішаш пра творчасць Андрэя Федарэнкі, чамусьці заўсёды прыходзіць на розум адна думка. Пра літаратурную пераемнасць. Хутчэй за ўсё з-за таго, што мне не дае спакою вострае адчуванне крызы ў сучасным літаратурным працэсе, злому і парушэння традыцыі. Яшчэ У. Шэкспір сказаў у "Гамлеце":

Век вывіхнуўся. О пракляты лёс,
Навошта ты мяне сюды прынёс...

А гэта значыць, што адчуванне падобнай з'явы ўласціва амаль кожнай чалавечай эпосе. І нельга казаць, што Федарэнка спрабуе звязаць тыя самыя парушаныя пакаленчатыя (*пакалечаныя?*) сувязі. На гэтую ролю, як на мае глузды, больш пасуюць творчыя і чалавечыя асобы А. Разанава і А. Глобуса, якія падцягваюць для магчымай звязкі абарваныя канцы паміж старэйшымі і малодшымі літаратарамі... Аднак і Андрэй Федарэнка задумваецца над тым, *"адкуль бярэцца, адкуль узнікае*

*гэтая нябачная духоўная сувязь паміж самымі рознымі літаратарамі, аддаленымі адзін ад аднаго пакаленнямі, стагоддзямі – у часе, і тысячамі дзясяткамі тысяч кіламетраў – у прасторы? Няўжо праўда, што існуе нейкае пятае вымярэнне, дзе думкі могуць матэрыялізоўвацца і жыць самі па сабе, незалежна ад таго, хто іх спарадзіў?"*




І ўсё ж па сённяшнім часе ў нашай літаратуры (прозе, прынамсі) А. Федарэнка як бы па-над усім, – непарушнае статус-кво, пэўная і нязменная велічыня. Найперш мастацкая, бо праяў асабістага характару гэты пісьменнік на публіку стараецца не выносіць, і не заўважна, каб збіраўся гэта рабіць у будучым. Творчасць ёсць конам яго жыцця. Таму, набываючы новую кніжку Андрэя Федарэнкі, ты як бы застрахаваны ад памылкі. Ты ўпэўнены, што пісьменнік цябе не падмане і гэтым разам. Гэта ўжо такі набыты літаратурны імідж, які спараджае адпаведны чытацкі давер. Не кожнаму дадзена. І гэта пры тым, што Федарэнка не запабягаў ні перад мікрафонам, ні перад дыктафонамі журналістаў, ні перад клавіятурнымі пёрамі крытыкаў, не займаўся рэкламным піярам у сацсетках. Так склалася лёсава. Талент. Бог даў. Яму і забіраць, калі што. Як хочаце, так і міркуйце. Дык чым жа нас (мяне найперш) прываблівае пісьменнік? Скажу без напругі, так, як думаю. Чытаючы мастацкую прозу А. Федарэнкі, адчуваеш прымірэнне з акаляючым светам, паступова падладжваешся пад яго творчую задуму (ідэю) і разам з тым наладжваеш гармонію ва ўласнай душы. Не тое што ты пагаджаешся з усімі высновамі канкрэтнага твора (героя, дзеяння), але ўжо не хочаш пярэчыць ходу таго – натуральнага – жыцця, якое ўсё больш нагадвае асобныя праявы твайго ўласнага. Я думаю, ужо гадоў дваццаць не было ў друку крытычных матэрыялаў пра кнігі і асобныя творы Федарэнкі (так, былі спрэчкі і канструктыўная палеміка вакол рамана "Нічые", аповесцяў "Рэвізія" і "Вёска"). У літаратурным асяродку замацаваўся нават такі вызначальна-вартасны цэнз адносна гэтага пісьменніка – мэтр альбо, іначай кажучы, жывы класік. І гэта не перабольшванне і не схаваная іронія, а канстатацыя літаратурнага факта. Не, Федарэнка – не Флабэр, каб атаясамліваць сябе са сваімі героямі, але ў кожным з іх (ці то станоўчым, ці адмоўным) закладзены яго *спадчынны стваральны ген*, які засцерагае іх ад фізічнай, маральнай і нацыянальна-духоўнай разбуральнасці. Як я заўважаў вышэй, Андрэй Федарэнка – асоба, наглуха закрытая знешне. Гэта індывід, які па сутнасці раскрываецца ўнутры сябе, не выплёскваючы вонкі ўласных адчуванняў да гэтага свету. Свайго чытача ён вывярае таксама па сабе, але не аддае сябе на яго патрэбы, не ідзе за ягонымі інстынктамі і пажадамі, а сам спрабуе весці альбо скіроўваць яго на пакручастай жыццёвай сцежцы, адначасна давяраючы яму, як сабе, і пакідаючы яму магчымасць і права кіравацца ўласнаю воляй. Іншым разам здаецца, што Федарэнку, як аўтару, не хапае ўладнага валявога характару, бо амаль ніводзін галоўны герой яго твораў не становіцца, у рэшце рэшт, пераможцам ці трыумфатарам (і ў прыватных, і ў грамадскіх рэаліях). Усе яны (героі) пакідаюцца аўтарам перад няясным даляглядам будучага...

Калі мы сцвярджаем, што А. Федарэнка апошні з магікан тых нашых сучасных творцаў, хто годна і нязмушана працягвае традыцыі беларускай нацыянальнай літаратуры, то чым тое адметна? Чысцінёй стылю (адгукаецца вучоба ў Л. Талстога, А. Чэхава, І. Буніна, а таксама ў нашых – К. Чорнага, Я. Скрыгана, В. Адамчыка і ў некаторай ступені ў таго ж І. Пташнікава, з якім ён доўгі час працаваў поруч у часопісе "Полымя"). І гэты стыль чыста беларускі, якраз той, што адпавядае ўкладу і ладу жыцця беларускай нацыі. Чытаючы Федарэнку, роўна і свабодна дыхаецца і думаецца на ўсёй пространі твора. Мы, чытачы, як бы давяраемся яму

ад пачатку расповеду і далей усё больш упэўніваемся ў выверанасці таго шляху, якім ён нас вядзе ўслед за сваімі героямі. Адпаведныя і дыялогі, і самі вобразы, надзеленыя неад'емнай беларускай ментальнасцю, якія па часе могуць змяняцца і напаўняцца новым зместам і формаю. Тое ж тычыцца і мовы. Яна, можна сказаць, празрыстая і чыстая, як крынічная вада, у якой (без асаблівай неабходнасці), няма дамешку ў выглядзе русізмаў, паланізмаў, а ўжо тым больш хадавых англамоўных выразаў, якія сёння паўсюдна, бы паліцэйскія патрулі, суправаджаюць тэксты маладзейшых літаратараў. Зрэшты, калі гаварыць больш грунтоўна і канкрэтна, то трэба сказаць, што менавіта з моўнага пытання, як з каменя спатыкнення, Андрэй Федарэнка як пісьменнік пэўным чынам і пачаўся. Дамагаючыся моўнай пэўнасці і дакладнасці і, калі хочаце, першабытнасці, непарыўнасці з вуснай гаворкаю яе жывых тубыльцаў. Ужо ў дэбютным маладосцеўскім зборніку "Гісторыя хваробы" адчуваліся расткі непрыхаванага моўнага "фанатызму" пісьменніка, у добрым сэнсе слова. Ну а тым, хто глыбока зацікаўлены *моўнай* творчасцю пісьменніка, можна параіць звярнуцца найперш да яго настольных запісаў і эсэ, што друкаваліся пад агульнай назваю "Сечка", не прамінуўшы і гэты фрагмент, дзе размова вядзецца пра слова *лапідарнасць*, што было недарэчна ўжыта неназваным аўтарам у некралогу па А. Пісьмянкову: *"Хай лепш я застануся невукам, хай буду давяраць дзіцячай асацыятыўнасці і сваім эмоцыям, чым цвярозаму сэнсу, – але гэтае слова я ніколі не палюблю. І яно не павінна стаяць ні ў некралогу на майго сябра, ні ў будучым некралогу на мяне"*. Цяпер вы можаце зразумець стаўленне А. Федарэнкі да роднай (і не роднай) мовы.

Нельга не адзначыць і *натуральныя* сюжэтныя хады, і не паказную працу творчага інтэлекта пісьменніка, які, дарэчы, любіць гуляць у шахматы і валодае гэтым гульнявым майстэрствам на добротным узроўні (тут падсвядома згадваецца яго колішні аповед "Цугцванг"). Ці не адсюль тонкія, завуаляваныя наперад сюжэтныя хады і адмысловыя камбінацыі, хоць вядома, што Федарэнка прыхільнік пераважна натуральнага развіцця падзей у сваіх творах.

Але ці не занадта ўжо я разышоўся, намахаўшы на вузкім рэцэнзійным полі амаль творчы партрэт пісьменніка? Прыпынюся...

Зусім нядаўна мы з Андрэем сустрэліся. Пытаюся: *"Што новага пішацца?" "А ў тым то й бяда, Лёнька, што нічога не пішацца **новага**"*, – такім быў яго адказ. Тое, што ён укладваў у слова "новае", дайшло да мяне толькі праз паўзу. Маўляў, не чарговае нешта не пішацца, а не пішацца менавіта *новае*. І раздумаўшыся, можна пагадзіцца. Пры тым не забываючы, што *ўсё новае – гэта добра забытае старое*.

Дык вось, напрыканцы мінулага года выдаў А. Федарэнка кніжку, якая называецца "Сузіральнік". Некалі ён сваю аповесць назваў "Вёска" (у Буніна была "Деревня"), а цяпер у мяне па асацыяцыі выскачыла з памяці аповесць Набокава "Соглядатай". Але тут рознае: "соглядатай" – гэта, можна сказаць, шпіён, выведнік, а ***сузіральнік***, як даводзіць тлумачальны слоўнік беларускай мовы, – чалавек, схільны да сузірання, своеасаблівага паглыблення ў свой духоўны свет. У філосафаў гэта трактуецца як пачуццёвая форма адлюстравання рэчаіснасці ў свядомасці чалавека. Як бачым, спадар Федарэнка чалавек няпросты і *назіральны*. Хоць шырыня яго мастацкага погляду на акаляючы свет не так аб'ёмная ў часе і прасторы, як заглыбленая ў самую сутнаснасць з'яў і рэалій (людзей, часу, учынкаў, дзей, душэўных і духоўных пертурбацый). Гэтую аповесць, як у нас казалі калісьці, Федарэнка выстарчыў у дзве раты, выдрукаваўшы ў рознай перыёдыцы два апавяданні адной тэматычнай скіраванасці і, у рэшце рэшт, звёўшы іх у адно ў рэцэнзаваным выданні. Расповед вядзецца ад першага імя. Аўтар апынаецца за мяжой, у Берліне, і, разняволена адпачываючы, нязмушана *прыглядваецца да германскага парадку*, міжвольна прыпамінаючы сваё беларускае, правінцыйнае – халоднае, заснежанае, запушчанае... Але як тое напісана,

як натуральна і адмыслова зроблена! Шэдэўр ад жывога класіка беларускай прозы. І гэта не таварыска-крытычны фіміям, а канстатацыя таго, што ёсць. Пра што ў аснове і ў падтэксце? Людзі (*тут*ашнія і *там*ашнія) на могілках у Берліне (дворнік-бежанец) і на кладах у глухой палескай вёсцы на Мазыршчыне (пітушчы і дэмаралізаваны кавалер Валодзя і такая ж яго сужыцелька Таня)... Кантраснае супрацьпастаўленне. На вясковых могілках ляжаць два былыя сябры-аднакласнікі апавядальніка, іх – абодвух! – па збегу дурных абставін забілі *лапатаю*. Жальба непараўнальная, хоць на берлінскіх могілках – сцэнічная ўтульнасць, а на вясковых – неўпарадкаванасць і забытасць. І паміж аўтарам і тым, пра што ён распавядае, не ўзнікае ні разладу, ні адарванасці, хутчэй прасочваецца падтэкставая спроба наладжвання магчымай гармоніі паміж двума светамі (усходнім і заходнім) і двума светапоглядамі. Міжвольны разлад адчуваецца толькі паміж *недамоўленымі* людзьмі, а найперш, у душы канкрэтнага чалавека... Здавалася б, абсалютна спрошчаны метафарычны пасыл. А якія складанасці ў пошуку ісціны, у вызначэнні самога сябе – ***тут***, дзеля таго, каб некалі ты мог, хоць каму, адгукнуцца ***адтуль***...

*"Ніколі не перастану здзіўляцца такім, здавалася б, простым, а на самай справе дзівосным рэчам: у чужым горадзе, на чужой мове нешта папрасіць, разлічыцца чужымі грашыма, і табе, як ні ў чым не бывала, з падзякай, з ветлівай усмешкай імгненна падаюць менавіта тое, што ты і хацеў, – акурат як некалі ў нашым вясковым магазіне падавалі мне "Яблучнэ міцнэ".*

Аўтар як бы няўзнак, без націску, проста па рэчаіснай сітуацыі, намякае чытачу, што не так далёка мы адзін ад аднаго (чалавек Усходу і чалавек Захаду) адышлі: *"Зараз наблізіцца, скажа "хай" ці старамоднае "гутэнтаг"? Папросіць "раўхэн"? Зробіць выгляд, што яго не цікавіць зялёная, да палавіны адпітая пляшка ў маёй руцэ? Вось ён ужо, спадцішка на мяне пазіраючы, перакладае ў левую руку венік і, выціраючы аб штаны правую, з сарамлівай, вінаватай, як у Танінага Валодзі, усмешкаю падыходзіць да мяне".*

Праўда, кніга пачынаецца з аповесці "Ксю" – пра першае каханне і выжыванне ў сучасных умовах адносна маладога вясковага чалавека – прадзіранне яшчэ сям-там захаваных парасткаў сумленнасці, чысціні, цнатлівасці і любові праз амаральны прагматызм і цынічна-вульгарны налёт сённяшняга часу... *"Вёсачка іхняя зусім занядбалая, нават дачнікі чамусьці не хацелі тут сяліцца, можа, таму, што зямля запушчаная, і цяжка яе падымаць. Асабліва сумна было зімамі. Не радаваў кампутар з інтэрнэтам, ні плазменны тэлевізар з спадарожнікавай "талеркаю", не было каму званіць па дарагім мабільніку, не чыталася з планшэтніка – толькі кнігі памагалі, і не новыя, а абавязкова старыя, зашмальцаваныя, чытаныя-перачытаныя. Калі ўвечары адарвешся ад пажоўклых, засліненых на ражках старонак і глянеш у вакно – убачыш праз марозную шыбіну прысыпаную снегам паляніцу дроў, ды завіруху, якая пачынаецца на ноч..."* Такі вось бытавы і жыццёвы антураж героя аповесці Дарафея.

Адкуль такая правінцыйная чалавечая натура на пачатку XXI стагоддзя? Федарэнка дае адказ і на гэтае пытанне: *"Яго не цікавілі ні палітычныя, ні эканамічныя, ні сацыяльныя, ні нацыянальныя змены. Недзе ў вялікім свеце ўсё кіпела, бурліла, блыталася, разбураліся старыя дзяржавы і ўзнікалі новыя, ішло вялікае перасяленне народаў, умацоўваліся празрыстыя межы, лёгка падалі паржавелыя "жалезныя заслоны" і нетрывалыя "бетонныя сцены"... Усё абыходзіла яго бокам. Ён ведаў толькі шпалы, рэйкі, малаток ды кастыль. Фізічны час існаваў для яго хіба што ў пераменах года: за зімою прыходзіла вясна, за вясною – лета, ды яшчэ ў намінале купюр, якімі выплачвалі аванс, зарплату, прэміяльныя: спачатку лік ішоў на сотні, потым на тысячы, на мільёны – адсюль* ***стваралася ілюзія руху жыцця*** (вылучэнне маё – *Л.Г.*), *павышэння дабрабыту, нават кар'ернага росту".* І вось на такім хісткім фоне

будзённага правінцыйнага жыцця галоўнага героя вельмі датклíва, амаль класічна выпісваецца рамантычны *раманс* маладога кахання, які паступова пераніцоўваецца ў *элегію...* І хоць аповесць называецца інтрыгоўна і каротка, пры чытанні яе адчуваецца працяжная і ў той жа час прыцягальная шчымліва-лірычная тужлівасць, забавны, чыста федарэнкаўскі голас, што пакідае хіба толькі эфемерную надзею на *хэпі-энд*, бы месячнае святло на арошанай начной сцежцы, па якой, забыўшыся, незаўважна можна сысці, да прыкладу, з вёскі ў горад...

Яшчэ адзін з найбольш вартых твораў кнігі – аповед "Сахалінка". Гэтаму тэксту, на маю думку, больш падыходзіла б назва *сузіральнік*, чым вышэй упомненай аповесці. Менавіта тут вобраз старога пенсіянера Ропата выпісаны як вобраз вартаўніка-назіральніка. Гэткага беларуса, які ўсіх наезджых чужынцаў у роднай ваколіцы называе "збродам", а сам хоча ўсё пра ўсіх ведаць, трымаючы сябе *інкогніта*, хаваючыся за наросплым кустоўем і садовымі дрэвамі ў сваім падворку. На фоне адкрытай усім і ўсяму жанчыны-сахалінкі (таксама пенсіянеркі ўжо, якая прыехала сюды дажываць, у гэтую глухаманную вёску, з чорт ведае якой расейскай далечы), і як адкрываецца напрыканцы, падчас яе заўчаснай і нечаканай смерці, яна, відаць, таксама беларуска па родавай лініі, больш за тое, цёзка па прозвішчу свайго суседа-адзінца Ропата (гэтак было і напісана на яе пахавальным крыжы: "Ропот Анастасия Владимировна"). Што праўда, сам апавядальнік яе нажыты *рускі* характар ні ў чым, апроч п'янкі, не гнобіць-не папракае, больш за тое, адзначае яе адпрыродна шырокую і вольналюбівую чалавечую натуру: *"Кампанейская нават па мерках мясцовага люду, энергічная, яна хутка асвойталася, імгненна перадружылася з такім ж, як сама. (...) Прывыклая да кампаній, адзінока тулялася па двары, а то проста стаяла на адным месцы і пазірала ў далячынь. Вочы сінія, глядзяць не спадылба, не панура, як у тутэйшых сялян, што ад нараджэння да старасці бачаць вакол толькі лес, жывуць сярод абмежаванай дрэвамі прасторы, якая сама па сабе прыгнятае чалавека, – не, Сахалінка глядзела адкрыта, свабодна, нібыта перад ёй распрасціраўся родны акіян, бязмежная сіняя шырыня".* Аднак Ропат староніцца суседкі, не зважаючы на яе настойлівыя запрашэнні да застолляў (яна для яго таксама "зброд", які разбурае яго звычную вясковую бацькаўшчыну). Аднак *збродная* суседка, нечакана-негадана, *пакідае* адзінокаму старому *цёплы* падарунак на доўгую марозную зіму. Пачуўшы пра яе смерць і выйшаўшы да свайго назіральнага спрата, ён, *"праходзячы каля хаты Сахалінкі, запаволіў хаду. Паляніца свежаколатых дроў была складзена перад самым яго плотам, акурат насупраць месца яго засады, нібы нябожчыца ведала, што за ёй сочаць, і хацела закрыць паляніцай сектар агляду. А мо наадварот; мо прадчуваючы, што не пераджыве зіму і гэтыя дровы ёй не спатрэбяцца, знарок папрасіла так блізка скласці, каб яму, яе дзікаватаму дзеду-суседу, лацвей было хадзіць сюды марознай зімою, халоднай парою, карыстацца яе дрывамі і яе дабром успамінаць. Яму ўявілася сцежачка ў снезе, як ён тупае, каб выбраць і прынесці некалькі каштоўных паленцаў".* Калі як чытач я магу дапусціць сабе, што ў падтэксце апавядання закладзеныя і сімвалічныя вобразы Расіі і Беларусі, дык вымалюецца ого якая завуаліраваная карціна нашага сучаснага жыцця...

Найменш мяне кранула апавяданне "Шчасце", яно падалося мне сухавата-статычным у адрозненне ад лепшых твораў А. Федарэнкі. Яно сучаснае і, можна сказаць, залішне выпуклае ў сваёй злабадзённасці адносна цяперашняга літаратурнага і калялітаратурнага працэсу. Незадачлівы муляр-бетоншчык Шаўцоў-Бузук, зрабіўшыся "літаратурным неграм", прапаноўвае псеўда-пісьменніку Міхеевічу банальныя вострасюжэтныя накіды для напісання арыгінальных твораў. І аднойчы той нечакана адвяргае яго паслугу: *"Не трэба. Састарэла. Цяпер у модзе філосаф-адзіночка, які ездзіць па ўсіх краінах, па гатэлях, бухае бясконца сам з сабою і філасофствуе".*

Гэткія фрывольныя намёкі на цяперашнія стасункі маладзейшых пісьменнікаў са светам і літаратурай. Але ж, будзем шчырымі, у маральным і духоўным плане ўсе творы А. Федарэнкі не выпадаюць з падобнай строга класічнай *кансерватыўнай* скіраванасці. Агулам гэты аповед, калі да яго аднесціся як да праграмнага ў супрацьстаўленні мастацтва і маскультуры, не зважаючы на яго пэўную тэматычную актуальнасць і просталінейнасць, усё ж з'яўляецца фактам мастацкай літаратуры.

У завяршальную частку сваёй кнігі пісьменнік уключыў два эсэ. Першае, "Манголія", – успамін пра даўнюю (перабудоўчага часу) вандроўку ў гэтую эканамічна адсталую краіну. Якое ж было здзіўленне аўтара, калі называючы сябе і сваю рэспубліку, ён чуў ад найбольш адукаваных насельнікаў адно і тое ж: *"А, Беларусь? Ніл Гілевіч!"* Уразіла стаўленне маладога тады пісьменніка як да свайго нацыянальнага гонару, так і да чужога. І як бы ў супрацьвагу гэтаму паказаны адносіны да свайго "Отечества" рускага паэта і скараспелага *дэмакрата* Расціслава Смелага (магчыма, прозвішча зменена), які негатыўна адгукаўся пра сваю нацыю, па сутнасці быў русафобам *("Рускія не здатныя на самастойнасць! Архітэктуру сяк-так зляпілі італьянцы, Росі з Растрэлі, мову эфіоп з шатландцам, літаратуру украінец Гогаль-Яноўскі, хімію – яўрэй Мендзялееў, фізіку – Ландаў, філасофію – немцы Гегель з Шапэнгаўэрам, нават рэвалюцыю імпартавалі, прывезлі з Германіі ў запламбаваным вагоне...")*. Сёння пра нашых усходніх суседзяў нешта падобнае можна пачуць хіба што ад закаранелых русафобаў. А Федарэнка ўжо тады думаў пра гэтага Смелага так: *"Калі правакатар, дык надта прымітыўна, калі шчыра ўсё гэта – дык абрыдае, бачыш, што чалавек трохі прыдуркаваты і стараешся хутчэй пазбавіцца ад яго. Запабягаючы наперад, не аднаму мне – усім нам з ім вельмі хутка стала непрыемна, як непрыемна бывае, калі чалавек перагінае палку, плюе ў калодзеж, мацерна гаворыць пра родных бацькоў"*.

Пра самую Манголію, адкрыта скажам, аўтару асабліва не было чаго й пісаць, каб не закрануць гонар непераборлівага ў сваім побыце народа. Таму не дзіўна, што падарожжа ў краіну кумысу скончылася двухлітровай бутэлькай амерыканскага джыну ў інтэрнацыянальнай кампаніі (старой амерыканкі, беларуса, асеціна, малдаваніна і рускага), пасля чаго наш аўтар так і не змог дапісаць чым скончылася тая двухтыднёвая вандроўка па пустэльных месцах былых качэўнікаў, завяршаючы расповед пра яе на шостым дні млоснай раніцай у не надта *зорным* гатэлі Улан-Батара. Пісьменнік прызнаецца: *"Цяпер, калі не прайшло яшчэ і тыдня, мы разумелі, што Манголія перамагла нас. Мы аказаліся не гатовыя да яе нават у якасці турыстаў. Яе стыхія, азіятчына, першабытнасць, разнастайнасць, бяскрайняя вольніца – усё гэта хутка абламала нас, прыцішыла; прыгнечаныя, паніклыя, стомленыя, мы адчувалі, і ў голас казалі, што толькі дзве радасці ёсць у Манголіі: першая – калі сюды патрапляеш, і другая – калі з'язджаеш"*.

Апошнім у кніжцы стаіць творчы і жыццёвы партрэт Івана Пташнікава. Аказваецца, Пташнікаў быў яшчэ больш аўтаномны і закрыты, чым сам Федарэнка. Таму шчыры і паважлівы погляд на літаратурнага класіка з боку маладзейшага калегі, вучня па сутнасці, выклікае непадробную цікавасць. Іван Мікалаевіч выпісаны вельмі рэдкім, нетыповым, глыбока ўкаранелым беларусам, які любіць і захоўвае ў сваім сэрцы і памяці характэрную ментальную сутнасць тутэйшага вясковага чалавека, для якога ўсё акаляючае, жывое і нежывое, прыроднае і зробленае ці створанае яго народам – гэта яго нацыянальная прыватная ўласнасць і яго ж беларуская спадчына. Душа пісьменніка баліць да нястрымнасці, але ён трывае боль моўчкі. І толькі ў яго творах, у жывой і натуральнай народнай мове – выяўляецца той, глыбока прыхаваны, і нячутны нам крык. Спагадаючы старэйшаму калегу, А. Федарэнка зазначае, што Іван Пташнікаў, на жаль, заспеў час, калі *"словы ўжо нічога не значылі. Пік беларускага літаратурнага адраджэння мінуў, слова "талент" выпала з ужытку, літаратура пачала брацца ў двукоссе і*

*замяняцца "літпраектам", запанавала, як эпідэмія, татальная малапісьменнасць і проста непісьменнасць (...) Плюс вакол яго імені не было легенды. (...) Ён не быў "прарокам", "апосталам нацыі" (а ў нас ад пісьменніка патрабуюць чамусьці гэтага); тое, што ён самародак, няпераўзыдзены мастак, ужо мала каго цікавіла".*

Вядома ж, нешта прыхаванае ёсць у гэтых горкіх словах і адносна самога аўтара рэцэнзаванай кнігі – Андрэя Федарэнкі. Але, на маё меркаванне, яно не так істотнае для яго жыцця і творчасці, каб загадзя жаліцца на лёс, а тым больш, прадказваць яго... Бо кожны творца піша свой запавет з першага занатаванага сказа. У Андрэя Федарэнкі гэты сказ – ад пачатку – знакавы і жыццесцвярджальны. Хаця гісторыю беларускай хваробы пісьменнік усё яшчэ працягвае пісаць. І выстаўляць айчыннаму жыццю свой заключны літаратурны дыягназ ён не спяшаецца.

# Ідзі адзін...

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***

**Лена Андэрсан. Мулан і бабуля. Пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч. – Мінск: ІП Кандрусевіч Надзея, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; выпуск 30). – 26 с.**




Пабачыла свет юбілейнае, трыццатае выданне дзіцячай падсерыі Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў “Каляровы ровар”. Гэта першая з дзвюх кніг, у якой мы бачым адзін дзень з жыцця дзяўчынкі Мулан, які яна бавіць са сваёй любімай бабуляй. Перакладзеная Надзеяй Кандрусевіч і цудоўна праілюстраваная аўтаркай, кніга адрасуецца для чытання дарослымі дзецям.

**Барыс Пятровіч. Ідзі адзін, альбо Студзень жыцця. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 96 с.**




Гэтая незвычайная кніга складаецца з запісаў, зробленых у далёкім студзені 1993 года, калі аўтар раптам вырашыў весці дзённік, а таксама штодзень пісаць кароткую прозу ў прыдуманых ім “жанрах”. У выніку атрымаўся адзін месяц жыцця, асветлены з розных бакоў, – асабістага, грамадскага, творчага... Другой “дзейнай асобай” гэтай кнігі з’яўляецца маладая дзяржава Беларусь, якой яна была ў студзені 1993 года. Такім чынам, чытачам прапануецца ўсяго адзін месяц з жыцця чалавека і краіны, якіх ужо няма. Бо час змяніў іх незваротна.

**Сара Лундберг. Птушка ўва мне ляціць, куды захоча. Пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч; ілюстрацыі Сары Лундберг. – Мінск: Надзея Кандрусевіч, 2019.: іл. Цвёрдая вокладка.**




Кніга шведскай пісьменніцы і мастачкі Сары Лундберг “Птушка ўва мне ляціць куды захоча” ў 2018 годзе атрымала прэстыжную шведскую прэмію Аўгуста і была прызнанай найлепшай дзіцячай кнігай года ў Швецыі. Гэта гісторыя дзяўчынкі, якая марыць з’ехаць з дому, каб вучыцца і стаць мастачкай, натхнёная жыццём і творчасцю шведскай мастачкі Бэрты Хансан.

**Зьміцер Саўка. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999).**



**Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Персаналіі. = Źmicier Saŭka Belarusan Civilization in America: Fifty years of Belarusan American Association (1949–1999). — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кніга 38). – 604 с.**

Новае выданне ў "Бібліятэцы Бацькаўшчыны" – гэта не проста выкшталцоны летапіс паўстагадовай гісторыі "Беларуска-Амерыканскага Задзіночання" – найбуйнейшай і найстарэйшай арганізацыі беларусаў у ЗША, створанай у 1949 годзе. Кніга мае ўсе шанцы зрабіцца сапраўдным хітом яшчэ і дзякуючы асобе летапісца, вядомага беларускага мовазнаўцы Змітра Саўкі, які пайшоў у лепшы свет у 2016 годзе. Кніга падрыхтаваная да друку вядомай даследчыцай эміграцыі Наталляй Гардзіенка, адкрываецца прадмовай слыннага архівіста Лявона Юрэвіча і ўзбагачаная грунтоўнымі каментарамі.



**Анатоль Сцебурака, Франсуаза-Альбярціна Мас. Лісты да Жазефіны: ваенныя шляхі французскага афіцэра. 1805–1812. – Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2018. – 137 с.**

Гэтая кніга – рэканструкцыя жыццёвага шляху французскага афіцэра Шарля-Піліпа Фіта дэ Сусі, удзельніка шматлікіх ваенных кампаній Напалеона ў 1805–1812 гг. Шарль-Піліп быў прадстаўніком вядомага дваранскага роду, які пасля Рэвалюцыі 1789 г. імкнуўся знайсці сабе месца ў новых умовах і працягваў служыць Францыі. Асаблівае месца ў выданні займае апошні год жыцця афіцэра – удзел у вайне 1812 г.: драматычны і насычаны падзеямі, якія адбываюцца на беларускіх землях... Напісаная выдатнай мовай, манаграфія чытаецца на ўздыху як навуковы дэтэктыў і будзе цікавай не толькі спецыялістам у напалеонаўскай эпосе, але і ўсім неабыякавым да гісторыі.



**Юрась Шамецька. Непрадказальнае. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 116 с.**

Юрась Шамецька нарадзіўся ў Мінску, а з 1997 года жыве і працуе ў Канадзе. Аматары паэзіі ведаюць яго вершы па зборніках "Шлях да вяртання" і "Атава", па публікацыях у "Дзеяслове", "Маладосці", альманаху "Беларус". Жыццё як падарожжа – тэма кнігі паэзіі Юрася Шамецькі "Непрадказальнае". Лірычныя вершы аўтара дазваляюць лепей адчуць глыбіню і непрадказальнасць вечнага, перакананаца ў чыстых і вабных імкненнях любові, паверыць у выратавальнасць і шматграннасць характва.

# Нашыя аўтары

**Алексіевіч Святлана** — празаік, драматург, публіцыст. Аўтарка дакументальна-мастацкіх раманаў «У вайны не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя смерцю», «Чарнобыльская малітва», «Час сэканд-хэнд (Канец чырвонага чалавека)» і інш. Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2015). Нарадзілася ў 1948 годзе ў Івана-Франкоўску (Украіна). Жыве ў Мінску.

**Асташонак Алесь** — драматург, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. Аўтар кніг «Фарбы душы», «Жоўты колер белага снегу». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мінску. Памёр у 2004 годзе.

**Багданава (Сачанка) Галіна** — празаік, мастацтвазнаўца. Аўтарка кніг прозы «Папяровыя замкі», «Чалавек без адраса», «Дом іхняе мары», «Сакрамэнта». Нарадзілася ў 1961 годзе ў Крычаве на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубавец Сяргей** – празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як? Азбука паводзінаў», «Сіні карабель у блакітным моры плыве», «Д'ябал запрэжаны ў плуг» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Каспяровіч Павел** – паэт, праваслаўны святар. Клірык гарадзенскага Свята-Пакроўскага сабора. Вершы друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Літаратурная Беларусь», часопісе «Новы замак». Удзельнічаў у калектыўным зборніку «Каложскі Дабравест». Аўтар зборніка паэзіі «На земле, где погиб каждый пятый». Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Сміла (Чаркашчына, Украіна). Жыве ў Гародні.

**Кудравец Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1986). Аўтар кніг прозы «Зімы і вёсны», «На зялёнай дарозе», «Раданіца», «Сачыненне на вольную тэму», «Смерць нацыяналіста», «За дальнім прычалам» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1986), прэміі «Залаты Апостраф» (2012). Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца на Клічаўшчыне. Памёр у 2014 годзе.

**Мацяш Ніна** — паэтка, драматург, перакладчыца. Аўтарка кніг «Агонь», «Удзячнасць», «Прыручэнне вясны», «Поўны келіх»,«Жнівень», «Шчаслівай долю назаві...», «Перабіраю самацветы» і інш. Лаўрэатка прэміі імя А. Куляшова (1984). Нарадзілася ў 1943 годзе ў вёсцы Нівы на Бярозаўшчыне. Памерла ў 2008 годзе.

**Мацур Генадзь** – мастак-каліграф, дызайнер кнігі. З першага нумару – мастацкі рэдактар часопіса «Дзеяслоў». Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў мастацтва кнігі. Удзельнік праекту «Міжнародная выстаўка каліграфіі». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Чашніках на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнічына. Жыве ў Мінску.

**Рагін Яўген** – журналіст, публіцыст. Супрацоўнік тыднёвіка «Культура». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў горадзе Ветка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990), прэміі «Залаты Апостраф» (2012). Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «У, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца», «Мамін шэпт пад абразамі». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сідарэвіч Анатоль** — публіцыст, філосаф, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар шматлікіх навуковых прац і артыкулаў, кнігі «Луцкевічы і Луцэвічы». Адзін з ідэолагаў адроджанай беларускай сацыялдэмакратыі. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Доўгі Лес на Піншчыне. Жыве ў Мінску.

**Саматой Ірына** – літаратуразнаўца. Аўтарка артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1961 годзе ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў» і інш., кніг нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш», «Саркафагі страху» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003) і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Лаўрэат прэмій імя Ведзьмака Лысагорскага (1988), Алеся Адамовіча (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2016). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1995), прэміі «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», «Беларускі гістарычны анекдот» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2010). Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана,
з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.